УДК339.543(082)

ISBN 83-60456-25-9

*Ляхоўскі У. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915—1918 гг. Навуковае выданне. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2010. — 340 с.*

**Навуковы рэдактар:**
Рыгор Лазько, доктар гістарычных навук, прафесар

**Рэцэнзенты:**
Леанід Лыч, доктар гістарычных навук, прафесар
Андрэй Унучак, кандыдат гістарычных навук

У манаграфіі разглядаецца палітыка кайзераўскай Нямеччыны ў сферы адукацыі на захопленых беларускіх землях у 1915—1918 гг., а таксама адукацыйныя працэсы, якія адбываліся на адзначанай тэрыторыі падчас Першай сусветнай вайны. Аўтар імкнуўся адлюстраваць маладаследаваную праблему на шырокім фоне тагачасных гістарычных падзей, звязаных з глабальным ваенным канфліктам. Шмат увагі ў кнізе аддадзена гісторыі станаўлення беларускага школьніцтва ў адзначаныя гады. Робіцца спроба асэнсаваць уплыў адукацыйнага фактару на рост нацыянальнага ўсведамлення поліэтнічнага жыхарства краю ў гэты пераломны час і, асабліва, на нацыятворчыя працэсы сярод беларусаў.

Разлічана для шырокага кола чытачоў.

*Светлай памяці маёй маці Аляксандры
Фёдараўны (уроджанай Дыдзік)
і бацькі Віктара Адамавіча Ляхоўскага,
а таксама дарагіх мне бабкі
Катарыны (уроджанай Рымашэўскай)
і дзеда Адама Ляхоўскага — ахвяр
сталінскага генацыду, прысвячаю…*

# Змест

# Спіс скаротаў

АВА — Акруговае вучэбнае апякунства (у зоне дыслакацыі 10–й нямецкай арміі)
адв. — адварот (архіўнага аркуша)
арк. — аркуш (архіўны)
БВХ — Беларускі вучыцельскі хаўрус
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БТДПВ — Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны
ВКГК — Віленска–Ковенскі грамадскі камітэт
воп. — вопіс (архіўны)
ГВУ — Галоўнае ваеннае ўпраўленне (нямецкага Усходняга фронту)
ед. хр. (рус., единица хранения) — адзінка захавання (архіўная)
ЕКОПО (рус., Еврейский комитет помощи жертвам войны) — Габрэйскі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны
ЕПО (рус., Еврейское просветительное общество; поўная афіцыйная назва — Общество распространения просвещения среди евреев) — Габрэйскае асветнае таварыства (Таварыства распаўсюджвання асветы сярод габрэяў)
МНА — Міністэрства народнай асветы
МУС — Міністэрства ўнутраных спраў
ОЗЕ (рус., Общество охраны здоровья среди евреев) — Таварыства аховы здароўя сярод габрэяў
оп. (рус., опись) — вопіс (архіўны)
ОРТ (рус., Общество распространения труда среди евреев) — Габрэйскае таварыства дапамогі працай
ОГК (ням., Oberhaupt Kommando) — Вярхоўнае камандаванне кайзераўскіх сухапутных войск (ландвера)
ПТДПВ — Польскае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны
РПЦ — Руская праваслаўная царква
спр. — справа (архіўная)
УЗС — Усерасійскі земскі саюз
УНР — Украінская Народная Рэспубліка
ф. — фонд (архіўны)
ЦПШ — царкоўна–прыходская школа
ЦГКЦП — Цэнтральны грамадскі камітэт Царства Польскага
f. (літ., fondas) — фонд (архіўны)
l. (літ., lapas) — аркуш (архіўны)
P. (англ., Page) — старонка (друкаванага выдання)
S. (ням., Seite; польск., Strona) — старонка (друкаванага выдання)

Мы ўступілі ў выключны час — гэта грань дзвюх эпох. На нашых вачах руйнуюцца вялікія царствы і ўзнікаюць новыя, бязмежныя сусветныя магчымасці. У патоках крыві, у жахах найвялікшага напружання, у якім сутыкнуліся нацыі–тытаны, узыходзіць новы, быць можа, апошні дзень сусветнай гісторыі.

*Уладзімір Эрн*

Кожная нацыя абавязана выявіць перад сусветам сваю нацыянальную сутнасць. Калі ж нацыі няма чаго даць сусвету, гэта належыць разглядаць як нацыянальнае злачынства.

*Рабіндранат Тагор*

# Прадмова

Глабальны ваенны канфлікт 1914—1918 гг. стаў першым у шэрагу іншых катаклізмаў XX ст., які правёў глыбокую мяжу ў сусветнай гісторыі, пакінуў у даваенным часе многія ранейшыя ілюзіі пра незваротны поступ сацыяльнага і духоўнага прагрэсу чалавецтва, паказаў усю ненадзейнасць і недасканаласць сусветнага парадку. Без уліку ўздзеяння Першай сусветнай вайны на палітыку, эканоміку, культуру, духоўную і сацыяльна–псіхалагічную сферы жыцця грамадства нельга ў поўнай ступені зразумець многія феномены мінулага стагоддзя — рэвалюцыі, узнікненне таталітарных рэжымаў і ідэалогій, новых формаў масавай свядомасці, перманентны канфлікт паміж нацыяналізмам і ўніверсалісцкімі працэсамі, нацыянальнымі і сацыяльнымі інтарэсамі.

За апошняе дзесяцігоддзе ўвага да Першай сусветнай вайны з боку навуковай грамадскасці розных краін значна ўзрасла. Зразумела, што такая цікавасць звязана не толькі з тым, што ў 2014 г. будуць адзначацца 100–я ўгодкі пачатку гэтай трагедыі. Навукоўцы, мысляры і нават палітыкі пачынаюць усё больш усведамляць уплыў «Вялікай вайны» на далейшы поступ сусветнай гісторыі. І калі раней прыярытэт пры вывучэнні гэтага глабальнага ваеннага канфлікту аддаваўся гісторыі баявых дзеянняў, міжнародных дачыненняў і ў нейкай ступені пытанням эканамічнага характару, дык сёння гісторыкі імкнуцца запоўніць прабелы ў асвятленні сацыяльных, нацыянальных і культурна–асветных аспектаў названай тэмы. Пры гэтым вывучэнне «белых плямаў», звязаных са становішчам культуры і асветы ва ўзгаданы перыяд, праводзіцца на шырокім гістарычным фоне, у непарыўнай сувязі з геапалітычнымі, ваеннымі, сацыяльна–эканамічнымі пытаннямі, якія спарадзіла сутыкненне вялікіх дзяржаў у 1914—1918 гг. І гэта апраўдана, бо фактары, якія ляжаць па–за межамі гэтых сфер, у прыватнасці, школьнай справы, у пэўным сэнсе даюць больш для разумення працэсаў, якія ў іх межах адбываліся, чым фактары чыста ўнутраныя.

Трэба таксама адзначыць канкрэтную значнасць адукацыйнага кантэксту для асэнсавання шырокіх грамадскіх з’яў. Асабліва гэта важна тады, калі ідзе гаворка пра пераломныя, лёсавызначальныя перыяды гісторыі, звязаныя са зменай палітычных і сацыяльных асноў жыцця соцыуму.

Гэтым тлумачыцца тая ўзрослая цікавасць, якая існуе ў сучасных навукоўцаў да разнастайных аспектаў праблематыкі «школа і грамадства», да вывучэння школы як спецыфічнага грамадскага інстытута, які выконвае важныя сацыяльныя функцыі, з’яўляецца адным з галоўных фактараў павышэння культурнага стану жыхарства, умацавання палітычнай стабільнасці дзяржавы.

Разам са шматлікімі разбурэннямі і чалавечымі ахвярамі Першая сусветная вайна прынесла вялікія матэрыяльныя і інтэлектуальныя страты ў адукацыйнай сферы. У ваенныя гады з усёй вастрынёй паўстала мноства праблем, звязаных са школай. Сёння несумненна тое, што глабальны ваенны канфлікт 1914—1918 гг. шмат у чым абумовіў вельмі жорсткі і радыкальны характар сацыяльнай рэвалюцыі 1917 г. у Расійскай імперыі, істотна паўплываў на змест і формы правядзення пераўтварэнняў у культурна–асветнай сферы ў першыя гады савецкай улады.

Кайзераўская акупацыя значнай часткі Беларусі, якая працягвалася больш за тры гады, безумоўна, наклала свой адбітак на развіццё айчыннай адукацыі, на ўзровень адукаванасці мясцовага жыхарства. Але наступствы вайны і акупацыі для школьнай справы ў Беларусі па–ранейшаму застаюцца маладаследаванай тэмай як у айчыннай, так і ў замежнай гістарыяграфіі.

Трэба сказаць, што фармаванне кайзераўскага акупацыйнага рэжыму на беларускіх землях у 1915—1918 гг. істотна адрознівалася ад тых парадкаў, якія немцы ўсталявалі на захопленых тэрыторыях Бельгіі, Францыі і Польшчы. У вышэй названых краінах пры нямецкім ваенным камандаванні былі ўтвораны цывільныя адміністрацыі, у той час як у зоне акупацыі нямецкага Усходняга фронту, на тэрыторыі Латвіі, Літвы, Беларусі і Украіны, усё кіраванне — ад тылавога забеспячэння войскаў і да арганізацыі школьнай справы — знаходзілася непасрэдна ў руках галоўнага камандзіра нямецкага Усходняга фронту і яго штаба. Свае асаблівасці мела адукацыйная палітыка нямецкіх ваенных уладаў у цэнтральных і ўсходніх рэгіёнах Беларусі пасля заключэння Брэсцкай дамовы.

Аб’ектам праведзенага даследавання стала акупацыйная палітыка кайзераўскай Нямеччыны на захопленых беларускіх землях у гады Першай сусветнай вайны, а прадметам вывучэння з’яўляецца сістэма нямецкай адукацыйнай палітыкі на акупаванай частцы Беларусі і адукацыйныя працэсы, што адбываліся на адзначанай тэрыторыі ў 1915—1918 гг.

Адсюль асноўная мэта дадзенай работы — на падставе новых гістарычных крыніц выявіць сутнасць нямецкай акупацыйнай палітыкі ў сферы адукацыі на акупаванай беларускай тэрыторыі і паказаць, як яна паўплывала на адукацыйныя працэсы ў Беларусі. Для дасягнення гэтай мэты аўтар імкнуўся вырашыць наступныя задачы:

- прааналізаваць уплыў ваенных, палітыка–прававых, сацыяльна–эканамічных, нацыянальных і іншых фактараў на становішча школьнай справы падчас Першай сусветнай вайны ў той частцы Беларусі, якая апынулася ў зоне нямецкай акупацыі;
- комплексна разгледзець і прааналізаваць палітыку Другога Рэйха ў сферы адукацыі на захопленых беларускіх землях;
- даследаваць развіццё нацыянальнай асветы асноўных этнічных супольнасцяў краю ва ўмовах нямецкага акупацыйнага рэжыму;
- адлюстраваць складаны міжнацыянальны кантэкст (польска–беларускі, расійска–беларускі, нямецка–габрэйскі і інш.), які паўплываў на адукацыйныя працэсы ў Беларусі падчас Першай сусветнай вайны;
- асвятліць чыннасць мясцовых самаўрадаў, грамадскіх арганізацый і прыватных мецэнатаў у галіне школьнай адукацыі падчас вайны;
- ацаніць вынікі развіцця беларускага школьніцтва ў кантэксце працэсу нацыятворчасці беларусаў.

Аўтар спрабаваў асэнсаваць маладаследаваную праблему ў адзінстве крыніцазнаўчага, эмпірычнага і агульнатэарэтычнага падыходаў, імкнуўся паказаць адукацыйныя працэсы на беларускіх землях ва ўмовах нямецкай акупацыі на шырокім фоне тагачасных гістарычных падзей, звязаных з глабальным ваенным канфліктам 1914—1918 гг. Ставіліся таксама задачы прааналізаваць асноўныя палажэнні акупацыйнага школьнага заканадаўства, разгледзець арганізацыйную структуру нямецкай школьнай адміністрацыі і яе практычныя дзеянні ў гэтай сферы, паказаць працэс станаўлення шматнацыянальнага школьніцтва ў Беларусі ў агульным кантэксце нацыянальнай праблематыкі ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне падчас Першай сусветнай вайны.

Геаграфічныя рамкі работы адпавядаюць тэрыторыі тагачасных Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, заходніх рэгіёнаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, якія апынуліся ў 1915—1918 гг. пад нямецкай акупацыяй. Усе падзеі ў рабоце датуюцца паводле грыгарыянскага календара («новага стылю»).

Тут неабходна вызначыць паняцці нямецкая «старая» і «новая» акупацыі, якія часта ўзгадваюцца ў манаграфіі. У дачыненні да Беларусі пад паняццем «старая акупацыя» маецца на ўвазе акупацыйная зона Обер Ост, абмежаваная на ўсходзе па лініі Дзвінск—Смаргонь—Баранавічы—Пінск пасля стабілізацыі ў кастрычніку 1915 г. нямецка–расійскага фронту. У склад Обер Ост увайшла тэрыторыя Ковенскай і Гарадзенскай губерняў, Віленскі, Ашмянскі, Лідскі, Свянцянскі, Трокскі паветы, часткі Вілейскага і Дзісенскага паветаў Віленскай губерні, заходнія валасці Дзвінскага павета Віцебскай губерні, частка Наваградскага і Пінскага паветаў Мінскай губерні, якія ўтрымліваліся пад кантролем нямецкіх войскаў у 1915—1918 гг. Зона «новай акупацыі» — гэта тэрыторыя Мінскай губерні, заходнія паветы Віцебскай і Магілёўскай губерні, якія былі захоплены кайзераўскімі войскамі падчас лютаўскага наступлення 1918 г. і знаходзіліся пад іх кантролем да снежня таго ж года паводле ўмоў Берасцейскай мірнай дамовы. Усходнія межы «новай акупацыі» праходзілі па дэмаркацыйнай лініі Пскоў—Апочка—Расоны—Орша—Магілёў—Рагачоў—Жлобін—Навазыбкаў. Паняцці «старая» і «новая» акупацыі розняцца не толькі працягласцю іх дзейнасці. Вялікія адрозненні былі ў характары і метадах ажыццяўлення на гэтых землях акупацыйных парадкаў.

## Гістарыяграфічны агляд

Параза Расіі ў Першай сусветнай вайне, ідэалагічныя ўстаноўкі і негалосныя прадпісанні, якія замацаваліся ў навуцы і грамадскай думцы ў савецкі час, істотна паўплывалі на ступень вывучанасці глабальнага ваеннага канфлікту 1914—1918 гг. у айчыннай гістарыяграфіі. Доўгі час гэта падзея планетарнага маштабу была заслонена Другой сусветнай вайной, вывучэнню якой у СССР надавалася прыярытэтнае значэнне. Асуджэнне савецкім грамадствам нацызму, злачынстваў гітлераўскага акупацыйнага рэжыму ў 1941—1945 гг. аўтаматычна было перанесена і на падзеі «германскай» вайны 1914—1918 гг. Створаныя ў выніку за некалькі дзесяцігоддзяў стэрэатыпы, якія датычаць гэтых падзей, не заўсёды адпавядаюць гістарычнай праўдзе.

Складанасці ў вывучэнні гісторыі адукацыі ў Беларусі ў 1914—1918 гг. безумоўна дадае тая акалічнасць, што на беларускіх землях за час вайны змянілася некалькі ўладных рэжымаў: расійская манархія, кайзераўская акупацыя, расійскі Часовы ўрад і, нарэшце, савецкая ўлада. Пры гэтым найбольш недаследаваным застаецца пытанне аб становішчы школьнай асветы на беларускіх землях, якія аказаліся ў 1915—1918 гг. пад акупацыяй кайзераўскай Нямеччыны. Абсалютная большасць апублікаваных даследаванняў савецкага часу асвятляюць гісторыю айчыннай школы ў апошні перыяд Першай сусветнай вайны і датычаць падзей 1917—1918 гг. У гэтых даследаваннях

інтэрпрэтуюцца падзеі, звязаныя са станаўленнем новай савецкай сістэмы адукацыі на неакупаванай тэрыторыі Беларусі — усходніх рэгіёнах Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Толькі ў некаторых з іх закранаюцца праблемы развіцця асветы ў зоне Обер Ост[1], а таксама на новых акупаваных тэрыторыях Міншчыны і заходніх паветах Віцебскай і Магілёўскай губерняў у лютым–сакавіку 1918 г.

Пытанні развіцця беларускай нацыянальнай асветы падчас кайзераўскай акупацыі ў 1915—1918 гг. разгледжаны ў публікацыях вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў Беларусі, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі і сведкамі тых падзей: Мітрафана Доўнар–Запольскага, Усевалада Ігнатоўскага, Антона Луцкевіча, Аркадзя Смоліча, Адама Станкевіча і Фёдара Турука[2]. Звернутыя ў першую чаргу да гісторыі беларускага руху ў 1917—1920 гг., гэтыя працы, нягледзячы на пэўны суб'ектывізм, даюць важны фактычны матэрыял аб пачатку станаўлення беларускай школы ў адзначаны перыяд.

Гісторыя станаўлення беларускага нацыянальнага школьніцтва ў гады Першай сусветнай вайны знайшла таксама адлюстраванне ў выданнях і публікацыях прадстаўнікоў беларускай паваеннай эміграцыі: Юркі Весялкоўскага, Вінцэнта Жук–Грышкевіча, Яўгена Калубовіча, Язэпа Найдзюка, Вацлава Пануцэвіча і інш.[3]. Дзякуючы ім у навуковы ўжытак па дадзенай тэме былі ўведзены новыя крыніцы або згадваліся раней ужо вядомыя дакументы і факты, якія па палітычных і ідэалагічных матывах не выкарыстоўваліся ў навуковых работах у Савецкім Саюзе. Аднак трэба адзначыць, што па форме і зместу многія з узгаданых прац больш адпавядаюць характару публіцыстычных артыкулаў і нарысаў, чым навуковых даследаванняў.

Актуалізацыя ў грамадскіх колах Беларусі на рубяжы 1980—1990–х гг. пытанняў, звязаных са становішчам беларускай мовы і культуры, разам з увядзеннем у навуковы ўжытак новых гістарычных крыніц з рассакрэчаных фондаў архіваў і бібліятэк сталі важнымі перадумовамі для з'яўлення новых даследаванняў, у якіх у святле новых фактаў рабілася спроба па–новаму разгледзець палітычную і культурную сітуацыю ў краі ў 1914—1918 гг. Тут варта ўзгадаць публікацыі Леаніда Лыча, Валянціна Мазца, Станіслава Рудовіча, Андрэя Чарнякевіча, Захара Шыбекі і іншых аўтараў[4]. Узнікненне

[1] Абазначэнне Обер Ост (Ober Ost) узнікла ад скарачэння нямецкай назвы вайсковай пасады нямецкага фельдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга — Галоўны камандзір на Усходзе (ням. *Oberbefehlshaber Ost*) і пазней было перанесена на ўсю мясцовую нямецкую адміністрацыю, якая падпарадкоўвалася камандзіру Усходняга фронту, а таксама і на тэрыторыю, што знаходзілася пад юрысдыкцыяй апошняга.

[2] Довнар–Запольский М.В. История Белоруссии. — Беларусь, Минск. 2003. — 680 с.; Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі: Лекцыі, чыт. на курсах лектараў беларусазнаўства. — Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1921. — 141 с.; Луцкевіч А. Барацьба за вызваленне. — Вільня: Інстытут беларусістыкі. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2009. — 649 с.; Смоліч А. Дзесяцігоддзе беларускай школы // Савецкая Беларусь. — 1925, 22 ліст.; Турук Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белорусов. — Москва: Госиздат, 1921. — 144 с.; Stankiewič A. Rodnaja mowa ŭ światyniach. — Wilnia, 1929. — 192 s.; Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Збор твораў. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. — 1097 с.

[3] Весялкоўскі Ю. Беларусь у Першай сусветнай вайне. — Беласток—Лондан, 1996. — 361 с.; Жук–Грышкевіч Р. Жыццё Вінцэнта Жук–Грышкевіча. — Таронта: Выдавецкі фонд успамінаў з беларускага жыцця, 1993. — 797 с.; Калубовіч А. Крокі гісторыі: Даследаванні, артыкулы, успаміны. — Беласток: ГаМАкс.; Вільня: Наша Ніва; Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. — 288 с.; Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяння. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 414 с.; Пануцэвіч В. Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918—1919 гадах // Бацькаўшчына (Мюнхен). — 1964. — № 3—10.

[4] Лыч Л. Беларуская нацыя і мова: Літаратурна–гістарычныя артыкулы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 277 с.; Ляхоўскі У.В. Беларускі універсітэт: з гісторыі стварэння // Спадчына. — 1994. — № 4. — С. 61—68; Яго ж. Сумесная чыннасць хрысціянскіх святароў і рэлігійных дзеячаў на ніве беларускай культуры і дабрачыннасці ў гады Першай сусветнай вайны (1914—1921) // Роля асобы ў

першых беларускіх школ, павышэнне сацыяльнага статусу беларускай мовы ў гэты час характарызуюцца вышэй узгаданымі аўтарамі як важнейшыя фактары ў справе нацыянальна–дзяржаўнага самавызначэння Беларусі.

Гісторыя станаўлення беларускай нацыянальнай асветы ў гады Першай сусветнай вайны яшчэ знаходзіцца ў пачатку свайго вывучэння. У ёй застаецца шмат нявысветленых момантаў. І дагэтуль даследнікі разыходзяцца ў лічбах, вызначаючы колькасць беларускіх школ, якія дзейнічалі ва ўмовах нямецкай акупацыі ў заходняй частцы Беларусі ў 1915—1918 гг. У розных аўтараў гэта лічба вар'іруецца ад 89 да 450. Некаторыя з сучасных гісторыкаў пад уплывам беларускай эміграцыйнай традыцыі некрытычна інтэрпрэтуюць палітыку ў культурнай і адукацыйнай сферах кайзераўскай Нямеччыны ў Беларусі як у межах Обер Ост, так і ў зоне «новай акупацыі» пасля заключэння Берасцейскай дамовы, перабольшваюць ролю ў пашырэнні беларускага школьніцтва палітычных структур Беларускай Народнай Рэспублікі.

У той жа час гісторык Вадзім Гігін, які за апошні час набыў рэпутацыю актыўнага змагара супраць «нацдэмаўскіх міфаў» аб існаванні ў дасавецкую эпоху праяў беларускай дзяржаўнасці, адзначае, што дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі фактычна нічым не праявілі сябе на ніве беларускай школьнай справы, затармазілі працэс стварэння «беларускай суверэннай рэспублікі — БССР» і ўвогуле выявілі сваю «несамавітасць, няслушнасць, карумпаванасць, а таксама выкарысталі ідэю БНР у асабістых мэтах»[5].

Слаба вывучанай у айчыннай гістарыяграфіі застаецца праблема развіцця ў Беларусі ў гады вайны нацыянальнага школьніцтва палякаў, габрэяў, літоўцаў і іншых

---

жыцці і дзейнасці хрысціянскіх цэркваў Беларусі ў XX стагоддзі. — Мінск: Міжнародны адукацыйны цэнтр, 2000. — С. 73—85; Яго ж. На шляху да стварэння універсітэта ў Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс. — 2001. — № 4. — С. 11—16; Яго ж. Пачатак тварэння беларускай нацыянальнай школы // Спадчына. — 2001. — № 1—2. — С. 65—110; Яго ж. Прафесар Мітрафан Доўнар–Запольскі і справа арганізацыі беларускай нацыянальнай адукацыі // Трэція міжнародныя Доўнараўскія чытанні. — Рэчыца, 14—15 верасня 2001 г. / Адк. рэд. В.М. Лебедзева. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 81—92; Яго ж. Беларуская школьная справа на Гродзеншчыне ў 1915—1919 гг. // Культура Гродзенскага рэгіёна: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа. Зборнік навуковых прац / Адк. рэд. А.М. Пяткевіч. — Гродна: Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я. Купалы, 2003. — С. 125—128; Яго ж. Адукацыйная палітыка германскіх улад на акупаванай тэрыторыі Беларусі (1915—1918 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. — 2006. — № 12. — С. 31—41; Яго ж. Апошні перыяд дзейнасці Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1914—1919 гг.) // Мастацкая спадчына Нясвіжа. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, 12 мая 2006 г. — Нясвіж, 2006. С. 95—100; Яго ж. Беларускія настаўніцкія курсы // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 338—342; Мазец В. Гістарычны вопыт БНР па культурна–нацыянальнаму адраджэнню беларускага народа // Беларусіка=Albaruthenica: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», Маладзечна, 19—20 жніўня 1992 г. / рэд. А. Анціпенка і інш. — Кн. 2. — Мінск: Нацыянальны навукова–асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, 1993. — С. 150—153; Яго ж. За сваё кроўнае // Маладосць. — 1996. — № 5. — С. 226—231; Рудовіч С. У пошуках нацыянальнай ідэнтычнасці: беларуская патрыятычная арганізацыя ў Магілёве ў 1917—1918 гг. // Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва: зборнік навуковых прац / уклад. І. А. Пушкін. — Магілёў: УПКП «Магілёўская абласная ўзбуйненая друкарня», 2001. — С. 203—210; Яго ж. Рух за беларускую дзяржаўнасць і праблема грамадзянскага статусу беларускай мовы ў 1915—1918 гг. // Край=Kraj (Магілёў). — 2001. — № 1—2. — С. 159—170; Чарнякевіч А. Гарадзенскія апосталы. — Гродна, 2000. — 49 с.; Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі 1795—2002. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2003. — 490 с.

[5] Гигин В.Ф. Бумажная республика: из истории БНР 1918 г. // Нёман. — 2005. — № 2. — С. 141—154; Наша ніва. — 2008, 26 сак. Засяродзім увагу на выказванні В. Гігіна, дзе ён абвінавачвае «айцоў» БНР у карумпаванасці. З аднаго боку, гісторык адмаўляе БНР у суверэннасці і ва ўладных паўнамоцтвах, а з другога — некарэктна ўжывае вызначэнне «карумпаванасць» — г.зн. выкарыстанне ўладных паўнамоцтваў і ўскладзеных на функцыянера грамадствам (дзяржавай) законных правоў у асабістых інтарэсах.

этнічных супольнасцяў краю. Апублікаваныя ў апошні час шэраг даследаванняў па гэтай тэме С. Рудовіча, Алеся Смаленчука, А. Чарнякевіча і некаторых іншых аўтараў сталі першымі прыступкамі ў яе вывучэнні[6].

Тэма палітыкі нямецкіх улад у сферы адукацыі на акупаваных беларускіх землях у 1915—1918 гг. па–ранейшаму застаецца маладаследаванай. Першымі, хто звярнуўся да яе, былі непасрэдныя ўдзельнікі тых падзей: фактычны кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост генерал Эрых фон Людэндорф, а таксама нямецкія журналісты Вальтар Егер і Аляксандр Рыпке, якія працавалі ў той час на тэрыторыі Беларусі ў акупацыйнай адміністрацыі[7].

Падрыхтоўка нацысцкай Нямеччыны да вайны з СССР і пазнейшая акупацыя нацыстамі Беларусі ў 1941—1944 гг. шмат у чым абумовілі з другой паловы 1930–х гг. зварот некаторых нямецкіх гісторыкаў да пытанняў, звязаных з палітыкай Другога Рэйха на акупаваных беларуска–літоўскіх землях. Найбольшую цікавасць уяўляюць работы Ганса Земке і Ойгена Энгельгарда[8].

Нягледзячы на відавочную тэндэнцыйнасць і празмернае ўсхваленне кайзераўскай акупацыйнай палітыкі ў 1915—1918 гг., даследаванне Х. Земке з'яўляецца важнай гістарычнай крыніцай пры асвятленні становішча ў школьнай сферы ў зоне Обер Ост. У дадатку да публікацыі прадстаўлены афіцыйныя дакументы Обер Ост, якія датычацца акупацыйнага школьнага заканадаўства ў заходняй частцы Беларусі. Яны характарызуюць прававое становішча школы на захопленых тэрыторыях і арганізацыйныя мерапрыемствы нямецкай адміністрацыі па стварэнню новай школьнай сістэмы. Тут таксама прадстаўлены статыстычныя звесткі, якія адлюстроўваюць колькасныя паказчыкі і нацыянальны склад школьніцтва на тэрыторыі Обер Ост. Апублікаваныя дакументы, якія аўтар выявіў у свой час у імперскім архіве Нямеччыны ў Патсдаме, сёння маюць значную навуковую каштоўнасць, бо лёс архіўных збораў, у якіх захоўваліся дакументы аддзела асветы і культаў Обер Ост, дагэтуль не высветлены. Паводле адной версіі, гэты збор загінуў у 1945 г., падчас апошняй сусветнай вайны, паводле другой — быў вывезены ў Маскву.

У кнізе О. Энгельгарда пры разглядзе сацыяльна–палітычнага і культурнага становішча беларускага народа ў Першую сусветную вайну шырока выкарыстоўваюцца не толькі нямецкія, але таксама беларускія, літоўскія і польскія гістарычныя крыніцы.

---

[6] Ляхоўскі У.В. Развіццё польскага школьніцтва ў заходняй частцы Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915—1918 гг. // Этнічныя супольнасці Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы навук. канф. (Мінск, 6—7 снежня 2001 г.) / У.І. Навіцкі, М.С. Сташкевіч. — Мінск, 2002. — С. 184—188; Рудовіч С.С. Дзейнасць дабрачынных арганізацый на Беларусі ў кантэксце палітыкі царызму па польскім пытанні ў гады Першай сусветнай вайны (жнівень 1914 г. — люты 1917 г.) // Труды Белорусского государственного технологического университета. Серия 5. Политика. Философия. История. Филология. — 2004. — Вып. 12. — С. 49—56; Смалянчук А.Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864—1917 г. — Санкт–Пецярбург: Неўскі прасцяг, 2004. — 406 с.; Чернякевич А.Н. В огне войны (1915—1920 годы) // Евреи Гродно. Очерки истории и культуры. — Гродно: Белорусский государственный музей истории религии, общественное объединение «Гродненский еврейский общинный дом Менора», 2000. — С. 47—54.

[7] Ludendorff E. von. Kriegsführung und Politik. Ein Abriß aus der Geschichte des Weltkrieges. — Berlin, 1922. — 148 s.; Jäger W. Weißruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Mit 93 Abb. und 1 Kte. — Berlin: Verl. Karl Curtius, 1919. — 143 s.; Ripke A. Litauer und Weißrussen: In: вer Koloß auf tönernen Füßen. — München, 1916. — 70 s.

[8] Engelhardt E. Fr. von. Weißruthenien. Volk und Land. — Berlin—Amsterdam—Prag—Wien, 1943. — 358 s.; Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges (Schriften der Kriegsgeschichtlichen Abteilung im Historischen Seminar der Friedrich–Wilhelms–Universität Berlin). — Berlin: Junker und Dünnhaupt Verlag, 1936. — 121 s.

У пасляваенных даследаваннях гісторыкаў ФРГ, у якіх асвятляліся розныя аспекты нямецкай акупацыі заходніх ускраін былой Расійскай імперыі, становішча ў адукацыйнай сферы ў зоне Обер Ост фактычна не разглядалася.

У польскай гістарыяграфіі міжваеннага часу школьнае жыццё ў Беларусі ў 1914—1918 гг. ва ўмовах кайзераўскай акупацыі вывучалася толькі ў сувязі з вывучэннем польскага школьніцтва на т.зв. «усходніх крэсах». Толькі ў некаторых публікацыях польскіх аўтараў таго часу закраналіся пытанні развіцця літоўскай і беларускай асветы[9].

На рубяжы XX і XXI стст. да тэмы грамадска–палітычнага і культурнага жыцця польскай этнічнай супольнасці на акупаванай у 1915—1918 гг. Нямеччынай тэрыторыі Беларусі звярнуўся шэраг польскіх даследнікаў. У работах Анджэя Пукшты, Яна Юркевіча, Станіслава Валасэка адлюстравана польскае школьнае жыццё на Віленшчыне і Гродзеншчыне падчас панавання кайзераўскіх войск[10]. Разгортванне польскамоўнага школьніцтва ў цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі ў 1915—1917 гг., чыннасць польскіх адукацыйных асяродкаў на гэтых тэрыторыях ва ўмовах кайзераўскай акупацыі ў 1918 г. вывучалі Здзіслаў Вініцкі, Марыуш Кажанёўскі, Марэк Мондзік і Дарыуш Тарасюк[11]. У іх даследаваннях прыводзяцца звесткі аб стварэнні і дзейнасці на беларускай тэрыторыі польскамоўных сярэдніх і пачатковых школ, школ–прытулкаў, іншых выхаваўча–адукацыйных установ. Польскія навукоўцы пры гэтым не факусіруюць увагу або проста абмінаюць пытанні, звязаныя з фінансаваннем польскай школьнай справы на «крэсах усходніх» падчас Першай сусветнай вайны з боку расійскіх улад, а таксама не закранаюць праблемы мэтанакіраванай паланізацыі праз школу дзяцей мясцовых беларусаў–каталікоў. У публікацыях польскага гісторыка Мар'яна Семаковіча закранаюцца пытанні развіцця беларускай нацыянальнай школы ў адзначаны перыяд[12].

У сучаснай польскай гістарыяграфіі па гэтай праблеме вызначаюцца навуковыя працы, напісаныя беларусамі па паходжанню — Юркам Туронкам, Аленай Глагоўскай і Яўгенам Мірановічам[13]. Аналізуючы іх, можна зрабіць выснову, што кірунак і змест гэтых даследаванняў больш адпавядае беларускай нацыянальнай гістарычнай традыцыі, чым польскай.

---

[9] Bronowski S. Państwo Polskie a kwestja białoruska. — Warszawa, 1919. — 21 s.; Ochota J. Z historii państwowych poczynań białoruskich // Sprawy Narodowościowe. — 1928. — № 1. — S. 1—3; Wasilewski L. Białoruś i ruch białoruski // Przegląd Współczesny. — 1924. — № 26. — S. 386—396.

[10] Jurkiewicz J. Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922. — Poznań: Uniwersytet im. A. Mickiewicza, 1983. — 259 s.; Пукшта А. Грамадска–культурнае жыццё Вільні (1915—1918) // Спадчына. — 2001. — № 5—6. — С. 121—138; Walasek S. Szkolnictwo powszechne na ziemiach polnocno–wschodnich II Rzeczypospolitej (1915—1939). — Krakow, 2006. — 310 s.

[11] Tarasiuk D. Z dziejów Polskiej Macierzy Szkolnej Ziemi Mińskiej // Rota (Lublin). — 1998. — № 1 (29). — S. 57—59; Яго ж. Палякі на Магілёўшчыне ў гады Першай сусветнай вайны // Край=Kraj (Магілёў). — 2001. — № 4. — С. 40—50; Яго ж. Między nadzieją a niepokojem. Działalność społeczno–kulturalna i polityczna Polaków na wshodniej Białorusi w latach 1905—1918. — Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2006. — 211 s.; Winicki Z. J. W Mińsku Litewskim — mieście dawnej Rzeczypospolitej. — Wroclaw, 1999. — 157 s.; Korzeniowski M. Na wygnańczym szlaku... Działalność Centralnego Komitetu Obywatelskiego Królestwa Polskiego na Białorusi w latach 1915—1918. — Lublin: Lubelskie Towarzystwo Naukowe, 2001. — 389 s.; Мондзік М., Кажанёўскі М. Польскія грамадскія ратавальныя арганізацыі ў Беларусі // Гістарычны альманах (Горадня). — 2003. — № 8. — С. 76—97; Korzeniowski M., Mądzik M., Tarasiuk D. Tułaczy los. Uchodźcy w imperium rosyjskim w latach pierwszej wojny światowej. — Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2007. — 238 s.

[12] Siemakowicz M. Polityka władz rosyjskich, niemieckich i polskich wobec szkolnictwa białoruskiego w latach 1903—1922 // Białoruskie Zeszyty Historyczne (Białystok). — 1997. — № 7. — S. 23—46.

[13] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. — 877 с.; Мірановіч Я. Найноўшая гісторыя Беларусі. — Санкт–Пецярбург: Неўскі прасцяг, 2003. — 244 с.; Głogowska H. Białoruś. 1914—1929. Kultura pod presją polityki. — Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 1996. — 238 s.

Звяртае на сябе ўвагу работа Ю. Туронка, прысвечаная тэме нямецкай акупацыі Беларусі ў 1941—1944 гг. Сваё даследаванне ён распачаў з раздзела, дзе даў агульную характарыстыку кайзераўскаму акупацыйнаму рэжыму ў заходняй частцы Беларусі ў 1915—1918 гг. Гісторык быў адным з першых, хто ўбачыў пэўную пераемнасць паміж гэтымі дзвюма акупацыямі.

Становішча літоўскага школьніцтва на Віленшчыне і Гарадзеншчыне, чыннасць Літоўскага навуковага таварыства ў Вільні падчас нямецкай акупацыі, пачатак станаўлення нацыянальнай адукацыйнай сістэмы Літвы ў 1918 г. адлюстраваны ў літоўскай гістарыяграфіі як міжваеннага, так і пазнейшага часу[14]. У першую чаргу тут трэба адзначыць публікацыі Іонаса Басанавічуса, С. Сужэдзелюса і М. Урбшэне.

Пачынаючы з 1990–х гг. праблематыка Першай сусветнай вайны зноў набывае ў заходнееўрапейскай і амерыканскай гістарычнай навуцы актуальнасць. Разам з іншымі аспектамі была звернута ўвага на палітыку ў сферы культуры і асветы кайзераўскай Нямеччыны ў 1915—1918 гг. на акупаванай тэрыторыі Обер Ост, якая перад гэтым належала Расіі[15]. Звяртае на сябе ўвагу манаграфія амерыканскага гісторыка з Тэнесійскага ўніверсітэта Веяса Люлявічуса. Асобны раздзел яго работы прысвечаны «нямецкай культурнай праграме» на захопленых землях Беларусі, Літвы і Латвіі. На шырокім гістарычным фоне аўтар адзначае жорсткі, прымусовы характар нямецкай акупацыйнай палітыкі на гэтых тэрыторыях, якая істотна адрознівалася ад больш лагоднага прававога рэжыму, які здзяйсняў Другі Рэйх на захопленых землях Бельгіі і Польшчы. Адзначаючы грунтоўнасць і навізну гэтай работы, заўважым, што яе аўтар, на нашу думку, не пазбегнуў пэўнага схематызму і тэндэнцыйнасці ў некаторых сваіх ацэнках і высновах. Непераканаўча гучаць у кнізе доказы аднаго з палажэнняў аўтарскай канцэпцыі аб тым, што нерэалізаваная ўтопія галоўнага «архітэктара» Обер Ост генерала Э. фон Людэндорфа па стварэнню на абшарах Усходняй Еўропы «новага дзяржаўнага парадку» і «новай культуры» стала своеасаблівым «таемным тэстаментам» (Verborgenes Vermächtnis) для будучых прэтэндэнтаў на сусветнае панаванне — нацыстаў. Пры параўнаўчым аналізе праекта Людэндорфа «Обер Ост» з планам А. Розенберга «Ост» паставіць паміж імі знак роўнасці ці нават прасачыць пераемнасць надзвычай цяжка. Гэта тычыцца многіх аспектаў. Ідэйныя і метадалагічныя разыходжанні паміж кайзераўскім мілітарызмам і нацызмам відавочныя. Гэта тычыцца, напрыклад, габрэйскага пытання. У той час да Галакосту не маглі дадумацца нават самыя ярыя шавіністы і антысеміты ў атачэнні нямецкага кайзера.

Першымі на постсавецкай прасторы, хто распачаў вывучэнне гісторыі глабальнага ваеннага канфлікту 1914—1918 гг. як цэласнай з’явы, былі расійскія навукоўцы. Сёння расійская гістарычная навука найбольшую ўвагу надае вывучэнню сацыяльных, этнапалітычных, культурных і гуманітарных аспектаў гісторыі Першай сусветнай вайны. Тут выдадзены ўжо шэраг навуковых манаграфій, у якіх з пазіцый сучаснай

---

[14] Зинкявичус З. Восточная Литва в прошлом и настоящем. — Вильнюс: Mokslo ir enciklopedijų leidykla, 1996. — 390 с.; Basanavičius J. Mano gyvenimo kronika ir nervų ligos istorija, 1851—1922 m. — Vilnius, 1997. — 321 p.; Яго ж. Iš lietuvių gyvenimo 1915—17 po vikiečių jungu. — Vilnius, 1919. — 31 p.; Strazhas A. Deutsche Ostpolitik im Ersten Weltkrieg. Der Fall Ober Ost. 1915—1917 (Veröffentlichungen des Osteuropa–Institutes München. Reihe: Geschichte. Bd. 61). — Wiesbaden: Harrassowitz Verlag, 1993. — 289 s.; Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918) // Lietuva: Liet. enciklopedija. — Vilnius, 1990. — T. 15. — P. 764—767; Urbšienė M. Lietuvos mokykla Didžiojo karo metu // Židinys. — 1937. — № 3—4. — P. 25—31.

[15] Bihl W. Friedensbedingungen Ludendorffs / Deutsche Quellen zur Geschichte des Ersten Weltkrieges. — Darmstadt: Wissenschaftliche Buchgesellschaft, 1991. — 91 s.; Liulevicius V.G. War Land on the Eastern Front. Culture, National Identity and German Occupation in World War I. Studies in the Social and Cultural History of Modern. — Cambridge: University Press, 2000. — 309 p.

метадалогіі паказаны ўплыў вайны на культурныя працэсы, што адбываліся на тэрыторыях, падпарадкаваных Расіі[16]. Але ва ўзгаданых даследаваннях звесткі аб становішчы школьнай асветы ў беларускіх губернях у час нямецка–расійскага ваеннага канфлікту фактычна адсутнічаюць.

Гістарыяграфічная нераспрацаванасць гісторыі адукацыі ў Беларусі падчас Першай сусветнай вайны вынікае не ў апошнюю чаргу з беднай крыніцазнаўчай базы па дадзенай праблеме. Дагэтуль не выдадзена аніводнага адмысловага дакументальнага выдання, у якім знайшла б адлюстраванне названая тэма. Недахоп уведзеных у навуковы ўжытак дакументаў тлумачыцца не толькі незапатрабаванасцю вывучэння дадзенай тэмы ў савецкі час. Істотна на гэта паўплывала і сама вайна. З 1915 г. лінія нямецка–расійскага фронту перасунулася непасрэдна на беларускую тэрыторыю, і Беларусь стала адным з галоўных тэатраў баявых дзеянняў Першай сусветнай вайны. Эвакуацыя адукацыйных устаноў Беларусі, рэвалюцыйныя падзеі 1917 г., разлад дзяржаўнага і грамадскага жыцця ў пазнейшы перыяд паўплывалі на захаванасць архіўных збораў адукацыйных устаноў краю, многія з якіх загінулі або лёс іх застаецца дагэтуль нявысветленым. Не лепшы лёс напаткаў і нямецкія архіўныя крыніцы па гэтай праблеме, пра што гаварылася вышэй.

У апублікаваных дакументальных зборніках па гісторыі Беларусі тэма Першай сусветнай вайны прадстаўлена вельмі бедна, а дакументы, у якіх адлюстравана становішча адукацыі на беларускіх землях у зоне кайзераўскай акупацыі 1915—1918 гг., увогуле адсутнічаюць. Тое ж можна сказаць і пра змест дакументальных зборнікаў, прысвечаных найноўшай гісторыі айчыннай адукацыі.

Прававыя палажэнні, што рэгулявалі школьнае жыццё на захопленых кайзераўскімі войскамі заходнебеларускіх тэрыторыях у 1915—1918 гг., змешчаны ў кнігах Л. Абрамовіча і С. Гласера[17]. Асобныя дакументы з першага тома «Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі» ўтрымліваюць інфармацыю аб становішчы беларускай нацыянальнай школы ў акупаваным немцамі Мінску і цэнтральнай частцы Беларусі ў 1918 г.[18].

Важнейшай крыніцай для вывучэння становішча адукацыі на акупаваных Нямеччынай беларускіх землях з’яўляюцца афіцыйныя дакументы ваеннай адміністрацыі Обер Ост (інфармацыйныя бюлетэні, справаздачы начальнікаў генеральных акруг і інш.)[19]. У іх змешчаны прававыя палажэнні па арганізацыі школьнай справы ў акупацыйнай зоне, статыстычныя звесткі аб польскіх, літоўскіх, габрэйскіх і беларускіх школах і іх навучэнцах, а таксама іншая інфармацыя.

Мемуары сучаснікаў тых падзей, вядомых ваенных, культурных і грамадскіх дзеячаў, якія прадстаўлялі розныя ваюючыя бакі, розныя нацыянальнасці, нягледзячы на ўсю іх суб’ектыўнасць, істотна дапаўняюць іншыя гістарычныя крыніцы, перадаюць атмасферу таго часу, што бывае вельмі важным для даследніка. Успаміны аднаго з кіраўнікоў акупацыйнай ваеннай адміністрацыі Обер Ост генерала Э. фон Людэндорфа, беларускіх

---

[16] Первая мировая война: Пролог XX века: Сб. ст. — Москва: Наука, 1999. — 690 с.; Мировые войны XX века: В 4 кн. — Кн. 1: Первая мировая война. Ист. очерк. — Москва: Наука, 2005. — 686 с.

[17] Abramowicz L. Litwa podczas wojny: Zbiór dokumentów, uchwał, odezw itp. — Warszawa, 1918. — 127 s.; Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918. — Lwów, 1929. — 143 s.

[18] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / Уклад. С. Шупа. — Вільня—Менск—Нью–Йорк—Прага: БІНіМ; Тав. Беларускага пісьменства «Наша ніва», 1998. — Т. 1. — Кн. 1. — 850 с.

[19] Befehls–und–Verorgnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost. In 3–Bde. Hauptquartier (Kowno — Bialystok). 1915—1918. — Bd. I—III; Grundlegende Richtlinien zur Widerbelebung des Schulwesens // Anlage zum Befehls–und–Verorgnungsblatt des Ob. Ost. — Nr. 7. — Ziffer 48. — S. 1—12; Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1916—1917. — Bd. I–VI; Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen, Bezirk Süd in Bialystok. — Bialystok: der «Bialystoker Zeitung», 1917—1918. — Bd. VII–VIII.

грамадскіх і культурных дзеячаў Юліяны Менке–Дубейкаўскай, Язэпа Шнаркевіча, польскіх краёўцаў Уладзіславы Недзялкоўскай–Дабачэўскай і Станіслава Цывінскага, аўтабіяграфічныя нататкі літоўскага грамадскага і культурнага дзеяча І. Басанавічуса дадаюць шмат важнай інфармацыі па адзначанай праблеме[20].

Праведзены гістарыяграфічны і крыніцазнаўчы агляд паказвае, што па абранай намі тэме дагэтуль не было выдадзена ніводнай навуковай манаграфіі, калектыўнай працы ці зборніка дакументаў. Яна не знайшла ўсебаковага і комплекснага вывучэння ў айчыннай і замежнай гістарычнай літаратуры, дзе адлюстраваны толькі асобныя яе сюжэты, а станаўленне беларускай нацыянальнай школы ў заходняй частцы Беларусі ва ўмовах кайзераўскай акупацыі ў 1915—1918 гг. паказана вельмі фрагментарна і аднабока. Пры гэтым роля палітычных структур Беларускай Народнай Рэспублікі ў станаўленні нацыянальнага школьніцтва ў 1918 г. інтэрпрэтуецца ў гістарыяграфіі звычайна некрытычна ці, наадварот, зусім тэндэнцыйна. Узгаданыя сюжэты ў многіх навуковых работах не былі галоўнымі тэмамі даследавання. Вырваныя з агульнага кантэксту абранай праблемы асобныя факты не даюць цэласнай і аб'ектыўнай карціны.

Спадзяемся, што дадзенае даследаванне не толькі пашырыць веды аб падзеях Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі і становішчы айчыннай адукацыі ў гэты час, але таксама дазволіць узбагаціць нашыя ўяўленні аб этна–культурнай і этна–палітычнай гісторыі Беларусі, дасць магчымасць глыбей зразумець, як адукацыйны фактар паўплываў на рост нацыянальнага ўсведамлення поліэтнічнага жыхарства краю і асабліва на нацыятворчыя працэсы сярод беларусаў падчас вялізарнага ўсплеску палітычнай актыўнасці грамадства ў 1917—1918 гг. у Цэнтральна–Усходняй Еўропе, дэтэрмінаваныя глабальным ваенным канфліктам 1914—1918 гг.

У манаграфіі прадстаўлены 4 карты, распрацаваныя і ўкладзеныя аўтарам. Кніга аздоблена 133 ілюстрацыямі, якія былі выяўлены ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальным музеі Літвы ў Вільні, Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску, Беларускім дзяржаўным архіве–музеі літаратуры і мастацтва, Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а таксама з прыватных збораў і ўласнай калекцыі аўтара.

***

Аўтар хацеў бы падзякаваць за дапамогу ў падрыхтоўцы манаграфіі Віктару Астрогу, Уладзіміру Багданаву, Таццяне Воранавай, Зміцеру Герасімовічу, Ганне Запартыка, Ірыне Каранкевіч, Таццяне Кекелевай, Аляксею Літвіну, Арсеню Лісу, Лявону Лычу, Ірыне Матусевіч, Уладзіміру Сакалоўскаму, Зміцеру Санько, Надзеі Саўчанка, Вячаславу Селяменеву, Андрэю Унучаку, Андрэю Фёдараву, Андрэю Чарнякевічу. Асаблівая падзяка за каштоўныя заўвагі і парады Рыгору Лазько, Аляксандры Гесь, Таццяне Іваноўскай, Вікторыі Конан–Труцько, Валянціне Цітавец і Алесю Пашкевічу.

---

[20] Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг. — Москва—Минск: АСТ Харвест, 2005. — 530 с.; Вітан–Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны. — Vilnius: Gudų Kultūros draugija Lietuvoje, 1994. — 187 с.; Шнаркевіч Я. Беларускае школьніцтва ў Менску ў 1918—20 гадох // Рунь (Вільня). — 1998. — № 13. — С. 2—3; Basanavičius J. Autobiografija. — Vilnius: Lietuvių mokslo d–ja, 1936. — 116 p.; Cywiński S. Kartki z pamiętnika (1914—1920). — Wilno, 1921; Niedziałkowska–Dobaczewska W. Wilno i Wileńszczyzna w latach 1914—1920. — Wilno, 1934. — 51 s.

# Глава 1.
# Стан школьнай справы на тэрыторыі Беларусі, падуладнай Расіі, напярэдадні і ў пачатку Першай сусветнай вайны

## 1.1. Вынікі чыннасці расійскага ўрада і праўрадавых установаў у школьнай сферы ў «Паўночна–Заходнім краі» ў 1864—1914 гг.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Расіі яшчэ далёка не была завершана мадэрнізацыя палітычнай і сацыяльна–эканамічнай сістэмы. Патрэбы хутка растучай эканомікі Расіі, а таксама задачы па ўмацаванню яе ўзброеных сіл вымагалі ад кіраўніцтва краіны ў гэты час звяртаць большую ўвагу і на развіццё школьнай справы.

Стан адукаванасці ў розных рэгіёнах Расійскай імперыі ў пачатку XX ст. быў неаднолькавым. Калі ў Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі ад 70 да 90% мясцовага насельніцтва ўмелі пісаць і чытаць, то, напрыклад, у Беларусі сярод прадстаўнікоў тытульнай нацыі, паводле Усерасійскага перапісу 1897 г., пісьменнымі былі 26,4% мужчын і 15,2% жанчын. На 1914 г. у беларускіх губернях менш за палову дзяцей школьнага ўзросту (43,9%) былі ахоплены пачатковай адукацыяй[21]. Каля 1/3 прызваных у расійскае войска жаўнераў з тэрыторыі Беларусі былі непісьменнымі, у той жа час як у нямецкім кайзераўскім ландверы гэты паказчык набліжаўся да нулявой адзнакі.

Вялікае значэнне адукацыйнаму фактару расійскі ўрад надаваў і дзеля ўмацавання геапалітычнай стабільнасці ў вялізнай па тэрыторыі і разнароднай па нацыянальным і канфесійным складзе дзяржаве. Нагадаем, што расійцы, як этнічная супольнасць, паводле Усерасійскага перапісу 1897 г., складалі толькі 43,3% насельніцтва імперыі. Галоўнымі мэтамі ўсіх палітычных, эканамічных і культурных мерапрыемстваў афіцыйнага Пецярбурга на «іншародных» этнічных тэрыторыях было ўцягванне гэтых зямель у сферу расійскіх інтарэсаў, умацаванне тут пазіцый расійскага капіталу, здзяйсненне моўнай і культурнай асіміляцыі. Стварэнне на нацыянальных ускраінах масавага расійскага школьніцтва было важнейшым інструментам дадзенай палітыкі. Усе гэтыя складаныя і супярэчлівыя працэсы не абмінулі і Беларусь.

У пачатку XX ст. расійская школа ў Беларусі, нягледзячы на сур'ёзныя недахопы, звязаныя як з агульнадзяржаўнымі, так і з мясцовымі асаблівасцямі гістарычнага развіцця адукацыі, зрабіла істотны крок наперад. Была значна пашырана сетка пачатковых школ, а таксама сярэдніх навучальных установаў; заўважную ролю ў школьным жыцці краю сталі адыгрываць земствы, гарадскія органы самакіравання і прыватныя мецэнаты. Дэмакратычныя працэсы ў краіне ў пачатку XX ст., якія дэтэрмініравалі рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг., закранулі таксама і сферу адукацыі, што ўзмацніла грамадскі ўплыў на школьную справу, спрыяла пашырэнню нацыянальнай асветы «нярускіх»[22] народаў. Царскі ўрад на кароткі час пайшоў на пэўнае змякчэн-

---

[21] Усесаюзны школьны перапіс 1927 г. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. — Мінск: Дзяржплан БССР. Эканоміка–статыстычны сектар, 1930. — С. IX.

[22] У дадзеным гістарычным кантэксце пад «рускімі» аўтар мае на ўвазе не толькі расійцаў, але таксама беларусаў і ўкраінцаў.

не сваёй пазіцыі ў дачыненні да нацыянальна–культурных патрэб названых этнічных супольнасцяў. Былі скасаваны ранейшыя абмежаванні па ўжыванню мясцовых моў гэтых нацыянальнасцяў, што прывяло да стварэння на тэрыторыі Беларусі габрэйскіх, літоўскіх, латышскіх і іншых нацыянальна–адукацыйных асяродкаў.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны колькасць казённых расійскамоўных школ у беларускіх губернях істотна павялічылася. Яны складалі неад'емную частку агульнарасійскай адукацыйнай сістэмы. За 17 гадоў (1894—1911) т.зв. «аднакласавых» і «двухкласавых» пачатковых школ (адпаведна з 3 і 5–гадовым тэрмінамі навучання) у Беларусі было адкрыта ў 2,3 разы болей, чым за папярэдняе трыццацігоддзе (1863—1893)[23]. На 1 студзеня 1915 г. у межах Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў дзейнічала 6078 пачатковых міністэрскіх і земскіх школ (284 у гарадах і 5794 у сельскай мясцовасці). Акрамя таго, пад загадам Школьнай рады Сінода Рускай праваслаўнай царквы на тэрыторыі Беларусі функцыянавала каля 3500 царкоўна–прыходскіх школ (ЦПШ). Разам ва ўсіх гэтых школах навучалася звыш 440 тысяч дзяцей.

За першае дзесяцігоддзе XX ст. у краі значна ўзрасла колькасць пачатковых школ павышанага тыпу. На гэты час у Беларусі і паўднёва–усходняй Літве налічвалася 122 вышэйшыя пачатковыя вучэльні з 6–гадовым тэрмінам навучання, якія наведвала звыш 11 тысяч школьнікаў[24]. Настаўнікаў для гэтых тыпаў школ рыхтавалі настаўніцкія інстытуты[25] і семінарыі, а таксама 2–гадовыя педагагічныя курсы пры некаторых вышэйшых пачатковых вучэльнях. За 15 перадваенных гадоў колькасць настаўніцкіх інстытутаў у Беларусі павялічылася з 1 да 4, а настаўніцкіх семінарый — з 5 да 13[26]. Педагогаў для царкоўна–прыходскіх школ рыхтавалі мужчынскія духоўныя вучэльні і семінарыі, епархіяльныя жаночыя вучэльні, а таксама адмысловыя царкоўна–настаўніцкія школы і дадатковыя педагагічныя класы пры двухкласавых ЦПШ. У межах беларускіх губерняў дзейнічалі 9 рамесных пачатковых вучэльняў, падпарадкаваных Міністэрству народнай асветы, а таксама шэраг сельскагаспадарчых, чыгуначных, гандлёвых і ніжэйшых навучальных устаноў іншых ведамстваў.

Напярэдадні вайны ў Беларусі актыўна развівалася і сярэдняя адукацыя, прадстаўленая гімназіямі, прагімназіямі і рэальнымі вучэльнямі[27]. Іх значны колькасны рост у пачатку XX ст. быў абумоўлены галоўным чынам тым, што расійскія ўлады дазволілі ўтвараць сярэднія навучальныя ўстановы прыватным асобам. За першыя 15 гадоў XX ст. колькасць урадавых гімназій павялічылася амаль у 5,5 разоў (з 10 да 54, з якіх 29 з'яўляліся мужчынскімі і 18 жаночымі), а колькасць паўнавартасных прыватных і грамадскіх гімназій[28], якіх да 1905 г. налічвалася ўсяго некалькі, дасягнула 27.

---

[23] Однодневная перепись начальных школ в Империи, произведенная 18 января 1911 г. / Под ред. В.И. Покровского. — Вып. 8. Виленский учебный округ. Губернии: Виленская, Витебская, Гродненская, Ковенская, Минская, Могилевская. — Санкт–Петербург: Типография Т–ва «Екатерингофское печатное дело», 1914. — С. 1—3.

[24] Церковные школы Российской империи к 1915 году. — Петроград, 1916. — С. 24—27; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (далей НГАБ у Мінску), ф. 2416, воп. 1, спр. 20, арк. 4—4 адв., 6—6 адв., 28—28 адв.

[25] Настаўніцкія інстытуты ў дарэвалюцыйнай Расіі, якія рыхтавалі педагогаў для вышэйшых пачатковых вучылішчаў, не з'яўляліся вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Іх выпускнікі нават не мелі права непасрэдна паступаць у ВНУ.

[26] НГАБ у Мінску, ф. 2416, воп. 1, спр. 20, арк. 73—78 адв.

[27] Класічныя гімназіі (у першую чаргу мужчынскія) павінны былі рыхтаваць абітурыентаў для ўніверсітэтаў, а рэальныя вучэльні — для вышэйшых тэхнічных і іншых адмысловых навучальных устаноў.

[28] Маюцца на ўвазе недзяржаўныя сярэднія навучальныя ўстановы, выпускнікі якіх мелі права па конкурсу дыпломаў паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Расійскай імперыі.

Акрамя таго, у краі функцыянавала некалькі дзясяткаў прыватных прагімназій з 4—6–гадовым тэрмінам навучання[29].

Загадчыкамі прыватных сярэдніх школ у Беларусі былі не выпадковыя людзі. Многія з іх былі адметнымі асобамі, якія імкнуліся ўводзіць у школьную практыку новыя паступовыя педагагічныя ідэі. Заснавальніцай адной з мінскіх прыватных жаночых гімназій была Марыя Скавароднікава, выпускніца Бястужаўскіх вышэйшых жаночых курсаў у Пецярбурзе, актыўная прыхільніца ідэй К. Ушынскага. Перад вайной яна актыўна ўдзельнічала ва многіх усерасійскіх педагагічных з’ездах, уваходзіла ў склад Маскоўскага матэматычнага гуртка і Усерасійскага фізічнага таварыства. Фізічныя і хімічныя лабараторыі Мінскай жаночай гімназіі Аляксандры Рэйман былі абсталяваныя самымі сучаснымі на той час вучэбна–тэхнічнымі прыладамі і абсталяваннем, чаго не мелі многія казённыя сярэднія школы Вільні і Мінска. Скончыла Вышэйшыя жаночыя курсы ў Пецярбурзе таксама Дар’я Лявідава–Нейфах — адна з арганізатараў вядомай габрэйскай прыватнай жаночай гімназіі ў Мінску. Былы навучэнец Віленскага настаўніцкага інстытута, вядомы мінскі фатограф–мастак Канстанцін Фалькоўіч у 1906 г. быў адным з заснавальнікаў прыватнай мужчынскай гімназіі ў тым жа Мінску. У створанай школе ён займаў сціплую пасаду выкладчыка матэматыкі і прыродазнаўства ў падрыхтоўчых класах[30].

За адзначаны перыяд колькасць рэальных вучэльняў павялічылася ў 3,5 разы — з 3 да 11. З другой паловы XIX ст. у м. Горкі Магілёўскай губерні на месцы скасаванага земляробчага інстытута дзейнічалі 2 сельскагаспадарчыя вучэльні (каморніцкая і земляробчая). У 1900–я гг. у Беларусі ўзніклі новыя сярэднія адмысловыя навучальныя ўстановы — камерцыйныя вучэльні ў Мінску, Беластоку, Віцебску, гандлёвыя школы ў Мінску і Слуцку, хіміка–тэхнічная школа ў Вільні, фельчарска–акушэрскія школы ў Горадні і Магілёве.

На пачатак 1915 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі каталіцкая духоўная семінарыя ў Вільні, 2 праваслаўныя духоўныя семінарыі ў Вільні і Мінску, мужчынскія духоўныя праваслаўныя вучэльні ў Вільні, Мінску, Слуцку, Жыровічах, Віцебску і Магілёве, жаночыя епархіяльныя вучэльні ў Вільні, Віцебску, Гомелі, Полацку, Мінску, Магілёве і Парычах.

Узровень навучання ў сярэдніх школах Расійскай імперыі быў не горшы, чым у Нямеччыне ці Францыі. Выпускнікі мужчынскіх гімназій і рэальных вучэльняў атрымлівалі добрыя веды па прыродазнаўчых і гуманітарных навуках, свабодна валодалі некалькімі замежнымі мовамі. Многія з іх былі знаёмы з працамі вядучых замежных вучоных і мысляроў, якіх яны чыталі ў арыгінале. У канцы XIX — пачатку XX стст. з Мінскай мужчынскай гімназіі выйшлі прафесар Пражскага Карлава ўніверсітэта Яўген Ляцкі, філосаф і літаратар Уладзімір Самойла, інжынер–чыгуначнік і гісторык навукі Аляксандр Гадыцкі–Цвірка. Гарадзенскую мужчынскую гімназію скончыў палітолаг і правазнаўца Маісей Астрагорскі, які быў адным з першых у расійскай палітычнай навуцы, хто пачаў распрацоўваць ідэю аб прававой сацыяльнай дзяржаве. Класічную гімназічную адукацыю ў Беларусі атрымалі такія вядомыя мысляры Расіі, як філосаф Мікалай Лоскі, псіхолаг Леў Выгоцкі.

За апошняе дзесяцігоддзе істотна змяніўся і сацыяльны склад навучэнцаў гэтых элітных школ. Яны перасталі быць адукацыйнымі асяродкамі толькі для дзяцей вышэйшых станаў грамадства: шляхты і заможных мяшчан. Нягледзячы на даволі высокі кошт навучання, гэтыя школы, хоць і марудна, паступова пераўтвараліся ва ўсесаслоўныя навучальныя ўстановы[31].

---

[29] Отчет о состоянии учебных заведений Виленского учебного округа за 1914 год. — Вильно, 1915. — Раздел — гимназии, с. 3—59; Евдокимова Е.Л. Гимназическое образование в Беларуси: исторический опыт и тенденции развития (XIX — начало XX вв). — Минск: Национальный институт образования, 1998. — С. 38—41.

[30] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (далей — ДАМВ), ф. 322, воп. 1, спр. 1093.

[31] Евдокимова Е.Л. Гимназическое образование в Беларуси.., с. 55—58.

Увядзенне з 1911 г. у трох беларускіх губернях (Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай) земскага самакіравання дало дадатковы штуршок развіццю школьнай асветы. Пры фінансавай і арганізацыйнай падтрымцы земстваў урад меркаваў значна пашырыць школьную сетку ў краіне. У прыватнасці ў «Паўночна–Заходнім краі» ўлады планавалі да 1923/24 навучальнага года ахапіць пачатковай адукацыяй усіх дзяцей школьнага ўзросту. Але гэтыя планы парушыла Першая сусветная вайна. Увядзенне ўсеагульнага пачатковага навучання ў Беларусі было адсунута фактычна на цэлае дзесяцігоддзе ад вызначанай даты і рэалізавана толькі ў пачатку 1930–х гг., ужо пры савецкай уладзе[32].

Усе адзначаныя пазітыўныя моманты, якія характарызуюць сфармаваную за расійскім часам у Беларусі сістэму школьнай адукацыі, адразу нівеліруюцца адным толькі фактарам — русіфікацыйным зместам і характарам гэтай адукацыі. Беларусы па–ранейшаму вучыліся ў расійскамоўных адукацыйных установах, дзе іх выхоўвалі на расійскіх культурных і гістарычных традыцыях.

Чужая мова, чужая гісторыя, адлюстраванне чужога жыцця і няродных краявідаў у творах расійскіх пісьменнікаў цяжка ўспрымаліся беларускімі дзецьмі. Падчас заняткаў і на перапынках настаўнік абавязаны быў сачыць за тым, каб яны не гаманілі «па–простаму». Яўхім Кіпель, успамінаючы сваю «навуку» ў пачатковай школе ў пачатку XX ст., згадваў, што спачатку педагогі забаранялі ім карыстацца «найбольш ужыванымі словамі — *хіба*, *як*, *трэба*, *бачыў*, *чуў* і падобнымі, ці, інакш кажучы, забаранялася ўжываць засвоены дзяцьмі лексікон, а заміж гэтага намагаліся навучаць новаму — *разве*, *как*, *нужно*, *видел*, *слышал* і г.д.». Нярэдка ў адказ вучні выкарыстоўвалі пасіўныя сродкі «апазіцыі». «Часам, — успамінаў Кіпель, — у класе мы між сабой проста не гаварылі, а вельмі часта такія словы і звароты знарок перайначвалі, кпілі. Гэтак, заміж «*нужно*», мы нарочна казалі «*нужнік*»[33]. У адместку вучыцелі лупілі «апазіцыянераў» лінейкамі ці «ўказкамі», круцілі вушы, ставілі на калені… Праходзіў год, а можа, і два, пакуль тутэйшыя хлопчыкі і дзяўчынкі пачыналі ўспрымаць расійскую мову.

Расійская навука «з–пад палкі» відавочна замаруджвала псіхічныя і разумовыя здольнасці беларускіх дзяцей. Нелюбімымі прадметамі лічыліся расійская мова і чыстапісанне, а таксама Закон Божы. Мала хто з выхадцаў з беларускай вёскі пасля заканчэння 3–гадовай пачатковай ці царкоўна–прыходскай школы мог разлічваць на тое, каб ісці вучыцца далей. Бацькі неахвотна адпускалі іх у мястэчка ці горад для вучобы ў школах наступнай ступені. «З паперы хлеба есці не будзеш…» — звычайна так адказваў бацька сыну на яго жаданне здабываць школьную навуку. Што ж тычыцца дзяўчат, то для іх атрымаць пазваленне на гэта было яшчэ менш рэальнай справай — патрыярхальныя норавы яшчэ моцна трымаліся ў сялянскіх сем'ях.

Мясцовыя земскія ўправы ў сваіх рапартах адзначалі аб вялікай долі «зваротнай непісьменнасці» сярод вясковага жыхарства, што тлумачылася ў першую чаргу адсутнасцю на вёсцы публічных бібліятэк і перыядычных выданняў. Здабытыя навыкі і веды ў пачатковай школе шмат хто хутка страчваў за непатрэбай.

Супраціў дэнацыяналізацыі сярод тутэйшага насельніцтва калі і меў месца, то насіў, як правіла, пасіўны характар. Гэта сведчыла пра слабасць нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў. Этнічная самаідэнтыфікацыя тутэйшага сялянства, што складала абсалютную большасць беларускага насельніцтва, не выходзіла за рамкі той лакальнай вясковай супольнасці, у межах якой яны пражывалі. Мала хто з іх

---

[32] Ляхоўскі У.В., Конан В.В. Адукацыя ў Рэчыцкім павеце напярэдадні і ў пачатку Першай сусветнай вайны // Пятыя міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 22—23 верасня 2005 г. / Адк. рэд. В.М. Лебедзева. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2005. — С. 278.

[33] Кіпель Я. Успаміны // Спадчына. — 1995. — № 3. — С. 60.

усведамляў, што існуе такая беларуская нацыя і што яны належаць да яе[34].

Разам з усім сказаным трэба адзначыць шэраг іншых, не менш сур'ёзных недахопаў і хібаў у сістэме тагачаснай расійскай адукацыі, якая сур'ёзна адставала ад патрэбаў часу. Першае, што было відавочна амаль усім — ад міністра асветы да педагога–паступоўца, — надзвычай складаная і груваасткая тыпалогія навучальных устаноў з рознай формай падпарадкавання і крыніцамі фінансавання. Адукацыйную сістэму Расійскай імперыі ў той час можна ахарактарызаваць як «школу разнастайную, але не адзіную», якая цяжка паддавалася агульнай класіфікацыі і не забяспечвала пераемнасці ў навучанні ў розных формах і на розных ступенях. У пачатку XX ст., паводле афіцыйнай наменклатуры, у краіне існавала звыш 100 розных тыпаў навучальных устаноў (70 пачатковай і 30 — сярэдняй ступеняў). На тэрыторыі Беларусі іх таксама мелася некалькі дзясяткаў. Акрамя Міністэрства народнай асветы, шэраг навучальных устаноў падпарадкоўваўся іншым міністэрствам і ўстановам, напрыклад, Міністэрствам прамысловасці і гандлю, шляхоў зносін, фінансаў, Галоўнай управе землеўпарадкавання, Сіноду Рускай праваслаўнай царквы, Ведамству імператрыцы Марыі Фёдараўны і інш. «Бадай, што ні ў адной іншай краіне свету, — пісаў вядомы расійскі педагог Мікалай Чэхаў, — немагчыма было знайсці такую стракатую карціну арганізацыі школьнай справы, як у Расіі»[35]. Такая некансалідаваная арганізацыя школьнай справы з заблытанай схемай фінансавання (з больш чым 25 крыніц) была архаічнай і малаэфектыўнай, цяжка паддавалася кіраванню і рэфармаванню.

Найбольш нараканняў з боку грамадскасці выклікалі тады навучальныя ўстановы, падпарадкаваныя Школьнай радзе Сінода РПЦ, створаныя ў 80–я гады XIX ст. За сваю 20–гадовую чыннасць у Беларусі царкоўна–прыходскія школы (паводле Правілаў 1884 г.) у цэлым паказалі сваю малую эфектыўнасць у вучэбна–метадычным і выхаваўчым плане ў параўнанні з урадавымі і земскімі пачатковымі вучэльнямі. Найменшай папулярнасцю гэтыя школы карысталіся на Віленшчыне і Гарадзеншчыне, дзе быў моцны ўплыў каталіцкага касцёла. Былі выпадкі, калі царкоўныя навучальныя ўстановы ў гэтых рэгіёнах наведвалі ад 5 да 10 школьнікаў[36]. У паслярэвалюцыйны час у беларускіх губернях адбылося істотнае змяншэнне колькасці ЦПШ: з 4842 у 1909 г. да 3565 у 1915 г. У першую чаргу гэта адбылося за кошт рэзкага скарачэння колькасці т.зв. «царкоўных школ пісьменнасці» з 2–гадовым тэрмінам навучання — з 2817 да 811. У Магілёўскай губерні іх колькасць зменшылася ў дзясяткі разоў — з 726 да 10[37]. У канцы 1913 г. у расійскім урадзе пры планаванні адкрыцця новых школ у рамках здзяйснення праграмы па ўвядзенню ўсеагульнага школьнага навучання сур'ёзна разглядалася пытанне аб мэтазгоднасці далейшага існавання ніжэйшых ЦПШ у паветах, дзе пераважала каталіцкае насельніцтва. Разглядалася прапанова, каб замест іх утварыць міністэрскія вучэльні[38]. Земскія ўстановы толькі пад прымусам расійскага ўрада і мясцовай губернскай улады згаджаліся выдаткоўваць са свайго бюджэту сродкі

[34] Токць С.М. Беларуская вёска на мяжы эпох: Змены ў этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (па матэрыялах Гарадзеншчыны XIX — першай трэці XX ст.). — Горадня: ГрДУ, 2003. — С. 9.

[35] Чехов Н.В. Типы русской школы в их историческом развитии. — Москва, 1923. — С. 48.

[36] Берэбендзя. З Слонімскага пав. // Наша ніва. — 1908, 14 (27) сак. (Факсімільнае выданне. — Вып. 1. — Мінск: Тэхналогія, 1992. — С. 7.).

[37] Церковные школы Российской империи к 1909 году. — Санкт–Петербург, 1909. — С. 20—23; Церковные школы Российской империи к 1913 году. — Санкт–Петербург, 1914. — С. 24—27; Церковные школы Российской империи к 1915 году. — Петроград, 1916. — С. 24—27.

[38] Istorinis Archyvas Lietuvos (IAL). F. 578 (Lietuvis stačiatikių vyskupių mokyklinis taryba). D 19 (Пратаколы пасяджэнняў Школьнай рады Літоўскай епархіі Расійскай праваслаўнай царквы за 1914—1915 гг.). L. 17—17 адв.

на ўтрыманне ЦПШ. У некаторых выпадках мясцовыя школьныя інспектары ў рамках рэалізацыі адзначанай вышэй урадавай праграмы адмаўляліся ўключаць ЦПШ у агульную школьную сетку. Так, у чэрвені 1914 г. школьны інспектар Рэчыцкага павета Ф. Лукашэвіч пагадзіўся ўключыць у агульную павятовую школьную сетку толькі 40 з 77 мясцовых ЦПШ, матывуючы сваё рашэнне дрэнна пастаўленай педагагічнай справай у шэрагу царкоўных навучальных устаноў[39].

Шмат крытыкі выказвалася і ў адрас сярэдніх рэлігійных школ, вучэбныя праграмы якіх значна састарэлі і патрабавалі перагляду. Метады, якімі ўкаранялі праваслаўнае веравучэнне семінарыстам і навучэнцам духоўных вучэльняў, прыводзілі да адваротных вынікаў. Айчынная гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі з царкоўных навучальных устаноў выходзілі рэвалюцыянеры і ваяўнічыя атэісты. «Калі рэлігіяй забівалі галовы, — пісаў вядомы расійскі філосаф і праваслаўны святар Павал Фларэнскі, — у семінарыях выхоўваліся найбольш актыўныя бязбожнікі. Калі рэлігію навязваюць — ад яе адварочваюцца»[40].

Даўнім архаізмам агульнарасійскай школьнай сістэмы, які паступовай грамадскасцю ўспрымаўся як сродак сацыяльнай сегрэгацыі, была адсутнасць пераемнасці паміж масавай элементарнай школай і элітарнымі ступенямі школьнай адукацыі (гімназіямі, рэальнымі вучэльнямі, універсітэтамі і вышэйшымі адмысловымі інстытутамі). Гэта праблема так і не была вырашана ў царскі час. Да таго ж трэба сказаць, што сярэднія школы, за рэдкім выключэннем, былі сканцэнтраваны ў губернскіх і павятовых цэнтрах і не мелі пры сабе інтэрнатаў. Гэтая акалічнасць, а таксама высокі кошт за вучобу не давалі магчымасці большасці выхадцаў з беларускай вёскі паступаць вучыцца ў названыя элітарныя навучальныя ўстановы.

Нягледзячы на заўважны рост колькасці гімназій і рэальных вучэльняў у Беларусі ў пачатку XX ст., па гэтых паказчыках беларускія губерніі знаходзіліся ў канцы спіса сярод іншых рэгіёнаў Расіі: на 10 тысяч жыхароў краю прыходзілася ўсяго 27 навучэнцаў гімназій[41]. Дыскутаваць і спрачацца аб тым, пазітыўна ці адмоўна паўплывала на культурнае развіццё Беларусі далучэнне яе да Расіі ў канцы XVIII ст., можна толькі ігнаруючы факты, якія гавораць самі за сябе. У пачатку XIX ст. па долі навучэнцаў сярэдніх школ у дачыненні да ўсяго жыхарства былога Вялікага Княства Літоўскага знаходзілася на першых пазіцыях у імперыі, разам з Польшчай, Курляндыяй і Ліфляндыяй. У пачатку XX ст. па гэтаму паказчыку Віленская навучальная акруга, якой падпарадкоўваліся літоўска–беларускія землі, займала перадапошняе месца сярод іншых адукацыйна–адміністрацыйных адзінак Расіі і апярэджвала толькі Казанскую навучальную акругу[42].

Пасля закрыцця царскімі ўладамі Віленскага ўніверсітэта (1832 г.) і Горы–Горацкага земляробчага інстытута (1863 г.) Беларусь на доўгі час засталася без вышэйшай школы. Некалі славуты сваімі культурнымі здабыткамі край паступова ператвараўся ў «задворкі» Расійскай імперыі. Штогод некалькі сотняў выпускнікоў гімназій, рэальных і камерцыйных вучэльняў, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, ехалі вучыцца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Расійскай імперыі ці за яе межы. Шмат хто з іх пасля атрымання вышэйшай адукацыі заставаўся на чужыне назаўсёды. У выніку адбываўся адток з краю лепшых інтэлектуальных сіл, што перашкаджала фарміраванню ў Беларусі інтэлектуальнай эліты, стварэнню навуковых і культурна–асветніцкіх цэнтраў. Захады і ініцыятывы мясцовай грамадскасці па аднаўленню вышэйшай навучальнай уста-

[39] Ляхоўскі У.В., Конан В.В. Адукацыя ў Рэчыцкім павеце.., с. 270.

[40] Флоренский П.А. Предполагаемое государственное устройство в будущем // Литературная учеба. — 1991. — № 3. — С. 102.

[41] Евдокимова Е.Л. Гимназическое образование в Беларуси..., с. 56.

[42] Kaubrys S. Lietuvos mokykla 1918—1939 m.: galios gimtis. — Vilnius, 2000. — P. 8.

новы ў «Паўночна–Заходнім краі», якія неаднаразова прадпрымаліся з другой паловы XIX ст. і асабліва ў XX ст., не прывялі да станоўчых вынікаў[43]. Афіцыйны Пецярбург па–ранейшаму асцерагаўся, што ўтвораная ў гэтым рэгіёне вышэйшая школа стане «гняздом» рэвалюцыйнай прапаганды і сепаратызму. Міністр асветы Расіі А. Шварц у 1910 г. безапеляцыйна заявіў: «У найбліжэйшы час трэба зусім адмовіцца ад заснавання вышэйшых школ на ўскраінах, дзе не толькі пераважная, а нават проста значная частка іншых [нерасійскіх. — *У. Л.*] нацыянальнасцяў»[44].

Колькасны рост пачатковых школ у Беларусі ў пачатку XX ст. не падмацоўваўся належным развіццём іх матэрыяльна–тэхнічнай базы. Школа развівалася экстэнсіўным шляхам, нярэдка за кошт якасці навучання. На пачатак 1915 г. толькі каля 35% пачатковых школ Віленскай навучальнай акругі мелі ўласныя будынкі[45]. Нярэдка пад народную вучэльню мясцовыя школьныя інспектары арандавалі сялянскія хаты з цёмнымі і цеснымі пакоямі, не прыстасаванымі для вучэбных заняткаў. З–за недастатковага фінансавання не хапала школьнага інвентару, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. Толькі 2,3% з 6 тысяч пачатковых школ Беларусі былі абсталяваны класамі ручной працы ці рамеснымі майстэрнямі. Усяго толькі 5,5% вясковых вучэльняў мелі свае ўласныя зямельныя ўчасткі ці пчаліныя пасекі, дзе адбываліся заняткі па сельскай гаспадарцы, садоўніцтву, гародніцтву і пчалярству[46].

На нізкім узроўні знаходзілася прафесійная падрыхтоўка настаўнікаў элементарных школ[47]. Толькі каля 40% з іх мелі адмысловую педагагічную адукацыю (скончылі настаўніцкія інстытуты, семінарыі ці 2–гадовыя педагагічныя курсы). Вялізны разрыў у аплаце працы існаваў паміж педагогамі элітарнай сярэдняй і пачатковай школ. Вясковы настаўнік народнай вучэльні атрымліваў у месяц каля 30 руб. Трохі больш зараблялі настаўнікі гарадскіх вучэльняў (з 1912 г. рэарганізаваныя ў вышэйшыя пачатковыя вучэльні) — ад 40 да 50 руб. У самым горшым становішчы знаходзіўся настаўнік ЦПШ — ён атрымліваў прыкладна 17 руб. у месяц. У той жа самы час выкладчык урадавай гімназіі з вышэйшай адукацыяй у першы год пасля заканчэння ўніверсітэта атрымліваў штомесяц 75—80 руб., за кожнае наступнае 5–годдзе сваёй педагагічнай працы меў павелічэнне да 40 руб. Пры 20–гадовым стажы працы штомесячны заробак выкладчыка гімназіі дасягаў ужо 200—250 руб.[48].

Настаўнік царскай школы, на думку расійскай цэнтральнай улады, павінен быў стаць галоўным правадніком русіфікатарскай палітыкі ў Беларусі. У душах тутэйшых навучэнцаў настаўніцкіх семінарый і інстытутаў праз «навуку» ды прапаганду афіцыйнага расійскага праваслаўя імкнуліся знішчыць усё беларускае, самабытнае і разам з тым — здольнасць да самапавагі і крытычнага светаўспрымання. Дзеля гэтай мэты было прыстасавана ўсё: і навучальны працэс, і казарменны рэжым пасля заняткаў, і люстрацыя асабістага ліставання. І галоўнае — ні слова па–беларуску. Нідзе і ніколі, нават па–за сценамі настаўніцкай школы. Выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, у будучым вядомы беларускі тэатральны дзеяч Кастусь Пуроўскі так успамінаў гады сва-

---

[43] Турук Ф. Университетская летопись // Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта. — 1922. — № 1. — С. 175—207; Пічэта У.І. Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — С. 48; Ляхоўскі У.В. На шляху да стварэння універсітэта ў Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс. — 2001. — №4. — С. 11—13; Зельскі А. Планы і спробы стварэння універсітэта ў Беларусі (першая палова XIX — 1918 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. — 2004. — № 2. — С. 22—29.

[44] Цытата друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле: Аврех А. Столыпин и Третья Дума. — Москва: Наука, 1968. — С. 26.

[45] НГАБ у Мінску, ф. 2416, воп. 1, спр. 20, арк. 5.

[46] Отчет о состоянии учебных заведений Виленского учебного округа за 1914 год. — Вильно, 1915. — С. 31—36.

[47] Маюцца на ўвазе ніжэйшыя пачатковыя школы з 3–гадовым тэрмінам навучання.

[48] Лейкина–Свирская В.Р. Русская интеллигенция в 1900—1917 годах. — Москва: Мысль, 1981. — С. 62—65.

ёй вучобы: «Нам катэгарычна забараранялі нават гаварыць паміж сабой па–беларуску. Так мне аднойчы на занятках па разбору практычных урокаў была зроблена дырэктарам вымова і пастаўлены мінус да круглай «5» за тое, што, спытаўшы аднаго вучня, у мяне нечакана сарвалася слова «чаму», а не «почему»… Ні газет, ні часопісаў нам не дазвалялі выпісваць, жылі мы ў поцемку ды, шчыра кажучы, і грошай на гэта не было... Стыпендыі ледзь хапала, каб плаціць па 6 рублёў у месяц за харчаванне»[49].

Пад фактычнай забаронай у педагагічных установах і сярэдніх школах краю было выкладанне і распаўсюджванне ведаў па беларусазнаўству. У той час як беларускія студэнты, што навучаліся ва ўніверсітэтах, настаўніцкіх інстытутах Масквы, Пецярбурга і Кіева, маглі свабодна, па заданню сваіх выкладчыкаў, займацца даследаваннямі па этнаграфіі, фальклору і геаграфіі Беларусі, пісаць па гэтых тэмах студэнцкія пісьмовыя работы, то ў Віленскай навучальнай акрузе гэта негалосна не ўхвалялася «во избежание политических прецедентов». У. Ігнатоўскі пазней адзначаў, што ў старой школе калі і можна было казаць аб мясцовай геаграфіі і краязнаўстве, дык не дапушчалася і думкі аб тым, што можна гаварыць аб «[беларускай] мове і краязнаўстве, аб [беларускай] літаратуры і краязнаўстве»[50].

За некалькі дзесяцігоддзяў існавання расійскай улады ў беларускіх губернях сфармавалася цэлая армія «дамарошчаных» расійскіх эрзац–інтэлігентаў, якія былі паслухмяным інструментам у руках расійскага ўрада па дэнацыяналізацыі тутэйшага жыхарства. Яны не ў стане былі дакладна сфармуляваць тыя заданні, што стаялі перад краем, не выяўлялі здольнасці да практычнай чыннасці ў вырашэнні складаных праблем, якія ставіла жыццё. Бясплоднасць і безыніцыятыўнасць мясцовых «западноруссов» з сумам адзначаў адзін з лідараў мясцовай «расійскай партыі» Лук’ян Саланевіч, які ў газеце «Русская окраина» ў 1912 г. з сумам пісаў: «Як нікчэмна, як яшчэ слаба гэтая інтэлігенцыя, калі глядзець на яе, як на актыўнага мясцовага нацыянальна–рускага дзеяча. Большасць і вялізарная большасць гэтай інтэлігенцыі жыве летуценнымі лозунгамі, занята агульнасусветнымі, агульначалавечымі і агульнарасійскімі задачамі, расцякаючыся па шырокіх сацыяльных і палітычных пытаннях у нявызначанай паступовасці, і ў той жа час не бачучы ці не жадаючы бачыць таго, што робіцца ў сябе пад носам, не ўмее дакладна нічога рабіць дзеля таго, каб звязаць сябе з гэтай масай мясцовага *рускага* сялянства і хоць што–небудзь зрабіць для народа… Ён зусім не ведае гісторыі краю, не ведае свайго мінулага, не знаёмы з тымі вялізнымі высілкамі, з якімі ягоныя продкі адстойвалі свае права на існаванне… З раўнадушшам і легкадумнасцю прафана ён топча магілы сваіх… продкаў, праходзіць міма помнікаў роднай старасветчыны, не ведаючы іх і таму не разумеючы»[51].

Многія з ліберралаў «заходнерускай» арыентацыі прыхільна ставіліся да вывучэння беларускай народнай гаворкі і фальклору, але, разам з тым, не прызнавалі самастойнай беларускай мовы, ухвалялі развіццё беларускай культуры не як самадастатковую, самакаштоўную з’яву, а толькі ў якасці этнаграфічнага матэрыялу, які паслужыць «росквіту высокай агульнарускай культуры». Яны скептычна і паблазліва ўспрымалі першыя крокі новай беларускай літаратуры і мастацтва. Паступова погляды некаторых прадстаўнікоў лібералаў–народнікаў, што засяродзіліся на даследаванні гісторыі Беларусі, беларускай этнаграфіі і мастацтва, станавіліся больш сугучнымі з ідэямі нацыянальнага адраджэння. Была верагоднасць таго, што паступова яны маглі б эвалюцыянаваць і сфармаваць ліберальнае крыло беларускага нацыянальнага руху, але для гэтага быў патрэбны час. Імклівыя падзеі ў пачатку ХХ ст. не давалі такога часу для

[49] Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Аддзел рукапісаў. Уліковая папка № 5, адз. зах. 120, арк. 1—4.

[50] Вынікі ІІ Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі // Наш край. — 1929. — № 2. — С. 55.

[51] Л.С. [Солоневич Л.]. Национальная драма // Окраины России. — 1912, 15 дек.

адаптацыі да новых палітычных рэалій. Рэвалюцыйныя хвалі 1905—1906 гг. «размылі» ліберальнае крыло «западноруссов». Адбываецца іх ідэйнае размежаванне. Толькі адзінкі (Зміцер Даўгяла, Аляксей Сапуноў, Андрэй Снітка, Еўдакім Раманаў, Тодар Вернікоўскі) паступова пераходзяць на беларускі нацыянальны грунт, займаючы месцы ў памяркоўным крыле беларускага нацыянальнага руху. Астатнія ж звярнуліся на пазіцыі расійскіх вялікадзяржаўнікаў.

## 1.2. Пачатак «беларускага пазітывізму» і стварэнне першых беларускамоўных адукацыйных асяродкаў

У пачатку XX ст. расійскі ўрад пайшоў на змякчэнне сваёй пазіцыі ў дачыненні да нацыянальнай асветы нерасійскіх народаў. Былі скасаваны ранейшыя абмежаванні па ўжыванню мясцовых моў, што дало штуршок да ўтварэння нацыянальных адукацыйных асяродкаў некаторых этнічных супольнасцяў Беларусі. Але ў дачыненні да беларускай мовы дзейнічалі старыя прадпісанні: ёй адмаўлялі ў самастойным існаванні і прызнавалі толькі ў якасці «галіны агульнарускай мовы». Русіфікатарская сутнасць дадзенай дактрыны не да канца раскрывае яе сутнасць. Заяўляючы аб «кроўным і гістарычным адзінстве» расійцаў, беларусаў і ўкраінцаў, афіцыйны Пецярбург меў на ўвазе і тое, што гэтае дэклараванае адзінства — найважнейшы фактар геапалітычнай стабільнасці шматнацыянальнай дзяржавы. Справа ў тым, што нават па завышаных паказніках Усерасійскага перапісу 1897 г., як мы ўжо адзначалі, «великороссы» складалі толькі 43,3% усяго насельніцтва імперыі, г.зн. апошнія не мелі абсалютнай большасці ў краіне, што мела назву Расія, і нацыянальнай ідэяй якой, паводле слоў Пятра Струвэ, павінна было стаць зрошчванне імперскай дзяржаўнай моцы і расійскага нацыяналізму[52]. Разам жа «тры галіны рускай народнасці» мелі абсалютную большасць сярод жыхарства тагачаснай Расійскай імперыі — 65,3%. Расійскай уладзе жыццёва неабходна было захаваць гэтае «адзінства», якое дазваляла ад яго імя выступаць у якасці дамінуючай па колькасці насельніцтва субэтнічнай супольнасцю ў дзяржаве. Дзеля гэтага і надалей патрэбна было не дапусціць нацыянальна–культурнай і нацыянальна–палітычнай эмансіпацыі «малодшых братоў». Дазваляючы, ва ўмовах аслаблення імперскай улады, ствараць на заходніх ускраінах імперыі нацыянальныя школы малалікіх «нярускіх» этнічных груп (эстонцаў, латышоў, літоўцаў, а таксама габрэяў), расійскі ўрад адначасова забараняў адкрыццё ўкраінскіх і беларускіх адукацыйных асяродкаў. Пашырэнне ўжывання ўкраінскай і беларускай моў у Расіі заўсёды было пытаннем палітычным.

Пасля выхаду ўказа Мікалая II ад 25 снежня 1904 г. скасоўваліся ранейшыя абмежаванні па ўжыванню нацыянальных моў у заходніх губернях. Гэта тычылася таксама ўкраінскай і беларускай моў, хаця па–ранейшаму яны не дапускаліся да ўжывання ў сферы адукацыі. Але «ўкраінскае пытанне» ўжо гучна заяўляе аб сабе: украінскія «самасційнікі» актыўна пачынаюць дамагацца нацыянальных правоў для свайго народа. Па патрабаванні «ўкраінафільскай» прафесуры Кіеўскага і Харкаўскага ўніверсітэтаў у Пецярбургскай (Расійскай) акадэміі навук была створана адмысловая камісія для разгляду пытання аб «самасційнасці» ўкраінскай мовы і яе адрознасці ад расійскай. У камісію ўвайшлі такія вядомыя расійскія навукоўцы, як акадэмікі Аляксей Шахматаў, Фёдар Корша, Андрэй Фамінцын, Філіп Фартунатаў, Аляксандр Лапа–Данілеўскі і Сяргей Ольдэнбург. 18 лютага 1905 г. адзначаная камісія прадставіла на

[52] Струве П. Великая Россия. Из размышлений о проблеме русского могущества // Русская мысль. — 1908, 12 сент.

зацвярджэнне агульнага сходу РАН дакладную запіску «Аб адмене забароны малароскага друкаванага слова», у якой казалася пра «недапушчальнасць любых перашкодаў для свабоднага развіцця маларoскай мовы ў агульначалавечых інтарэсах». Рашэнне аб свабодным развіцці ўкраінскай мовы было ўхвалена большасцю сябраў РАН. Гэтае рашэнне было выкарыстана ўкраінскімі грамадскімі дзеячамі ў справе легалізацыі сваёй нацыянальнай школы. Хаця яе беспаспяхова дабіваліся ўкраінскія фракцыі першых складаў Дзяржаўнай Думы Расіі ў 1905—1907 гг., аднак грамадскі фон для гэтага быў ужо створаны. У гэтым пытанні з украінцамі салідарызаваліся многія расійскія паступоўцы. Закон аб школе 1914 г., прыняты 4–й Дзяржаўнай Думай Расіі, ужо дапускаў з рознымі агаворкамі выкладанне ў пачатковых школах Украіны на матчынай мове дзіцяці.

Беларуская сітуацыя была больш складанай. Беларускі нацыянальны рух знаходзіўся яшчэ ў стадыі арганізацыйнага станаўлення і не меў такога грамадскага ўплыву, як украінскі. Сучасны ўкраінскі гісторык Я. Грыцак удала параўнаў гэтую розніцу: «Калі кіраўніцтва ўкраінскага руху ў 1903 г. умешчвалася ў двух вагонах цягніка, то годам пазней усе сябры Беларускай рэвалюцыйнай грамады, адзінай на той час [беларускай] нацыянальнай арганізацыі, спакойна маглі рассесціся за адным абедзенным сталом»[53].

Тое, што беларусы па–ранейшаму працягвалі вучыцца ў расійскамоўных навучальных установах, — паказнік таксама няспеласці і размытасці этнічнай самаідэнтыфікацыі тутэйшага сялянства, якое складала абсалютную большасць беларускага жыхарства. Іх штодзённасць працякала натуральна і роўна. Высілкі малалікай групы беларускіх нацыяналістаў пры існуючым палітычным ладзе не маглі ўзняць беларускае сялянства да належнага нацыянальнага ўсведамлення. Адчувалася нястача свядомай беларускай інтэлектуальнай эліты. Загаварыць у той час па–беларуску ў чыноўніцкім ды і ў інтэлігенцкім гарадскім асяродку, паводле слоў Аляксандра Уласава, было раўналежна таму, што выйсці на вуліцу аголеным.

Але Беларусь паступова ачуняла ад наступстваў падаўлення антырасійскага паўстання 1863—1864 гг. Сітуацыя пачала мяняцца з 1905 г., падчас разгортвання беларускага палітычнага руху. З'яўляліся новыя людзі, якія браліся за цяжкую працу асваення беларускай культурнай «цаліны» па нацыянальнаму ўсведамленню свайго народа. Гэта былі першыя крокі беларускага пазітывізму, пачатак станаўлення мадэрновай нацыі.

Ініцыятыва нацыянальна–культурнага чыну зыходзіла ад маладой генерацыі беларускай эліты. Беларуская моладзь заўсёды была ў авангардзе руху за незалежнасць краіны, за заваяванне дэмакратычных і сацыяльных правоў для свайго народа, за свабоднае развіццё роднай мовы і культуры. Так склалася, што яны фактычна не мелі папярэднікаў, на якіх можна было б абаперціся ў сваёй чыннасці. Можна ўзгадаць прозвішчы толькі некаторых дзеячаў са старэйшага пакалення (Карусь Каганец, Альгерд Абуховіч, Ян Неслухоўскі, Браніслаў Эпімах–Шыпіла, Антон Лявіцкі), якіх можна было лічыць духоўнымі настаўнікамі і дарадцамі пачаткоўцаў беларускага вызвольнага руху ў гэты час. З большага прыходзілася рабіць усё ўпершыню, часам у поцемках, навобмацак, робячы непрадбачаныя, вымушаныя памылкі, але свята веруючы ў сваё прызначэнне.

Рэвалюцыйныя падзеі ў Расійскай імперыі ў 1905—1906 гг. высунулі перад маладым беларускім рухам найперш палітычныя заданні нацыянальнага ды сацыяльнага кшталту. Патрабаванні арганізацыі беларускай нацыянальнай школы ішлі ўслед за палітычнымі.

У гэты час адным з галоўных ачагоў рэвалюцыйнага «браджэння» ў краі сталі настаўніцкія семінарыі, якія задумваліся ў якасці «бастыёнаў» існуючага рэжыму і апо-

[53] Грицак Я. Нариси історії України: Формування модерної української нації XIX—XX ст. — Київ, 1996. — С. 73.

ры расійшчыны. У 1906—1907 гг. адбыліся моцныя хваляванні сярод навучэнцаў Маладзечанскай, Панявежскай, Полацкай ды Свіслацкай (Гарадзенская губ.) настаўніцкіх семінарый. У лістападзе 1906 г. у Маладзечне семінарысты абвясцілі страйк у знак пратэсту супраць усталяванага дырэктарам Ф. Цвіркам–Гадыцкім у сценах педагагічнай школы паліцэйскага рэжыму. Непрымірымасць семінарыстаў вымусіла вышэйшае кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі пайсці на замену дырэктара. Прыкладна ў гэты час тут ствараюцца вучнёўскія суполкі эсэраў–максімалістаў, а таксама гурток Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) на чале з Міколам Шылам. Маладыя грамадоўцы шырылі сярод навучэнцаў нацыянальную і сацыялістычную прапаганду. Існавала думка стварыць агульны вучнёўскі хаўрус трох узгаданых настаўніцкіх семінарый. Семінарысты мелі цесную сувязь з Вільняй ды Мінскам, з тамашняй філіяй БСГ, адкуль атрымлівалі нелегальную літаратуру.

Палітычная ды нацыянальная праца семінарыстаў не абмяжоўвалася толькі сценамі навучальных устаноў. Падчас летніх вакацый яны шырылі антыўрадавую агітацыю сярод сялянства ў сваіх родных вёсках ды мястэчках. Вялікі розгалас атрымала справа арышту летам 1907 г. навучэнцаў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Міколы Шылы, Лявона Шашуры (абодва ўраджэнцы Міншчыны), Дзяніса Крывадубскага (прадмесце Слуцка Ячава), Лукі Калядкі (в. Лесуны Слуцкага павета) ды Міхася Вайцяховіча (в. Бязверхавічы Слуцкага павета), якія па даносу былі схопленыя царскай ахранкай па абвінавачванню ў распаўсюджванні нелегальнай антыўрадавай літаратуры — галоўным чынам улётак і агітацыйных брашур БСГ. Толькі ў чэрвені 1909 г. паводле пастановы Віленскай судовай палаты арыштанты былі вызвалены з астрога ды аддадзены пад строгі жандарскі нагляд.

Маладзечанскія семінарысты, прынамсі, праявілі ініцыятыву па стварэнню хаўрусу навучэнцаў настаўніцкіх семінарый у Маладзечна, Свіслачы, Полацку і Панявежжы, які павінен быў бараніць інтарэсы будучых педагогаў. А. Луцкевіч пазней так згадваў аб гэтым: «Роўна 10 гадоў назад (19 красавіка 1906 г.) у Маладзечна, у малым цёмным пакойчыку сабраліся маладыя хлопцы — дэлегаты навучэнцаў настаўніцкіх семінарый.., якія заклалі Беларускі саюз народных настаўнікаў, высунулі праграму развіцця беларускага нацыянальнага школьніцтва. Але нядоўга ўдалося ім працаваць: аб іх пастановах і працах дазналася расейская паліцыя. Пачаліся арышты, выдаленне з настаўніцкіх семінарый, школ, высылка ў сельскую мясцовасць пад нагляд паліцыі»[54].

Трохі пазней, у тым жа 1906 г., у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага павета на нелегальным настаўніцкім сходзе Мінскай губерні, на якім прысутнічаў таксама і Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч), была зроблена спроба арганізацыі філіяла апазіцыйнага ўраду Усерасійскага настаўніцкага саюзу. Але і яна была сарвана жандарамі. Большасць удзельнікаў гэтай зборкі былі арыштаваны і аддадзены пад суд. На судзе яны заявілі, што хацелі дамагацца выкладання ў школе па–беларуску. Паводле судовага прысуду 3 удзельнікі з’езда былі засуджаны на 3 гады астрога, астатнія — да іншых пакаранняў. Нарэшце, у Вільні ў 1907 г. быў утвораны Беларускі настаўніцкі саюз. Ён паставіў сабе за мэту змаганне за стварэнне беларускіх адукацыйных асяродкаў.

Палітычная сітуацыя ў Расійскай імперыі пасля 1906—1907 гг. з надыходам сталыпінскай палітычнай рэакцыі прымушала нацыянальна–вызвольныя рухі паняволеных народаў Расіі змяніць тактыку дзеянняў, шукаць легальныя формы існавання: змаганне за нацыянальную асвету, тэатр, пашырэнне друкаванага слова ў роднай мове ды г.д. Усё гэта, канешне, не выключала і палітычнай дзейнасці, якая негалосна працягвалася ва ўмовах строгай канспірацыі. Час ад часу незадавальненне царскім рэжы-

[54] А.Н. [А. Луцкевіч]. Змаганне за школу // Гоман (Вільня). — 1916, 18 крас. (№ 19).

мам вылівалася ў палітычныя дэманстрацыі пратэсту ці страйкі. У гэты час збірання сіл вялікую ролю ў развіцці беларускага адраджэнскага руху адыграла газета «Наша Ніва», выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу, Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні.

У пачатку сваёй чыннасці (1906—1912 гг.) «Наша Ніва» была бліжэй да ліберальна–дэмакратычнага кірунку. Яе рэдакцыйную палітыку тады вызначалі браты І. і А. Луцкевічы і А. Уласаў. Пазней, з прыходам у газету Вацлава Ластоўскага, яна патроху мяняе свае фарбы, становіцца на шлях нацыянал–дэмакратызму. У нашаніўскую эпоху беларускі адраджэнскі рух пачынае шырыцца, заваёўваць новыя колы беларускага грамадства, як сярод сялян, так і сярод рамантычна настроенай тутэйшай шляхты і мяшчанства. Пачаўся рух сярод беларускага каталіцкага святарства, якое хацела рабіць сваю ідэалагічную «змычку» з беларускім селянінам. Сімпатызавалі беларускаму руху і некаторыя з тутэйшых абшарнікаў, такіх як Канстанцін Гардзялкоўскі, Раман Скірмунт, Мікалай Радзівіл і ягоная жонка Магдалена, уроджаная Завіша. Змітрок Бядуля, адзін з тагачасных супрацоўнікаў газеты, пазней успамінаў: «Дзіўныя часы былі тады. Беларускія адраджэнцы перажывалі па праўдзе ап'яняючыя мядовыя месяцы. Настрой быў падняты. Опіум нацыяналізму з'яднаў у адну цесную сям'ю беларускага дэмакрата, ксяндза, пана–ліберала, вяльможнага князя і прыхільніка папа (хаця такіх было мала сярод беларускіх адраджэнцаў). Нацыя, якая вынесла на сваіх плячах шматвяковы ціск, народ, якога гісторыя паставіла ў вельмі кепскія варункі паміж молатам і кавадлам дзвюх культур — расійскай і польскай, народ, якога мацнейшыя суседзі хацелі вычаркнуць з кнігі быцця, хапаўся, як утапаючы за саломінку, за кожнага, хто толькі казаў слова па–беларуску. Здаецца, прыйшоў бы сам Вялікі Інквізітар і загаварыў бы на беларускай мове, дык і той быў бы прыняты ў адраджэнскую сям'ю»[55]. З «Нашай Нівай» пачынаюць супрацоўнічаць маладыя таленавітыя аўтары: з'яўляюцца паэты і літаратары Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, публіцысты Сяргей Палуян, Лявон Гмырак і інш.

Галоўнымі асяродкамі нацыянальнага маладзёвага руху ў Беларусі ў той час становяцца ўніверсітэцкія цэнтры Расійскай імперыі, дзе здабывалі вышэйшую адукацыю беларускія студэнты — Санкт–Пецярбург, Масква, Варшава, Юр'еў (Тарту), Кіеў і інш. Найбольш дзейсна праявілі сябе піцерскія суполкі беларусаў–студэнтаў. У 1902 г. у паўночнай расійскай сталіцы па ініцыятыве братоў Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага, Антона Неканды–Трэпкі ды іншых паўстае «Круг беларускай народнай прасветы». «Арганізацыя, — успамінаў А. Луцкевіч, — на першым месцы ў сваёй праграме паставіла: друкаванне беларускіх кніжак і тварэнне беларускай школы для народа». Гурткоўцамі была выдадзена адозва «Да інтэлігенцыі» (па–польску), якая заклікала польскамоўных шляхцюкоў і мяшчан Беларусі — незалежна ад іх культурна–нацыянальнай прыналежнасці — працягнуць руку помачы беларускім масам, каб яны маглі стаць на ўласныя ногі і вызваліцца культурна ад чужынцаў. Грашовы фонд на выдавецкую справу маладыя беларусы збіралі за кошт уласных ахвяраванняў, а таксама ад прыбытку з вечарынаў. На гэтыя грошы студэнцкая суполка набыла друкарскі апарат (цыкластыль), на якім адбіваліся ўсе выданні «Круга беларускай народнай прасветы»: «Koladna Pisanka na 1904 hod», паэтычная кніжка Я. Лучыны «Вязанка», літаратурны зборнік «Wialikodnaja Pisanka». У пошуках грошай на выданне беларускіх кніжак В. Іваноўскі спадзяваўся знайсці падтрымку з боку абшарніцкай інтэлігенцыі Беларусі, у якой бачыў патэнцыяльных прыхільнікаў беларушчыны. Аднак, за выключэннем Магдалены Радзівілавай, астатнія адмовілі даць грошы на нацыянальнае адраджэнне беларускіх «chłopów». Нават тыя заможныя людзі, што прыхільна ставіліся да беларушчыны (А. Ельскі, Э. Вайніловіч ды інш.), адмаўляліся супрацоўнічаць з беларускім

[55] З.Б. [З. Бядуля]. Думкі беларускага адраджэнца // Савецкая Беларусь. — 1923, 10 траўня.

студэнцкім асяродкам у Пецярбургу, не прымаючы сацыялістычных ідэалаў яго кіраўнікоў[56].

У снежні 1912 г., пасля доўгіх бюракратычных узгадненняў, у Пецярбургу была зарэгістравана новая беларуская студэнцкая арганізацыя — «Беларускі навукова–літаратурны гурток студэнтаў Санкт–Пецярбургскага ўніверсітэта». Кіраўніком гуртка студэнты абралі прыват–дацэнта Аляксандра Разенфельда, аўтара фальклорнага зборніка «Беларускія песні» (Пб., 1904), блізкага знаёмага А. Уласава. Але сапраўднай «душой» гуртка, ягоным настаўнікам, які апекаваўся ўсімі справамі беларусаў–студэнтаў, даваў парады, падтрымліваў малазабяспечаных студэнтаў, быў праф. Браніслаў Эпімах–Шыпіла, бібліятэкар Пецярбургскага ўніверсітэта. У сваёй практычнай чыннасці сябры арганізацыі ставілі за мэту тэарэтычную распрацоўку пытанняў гісторыі, культуры і навукі Беларусі, вырашэнне практычных задач нацыянальна–культурнага будаўніцтва: утварэнне бібліятэк–чытальняў, беларускіх школ ды культурна–асветных асяродкаў, пашырэнне беларускага кнігавыдання і перыёдыкі, развіццё нацыянальнага тэатра. «Іх краязнаўства, — пісаў Р. Семашкевіч, — было дзейсным, не замыкалася ў вузкія муры ўніверсітэцкага будынка, а ішло на прасторы жыцця»[57]. Сябры гуртка актыўна распаўсюджвалі беларускую літаратуру, была адкрытая народная бібліятэка ў в. Кленікі Бельскага павета[58]. Закладзеная ў 1906 г. у Пецярбургу былымі беларускімі студэнтамі выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» за 8 гадоў існавання без усялякай дзяржаўнай падтрымкі выдала 38 кніг агульным накладам больш за 100 тысяч асобнікаў.

Каб павялічыць кола прыхільнікаў, сябры гуртка вырашаюць пашырыць сваю чыннасць за межы ўніверсітэта, гуртуючы вакол сябе тамтэйшую беларускую інтэлігенцыю. Ствараецца «Пецярбургскае таварыства студэнтаў–беларусаў», у якім прымаюць чынны ўдзел студэнты–беларусы іншых навучальных устаноў паўночнай расійскай сталіцы, а таксама людзі сталых прафесій — прыхільнікі беларушчыны. У кватэры Эпімах–Шыпілы ладзяцца беларускія вечарыны, на якіх выступаюць з дакладамі Антон Грыневіч, Язэп Драздовіч, чытаюць свае творы Янка Купала, Цішка Гартны. Распавядаючы пра беларускі студэнцкі рух у Пецярбургу на пачатку XX ст., нельга забыць пра самаахвярную працу на ніве беларушчыны выдатнай беларускай паэткі Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Падчас студыяў у 1902—1904 гг. на Вышэйшых жаночых курсах праф. Пятра Лесгафта яна вядзе агітацыю па нацыянальныму ўсведамленню курсістак — ураджэнак Беларусі. Дзякуючы яе намаганням пры курсах быў створаны нацыянальны жаночы гурток[59].

У самой Беларусі беларуская нацыянальная праца вядзецца больш актыўна ў заходнебеларускім рэгіёне — на Віленшчыне, Гарадзеншчыне, у заходніх і цэнтральных паветах Міншчыны. Польскі грамадскі дзеяч Лявон Васілеўскі якраз адзначаў напярэдадні Першай сусветнай вайны, што перавага развіцця беларускага нацыянальнага руху ў «каталіцкай Белай Русі адразу кідаецца ў вочы»[60]. Беларускі культурны рух мацней развіваецца там, дзе захаваліся дэмакратычныя традыцыі, дзе быў моц-

[56]Ляхоўскі У. З гісторыі беларускага маладзёвага руху (другая палова XIX — першая палова XX ст.) // Супольнасць. Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацый. — 1998. — Вып. 5—6 (7—8). — С. 36—37.

[57] Цытуецца паводле: Ляхоўскі У. З гісторыі беларускага маладзёвага руху… // Супольнасць. Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацый. — 1999. — Вып. 2 (10). — С. 14.

[58] Ляхоўскі У. З гісторыі беларускага маладзёвага руху… // Супольнасць. Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацый. — 1999. — Вып. 2 (10). — С. 15—16.

[59] Ляхоўскі У. Беларускі жаночы рух у першай палове XX ст. // Супольнасць. Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацый. — 1998. — Вып. 1—2 (3—4). — С. 26—27.

[60] Wasilewski L. Litwa i Białoruś. Przeszłość — teraźniejszość — tendencje rozwojowe. — Kraków: Spółka nakładowa «Książka», 1912. — S. 281.

ны ўплыў касцёла. І гэта нягледзячы на актыўнасць у гэтых рэгіёнах польскіх «крэсовых» гурткоў і таварыстваў. Шмат хто з вядомых беларускіх нацыянальных дзеячаў пачыналі сваю грамадскую дзейнасць у польскіх нацыянальных арганізацыях. Узгадаем хаця б такіх выбітных асоб у гісторыі беларускага адраджэння, як Вацлаў Ластоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Клаўдзій Дуж–Душэўскі, Станіслаў Любіч–Маеўскі ды інш. Пасля 1907 г. моцныя беларускія вучнёўскія гурткі дзейнічаюць у Горадні, Вільні, Свіслачы, Маладзечна і іншых месцах.

На памежжы XIX—XX стст. губернскія і павятовыя гарады Усходняй Беларусі (Мінск, Магілёў, Віцебск, Полацк, Гомель, Орша ды інш.) па аб'ектыўных прычынах не маглі стаць апорай беларускага нацыянальна–культурнага адраджэння. За доўгі перыяд панавання паліцэйскага рэжыму, усталяванага яшчэ з часоў задушэння антырасійскага паўстання 1863—1864 гг., моцныя пазіцыі тут займалі русіфікатарскія ды чарнасоценныя арганізацыі, якія фінансава і маральна падтрымліваліся цэнтральнай і губернскімі расійскімі ўладамі. Галоўнымі асяродкамі нацыянальна–культурнай працы тут заставаліся настаўніцкія інстытуты і семінарыі, а таксама іншыя сярэднія навучальныя ўстановы.

Практычныя вынікі чыннасці беларускіх нацыянальных дзеячаў на школьнай ніве былі вельмі сціплымі, у параўнанні, напрыклад, з габрэйскай, польскай і нават літоўскай асветай. Намаганнямі Якуба Коласа, Цёткі (А. Пашкевіч), В. Ластоўскага ствараюцца першыя школьныя падручнікі («чытанкі»), шэраг каталіцкіх школьных малітоўнікаў і іншая літаратура духоўнага зместу. Дзякуючы пачыну братоў А. і І. Луцкевічаў, Якуба Коласа, Цёткі і Уладзіславы Станкевіч (будучай жонкі Янкі Купалы), а таксама мецэнацтву мясцовых абшарнікаў, прыхільных да беларушчыны, Канстанціна Гардзялкоўскага і княгіні М. Радзівілавай, у Віленскім і Лідскім паветах Віленскай губерні, Ігуменскім павеце Мінскай губерні, Сенненскім павеце Магілёўскай губерні ў розны час (1906—1911 гг.) дзейнічала больш за 10 таемных беларускіх пачатковых школак.

Першая беларуская школа была створана Я. Коласам зімой 1906 г. у леснічоўцы Смалярня Ігуменскага павета. У 1908 г. пры фінансавай падтрымцы абшарніка К. Гардзялкоўскага беларуская школа ўзнікла ў в. Сані Сенненскага павета Магілёўскай губерні, у якой таксама настаўнікам працаваў Якуб Колас. Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», у 1908 г. расійскімі ўладамі былі скасаваны 4 «таемныя» беларускія школы на Лідчыне: у вёсках Фальковічы, Мінайты, Пяскі і Заборцы Ганчарскай воласці, а таксама 2 школы ў вёсках Нецеч і Чапліцы Беліцкай воласці. У 1911 г. намаганнямі Цёткі і У. Станкевіч–Луцэвіч было створана некалькі школ у Лідскім павеце і Нова–Вільні. Праўда, усе яны ў хуткім часе былі выкрыты і зачынены царскімі ўладамі[61].

Будзем аб'ектыўнымі, пачынанні малалікай беларускай нацыянальнай эліты ў арганізацыі нацыянальнага школьніцтва тады не знайшлі масавай падтрымкі ў жыхарства. Але мы можам канстатаваць, што напярэдадні Першай сусветнай вайны нацыянальнае ўсведамленне прадстаўнікоў інтэлектуальнай працы, выхадцаў з беларускіх вёсак і мястэчак ішло даволі шпарка. Праз беларускую перыёдыку, праз друкаванае слова на беларускай мове, праз удзел у вучнёўскіх і студэнцкіх арганізацыях сталела беларуская нацыянальная эліта. У першую чаргу маладая генерацыя беларусаў пачынала, нарэшце, усведамляць сябе прыналежнымі да Беларусі. Прадстаўнікі розных канфесій, працуючы на ніве беларушчыны, адчулі, што яны — адзіны народ, а не «расійцы» ці «палякі».

---

[61] Калодка І. [Вёска] Цацкі Беліцкай вол. Лідскага пав. // Наша ніва. — 1908, 31 ліп. (Факсімільнае выданне. — Вып. 1. — Мінск: Тэхналогія, 1992. — С. 6—7); Колас Я. Аўтабіяграфія // Калоссе. — 1936. — № 5. — С. 282; Снапкоўская С.В. Гісторыя адукацыі і педагагічнай думкі Беларусі (60–я гады XIX ст. — пачатак XX ст.). — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2001. — С. 119: Тычына М. Колас Якуб // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 1997. — Т. 4. — С. 225—227.

## 1.3. Нацыянальная асвета «нярускіх» этнічных супольнасцяў у Беларусі ў пачатку ХХ ст.

Курс на дэпаланізацыю «Паўночна–Заходняга краю», які праводзіўся расійскім урадам з другой паловы XIX ст., забяспечваў дамінаванне на беларускіх землях еўразійскага (расійскага) вектара цывілізацыйнага развіцця напярэдадні Першай сусветнай вайны. Але, нягледзячы на значнае пашырэнне і ўмацаванне расійскай культуры і асветы, расійска–польскі канфлікт у Беларусі ў пачатку ХХ ст. быў яшчэ далёкі ад свайго вырашэння.

Рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг. прымусілі царскі ўрад аслабіць антыпольскі кірунак у сваёй палітыцы. Паводле Указа Мікалая II ад 1 кастрычніка 1905 г. было дазволена выкладанне Закону Божага па–польску ў «заходнерускіх» губернях для дзяцей палякаў. 24 жніўня 1906 г. быў скасаваны ранейшы Указ Аляксандра III 1892 г., які вызначаў жорсткае пакаранне за адкрыццё таемных польскіх школ[62]. У 1905 г. было створана польскае асветніцкае таварыства «Польска Мацеж Школьна», якое адыграла вялікую ролю ў пашырэнні польскай школьнай асветы. У гэты час ствараюцца новыя польскія крэсовыя культурніцкія арганізацыі, маладзёвыя гурткі вучнёўскай і студэнцкай моладзі. Але ў той жа час, як і раней, працягвалі дзейнічаць многія іншыя палітычныя і адміністрацыйныя абмежаванні ў дачыненні да польскага школьніцтва і каталіцкага касцёла. У паслярэвалюцыйны час (1907—1914 гг.) былі скасаваны многія ранейшыя паслабленні, якія тычыліся правоў нацыянальных меншасцяў імперыі. Былі, прынамсі, перагледжаны прававыя палажэнні аб выкладанні Закону Божага, якімі забаранялася выкладаць яго па–польску дзецям беларусаў–каталікоў. Такім чынам расійскія ўлады імкнуліся спыніць далейшую паланізацыю беларусаў, акрэсліць своеасаблівую мяжу паміж Царствам Польскім і «заходнерускімі» губернямі, каб адсекчы ад польскага канфесійна–культурнага ўплыву беларускія і літоўскія этнічныя тэрыторыі.

У перадваенныя гады сярод асобных прадстаўнікоў польскай, беларускай і літоўскай інтэлектуальнай эліты была папулярнай ідэя стварэння міжнацыянальнай федэрацыі ці канфедэрацыі на землях колішняга Вялікага Княства Літоўскага, у рамках якой кожная з мясцовых нацыянальнасцяў мела б роўныя правы ў сферы палітычнага і грамадска–культурнага жыцця. Гэтая ідэя была асноўным звяном палітычнай праграмы «краёвага» грамадскага руху, удзельнікі якога натхняліся самабытнай духоўнай спадчынай былога ВКЛ[63].

Але адзінства ў стане «краёўцаў» ніколі не было. Кожная нацыянальная група выкарыстоўвала гэтую ідэю ў сваіх тактычных раскладах. Польскія «краёўцы» імкнуліся такім чынам сфармаваць палітычную супольнасць на польскім культурным грунце, каб новае ўтварэнне было шчыльна звязана з этнічнай Польшчай і спрыяла хутчэйшай інтэграцыі беларуска–літоўскіх зямель у аднаўленую Рэч Паспалітую. Асобныя літоўскія палітыкі праз «краёвую ідэю» імкнуліся забяспечыць за Літвой права на Вільню — старажытную сталіцу ВКЛ. Свае інтарэсы мелі і беларускія «краёўцы».

Галоўны ідэолаг беларускіх «краёўцаў» А. Луцкевіч лічыў, што беларускаму руху з–за сваёй палітычнай і арганізацыйнай слабасці цяжка будзе ўласнымі сіламі рэалізаваць сваю галоўную мэту — дасягненне незалежнасці Беларусі. Лягчэй, на яго думку, гэта будзе зрабіць праз беларуска–літоўскую аўтаномію: «Дадзенае заданне [палітычная не-

[62] Romanowski A. Pozytywizm na Litwie. Polskie życie kulturalne na ziemiach litewsko–białorusko–inflanckich w latach 1964—1904. — Kraków: Universitas, 2003. — S. 289—292.

[63] Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях.., с. 8.

залежнасць. — *У. Л.*] патрабуе *высокага развіцця нацыянальнага самаўсведамлення* [выдзелена А. Луцкевічам]. Гэтае пытанне далёкай будучыні. Але сёння, у імя свабоднага развіцця, у імя прадстаўлення беларусам магчымасці стаць нацыяй, неабходна дабіцца неабходных умоў. Гэтыя ўмовы — шырокае краёвае самакіраванне». Першачарговым крокам у гэтым напрамку павінна стаць дасягненне беларуска–літоўскай аўтаноміі ў складзе Расіі. А. Луцкевіч меркаваў, што гэта можа стаць рэальнасцю толькі ў выпадку, калі Расія стане рэспублікай і ў краіне ўсталюецца дэмакратычны лад.

Беларуска–літоўскае палітычнае аб'яднанне, лічыў А. Луцкевіч, выгадна Беларусі па шэрагу прычын. Па–першае, Літва і Беларусь знаходзяцца прыкладна на аднолькавых стартавых пазіцыях. Таму літоўскі нацыяналізм не зможа дамінаваць над беларускім. Па–другое, беларуска–літоўская федэрацыя захавае традыцыйныя эканамічныя сувязі паміж двума блізкімі народамі. Гэта ж дасць беларусам выхад да Балтыйскага мора. Па–трэцяе, што таксама немалаважна, беларуска–літоўскі хаўрус дазволіць беларусам захаваць свой галоўны культурны, гістарычны і эканамічны цэнтр — Вільню. «Новы культурны цэнтр, — пісаў ён у сваіх нататках за 1912 г., — немагчыма «ствараць» у перыяды, калі толькі яшчэ *фармуюцца «культурныя пласты»* ў беларускім народзе. Нацыянальная прыналежнасць Вільні і Віленскага краю далёка яшчэ не вырашана. *«Няпэўная паласа»* можа крышталізавацца ў любы бок. Таксама і Вільня і яго жыхарства. На якой падставе «прыпісваць» яе да Літвы?» Вільня, на думку А. Луцкевіча, павінна аб'ядноўваць беларусаў і літоўцаў, а не станавіцца падставай да ўзаемных тэрытарыяльных прэтэнзій.

У будучым А. Луцкевіч не адвяргаў стварэнне самастойных дзяржаў — Беларусі і Літвы: «Патрабаванні аўтаноміі для ўсяго беларуска–літоўскага краю — палітычны крок, а не здзяйсненне [галоўнай] праграмы. У аўтаномным краі — месца, дзе вырашаюцца пытанні аб далейшым існаванні — асобным ці сумесным»[64]. Аднаўленне Рэчы Паспалітай А. Луцкевіч дапускаў, але ў аддаленай перспектыве і толькі на грунце раўнапраўнасці.

Але спадзяванні «краёўцаў» на правядзенне раўнапраўнага міжнацыянальнага дыялога разбіваліся ў першую чаргу аб ваяўнічы нацыяналізм большай часткі польскай крэсовай эліты. Вядомы дзеяч польскага руху Л. Васілеўскі разглядаў беларусаў як «бясформенную этнаграфічную масу», а беларускі нацыянальны рух — як з'яву, якая на дадзеным этапе не мае сур'ёзнага палітычнага значэння[65]. Абсалютная большасць польскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў звязвалі вырашэнне палітычнага лёсу краю з апорай на мясцовы польскі элемент.

Расійска–польскае супрацьстаянне адбілася на развіцці школьнай справы ў заходняй частцы Беларусі. У параўнанні з усходнімі беларускімі губернямі тэмпы росту казённых расійскамоўных школ тут былі ніжэйшымі. Калі, напрыклад, у Віленскай губерні на 1 школу, паводле Усерасійскага аднадзённага школьнага перапісу 18 студзеня 1911 г., прыходзілася 1750 жыхароў, то ў Мінскай губерні гэты паказчык складаў 1375 жыхароў, а ў Магілёўскай — 1085[66]. Тая ж тэндэнцыя назіралася і ў працэнтных суадносінах колькасці навучэнцаў казённых пачатковых школ да агульнай колькасці жыхароў: на Віленшчыне, а таксама ў Сакольскім і Беластоцкім паветах Гарадзенскай губерні яны ледзь перавышалі 3%, у той час як на Міншчыне гэты паказнік складаў 4,1%, на Магілёўшчыне — 5,6%. Калі ж паглядзець на ўзровень адукаванасці насельніцтва, то вынікі гэтага з першага погляду акажуцца нечаканымі: доля пісьменных у Віленскай губерні, паводле Усерасійскага перапісу 1897 г., складала 33,9%, у Гарадзенскай — 31,5%, у Мінскай — 22,7%, Магілёўскай — 21,8%[67].

[64] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ), ф. 325, воп. 1, спр. 22, арк. 12—13.
[65] Wasilewski L. Białoruś i ruch białoruski // Przegląd Współczesny. — 1924. — № 26. — S. 386—396.
[66] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 80, арк. 72—75.
[67] Улащик Н.Н. Грамотность в дореволюционной Белоруссии // История СССР. — 1971. — № 1. — С. 109.

Гэты «парадокс» можна растлумачыць наступным чынам. Многія жыхары заходніх рэгіёнаў Беларусі, пераважна каталіцкага веравызнання, атрымлівалі першасную адукацыю не ў расійскамоўных казённых навучальных установах, а ў таемных польскамоўных школах. Сярод каталіцкага насельніцтва краю было шырока распаўсюджана таксама хатняе польскамоўнае навучанне. У дадзеным рэгіёне традыцыйна былі моцныя пазіцыі касцёла — галоўнай апоры «пальшчызны». Пад уплывам мясцовых ксяндзоў палякі і беларусы–каталікі адмаўляліся аддаваць сваіх дзяцей у расійскамоўныя школы. Дзякуючы чыннасці польскіх таемных гурткоў самаадукацыі на тэрыторыі Беларусі ў пачатку XX ст. дзейнічалі не меней 500 такіх таемных адукацыйных асяродкаў, дзе, па розных ацэнках, навучаліся ад 2,5 да 10 тысяч мясцовых дзяцей. Паводле сцвярджэння гісторыка Лешэка Заштаўта, па колькасных паказчыках нелегальнае польскае школьніцтва на Віленшчыне і Гарадзеншчыне не саступала расійскамоўнай казённай школе, а па свайму ідэалагічнаму ўплыву мела перавагу[68].

У 1904 г. літоўскае грамадства дамаглося адмены старых расійскіх загадаў за 17 чэрвеня 1864 г. і 18 верасня 1865 г., якія забаранялі друкаваць лацінкай літоўскую літаратуру, уключаючы і касцёльныя малітоўнікі, і прадпісвалі выдаваць літоўскія кнігі толькі «рускімі літарамі» (кірыліцай). Трэба сказаць, што гэта не спыніла распаўсюджванне літоўскага незалежніцкага друку традыцыйным лацінскім шрыфтам на тэрыторыі расійскай Літвы. У адрозненне ад беларусаў літоўскі нацыянальны рух меў свой «П'емонт» — т.зв. «Малую Літву», якая ўваходзіла ў склад Нямеччыны. Друкаванне літоўскай літаратуры лацінскім і гатычным шрыфтам наладзілі ў Тыльзіце, Каралеўцы (Кёнігсбергу), Шылуце, Маўдэродзе ды ў іншых месцах. З 1874 г. кнігі па–літоўску сталі друкавацца літоўскай дыяспарай у ЗША, а потым нелегальна завозіцца ў Расію. Праз нямецка–расійскі кардон нелегальная літоўская літаратура траплялa на Ковеншчыну, Сувалшчыну і Віленшчыну дзякуючы чыннасці добраахвотных «кнiганошаў»–кантрабандыстаў. Калі за 40 гадоў (1864—1904) расійскімі казёнными «літоўскімі» выдавецтвамі былі выпушчаны 63 друкаваныя выданні кірыліцай, то за той жа перыяд літоўскія незалежныя друкарні «Малой Літвы» і Паўночнай Амерыкі надрукавалі 3953 выданні, палова з якіх была прадназначана для расійскай Літвы[69]. Акрамя палітычнай літаратуры, кніг духоўнага зместу, значная доля гэтай літаратуры прыходзілася на школьныя падручнікі і лемантары, патрэбныя для таемных літоўскіх школак, якія дзейнічалі пераважна ў сельскай мясцовасці: пры касцёлах, у аддаленых хутарах і вёсках.

Істотны рост літоўскіх школ і культурна–асветных гурткоў у Ковенскай і Сувалкскай губернях, які назіраўся пасля 1905 г., не прывёў да тых жа вынікаў у Віленскай губерні, у зоне літоўска–беларускага этнакультурнага памежжа. Пад уздзеяннем ксяндзоў–паланізатараў мясцоваму літоўскаму і беларускаму насельніцтву насаджалася польская мова. Пад моцным уплывам польскіх клерыкалаў знаходзіліся каталіцкія духоўныя семінарыі ў Вільні, Коўне і Сейнах. Але ў той жа час менавіта літоўскія каталіцкія святары ў межах Віленскай рымска–каталіцкай дыяцэзіі першымі распачалі ўпартае і працяглае змаганне за раўнапраўе літоўскай мовы ў касцёльным жыцці і за стварэнне першых літоўскіх школ.

24 снежня 1901 г. у Вільні была ўтворана першая літоўская каталіцкая парафія пры касцёле св. Мікалая, якая стала цэнтрам літоўскага нацыянальна–культурнага руху на Віленшчыне. У першыя гады свайго існавання тут месцілася сядзіба Літоўскага навуковага таварыства, а ў 1913 г. было створана каталіцкае культурна–асветнае тава-

[68] Romanowski A. Pozytywizm na Litwie.., s. 296.

[69] Борьба литовского народа за свободу печати в 1864—1904 гг. — Вильнюс: Литовский национальный музей, 2004. — С. 26.

рыства «Рытас» («Раніца»). Апошняе мела дачыненне да стварэння ў горадзе першай літоўскай пачатковай школы[70].

Узровень адукаванасці габрэяў Беларусі быў вышэйшы, чым у беларусаў[71]. Пісьменнымі сярод габрэяў было 49% сярод мужчын і 28,2% сярод кабет[72]. Паводле ўзгаданага ўжо перапісу, у 1897 г. 98% габрэяў Расіі называлі сваёй роднай мовай ідыш, 1,3% (67 тыс.) — расійскую, беларускую або ўкраінскую, 47 тыс. (0,9%) — польскую, 22,8 тыс. (0,4%) — нямецкую. Толькі 30,5% габрэяў у межах рысы аселасці ўмелі чытаць па–расійску[73]. Гэта сведчыла аб тым, што, нягледзячы на асіміляцыйныя працэсы, якія адбываліся ў Беларусі ў XIX—XX стст., мясцовае габрэйскае жыхарства захоўвала сваю нацыянальна–рэлігійную ідэнтычнасць.

Традыцыйныя іўдзейскія рэлігійныя школы ў пачатку XX ст. яшчэ заставаліся дамінуючымі навучальна–выхаваўчымі ўстановамі для габрэяў Расійскай імперыі. На 1 студзеня 1915 г. у беларускіх губернях дзейнічалі 2068 хедэраў, 25 талмуд–тораў, 2 іешывы[74]. Большасць габрэйскіх традыцыйных школ месцілася ў гарадах і мястэчках.

Утвораныя царскім урадам яшчэ ў XIX ст. казённыя габрэйскія вучэльні мелі на мэце выхаванне габрэйскіх дзяцей «у расійскім духу, за іх жа [габрэяў. — *У. Л.*] грошы на расійскай мове», каб далучаць апошніх «да агульнай расійскай культуры, не змешваючы з хрысціянамі»[75]. Гэтыя школы наведвалі галоўным чынам дзеці найбяднейшых пластоў габрэйскага грамадства. На пачатак 1915 г. у Беларусі мелася 189 казённых габрэйскіх пачатковых школ (у тым ліку 77 двухкласавых), у якіх навучаліся 20,8 тыс. школьнікаў (13,5 тыс. хлопчыкаў і 7,3 тыс. дзяўчынак)[76].

У канцы XIX — пачатку XX стст. традыцыйная іўдзейская рэлігійная адукацыя перажывала відавочны крызіс з–за сваёй архаічнасці і кансерватыўнасці. Гэта разумелі ўжо не толькі прыхільнікі Гаскалы (габрэйскага свецкага асветніцтва ў кантэксце еўрапейскай культурнай традыцыі), але і многія кіраўнікі іўдзейскіх рэлігійных абшчын. Сярод габрэяў пашыралася тэндэнцыя аддаваць сваіх дзяцей у расійскамоўныя сярэднія навучальныя ўстановы. Добрае веданне расійскай мовы патрэбна было для паспяховага развіцця гандлю і прадпрымальніцтва. Калі доля габрэйскіх дзяцей у агульных пачатковых расійскамоўных школах не перавышала 1%, то ў казённых гімназіях гэтыя паказнікі дасягалі больш за 16%, а ў рэальных вучэльнях — больш за 14%. Увядзенне ўрадам працэнтных квотаў, якія абмяжоўвалі колькасць габрэйскіх навучэнцаў у казённых сярэдніх школах, прымушала заможных габрэяў ствараць свае прыватныя сярэднія навучальныя ўстановы. У 1914 г. у беларускіх губернях дзейнічала 151 прыватная гімназія, прагімназія і пачатковая школа павышанага тыпу, якія былі створаны габрэйскімі мецэнатамі. У іх навучалася 17 858 школьнікаў (12 319 дзяўчат і

---

[70] Беларус–каталік. Памятны дзень. (Да 15–летняга юбілею 1–ай літоўскай парафіі ў Вільні) // Гоман. — 1916, 25 снежня.

[71] Сярод беларусаў, паводле Усерасійскага перапісу 1897 г., пісьменнымі былі 26,4% мужчын і 15,2% кабет. Але гэта былі заніжаныя дадзеныя. Справа ў тым, што, паводле расійскай методыкі, працэнт пісьменных вызначалі ад агульнай колькасці насельніцтва, уключаючы немаўлят і 6—9 гадовых дзяцей. Паводле заходнееўрапейскай методыкі, пры падліку людзей, якія ўмеюць пісаць і чытаць, не лічыліся дзеці да 10–гадовага ўзросту.

[72] Іофэ Э. Яўрэі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 310.

[73] Главы из истории и культуры евреев Восточной Европы. — Тель–Авив: Открытый университет, 1995. — Ч. 5—6. — С. 273—274.

[74] Л–н М. [Левин М.]. Евреи в учебных заведениях Виленского учебного округа // Вестник еврейского просвещения. — 1915. — № 29. — С. 26.

[75] Евреи Гродно. Очерки истории и культуры. — Гродно: Бел. гос. музей истории религии; ОО «Гродненский еврейский общественный дом «Менора», 2000. — С. 34.

[76] Л–н М. [Левин М.]. Евреи в учебных заведениях Виленского учебного округа.., с. 25.

5539 хлопцаў)[77]. Цікава, што са 104 прыватных і грамадскіх «паўнавартасных» сярэдніх навучальных устаноў Міністэрства народнай асветы[78], якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, 34 (32%) з'яўляліся габрэйскімі ці былі ўтвораны фундатарамі габрэямі[79].

Габрэйскія свецкія прыватныя навучальныя ўстановы ў Расіі дзейнічалі ў рамках зацверджаных урадам праграм, выкладанне ў іх вялося па–расійску, акрамя іўдзейскай рэлігіі. Расійскія ўлады ўсяляк падтрымлівалі падобную тэндэнцыю і садзейнічалі пашырэнню расійскамоўнай асветы сярод габрэяў за кошт габрэйскага мецэнацтва. Выпускнікі–габрэі расійскамоўных сярэдніх школ імкнуліся працягнуць далей сваю адукацыю ў расійскіх універсітэтах і інстытутах, але гэтаму перашкаджалі ўрадавыя абмежаванні (працэнтная квота паступлення габрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы імперыі). З–за гэтага дыскрымінацыйнага палажэння найбольш заможныя прадстаўнікі расійскага габрэйства ехалі вучыцца за мяжу.

Пашырэнне свецкай адукацыі сярод габрэяў аб'ектыўна спрыяла павышэнню ўзроўню іх адукаванасці, пазбаўляла штучнай культурнай ізаляванасці ад іншых народаў, спрыяла наладжванню кантактаў з мясцовымі нацыянальнымі культурамі, уцягвала габрэйскую нацыянальную эліту ў актыўнае грамадска–палітычнае жыццё краіны. Але разам з тым гэта несла рэальную пагрозу паступовай дэнацыяналізацыі, размывання габрэйскіх нацыянальных традыцый і культуры. Асабліва гэта было адчувальна ў буйных гарадах. Габрэйскі культурны і палітычны дзеяч Шымон Дубноў з сумам канстатаваў, што многія адукаваныя расійскія габрэі настолькі абруселі, што «адракліся ад інтарэсаў свайго народа»[80].

Небяспеку знікнуць у чужым асяроддзі добра ўсведамляла габрэйская інтэлектуальная эліта. Перад ёй паўстала задача нацыянальнай кансалідацыі і згуртавання габрэяў перад відавочнай пагрозай асіміляцыі, дзеля захавання сябе як народа. Новыя палітычныя плыні, якія ўтварыліся сярод расійскага і сусветнага габрэйства ў канцы XIX — пачатку XX ст., прапаноўвалі розныя падыходы і прынцыпы дзеля вырашэння гэтай задачы.

Узніклыя ў гэты час у Расіі featнага кірунку сіяніcцкія арганізацыі выступалі за шырокае развіццё асветы на іўрыце, падкрэслівалі, што «ідышызацыя» габрэйскай культуры ва ўмовах дыяспары рана ці позна асудзіць габрэйства на дэнацыяналізацыю. Іх апаненты — прыхільнікі Бунда (Усеагульнага габрэйскага работніцкага хаўрусу Расіі, Польшчы і Літвы), якія дабіваліся грамадзянскага і палітычнага раўнапраўя габрэяў у Расійскай імперыі ў форме нацыянальна–культурнай аўтаноміі з наданнем свайму народу шырокага самакіравання ў сферы мясцовай гаспадаркі, культуры і асветы, лічылі нерэальнай і нават шкоднай (класава варожай, выгаднай толькі буржуазіі) ідэю мадэрнізацыі і ўвядзенне ў сферу свецкага грамадскага жыцця старажытнай габрэйскай мовы (іўрыта). Яны выступалі за свецкую адукацыю для габрэйскіх мас на ідыш, за адмену выкладання ў школах рэлігіі. Кампрамісную пазіцыю паміж «габраістамі» і «ідышыстамі» займалі т.зв. «фалькісты» (прыхільнікі Габрэйскай народнай партыі), якія моцна ўплывалі на чыннасць Таварыства распаўсюджвання асветы сярод габрэяў у Расіі (ЕПО).

Некаторыя габрэйскія «артадоксы» — прыхільнікі рэфармавання традыцыйнай асветы і ўвядзення ў навучанне ў рэлігійных школах свецкіх прадметаў — імкнуліся мадэрнізаваць старыя хедэры і іешывы. Разам з іўрытам і рэлігіяй у «новых хедэ-

[77] Л–н М. [Левин М.]. Евреи в учебных заведениях Виленского учебного округа.., с. 26—29.

[78] Выпускнікі такіх гімназій мелі права бесперашкодна паступаць у расійскія вышэйшыя навучальныя ўстановы.

[79] Разлікі зроблены аўтарам паводле дадзеных «Памятной книжки Виленского учебного округа на 1915 год» (Вильно, 1915).

[80] Дубнов С.М. Новейшая история еврейского народа. — Рига: «Dzive un Kultūra», 1928. — С. 156—157.

рах» выкладаліся арыфметыка, гісторыя, геаграфія, расійская мова ды інш. У Мінску першая такая школа — «хедэр метукан» — узнікла ў 1900 г.[81]. У Горадні на пачатку XX ст. ужо дзейнічалі 3 «новыя хедэры»[82]. У гэты ж час у Магілёве сіяніcцкае таварыства «Іўрыя» адкрыла ўласную вучэльню, у якой, разам з агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі, што выкладаліся па–расійску, значная ўвага надавалася іўрыту[83]. У Лідзе ў 1905 г. намаганнямі рабіна Іцхака Рэйнеса пры мецэнацтве Давіда Гінцбурга была створана «новая іешыва», у якой, акрамя вывучэння Торы, Святога Пісання і старажытнай духоўнай іўдзейскай літаратуры, былі ўведзены агульнаадукацыйныя прадметы[84].

Вялікую ўвагу прыхільнікі Гаскалы надавалі падрыхтоўцы настаўнікаў для габрэйскіх школ, развіццю пазашкольнай і прафесійнай адукацыі, асвеце кабет і дарослых. Створаная пры ЕПО камісія па пачатковай габрэйскай адукацыі праводзіла інспекцыі хедэраў і прыватных габрэйскіх школ, падтрымлівала іх матэрыяльна, забяспечвала падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі. З дапамогай міжнародных сіяніcцкіх арганізацый Пецярбургскі аддзел ЕПО арганізаваў у 1909 г. у Горадні першыя ў Расіі 2–гадовыя педагагічныя курсы для падрыхтоўкі габрэйскіх настаўнікаў, якія да 1913 г. скончылі звыш 200 чал.[85]. У Вільні таварыства адкрыла ўласную габрэйскую пачатковую школу. Шмат увагі габрэйскія культурніцкія арганізацыі надавалі выданню габрэйскай мастацкай і навуковай літаратуры, а таксама закладанню грамадскіх бібліятэк у гарадах і мястэчках краю. У пачатку XX ст. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі каля 40 габрэйскіх навучальных устаноў рамесніцкай адукацыі рознага тыпу[86].

У гэты ж час прыхільнікі Бунда таксама імкнуліся ствараць свае свецкія адукацыйныя ўстановы з выкладаннем навукі на ідыш. Шмат такіх школ у Беларусі паўстала падчас рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг. У гады палітычнай рэакцыі рэштка гэтых школ працягвала дзейнічаць нелегальна, нягледзячы на жорсткі паліцэйскі пераслед. Так, напрыклад, паводле звестак газеты «Савецкая Беларусь» за 1923 г., у 1911 г. у Слуцку прыхільнікі Бунда на чале з настаўнікам Мойшам Магілянскім утварылі таемную пачатковую школу з выкладаннем на ідыш. Заняткі ў ёй праводзіліся на прыватных кватэрах, а праца настаўніка аплочвалася за кошт мясцовай бундаўскай арганізацыі. Гэты адукацыйны асяродак праіснаваў да пачатку Першай сусветнай вайны і быў зліквідаваны жандарамі ў 1914 г.[87]. Трэба сказаць, што расійская ўлада, непрымірымая да габрэйскіх левых радыкалаў, у гэты час даволі лаяльна ставілася да культурна–асветнай працы правых сіяністаў. Іх чыннасць успрымалася царызмам меншым злом.

Можна канстатаваць, што напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі была значна пашырана сетка элементарных школ, а таксама сярэдніх навучальных устаноў; заўважную ролю ў школьным жыцці краю сталі адыгрываць органы мясцовага самакіравання і прыватнае мецэнацтва. Але адсутнасць вышэйшай школы «вымывала» з краю таленавітую моладзь, замаруджвала стварэнне ў Беларусі навукова–культурных асяродкаў і фармаванне нацыянальнай эліты. Дэмакратычныя працэсы ў краіне ў па-

---

[81] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 112.

[82] Евреи Гродно. Очерки истории и культуры.., с. 60.

[83] Соболевская О. Страницы жизни еврейской общины Могилева в XIX — начале XX века // Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва. Зб. навук. прац канф. — Магілёў: УПНП «Магілёўская абл. узб. друкарня», 2001. — С. 165.

[84] Мельцэр В. Ешыбот // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 1996. — Т. 3. — С. 359.

[85] Евреи Гродно. Очерки истории и культуры.., с. 57—58.

[86] Баранава А. Прафесійная адукацыя яўрэяў у канцы XIX — пачатку XX ст. // Нацыянальныя меншасці Беларусі. — Бярэсце—Мінск—Віцебск, 1996. — Кн. 2. — С. 33.

[87] Настаўнік М.В. Магілянскі // Савецкая Беларусь. — 1923, 6 траўня.

чатку XX ст. закранулі таксама і сферу адукацыі, што садзейнічала ўзмацненню грамадскага ўплыву на школьную справу, спрыяла развіццю нацыянальнай асветы «нярускіх» этнічных супольнасцяў. Фактычная адсутнасць у даваенным часе беларускамоўных навучальных устаноў сведчыла пра слабасць нацыянальнага самаўсведамлення беларускага насельніцтва і малалікасць нацыянальнай інтэлектуальнай эліты. Гэтаму перашкаджала русіфікатарская палітыка царскага ўрада.

## 1.4. Лёс расійскіх адукацыйных устаноў у прыфрантавой зоне на тэрыторыі Беларусі. Змены ў школьнай палітыцы Расіі падчас вайны і рэвалюцыйных падзей 1917 г.

Пачатак Першай сусветнай вайны прынёс значныя змены ў школьнае жыццё Расіі і Беларускага краю, у прыватнасці. З пачатку 1915 г. зменшылася фінансаванне адукацыі, былі перагледжаны ў бок скарачэння планы па пашырэнню школьнай сеткі, так і не былі дабудаваны дзясяткі школьных будынкаў, менш сталі выдаткоўваць грошай на выданне школьных падручнікаў. Разам з тым маніфест Мікалая II пра абвяшчэнне вайны Нямеччыне і Аўстра–Вугоршчыне выклікаў у Расіі вялікі ўсплёск вялікадзяржаўнага шавінізму. Вайна была названа ў тагачаснай расійскай прэсе «Вялікай айчыннай вайной», «вайной Святой Русі ў абарону праваслаўнай веры ад пратэстантызму і каталіцызму». І толькі адзінкі разумелі, што імперыя Раманавых не падрыхтавана да працяглай ваеннай кампаніі, што гэта можа прывесці да непапраўных сацыяльна–эканамічных і палітычных наступстваў. Антынямецкія і антыаўстрыйскія настроі абуялі таксама і моладзь. У жнівеньска–вераснёўскія дні 1914 г. у многіх гарадах імперыі прайшлі масавыя маніфестацыі ў падтрымку расійскага імператара і «рускага праваслаўнага воінства». У гэтых акцыях узялі актыўны ўдзел сотні і тысячы выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў сярэдніх і пачатковых школ.

Але хутка грамадскія настроі змяніліся пад уплывам няўдач расійскага войска на франтах. Вельмі цяжкае ўражанне на грамадства зрабіла «вялікае адступленне» расійскага войска ў лета–восень 1915 г., калі былі пакінутыя праціўніку расійская частка Польшчы, Літва, частка Латвіі, Валынь, заходняя частка Беларусі. На беларускім участку нямецка–расійскі фронт стабілізаваўся па лініі Дзвінск—Смаргонь—Баранавічы—Пінск. У зоне акупацыі апынуліся ўся Гарадзенская, большая частка Віленскай, а таксама заходнія паветы Мінскай і Віцебскай губерняў — каля 70 тыс. кв. км этнічнай тэрыторыі Беларусі[88].

Наступствамі жорсткіх баёў паміж нямецкімі і расійскімі войскамі летам–восенню 1915 г. сталі вялікія чалавечыя ахвяры і матэрыяльныя страты. Многія заходнебеларускія гарады, мястэчкі і вёскі былі разбураны, сотні тысяч будынкаў, у тым ліку і школы, — знішчаны і спалены. Перад прыходам немцаў расійскамоўная асвета, якая займала ў заходнебеларускім рэгіёне дамінуючае становішча больш паўстагоддзя, фактычна перастала існаваць. Расійскія навучальныя ўстановы або былі вывезены на ўсход, або спынілі сваё існаванне з–за адсутнасці настаўнікаў, а іх маёмасць была разрабавана ці знішчана.

Эвакуацыя прадпрыемстваў, дзяржаўных, грамадскіх і навучальных устаноў, а разам з імі велізарнай арміі служачых, прамысловых работнікаў, настаўнікаў і навучэнцаў, прадстаўнікоў іншых сацыяльных груп, істотна зменшыла гарадское насельніцтва ў заходняй частцы Беларусі. Мабілізацыя мужчын у расійскую армію (каля 800 тыс., з

[88] Гісторык В. Круталевіч называе іншую лічбу — 50 тыс. кв. км, але не ўключае сюды частку беларускай этнаграфічнай тэрыторыі (Віленскі, Свянцянскі, частка Ваўкавыскага, Беластоцкі, Бельскі, Сакольскі паветы), якая ўвайшла пазней у склад Літвы і Польшчы. Па прыкладных падліках гэта складае 1/3 частку этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі.

якіх амаль 100 тыс. загінула на франтах вайны) і масавае бежанства (не меней 1,2 млн. чал.) выклікалі адмоўныя дэмаграфічныя змены ў структуры мясцовага жыхарства. Пра гэта даюць уяўленне перапісы 1916 г. і 1919 г., праведзеныя нямецкай адміністрацыяй Обер Ост і польскай уладай. Паводле польскага перапісу 1919 г., у межах тагачаснай Віленска–Гарадзенскай акругі[89] з 1911 г. па 1919 г. колькасць насельніцтва зменшылася з 2407 тыс. да 1633 тыс. чалавек (на 32,1%). Найбольшыя сумарныя дэмаграфічныя страты адбыліся ў Гарадзенскім (на 47,4%), Ашмянскім (32%) і Лідскім (27%) паветах. У заходнепалескім рэгіёне[90] колькасць жыхароў зменшылася з 1938 тыс. да 1122 тыс. чалавек (на 42%), найвышэйшыя страты былі ў Брэсцкім (61%), Пружанскім (51,9%) і Ваўкавыскім (50%) паветах[91]. Калі ў даваеннай Вільні колькасць жыхароў перавышала 200 тыс. чал., то пасля акупацыі горада гэтая лічба зменшылася да 162 тыс. (на 20%). У другім па велічыні горадзе рэгіёна — Беластоку — насельніцтва стала меней на 47,5% (зменшылася з 120 тыс. да 63 тыс.). Яшчэ большыя дэмаграфічныя страты прынесла вайна Брэсцю, які падчас жорсткіх баёў вясной–летам 1915 г. на 80% быў спалены і абязлюдзеў (з 58 тыс. да 13,5 тыс. чал. — на 77%), а таксама Горадня (з 66 тыс. да 28 тыс. — на 57,6%). Падобная карціна была характэрна і для павятовых і «заштатных» гарадоў. Напрыклад, з 21,3 тыс. жыхароў даваеннага Слоніма пасля адступлення расійскага войска засталося толькі 9,7 тыс. (на 54,5%), а з 8,4 тыс. навагрудчанаў — 5 тыс. (на 40,5%)[92].

У параўнанні з даваенным часам у Беларусі істотна змяніўся і полаўзроставы склад сталага жыхарства, што тлумачыцца ў першую чаргу мабілізацыяй большасці мужчын прызыўнога ўзросту ў расійскае войска і эвакуацыяй значнай часткі працаздольнага насельніцтва на ўсход. У сувязі з гэтым зменшылася доля прадстаўнікоў мужчынскага полу працоўнага (пасля 16 гадоў) і паўпрацоўнага ўзросту (ад 10 да 15 гадоў), як у агульным складзе насельніцтва, так і ў прапарцыянальных суадносінах да кабет дадзенай узроставай групы. Доля дзяцей школьнага ўзросту ў агульным складзе насельніцтва, наадварот, істотна перавысіла даваенныя паказнікі.

Вайна значна пагоршыла матэрыяльнае становішча большасці сем’яў, санітарна–бытавыя ўмовы іх жыцця, спарадзіла вялікую армію сірот, выклікала масавую смяротнасць сярод дзяцей. Пры адсутнасці бацькоў, каб пракарміць сябе, дзеці–сіраты ў лепшым выпадку вымушаны былі зарабляць сабе на жыццё цяжкай фізічнай працай, у горшым — «вучыцца» жабраваць, красці, ператварацца ў валацугаў і непаўнагадовых злачынцаў. Ваенныя падзеі негатыўна адбіліся на здароўі і маральна–псіхалагічным стане падрастаючага пакалення. Многія падлеткі пачалі зласловіць, курыць тытунь, ужываць алкаголь [гл. *Дадатак 15*].

Рэальна ацаніць гуманітарныя, культурныя і інтэлектуальныя наступствы для Беларусі, якія прынесла Першая сусветная вайна, уяўляецца на сёння справай вельмі цяжкай. Да гэтых пытанняў беларускія навукоўцы толькі–толькі падступаюцца. Дадзеная тэма патрабуе сур’ёзнага і комплекснага даследавання. Прывядзём толькі некаторыя агульныя лічбы стратаў Беларусі ў адукацыйнай сферы.

---

[89] Паводле польскага адміністрацыйна–тэрытарыяльнага падзелу 1919 г., у склад Віленска–Гродзенскай акругі ўваходзілі 6 паветаў былой Віленскай губерні, а таксама Гродзенскі і Навагрудскі паветы.

[90] Маецца на ўвазе Палеская акруга, утвораная паводле польскага адміністрацыйна–тэрытарыяльнага падзелу 1919—1920 гг. У склад яе ўваходзілі Баранавіцкі, Берасцейскі, Ваўкавыскі, Кобрынскі, Мазырскі, Пінскі, Пружанскі і Слонімскі паветы.

[91] Zniszczenie wojenne Ziem Wschodnich // Ziemie Wschodnie: stan gospodarczy i widoki rozwoju. — Warszawa, 1929. — S. 21—29.

[92] Archiwum Akt Nowych w Warszawie (AAN). Akta Towarzystwa Straży Kresowej, sygn. 40, s. 3—4; Насяленне Беластока // Гоман. — 1917, 13 лют.; З усяго краю // Гоман. — 1917, 16 мая; Studnicki W. Kolonizacja i rozwój gospodarczy naszego Wschodu // Wschód Polski. — 1920. — № 8—9. — S. 7—9.

Разам з адступаючымі расійскімі вайскоўцамі на ўсход эвакуіраваліся навучальныя ўстановы і вучэбная адміністрацыя Віленскай навучальнай акругі, а таксама царкоўна–школьныя саветы Віленскай і Гарадзенскай праваслаўных епархій. Як правіла, у першую чаргу эвакуіраваліся розныя ваенныя і тэхнічныя навучальныя ўстановы, далей — элітныя сярэднія школы (гімназіі, рэальныя вучэльні), педагагічныя ўстановы і духоўныя вучэльні. Паводле падлікаў аўтара гэтай работы, з Беларусі было эвакуіравана не меней 234 навучальных установ: 54 гімназіі (30 жаночых і 24 мужчынскія, 27 казённых і 27 прыватных), 32 прыватныя прагімназіі (26 жаночых і 6 мужчынскіх), 12 рэальных вучэльняў (7 казённых, 4 прыватныя, 1 грамадская), 3 камерцыйныя вучэльні, 1 сярэдняя хіміка–тэхнічная школа, 2 гандлёвыя школы, 1 сярэдняя школа мастацтва і малявання, 3 настаўніцкія інстытуты (з іх 1 — габрэйскі), 7 настаўніцкіх семінарый, 59 вышэйшых пачатковых вучэльняў, 1 кадэцкі корпус, 1 вайсковая пяхотная вучэльня, 16 рамесных пачатковых вучэльняў і школ (12 казённых, 4 прыватныя ці земскія), 2 сельскагаспадарчыя пачатковыя школы, 1 чыгуначная школа, 1 акушэрская школа, 2 духоўныя семінарыі (праваслаўная і каталіцкая), 8 праваслаўных духоўных вучэльняў (6 жаночых, 2 мужчынскія), 1 царкоўна–настаўніцкая школа, 3 праваслаўныя манастырскія школы, 23 пачатковыя вучэльні, 1 пачатковая школа для сляпых дзяцей [гл. *Дадатак 1*].

Гэта далёка не поўны спіс. Дагэтуль не высветлены лёс некаторых двухкласавых царкоўна–прыходскіх і царкоўна–настаўніцкіх школ, большасць з якіх таксама была эвакуіравана. Частка школ так і не здолела аднавіць сваю працу на новых месцах і спыніла сваё існаванне. Толькі 22 краёвых навучальных установ (каля 8%) у 1916—1919 гг. былі рээвакуіраваны на радзіму [гл. *Дадатак 2*]. Астатнія ж былі або ліквідаваны, або «натуралізаваны» на новых месцах знаходжання. Школьны інвентар, бібліятэкі, вучэбнае абсталяванне абсалютнай большасці элементарных школ, а таксама некаторых сярэдніх навучальных установ былі ў спешцы кінуты на старых месцах іх чыннасці і пазней разрабаваны.

Вайна прынесла для Беларусі вялікія інтэлектуальныя страты. Дзясяткі настаўнікаў пачатковых школ, што былі мабілізаваны ў войска з тэрыторыі Беларусі або пайшлі на фронт добраахвотнікамі, загінулі ў баях ці трапілі ў палон. Сотні з іх, апынуўшыся ў бежанстве, потым не звярнуліся на бацькаўшчыну, аселі ў Расіі, на Каўказе, Сібіры, у Цэнтральнаазіяцкім рэгіёне.

Вось найбольш красамоўныя факты пра лёс некаторых навучальных установ, што былі эвакуіраваны з Беларусі на ўсход у 1914—1915 гг.

*Полацкі кадэцкі корпус.* У жніўні 1914 г. рэарганізаваны ў ваенную гімназію і быў пераведзены з Полацка. Паводле адных звестак, канцылярыя корпуса была вывезена ў г. Сімбірск, паводле іншых — у г. Сумы (Украіна); 1–я вучэбная рота знаходзілася ва Уладзікаўказе; 2–я — спачатку ў Маскве, потым у Адэсе, а са жніўня 1917 г. — у Растове–на–Доне; 3–я — у Сумах. У пачатку 1918 г. канчаткова скасавана. Беларускі нацыянальны камісарыят у Адэсе ў красавіку 1918 г. намагаўся ўзяць пад свой загад 3–ю роту былога кадэцкага корпуса дзеля падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў для беларускіх нацыянальных вайсковых частак. Але ў тагачасных ваенна–палітычных умовах гэты план не ўдалося рэалізаваць[93].

Не менш трагічны лёс напаткаў *Гарадзенскую жаночую мар'інінскую вучэльню.* З пачаткам Першай сусветнай вайны памяшканне школы было занята пад вайсковы шпіталь. У жніўні 1914 г. частка канцылярыі вучэльні была перавезена ў Маскву, у 1–ю Маскоўскую жаночую мар'інінскую вучэльню. У верасні 1914 г. школа была пераведзена ў г. Слонім, а ў снежні 1914 г., калі небяспека захопу горада немцамі на

[93] Памяць: Гісторыка–дакументальная хроніка Полацка. — Мн., 1999. — С. 288—292; НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 176.

пэўны час адпала, зноў вернута ў Горадню. З 1 лютага 1915 г. распачаліся заняткі, але праз 2 дні гімназія была эвакуіравана зноў у Слонім. Пасля спынення наступу нямецкіх войскаў вясной 1915 г. школа зноў пераязджае на старое месца. У жніўні 1915 г. у час чарговага наступу немцаў большая частка канцылярыі і бібліятэка перавезены ў г. Калугу. У лістападзе 1918 г. планавалася рэарганізаваць вучэльню ў дзве савецкія працоўныя школы: 1–й і 2–й ступеняў, якія павінны былі абслугоўваць дзяцей беларускіх уцекачоў, што знаходзіліся ў Калужскай губерні. Але здзяйсненню гэтых планаў перашкодзілі вялікая раскіданасць сем'яў уцекачоў па губерні, адсутнасць патрэбных сродкаў на ўтварэнне школьнай бурсы для школьнікаў, абыякавасць і нават супрацьдзеянне гэтым намерам з боку мясцовай савецкай улады, іншыя матэрыяльныя і арганізацыйныя цяжкасці. Па прычыне «несвоечасовасці адасобленай нацыянальнай школы», паводле вызначэння мясцовага аддзела адукацыі саўдэпа Калужскай губерні, вучэльня была ліквідавана, а яе настаўнікі ўладкаваны ў мясцовыя школы горада[94].

*Віленская каталіцкая духоўная семінарыя* была эвакуіравана ў Жытомір, а *Віленская праваслаўная духоўная семінарыя* — у Петраград.

*Слонімская грамадская рэальная вучэльня.* Была ўтворана ў 1907 г. па ініцыятыве Таварыства пашырэння сярэдняй адукацыі г. Слоніма і Слонімскага павета. Эвакуіравана ў жніўні 1915 г. у г. Медынь Калужскай губерні. У Медыні не функцыянавала. Амаль увесь школьны інвентар вучэльні, які ў свой час быў набыты на сродкі ўзгаданага таварыства і бацькоўскага камітэта, застаўся ў Слоніме, дзе быў разрабаваны[95].

*Смаргонская 4–класавая жаночая прыватная прагімназія Плiскоўскай* і *Смаргонская вышэйшая пачатковая вучэльня*. З верасня 1915 г. яны спынілі сваю чыннасць. У Маскву былі перавезены толькі канцылярыі гэтых навучальных устаноў. Школьная маёмасць засталася ў Смаргоні, дзе падчас баявых дзеянняў загінула[96].

*Віленскі хрысціянскі настаўніцкі інстытут.* Эвакуіраваны ў пачатку верасня 1915 г. у г. Самару. Большая частка маёмасці засталася ў Вільні, дзе была разрабавана. Функцыянаваў да канца 1918 г. Педагагічны калектыў складаўся з 15 выкладчыкаў, з якіх 5 былі беларусамі па нацыянальнасці. У 1919 г. на базе інстытута быў сфармаваны Самарскі дзяржаўны ўніверсітэт (у 1923 г. далучаны да Варонежскага дзяржаўнага ўніверсітэта)[97].

*Маладзечанская настаўніцкая семінарыя*. У верасні 1915 г. эвакуіравана ў г. Смаленск. Эвакуацыя адбывалася падчас абстрэлу горада нямецкай артылерыяй. Амаль уся маёмасць семінарыі была пакінута на месцы і пазней разрабавана. Дырэктар навучальнай установы Апанас Ярушэвіч шмат сіл аддаў таму, каб рээвакуіраваць семінарыю на бацькаўшчыну. Ва ўмовах бежанства пры семінарыі функцыянавала ўзорная пачатковая школа, дзе навучаліся 60 дзяцей. Лёс настаўніцкай семінарыі пасля 1918 г. і яе архіва да сённяшняга дня не высветлены. Паводле непацверджаных дадзеных частка канцылярыі і інвентару была вывезена ў 1918 г. у Магілёў і выкарыстана для мясцовай настаўніцкай семінарыі[98].

*Нова–Віленская настаўніцкая семінарыя*. У верасні 1915 г. эвакуіравана ў г. Невель Віцебскай губерні. Падчас эвакуацыі большая частка маёмасці не была вывезена і разрабавана. З 8 выкладчыкаў 5 складалі беларусы. Беларускі нацыянальны камісарыят у Маскве разам з Віцебскім губернскім аддзелам народнай асветы планаваў перавесці семінарыю ў г. Вяліж. Педагагічная рада семінарыі на чале з М. Ушаковым без ведама гэтых інстытуцый і з дазволу Наркамасветы РСФСР у жніўні 1918 г. дамаглася на

[94] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 75, арк. 24—26, 60—61 адв.

[95] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 75, арк. 3—7.

[96] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 101, арк. 62—70 адв.

[97] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 101, арк. 62—70 адв., спр. 79, арк. 207—208.

[98] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 75, арк. 15—20.

пераезд навучальнай установы ў г. Лебядзян Тамбоўскай губерні. Пратэст Віцебскага аддзела народнай адукацыі за 9 жніўня 1918 г. аб звароце семінарыі на Віцебшчыну не быў задаволены. У пачатку 1921 г. семінарыя была рэарганізавана ў Лебядзянскі педтэхнікум[99].

*Свіслацкая настаўніцкая семінарыя.* Спачатку, увосень 1915 г., была эвакуіравана ў г. Медынь Калужскай губерні, а ў 1917 г., з–за дарагавізны і немагчымасці здабыць для выкладчыкаў і навучэнцаў харчаванне, пераведзена ў г. Красная Слабада Варонежскай губерні, а ў чэрвені 1918 г. — у г. Новахапёрск той жа губерні. У лютым 1919 г. педагагічная рада семінарыі звярнулася ў Наркамасветы ССРБ з просьбай рээвакуіраваць педагагічную ўстанову ў г. Слонім. З пачаткам польска–савецкай вайны рээвакуацыя не адбылася. У 1921 г. была пераўтворана ў Новахапёрскі педтэхнікум[100].

*Барунская царкоўна–настаўніцкая школа.* У верасні 1915 г. эвакуіравана ў с. Вялебіцы Наўгародскай губерні. 1 студзеня 1918 г. рэарганізавана ў настаўніцкую семінарыю. Значная частка маёмасці семінарыі засталася ў Барунах. Некалькі дзясяткаў пудоў інвентару школы было перададзена пад адказнасць ашмянскаму паліцэйскаму павятоваму прыставу для адпраўкі ў Маскву. Рэштка інвентару, архіў, канцылярыя, каштоўная бібліятэка (налічвала звыш 1200 асобнікаў, у тым ліку каля 250 кніг па гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны) былі перавезены ў с. Вялебіцы. 27 сакавіка 1918 г. па загаду аддзела народнай адукацыі Наўгародскага саўдэпа ў сувязі з набліжэннем нямецкіх войскаў семінарыя была пераведзена ў г. Ціхвін. Пры эвакуацыі частку маёмасці давялося дарам аддаць на патрэбы мясцовай Вялебіцкай 2–класавай школы. У 1918 г. педагагічная рада семінарыі неаднаразова хадайнічала аб пераездзе навучальнай установы ў Магілёўскую губерню. У гэты час функцыянавалі толькі першыя два курсы, дзе навучалася 88 семінарыстаў. У лютым 1919 г. педагагічная рада ў чарговы раз звярнулася ў Наркамасветы ССРБ з просьбай рээвакуіраваць семінарыю ў Баруны, але з–за фінансавых цяжкасцяў і з пачаткам польска–савецкай вайны рээвакуацыя не адбылася. У канцы 1918/19 навучальнага года, паводле загада аддзела народнай адукацыі Наўгародскай губерні, на базе Барунскай настаўніцкай семінарыі былі ўтвораны Ціхвінскія 3–гадовыя педагагічныя курсы[101].

*Віленская сярэдняя хіміка–тэхнічная школа.* Курс навучання — 4 гады. З часу свайго існавання, з 1900 па 1915 гг., выпусціла 315 спецыялістаў, з якіх абсалютную большасць складалі беларусы, а літоўцаў налічвалася толькі 14. Галоўная фахавая спецыялізацыя — прамысловы выраб цукру. Пры школе дзейнічала ніжэйшая рамесная школа са слясарна–кавальскім і электрамантажным аддзеламі. У верасні 1915 г. эвакуіравана ў г. Казань. Месцілася ў памяшканні Казанскай прамысловай вучэльні. З усёй маёмасці было вывезена толькі самае каштоўнае: абсталяванне майстэрняў і лабараторый, а таксама падручнікі і навучальныя дапаможнікі. Архіў вучэльні застаўся ў Вільні. Маёмасць ніжэйшай рамеснай вучэльні пры школе эвакуіравана ў Тулу. Паводлле пастановы Часовага ўрада ад 30 мая 1917 г. школа была рэарганізавана, але галоўная спецыялізацыя засталася ранейшай. Кіраўніцтва вучэльні хадайнічала перад Беларускім нацыянальным камісарыятам у Маскве аб пераводзе школы на поўдзень Беларусі дзеля падрыхтоўкі спецыялістаў–цукравараў, што магло паспрыяць развіццю прамысловага вырабу цукру ў краі. Паводле загада калегіі і пададдзела вышэйшых навучальных устаноў аддзела прафесійнай адукацыі Наркамасветы РСФСР адпаведна за 1 і 20 лістапада 1918 г., а таксама пастановы за 21 лістапада 1918 г. аддзела народнай асветы Казанскай губерні, на базе Віленскай сярэднетэхнічнай школы і

[99] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 84, арк. 18—23 адв.; спр. 79, арк. 193—194.

[100] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 84, арк. 30—30 адв.; ф. 42, воп. 3, спр. 74, арк. 72—72 адв.; ф. 804, воп. 1, спр. 7, арк. 9.

[101] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 79, арк. 55, 65—66 адв., 81—96; ф. 804, воп. 1, спр. 14, арк. 6 адв.

мясцовых сярэдніх навучальных устаноў (політэхнічнай, камерцыйнай і мастацкай вучэльняў) быў утвораны Казанскі палітэхнікум, які пазней рэарганізаваны ў Казанскі політэхнічны інстытут[102].

*Дзвінская рамесная вучэльня.* Эвакуіравана ў жніўні 1915 г. у Маскву. 1 верасня 1915 г. перададзена пад загад Маскоўскай вышэйшай тэхнічнай вучэльні, але дырэкцыя апошняй адмовілася ўзяць яе на сваё ўтрыманне, з–за чаго 2 тыдні навучэнцы і выкладчыкі школы жылі ў вагонах на вакзале і харчаваліся за свой кошт. Маёмасць вучэльні была ўся вывезена. Доўгі час школа існавала на сродкі выдаткаванага Усерасійскім земскім саюзам (УЗС) авансу дзеля выканання ваеннага заказу. Пазней Міністэрства народнай асветы выдзеліла вучэльні 8600 руб. на арэнду памяшкання для заняткаў і арганізацыі бурсы. Месцілася на Сямёнаўскай заставе (Пятроўская вуліца, 3). У такім стане школа праіснавала 2 гады. Гэта дало магчымасць скончыць школу большасці навучэнцаў–уцекачоў з Беларусі. Набор новых курсантаў у 1917/18 навучальным годзе не адбыўся. Маскоўская гарадская дума і гарадскі галава адмовілі ў прадстаўленні вучэльні патрэбнага памяшкання для заняткаў. З чэрвеня 1917 г. вучэльня перастала атрымліваць прамысловыя заказы ад УЗС. Пасля гэтага выкладчыкі школы арганізавалі вечаровую тэхнічную школу для прамысловых работнікаў. Па патрабаванні Ляфортаўскага раённага саўдэпа г. Масквы ў кастрычніку 1917 г. вучэльня пераехала ў новае памяшканне і працягвала весці вечаровыя курсы для 32 слухачоў, з якіх 31 з'яўляліся беларусамі. Адзначым таксама, што з 4–х выкладчыкаў, якія засталіся працаваць у вучэльні, усе з'яўляліся беларусамі. У лістападзе 1918 г., паводле пастановы мясцовага саўдэпа, у вучэльні было забрана адзінае памяшканне пад раённы работніцкі клуб, пасля чаго вучэльня спыніла сваё існаванне[103].

*Гарадзенская цэнтральная губернская акушэрска–фельчарская школа.* Увосень 1915 г. спачатку была эвакуіравана ў Віцебск, а пазней у Калугу. Значная частка маёмасці школы ў 1914—1915 гг. была забрана пад патрэбы вайсковага шпіталя Гарадзенскай фартэцыі і Віцебскай лячэбніцы Таварыства Чырвонага Крыжа. У Калугу былі эвакуіраваны радзільны прытулак з гінекалагічнай амбулаторыяй, якія знаходзіліся пад загадам дырэкцыі вучэльні. Доўгі час працягвала функцыянаваць у Калузе ў экстрэмальных умовах. 1 сакавіка 1919 г. быў праведзены апошні выпуск курсістак, пасля чаго школа была ліквідавана, а яе маёмасць перададзена ў медычныя ўстановы Калугі[104].

*Дрысенская рамесная вучэльня.* Эвакуіравана ў г. Ялец Арлоўскай губерні. Падчас эвакуацыі былі вывезены абсталяванне слясарнай майстэрні, сталярнага і кавальскага аддзелаў, фундаментальная і вучнёўская бібліятэкі. Функцыянавала разам з Ялецкай рамеснай вучэльняй, адкрытай у 1915 г. Утрымлівалася на сродкі дырэкцыі Віленскай навучальнай акругі. У студзені 1919 г. Наркамасветы ССРБ рабіў спробы рээвакуіраваць школу ў Дрысу. 13 лютага 1919 г. Ялецкі аддзел народнай адукацыі адмовіў кіраўніцтву ССРБ у вяртанні маёмасці вучэльні. Яе абсталяванне было перададзена Ялецкай рамеснай школе[105].

*Полацкая Свята–Еўфрасіннеўская епархіяльная праваслаўная жаночая вучэльня.* Эвакуіравана ўвосень 1915 г. у г. Растоў Яраслаўскай губерні. Паводле звестак Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве, у 1918 г. з 16 выкладчыкаў усе з'яўляліся беларусамі, а 9 з іх заявілі, што валодаюць беларускай мовай і гатовы выкладаць у школе па–беларуску. Падчас эвакуацыі вывезена таксама каштоўная фундаментальная

[102] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 74, арк. 18—28.

[103] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 79, арк. 1—9.

[104] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 74, арк. 47—51, 54—55; спр. 84, арк. 6; спр. 87, арк. 71.

[105] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 74, арк. 33—35, 46; спр. 87, арк. 55, 76; спр. 101, арк. 62—70 адв.; Справочник об эвакуированных правительственных, общественных и частных учреждениях и заведениях.., с. 28.

бібліятэка (каля 4 тыс. асобнікаў), фізічны кабінет, геаграфічныя і гістарычныя карты і падручнікі. Да Лютаўскай рэвалюцыі фінансавалася на сродкі Віцебскай праваслаўнай епархіяльнай рады. Функцыянавала ўвесь перыяд Першай сусветнай вайны. Яе маёмасць так і не была вернута ў Полацк[106].

Эвакуацыі не абмінулі таксама навучальныя ўстановы Мінска. Мясцовы *настаўніцкі інстытут* быў вывезены ў Яраслаўль, *праваслаўная духоўная вучэльня* — у Самару, большасць сярэдніх і пачатковых школ горада — у Маскву і Маскоўскую губерню. Так, *4–я мінская вышэйшая пачатковая вучэльня* была вывезена ў верасні 1915 г. у Сергіеў Пасад Маскоўскай губерні. Пасля рээвакуацыі ўвосень 1916 г. на Маскоўшчыне засталося ўсё абсталяванне швейнай вучэбнай майстэрні (у тым ліку 13 машын фірмы «Зінгер»), якое засталося ў «дар» мясцовай гарадской школе[107].

Пасля рээвакуацыі ў Мінск увосень 1918 г. мясцовых настаўніцкага інстытута, мужчынскай казённай гімназіі і камерцыйнай вучэльні большая частка вучэбнага інвентару і бібліятэчных збораў названых навучальных устаноў заставалася ў Маскве пад наглядам былога вартаўніка Белнацкама ажно да 1921 г.

Пасля ўступлення ў студзені 1915 г. на пасаду міністра народнай асветы Расіі графа Паўла Ігнацьева ў краіне распачалася падрыхтоўка кардынальнай рэформы адукацыі. Нягледзячы на вайну, міністэрства запланавала значнае павелічэнне колькасці навучальных устаноў і навучэнцаў, увядзенне абавязковай пачатковай адукацыі, распрацоўку новых статутаў і навучальных праграм для сярэдніх навучальных устаноў. Апошнія меркавалася падзяліць на 2 ступені і 3 тыпы («старагуманітарны», «новагуманітарны» і «рэальны»). Меркавалася таксама стварыць аднатыпныя вучэбныя планы і праграмы для мужчынскіх і жаночых навучальных устаноў, ажыццявіць пераемнасць праграм сярэдняй і вышэйшай школы, павялічыць долю практычных заняткаў па прыродазнаўству і фізічнаму выхаванню. Згодна з рэформай, ставілася задача пашырыць сетку сярэдніх прафесійна–тэхнічных і педагагічных адукацыйных устаноў (пры міністэрстве была ўтворана рада па справах прафесійнай адукацыі). Галоўная ідэя рэформы, якую ініцыяваў Ігнацьеў, — дэбюракратызацыя сістэмы адукацыі, актыўнае далучэнне да рэфармавання школы грамадскасці, земскіх устаноў і органаў гарадскога самакіравання. Былі пашыраны правы педагагічных калектываў, заахвочваўся ўдзел бацькоў вучняў у жыцці школы праз стварэнне бацькоўскіх камітэтаў. Аказвалася падтрымка недзяржаўным школам[108].

Для Беларусі, якая фактычна з’яўлялася прыфрантавой зонай расійскага войска, з–за слабасці краёвых інстытутаў самакіравання і адсутнасці моцнай падтрымкі пры ажыццяўленні рэформы з боку мясцовых грамадскіх арганізацый змены ў школьнай справе былі мінімальнымі: зроблены некаторыя новаўвядзенні ў праграмы і ўнутранае жыццё сярэдніх навучальных устаноў. Было адкрыта некалькі грамадскіх гімназій, 3 жаночыя настаўніцкія семінарыі (у Барысаве, Бабруйску і Гомелі). Пры настаўніцкіх інстытутах утвораны аднагадовыя педагагічныя курсы, дзе абсалютную большасць слухачоў складалі жанчыны. Апошняя мера мела важнае значэнне: з–за мабілізацыі на фронт значнай часткі настаўнікаў пачатковых школ назіраўся недахоп педагагічных працаўнікоў, асабліва ў сельскай мясцовасці.

Хадайніцтвы Віцебскага, Магілёўскага і Мінскага губернскіх земстваў, а таксама мясцовых гарадскіх самаўрадаў перад Міністэрствам народнай асветы аб утварэнні ў краі

[106] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 74, арк. 40—46; спр. 101, арк. 62—70 адв.

[107] Тамсама, НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 7, арк. 12 адв.

[108] Ключев И. Граф П.Н. Игнатьев и наше народное образование // Вестник воспитания. — 1917. — № 2. — С. 56—99; Смена министра народного просвещения // Вестник просвещения. — 1917. — № 1. С. 35—37; Ляхоўскі У.В., Раманава І.М., Самусік А.Ф. Школа // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 211—212.

вышэйшай навучальнай установы не былі задаволены[109]. Пасля адстаўкі П. Ігнацьева 28 снежня 1916 г. рэалізацыя адукацыйнай рэформы пад ціскам кансерватыўных сіл была фактычна згорнута.

Перад пагрозай відавочнай гуманітарнай катастрофы расійскі ўрад дазволіў чыннасць дабрачынных і культурна–асветных устаноў і арганізацый нерасійскіх нацыянальнасцяў. Акрамя таго, некаторым з іх была аказана істотная фінансавая падтрымка. Праз дапамогу польскім, латышскім, літоўскім, галіцкім «русафільскім» і армянскім арганізацыям царскі рэжым спадзяваўся скіраваць сімпатыі грамадскіх колаў гэтых этнічных супольнасцяў на сваю карысць і настроіць іх супраць Нямеччыны, Аўстра–Вугоршчыны і Турцыі.

Адной з галоўных геапалітычных задач Расіі ў Першай сусветнай вайне было аб’яднанне пад скіпетрам расійскага цара ўсіх польскіх этнічных тэрыторый. Таму не выпадкова, што ў першы перыяд вайны найбольшая фінансавая дапамога была аказана польскім дабрачынным арганізацыям. Са 103,1 млн. руб., якія асігнавала Асобая нарада па справах бежанцаў пры Міністэрстве ўнутраных спраў Расіі з ліпеня 1915 г. па красавік 1917 г. нацыянальным дабрачынным таварыствам, больш за палову (53,4 млн. руб.) былі накіраваны на патрэбы палякаў. Немалыя сродкі на польскую дабрачынную справу ахвяраваў Усерасійскі камітэт вялікай княжны Таццяны Мікалаеўны[110].

Дзякуючы гэтым фінансавым уліванням на тэрыторыі Беларусі ўзніклі і актыўна дзейнічалі шматлікія філіі Цэнтральнага грамадскага камітэта Царства Польскага (ЦГКЦП), Польскага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (ПТДПВ), Польскага камітэта санітарнай дапамогі, Каталіцкага таварыства дабрачыннасці, Ковенска–Віленскага грамадскага камітэта і інш. Афіцыйныя ўлады Расіі ўласнымі рукамі садзейнічалі пашырэнню на беларускіх землях польскай грамадска–палітычнай прысутнасці, умацаванню тут польскіх арганізацыйных структур. Гэта моцна адбілася на ходзе польска–савецкага супрацьстаяння за валоданне беларускімі землямі ў 1918—1921 гг.

Разам з тым у гады вайны ўрадавыя колы Расіі імкнуліся максімальна стрымаць чыннасць беларускіх нацыянальных арганізацый, бо гэта магло разбурыць «агульнарускае адзінства», на якім фактычна трымалася геапалітычная стабільнасць імперыі Раманавых. Адсюль вынікае такая мізэрная фінансавая падтрымка беларускіх дабрачынных устаноў. Летам 1915 г. на патрэбы Віленскага аддзялення Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны было выдаткавана 360 руб.[111]. Некалькі сотняў рублёў Таццянінскім камітэтам было выдаткавана Петраградскаму аддзелу таварыства[112]. Трэба сказаць, што на гэтыя сціплыя грошы ўвосень 1916 г. была арганізавана першая пачатковая школа падчас Першай сусветнай вайны на тэрыторыі, падкантрольнай расійскаму ўраду, у якой дзецям беларускіх уцекачоў выкладаліся «беларускае пісьмо і чытанне»[113]. У кастрычніку 1916 г. 10,2 тыс. руб. было выдзелена Мінскаму аддзелу ўзгаданага таварыства[114]. Гэтыя мізэрныя

[109] Ляхоўскі У.В. На шляху да стварэння універсітэта ў Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс. — 2001. — № 4. — С. 11; Зельскі А. Планы і спробы стварэння універсітэта ў Беларусі (першая палова XIX — 1918 г.) // Беларускі гістарычны часопіс. — 2004. — № 2. — С. 22—29.

[110] Рудовіч С.С. Дзейнасць дабрачынных арганізацый на Беларусі ў кантэксце палітыкі царызму па польскім пытанні ў гады Першай сусветнай вайны (жнівень 1914 г. — люты 1917 г.).., с. 49—56.

[111] Мялешка І. [Луцкевіч А.]. Новае праступленне // Гоман. — 1916, 30 чэрв.

[112] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 133, арк. 26—29.

[113] У арганізацыі школы фінансавую падтрымку аказаў В. Іваноўскі, які знаходзіўся тады ў Туле.

[114] Рудовіч С.С. Рух бежанцаў у гады Першай сусветнай вайны праз Беларусь: этнанацыянальныя аспекты // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: Матэрыялы рэсп. навук. канф.: У 4 ч. / Пад рэд. І.П. Крэня, У.І. Навіцкага, І.А. Змітровіча. — Горадня: ГрДУ, 2003. — Ч. 2. — С. 138.

сродкі не ідуць нават у прыблізнае параўнанне з тымі істотнымі фінансавымі патокамі, якія атрымлівалі ад расійскага ўрада на гуманітарныя мэты польскія, латышскія, літоўскія і нават габрэйскія дабрачынныя і культурна–асветныя арганізацыі. Яшчэ раз нагадаем: на 1 траўня 1917 г. ЦГКЦП было выдзелена ад расійскага ўрада звыш 27,5 млн. руб., ПТДПВ — каля 18,5 млн. руб., Латышскаму цэнтральнаму камітэту дапамогі ахвярам вайны — звыш 17,5 млн. руб., Габрэйскаму цэнтральнаму камітэту дапамогі пацярпелым ад вайны — звыш 14 млн. руб. З амаль 14–мільённага бюджэту Таццянінскага камітэта, які спецыялізаваўся на дабрачыннай дапамозе бежанцам–іншародцам, ільвіная доля сродкаў таксама ішла «нярускім» нацыянальнасцям[115].

У сувязі з бежанствам колькасць палякаў у цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі за гады вайны істотна павялічылася. Паводле падлікаў мясцовага польскага дзеяча У. Грабскага, колькасць польскіх уцекачоў, якія аселі ў Беларусі, склала каля 174 тыс. чал. Па губернях яны былі размеркаваны наступным чынам: у Мінскай — 99 573 (з якіх 46 277 паходзілі з этнічнай Польшчы), у Магілёўскай — 75 352 (37 558). Трохі больш за 20 тыс. палякаў–уцекачоў апынуліся ў Віцебскай губерні[116].

Шмат увагі польскія арганізацыі надавалі справе стварэння адукацыйных устаноў і дзіцячых прытулкаў. ЦГКЦП утрымліваў 251 навучальна–выхаваўчую ўстанову на тэрыторыі Беларусі, якія апекаваліся над болей чым 12 тыс. дзяцей. ПТДПВ і іншымі мясцовымі арганізацыямі на беларускай тэрыторыі было створана 30 прытулкаў і 34 пачатковыя школы[117]. Таксама дзейнічалі некалькі сярэдніх польскамоўных школ у Мінску, Магілёве і Віцебску.

Кіраўніцтва польскіх дабрачынных таварыстваў імкнулася выкарыстаць пашырэнне сеткі польскамоўных навучальных устаноў у Беларусі не толькі для абслугоўвання польскіх уцекачоў, але і дзеля пашырэння польскай нацыянальнай свядомасці сярод тутэйшых каталікоў, а таксама ўмацавання польскага культурнага ўплыву на гэтых тэрыторыях. Рапарты мясцовых школьных інспектараў і паліцэйскіх ураднікаў таго часу даюць шмат фактаў аб «заахвочванні» польскімі школьнымі «рэзідэнтамі» беларусаў–каталікоў аддаваць сваіх дзяцей вучыцца ў наваствораныя польскія школы[118].

Ва ўмовах непрыхавана варожага стаўлення значнай часткі кіруючай эліты Расійскай імперыі да габрэяў, якіх залічвалі да тайных прыхільнікаў Нямеччыны і Аўстра–Вугоршчыны[119], расійскае габрэйства дэманстравала ў гады вайны зайздросную грамадскую згуртаванасць і мабілізаванасць у справе аказання матэрыяльнай і гуманітарнай падтрымкі сваім суродзічам і аднаверцам, што пацярпелі ад ваенных падзей. Шмат увагі габрэйскімі дабрачыннымі і культурна–асветнымі арганізацыямі надавалася справе арганізацыі навучальных устаноў для дзяцей уцекачоў. Паводле дадзеных ЕПО, на 1 сакавіка 1916 г. яго Цэнтральным камітэтам у Пецярбургу на арганізацыю габрэйскіх свецкіх школ і «новых» хедэраў штомесяц выдаткоўвалася 65 тыс. руб. Габрэйскія бежанскія навучальна–выхаваўчыя ўстановы былі ўтвораны ў 125 населеных пунктах Расіі, дзе навучалася звыш 18 тыс. дзяцей. Таксама там атрымлівалі пачатковую асвету звыш 2,5 тыс. дарослых[120].

---

115 Государственный архив Российской Федерации (далей — ГАРФ), ф. 3333, оп. 2, ед. хр. 1а, лл. 57—57 об.

116 Мондзік М., Кажанёўскі М. Польскія грамадскія ратавальныя арганізацыі ў Беларусі // Гістарычны альманах (Гродна). — 2003. — № 8. — С. 85.

117 Тамсама, с. 89.

118 НГАБ у Мінску, ф. 295, воп. 1, спр. 9659, арк. 8—9, 13—14.

119 Из черной книги российского еврейства: материалы для истории войны 1914—1916 гг. // Еврейская старина. — Т. 10. — Петроград, 1918. — С. 272—294.

120 Обзор деятельности Общества для распространения просвещения между евреями в России за время войны. — Петроград, 1916. — С. 14—19; Туманова А.С. Еврейские общественные организации в годы Первой мировой войны // Мировой кризис 1914—1920 годов и судьба восточноевропейского еврейства. Москва: Российская политическая энциклопедия, 2005. — С. 132.

Ва ўмовах ваеннага часу, калі чыннасць левых габрэйскіх палітычных арганізацый (Бунда, «Паалей–Цыён» і інш.) была забаронена, уся культурна–асветная праца сярод габрэяў рэалізоўвалася «фалькістамі» і памяркоўнымі сіяністамі праз легальныя габрэйскія арганізацыі. Разам з ранейшымі арганізацыямі і ўстановамі (ЕПО, ОЗЕ, ОРТ, Таварыствам габрэйскай сям'і «Шоарг–эзро», Яўрэйскім дабрачынным таварыствам, рэгіянальнымі таварыствамі дапамогі па выхаванню і навучанню бедных габрэйскіх дзяўчынак), у час вайны паўсталі і актыўна працавалі на ніве нацыянальнай асветы Габрэйскі камітэт аказання дапамогі пацярпелым ад вайны (ЕКОПО) у Петраградзе і яго рэгіянальныя філіі.

З наплывам у Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую губерні габрэйскіх уцекачоў і «грамадзянскіх палонных» (дэпартаваных асоб) намаганнямі габрэйскіх дабрачынных арганізацый ствараюцца новыя навучальныя ўстановы і прытулкі. У 1914—1915 гг. у беларускіх губернях з дазволу Міністэрства народнай асветы ўзнікаюць новыя габрэйскія прыватныя гімназіі (мужчынская гімназія Цемаха Фельдштэйна і жаночая гімназія Ключ і Пузыроўскай у Мінску, мужчынская гімназія Бэра Геца ў Віцебску і інш.), у якіх з дазволу царскіх улад выкладанне асобных прадметаў вялося на іўрыце[121]. У Мінску па ініцыятыве сіяністаў у 1915 г. былі арганізаваны вечаровыя курсы для дарослых па вывучэнню іўрыта. Створаныя бежанскія школы, а таксама эвакуіраваныя з Польшчы ў Беларусь габрэйскія навучальныя ўстановы абслугоўвалі не толькі дзяцей уцекачоў, але і мясцовых габрэяў. У адным толькі Мінску функцыянавала 6 габрэйскіх прытулкавых школ, у якіх утрымліваліся і вучыліся некалькі сотняў дзяцей[122].

Разам з актыўнай чыннасцю польскіх і габрэйскіх нацыянальных арганізацый на ніве школьнай асветы на тэрыторыі Беларусі ў 1914—1916 гг. заўважную актыўнасць у справе арганізацыі адукацыйна–выхаваўчых установаў для ўцекачоў–суайчыннікаў праяўлялі літоўскія і латышскія грамадскія арганізацыі. У Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях дзейнічаў шэраг літоўскіх і латышскіх пачатковых і сярэдніх школ, якімі апекаваліся Літоўскі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны, Латышскае дабрачыннае таварыства, латышская гуманітарная арганізацыя «Радзіма» і шэраг іншых.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у галіне адукацыі ў заканадаўчым парадку былі зняты ўсе нацыянальныя, палітычныя і рэлігійныя абмежаванні, у поўным аб'ёме была адноўлена аўтаномія ўніверсітэтаў, павышаны статус настаўніцкіх семінарый і настаўніцкіх інстытутаў, перагледжаны вучэбныя праграмы сярэдніх навучальных установаў (уведзены грамадазнаўчыя дысцыпліны за кошт істотнага змяншэння гадзін на выкладанне рэлігіі), пашыраны правы гарадскіх самаўрадаў, земскіх упраў і грамадскіх установаў у арганізацыі сярэдніх і пачатковых школ. Прыватныя асобы, прафесійныя хаўрусы, розныя грамадскія арганізацыі атрымалі магчымасць ствараць пад сваёй апекай новыя навучальныя ўстановы[123]. Была легалізавана чыннасць уніяцкай царквы ў Расіі, значна пашыраны правы ў галіне школьнай асветы неправаслаўных рэлігійных канфесій[124]. Карэнныя змены адбыліся ў былых навучальных установах Сінода Расійскай праваслаўнай царквы. Паводле пастановы Часовага ўрада ад 20 чэрвеня 1917 г., усе царкоўныя і царкоўна–настаўніцкія школы «дзе-

[121] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 37, 55; НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 48, арк. 22—28; ДАМВ, ф. 322, воп. 1, спр. 10, арк. 116—117, 257—258, 296; От еврейской гимназии доктора Ц. Фельдштейна // Минский голос. — 1918, 15 авг.

[122] НАРБ, ф. 42, воп. 3, спр. 74, арк. 1—21.

[123] Тамсама, ф. 610, воп. 1, спр. 45, арк. 6а; Ляхоўскі У., Раманава І. М., Самусік А.Ф. Школа // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.., с. 211; Ляхоўскі У.В. «Укусіла жыццё». Першая сусветная вайна ў лёсах рагачоўскіх семінарыстаў // Беларускі гістарычны часопіс. — 2005. — № 11. — С. 12.

[124] НАРБ, ф. 622, воп. 1, спр. 62, арк. 8—11.

ля сапраўднага і планамернага здзяйснення ўсеагульнай адукацыі» перадаваліся пад загад Міністэрства народнай асветы Расіі[125]. У жніўні таго ж года былыя царкоўна–прыходскія школы былі перападпарадкаваны органам мясцовага самакіравання. Шмат якія духоўныя і епархіяльныя вучэльні ў гэты час былі рэарганізаваны ў свецкія навучальныя ўстановы.

У траўні 1917 г. быў створаны Дзяржаўны камітэт па народнай адукацыі (ДКНА) на чале з вядомым грамадскім і культурным дзеячам Уладзімірам Чарналускім, ураджэнцам Гомельшчыны. Паводле свайго статута, новая ўстанова з'яўлялася грамадскай палатай, у кампетэнцыю якой уваходзілі распрацоўка і ажыццяўленне кардынальнай рэформы школьнай асветы ў Расіі. За кароткі час свайго існавання ДКНА распрацаваў звыш 40 законапраектаў, якія зацвярджалі палажэнні аб адзінай грамадскай агульнаадукацыйнай школе, аб дэмакратызацыі і дэцэнтралізацыі ўсёй школьнай справы, аб забеспячэнні роўных правоў усім нацыянальнасцям Расіі ў сферы адукацыі і г.д.[126]. Упершыню ў расійскай гісторыі нерасійскія народы атрымлівалі права вольнага развіцця адукацыі на сваёй роднай мове, а іх прадстаўнікі мелі магчымасць бесперашкодна паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, займаць настаўніцкія і выкладчыцкія пасады.

Планавалася ўсю справу па навучанню дзяцей перадаць у рукі органаў мясцовага самакіравання. На месцах павінны былі стварацца губернскія камітэты па народнай адукацыі, якія складаліся з прадстаўнікоў мясцовых органаў самакіравання і грамадскіх арганізацый. Але гэты працэс быў спынены Кастрычніцкім пераваротам 1917 г. Губернскія камітэты народнай адукацыі ў Беларусі пачалі арганізоўвацца толькі ў канцы 1917 г. Пазней яны былі скасаваны органамі савецкай улады разам з земствамі і гарадскімі самаўрадамі.

Палажэнні першых дэкрэтаў аб школе, прынятыя органамі савецкай улады, былі прасякнуты дэмакратычным і гуманістычным пафасам. Яны ўвабралі ў сябе многія прагрэсіўныя ідэі, выпрацаваныя за папярэдні час вядомымі педагогамі і грамадскімі дзеячамі. Школа абвяшчалася не толькі бясплатнай на ўсіх яе ступенях, не толькі даступнай, а «як мага хутчэй абавязковай» і разам з тым — «адзінай і працоўнай». «Вышэйшай каштоўнасцю ў сацыялістычным грамадстве застаецца асоба, — заяўляў першы наркам асветы Савецкай Расіі Анатоль Луначарскі. — Але гэтая асоба зможа рэалізаваць з усёй магчымай раскошай свае задаткі толькі ў гарманічным і салідарным грамадстве роўных»[127].

Гэтыя дэкларацыі знайшлі станоўчы водгук у некаторых вядомых грамадскіх дзеячаў і педагогаў Заходняй Еўропы і ЗША, якія расчараваліся ў буржуазных ліберальных каштоўнасцях. Так, вядомы амерыканскі педагог Джон Д'юі адзначаў, што да Савецкай Расіі ніводная краіна свету дагэтуль не стварыла такой наватарскай па сваёй сутнасці праграмы школьнай рэформы. На яго думку, «Асноўныя прынцыпы адзінай працоўнай школы» і іншыя заканадаўчыя акты ў сферы адукацыі, прынятыя савецкім урадам увосень 1918 г., былі першай у сусветнай гісторыі паслядоўнай праграмай па стварэнню сапраўднай народнай школы[128]. Знакаміты ангельскі пісьменнік–фантаст Герберт Уэлс, наведаўшы Петраград і Маскву ў 1920 г., назваў мерапрыемствы савецкага ўрада ў сферы адукацыі «грандыёзнай працай на карысць будучага краіны»[129].

---

[125] НАРБ, спр. 76, арк. 51—51 адв.

[126] Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва (далей — БДАМЛіМ), ф. 3, воп. 1, спр. 232, арк. 14.

[127] Народное образование в СССР. Общеобразовательная школа. Сб. документов. 1917—1973. — М., 1975. — С. 144.

[128] История педагогики и образования / Под ред. А.И. Пискунова. — Москва: ТЦ «Сфера», 2001. — С. 453.

[129] Уэллс Г. Россия во мгле. — Москва: Госиздат политической литературы, 1958. — С. 57.

Ідэі карэннай рэформы школьнай справы на савецкіх пачатках былі падтрыманы ў Беларусі, у першую чаргу, вясковым настаўніцтвам. Настаўнік Стаўпецкай пачатковай школы Янка Ярашэвіч, звяртаючыся ў Мінскі гарадскі аддзел народнай адукацыі ў ліпені 1919 г., пісаў: «Рэформу школы паводле «Палажэння пра адзіную працоўную школу» лічу буйною заваёвай расійскай рэвалюцыі. Надзвычайна каштоўным, з майго пункту гледжання, з'яўляецца ўвядзенне ў школу працоўнага пачатку. Далей створана пераемнасць ва ўсіх ступенях школы, што дае пры бясплатным навучанні магчымасць і даступнасць таленту развівацца. Павышана адукацыйная падрыхтоўка ў пачатковай школе. Няма болей розных школ для простага народа і для заможных класаў. Ствараецца адзіная школа для выхавання ды адукацыі ўсіх раўнапраўных грамадзян Рэспублікі»[130].

Практычныя ж крокі па перабудове школы ў першыя паслярэвалюцыйныя гады разыходзіліся з абвешчанымі дэкларацыямі. За палажэннем «адзіная працоўная школа» разумелася ў першую чаргу не пераемнасць яе ступеняў і не свабодны пераход дзяцей з элементарнай школы ў сярэднюю і далей — у вышэйшую, незалежна ад іх сацыяльнага статусу і маёмаснага цэнзу, а суцэльная ўніфікацыя і аднатыпнасць школы. Таталітарны рэжым выбіраў якраз тое, што было яму бліжэй і зручней, што лепей паддавалася ідэалагічнаму і адміністрацыйнаму кантролю. Шырокая грамадскасць, настаўніцкая карпарацыя, бацькоўскія камітэты, якія паўсталі яшчэ ў 1916 г., фактычна былі адсунуты ад правядзення рэформы і ўвогуле — ад актыўнага ўдзелу ў школьным жыцці.

Пад лозунгамі аб «адзінай працоўнай школе» пачалася бяздумная ломка старой школы. Былі знішчаны элітныя сярэднія навучальныя ўстановы — гімназіі, рэальныя і камерцыйныя вучэльні. Яны былі разбіты на аднатыпныя «савецкія працоўныя школы» 1–й і 2–й ступеняў. Гэта істотна знізіла ўзровень сярэдняй адукацыі ў краіне. Самым негатыўным чынам гэта адбілася на выкладанні гуманітарных дысцыплін і ў першую чаргу — замежных моў. Грашовае ўтрыманне для былых выкладчыкаў гімназій і рэальных вучэльняў было прыраўнена да заробку настаўнікаў былых вышэйшых пачатковых вучэльняў, нягледзячы на тое, што абсалютная большасць першай катэгорыі мела дыпломы ўніверсітэтаў, а большая частка другой катэгорыі не мела нават адмысловай сярэдняй педагагічнай адукацыі. Бяздумна ў 1919 г. былі скасаваны настаўніцкія семінарыі, якія, як правіла, месціліся ў нявялічкіх павятовых цэнтрах і з'яўляліся культурнымі асяродкамі ў правінцыі. Замест іх былі ўтвораны педагагічныя курсы, дзе ўзровень падрыхтоўкі настаўнікаў выклікаў у грамадскасці шмат нараканняў. Узбуйненне настаўніцкіх інстытутаў за кошт скасаваных настаўніцкіх семінарый і стварэнне на іх месцы шматпрофільных інстытутаў народнай адукацыі з 5 аддзеламі, дзе рыхтаваліся настаўнікі для сярэдняй і пачатковай школы, а таксама работнікі пазашкольнай працы з вялізным штатам выкладчыкаў, не апраўдалі сябе. У пачатку 1920-х гг. яны былі расфармаваны.

Увогуле ў гэты час у дзейнасці Наркамасветы РСФСР і саюзных рэспублік назіралася шмат пражэкцёрства і непрафесійнасці. Многія з гэтых мерапрыемстваў здзяйсняліся без уліку эканамічнай сітуацыі ў краіне. Гэта тычылася дэкларацыі аб неадкладным увядзенні ўсеагульнага школьнага навучання. Наступствы ваенных падзей 1914—1918 гг., грамадзянскай вайны ў Расіі 1918—1921 гг., палітыка «ваеннага камунізму» прывялі краіну на край эканамічнага калапсу. У пачатку 1920–х гг. савецкай уладзе прыйшлося абкладаць сялян «школьным падаткам», каб іх дзеці маглі вучыцца ў пачатковай школе. Гэтага не было нават за царскім часам. А ўсеагульнае школьнае навучанне было фармальна ўведзена ў савецкай дзяржаве толькі ў пачатку 1930–х гг., падчас «сталінскай мадэрнізацыі».

---

[130] НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 7, арк. 117.

***

Можна зрабіць высновы, што Першая сусветная вайна нанесла непапраўны ўрон школьнай адукацыі ў Беларусі. Гэта негатыўна адбілася на яе матэрыяльным становішчы, сацыяльным статусе педагогаў, на вучэбна–выхаваўчай працы, на маральна–псіхалагічным стане школьнікаў. Падчас бежанства і эвакуацыі навучальных устаноў на ўсход значная частка тутэйшай інтэлектуальнай эліты апынулася па–за межамі краю, была расцярушана па абшарах Расійскай імперыі. Вайна не дазволіла правесці дэмакратычную па зместу школьную рэформу графа П. Ігнацьева, замарудзіла працэс увядзення ўсеагульнага навучання ў беларускіх губернях, адсунула на больш далёкую перспектыву стварэнне ў Беларусі краёвага ўніверсітэта. Ваенная катастрофа прывяла да сацыяльнай рэвалюцыі ў краіне ў 1917 г. Прыход да ўлады бальшавікоў пацягнуў за сабой бяздумнае разбурэнне старой школы, стварэнне новай, савецкай адукацыйнай сістэмы, жорстка падпарадкаванай камуністычнай партыі і яшчэ больш палітызаванай, чым за царскім часам. Але пераводу школьнай адукацыі на савецкія «рэйкі» на большай частцы Беларусі ў 1918 г. перашкодзіла кайзераўская акупацыя. Рэалізацыя палажэнняў дэкрэта «Аб адзінай працоўнай школе» распачалася толькі ва ўсходніх рэгіёнах Магілёўскай і Віцебскай губерняў, якія заставаліся пад кантролем бальшавікоў.



*Беларускія дзяўчынкі Слуцкага павета. Пачатак XX ст. Паштоўка. Фота С. Юхніна.*



*Навучанне ў царкоўна–прыходскай школе. Магілёўскі павет. Пачатак XX ст. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Хлопчыкі–падпаскі Магілёўскай губерні. Пачатак XX ст. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны музей–архіў літаратуры і мастацтва.*



*Дзеці — навучэнцы Раманавіцкай царкоўна–прыходскай школы Гомельскага павета. 1898 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Будынак Мінскай мужчынскай урадавай гімназіі. Пачатак XX ст.*



*Вучэбныя прылады фізічнага кабінета Мінскай мужчынскай урадавай гімназіі. 1914 г. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Выкладчыкі і навучэнцы Мінскай мужчынскай урадавай гімназіі. 1914 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Навучэнец Мінскай мужчынскай урадавай гімназіі Хасан Мурза-Мурзік, сын мясцовага гарадскога суддзі, у будучым вядомага татарскага грамадскага дзеяча. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Будынак Мінскай мар'інінскай жаночай гімназіі. Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Выкладчыкі і навучэнкі Мінскай мар'інінскай жаночай гімназіі. 1913 г.*
*Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Навучэнка Мінскай жаночай мар'інінскай гімназіі Ірма Яўнзен, у будучым вядомая спявачка, выканаўца народных песень, збіральніца музычнага фальклору. 1913 г. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Марыя Зубкоўская, навучэнка Мінскай жаночай прыватнай гімназіі Масапуст. 1917 г. Друкуецца ўпершыню. З сямейнага архіва Вітаўта Кіпеля.*



*Падчас заняткаў у выпускным класе Мінскай мар'інскай жаночай гімназіі. 1913 г.*
*Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Падчас перапынку: выкладчыкі і вучні малодшых класаў Мсціслаўскай мужчынскай урадавай гімназіі. Пачатак XX ст. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*




*Стары будынак Мінскай прыватнай жаночай гімназіі А. Рэйман. Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Канстанцін Фальковіч, вядомы мінскі педагог і мастак–фатограф, адзін з заснавальнікаў першай у Мінску мужчынскай прыватнай гімназіі. 1914 г.*
*Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Аляксандр Сташэўскі–Стасевіч, слухач Мінскага настаўніцкага інстытута (у будучым Сакратар ЦВК ССРБ у 1920—1921 гг., наркам унутраных спраў БССР у 1927—1928 гг. і наркам юстыцыі БССР у 1928—1931 гг.). 1914 г. З сямейнага архіва Маі Сташэўскай.*




*Будынак Мінскай камерцыйнай вучэльні на Захар'еўскай вул. (пазней на гэтым месцы быў пабудаваны Дом урада). Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Граф Павел Ігнацьеў, міністр асветы Расіі ў 1915—1916 гг., ініцыятар незавершанай школьнай рэформы.*



*Таццяна Наркевічанка, навучэнка Мінскай жаночай праваслаўнай епархіяльнай вучэльні. 1913 г. Друкуецца ўпершыню. З сямейнага архіва Маі Сташэўскай.*




*Будынак Мінскай духоўнай праваслаўнай семінарыі па Аляксандраўскай вул.*
*Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Браты Міхась і Алесь Кудзелькі, слухачы Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Смаленск, 1916 г. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*«Нашаніўскі» штаб беларускага руху (злева направа): Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў. Пачатак XX ст. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*




*Будынак Слуцкай духоўнай праваслаўнай вучэльні. Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Канстанцін Міцкевіч, больш вядомы як Якуб Колас, арганізатар першай беларускай таемнай школы ў 1906 г.*



*Бранiслаў Эпімах–Шыпіла, адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальна–культурнага адраджэння ў пачатку XX ст. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Іван Івашын (Янка Журба), старшыня Беларускай вучнёўскай хеўры пры Глухаўскім настаўніцкім інстытуце. Пачатак XIX ст. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Лявонці Більдзюкевіч (у будучым вядомы беларускі матэматык і педагог), навучэнец Мінскай мужчынскай урадавай гімназіі, карэспандэнт і аўтар «Нашай Нівы». 1913 г. Друкуецца ўпершыню. З сямейнага архіва Галіны Більдзюкевіч.*



*Язэп Фарботка (у будучым вядомы беларускі літаратар і мастак–фатограф), навучэнец Мінскай мужчынскай урадавай гімназіі, карэспандэнт «Нашай Нівы». 1914 г. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Адлюстраванне ўра–патрыятычнай эйфарыі ў Расіі напачатку Першай сусветнай вайны: 4–гадовы сын беларускага настаўніка і пісьменніка Івана Фёдарава (Янкі Маўра) Хведар (у будучым выбітны беларускі фізік і акадэмік) пазіруе ў імправізаванай форме расійскага вайскоўца. 1915 г. З сямейнага архіва Фёдаравых.*



*Навучэнец Бабруйскай мужчынскай урадавай гімназіі Мікалай Азбукін (у будучым вядомы беларускі навуковец, педагог, аўтар знакамітага падручніка «Сусветная геаграфія») са сваёй сям'ёй. Бабруйск, пачатак XX ст. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Беларускі вучнёўскі гурток у Горадні. У цэнтры сядзіць апякун гуртка, каталіцкі святар а. Францішак Грынкевіч. 1913 г.*



*Паўліна Мядзёлка, слухачка Польскіх настаўніцкіх курсаў у Петраградзе і настаўніца тамтэйшай пачатковай школы Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. 1916 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Школьны двор каля Мінскай сінагогі на Старавіленскай вул.
Справа — будынак хедэра. Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Слуцкі тлумач Талмуда.
Пачатак XX ст. Паштоўка.*



*Падчас навучання ў адным з мінскіх хедэраў.
Пачатак XX ст. Друкуецца ўпершыню.
Нацыянальны музей гісторыі і культуры
Беларусі.*




*Будынак 3–й Мінскай габрэйскай казённай вучэльні. Пачатак XX ст. Паштоўка.*

# Глава 2.
# Адукацыйная палітыка Нямеччыны на акупаваных беларускіх землях

## 2.1. Фармаванне новай школьнай сістэмы ў заходняй частцы Беларусі, падпарадкаванай нямецкаму Усходняму фронту

Планы Нямеччыны ў дачыненні да заходніх ускраін Расійскай імперыі на пачатку вайны не былі канчаткова вызначаны. Прыхільнікі Пангерманскага Саюза разлічвалі на хуткі разгром Расіі і каланізацыю расійскай часткі Балтыйскага рэгіёна, заходняй часткі Беларусі, правабярэжнай Украіны, Крыма і Чарнаморскага ўзбярэжжа. Больш памяркоўныя палітыкі, пазіцыя якіх найбольш паслядоўна адлюстравана ў работах вядомага нямецкага палітолага Паўля Рорбаха, дапускалі стварэнне на заходніх ускраінах Расіі саюзнай для Нямеччыны «канфедэрацыі нерасійскіх народаў». Такі варыянт, на іх думку, быў найбольш прадуктыўным у справе забеспячэння палітычных і эканамічных інтарэсаў Нямеччыны ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне. Трэцяя група на чале з прафесарам Ота Гетшам трымалася ранейшага палітычнага курсу былога рэйхсканцлера Ота фон Бісмарка і выступала супраць тэрытарыяльнага падзелу Расіі, выказвалася за нармалізацыю нямецка–расійскіх адносін у пасляваенны час. Атачэнне кайзера Вільгельма II і Вярхоўнае камандаванне кайзераўскага ландвера (ОГК) доўгі час лавіравалі паміж поглядамі пангерманістаў і прыхільнікамі О. Гетша, а імперскі ўрад на чале з рэйхканцлерам Тэабольдам Бетман–Гольвегам схіляўся да рэкамендацый П. Рорбаха. На прыняцце рашэння істотна ўплывала сітуацыя на франтах. Пасля правалу плана па хуткім разгроме Расіі і вывадзе яе з вайны многім у Берліне стала зразумела, што расійска–нямецкае геапалітычнае супрацьстаянне набывае доўгатэрміновы характар і трэба думаць аб далейшым лёсе захопленых тэрыторый[131].

Важную ролю ў фарміраванні акупацыйнага рэжыму на занятых тэрыторыях адыграла камандаванне Усходняга фронту — фельдмаршал Паўль фон Гіндэнбург (галоўны камандзір) і генерал Э. фон Людэндорф (начальнік штаба), якія са жніўня 1916 г. узначалілі ОГК. Галоўную «скрыпку» ў гэтым дуумвіраце адыгрываў Людэндорф, які стаў галоўным архітэктарам «краіны Обер Ост» — «ваеннай дзяржавы», якая мела сваё ўласнае заканадаўства, судовую, падатковую, мытную сістэму і нават уласныя эрзац–пашпарты і грошы. Людэндорф лічыў, што Нямеччына павінна «ўзаконіць» свой захоп заходніх ускраін Расіі і адначасова не дапусціць утварэння «Вялікай Польшчы» з рэштак былой Рэчы Паспалітай, якая магла заявіць свае прэтэнзіі на польскія этнічныя землі, якія знаходзіліся ў складзе Другога Рэйха[132].

Усталяваны Нямеччынай акупацыйны рэжым на захопленых беларуска–літоўскіх землях істотна адрозніваўся ад тых парадкаў, якія кайзераўскія ўлады ўводзілі на акупаваных тэрыторыях Бельгіі, Францыі і расійскай Польшчы. Уся адміністрацыйная ўлада ў зоне Обер Ост знаходзілася непасрэдна ў руках галоўнага камандзіра франтам і яго штаба. Цэнтралізаваная сістэма кіравання Обер Ост паступова сфармава-

[131] Головченко В. І., Солдатенко В. Ф. Українське питання в роки Першої світової війни. — Київ: Парламентське видавництво, 2009. — С. 82—83.
[132] Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 470.

лася з тылавых упраў асобных нямецкіх армій: 8–й (Курляндыя), 9–й (Беласточчына), 10–й (Віленшчына) і 12–й (Гарадзеншчына). Канчаткова структура і штат акупацыйнай адміністрацыі, якую вянчала Галоўная ваенная ўправа (ГВУ) Обер Ост, былі сфарміраваны ў ліпені 1916 г.[133]. ГВУ былі падпарадкаваны 4 генеральныя акругі (Verwaltungsbezirk): «Курляндыя» (тэрыторыя ў 19 тыс. кв. км), «Літва» (42 тыс. кв. км), «Вільня—Сувалкі» (21 тыс. кв. км) і «Беласток—Горадня» (28 тыс. кв. км)[134]. Апошнія ў сваю чаргу падзяляліся на 59 паветаў або раёнаў (Kreis), у тым ліку 7 гарадскіх[135]. Пазней, пасля ўзбуйнення паветаў, іх колькасць скарацілася да 33–х. Берасцейскі, Кобрынскі, частка Пружанскага і Пінскага паветаў, а таксама тэрыторыя Валыні ўвайшлі ў склад тылавога раёна (Rückwärtiger Verwaltungsbezirk) нямецкага Усходняга фронту (каля 33 тыс. кв. км).

Беларускія этнічныя землі, такім чынам, апынуліся ў межах генеральных акруг «Беласток—Горадня», «Вільня—Сувалкі», «Курляндыя» (беларуская частка Латгаліі) і аператыўна–тылавога раёна Усходняга фронту. Адміністрацыйным цэнтрам Обер Ост стала Коўна, а з 25 студзеня 1917 г. — Беласток[136].

Дэманструемая Нямеччынай лаяльнасць да мясцовых нерасійскіх нацыянальнасцяў павінна была станоўча працаваць на міжнародны імідж Другога Рэйха як «абаронцы малых народаў Еўропы». Для ідэалагічнага забеспячэння антырасійскай кампаніі пад апекай Нямеччыны і Аўстра–Вугоршчыны ў 1915 г. была ўтворана «Ліга абароны правоў чужародных народаў Расіі»[137]. Галоўнай задачай гэтай арганізацыі стала апеляцыя да сусветнай грамадскасці аб парушэнні правоў нерасійскіх народаў у Расійскай імперыі і, адначасова, прэзентацыя Нямеччыны і яе хаўруснікаў у якасці справядлівых арбітраў у вырашэнні нацыянальнага пытання ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне[138]. Ставіліся і іншыя задачы: прыцягненне да калабарацыі прадстаўнікоў мясцовых нацыянальных эліт, імкненне ўберагчы рэгіён ад міжэтнічнага супрацьстаяння, якое абвастрылася з пачаткам вайны.

Трэба сказаць, што беларускія дзеячы імкнуліся выкарыстаць пляцоўку «Лігі абароны правоў чужародных народаў Расіі» ў сваіх мэтах. У 1916 г. на канферэнцыі Лігі ў Лазане беларуская дэлегацыя, у якую ўваходзілі І. Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі і Язэп Салавей, выступіла са стратэгічным планам стварэння з акупаваных немцамі і аўстрыйцамі ўкраінскіх, беларускіх і літоўскіх зямель новага дзяржаўнага ўтварэння, якое б стала хаўруснікам Нямеччыны, а І. Луцкевіч у сваім дакладзе выказаўся за аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага як беларуска–літоўска–ўкраінскай міждзяржаўнай канфедэрацыі[139].

---

133 Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges.., s. 6.

134 Адміністрацыйна–тэрытарыяльны падзел Обер Ост неаднаразова мяняўся. Згаданыя генеральныя акругі былі арганізаваны ў пачатку 1916 г. з рэгіянальных акруг (Bezirk) «Вільня», «Сувалкі», «Беласток» і «Горадня». У сваю чаргу «Вільня—Сувалкі» 16 сакавіка 1917 г., а «Беласток—Горадня» — 1 лістапада 1917 г. былі далучаны да генеральнай акругі «Літва» і разам утварылі адзіную ваенную ўправу, падзеленую на 2 раёны — «Паўночная Літва» і «Паўднёвая Літва».

135 Наш Край // Гоман. — 1917, 16 траўня.

136 Наш Край // Гоман. — 1917, 9 кастр.

137 «Ліга абароны правоў чужародных народаў Расіі» складалася з прадстаўнікоў антырасійскіх палітычных арганізацый. Яе арганізацыйныя цэнтры дзейнічалі ў нейтральных краінах — Швейцарыі і Швецыі.

138 Zetterberg S. Die Liga der Fremdvölker Rußlands 1916—18. Ein Beitrag zu Deutschlands Antirussischem Propagandakrieg unter den Fremdvölkern Rußlands im Ersten Weltkrieg // Studia Historica. Finnische Historische Gesellschaft Suomen Historiallinen Seura — Finska Historiska Samfundet. — Vol. 8. — Helsinki: Forssan Kirjapaino Oj, 1978. — S. 17—21; Гулевіч Я. З'езд у Стакгольме // Гоман. — 1917, 20 сак.

139 З. Ж. [Зміцер Жылуновіч]. Праф. Б.І. Эпімах–Шыпіла як піянер беларускага руху // Савецкая Беларусь. — 1924, 25 снеж.

Праграма Обер Ост па развіццю школьнай асветы на захопленых землях Беларусі і Літвы[140] з'яўлялася састаўной часткай кайзераўскай нацыянальнай палітыкі, якая павінна была забяспечыць устойлівае геапалітычнае панаванне Нямеччыны ў дадзеным рэгіёне. У «Канстытуцыі» Обер Ост, абвешчанай 25 чэрвеня 1916 г., было заяўлена пра адмову ад палітыкі анямечвання мясцовага жыхарства, аб аднолькавым стаўленні да ўсіх мясцовых нацыянальнасцяў і рэлігійных суполак[141]. Арганізацыя школьнай справы павінна была адбывацца «на народнай аснове пад нямецкім кіраўніцтвам і ўплывам»[142]. Курс на адкрытае анямечванне краю быў адкінуты толькі таму, што ён уяўляўся нямецкім палітыкам на дадзеным этапе нерэальным і неэфектыўным. Узамен была сфармулявана культурная праграма, ахарактарызаваная Х. Земке як «паварот на Захад»[143]. У рамках гэтай праграмы прадугледжавалася ізаляваць беларускія, літоўскія, латвійскія і ўкраінскія землі ад культурнага ўплыву Расіі і ўзамен стварыць новую сістэму афіцыйнай ідэалогіі, якая прапагандавала б нямецкі лад жыцця, фарміравала ў масавай свядомасці тутэйшага насельніцтва станоўчы вобраз Нямеччыны.

Школьнае навучанне павінна было здзяйсняцца ў прускім духу, але з улікам мясцовых нацыянальных і рэлігійных адметнасцяў. «Калі нямецкая прырода, — паведамлялася ў адным таемным нямецкім рапарце за 1916 г., — пераможа прыроду ўнутраную (у вучэбных планах і падручніках, стылі навучання і г.д.), то гэта будзе вялікім поспехам нямецкай палітыкі ў сферы адукацыі… Усё нямецкае павінна ўспрымацца тутэйшымі дзецьмі за ўзор, а затым гэта будзе перанесена на наступныя пакаленні»[144].

Першае, што было зроблена акупацыйнымі ўладамі на захопленых землях Беларусі і Літвы ў школьнай сферы, — забаронена выкладанне ў школах па–расійску. Першым такі загад 27 кастрычніка 1915 г. падпісаў шэф акупацыйнай адміністрацыі Вільні Эльдор Рыхард Поль[145]. Пазней гэта забарона была ўведзена ва ўсёй зоне акупацыі і замацавана законам[146]. Тлумачэнне, што гэта мера павінна спыніць русіфікацыю мясцовага нерасійскага жыхарства, нельга лічыць да канца абгрунтаваным. Нягледзячы на эвакуацыю на ўсход разам з расійскім войскам абсалютнай большасці прадстаўнікоў расійскай нацыянальнасці, у гарадах Беларусі і Літвы, паводле нямецкага перапісу 1916 г., заставалася некалькі тысяч расійскамоўных жыхароў. Падобная мера з'яўлялася дыскрымінацыйнай і ў дачыненні да расійскіх старавераў, многія з якіх не пайшлі ў бежанства, а засталіся жыць у акупаваным краі.

Гэта не адзіны прыклад, калі акупацыйная адміністрацыя падмяняла прынцып роўнага стаўлення да ўсіх нацыянальнасцяў палітычнай мэтазгоднасцю. Людэндорф, які добра разумеў гістарычную ролю польскай школы ва ўмацаванні і пашырэнні польскага нацыянальнага ўсведамлення, усімі сродкамі імкнуўся абмежаваць польскую адукацыю ў зоне Обер Ост. Яшчэ ў пачатку фармавання акупацыйнага рэжыму, 16 ліпеня 1915 г., Гіндэнбург загадаў выявіць на Віленшчыне і Гарадзеншчыне ўсе польскія школы і падпарадкаваць іх нямецкай адміністрацыі. Пазней, летам 1917 г., убачыўшы неэфектыўнасць ранейшых антыпольскіх захадаў, Людэндорф стаў ініцыятарам т.зв.

[140] Становішча школьнай справы ў Курляндыі, якая ўваходзіла ў зону Обер Ост, у дадзеным даследаванні не разглядаецца.

[141] Liulevicius V.G. War Land on the Eastern Front. Culture, National Identity and German Occupation in World War I.., p. 122.

[142] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 90.

[143] Тамсама, s. 91.

[144] Тамсама, s. 127.

[145] Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918.., s. 143.

[146] Пазнейшае дапаўненне да «Асноўных палажэнняў па адраджэнню школьнай справы» за 22 снежня 1916 г. аб дазволе факультатыўнага выкладання расійскай мовы практычна нідзе не выкарыстоўвалася ў зоне Обер Ост.

«Патрыятычнай інструкцыі», якая павінна была мабілізаваць усе нямецкія рэсурсы і сілы на «татальную вайну» з польскім нацыяналізмам[147]. Адміністрацыя Обер Ост зрабіла ўсё магчымае, каб перакрыць непажаданыя сувязі Віленшчыны і Гарадзеншчыны з карэннай Польшчай і не дапусціць несанкцыянаванага пранікнення ў акупацыйную зону польскай літаратуры і фінансавых сродкаў, якія маглі б паспрыяць пашырэнню на беларуска–літоўскіх землях польскай асветы[148].

Але не ўсе сярод нямецкага генералітэту падзялялі думку Людэндорфа. Былі і такія, што рабілі стаўку на польскі элемент у краі. Многія вышэйшыя нямецкія афіцэры слаба разбіраліся ў мясцовай нацыянальна–палітычнай сітуацыі, заставаліся ў палоне старых стэрэатыпаў, называючы беларуска–літоўскія землі «расійскай Польшчай». Пасля заняцця Вільні 18 верасня 1915 г. (паводле новага стылю) адна з даверaных асоб кайзера Вільгельма II граф Іахім фон Пфайль у сваёй адозве «Да жыхароў горада Вільні» абвясціў былую сталіцу ВКЛ «жамчужынай знакамітага Польскага Каралеўства» і абнадзеіў мясцовы польскі актыў, што «нямецкае войска спачувае польскаму насельніцтву і бачыць у ім свайго хаўрусніка»[149]. Заява высокапастаўленага ваеннага чыноўніка Другога Рэйха выклікала сапраўдную эйфарыю сярод тутэйшых палякаў і ў той жа час расчаравала літоўскіх і беларускіх нацыянальных дзеячаў, якія варожа ставіліся да планаў далучэння Літвы і Беларусі да Польшчы[150].

Урэшце перамагла пазіцыя Людэндорфа. У далейшым нямецкія акупацыйныя ўлады больш сур'ёзна ставіліся да вывучэння нацыянальнай спецыфікі краю. У 1916 г. у Коўна быў выдадзены «Атлас народаў Заходняй Расіі» (перавыдадзены ў 1917 г. у Гамбургу), у якім быў адлюстраваны нацыянальны склад жыхарства ў зоне Обер Ост[151]. Тады ж выйшаў вялікі інфармацыйны даведнік «Краіна Обер Ост», дзе былі прадстаўлены звесткі па гісторыі, эканоміцы і культуры рэгіёна, пададзены разнастайны статыстычны матэрыял, а таксама геаграфічныя карты[152].

У процівагу польскаму руху нямецкае кіраўніцтва вырашыла зрабіць сваім хаўруснікам літоўскі нацыяналізм, які па сваім уплыве і масавасці мог скласці рэальную канкурэнцыю прапольскім сілам у краі. Увосень 1915 г. кіраўніцтва Обер Ост са здзіўленнем адзначала, што на тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны жыве «вельмі распаўсюджанае, але моцна апалячанае племя беларусаў»[153]. Улічваючы размытасць нацыянальнай самасвядомасці, слабую згуртаванасць і няспеласць беларускага палітычнага руху, вышэйшае нямецкае кіраўніцтва не разлічвала ўсур'ёз выкарыстоўваць беларускі фактар у сваіх геапалітычных планах і скептычна ставілася да ініцыятыў слабага арганізацыйнага цэнтра беларусаў у Вільні — віленскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (БТДПВ). Тым не менш, у пачатку 1916 г. Людэндорф загадаў падтрымаць зварот апошняга ў справе

---

147 Liulevicius V.G. War Land on the Eastern Front.., p. 124.

148 Зносіны з Польшчай // Гоман. — 1916, 12 снеж.; Ляхоўскі У.В. Развіццё польскага школьніцтва ў заходняй частцы Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915—1918 гг., с. 184—185.

149 Abramowicz L. Litwa podczas wojny: Zbiór dokumentów, uchwał, odezw itp., — s. 7; Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie.., s. 159—160.

150 Dmowski R. Polityka polska i odbudowanie państwa. — Warszawa, 1926. — S. 147; Пукшта А. Грамадска–культурнае жыццё Вільні (1915—1918) // Спадчына. — 2001. — № 5—6. — С. 121—122.

151 Völkerverteilung in Westrußland. Atlas. — Kowno: Verlag der Presseabteilung beim Oberbefehlshaber Ost, 1916; Völkerverteilung in Westrußland. Hergestellt in der Druckerei des Oberbefehlshabers Ost. — Hamburg: Verlag Friederichsen, 1917; Карта нацыянальнасцяў нашага Краю // Гоман. — 1917, 30 студз.

152 Das Land Ober Ost. Deutsche Arbeit in den Verwaltungsgebieten Kurland, Litauen und Bialystok—Grodno. Bearbeiet von der Presseabteilung Ober–Ost. Mit 23 Lichtbildern, 3 Karten und 13 Federzeichnungen. — Stuttgart/Berlin: Deutsche Verlagsanstalt, 1917.

153 Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 185.

арганізацыі беларускай нацыянальнай школы. Але гэтая «падтрымка» мела выбарачны характар. На тэрыторыі генеральнай акругі «Вільня—Сувалкі» кайзераўская ваенная адміністрацыя не толькі не дапамагала арганізацыі беларускага школьніцтва, а наадварот, рабіла гэтаму перашкоды ў інтарэсах літоўскіх нацыяналістаў, якія лічылі гэтыя землі прыналежнымі да Літвы. Адначасова ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня», дзе пераважала беларускае насельніцтва, а доля літоўцаў не перавышала 1%, кіраўніцтва Обер Ост, каб спыніць польскую экспансію, зрабіла стаўку на развіццё беларускай нацыянальнай асветы і з канца 1916 г. пачало арганізоўваць масавыя беларускія пачатковыя школы.

У першы перыяд акупацыі кіраўніцтва Обер Ост адзначыла даволі прыхільнае стаўленне да сябе з боку большасці мясцовага габрэйскага жыхарства. Многія габрэі добра валодалі нямецкай мовай і ўхвалялі нямецкія дэкларацыі аб роўным стаўленні да ўсіх краёвых нацыянальнасцяў і рэлігійнай талерантнасці[154].

Напярэдадні прыходу кайзераўскіх войск, а таксама ў першы год акупацыі па ўсёй тэрыторыі, падпарадкаванай нямецкаму Усходняму фронту, замест былых казённых расійскіх школ пачалі сотнямі ўзнікаць прыватныя і грамадскія навучальныя ўстановы. Нягледзячы на цяжкія ўмовы іх існавання (адсутнасць адпаведных для заняткаў памяшканняў і вучэбнага інвентару, недахоп педагогаў, падручнікаў і канцылярскіх прылад), да канца 1915 г. у зоне Обер Ост было ўтворана звыш 1000 такіх «саматужных» школ[155]. Замест настаўнікаў–мужчын, мабілізаваных у расійскую армію ці эвакуіраваных на ўсход, вучыць дзяцей былі запрошаны выпускніцы і навучэнкі старэйшых класаў жаночых гімназій. Калі на тэрыторыі былой Ковенскай губерні дзейнічалі пераважна літоўскія навучальныя ўстановы, то на Віленшчыне і Гарадзеншчыне панавалі польскія. У гарадах і мястэчках пачалося аднаўленне чыннасці іўдзейскіх хедэраў і талмуд–тораў, адкрываліся і свецкія габрэйскія адукацыйныя ўстановы. Кіраўнікі прыватных і грамадскіх школ атрымлівалі матэрыяльную падтрымку з боку вясковых і мяшчанскіх грамад, заможных гараджан і абшарнікаў. Шмат увагі школьнай асвеце надавалі каталіцкія святары, якія на сродкі парафіяльных рад ствaралі школы пісьменнасці.

Несанкцыянаванае адкрыццё падобных навучальных установ ламала планы кіраўніцтва Обер Ост па стварэнню ўласнай адукацыйнай сістэмы. Каб не выпусціць сітуацыю з–пад кантролю, акупацыйная ўлада пайшла на максімальнае абмежаванне прыватнай і грамадскай ініцыятывы ў адукацыйнай сферы. У кароткі тэрмін было створана ўніфікаванае школьнае заканадаўства і цэнтралізаваная сістэма кіравання школьнай справай.

Метады ўздзеяння на грамадскія і прыватныя навучальныя ўстановы былі разнастайнымі: ад палітычных і адміністрацыйных да эканамічных. Каб пазбавіць гэтыя школы фінансавай падтрымкі з боку розных грамадскіх і культурна–асветных таварыстваў, пастановай ГВУ Обер Ост за 20 снежня 1915 г. была праведзена перарэгістрацыя апошніх. Паводле новых статутаў, іх чыннасць у школьнай сферы была моцна абмежавана. Парушэнне загада аб перарэгістрацыі каралася вялікім штрафам або турэмным зняволеннем да 1 года[156].

Больш вольна ў зоне Обер Ост адчувалі сябе дабрачынныя арганізацыі. Нямецкая ваенная адміністрацыя не рабіла вялікіх перашкод іх чыннасці, бо разумела, што без удзелу грамадскасці ў сацыяльнай падтрымцы бяднейшых пластоў жыхарства сітуацыя магла б выйсці з–пад кантролю акупацыйных улад і прывесці да ма-

[154] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 62.

[155] Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918).., b. 764.

[156] Befehls–und–Verorgnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost. In 3–Bde. — Hauptquartier (Kowno—Bialystok), 1915—1918. — Bd. 1. — S. 24.

савага непадпарадкавання рэжыму. Людэндорф нават загадаў не рабіць перашкод у дабрачыннай працы на акупаванай тэрыторыі міжнародным камітэтам і фондам, якія дзейнічалі праз нейтральныя краіны[157]. Прывілеяванае прававое становішча таварыстваў дапамогі пацярпелым ад вайны і беднякам выкарыстоўвалася мясцовымі грамадскімі асяродкамі не толькі ў дабрачынных мэтах. Пры ўзгаданых арганізацыях ствараліся культурна–асветныя філіялы, пад патранатам якіх аказвалася матэрыяльная і вучэбная дапамога школьнікам і настаўнікам, ствараліся школы і інтэрнаты для навучэнцаў, выдаткоўваліся сродкі на выданне падручнікаў. У зоне Обер Ост на 1916 г. было зарэгістравана звыш 150 дабрачынных таварыстваў, агульны бюджэт якіх складаў каля 133 тыс. акупацыйных марак. Толькі ў Вільні адрасную сацыяльную падтрымку атрымлівалі каля 44 тыс. жыхароў (30% усяго насельніцтва горада), а 6 тыс. мясцовых дзяцей забяспечваліся праз школы гарачымі абедамі, вопраткай і абуткам, школьнымі падручнікамі і патрэбнымі для навукі прыладамі[158].

22 снежня 1915 г. на аснове школьнага заканадаўства Прусіі былі выдадзены «Асноўныя палажэнні па адраджэнню школьнай справы» Обер Ост, якія былі ўдакладнены асобнымі дырэктывамі за 16 студзеня, 7 сакавіка і 13 красавіка 1916 г., а таксама пазнейшымі нарматыўнымі актамі [гл. *Дадаткі 3—6*]. Рэалізацыя іх у поўным аб'ёме пачалася толькі ў кастрычніку 1916 г., калі канчаткова была сфарміравана ўладная вертыкаль школьнай адміністрацыі Обер Ост[159].

Паводле школьнага заканадаўства Обер Ост, галоўныя напрамкі адукацыйнай палітыкі ў акупацыйнай зоне вызначаў камандзір Усходнім фронтам. У яго кампетэнцыю таксама ўваходзіла вызначэнне тэрмінаў пачатку і заканчэння навучальнага года. Кантроль за дзейнасцю навучальных устаноў і кадравую палітыку ў школьнай сферы ажыццяўляў шэф VIII аддзела Обер Ост і яго рэферэнты [гл. *Дадатак 3, п. 1*]. Першым загадчыкам VIII аддзела і непасрэдным распрацоўшчыкам згаданых законапраектаў з'яўляўся ранейшы дарадца прускага Міністэрства асветы маёр Герхард Альтман[160]. Арганізацыйная структура школьнай адміністрацыі ў межах генеральнай акругі была арганізавана па наступнай схеме: начальнік генеральнай акругі — шэф акруговай школьнай адміністрацыі і яго памочнікі.

У межах павета, а таксама ў буйных гарадах за чыннасць масавых школ і за кадравыя пытанні адказвалі, з аднаго боку, начальнік павета ці горада (крайсгаўптман, обергаўптман) або іх намеснікі (бургамістр, як гэта было ў Вільні), а з другога — школьны інспектар. Яны павінны былі каардынаваць паміж сабой усю працу. Першым ставілася ў абавязак урэгуляванне «школьных дачыненняў вонкавага характару», другому — «унутраная школьная праца»[161]. З–за недахопу нямецкіх школьных чыноўнікаў чыннасць аднаго школьнага інспектара ахоплівала, як правіла, 3—4 паветы. На чэрвень 1916 г. у генеральных акругах «Вільня—Сувалкі» і «Беласток—Горадня» ў штаце было ўсяго 8 школьных інспектараў (па 4 на кожную акругу). Бліжэйшымі памочнікамі школьнага інспектара былі старшы настаўнік[162] і выкладчык нямецкай мовы. Апошнія, як правіла, набіраліся з настаўнікаў–апалчэнцаў, мабілізаваных у нямецкае войска (Lehrer–Landsturmann). Службовая інструкцыя Обер Ост за 1916 г. вызначала для іх наступную квоту: у генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» прызначаліся 9 старшых настаўнікаў і 19 выкладчыкаў ня-

---

157 Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 195.

158 Помач зруйнаваным праз вайну // Гоман. — 1916, 18 лют.

159 Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 30.

160 Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 201.

161 Начальніку павета (ці обергаўптману) у кіраўніцтве школьнай справай у рэгіёне належала першая роля.

162 Старшы настаўнік павінен быў наглядаць за школамі ў межах павета, але таксама мог быць кіраўніком некалькіх элементарных школ у межах воласці або адной шматкласавай пачатковай школы павышанага тыпу.

мецкай мовы, у генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» — адпаведна 6 і 34. Уся нямецкая школьная адміністрацыя Обер Ост на пачатак 1917 г. не перавышала 125 чалавек[163]. Выкладчыкі нямецкай мовы — грамадзяне Нямеччыны — былі задзейнічаны галоўным чынам у гарадах.

У якасці дарадчых органаў акупацыйным заканадаўствам прадугледжвалася стварэнне сельскіх і гарадскіх школьных упраў (Einstellung) ці рад (Schulbeirat), якія павінны былі фарміравацца пад старшынствам начальніка павета або абергаўптмана з прадстаўнікоў мясцовай грамадскасці [гл. *Дадаткі 3 і 4, п. 19*]. Апошнія павінны былі абірацца ад вясковых, мяшчанскіх і нацыянальных грамад. Прадстаўніцтва той ці іншай этнічнай групы ў гэтых школьных радах павінна было быць прапарцыянальным яе долі ў агульным складзе насельніцтва горада ці павета[164]. У абавязак школьных рад уваходзіла матэрыяльнае і вучэбнае забеспячэнне школ, арганізацыя гарачага харчавання для дзяцей і іншыя пытанні. Іх рашэнні насілі выключна рэкамендацыйны характар, бо канчатковы вердыкт па ўсіх пытаннях выносіў сам кіраўнік мясцовай нямецкай адміністрацыі. Школьныя рады былі ўтвораны толькі ў буйных гарадах акупацыйнай зоны. У генеральных акругах «Вільня—Сувалкі» і «Беласток—Горадня» яны дзейнічалі толькі ў Вільні і Беластоку[165]. Габрэйскія рэлігійныя школы (хедэры і талмуд–торы) у зоне Обер Ост заставаліся пад загадам мясцовых габрэйскіх грамад, «аднак без перашкоды нагляду» для нямецкай школьнай адміністрацыі.

Школьная сістэма Обер Ост складалася з масавых пачатковых ці элементарных школ з 2–гадовым тэрмінам навучання, пачатковых школ павышанага тыпу, дзе дзеці вучыліся 3—5 гадоў, ніжэйшых тэхнічных і сельскагаспадарчых школ, а таксама сярэдніх навучальных устаноў (гімназій, ліцэяў, рэальных вучэльняў) [гл. *Дадатак 3, п. 16*]. Вышэйшая школа на акупаваных літоўска–беларускіх землях так і не была створана, хоць палажэнні аб ёй былі закладзены ў школьным заканадаўстве Обер Ост. Масавыя хваляванні студэнтаў Варшаўскага ўніверсітэта ў чэрвені 1917 г. моцна напалохалі нямецкія ўлады[166]. Мясцовая акупацыйная адміністрацыя асцерагалася, што стварэнне вышэйшай навучальнай установы ў Вільні ці Коўна магло б яшчэ больш узмацніць антынямецкія настроі ў грамадстве. У планах Другога Рэйха Беларусь і Літва павінны былі стаць сельскагаспадарчым прыдаткам Усходняй Прусіі і тэрыторыяй для «пасляваеннага ўладкавання нямецкіх жаўнераў»[167], таму развіццё вышэйшай адукацыі не стаяла ў планах акупантаў. Акупацыйная адміністрацыя таксама не дазволіла адкрываць публічныя (народныя) універсітэты. 19 лютага 1916 г. начальнік акругі «Вільня», маёр Іахім фон Умпфенбах забараніў чыннасць Віленскага інтэрнацыянальнага публічнага ўніверсітэта імя А. Міцкевіча[168]. На час вайны нямецкія ўлады адмовіліся ад падтрымкі развіцця ў акупацыйнай зоне сярэдняй і прафесійна–тэхнічнай адукацыі. Нешматлікія гімназіі і рэальныя вучэльні, а таксама ніжэйшыя сельскагаспадарчыя і рамесныя школы, якія мелі дазвол на сваё існаванне, утрымліваліся выключна на сродкі грамадскіх арганізацый, нацыянальных камітэтаў і прыватных асоб. Такая пазіцыя кіраўніцтва Обер Ост у дачыненні да сярэдняй адукацыі ў акупацыйнай зоне была не выпадковай. У пасляваенны час кайзераўскі ўрад планаваў тут арганізаваць пераважна нямецкамоўныя гімназіі, рэальныя вучэльні, а таксама пачатковыя школы павышанага тыпу. Такім чынам акупацыйныя ўлады намерваліся здзейсніць план

---

[163] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 29—30.

[164] У Вільні // Гоман. — 1916, 18 ліп.

[165] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 28.

[166] Закрыццё Варшаўскага універсітэта // Гоман. — 1917, 26 чэрв.

[167] Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 470.

[168] Тамсама, с. 202; У Вільні // Гоман. — 1916, 6 кастр.; Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918).., b. 766.

«паступовага культурнага анямечвання» тутэйшых жыхароў, які быў разлічаны на некалькі дзесяцігоддзяў. Выказанае меркаванне пацвярджаюць палажэнні школьнага заканадаўства Обер Ост аб статусе нямецкамоўных школ на акупаванай тэрыторыі Латвіі, Літвы і Беларусі [гл. *Дадатак 3, п. 10* і *Дадатак 4, удакладненне да п. 7*].

У час рэалізацыі плана па стварэнні ў акупацыйнай зоне цэнтралізаванай школьнай сістэмы ў генеральных акругах Обер Ост меліся свае адметнасці і адрозненні. У генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» мясцовая нямецкая адміністрацыя імкнулася адразу стварыць адзіныя правілы для ўсіх навучальных устаноў, не зважаючы на іх прыналежнасць і статус. Галоўная стаўка рабілася на павелічэнне колькасці казённых элементарных адукацыйных устаноў, адначасова вёўся наступ на прыватныя і грамадскія школы. На працягу кастрычніка 1915 г. і лютага–лістапада 1916 г. было выдадзена некалькі адмысловых загадаў аб забароне адкрыцця новых грамадскіх і прыватных навучальных устаноў. Адначасова ўзмацняўся адміністрацыйны кантроль за чыннасцю ўжо існуючых неказённых школ. Штогод іх загадчыкі павінны былі атрымліваць дазвол (легітымацыю) на далейшае існаванне. Вучэбна–педагагічная праца ў гэтых школах таксама была падкантрольна нямецкай школьнай адміністрацыі. На падставе любой, нават неістотнай фармальнасці тая ці іншая неказённая адукацыйная ўстанова магла быць зачынена. Аднак, нягледзячы на моцны паліцэйскі і эканамічны ціск, частка прыватных і грамадскіх школ у дадзенай генеральнай акрузе працягвала сваё існаванне да канца акупацыі. Іх доля ў агульнай колькасці навучальных устаноў на канец 1916 г. не перавышала 20%[169]. Большасць неказённых навучальных устаноў знаходзілася ў гарадах і ўтрымлівалася за кошт сродкаў розных грамадскіх арганізацый або прыватных асоб. У сельскай мясцовасці захаваліся таксама рэшткі парафіяльных школ пісьменнасці. Мясцовая адміністрацыя не адважылася зліквідаваць усе «саматужныя» школы і замяніць іх казённымі. Зрабіць гэта ў першую чаргу не дазвалялі фінансавыя і арганізацыйныя рэсурсы, акрамя таго, такія крокі маглі справакаваць масавыя грамадскія пратэсты ў гарадах, дзе прыватная і грамадская школьная асвета дамінавала над казённай. Гэта тычылася ў першую чаргу Вільні, галоўнага эканамічнага і культурнага краёвага цэнтра, дзе фактычна ўсе ненямецкія пачатковыя школы былі грамадскімі або прыватнымі.

Варта падкрэсліць, што казённыя навучальныя ўстановы ў зоне Обер Ост толькі ўмоўна можна было назваць такімі. Утрымліваліся яны не на дзяржаўныя датацыі Другога Рэйха, а за кошт «унутраных рэсурсаў». Тыя грошы, якія акупацыйныя ўлады выдаткоўвалі на школьную справу, браліся з падатковых збораў, якімі абкладалася мясцовае жыхарства. Значная доля сродкаў на ўтрыманне школ паступала ад платы за навучанне («школьных грошай»), ахвяраванняў дабрачынных арганізацый і прыватных асоб.

За час акупацыі колькасць масавых элементарных школ у генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» паступова павялічвалася. Калі ў студзені 1916 г. было ўсяго 65 пачатковых школ з 4 тыс. навучэнцаў, у сакавіку — адпаведна 79 з 7 тыс., у кастрычніку таго ж года — 231 з 19 тыс. школьнікаў, у снежні 1917 г. — 784 (звыш 47 тыс. школьнікаў), а ў красавіку 1918 г. — ужо 985 [гл. *Дадатак 8—10*][170].

Уведзеная плата за навучанне, улічваючы жабрацкае становішча большасці жыхароў краю, была адносна памяркоўнай — 1—2 акупацыйныя маркі штомесяц. Паводле рашэння нямецкай улады, «школьныя грошы» ў генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» павінны былі кампенсаваць палову ўсіх выдаткаў на пачатковую адукацыю. Астатнія сродкі выдзяляліся з ваеннага фонду акруговай адміністрацыі. З–за далейшага пагаршэння матэрыяльных умоў жыцця тутэйшага жыхарства іх доля ў 1918 г. склала толькі 1/3 частку акруговага школьнага бюджэту[171].

[169] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 39.
[170] Тамсама, s. 36.
[171] Тамсама, s. 39—40.

Школьная палітыка акруговай управы «Беласток—Горадня» істотна адрознівалася ад метадаў, якія ўжывала віленская адміністрацыя. Цэнтралізаваная сістэма кіравання школьнай асветай склалася тут пазней, у выніку чаго грамадская і прыватная школа (галоўным чынам польскамоўная) мела значную перавагу над казённай. У першай палове 1916 г. тут дзейнічала 417 неказённых навучальных устаноў, у якіх навучаліся 14 тыс. школьнікаў. Мясцовай акупацыйнай адміністрацыі доўгі час не ўдавалася ўзяць пад свой кантроль справу школьнага навучання. На пачатак 1917 г. 57% усіх школ у акрузе па–ранейшаму заставаліся непадкантрольнымі школьнай адміністрацыі. Толькі пасля ўмяшальніцтва кіраўніцтва VIII аддзела Обер Ост на чале з маёрам Стэфанам Рудэнэкам і ўзмацнення адміністрацыйнага і эканамічнага ціску на «саматужныя» школы сітуацыя стала мяняцца на карысць нямецкай улады. Было зроблена ўсё, каб ізаляваць школу ад уплываў мясцовых абшарнікаў і каталіцкіх святароў, якія былі галоўнымі фундатарамі польскай асветы ў акрузе. Многія школы, якія ўтрымліваліся за ўласны кошт, былі зачынены, а замест іх адкрываліся казённыя. У выніку гэтых жорсткіх захадаў на снежань 1917 г. агульная колькасць школ у акрузе зменшылася на 22% (на 93 школы). З 324 пачатковых навучальных устаноў, што засталіся, 298 (каля 92%) з'яўляліся ўжо казённымі, з якіх, у сваю чаргу, 79 былі беларускамоўнымі (гл. *Дадатак 8*). На пачатак 1918 г. у генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» легальнае прыватнае школьніцтва было фактычна зліквідавана[172].

Таксама па іншай схеме ў дадзенай генеральнай акрузе здзяйснялася і фінансаванне казённых навучальных устаноў. Практыка выкарыстання «школьных грошай» не атрымала тут шырокага распаўсюджання. Былі задзейнічаны іншыя, больш жорсткія прымусовыя метады. У буйных гарадах у «добраахвотна–прымусовым» парадку ўтвараліся т.зв. «школьныя хаўрусы» (Schulverbände), куды заможныя мяшчане павінны былі ўносіць грашовыя складкі на ўтрыманне казённых школ. Упершыню такая практыка была выкарыстана ў Горадні ў кастрычніку 1916 г., калі па загаду мясцовага обергаўптмана былі арганізаваны 2 такія «саюзы» — хрысціянскі і іўдзейскі[173]. У сельскай мясцовасці акупацыйныя ўлады ахвотна ішлі на прымусовае абкладанне школьным падаткам тутэйшых абшарнікаў. Гэтым крокам адначасова дасягаліся дзве задачы: «выбіваліся» грошы на казённыя навучальныя ўстановы і ў той жа час пазбаўляліся фінансавай падтрымкі з боку патэнцыйных мецэнатаў польскамоўныя прыватныя школы.

Асноўнай ідэалагічнай задачай школьнага навучання паводле «Асноўных палажэнняў» з'яўлялася выхаванне мясцовых дзяцей у павазе да ўлад Нямеччыны і яе ўзброеных сіл, прывучэнне іх «да паслухмянасці і парадку». Пад пагрозай турэмнага зняволення і смяротнай кары ў сценах навучальных устаноў забаранялася «садзейнічаць, арганізоўваць ці праводзіць мітынгі, скіраваныя супраць нямецкай улады і ваенных парадкаў» [гл. *Дадатак 3, п. 6*].

Педагагічная чыннасць настаўнікаў падлягала татальнаму кантролю з боку нямецкай адміністрацыі. Кандыдатаў на настаўніцкія пасады для школ, якія знаходзіліся на ўтрыманні акупацыйнай адміністрацыі, разглядаў і зацвярджаў начальнік павета ці горада; для прыватных, грамадскіх і парафіяльных школ — павятовая школьная ўправа, падкантрольная ГВУ Обер Ост. Дазвол на педагагічную працу дзейнічаў толькі на час вайны. Без згоды начальніка павета ці горада настаўнікам не дазвалялася самавольна пераходзіць з адной у другую навучальную ўстанову [гл. *Дадаткі 3—6, пп. 14, 15, 20, 26, 27*]. Абавязковай рэгістрацыі ў школьнай адміністрацыі падлягалі таксама хатнія настаўнікі і іўдзейскія меламеды, якія выкладалі ў хедэрах і талмуд–торах. Мінімальная вучэбная нагрузка для настаўніка складала ў тыдзень 32 гадзіны, для настаўніцы — 28 гадзін[174].

[172] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 40—41.
[173] Тамсама, s. 41—42.
[174] Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918.., s. 146.

Жадаючы канчаткова падпарадкаваць школу сваім мэтам і «ўдыхнуць» у настаўнікаў нямецкі дух і дысцыпліну, школьная адміністрацыя Обер Ост паставіла задачу ўзяць у свае рукі справу па падрыхтоўцы педагагічных кадраў для пачатковых школ. Яна пайшла на скасаванне большасці прыватных і грамадскіх педагагічных устаноў. Але разам з тым кайзераўскія ўлады не адважыліся ліквідаваць дзейнасць 4 з 7 грамадскіх педагагічных устаноў у Вільні — 3 польскіх і 1 літоўскай[175]. У астатніх гарадах і мястэчках акупацыйнай зоны ўсе «саматужныя» настаўніцкія навучальныя ўстановы былі скасаваны, а замест іх на сродкі ваеннай адміністрацыі арганізаваны казённыя настаўніцкія курсы і семінарыі[176] з 3—6–месячным курсам навучання. Акрамя гэтага, ладзіліся яшчэ 2—3–тыднёвыя «агульнаадукацыйныя курсы павышэння кваліфікацыі», якія дзейнічалі пры настаўніцкіх семінарыях падчас летніх вакацый і выконвалі задачу па перападрыхтоўцы педагагічных работнікаў. Падрыхтаваць высокакваліфікаваных педагогаў у падобных установах з вельмі абмежаваным тэрмінам навучання і скарочанай вучэбнай праграмай было немагчыма. Сама акупацыйная ўлада прызнавала іх існаванне часовай мерай, толькі на перыяд вайны. Перад названымі педагагічнымі ўстановамі ставілася задача прывіць будучым мясцовым настаўнікам «нямецкую форму навучання і метадычнае выхаванне ў духу практычнай школы». Асаблівая ўвага была звернута на вывучэнне нямецкай мовы. Слухачы курсаў павінны былі ўносіць плату за пражыванне ў інтэрнаце і харчаванне за ўвесь курс навучання. У суме гэта складала ад 80 да 140 акупацыйных марак, у залежнасці ад месца знаходжання навучальнай установы і тэрміну навучання. Гэта была немалая сума, калі ўлічыць, што настаўнік пачатковай школы зарабляў у месяц ад 40 да 60 акупацыйных марак. Калі вучыцца на курсы слухача накіроўвала мясцовая нямецкая адміністрацыя, апошняя сама аплачвала гэтыя выдаткі[177].

У перыяд акупацыі ў зоне Обер Ост дзейнічалі 13 настаўніцкіх семінарый і сталых курсаў, у якіх прайшлі навучанне звыш 500 настаўнікаў. Х. Земке прыводзіць звесткі аб дзейнасці 128 агульнаадукацыйных курсаў павышэння кваліфікацыі, якія праслухалі звыш 2 тыс. чалавек[178]. На снежань 1917 г. у зоне Обер Ост працавалі звыш 1700 настаўнікаў, якія абслугоўвалі звыш 1300 пачатковых школ і каля 73 тыс. вучняў[179].

Заканадаўчыя акты Обер Ост вызначалі школьны ўзрост для дзяцей у 6 гадоў [гл. *Дадатак 3, п. 6*]. Намер кайзераўскіх улад увесці ў бліжэйшай перспектыве ў зоне Обер Ост усеагульнае пачатковае навучанне (Schulpflicht) [гл. *Дадатак 3, п. 7*] так і застаўся нерэалізаваным. У акупацыйнай зоне не быў праведзены нават усеагульны перапіс дзяцей школьнага ўзросту, што павінна было папярэднічаць падрыхтоўчай працы па ўвядзенню «школьнага абавязку». «Патрэбы войска і айчыны (Нямеччыны) стаялі вышэй інтарэсаў занятых тэрыторый»[180], — гэтыя словы нямецкага гісторыка Х. Земке красамоўна ілюструюць прыярытэты нямецкага акупацыйнага рэжыму.

Кайзераўская адміністрацыя, паводле прускага ўзору, імкнулася ўвесці ў асобных паветах Обер Ост грашовыя пакаранні для бацькоў тых дзяцей, якія не наведвалі ці

175 Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1916—1917. — Bd. VI. — S. 41—43.

176 Адзначаныя педагагічныя ўстановы толькі па назве адпавядалі тым настаўніцкім семінарыям, якія дзейнічалі ў Прусіі і Расіі. Улічваючы тэрмін навучання і аб'ём вучэбнай праграмы, іх можна прыраўняць да настаўніцкіх курсаў.

177 Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918).., p. 764

178 Х. Земке ўдакладняе, што ў Патсдамскім архіве на пачатак 1930–х гг. меліся дакладныя звесткі аб 82 такіх курсах.

179 Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 82.

180 Тамсама.

прапускалі заняткі ў школе [гл. *Дадатак 3, п. 9*]. Але падобная мера ва ўмовах недахопу працоўных рук, асабліва на вёсцы, калі дзеці вымушаны былі працаваць пры хатніх гаспадарках, паказала сваю неэфектыўнасць на тэрыторыі Беларусі. У 19–ці з 33–х паветаў зоны Обер Ост, пераважна на Віленшчыне і Гарадзеншчыне, падобныя санкцыі ніколі не ўжываліся[181].

У элементарных школах у акупацыйнай зоне ўводзілася сумеснае навучанне для дзяўчынак і хлопчыкаў, але ў шматкласавых пачатковых вучэльнях павышанага тыпу дапускалася іх асобнае навучанне, калі для гэтага меліся неабходныя ўмовы. Прынцып асобнага навучання дзяўчат і хлапцоў дзейнічаў у сярэдніх школах Обер Ост. У адным школьным камплекце ў пачатковых школах колькасць вучняў не магла перавышаць 50, а ў сярэдніх — 40 чал. Класавыя пакоі павінны былі адпавядаць прынятым гігіенічным патрабаванням.

Фармаванне школ адбывалася паводле канфесійна–нацыянальнага прынцыпу: у адной школе маглі вучыцца дзеці толькі аднаго веравызнання і нацыянальнасці. Такім чынам акупацыйныя ўлады імкнуліся перадухіліць магчымыя канфлікты і непаразуменні на нацыянальнай і рэлігійнай глебе. Мовай выкладання ў школах абвяшчалася родная (матчына), на якой «з вучнем бацькі размаўляюць у хаце». Пры вызначэнні роднай мовы ўлічвалася і тое, што многія літоўцы і беларусы–каталікі пад уздзеяннем касцёла ўжывалі польскую мову. Беларуская мова, «адрозная ад расійскай», абвяшчалася самастойнай мовай, якую «дазвалялася выкарыстоўваць для выкладання ў школе без абмежавання» [гл. *Дадатак 5, п. 10*]. Упершыню, з часоў Вялікага Княства Літоўскага, беларуская мова прызнавалася як адна з афіцыйных і раўнапраўных краёвых моў. Гэта мела выключнае культурнае і палітычнае значэнне для беларускага народа і яго вызвольнага руху.

Праблема вызначэння роднай мовы вучняў ва ўмовах поліэтнічнага складу насельніцтва на Віленшчыне і Гарадзеншчыне з'яўлялася для нямецкай адміністрацыі адной з самых складаных. Многія беларусы–каталікі пад уплывам польскай прапаганды мясцовых ксяндзоў і абшарнікаў называлі сябе «палякамі», нягледзячы на тое, што ў штодзённым жыцці карысталіся беларускай «простай» мовай. У гарадах і мястэчках паланізацыя закранула свядомасць тутэйшых беларусаў каталіцкага веравызнання значна глыбей. Абсалютная большасць з іх лічыла сябе «палякамі» і ўжывала польска–беларускую трасянку. Сітуацыя ўскладнялася яшчэ тым, што нямецкія школьныя інспектары не валодалі беларускай мовай і вымушаны былі звяртацца да тутэйшых беларусаў па–польску. Выкарыстанне польскіх «тлумачоў» пры кантактах з беларускім насельніцтвам прыводзіла да масавых спекуляцый у моўным пытанні.

Для вызначэння роднай мовы тутэйшых дзяцей нямецкія ўлады нярэдка звярталіся да дапамогі найбольш паважаных у тутэйшай грамадзе асоб (старастаў ці солтысаў), якія павінны былі даваць аб'ектыўныя звесткі аб тым, якую «гаворку» ўжывае ў штодзённым жыцці тая ці іншая сям'я. У найбольш складаных выпадках школьную мову вызначала сама мясцовая адміністрацыя. Вясковыя грамады ў пісьмовай форме маглі абскардзіць гэта рашэнне праз галоўную адміністрацыю Обер Ост. У сітуацыі, калі ў адным населеным пункце пражывала шматмоўнае насельніцтва, нямецкая адміністрацыя ішла на стварэнне для нацыянальнай меншасці асобных «ізаляваных» іншамоўных класаў у школах дамінуючай нацыянальнасці.

Галоўнай перашкодай у пашырэнні сярод беларускіх каталікоў школьнай асветы на роднай мове была прапольская пазіцыя мясцовага каталіцкага кліра. Адкрыццё беларускай школы для каталікоў–беларусаў насуперак волі віленскага біскупа ці мясцовага пробашча было «справай безнадзейнай»[182]. Нават самыя грозныя дырэктывы ГВУ

[181] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 49.

[182] Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 202.

Обер Ост былі тут бездапаможныя. У генеральнай акрузе «Беласток—Горадня», дзе дзейнічала найбольш жорсткая рэгламентацыя ў дачыненні да польскай асветы ва ўсёй зоне Обер Ост, кайзераўская адміністрацыя вымушана была саступаць настойлівым хадайніцтвам беларускага каталіцкага насельніцтва, ініцыіраваным мясцовымі ксяндзамі, і дазваляць насуперак інструкцыям адкрыццё польскіх школ.

Паводле школьнага заканадаўства Обер Ост, ва ўсіх школах, пачынаючы з першага класа, уводзілася абавязковае вывучэнне нямецкай мовы, «па магчымасці з найбольшай колькасцю гадзін, каб кожны вучань пасля заканчэння школы мог дастаткова валодаць як пісьмовай, так і вуснай нямецкай мовай» [гл. *Дадатак 3, п. 10*]. Адмыслова падкрэслівалася, што праз навучанне нямецкай мове павінна быць дасягнута асноўная мэта — «прышчапіць дзецям нямецкі вобраз мыслення і вобраз дзеяння». Доля школьных гадзін на выкладанне гэтага прадмета дасягала 20% у агульным вучэбным плане элементарнай школы (да 8 гадзін у тыдзень). Нямецкая школьная адміністрацыя дамагалася, каб нямецкая мова ўводзілася ў вучэбныя праграмы з першага класа. На пярэчанні прадстаўнікоў мясцовай грамадскасці, што гэтае рашэнне парушае галоўны прынцып педагогікі, паводле якога дзеці павінны набываць базавую адукацыю на роднай мове, акупацыйныя ўлады цынічна заявілялі, што тутэйшыя дзеці з даўніх часоў прызвычаіліся да двухмоўнасці (білінгвізму)[183].

На працягу першых 2 гадоў існавання акупацыйнага рэжыму выкладанне нямецкай мовы ў пачатковых школах з–за адсутнасці належнай колькасці настаўнікаў, а таксама з–за негатыўнага стаўлення да гэтага новаўвядзення тутэйшай грамадскасці было ўведзена толькі ў Курляндыі і Сувалках. Да канца 1917 г. нямецкая мова выкладалася ўжо ў большасці паветаў Обер Ост. У Вільні (часткова) і генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» яна была ўведзена вясной 1918 г.[184].

Мовай справаводства ў школах дырэктыўна абвяшчалася толькі нямецкая мова. Калі побач з «тутэйшай» школай месцілася навучальная ўстанова з нямецкай мовай выкладання, рэкамендавалася нямецкамоўную школу зрабіць вышэйшай паводле свайго статусу і з большым тэрмінам навучання. Гэта, на думку нямецкай улады, павінна было заахвочваць мясцовых дзяцей, якія жадалі працягваць вучобу пасля заканчэння элементарных школ, ісці вучыцца ў нямецкамоўныя навучальныя ўстановы павышанага тыпу. Заканадаўства не дапускала таксама, каб дзеці тутэйшых немцаў вучыліся ў іншамоўных вучэльнях.

Рэлігія павінна была выкладацца на роднай мове тутэйшага насельніцтва. Каб берагчы дзяцей беларускіх і літоўскіх каталікоў ад польскага ўплыву, у тых мясцовасцях, дзе каталіцкія парафіі ўзначальвалі прапольска арыентаваныя ксяндзы, начальнікам павета не рэкамендавалася дапускаць апошніх да выкладання Закону Божага ў казённых школах.

Для габрэяў у свецкіх школах навучанне павінна было весціся на ідыш («габрэйска–нямецкай гаворцы»). Выкарыстоўваць у школьным навучанні старажытнагабрэйскую мову дазвалялася толькі на ўроках рэлігіі, выкладанне ж на ёй ці на мадэрнізаваным іўрыце (Die neuhebräische Sprache) свецкіх вучэбных дысцыплін строга забаранялася. У гэтым дыскрымінацыйным палажэнні бачыцца відавочны палітычны падтэкст. Умацаванне ідыш у якасці роднай мовы габрэяў павінна было, на думку акупацыйных улад, стварыць фундамент для іх далейшага анямечвання. Пашырэнне ўжывання іўрыта, наадварот, успрымалася кайзераўскімі ўладамі як сродак прапаганды ідэй сіянізму, да якога кіруючыя колы Другога Рэйха ставіліся непрыхільна[185].

[183] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 65.
[184] Тамсама, s. 67.
[185] Goldsztain M. Szkolnictwo żydowskie w Wilnie // Przegląd Wileński. — 1925. — № 2.

Прадметамі навучання ў пачатковых школах акрамя рэлігіі, роднай і нямецкай моў былі таксама арыфметыка, спевы, фізкультура (гімнастыка). У сярэдніх навучальных установах разам з узгаданымі прадметамі выкладаліся гісторыя, геаграфія, алгебра і геаметрыя, прыродазнаўства, а таксама, дзе гэта было магчыма, неабавязковыя дысцыпліны: маляванне, ручная праца (дамаводства, пачаткі рамяства, садоўніцтва і агародніцтва).

На ўроках гісторыі павінны былі падавацца звесткі аб «роднай і нямецкай мінуўшчыне». Прыклады і факты, якія ў негатыўным святле інтэрпрэтавалі гісторыю Нямеччыны і яе сучаснае становішча, забараняліся пад пагрозай турэмнага зняволення. Школьныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі падлягалі двайной цэнзуры: напярэдадні і пасля іх выдання. Рэлігійная школьная літаратура павінна была прайсці «духоўную цэнзуру» ў Віленскай ці іншай каталіцкай кансісторыі. Выкарыстанне падручнікаў, выдадзеных у расійскія часы, забаранялася[186]. Парушэнне гэтага загада пагражала таксама турэмным зняволеннем на некалькі месяцаў і вялікім штрафам[187].

Усе вучэбныя прадметы ў ніжэйшых элементарных школах выкладаліся адным настаўнікам. У старэйшых класах пачатковых школ павышанага тыпу і сярэдніх навучальных установах выкарыстоўвалася прадметная сістэма выкладання.

Улічваючы тое, што з–за ваенных падзей 1915/16 навучальны год у акупацыйнай зоне быў фактычна сарваны, ГВУ Обер Ост прызначыла пачатак новага 1916/17 навучальнага года адразу пасля каталіцкай Пасхі — 1 траўня. Пасля кароткага летняга перапынку ў ліпені вучэбныя заняткі аднаўляліся ў пачатку жніўня. Такі парадак захаваўся да канца акупацыі. Пры гэтым значна павялічвалася працягласць школьнага навучальнага года і амаль на 1/3 скарачаліся вакацыі — да 56 дзён. Святочнымі днямі прызнаваліся т.зв. «Зялёныя святы» (з 9 па 14 чэрвеня), важнейшыя рэлігійныя святы (Каляды, Пасха ды інш.), а таксама дзень нараджэння кайзера Вільгельма II — 27 студзеня[188].

Гэтыя новаўвядзенні ламалі не толькі старыя традыцыі, што склаліся тут за многія дзесяцігоддзі, але яны не ўлічвалі яшчэ адзін вельмі важны аспект штодзённага жыцця тутэйшага вясковага насельніцтва. Зацверджаны расклад школьнага навучальнага года прыводзіў да фактычнага зрыву вучэбнага працэсу ў сельскай мясцовасці падчас сезонных сельскагаспадарчых работ. Дзеці старэйшага школьнага ўзросту, бацькі якіх былі мабілізаваны ў расійскае войска, вымушаны былі прапускаць заняткі ў школе ў траўні–чэрвені і жніўні–верасні, каб дапамагчы сваёй сям'і ў час сяўбы і жніва. У генеральных акругах «Вільня—Сувалкі» і «Беласток—Горадня» амаль усе вясковыя школы ў гэты перыяд спынялі сваю працу з–за адсутнасці вучняў. «Летнія» школы працягвалі дзейнічаць толькі ў гарадах і буйных мястэчках.

Летам 1917 г. ва ўмовах неўраджаю, калі Нямеччыне патрабаваўся хлеб, акупацыйная адміністрацыя сама стала ініцыятарам закрыцця многіх школ падчас жніва, каб кінуць дзяцей на «павышэнне ўраджайнасці»[189].

Супраціў кайзераўскай палітыцы ў галіне адукацыі, паводле слоў Людэндорфа, існаваў на захопленых землях на працягу ўсёй акупацыі. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. у Расіі разбурыла многія ідэалагічныя пабудовы акупацыйнай улады, дзякуючы якім яна імкнулася маніпуляваць грамадскай думкай і ствараць ілюзію міжнацыянальнай згоды ў зоне Обер Ост. Той жа Людэндорф вымушаны быў прызнаць, што «варожая прапаганда аб міры без анексій і аб праве малых народаў на самавызначэнне» карэнным чынам змяніла палітычную сітуацыю ў рэгіёне, што «ішло ўразрэз з нямецкімі інтарэсамі»[190].

---

[186] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 54.

[187] Befehls–und–Verorgnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost. In 3–Bde. Hauptquartier (Kowno–Bialystok).., Bd. I, s. 55—56.

[188] Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918.., s. 147; Апавяшчэнне // Гоман. — 1917, 6 студз.

[189] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 45—46.

[190] Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 471.

Рэвалюцыйныя падзеі ў Расіі не маглі не адбіцца і на сферы адукацыі ў зоне Обер Ост. Пачынаючы з вясны 1918 г., разам з няўдачамі на франтах, адміністрацыя Обер Ост паступова страчвала кантроль над школай на акупаваных землях. Прадстаўнікі мясцовых нацыянальных эліт і педагогі пачалі ўсё больш рашуча заяўляць аб сваёй нязгодзе з нямецкімі метадамі кіравання школьнай справай, дамагацца незалежнасці школы ад акупацыйнай адміністрацыі. Гэты супраціў выліўся ў байкот віленскімі настаўнікамі пастаноў школьнай улады Обер Ост па ўвядзенню выкладання нямецкай мовы з першага класа пачатковай школы, які распачаўся ў траўні 1918 г. Гэтую грамадскую акцыю нямецкі гісторык Х. Земке ахарактарызаваў як «непасрэдную атаку на школьныя прынцыпы нямецкага ўрада»[191]. Большасць польскіх і ўсе літоўскія школы Вільні адмовіліся падпарадкавацца «моўнаму дыктату» акупацыйнай адміністрацыі. Нягледзячы на пратэсты польскага Адукацыйнага камітэта і літоўскіх арганізацый, віленскі обергаўптман Э.Р. Поль загадаў закрыць 10 мясцовых школ: 4 літоўскія і 6 польскіх[192]. Але грамадскі супраціў атрымаў яшчэ большы рэзананс: да байкоту далучыліся іншыя настаўнікі польскіх школ, шэрагу габрэйскіх свецкіх навучальных устаноў, а таксама выкладчыкі некаторых мясцовых гімназій, якія выступілі за ўвядзенне выкладання нямецкай мовы толькі з 3–й класы. У адказ на пашырэнне настаўніцкай салідарнасці акупацыйная ўлада ўзмацніла рэпрэсіі: з чэрвеня па верасень 1918 г. былі закрыты 4 польскія гімназіі і 20 пачатковых школ, шэраг габрэйскіх адукацыйных устаноў. 16 кастрычніка 1918 г. польскія і габрэйскія настаўнікі дэманстратыўна ўзнавілі заняткі ў сваіх школах. У адказ нямецкія ўлады арыштавалі 11 польскіх і 4 габрэйскіх педагогаў — удзельнікаў акцыі. Была прынята новая пастанова, якая ўзмацняла рэпрэсіўныя меры супраць тых педагогаў, якія не падпарадкоўваліся школьнай адміністрацыі. Да снежня 1918 г. за нявыплату штрафаў пад арышт трапілі 18 польскіх і 4 габрэйскія настаўнікі[193]. Ваенны крах Нямеччыны ў лістападзе 1918 г. прымусіў акупацыйную адміністрацыю пайсці на кампраміс. 7 снежня 1918 г. была абвешчана адтэрміноўка ўвядзення «моўнага загада» ў Вільні да канца 1918/19 навучальнага года і дазволена аднавіць працу часткі мясцовых польскіх і габрэйскіх школ[194]. Гэты загад не меў ужо ніякага значэння, бо акупацыйны рэжым дажываў тут свае апошнія дні.

Трэба прызнаць, што акупацыйнай уладзе так і не ўдалося цалкам рэалізаваць свае планы па стварэнню «новай школы». Імі не было завершана фарміраванне на захопленых тэрыторыях новай адукацыйнай сістэмы: была арганізавана толькі сетка пачатковых элементарных школ, якая знаходзілася пад кантролем кайзераўскай адміністрацыі, у той час як амаль усе сярэднія навучальныя ўстановы, большасць прафесійна–тэхнічных вучэльняў і пачатковых школ павышанага тыпу заставаліся ў руках мясцовых грамадскіх і каталіцкіх дабрачынных устаноў, а таксама прыватных мецэнатаў. Агульная колькасць створаных у час акупацыі пачатковых школ не дасягнула і 50% колькасці былых расійскамоўных навучальных устаноў, якія дзейнічалі ў даваенны час. Рэалізаваць свае намеры нямецкім уладам перашкодзілі не толькі абмежаваны тэрмін акупацыі (3,5 гады) ці ўмовы ваеннага часу, але нарастаючы супраціў мясцовага грамадства, які насіў не толькі пасіўны, але і адкрыты характар.

---

191 Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918.., s. 95

192 Літоўскія пачатковыя школы былі закрыты да канца восені 1918 г. Настаўнікі 5 віленскіх беларускіх пачатковых школ не ўдзельнічалі ў гэтым байкоце. Не маючы той масавай грамадскай падтрымкі, як, напрыклад, польскія ці габрэйскія настаўнікі, яны прытрымліваліся ў гэтым канфлікце «нейтралітэту».

193 Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy. Dzial Starych Druków i Rękopisów (BPW. Dz. St. Druk). Akta Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich. ZCZW. Akc. 1680. Raporty rewidentów TSK Sluckiego pow. za 1920 r. S. 47—48v.

194 Ляхоўскі У.В. Развіццё польскага школьніцтва ў заходняй частцы Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915—1918 гг.., с. 186—188.

Лістападаўская рэвалюцыя 1918 г. у Нямеччыне прывяла да паэтапнай ліквідацыі ўсіх структур акупацыйнай адміністрацыі Обер Ост. Фармальна кіраванне школьнай справай у зоне «старой акупацыі» нямецкімі ўладамі было перададзена літоўскаму ўраду, але фактычнымі гаспадарамі становішча на Віленшчыне і Гарадзеншчыне сталі польскія нацыянальныя арганізацыі, якія распачалі тут аднаўленне закрытых раней нямецкімі ўладамі польскамоўных адукацыйных устаноў і стварэнне новых. Урад адроджанай польскай дзяржавы дамогся ад камандавання рэйхсвера згортвання ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» створанай сеткі няпольскіх казённых навучальных устаноў, большую частку якіх складалі беларускія пачатковыя школы[195]. Яшчэ раней, 18 кастрычніка 1918 г., адміністрацыя Обер Ост дазволіла займацца педагагічнай чыннасцю былым настаўнікам–уцекачам, якія вярнуліся з Расіі[196]. З гэтага часу адпалі фактычна ўсе ранейшыя нямецкія забароны на выкарыстанне расійскай мовы ў школах.

## 2.2. Змены ў прававым становішчы школы на новых захопленых тэрыторыях пасля заключэння Берасцейскай дамовы

Выкарыстаўшы цяжкае ўнутрыпалітычнае становішча ў Расіі, кайзераўскія войскі ў лютым 1918 г. распачалі шырокае наступленне на ўсход супраць дэмаралізаванай расійскай арміі і праз некалькі дзён выйшлі на лінію Расоны—Полацк—Орша—Магілёў—Быхаў—Рагачоў—Жлобін—Навазыбкаў. У зоне «новай нямецкай акупацыі» апынулася каля 100 тыс. кв. км этнічнай тэрыторыі Беларусі.

На тэрыторыі Міншчыны і заходніх паветаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, якія апынуліся ў 1918 г. у зоне «новай нямецкай акупацыі», за першы перыяд Першай сусветнай вайны адбыліся кардынальныя змены ў палітычнай і сацыяльна–эканамічнай сферах жыцця. Вайна спарадзіла ў Расійскай імперыі вострыя сацыяльна–эканамічны крызіс, прывяла да абвастрэння палітычнай сітуацыі ў краіне. Усе цяжкасці ваеннага часу ляглі на плечы ў першую чаргу неабароненых пластоў жыхарства. З усёй вастрынёй праявілася сацыяльная несправядлівасць існуючага ладу. Няўдачы на франтах, карумпаванасць дзяржаўных чыноўнікаў канчаткова падарвалі аўтарытэт царызму сярод грамадства, дыскрэдытавалі саму ідэю манархіі. Усё гэта адбывалася на фоне аслаблення ўсіх структур дзяржаўнай улады ў царскай Расіі, узрастання «ваенна–камуністычных» і анархічных настрояў у масах, абвастрэння міжнацыянальных дачыненняў. «Чалавек са стрэльбай» ператвараецца ў галоўнага ўдзельніка палітычных падзей у краіне, што стварыла перадумовы для вырашэння сацыяльных канфліктаў сілавым шляхам, не пакідаючы шанцаў на палітычны кампраміс. Рэвалюцыя, якую шмат у чым выклікала Першая сусветная вайна, была непазбежнай. Сувязь паміж вайной і рэвалюцыяй дастаткова распаўсюджаная з'ява ў сусветнай гісторыі, і Расія тут не з'яўлялася выключэннем.

Паводле Берасцейскай дамовы Нямеччына замацоўвала кантроль за большай часткай тэрыторыі Обер Ост на захад ад лініі Нарва—Дзвінск—Свянцяны—Ліда—Пружаны—Бярэсце. Часова захопленыя беларускія тэрыторыі на ўсход ад адзначанай лініі кайзераўскае кіраўніцтва разглядала ў якасці этнаграфічнай прасторы Расіі і Украіны. Афіцыйны Берлін не прызнаў незалежнасць Беларусі, абвешчаную Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., хоць адначасова не пайшоў на сілавую ліквідацыю беларускіх нацыянальных палітычных структур і дазволіў іх чыннасць у зоне «новай акупацыі». З былой ваенна–аперацыйнай зоны нямецкага Усходняга фронту (Берасцейскі, Пружанскі, Кобрынскі паветы), а таксама вылучаных са складу Мінскай і Магілёўскай губерняў Пінскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Гомельскага

[195] Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 471.
[196] Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918).., p. 767.

паветаў, паўднёвых валасцей Слуцкага і Бабруйскага паветаў стваралася асобная ваенна–адміністрацыйная ўправа. Пазней са згоды Нямеччыны гэтыя тэрыторыі павінны былі адысці да Украіны, у склад Валынскай, Кіеўскай і Чарнігаўскай губерняў[197]. Мінскі, Барысаўскі, Ігуменскі, большая частка Вілейскага, Навагрудскага, Бабруйскага і Слуцкага паветаў, усходнія рэгіёны Віцебскай і Магілёўскай губерняў знаходзіліся пад кантролем 10–й нямецкай арміі да часу заключэння ўсеагульнага міру і атрымання Нямеччынай ад РСФСР кантрыбуцыі, вызначанай Берасцейскім мірам[198]. Са свайго боку, Саўнаркам РСФСР у жніўні 1918 г. падрыхтаваў праект дэкрэта, паводле якога былыя грамадзяне Расіі, якія жылі на захад ад вызначанай савецка–нямецкімі пагадненнямі новай дзяржаўнай мяжы, пазбаўляліся расійскага грамадзянства[199]. Такім чынам, савецкі ўрад на той час дэ–факта прызнаваў жыхароў Гарадзеншчыны і большай часткі Віленшчыны замежнымі грамадзянамі. Лістападаўская рэвалюцыя 1918 г. у Нямеччыне сарвала рэалізацыю гэтых дыскрымінацыйных для беларускага народа пагадненняў.

Кайзераўская акупацыя новых беларускіх тэрыторый пагоршыла і без таго складанае становішча мясцовых навучальных устаноў. Вялікая частка школьных будынкаў у гарадах, мястэчках і вёсках была занята пад патрэбы нямецкіх вайсковых фармаванняў. Гэта прывяло да спынення на працяглы час заняткаў у шэрагу школ[200]. Школьныя будынкі, дзе кватаравалі нямецкія вайскоўцы, былі моцна пашкоджаны, а некаторыя з іх былі ператвораны ў канюшні і хлявы, у якіх без капітальнага рамонту немагчыма было аднавіць заняткі. Мэбля, вучэбны інвентар, бібліятэкі аказаліся разрабаванымі ці знішчанымі[201]. У шмат якіх гарадах адбылася рэквізіцыя грошай з гарадскіх, земскіх і грамадскіх скарбніц. Асаблівай бесцырымоннасцю вызначаліся тагачасныя хаўруснікі немцаў — легіянеры 1–га польскага корпуса ген. Юзафа Доўбар–Мусніцкага, пад кантролем якога да траўня 1918 г. знаходзіўся вялікі раён у «трохкутніку» Бабруйск—Магілёў—Рагачоў. У Бабруйскім павеце легіянеры прывялі ў нягоднасць будынкі вялікай колькасці вясковых школ, якія яны выкарыстоўвалі пад гаспадарчыя патрэбы і казармы[202]. Рэквізіцыя польскімі вайскоўцамі большай часткі гарадскога казначэйства Бабруйска прывяла да таго, што некалькі месяцаў настаўнікі мясцовых школ не атрымлівалі заробку[203], а ў час знаходжання ў Рагачове легіянеры 1–га польскага корпуса адзначыліся тым, што разрабавалі вучнёўскі інтэрнат, частку вучэбнага і гаспадарчага інвентару мясцовай настаўніцкай семінарыі. Нанесеная імі шкода была ацэнена ў 1400 руб. На зварот кіраўніцтва семінарыі аб кампенсацыі гэтых выдаткаў польскае ваеннае камандаванне, вольна інтэрпрэтуючы палажэнні закона ў рамках Гаагскай канвенцыі 1907 г. аб вядзенні сухапутных войн, заявіла, што ўся маёмасць навучальнай установы належыць акупацыйным войскам[204]. На далучаных да Украіны беларускіх землях украінскія эмісары імкнуліся правесці ўкраінізацыю мясцовых школ, дамагаліся ад кіраўнікоў, у першую чаргу сярэдніх і педагагічных навучальных устаноў, увядзення выкладання ўкраінскай мовы[205]. Нярэдка

---

[197] Центральний державний архів вищих органів влади та управління України (далей — ЦДАВО), ф. 3766, воп. 1, спр. 186, арк. 15—19.

[198] Гражданское управление Минской губернии // Минский голос. — 1918, 1 марта. Паводле арт. 3 савецка–нямецкага дадатковага пагаднення, падпісанага ў жніўні 1918 г., Нямеччына яшчэ да заключэння агульнага міру павінна была вывесці свае войскі за лінію на ўсход ад ракі Бярэзіна.

[199] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 169, арк. 16.

[200] Учебные заведения // Минский голос. — 1918, 24 февр.

[201] НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 8, арк. 44—46 адв.

[202] Тамсама, ф. 804, воп. 1, спр. 8, арк. 36 адв.

[203] Германцы о Бобруйске // Бобруйский голос. — 1918, 11 мая.

[204] НГАБ у Мінску, ф. 3260, воп. 1, спр. 356, арк. 3—5, 9, 12, 15, 19, 25, 29.

[205] Украинизированные уезды // Новый вестник. — 1918, 27 ноябр.

гэтыя загады праводзіліся ў жыццё пад прымусам украінскіх вайсковых кіраўнікоў, як гэта мела месца ў Пінскім павеце[206].

Урадам Савецкай Расіі рабіліся захады па матэрыяльнай падтрымцы навучальных устаноў у часова акупаванай зоне. З гэтай мэтай было вырашана стварыць адмысловы «стабілізацыйны» фонд. 27 ліпеня 1918 г. Дзяржаўны камітэт РСФСР па народнай асвеце прыняў пастанову аб неабходнасці выдзялення грошай для фінансавай падтрымкі гэтых школ. Наркамасветы РСФСР было даручана выпрацаваць дэкрэт наконт выдзялення адпаведных крэдытаў «дзеля захавання і фінансавання расійскіх навучальных устаноў у часова акупаваных абласцях»[207]. Саўнаркам РСФСР у жніўні 1918 г. падрыхтаваў па гэтаму пытанню праект дэкрэта, у якім адзначалася, што «жыхарства часова акупаваных вобласцяў Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі, паводле свайго сацыяльнага складу і культурна–нацыянальных памкненняў, шчыльна звязана з насельніцтвам астатняй Савецкай Расіі. Знясіленае 4–гадовай імперыялістычнай вайной, яно не можа аднавіць сваю школьную сетку без матэрыяльнай падтрымкі савецкай улады. У прыватнасці, школы Беларусі патрабуюць асаблівай увагі, таму што большасць з іх падчас спешнай і хаатычнай эвакуацыі былі расцярушаны па розных кутках Расіі, а тыя, што засталіся на старых месцах, апынуліся без сродкаў на існаванне і падтрымкі з боку Савецкай Расіі, і таму іх чакае поўны заняпад». СНК РСФСР меркаваў: 1) аднавіць усе крэдыты 1918 г. для школ часова акупаваных тэрыторый; 2) дазволіць усім раней эвакуіраваным навучальным установам рээвакуацыю з усёй маёмасцю на свае ранейшыя месцы знаходжання; 3) прызначыць адмысловую камісію пры Наркамасветы РСФСР для распрацоўкі плана правядзення школьнай рэформы і фінансавання школ на часова акупаванай тэрыторыі ды інш.[208]. Дадзеныя рашэнні ініцыяваў і лабіраваў Беларускі нацыянальны камісарыят у Маскве. Але гэты праект дэкрэта не быў рэалізаваны. Як і шэраг іншых праектаў і рэзалюцый савецкай улады, асабліва якія датычыліся пытанняў развіцця асветы і культуры, ён заставаўся «ідэалагічным пражэктам», дэкларацыяй на паперы. Вырашэнне гэтай праблемы таксама не дазвалялі пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне і крытычнае становішча на франтах грамадзянскай вайны. Да таго ж маскоўскія камісары не надта імкнуліся выдаткоўваць сродкі на патрэбы спрэчных тэрыторый.

У сувязі са спыненнем фінансавання былых казённых навучальных устаноў у зоне «новай нямецкай акупацыі» настаўнікі па некалькі месяцаў не атрымлівалі зарплату. Гэтыя ж прычыны не дазволілі рээвакуіраваць на радзіму абсалютную большасць краёвых бежанскіх школ, якія з 1915 г. знаходзіліся ў Расіі. Па ўзгадненню з нямецкім бокам увосень 1918 г. удалося рээвакуіраваць усяго некалькі навучальных устаноў: Мінскі настаўніцкі інстытут (з Яраслаўля), а таксама Мінскую мужчынскую казённую гімназію (з Масквы) і некаторыя інш.[209].

У першыя месяцы акупацыі на новых захопленых тэрыторыях нямецкая вайсковая адміністрацыя не ўмешвалася ва ўнутранае жыццё школы. Адным з камандзіраў 10–й нямецкай арміі было нават заяўлена, што нямецкія вайскоўцы прыбылі сюды ў якасці міратворцаў і вызваліцеляў мясцовага насельніцтва ад бальшавізму. «Мы, немцы, прыйшлі сюды выключна для аднаўлення парадку і міру», — заявіў ён пасля заняцця Мінска 21 лютага 1918 г.[210]. Мясцовыя навучальныя ўстановы, якія знаходзіліся пад апекай органаў мясцовага самакіравання і грамадскіх арганізацый, завяршылі 1917/18 навучальны год па старых прававых палажэннях і вучэбных праграмах, устаноўленых яшчэ Часовым урадам Расіі.

---

206 НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 9, арк. 24 адв.

207 Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 79, арк. 59.

208 Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 79, арк. 36—47.

209 Ляхоўскі У.В. Прадвеснік Адраджэння // Адукацыя і выхаванне. — 1994. — № 11. — С. 110.

210 Разъяснение немецкого коменданта // Минский голос. — 1918, 28 февр.

Сітуацыя змянілася летам 1918 г., калі акупацыйная адміністрацыя распачала адкрыты наступ на правы земстваў і гарадскіх самаўрадаў. Спачатку ў выканаўчыя структуры гэтых устаноў былі ўведзены нямецкія «назіральнікі» для палітычнага і фінансавага кантролю за іх чыннасцю. Супрацоўнік Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве Міхаіл Мароз, які пабываў у акупаваным Мінску ў верасні 1918 г., паведамляў у Маскву: «Тут акупацыя часовая. Здавалася б, немцам расхадзіцца тут няма як, але ўсё тут пад кантролем. Ва ўсіх урадавых і прыватных установах […] пануюць нямецкія прадстаўнікі. Усе каштарысы зацвярджаюцца (дакладней, не зацвярджаюцца) немцамі. [Яны] кантралююць усе прызначэнні і кадравыя перасоўванні, робяць рэвізію ўстаноў»[211].

Пазней органы мясцовага самакіравання былі ўвогуле пазбаўлены права самастойна фармаваць свой бюджэт. У канцы ліпеня 1918 г. начальнік штаба 10–й нямецкай арміі загадаў амаль напалову скараціць каштарыс Мінскага губернскага земства на другое паўгоддзе адзначанага года — з 4 млн. да 2 млн. рублёў. Пры гэтым выдаткі на школьную асвету «ўразаліся» на 67%. Былі выкраслены артыкулы на фінансаванне настаўніцкіх семінарый у Бабруйску, Барысаве і Нясвіжы, на адкрыццё 7 новых ніжэйшых рамесных вучэльняў і Мінскага сярэдняга палітэхнікума[212]. Утрыманне пачатковых навучальных устаноў акупацыйная адміністрацыя брала на сябе. Праўда, тых грошай, якія кіраўніцтва 10–й арміі выдаткоўвала на пачатковую адукацыю, не хапала нават на матэрыяльнае забеспячэнне ўсіх настаўнікаў. У гэтых умовах не магло ісці гаворкі аб значным пашырэнні школьнай сеткі, паляпшэнні вучэбна–метадычнай базы элементарных школ, асабліва ў сельскай мясцовасці, аб павышэнні зарплаты педагогам. Адначасова ў шэрагу сярэдніх навучальных устаноў была забаронена дзейнасць камітэтаў вучнёўскага самакіравання.

Непадпарадкаванне акупацыйным уладам прыводзіла, як правіла, да ліквідацыі непакорных грамадскіх устаноў. На працягу вясны і лета 1918 г. былі разагнаны гарадскія думы ў Нясвіжы і Мінску, абмежавана чыннасць Навагрудскай павятовай земскай управы, уведзена цэнзура прэсы і кнігадруку[213]. Замест гарадскога прадстаўнічага органа, абранага мінчукамі ў 1917 г. дэмакратычным шляхам на агульнагарадскіх выбарах, загадам мясцовага нямецкага обергаўптмана быў створаны т.зв. «гарадскі магістрат», рашэнні якога насілі рэкамендацыйны характар, а службовыя функцыі былі максімальна звужаны. Была звольнена загадчыца культурна–асветнага аддзела Мінскай гарадской управы Марыя Фрумкіна, а кіраўніцтва школьнай справай было ўскладзена немцамі на сакратароў нацыянальных школьных камісій[214].

17 верасня 1918 г. камандзір 10–й нямецкай арміі генерал Эрых фон Фалькенгайн падпісаў пастанову аб прынцыпах арганізацыі школьнай справы ў зоне «новай нямецкай акупацыі» (гл. *Дадатак 14*). У прэамбуле да дакумента адзначалася, што яго палажэнні адпавядаюць артыкулу 43 закона аб вядзенні сухапутных войн Гаагскай міжнароднай канвенцыі 1907 г. Аднак насамрэч гэтая пастанова па свайму духу і зместу, хоць і з больш мяккімі фармулёўкамі, вельмі нагадвала школьнае заканадаўства Обер Ост, якое нельга назваць ліберальным.

Усе навучальныя ўстановы Міншчыны і заходніх раёнаў Віцебшчыны і Магілёўшчыны падпарадкоўваліся камандзіру 10–й арміі. Дзеля адкрыцця новых навучальных устаноў патрэбны быў таксама дазвол армейскага камандавання. Тым школам, якія былі ўтвораны ўжо пасля заключэння Берасцейскай дамовы (3 сакавіка 1918 г.),

[211] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 39, арк. 213.

[212] Сокращение земской сметы // Минский голос. — 1918, 31 июля; Утверждение оккупационными властями сметы по народному образованию Минского губернского земства на 1918 год // Наше земское дело. — 1918, 31 авг. — С. 6—7.

[213] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 1, арк. 30—31; Правила печати // Минский голос. — 1918, 12 марта.

[214] О новом составе Минского магистрата // Минский голос. — 1918, 26 июня.

патрэбна было атрымаць дадатковую «легітымацыю». У кампетэнцыю кайзераўскай вайсковай адміністрацыі ўваходзілі і кадравыя пытанні, звязаныя з прызначэннем і пераводам настаўнікаў на іншыя пасады.

Цікава, што дадзеная пастанова ўтрымлівала пункт, паводле якога выкладанне ў школах павінна было весціся на расійскай мове, «за выключэннем асобных выпадкаў», калі нямецкае армейскае камандаванне «дазваляе выкладанне на іншай мове». Гэты пункт вынікаў з падпісанай 27 жніўня 1918 г. у Берліне савецка–нямецкай дадатковай дамовы, паводле якой Нямеччына ніякім чынам не павінна была правакаваць на часова акупаванай тэрыторыі сепаратысцкія настроі сярод мясцовага грамадства[215]. Гэты пункт пастановы застаўся праформай, калі ўлічыць, што яшчэ да прыходу кайзераўскіх войск на Міншчыне, Магілёўшчыне і Віцебшчыне дзейнічалі некалькі сотняў польскамоўных навучальных устаноў, у гарадах і мястэчках акрамя хедэраў і талмуд–тораў працавалі дзясяткі габрэйскіх свецкіх навучальных устаноў, а ў Мінску ўзніклі першыя беларускія школы. «Выпраўляць» сітуацыю ў нямецкай адміністрацыі не было магчымасцяў, жадання і часу.

Замест дырэкцыі былой Віленскай навучальнай акругі для кіраўніцтва школьнай справай у раёне дыслакацыі 10–й нямецкай арміі ўтваралася Абласное (Краёвае) вучэбнае апякунства (АВА). Апошняе пагадзіўся ўзначаліць акадэмік Яўхім Карскі — найбольш аўтарытэтная асоба сярод мясцовай інтэлектуальнай эліты, які заўсёды стаяў па–за палітыкай і не быў уцягнуты ва ўнутраную палітычную барацьбу паміж мясцовымі групоўкамі. Акрамя агульнага кіраўніцтва школьнай справай на Карскага ўскладалася загадванне сярэднімі навучальнымі ўстановамі, настаўніцкімі семінарыямі і Мінскім настаўніцкім інстытутам. У штат Краёвага школьнага апякунства былі ўведзены таксама пасады 2 сустаршыняў, на якія былі прызначаны вядомыя беларускія нацыянальныя дзеячы — прафесар В. Іваноўскі і Б. Тарашкевіч. Першы апекаваўся прафесійна–тэхнічнай адукацыяй, другі — масавымі элементарнымі школамі. Нягледзячы на старшынство ў гэтым «трыумвіраце» Карскага, усе рашэнні ў рамках апякунства прымаліся калегіяльна[216].

Створаная ўстанова не была самастойнай у сваіх рашэннях. Тыя загады апякунства, якія выходзілі «за рамкі ўнутранага распарадку яго ўстаноў», павінны былі зацвярджацца камандзірам 10–й нямецкай арміі. У першую чаргу гэта тычылася ўтварэння, рэарганізацыі ці скасавання навучальных устаноў, зацвярджэння на пасадах кіраўнікоў школ, гарадскіх і павятовых школьных інструктараў. Усе прававыя і фінансавыя пытанні заставаліся ў руках нямецкай ваеннай адміністрацыі. Сталым назіральнікам пры Краёвым апякунстве быў кіраўнік культурнага аддзела штаба 10–й арміі, які павінен быў прысутнічаць на яго пасяджэннях.

Моцна абмежаванае ў сваіх правах АВА за 2 месяцы свайго існавання не здолела зрабіць нічога канкрэтнага ў справе паляпшэння становішча навучальных устаноў у зоне «новай нямецкай акупацыі». Нягледзячы на абяцанні, камандаванне 10–й арміі нічым не паспрыяла апякунству ў справе адкрыцця яшчэ ў 1918 г. краёвага ўніверсітэта. Нязначныя фінансавыя сродкі былі выдаткаваны Народнаму сакратарыяту БНР на пераўтварэнне Будслаўскай беларускай пачатковай школы ў гімназію, а таксама на арганізацыю беларускіх педагагічных курсаў у Мінску. Быў дадзены дазвол на рээвакуацыю з Расіі Мінскага настаўніцкага інстытута і Мінскай казённай мужчынскай гімназіі[217]. АВА распалася яшчэ напярэдадні прыходу савецкіх войск у Мінск. Тое самае чакала шэраг іншых пачынанняў акупацыйнай улады.

---

215 Советско–германские отношения от переговоров в Брест–Литовске до подписания Рапалльского договора: Сб. документов: В 2 т. — Москва: Политиздат, 1968. — Т.1: 1917—1918. — С. 607.

216 Областное учебное попечительство // Новый вестник. — 1918, 16 ноября.

217 НГАБ у Мінску, ф. 478, воп. 1, спр. 103, арк. 44—45; Ляхоўскі У.В. Беларускія настаўніцкія курсы // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 339—340; Яго ж. Прадвеснік Адраджэння.., с. 111.

***

Такім чынам, неабходна адзначыць, што пасля акупацыі заходняй часткі Беларусі кайзераўскія вайсковыя ўлады ўзялі курс на падпарадкаванне ўсёй школьнай справы свайму палітычнаму і адміністрацыйнаму кантролю. Стварэнне новай адукацыйнай сістэмы ў зоне Обер Ост з'яўлялася састаўной часткай кайзераўскай нацыянальнай палітыкі, якая павінна была забяспечыць устойлівае геапалітычнае панаванне Нямеччыны на акупаваных землях. Адной з галоўных задач, якую імкнуліся рэалізаваць праз школу акупацыйныя ўлады, была ізаляцыя беларускіх зямель ад культурнага ўплыву Расіі і замацаванне тут пранямецкай ідэалогіі. Праз школьную адукацыю кайзераўскага ўзору павінна было сфармавацца новае пакаленне мясцовага насельніцтва, якое лаяльна ставілася б да Другога Рэйха. Першае, што было зроблена адміністрацыяй Обер Ост, забаронена выкладанне ў школах на расійскай мове. У зоне Обер Ост было распрацавана асобнае школьнае заканадаўства, створана школьная адміністрацыя, якая імкнулася ўсталяваць на акупаваных землях сваю манаполію на школьную асвету і максімальна абмежаваць грамадскую і прыватную ініцыятыву ў гэтай сферы. Але да канца рэалізаваць свае планы па фармаванню новай адукацыйнай сістэмы кіраўніцтву Обер Ост за тры з паловай гады акупацыі не ўдалося. За гэты час была створана толькі сетка пачатковых школ. Нямецкія ўлады так і не ўзяліся за арганізацыю сярэдніх навучальных устаноў, якія, калі аналізаваць школьнае заканадаўства Обер Ост, павінны былі ў перспектыве стаць найважнейшым звяном па анямечванню мясцовых дзяцей. Не зацікаўленая ў развіцці на акупаванай тэрыторыі вышэйшай адукацыі, кайзераўская адміністрацыя не дазволіла адкрыць у Вільні інтэрнацыянальны грамадскі публічны ўніверсітэт. Нічога не было зроблена і для арганізацыі ніжэйшай прафесійна–тэхнічнай адукацыі. Школьная палітыка Нямеччыны выклікала нарастаючы супраціў мясцовай грамадскасці, які меў пасіўны і адкрыты характар.

Спробы падпарадкаваць свайму кантролю сферу школьнай адукацыі рабіліся кайзераўскімі вайсковымі ўладамі і ў зоне «новай акупацыі» пасля заключэння Берасцейскай дамовы. Ваеннае камандаванне 10–й нямецкай арміі насуперак палажэнням Закона аб вядзенні сухапутных войн у рамках Гаагскай канвенцыі 1907 г. імкнулася адхіліць ад кіравання школьнай справай на тэрыторыі Міншчыны, заходніх рэгіёнаў Віцебшчыны і Магілёўшчыны органы мясцовага самакіравання і ўзяць пад свой кантроль перш за ўсё элементарныя школы.

Падзенне манархічнага рэжыму ў Нямеччыне, пашырэнне антыкайзераўскай прапаганды на акупаваных беларускіх тэрыторыях разбурылі ідэалагічныя падставы «нямецкай культурнай праграмы на Усходзе». У апошні перыяд акупацыі нямецкія ўлады фактычна страцілі кантроль над школай.




*Размяшчэнне нямецкай вайсковай адміністрацыі на Георгіеўскай (Юр'еўскай) вуліцы Вільні. 1915 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*




*Кайзер Вільгельм II (у цэнтры) пасля наведвання набажэнства ў віленскім касцёле св. Казіміра ў суправаджэнні генерала Германа фон Эйгорна (справа ад манарха). Вільня, 1915 г.*



*Камандзір нямецкага Усходняга фронту фельдмаршал Пауль фон Гіндэнбург (злева) і яго начальнік штаба генерал Эрых фон Людэндорф на чыгуначным вакзале Вільні. 1915 г.*



*Граф Іахім фон Пфайль, нямецкі дзяржаўны і ваенны дзеяч, аўтар прапольскай адозвы да жыхароў Вільні, выдадзенай на нямецкай і польскай мовах 18 верасня 1915 г.*




*Нямецкая страўня для унтэр–афіцэраў у будынку ранейшай Кабыльніцкай пачатковай школы каля Мядзела. Са збораў Уладзіміра Багданава. Друкуецца ўпершыню.*

Anlage zum Befehls- und Verordnungsblatt des Ob. Ost. Nr. 7, Ziffer 48.

# Grundlegende Richtlinien
zur
# Wiederbelebung des Schulwesens.

## I. Allgemeine Bestimmungen.

### 1. Oberaufsicht, Aufsicht, Leitung.

Die Oberaufsicht über das gesamte Unterrichts- und Erziehungswesen übt meine Verwaltung aus.

Die Aufsicht und Leitung in den Bezirken steht den Chefs der Verwaltungen zu, welche ihre Befugnisse auf die zu diesem Zweck bestellten Organe (Schulaufsichtsbehörden) ganz oder teilweise übertragen können.

### 2. Kreisschulinspektoren.

Angestrebt wird die Errichtung von Kreisschulinspektionen für die Volks- und mittleren Schulen. Solange ein besonderer Kreisschulinspektor noch nicht bestellt werden kann, führt der Kreishauptmann die Geschäfte der Kreisschulinspektion.

Der Kreisschulinspektor ist der unmittelbare Vorgesetzte der ihm unterstellten Lehrkräfte; er ist befugt, folgende Ordnungsstrafen zu verhängen:

a) Verwarnungen und Verweise,
b) Geldstrafen bis zu 20 Mark.

Vor jeder Verhängung einer Ordnungsstrafe muss der Lehrer gehört werden.

Der Kreisschulinspektor untersteht unmittelbar dem Chef der Verwaltung.

### 3. Ortsschulinspektoren.

Wo es erforderlich und angängig ist, übt die örtliche Aufsicht über die Landvolksschulen ein Ortsschulinspektor aus, welcher in Schulsachen dem Kreisschulinspektor untergeordnet ist und dem Chef der Verwaltung untersteht.

### 4. Gründung von Schulen.

Gründung oder Weiterführung, Eröffnung, Zusammenlegung und Schliessung von Unterrichts- und Erziehungsanstalten jeder Art, sowie Einrichtung etwaiger Lehrkurse und Erteilung von Privatunterricht bedürfen der Genehmigung des Chefs der Verwaltung.

### 5. Aufgabe und Zweck der Schule.

Die Schulen haben religiöse Gesinnung zu pflegen, die Jugend zu Gehorsam gegen die Gesetze, Achtung vor der deutschen Obrigkeit und ihrer bewaffneten Macht sowie zu Zucht und Ordnung zu gewöhnen, Fleiss, Wahrhaftigkeit, lautere Gesinnung und Ehrfurcht vor den Eltern zu fördern und fruchtbare Keime zu sittlicher Charakterbildung und tüchtigem Streben zu entwickeln.

### 6. Verbot deutschfeindlicher Bestrebungen.

Im Unterricht sämtlicher Schulen sowie bei sonstigen Veranstaltungen der Schule dürfen keine Kundgebungen geduldet, gefördert, veranlasst oder veranstaltet werden, welche mit den Zielen der deutschen Verwaltung und deren militärischen Anordnungen in Widerspruch stehen.

### 7. Schulpflicht.

Ein allgemeiner Schulzwang besteht vorläufig nicht. Wo jedoch eine Schule eingerichtet ist, haben die Eltern bei der Anmeldung eine Erklärung abzugeben, dass sie ihre Kinder regelmässig in die Schule schicken werden.

Für Kurland verbleibt es vorläufig bei den bestehenden Bestimmungen.

*Тытульная старонка «Асноўных напрамкаў па адраджэнню школьнай справы» ў зоне Обер Ост ад 22 снежня 1915 г. Друкуецца ўпершыню.*

# Prykaz.

Pawodłuh umowy miž Hubernataram krepaśnoha rejonu Hrodny i Etapnym Inspektaram, na mocy prykazu Hłaunakamandujuczaho XII Armijej, — dla usiaho rejonu Etapnaj Inspekcii XII Armii, a tak sama dla wakolic, prynaležnych da Hrodzienskaj krepaści, dzieła pawyszeńnia pradukcii sielskaj haspadarki u hetych wakolicach zhodnie z Zbornikam Prykazou i Zahadou Hłaunakamandujuczaho na Uschodzi z dnia 1.III 1916 hodu — **u dadatku da prykazu z dnia 30.III 1916 hodu** wydajecca woś hety dabawaczny prykaz:

1. Hetak sama sztrafam da 3.000 marak hraszmi abo adsidkaj (u turmie, ci pad aresztam) da 6 miesiacou, abo abiedźwymi karami razam buduć za uporstwa karać tych, chto lanujecca abo praciwicca wydanym prykazam ab pracy na ralli, zborcy uradžaju, palapszeńni skaciny.

2. Hetkaj že karaj (jak pakazana u punkci 1.) karacimuć **kožnaho** wiaskowaho ci miestowaho žychara, katory-by z nieachwoty rabić, lenaści abo inszaj pustoj pryczyny nie pajszou na kožnuju predłoženuju jamu za płatu rabotu.

3. Hety prykaz maje siłu, paczynajuczy ad taho dnia, kali jon abwieszczen.

Hrodna, 19 krasawika 1916 hodu.

Etapny Jnspektar
Kolewe,
Hieneral-ad-Infanteryi.

*Загад нямецкага этапнага інспектара акругі «Горадня» генерала ад інфантэрыі Р. Колевэ ад 19 красавіка 1916 г., пададзены на беларускай мове. Друкуецца ўпершыню. Гарадзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі.*



*Нямецкія жаўнеры і мясцовыя жыхары м. Турэц на фоне мясцовай пачатковай школы. Вясна 1918 г.*



*Нямецкі вайсковы патруль у Мінску на Губернатарскай вуліцы.*




*Нямецкія вайскоўцы ў Полацку. 1918 г. Нацыянальны музей гісторы і культуры Беларусі.*



*Нямецкі прапускны пункт каля Оршы на дэмаркацыйнай лініі, якая раздзяляла акупацыйную зону і тэрыторыю, падпарадкаваную Савецкай Расіі. Вясна 1918 г.*
*Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*

# Пагалелым ад вайны Беларусам памажыця!

35

Вайна нарабіла страты і крыуды вялікай палавіне Беларусі. Ад Пінску да Дзьвінску ідуць акопы—разоры на зямельца Беларускай. А скрось каля гэных акопау, абапал іх, стырчма стаяць разбітыя будынкі селянскія, або агнёмъ знішчаныя сёлы—вуглём ды попілам у вочы бйуцца ды сьлёзы наверх націскаюць. Гаспадары разбегліся па сьвету і тамъ—адны у бядзе ды у нудзе на сьмерць нарваліся ды у чужую зямельку із касьцьмі, із целам на векі залеглі, а другія якнебудзь з жыцьцём барукаюцца, алі шмат бяды зносюць, бо цяжэнька у цяперашнюю дарагоулю жыць. І хтож ім паможыць? Сваеж людцы найперш павінны ім памагчы.

## Ось 24 і 25 чэрвіня (Іюня)

будзіць збор грошы і адзежы па усім Пітраградзе — давайця добрыя людцы сколькі Ваша змога—хто зборшчыкам, а хто проста у КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА для помачы пацярпеушым ад вайны на Знаменскай вуліцы у д. № 36, кв. 54 (тэлеф. 253—49)— штодзень ад 11 да 9 гадзіны веч.

Проша шчыра дапамагчы бядзе пацярпеушым Беларусам!

За шчырую падмогу — будзіць шчыры дзякуй.

*Адозва Петраградскага аддзела дапамогі пацярпелым ад вайны. 1916 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Лакавая пячатка Школьнай камісіі Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні (Беларускай школьнай камісіі). Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Лакавая пячатка Віленскай беларускай гімназіі. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*

## ОБЕР ОСТ У СІСТЭМЕ АБЛАСЦЕЙ, АКУПАВАНЫХ У 1915-1917 гг. НЯМЕЧЧЫНАЙ І АЎСТРА-ВУГОРШЧЫНАЙ НА ЎСХОДНІМ ТЭАТРЫ ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ

БАЛТЫЙСКАЕ МОРА
ОБЕР ОСТ
Рыга
КУРЛЯНДЫЯ
Мітава
Дзвінск
Зах. Дзвіна
ЛІТВА
Коўна
Вільня
РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ
Каралявец
Данцыг
Сувалкі
НЯМЕЧЧЫНА
Гродна
Беласток
Баранавічы
Бярэзіна
Вісла
Нараў
Буг
Варшава
ВАРШАЎСКАЕ ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНАТАРСТВА (Ням.)
Пінск
Прыпяць
Брэст
Апеватыўна-тылавы раён Обер Ост
Днепр
ВАЕННАЯ ВОБЛАСЦЬ «ЛЮБЛІН» (Аўстр.)
Люблін
Холм
Стыр
АЎСТРА-ВУГОРШЧЫНА
Днестр
Чарнаўцы
РУМЫНІЯ

Дзяржаўныя межы краін да пачатку 1-й сусветнай вайны
Адм. межы акупац. абласцей у зоне адказнасці Нямеччыны і Аўстра-Вугоршчыны
Адм. межы акруг Обер Ост
Лінія нямецка-расійскага фронту ў IX.1915 – II.1918
Адм. «сталіца» Обер Ост
Адм. цэнтры акруг Обер Ост

**КАРТА АКУПАЦЫЙНАЙ ЗОНЫ ОБЕР ОСТ З ПАЗНАЧЭННЕМ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СКЛАДУ НАСЕЛЬНІЦТВА ПАВОДЛЕ АФІЦЫЙНЫХ НЯМЕЦКІХ ДАДЗЕНЫХ 1916 г.**



## КУЛЬТУРА І АСВЕТА БЕЛАРУСІ ПАДЧАС



# Глава 3.
# Чыннасць шматнацыянальнага школьніцтва ў зоне Обер Ост

## 3.1. Польская школьная справа на Віленшчыне і Гарадзеншчыне: працяг курсу на паланізацыю краю

Сыход з рэгіёна вялікай масы ўцекачоў у 1915 г. паўплываў на змены ў этнаканфесійнай структуры яго насельніцтва. Паводле звестак Таццянінскага камітэта, з 752 тыс. зарэгістраваных уцекачоў з былой Гарадзенскай губерні колькасць «рускіх», ці праваслаўных (сярод якіх пераважалі этнічныя беларусы), склала 86%, палякаў — каля 7%, габрэяў — 3,3%, літоўцаў — 0,7%, немцаў — 0,1%[218]. Найбольшае скарачэнне праваслаўнага жыхарства адбылося ў гарадах. Паводле перапісу 1916 г., колькасць праваслаўных вернікаў у Вільні склала 2043 чал. — 1,4% ад усяго жыхарства горада, у Горадні адпаведна 1135 — 4,6%, у Беластоку каля 1 тыс. — 1,5%[219]. Праваслаўныя вернікі Літоўскай епархіі пасля эвакуацыі адсюль амаль усяго праваслаўнага святарства аказаліся без апекі сваіх духоўных пастыраў. З больш чым 1000 праваслаўных святароў, псаломшчыкаў і манахаў, якія абслугоўвалі звыш 600 парафій, на захопленай нямецкімі войскамі тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны засталося не больш 6 чал.[220]. Гэта нанесла моцны ўдар па пазіцыях праваслаўнай царквы ў краі. Ключар Віленскага кафедральнага праваслаўнага сабора, старшыня Віленскага праваслаўнага камітэта а. Міхаіл Галянкевіч, адзін з двух праваслаўных святароў, што засталіся ў Вільні пры немцах, пісаў пазней: «Страшэнныя рэзультаты даў вываз расійскім урадам і ўцёкі блізка ўсіх праваслаўных свяшчэннікаў з Віленшчыны, Гарадзеншчыны і часці Мінскай губерні ў межах першай акупацыі. Масы беларускага праваслаўнага насялення, зруйнаванага ваеннымі здарэннямі, аказаліся зусім безраднымі і не мелі ніякіх заступнікаў перад акупацыйнай уласцю, каторая, незнаёмая з нацыянальнымі адносінамі ў нашым краю і апіраючыся на свядома фальшывым асвятленні палажэння палякамі, лічыла спярша ўсіх праваслаўных за расійцаў і адносілася да іх вельмі непрыхільна. Яшчэ больш цярпелі праваслаўныя беларусы з прычыны немагчымасці задавольваць свае духовыя патрэбы. Сільнейшыя духам, не хочучы шукаць чужых багоў, жылі без вянца, без хрышчэння, памíралі без пакаяння, хаsанілі нябожчыкаў без святых абрадаў. У некаторых месцах (напр., у Беластоку) іх духовыя патрэбы задавольвалі лютэранскія пастыры[221]. Слабей-

[218] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 1а, арк. 116—121.

[219] Пра жыццё праваслаўных у Беластоку // Гоман. — 1917, 11 вер.; Brensztejn M. Spisy ludności m. Wilna za okupacji niemieckiej od d. 1 listopada 1915 r. — Warszawa: Biblioteka delegacji Kresów Polskich Litwy i Białej Rusi, 1919. — S. 3—25; Przegląd statystyczny m. Grodna za lata 1924, 1925 i 1926. — Grodno, 1928. — S. 2.

[220] БДАМЛіМ, ф. 3, спр. 34, арк. 49—50; БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 140, арк. 17; Литовские епархиальные ведомости. — 1924, январь. — С. 47.

[221] Нямецкі вайсковы пастыр Цыркніц, які апекаваўся лютэранскай грамадой у Беластоку, многа разоў хрысціў тамтэйшых праваслаўных дзяцей паводле праваслаўнага абраду. Ён таксама ініцыяваў стварэнне для праваслаўных беларусаў Беластока дабрачыннай арганізацыі, якая аказвала пасільную помач сіротам і беднякам. Са страўні мясцовай нямецкай лютэранскай парафіі за адзін толькі 1916 г. было выдадзена 49 680 дармавых абедаў і 5319 марак грашыма. Дзякуючы хадайніцтву пастыра нямецкія акупацыйныя ўлады далі гарадзенскаму праваслаўнаму святару а. Кавалёву пазваленне паехаць у Беласток дзеля адпраўлення духоўных патрэб тутэйшых праваслаўных.

шыя ж духам, запужаныя палякамі, прымалі каталіцтва і польскі язык, а ў часе спісаў [перапісу. — *У. Л.*] жыхароў тысячы праваслаўных беларусаў запісваліся «палякамі і католікамі», хоць і заставаліся вернымі сваёй веры»[222].

Прыведзеныя факты, аднак, не даюць падставы сцвярджаць, што ў гэты час у заходніх рэгіёнах Беларусі замест беларускага стаў дамінаваць польскі этнічны элемент. Інтэрпрэтацыі польскіх даследнікаў нямецкага перапісу 1916 г., праз якія яны даказваюць польскую этнічную перавагу на гэтых тэрыторыях, не вытрымліваюць сур'ёзнай крытыкі[223]. «Дамінаванне» палякаў над беларусамі, пра што сцвярджаюць асобныя даследнікі, «забяспечвалася» за кошт прыпісвання да польскай нацыянальнасці не толькі беларускіх каталікоў, якія традыцыйна знаходзіліся пад моцным паланізатарскім уплывам касцёла, але, у некаторых выпадках, і праваслаўных беларусаў. А. Луцкевіч у звароце да нямецкіх улад 10 студзеня 1916 г. пісаў: «Віленскі каталіцкі клір у час перапісу праводзіў праз касцёл агітацыю, каб ні адзін беларус–каталік не вызначаў сябе «беларусам», а толькі як «палякам»[224]. Сярод гарадскіх жыхароў польскамоўнае насельніцтва ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі групамі мела перавагу толькі ў г. Вільні, у астатніх жа гарадах Обер Ост большасць складалі габрэі[225].

У параўнанні з даваенным часам у гэтым рэгіёне істотна змяніўся полаўзроставы склад жыхарства, што тлумачыцца ў першую чаргу мабілізацыяй большасці мужчын прызыўнога ўзросту ў расійскае войска і эвакуацыяй значнай часткі працаздольнага насельніцтва на ўсход. Зменшылася доля мужчын працоўнага і паўпрацоўнага (ад 10 да 15 гадоў) узросту, як у агульным складзе насельніцтва, так і ў прапарцыянальных суадносінах да кабет дадзенай узроставай групы. Доля дзяцей школьнага ўзросту ў агульным складзе насельніцтва, наадварот, істотна перавысіла даваенныя паказнікі, і гэта нягледзячы на эвакуацыю большасці навучэнцаў сярэдніх школ. Калі ў даваенны час доля дзяцей школьнага ўзросту (ад 5 да 14 гадоў) у Беларусі не перавышала 15%, то ў 1916 г. у зоне нямецкай акупацыі яна перасягнула 20%. У Вільні гэты паказнік складаў 22% (звыш 30 тыс. чал.)[226].

Як ужо адзначалася, вайна значна пагоршыла матэрыяльнае становішча большасці сем'яў, санітарна–бытавыя ўмовы іх жыцця, спарадзіла вялікую армію сірот, дэсацыялізацыю і высокі ўзровень смяротнасці сярод дзяцей. Асабліва жахлівае становішча назіралася ў гарадах зоны Обер Ост. «Бяда і голад шырацца незвычайна, — звярталіся ўвосень 1917 г. да мясцовай нямецкай адміністрацыі некалькі дзясяткаў жыхароў Вільні. — Смяротнасць шыбка ўзрастае. Усялякія хваробы захопліваюць у нашым месцы ўсё шырэйшыя колы… Нядаўна вуліцы места былі перапоўнены жабруючымі дзяцьмі. Не страх перад работай, не дэмаралізацыя, а голад выгнаў іх на вуліцу»[227]. Дзякуючы самаахвярнай працы мясцовых дабрачынных арганізацый гуманітарная катастрофа ў дачыненні да падрастаючага пакалення не перасягнула крытычнай мяжы. Абмежаваная ў адукацыйнай сферы мясцовая грамадскасць асноўныя свае высілкі паклала на арганізацыю для сірот і дзяцей бяднейшых пластоў

---

[222] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 134, арк. 49—50.

[223] Studnicki W. Kolonizacja i rozwój gospodarczy naszego Wschodu // Wschód Polski. — 1920. — № 8—9. — S. 7—19; Эберхардт П. Дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі: 1897—1989. — Мінск: Беларускі фонд Сораса, 1997. — С. 69.

[224] БДАМЛіМ, ф. 3. воп. 1, спр. 131, арк. 16.

[225] Паводле дадзеных У. Студніцкага, у гэты час у Беластоку габрэі складалі звыш 60%, у Горадні — 59%, Ашмянах — 57,2%, Лідзе — 48,6%, Навагрудку — 65,2%, Ваўкавыску — 59%, Слоніме — 79,2%, Брэсце — 72,3%, Пружанах — каля 80%, Кобрыне — 73,8% жыхарства.

[226] Brensztejn M. Spisy ludności m. Wilna za okupacji niemieckiej od d. 1 listopada 1915 r., s. 3—25; Przegląd statystyczny m. Grodna za lata 1924, 1925 i 1926.., s. 2

[227] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 134, арк. 22.

жыхарства дзіцячых школ–прытулкаў, забеспячэнне школьнікаў гарачым харчаваннем, цёплай вопраткай і абуткам. Тутэйшыя культурна–асветныя арганізацыі рабілі ўсё, каб забяспечыць школы падручнікамі і школьнымі прыладамі.

Шматнацыянальны склад насельніцтва Віленшчыны і Гарадзеншчыны вымагаў ад мясцовых эліт пошуку шляхоў для ўзаемапаразумення і супольнай працы на карысць сваіх народаў. Спадзяванне на гэта даваў Віленска–Ковенскі грамадскі камітэт (ВКГК), які паўстаў яшчэ напярэдадні прыходу кайзераўскіх войск. Як орган мясцовага самакіравання, ён складаўся з прадстаўнікоў польскіх, літоўскіх, габрэйскіх і беларускіх арганізацый. Ініцыятарамі стварэння ВКГК сталі польскія «краёўцы» на чале са Станіславам Кагнавіцкім (ягоны старшыня). Статут Камітэта быў зацверджаны расійскім віленскім губернатарам 30 жніўня 1915 г., а 4 кастрычніка 1915 г. ён быў пацверджаны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. З 24 паўнамоцных прадстаўнікоў ВКГК палякаў прадстаўлялі 12 сябраў, літоўцаў — 5, беларусаў — 4 і габрэяў — 3[228]. ВКГК распрацаваў шырокую праграму па рэалізацыі ідэі краёвай аўтаноміі. Меркаваліся сумесныя праекты і ў сферы адукацыі. Сярод іх былі стварэнне ў Вільні інтэрнацыянальнага публічнага ўніверсітэта імя Адама Міцкевіча і бясплатнай гарадской бібліятэкі імя Станіслава Рулькоўскага[229].

Старшыня Беларускай школьнай камісіі А. Луцкевіч рабіў намаганні, каб навучанне ў Віленскім народным універсітэце імя А. Міцкевіча было арганізавана на прынцыпах роўнасці і міжнацыянальнай салідарнасці. 17 лістапада 1915 г. на сумесным пасяджэнні польскай і беларускай секцый арганізацыйнага камітэта гэтай навучальнай установы А. Луцкевіч выступіў супраць вучэбна–ідэалагічнай замкнёнасці запланаваных нацыянальных універсітэцкіх секцый: «Ва ўніверсітэце павінна быць адна супольная ідэалогія — гуманітарная і краёвая, з пашанай да ўсіх нацый. Дзеля гэтага пры рэальнай рабоце секцый трэба, каб усе нацыі працавалі разам, каб аўдыторыя была супольная і каб гэтак адбывалася ўзаемнае знаёмства і збліжэнне краёвых нацый»[230]. Погляды беларускага лідара, глыбока гуманістычныя па свайму зместу, у пэўным сэнсе апярэджвалі час. «Школа, — адстойваў ён сваю пазіцыю ў 1916 г., — заснаваная на ідэалах гуманізму, павінна перш–наперш абудзіць у душах сваіх вучняў гэткае пачуццё чалавечнасці. І гэткім, папраўдзе, абмяжоўваецца выхаваўчая задача школы. Хто навучыцца быць перш за ўсё чалавекам, той будзе і добрым сынам свайго народа, і добрым грамадзянінам у родным краі»[231]. Прыхільнік краёвага адзінства, А. Луцкевіч выступіў з ініцыятывай увядзення ў вучэбныя праграмы ўсіх школ Обер Ост, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці, выкладання беларускай, літоўскай і польскай моў[232], таксама выступіў за стварэнне агульнага курса гісторыі Беларусі—Літвы, дзе было б аб'ектыўна паказана гістарычнае мінулае краю і адсутнічала прапаганда нацыянальнай нецярпімасці і шавінізму. У снежні 1915 г. А. Луцкевіч падрыхтаваў праект па стварэнню міжнацыянальнай школьнай секцыі ВКГК [гл. *Дадатак 7*]. Гэты дакумент кардынальна адрозніваўся ад заканадаўчай практыкі акупацыйных улад, якія будавалі і ўмацоўвалі свой рэжым за кошт рэпрэсіўных і аўтарытарных метадаў.

---

[228] Сярод сяброў узгаданага камітэта былі і беларускія дзеячы — браты А. і І. Луцкевічы, В. Ластоўскі. Інтарэсы беларусаў у ВКГК таксама прадстаўляў польскі сацыяліст Аляксандр Заштаўт.

[229] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 14, арк. 1—15; Бясплатная бібліятэка і чытальня імя Станіслава Рулькоўскага // Гоман. — 1917, 28 студз.; Ляхоўскі У.В. Віленска–Ковенскі грамадскі камітэт // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 355—356.

[230] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 133, арк. 10—11.

[231] Мялешка І. [Луцкевіч А.]. Наша задача // Гоман. — 1916, 20 кастр.

[232] Пры гэтым прыярытэт роднай мовы перад іншымі, паводле А. Луцкевіча, павінен быў заставацца непахісным: «Веданне і разуменне мовы чужой — гэта адзнака адукаванага чалавека, але ўмець добра і чыста гаварыць у мове сваёй роднай — павіннасць кожнага».

Беларускі нацыянальны дзеяч прапаноўваў вырашаць усе супярэчнасці ў школьным пытанні праз міжнацыянальны кансэнсус на грунце прызнання роўных правоў усіх мясцовых этнічных супольнасцяў.

Каб спыніць паланізацыю беларусаў–каталікоў, А. Луцкевіч дабіваўся рэарганізацыі Віленскай рымска–каталіцкай дыяцэзіі шляхам увядзення ў яе склад беларускіх «свядомых» святароў, каб праз іх беларускія вернікі маглі «чуць Божае слова на сваёй роднай мове і каб клір перастаў служыць інструментам польскае прапаганды»[233]. Першым крокам на гэтым шляху ён бачыў стварэнне беларускамоўных школ для дзяцей беларусаў–каталікоў і ўвядзенне выкладання ў адноўленай Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі беларускай мовы і беларусазнаўства. Не бачачы ў той час перспектыў для беларусізацыі праваслаўя, А. Луцкевіч выступаў за адраджэнне ўніяцкай царквы, якая, на яго думку, павінна была стаць нацыянальнай царквой беларусаў[234]. Развіццё школьнай справы ў духу гуманізму і нацыянальнай талеранцыі А. Луцкевіч і яго аднадумцы лічылі найважнейшым фактарам у вырашэнні складаных міжэтнічных праблем. Яны выступалі за аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага як канфедэратыўнай дзяржавы на аснове самавызначэння Літвы і Беларусі з забеспячэннем правоў усіх мясцовых нацыянальнасцяў[235]. Гэтая ідэя была агучана ва «Універсале Часовай рады Канфедэрацыі ВКЛ» за 19 снежня 1915 г., адным з аўтараў якога быў А. Луцкевіч.

Але грамадска–палітычныя і культурна–асветніцкія праекты «краёўцаў» не знайшлі падтрымкі сярод уплывовых польскіх і літоўскіх нацыянальных палітыкаў. Перамаглі вузканацыяналістычныя інтарэсы, якія сталі прычынай арганізацыйнага развалу ВКГК у пачатку 1916 г. На думку А. Луцкевіча, у гэтым перш за ўсё была віна польскіх «дэмакратаў», якія «за першы пункт сваёй работы пастанавілі прыдаць нашаму Краю польскі характар» і «адракліся ад усялякай супольнай працы»[236]. З ім быў салідарны польскі грамадскі дзеяч Зыгмунт Юндзіл, які лічыў, што камітэт распаўся з–за палітычнай недальнабачнасці віленскіх палякаў: «Мы легкадумна знішчылі... рэальныя перспектывы агульнай палітычнай будучыні»[237].

Вестка аб стварэнні нямецкімі ўладамі 5 лістапада 1916 г. Польскага каралеўства дала моцны імпульс для разгортвання шырокай прапольскай агітацыі ў зоне Обер Ост. У траўні 1917 г. была агучана «Адозва 44–х», падпісаная ўплывовымі крэсовымі польскімі дзеячамі, у якой яны вызначылі сваю галоўную мэту — далучэнне былых зямель ВКЛ да адроджанай Польшчы. А. Луцкевіч назваў гэты мемарандум «канчатковай адмовай ад агульнакраёвай салідарнасці» і ўзгодненай з прадстаўнікамі іншых народнасцяў краю чыннасці[238]. У верасні таго ж года польская дэпутацыя з Вільні і Коўна перадала Польскаму пасольскаму (дэпутацкаму) клубу ў Вене сваю чарговую адозву, у якой яна заявіла, што польскае грамадства «ўсходніх крэсаў» жадае, каб Нямеччына і Аўстра–Вугоршчына злучылі Усходнюю Галіччыну, Холмшчыну, Валынь і Літву—Беларусь з Польшчай[239].

---

[233] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 131, арк. 16.

[234] Як чалавек нецаркоўны і нават індыферэнтны да рэлігіі, А. Луцкевіч успрымаў яе толькі як сродак нацыянальнай кансалідацыі беларусаў.

[235] Смалянчук А.Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864—1917 г., с. 312—315.

[236] Мялешка І. [Луцкевіч А.]. Добрая навука // Гоман. — 1917, 2 сак.; Х.Х. Свой да свайго // Гоман. — 1917, 13 ліп.

[237] Ляхоўскі У.В. Развіццё польскага школьніцтва ў заходняй частцы Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915—1918 гг., с. 187.

[238] Мялешка І. [ Луцкевіч А.]. Палітыка «вольнай рукі» // Гоман. — 1917, 12 чэрв.

[239] Жаданне палякаў // Гоман. — 1917, 11 вер.

У кастрычніку 1917 г. літоўцы пры падтрымцы афіцыйнага Берліна стварылі свой краёвы нацыянальны орган — Літоўскую Тарыбу (Раду), якая 16 лютага 1918 г. абвясціла незалежнасць Літвы са сталіцай у Вільні. Ідэя інтэграцыі народаў Беларусі і Літвы была надоўга пахавана.

Правал палітычнай праграмы прыхільнікаў краёвай ідэалогіі абвастрыў даўні канфлікт паміж В. Ластоўскім і братамі А. і І. Луцкевічамі, справакаваў раскол і ў малалікім асяродку віленскіх беларусаў. Групоўка В. Ластоўскага — прыхільніка «чыстай нацыянальнай лініі» — пайшла на стварэнне ў канцы 1916 г. «Сувязі незалежнасці і непадзельнасці Беларусі», а ў жніўні 1918 г. — «Сувязі культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа»[240].

У першы перыяд нямецкай акупацыі на тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны найбольш актыўна развівалася польскае школьніцтва. Яно мела значныя арганізацыйныя, матэрыяльныя і інтэлектуальныя магчымасці, падрыхтаваных настаўнікаў, распрацаваную навукова–педагагічную тэрміналогію і літаратуру. Традыцыйна польскамоўную асвету на беларуска–літоўскіх землях падтрымлівалі мясцовы каталіцкі клір і буйныя землеўласнікі, якія былі галоўным апірышчам «пальшчызны» ў краі. Кіраўніцтва Віленскай каталіцкай дыяцэзіі на чале з а. Казімірам Міхалкевічам з самых першых дзён кайзераўскай акупацыі выступіла ў абарону «польскіх інтарэсаў». Віленская дыяцэзія ўяўляла сабой моцны сацыяльны і ідэалагічны інстытут: 14 дэканатаў і 200 парафій у Віленскай губерні, 9 дэканатаў і 111 парафій у Гарадзенскай губерні, каля 500 святароў, якія апекаваліся над 1 млн. 400 тыс. вернікаў[241]. Пад уплывам касцёла, дзе дадатковае набажэнства здаўна вялося па–польску, многімі беларускімі сялянамі каталіцкага веравызнання часта ўвогуле не ўсведамлялася паняцце роднай мовы. Яны пасылалі сваіх дзяцей у польскія школы па загаду сваіх пробашчаў, якія не прызнавалі самабытнасці беларусаў і пагражалі сялянам рознымі «духоўнымі» карамі, калі тыя адважацца пасылаць сваіх дзяцей не ў польскую, а ў беларускую школу[242].

Нярэдкімі былі выпадкі, калі ў бясплатныя польскамоўныя школы пад уплывам мясцовых абшарнікаў залічвалі дзяцей праваслаўных беларусаў. На акупаванай частцы Навагрудскага павета, дзе доўгі час з–за блізасці лініі фронту ўвогуле адсутнічалі школы, польскія дзеячы пры падтрымцы ксяндзоў стварылі летам 1917 г. «Хаўрус дапамогі хрысціянам і магаметанам», які праз абяцанне бясплатнага навучання і дармавога харчавання агітаваў праваслаўнае і татарскае насельніцтва аддаваць сваіх дзяцей у польскія школы. Для арганізацыі сеткі польскамоўных навучальных устаноў «Хаўрусам дапамогі» з Вільні былі выпісаны 10 настаўнікаў. Адначасова польскімі агітатарамі рабілася ўсё, каб не дапусціць арганізацыі ў павеце беларускіх школ[243]. Падобная сітуацыя назіралася ў Лідскім і Ашмянскім паветах, а таксама на Гарадзеншчыне. У Ашмянах тутэйшы каталіцкі клір вымагаў ад беларускіх парафіян, каб яны аддавалі дзяцей толькі ў польскія школы, а ў Лідскім павеце, дзе распачалося ўжо стварэнне беларускіх школ, польскія абшарнікі ў адказ выдаткавалі немалыя грошы на адкрыццё звыш 100 польскіх школ пісьменнасці[244]. А. Луцкевіч адзначаў: «Польская грамадскасць бачыла ў беларускім адраджэнні пагрозу ў пашырэнні польскай экспансіі на беларускіх этнічных землях... Мэта польскага крэсовага грамадства — на-

[240] ЦДАВО, ф. 3793, спр. 295, арк. 1—16; Сідарэвіч А. Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2001. — Т. 6. — Кн. 1. — С. 439; Ляхоўскі У. Сувязь культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 438.

[241] Віленская дыяцэзія // Гоман. — 1917, 18 вер.

[242] Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen.., s. 57.

[243] Змаганне за школы // Гоман. — 1917, 31 жн.

[244] БДАМЛІМ, ф. 3, воп. 1, спр. 131, арк. 10—10 адв.

даць Вільні чыста польскі характар і канчаткова паглынуць беларусаў, якіх яны не здолелі дэнацыяналізаваць 143 гады»[245].

Арганізацыі масавага польскага школьніцтва садзейнічалі не толькі мясцовыя абшарнікі і касцёльныя парафіяльныя рады. Істотную фінансавую падтрымку ў гэтым польскім нацыянальным арганізацыям аказвалі замежныя фундатары з нейтральных краін. На дабрачынныя мэты жыхарству акупацыйнай зоны Обер Ост Польскі генеральны камітэт у г. Вэ–Вэй (Швейцарыя) па ініцыятыве польскага пісьменніка Генрыха Сянкевіча выдзеліў каля 350 тыс. швейцарскіх марак[246]. Хоць грошы павінны былі быць раўнамерна размеркаваны ўсім «насельнікам польскім, беларускім і літоўскім Ковенскай, Віленскай і Гарадзенскай губерняў», але з–за таго, што размеркаваннем гэтай дапамогі займаўся адміністратар Віленскай рымска–каталіцкай дыяцэзіі а. К. Міхалкевіч, асноўная частка гэтых сродкаў пайшла на задавальненне польскіх нацыянальных патрэб[247]. З першага траншу ў снежні 1915 г. (у пераліку на нямецкую валюту фундуш складаў 300 тыс. рэйхсмарак) беларусы атрымалі усяго 1400 мк. У 1916 г. з пералічаных 270 тыс. мк Беларускаму таварыству дапамогі пацярпелым ад вайны (БТДПВ) выдаткавалі трохі болей — 3 тыс. мк[248]. У параўнанні з польскай доляй гэта была мізэрная частка.

Яшчэ 13 снежня 1915 г. БТДПВ звярнулася з пісьмовай просьбай, пададзенай на рукі а. К. Міхалкевічу, у якой прасіла выдаткаваць дадаткова з прысланых грошай на патрэбы бедных дзяцей беларускіх школ–прытулкаў у Вільні, а таксама на дапамогу галадаючым сялянскім дзецям у ваколіцах Васілішак, Шчучына і Рожанкаў (Рожанак) — «на рукі мястовых дамаў», высяленцам з прыфрантавой зоны, якія знайшлі прытулак каля Друскенікаў і Гожаў, — на рукі мясцовага каталіцкага святара. Дэлегатам Камітэта кс. Міхалкевіч адказаў, што ён ведае пра цяжкае становішча беларусаў ва ўзгаданых мясцовасцях праз тутэйшых ксяндзоў, але, на жаль, Беларускі камітэт ужо спазніўся — усе грошы раздадзеныя. Але праз чатыры месяцы высветлілася, што гэта была няпраўда, што пацвярджала травеньская справаздача Польскага дабрачыннага камітэта, апублікаваная ў газеце «Dziennik Wileński». Паводле яе, з грошай «Вэ–Вэйскага фундушу» (7 тыс. мк) на падтрымку беларускіх высяленцаў з франтавога паса, якія пражывалі ў Нова–Вільні, было выдаткавана ўсяго... 80 руб.(!). Такая ж «справядлівасць» дзейнічала і пры размеркаванні харчовых прадуктаў, атрыманых з–за кардона. Улетку 1917 г. у Вільню, падчас неўраджаю і масавага голаду, прыбыў вялікі транспарт саланіны — адмыслова для бедных дзяцей і сірот. Размяркоўваць харчаванне зноў узяўся кс. Міхалкевіч. Як гэта было зроблена, паведаміла потым газета «Гоман»: «К. Міхалкевіч, як скрайні польскі нацыяналіст, усю саланіну аддаў польскім таварыствам і камітэтам, і толькі рэшткі — «іншым хрысціянам»... Усё гэта рабілася цішком, і беларусы даведаліся пра «саланіну» выпадкова — ад старшыні Праваслаўнага камітэта а. М. Галянкевіча. Беларускі камітэт даслаў да кс. Міхалкевіча пісьмовую просьбу ад 31 ліпеня 1917 г. выдаткаваць для 200 беларускіх дзяцей, навучэнцаў віленскіх беларускіх школ, 30 пудоў саланіны. Міхалкевіч, прыняўшы ліст, адмовіўся падпісацца ў ягоным атрыманні і не даў ніякага адказу»[249].

Галоўным цэнтрам і каардынатарам польскай школьнай справы ў зоне Обер Ост з'яўляўся віленскі Адукацыйны камітэт, утвораны восенню 1915 г. на агульным сходзе

---

[245] БДАМЛІМ, ф. 3, воп. 1, спр. 131, арк. 16.

[246] Выбітны польскі раманіст, які памёр у 1916 г., завяшчаў вышэй згаданаму фонду значную частку сваёй Нобелеўскай прэміі на патрэбы жыхарства колішняга ВКЛ.

[247] Адкрытае пісьмо // Гоман. — 1916, 18 крас.

[248] Помач ахвярам вайны // Гоман. — 1916, 4 ліп.

[249] Байкот беларусаў // Гоман. — 1917, 21 жн.

прадстаўнікоў польскіх культурна–асветных арганізацый[250]. Раўналежна з ім дзейнічала таксама Каталіцкае таварыства народнай школы, якое апекавалася польскамоўнымі касцёльнымі школамі і мела філіі ў іншых гарадах рэгіёна. Польскамоўнай асветай апекаваліся таксама і рэгіянальныя польскія дабрачынныя ўстановы як свецкага, так і рэлігійнага характару[251].

Разгледзім дынаміку росту польскіх школ у зоне Обер Ост. Паводле звестак польскага даследніка Я. Юркевіча, у пачатку 1916 г. на Віленшчыне дзейнічалі 102 польскія школы, у якіх вучыліся 6 тыс. вучняў[252]. Паводле дадзеных Х. Земке у красавіку 1918 г. у новаўтворанай генеральнай акрузе «Літва» мелася ўжо 121 польская школа [гл. *Дадатак 8*]. Але іншыя афіцыйныя нямецкія крыніцы пазначаюць трохі іншыя лічбы. Інфармацыйны бюлетэнь «Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen» за 1917 г. адзначае, што ў генеральнай акрузе «Літва» на гэты час ужо мелася 201 польская школа, што складала прыкладна 37% ад агульнай колькасці вучэльняў у дадзеным рэгіёне (у генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» — 45%, акрузе «Вільня» — 96%, Аўгустоўскім павеце — 88%, а ў самой Вільні — 65%) [гл. *Дадатак 13.2*]. У самой краёвай сталіцы і яе ваколіцах дзейнічалі 30 элементарных польскіх школ, 1 двухкласавая вучэльня з 4–гадовым тэрмінам навучання і 8 — павышанага тыпу з 5–гадовым тэрмінам навучання, у якіх вучыліся 4785 дзяцей[253]. Настаўнікаў для польскіх пачатковых школ Вільні і ўсёй акругі рыхтавалі 3 настаўніцкіх курсаў, дзе навучалася звыш 120 слухачоў і выкладалі 52 выкладчыкі[254]. Тут дзейнічалі таксама 6 польскамоўных сярэдніх школ: 2 грамадскія мужчынскія гімназіі, 1 грамадская жаночая гімназія, прыватная жаночая гімназія Чарноўскай і 2 ліцэі (у тым ліку адзін каталіцкі калегіум сясцёр–назарыцянак). Значнай падзеяй для Ашмян стала адкрыццё ў 1916 г. польскай рэальнай вучэльні[255]. Шмат увагі польскія грамадскія ўстановы надавалі прафесійнай адукацыі. Толькі ў адной Вільні функцыянавала 6 польскіх прафесійных школ.

У межах генеральнай акругі «Беласток—Горадня» ў 1916 г. функцыянавала 267 польскіх элементарных школ, у якіх навучаліся звыш 14 тыс. вучняў (гл. *Дадаткі 8—10*). Гэта складала 74,4% ад агульнай колькасці ўсіх школ у акрузе [гл. *Дадатак 9*]. Другім пасля Вільні цэнтрам развіцця польскай культуры і асветы ў межах Обер Ост была Горадня. У канцы 1915 г. намаганнямі Францішка Грынкевіча тут была створана польская мужчынская гімназія імя А. Міцкевіча, якая ў першы год свайго існавання складалася з 6 класаў, у якіх вучыліся 120 хлапцоў. Трэба адзначыць, што Ф. Грынкевіч — гэта той самы каталіцкі клерык, хто ў 1909 г. у той жа Горадні ініцыяваў стварэнне і стаў духоўным апекуном вучнёўскага гуртка беларускай моладзі. Падчас Першай сусветнай вайны ён адышоў ад беларускай справы і шчыраваў на ніве польскага школьніцтва[256]. 20 верасня 1917 г. па ініцыятыве мясцовага прадпрымальніка Міхала Таланкевіча ў Горадні адкрылася 4–класавая рамесна–тэхнічная школа[257]. У горадзе дзейнічаў шэраг польскіх пачатковых школ, якімі апекавалася Гарадзенская

[250] AAN. Akta L. Wasilewskiego, sygn. 39, s. 95.

[251] Смалянчук А.Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864—1917 г., с. 316; Walasek S. Szkolnictwo powszechne na ziemiach polnocno–wschodnich II Rzeczypospolitej (1915—1939).., s. 21.

[252] Jurkiewicz J. Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922.., s. 132.

[253] BPW. Dz. St. Druk. Akta Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich. ZCZW. Akc. 1732. Narys z historji polskiego szkolnictwa w Wilni w 1917—1918, s. 47.

[254] Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. Druckbericht VI. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1917. — S. 41—43.

[255] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 1а, арк. 36—37 адв.

[256] Kapp M. Zarys dziejów państwowego gimnazjum męskiego im. A. Mickiewicza w Grodnie.., s. 5—21.

[257] З усяго краю // Гоман. — 1917, 17 вер.

адукацыйная рада. У 1918 г. тут ствараецца мясцовая філія «Мацежы Школьнай» — аб'яднанне мясцовага польскага настаўніцтва[258].

У выніку мэтанакіраванай палітыкі нямецкіх улад, якія ставілі задачу абмежаваць рост польскай асветы ў рэгіёне, у 1916 — пачатку 1918 гг. колькасць польскамоўных школ у зоне Обер Ост знізілася з 44,5% да 22,8%, а колькасць школьнікаў у іх скарацілася на 7,5 тыс. чалавек пры агульным павелічэнні літоўскага і беларускага школьніцтва на 8,5 тыс. чалавек. У генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» доля польскіх школ зменшылася да 48,7%. Паводле дадзеных Х. Земке, у пачатку 1918 г. у зоне Обер Ост заставалася 299 польскіх легальных школ, у якіх навучалася 17,5 тыс. дзяцей [гл. *Дадаткі 8—11*]. Але рэальная карціна становішча польскамоўнай адукацыі значна рознілася з афіцыйнымі паказнікамі. Замест зачыненых немцамі польскіх школ ствараліся таемныя адукацыйныя асяродкі, шырылася хатняе навучанне па–польску. Нягледзячы на ўсе намаганні, кайзераўскім уладам не ўдалося канчаткова падпарадкаваць свайму кантролю польскую адукацыю.

## 3.2. Пачатак масавага беларускага школьніцтва

Стварэнне першых беларускіх школ на тэрыторыі Обер Ост было звязана з чыннасцю Віленскага аддзела Беларускага таварыства (камітэта) дапамогі пацярпелым ад вайны (БТДПВ) — на той час адзінай легальнай беларускай нацыянальнай установы ў акупацыйнай зоне[259]. 15 кастрычніка 1915 г. пры таварыстве была ўтворана Школьная камісія (далей — Беларуская школьная камісія), у склад якой увайшлі: А. Луцкевіч (старшыня), А. Пашкевіч–Кайрысава (Цётка), І. Луцкевіч, В. Ластоўскі, Баляслаў Пачобка, Сабіна Іваноўская, Юліяна Мэнке і інш. На камісію былі ўскладзены задачы па арганізацыі беларускіх школ, падрыхтоўцы настаўнікаў, распрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі і ўкладанню школьных падручнікаў[260].

Першая беларуская школа ў зоне Обер Ост была адкрыта 13 лістапада 1915 г. у Вільні на Юр'еўскай (Георгіеўскай) вуліцы дзякуючы старанням А. Пашкевіч–Кайрысавай і Б. Пачобкі. Для беларускай школы былі выкарыстаны памяшканні і інвентар былой навучальнай установы віленскага філіяла Таварыства распаўсюджвання асветы сярод габрэяў (ЕПО), эвакуіраванага на ўсход летам 1915 г.[261]. Першапачаткова лік вучняў у школе складаў усяго 36 чалавек, з якіх былі сфарміраваны 3 узроставыя групы. Перавага сярод вучняў асоб каталіцкага веравызнання паўплывала на тое, што ў школе раўналежна з беларускай мовай выкладалася таксама і польская. Паступова колькасць гадзін на беларускую мову павялічвалася, а на польскую скарачалася. Два разы на тыдзень у старэйшай групе школьнікаў Ю. Мэнке выкладала нямецкую мову.

---

[258] Чарнякевіч А. Гарадзенскія апосталы.., с. 5.

[259] У кіраўніцтва камітэта ўваходзілі А. Луцкевіч (старшыня), І. Луцкевіч, Ю. Мэнке, В. Ластоўскі і інш.

[260] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 2—9; Вітан–Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны.., с. 37—38; Справаздача Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні з 22 чэрвеня 1916 г. да 1 жніўня 1917 г. // Гоман. — 1917, 10 жн.

[261] Габрэйская грамада ў Вільні праз нейкі час падала скаргу на гэты прэцэдэнт нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Але канфлікт быў улагоджаны І. Луцкевічам, які ў якасці кампенсацыі перадаў са сваёй уласнай мастацкай калекцыі ў дар прадстаўнікам ЕПО некалькі рарытэтаў з габрэйскай старасвеччыны. Факт стварэння адной з першых беларускіх школ у Вільні ў снежні 1915 г. цікавы яшчэ тым, што ён пэўным чынам перагукаецца з нашым часам. У 1991 г. — праз 76 гадоў — у Вільні, паводле ініцыятывы Сяргея Дубаўца, Сяргея Шупы і Галіны Сівалавай, літоўскія ўлады дазволілі стварыць у горадзе беларускую гімназію імя Ф. Скарыны на месцы былога габрэйскага дзіцячага садка (паводле інфармацыі першага дырэктара Віленскай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны Г. Сівалавай).

Па жаданню бацькоў праводзілася навучанне Закону Божаму каталіцкімі святарамі а. Віктарам Шутовічам і а. Янкам Семашкевічам. А. Пашкевіч–Кайрысава вяла ў старэйшай групе геаграфію і прыродазнаўства, а С. Іваноўская і Андрэй Рымша дадаткова праводзілі заняткі па гімнастыцы і маляванню[262].

На працягу зімы 1915—1916 гг. у Вільні былі адкрыты яшчэ 5 беларускіх школ (на Антокалі, Звярынцы — ля Знаменскай праваслаўнай царквы, Зарэччы, на Артылерыйскай і Вастрабрамскай вуліцах). Усе яны былі «аднакласавыя» (з 2–гадовым тэрмінам навучання), у якіх мелася 1—3 школьныя камплекты (аддзелы) і адзін штатны настаўнік. Беларускія адукацыйныя асяродкі ствараліся на месцы былых праваслаўных царкоўных і габрэйскіх навучальных устаноў, эвакуіраваных расійцамі на ўсход.

Для арганізацыі школьнага навучання на першых парах не хапала школьнай мэблі, падручнікаў, пісьмовых прыналежнасцяў. У першыя месяцы сваёй чыннасці яны ўтрымліваліся на сродкі Беларускай школьнай камісіі. Толькі школа на Зарэчнай у пачатку акупацыі мела невялікую датацыю ад мясцовай гарадской рады[263]. Вось кароткая інфармацыя пра гэтыя школы ў першыя месяцы іх чыннасці ва ўмовах нямецкай акупацыі ў 1916 г.:

1. Школа на Юр'еўскай, 44. Мелася 3 аддзелы. Навучалася 45 вучняў. У штаце 5 настаўнікаў (з якіх 4 каталікі і 1 лютэранін). Праца аднаго настаўніка аплочвалася, астатнія працавалі дарма. Гадавы каштарыс на ўтрыманне школы — 701 мк.

2. Школа на Антокальскай, 29. Навучалася 99 вучняў (3 аддзелы). Мелася 3 настаўнікі (2 каталікі і 1 лютэранін). 2 педагогі атрымлівалі месячнае ўтрыманне па 40 мк кожны. Гадавы каштарыс школы — 1200 мк.

3. Школа на Артылерыйскай, 1. Навучалася 50 вучняў (3 аддзелы). Мелася 2 настаўнікі (каталік і лютэранін). Аплочвалася праца толькі аднаго настаўніка. З–за малой колькасці вучняў і недахопу фінансавых сродкаў была зачынена ў траўні 1916 г. Засталіся 11 вучняў, якіх перавялі ў школы, якія месціліся на Юр'еўскай, 44 і Зачараванай, 37.

4. Школа на Зарэччы (Зачараваная, 37). Утрымлівалася за кошт гарадскога магістрата Вільні. Навучалася каля 50 вучняў, паводле іншых звестак — 35. 1 настаўнік (праваслаўны). Гадавы каштарыс — 1001 мк.

5. Школа на Звярынцы, што на Знаменскай вуліцы. Навучалася 26 дзяцей (1 аддзел). Меўся адзін настаўнік (праваслаўны). Гадавы каштарыс — каля 700 мк[264].

6. Звестак пра беларускія пачатковыя школы на Вастрабрамскай, 12 не выяўлена.

Сродкі на ўтрыманне беларускіх школ складаліся ў першую чаргу са сродкаў Беларускай школьнай камісіі, з дабрачынных ахвяраванняў: ад швейцарскага фонду г. Вэ–Вэй, Літоўскага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, прыватных мецэнатаў, скарбонкавых збораў і іншых крыніц[265]. Толькі штатны настаўнік у беларускай школе атрымліваў фіксаваны заробак, астатнія ж педагогі, якія выкладалі дадатковыя прадметы, працяглы час працавалі задарма, эпізадычна атрымліваючы нейкія грашовыя кампенсацыі.

Пры кожнай беларускай пачатковай школе для дзяцей–сірот і бедных школьнікаў, што пражывалі ў віленскіх прадмесцях, былі створаны бясплатныя прытулкі. У іх навучэнцы пражывалі, харчаваліся, атрымлівалі вопратку, абутак і школьныя прыналежнасці. З пачатку лістапада 1916 г. мясцовыя нямецкія ўлады пачалі забяспечваць названыя асяродкі казённым харчаваннем[266].

---

[262] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 22—32.

[263] Утрыманне адной школы на адзін навучальны год каштавала БТДПВ ад 700 да 1300 акупацыйных марак.

[264] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 39—40.

[265] Справаздача Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні з 22 чэрвеня 1916 г. да 1 жніўня 1917 г. // Гоман. — 1917, 10 жн.

[266] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 62, 64—65, 67.

Матэрыяльнае становішча беларускага настаўніка ў Вільні было незайздросным. Яго штомесячнае грашовае ўтрыманне ў 1916 г. раўнялася 40 акупацыйным маркам, ці 20 расійскім рублям — гэта заробак некваліфікаванага работніка — усяго 70% таго, што зарабляў настаўнік пачатковай школы ў царскай Расіі напярэдадні Першай сусветнай вайны. Паводле падліку аўтара гэтага даследавання, зыходзячы з тагачасных коштаў на харчовыя прадукты, у Вільні за гэтыя грошы можна было купіць у месяц 4 кг жытняга хлеба (па цвёрдых коштах), 3 літры цэльнага малака, 2 кг ялавічыны, паўкілаграма селядцоў, 300 г алею, 200 г сметанковага масла, 150 г гарбаты, 1 кг сахарыну[267]. І гэта без уліку платы за камунальныя паслугі[268]. Хлеб, малако і іншыя прадукты першай неабходнасці па цвёрдых коштах выдаваліся насельніцтву па картках, у той час як рынкавы кошт хлеба быў у 3—4 разы даражэй за «карткавы». З пагаршэннем эканамічнай сітуацыі, што было звязана з неўраджаем 1916 г. і з вывазам большай часткі сабранага зерня ў Нямеччыну, норма выдачы хлеба па картках увесь час змяншалася: у 1916 г. яна складала 250 гр, у красавіку 1917 г. упала да 150 гр, а з 20 мая 1917 г. зменшылася да катастрафічных 100 гр.[269].

На пачатак 1917 г. у 5 віленскіх беларускіх школах навучаліся каля 200 дзяцей. Сярод вучняў пераважалі праваслаўныя беларусы, але былі і прадстаўнікі іншых рэлігійных канфесій і этнічных супольнасцяў: каталікі, лютэране, «рускія» стараверы і татары–мусульмане[270]. У чэрвені 1916 г., з пачаткам новага навучальнага года, па патрабаванню нямецкай акупацыйнай адміністрацыі і Віленскай каталіцкай кансісторыі дзеці ў названых беларускіх школах былі размеркаваны паводле канфесійнага прынцыпу[271].

Тыпавая школьная праграма ў беларускіх элементарных школах выглядала так: у першы год навучання выкладаліся пачаткі чытання і пісання («перапісванне з кніг асобных слоў і лёгкіх фраз пад дыктоўку»), рэлігія («пацеры беларускія, катэхізм, песні набожныя»), арыфметыка («лічэнне з памяці і на пісьме, першыя чатыры спосабы лічэння, лёгкія задачкі»), гімнастыка, народныя гульні, спевы (вывучваліся і выконваліся хорам песні «За гарамі, за лясамі», «Чаму ж мне не пець» (гарманізацыя Людаміра Рагоўскага), «Ой, пайду я лугам» (гарм. Стасіса Шымкуса), «Рымар лазню тапіў» (гарм. Марыі Кімонтавай), «Зязюля» (гарм. Раманоўскага), «Жыў–быў мужычок» (словы А. Пагоскага ў перакладзе Алеся Трота)). У другі год навучання — чытанне («вершы, дробнае апавяданне, пераказ прачытанага, расповед са свайго хатняга жыцця»), пісьмо («дыктоўка невялікшых апавяданняў; пісьмовы пераказ прачытанага ці са свайго хатняга жыцця»), арыфметыка («лік і задачы на ўсе чысла»), прыродазнаўства («расліны, зверы і птушкі нашага Краю»), пачаткі геаграфіі («расповед пра зямлю; пра наш Край і народ; іншыя народы Еўропы і іншыя часткі свету»), рэлігія («біблійка, абрады і набожныя песні, малітоўнік»), спевы, гімнастыка, спорт і гульні, праца ў школьных майстэрнях, садзе і гародзе[272].

---

[267] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 50; З усяго краю // Гоман. — 1916, 4 жн.; З усяго краю // Гоман. — 1917, 16 траўня; Кошты на малако і папіросы // Гоман. — 1917, 31 ліп. Заробак настаўніка беларускай пачатковай школы быў самым нізкім у параўнанні са школамі іншых нацыянальнасцяў у Вільні. У кастрычніку 1916 г. заробак настаўнікаў віленскіх беларускіх школ быў павялічаны да 60 мк, але кошты на харчаванне ўзраслі значна болей.

[268] Плата за наём кватэры залежала ад домаўласніка. 1 квт электраэнергіі каштаваў гараджаніну 1 акупацыйную марку; за карыстанне грамадскай лазняй плацілі 2 маркі. Таксама трэба было плаціць за выкарыстаную ваду.

[269] Новыя нормы выдачы хлебу // Гоман. — 1917, 18 траўня; Хлеб на карты // Гоман. — 1917, 10 крас.

[270] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 39—40; Тамсама, спр. 126, арк. 6; Беларускія школы // Гоман. — 1916, 24 кастр.

[271] Справаздача Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні з 22 чэрвеня 1916 г. да 1 жніўня 1917 г. // Гоман. — 1917, 10 жн.

[272] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 50—51, 54—55.

Разам з бясплатным навучаннем дзеці ў беларускіх школах дарма атрымлівалі падручнікі, пісьмовыя прылады, гарачыя абеды, а найбяднейшыя — зімовую вопратку і абутак. Гарачае харчаванне вучняў спачатку было арганізавана пры гарадскім работніцкім клубе і бліжэйшых дабрачынных страўнях[273], а ў 1917 г. пры ўсіх беларускіх школах былі створаны ўласныя пункты харчавання. Пасля пагаршэння харчовага забеспячэння ў Вільні, калі дзеці пачалі хварэць ад недаядання і адсутнасці свежых гародніны і садавіны, у чэрвені 1917 г. БТДПВ наладзіла 2 летнікі для вучняў беларускіх пачатковых школ: ва ўрочышчы Чорны Бор пад Вільняй на 70 дзяцей (атрымаў назву «Наша Хата») і ў вёсцы Качаны на 20 дзяцей[274].

У 1916/17 навуч. годзе пры 3 беларускіх школах былі ўтвораны рамесныя майстэрні. Пры 2 школах таксама дзейнічалі такарна–сталярныя майстэрні, пры іншых школах — класы ручной працы. Выробленыя беларускімі вучнямі падчас вытворча–практычных заняткаў рэчы і прылады выстаўляліся і прадаваліся на агульнай выстаўцы работніцкіх дамоў Вільні. Выручаныя сродкі ішлі на патрэбы школ[275]. У розную колькасці (ад 5 да 8) віленскія беларускія школы праіснавалі да сярэдзіны 1920–х гг., пакуль не былі ліквідаваны польскімі ўладамі або «самаліквідаваліся» ў неспрыяльных палітычных варунках[276]. У верасні 1917 г. да гэтых адукацыйных асяродкаў дадалася прытулковая школа для сірот на Антокальскай, 20, арганізаваная беларускім дабрачынным таварыствам «Золак», якое ўзначальвалі князь Вінцэнт Святаполк–Мірскі (старшыня і асноўны фундатар) і В. Ластоўскі (віцэ–старшыня). Дзякуючы фундатарству Святаполка–Мірскага ў пансіёне таварыства знайшлі прытулак і магчымасць вучыцца па–беларуску каля 70 дзяцей. Па ініцыятыве настаўніцы Станіславы Корф сярод выхаванцаў прытулку быў арганізаваны дзіцячы тэатральны гурток і хор, якія сумесна выступалі на сцэне віленскага Беларускага клуба[277]. За сваю працу ў прытулковай школе настаўніца мела больш прыстойны заробак у параўнанні з іншымі віленскімі беларускімі школамі — 105 мк. Праўда, у 1919 г., з прыходам у Вільню бальшавікоў, прытулак апынуўся ў гаротным стане, без належнага ўтрымання, што негатыўна адбілася на выхаванні дзяцей. Міністр унутраных спраў БНР Кузьма Цярэшчанка, зрабіўшы рэвізію прытулку ў чэрвені 1919 г., з сумам канстатаваў аб незваротнай маральнай «сапсаванасці» яго выхаванцаў[278].

У Беларускай школьнай камісіі меліся намеры значна пашырыць сетку беларускіх навучальных устаноў у Вільні і яе ваколіцах. Меркавалася адкрыць беларускія школы на Вялікай і Віленскай вуліцах, на Росах, у Новым Месцы, Салтанішках, Басаках (Босаках), на лецішчы Ласёва ды інш.[279]. Шчыры прыхільнік беларускага руху, старшыня Віленскага праваслаўнага таварыства, пратаірэй М. Галянкевіч прапанаваў Беларускай школьнай камісіі скарыстаць для пашырэння школьнай справы будынкі, школьны інвентар, рэшткі слясарнага, такарнага і сталярнага абсталявання, а таксама зямельную маёмасць з агародамі і садамі, што засталіся пасля эвакуацыі мясцовых царкоўных навучальных устаноў: Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі (Вастрабрамская, 9), 4–класавай царкоўнай вучэльні пры семінарыі на 150 вучняў (на

[273] Для арганізацыі гарачага харчавання ад магістрата Вільні Беларуская школьная камісія атрымлівала штомесяц грашовую датацыю ў 300 мк, што пакрывала толькі 50% выдаткаў на гэтыя патрэбы.
[274] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 30—40; спр. 126, арк. 6.
[275] Беларускія майстэрні // Гоман. — 1916, 14 ліст.; Справаздача Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні з 22 чэрвеня 1916 г. да 1 жніўня 1917 г. // Гоман. — 1917, 10 жн.
[276] За польскім часам, у 1925/26 навуч. годзе, у Вільні засталася толькі 1 беларуская пачатковая школа, а да канца 1920–х гг. «знікла» і яна.
[277] Ляхоўскі У.В. «Золак» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 391.
[278] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 22, арк. 61.
[279] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 113—114.

скрыжаванні вуліц Бакшта і св. Аўгусціна), Андрэеўскай царкоўна–прыходской школы на Савіча, 13, жаночай царкоўнай школы пры манастыры св. Марыі з дзіцячым прытулкам (на 300 месцаў), царкоўных школ на Піўной, 8, Траецкай, 10, Габрэйскай, 13, на Гарадскім валу, 19, на Нямецкай, 15, Субоч, 25, Паліцэйскім завулку, 16; а таксама ў віленскіх ваколіцах: у фальварках Мілайшышкі і Бурбішкі (каля Камінаў), Ванешкі, Белы Двор, Муса, Гульбіны і Зароўцы (у бок Кальварыі і далей), Дусеняты, Порубанак, Ваўчыны, Рукойны (у бок Ліды і Траецкага возера)[280].

Але беларускі нацыянальны актыў не здолеў скарыстацца гэтымі магчымасцямі. Школьная камісія БТДПВ не дамаглася ад немцаў перадачы гэтай маёмасці пад свой загад. Яна не мела сур'ёзнага ўплыву на акупацыйную адміністрацыю, да таго ж адчуваўся брак у ініцыятыўных і здольных арганізатарах. Толькі асобныя царкоўныя вучэльні былі скарыстаны пад беларускія школы, уся ж астатняя маёмасць з большага была разрабавана нямецкімі вайскоўцамі ці выкарыстана іншымі нацыянальнымі арганізацыямі. Некаторыя драўляныя школьныя пабудовы акупанты разабралі на дровы для апальвання сваіх казармаў і адміністрацыйных будынкаў.

Беларуская школьная камісія шмат увагі надавала пазашкольнай працы сярод вучняў мясцовых беларускіх школ. Падчас летніх вакацый вядомы беларускі драматург Францішак Аляхновіч у летніку «Наша Хата» ва ўрочышчы Чорны Бор арганізаваў школьны тэатр, сіламі якога 2 верасня 1917 г. паставіў спектакль–казку па ўласнай п'есе «У лясным гушчары». Газета «Гоман» пісала аб гэтай культурнай падзеі наступнае: «Ігралі так бойка, так шчыра, як шчыра перажываюць дзеці ўсе незвычайныя здарэнні з казак. Ды, папраўдзе, ...гэта натуральная сцэна з фантастычнымі постацямі прывяла ў захапленне не толькі «малую» публіку, але і дарослых гледачоў. Гэтым забава не закончылася: дзіцячы хор праспяваў беларускія песні «Беларуская зямліца», «Чайка», «Рэха», дэкламацыі вершаў дзяцьмі 4—5–гадовага ўзросту... Закончылася праграма спартовымі нумарамі. Найбольш смеху выклікалі скокі навыперадкі»[281].

Адной з самых складаных праблем, якія паўсталі перад маладой беларускай школай, быў недахоп кваліфікаваных педагогаў. Пасля адступлення расійскага войска былі эвакуіраваны амаль усе настаўнікі пачатковых і сярэдніх школ Віленскай і Гарадзенскай губерняў (за выключэннем 8—10 чалавек). Прадстаўнікам беларускага руху пры арганізацыі нацыянальнай школы давялося пачынаць усё фактычна з «нуля». На настаўніцкую працу былі «мабілізаваны» 16—18–гадовыя юнакі ці людзі сталага ўзросту. Настаўнікам віленскіх беларускіх пачатковых школ Оскару Кайрэніусу, братам Алесю і Антону Тротам на той час не споўнілася яшчэ 18 гадоў — з–за вайны яны не паспелі скончыць Віленскую камерцыйную вучэльню. Самы старэйшы з прызваных «валанцёраў» быў 20–гадовы Павал Вэбер, гімназіст, які таксама не давучыўся[282].

Дзеля ўдасканалення ведаў і педагагічных навыкаў маладых педагогаў Беларускай школьнай камісіяй у снежні 1915 г. былі арганізаваны 4–месячныя настаўніцкія курсы, на якія запісаліся 23 чалавекі. Па патрабаванню нямецкіх улад тэрмін навучання ў іх быў падоўжаны да 10 месяцаў. Курсы былі падзелены на 3 групы паводле адукацыйнага цэнзу і педагагічнай падрыхтоўкі. У першых дзвюх групах выкладаліся беларуская мова (А. Луцкевіч), беларуская літаратура і гісторыя беларускай літаратуры (В. Ластоўскі), арыфметыка і рэлігія (Б. Пачобка), прыродазнаўства (А. Пашкевіч–Кайрысава), спевы (М. Кімонтава), асновы педагогікі (спачатку Сцяпонас Кайрыс, пазней В. Ластоўскі) і гімнастыка. Для 3–й групы слухачоў чытаўся больш паглыблены курс беларускай мовы, арыфметыкі, польскай і нямецкай моў, рэлігіі (Ю. Мэнке, Б. Пачобка, С. Іваноўская), гісторыі і геаграфіі Беларусі, краязнаўства (І. Луцкевіч). Дадаткова вяліся

[280] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 140, арк. 17.
[281] У лясным гушчары // Гоман. — 1917, 7 вер.
[282] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 28—31, 83, 99.

заняткі па маляванню (Багушэвіч), садоўніцтву і агародніцтву (Драмовіч), школьнай гігіене (Сцяпонас Кайрыс). Сярэдні ўзрост слухачоў складаў 21 год: самаму малодшаму, Андрэю Корсаку, было 15 гадоў, самаму старэйшаму, Станіславу Жэймо, — 60. Паводле веравызнання 19 курсантаў былі каталікамі, 1 — лютэранін (Оскар Кайрэніус) і толькі 3 — праваслаўныя (Люба Знайдзілоўская і браты Троты). Такая перавага каталікоў над праваслаўнымі тлумачылася дзвюма прычынамі: па–першае, маладыя каталікі выяўлялі на той час большае нацыянальнае ўсведамленне, па–другое, амаль усе настаўнікі і навучэнцы старэйшых класаў віленскіх казённых школ — праваслаўных па веравызнанні — апынуліся ў бежанстве ў Расіі[283].

Праца курсаў была завершана ў верасні 1916 г. З–за матэрыяльных цяжкасцяў іх здолелі скончыць толькі 10 чалавек, якія атрымалі права выкладаць у пачатковых школах[284]. Пасля гэтага акупацыйныя ўлады спынілі іх далейшую чыннасць. Цынічна выглядаў іх дазвол на адкрыццё Другіх беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні ў чэрвені 1916 г.: папрацаваўшы ўсяго некалькі дзён, гэтыя курсы былі прыпынены акупацыйнай адміністрацыяй на летнія вакацыі, а пасля пачатку новага навучальнага года, у жніўні, іх канчаткова забаранілі[285]. Хадайніцтва БТДПВ перад нямецкай адміністрацыяй утварыць у Вільні беларускую настаўніцкую семінарыю з 3–гадовым курсам навучання для слухачоў, якія маюць адукацыйны цэнз 4 класы гімназіі, былі без усялякіх тлумачэнняў адхілены. Такім чынам, да канца кайзераўскай акупацыі Віленшчына засталася без педагагічнай установы па падрыхтоўцы настаўнікаў для беларускіх школ. Гэтая прычына, а таксама адсутнасць фінансавых сродкаў не дазволілі Беларускай школьнай камісіі пашырыць сетку беларускамоўных навучальных устаноў на Віленшчыне.

Да 1919 г. беларускія настаўнікі Вільні не здолелі арганізаваць уласны настаўніцкі хаўрус, хоць праекты па яго арганізацыі былі прадстаўлены на разгляд Беларускай школьнай камісіі[286]. З канца 1915 г. беларусы мелі толькі невялічкую нацыянальную секцыю ў Віленскім інтэрнацыянальным хаўрусе настаўнікаў, які дзейнічаў у жорсткіх рамках нямецкага акупацыйнага заканадаўства.

Вялікай стратай для беларускай школьнай справы стала смерць выбітнай беларускай дзеячкі і паэткі А. Пашкевіч–Кайрысавай, больш вядомай пад псеўданімам Цётка. Пасля зыходу расійцаў яна свядома засталася ў Вільні і шмат рабіла дзеля пашырэння беларускай школьнай справы. Днём яна працавала ў беларускай школе на Юр’еўскай, у Беларускай школьнай камісіі, на настаўніцкіх курсах, а ноччу ўкладала беларускія падручнікі і чытанкі. На жаль, яе творчая спадчыны гэтага перыяду не захавалася. Сваім аўтарытэтам яна ўраўнаважвала А. Луцкевіча і В. Ластоўскага, імкнулася ўлагодзіць іх даўні канфлікт. Паэтка ўмела знайсці агульную мову і з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў. Яе паважалі і палякі, і літоўцы, і габрэі. А. Луцкевіч у некралогу на смерць паэткі напіша: «Цётка з усіх сілаў працавала, закладаючы беларускія народныя школы, курсы для вучыцялёў, чытаючы на іх лекцыі… Цэлы дзень на нагах, цэлы дзень за работай «на людзях», а ўначы — укладанне беларускіх школьных кніжак, падгатоўка лекцый... Нядзелі тры таму назад Цётка паехала хаваць бацьку [у Лідскі павет. — *У. Л.*]. І назад у Вільню ўжо не вярнулася. У ноч з 10 на 11 лютага [насамрэч з 4–га на 5–е лютага. — *У. Л.*] Цёткі не стала»[287]. Шматнацыянальнай віленскай

[283] Паводле расійскіх законаў (да 1917 г.) у казённых школах «Паўночна–Заходняга краю» (за выключэннем Закону Божага для дзяцей–каталікоў і замежных моў) мелі права выкладаць толькі асобы праваслаўнага веравызнання.
[284] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 15—20, 26, 46, 59—63 адв.
[285] Х.Б. [Пачобка Б.]. Каля школьнае справы // Гоман. — 1917, 14 жн.
[286] Стары вучыцель. Патрэба арганізацыі // Гоман. — 1917, 19 студз.; Беларускі вучыцельскі хаўрус // Гоман. — 1917, 17 жн.
[287] Мялешка І. [Луцкевіч А.]. †Алёіза Пашкевіч–Кайрысава // Гоман. — 1916, 18 лют.

грамадой, сярод якіх былі браты Луцкевічы, В. Ластоўскі, Ю. Мэнке, маршалак Вільні М. Венслаўскі, А. Заштаўт, Ю. Шаўліс, Іонас Вілейшыс, др. Ч. Яхімовіч–Гросэр, Я. Чашэйка–Сахацкі, сябры ўрада Віленскага народнага ўніверсітэта імя А. Міцкевіча, Габрэйскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны і інш., было ахвяравана на «вянок» беларускай паэткі каля 800 мк, якія па просьбе яе мужа былі перададзены на патрэбы беларускіх школ у Вільні.

Разам з праблемай педагагічных кадраў кіраўніцтва Віленскага камітэта БТДПВ імкнулася вырашыць не менш складаную задачу — забеспячэнне навучальных устаноў школьнымі падручнікамі на роднай мове. Акрамя дзвюх «чытанак», складзеных Цёткай і Я. Коласам, «Кароткай гісторыі Беларусі» В. Ластоўскага, а таксама некалькіх малітоўнікаў для каталікоў, створаных яшчэ ў даваенны час, іншай беларускамоўнай вучэбнай літаратуры не мелася. У 1915—1918 гг. нешматлікім віленскім інтэлектуальным асяродкам была зроблена вялікая праца па ўкладанню і выданню новых падручнікаў. Большасць з іх была напісана беларускай лацінкай з–за таго, што нямецкія ўлады да 1917 г. не дазвалялі выкарыстоўваць у друку кірылічны шрыфт. Варта адзначыць, што праваслаўныя беларусы ў большасці сваёй варожа ставіліся да беларускай лацінкі, якую лічылі «першым крокам да уніі»[288]. Нават пасля атрымання такога дазволу віленскія беларусы не былі ў стане задаволіць патрэбы ў кірылічнай вучэбнай літаратуры — адсутнічаў друкарскі шрыфт. Па першым часе дапамаглі ўкраінцы, прынамсі, сябры Берлінскага камітэта «Саюза вызвалення Украіны»[289]. У 1917/18 навуч. годзе большая частка вучэбнай літаратуры была перавыдадзена кірылічным шрыфтам.

Спрэчкі аб тым, які шрыфт выкарыстоўваць для беларускай мовы, не завершаны да канца нават і сёння. А. Луцкевіч справядліва адзначаў, што пытанне правапісу беларускай мовы выходзіць за рамкі толькі філалагічнай праблемы і нярэдка набывае палітычную афарбоўку[290]. Апытанне чытачоў і карэспандэнтаў газеты «Наша Ніва» ў 1912 г. выявіла, што большасць беларускай інтэлектуальнай эліты выказаліся за пераход на кірыліцу, больш зручную для беларусаў, сярод якіх пераважалі праваслаўныя. Але лацінка некаторымі беларускімі дзеячамі па–ранейшаму ўспрымалася як паказнік прыналежнасці беларусаў да еўрапейскай культурнай традыцыі. Лацінскі шрыфт хацелі выкарыстаць для адметнасці беларускай мовы ад расійскай. Напярэдадні Першай сусветнай вайны пры выкарыстанні лацінскага правапісу захоўваўся дуалізм: адны карысталіся польскім варыянтам, тлумачачы гэта тым, што беларусы–католікі спачатку навучаліся чытаць па–польску і прызвычаіліся да польскага шрыфту ў касцёле падчас набажэнства, дзе выкарыстоўваліся польскамоўныя малітоўнікі. Іншыя, уважаючы, як цяжка дзецям даюцца пры чытанні спалучэнні «*sz*» і «*cz*», з педагагічнага і не ў апошнюю чаргу з палітычнага пунктаў гледжання актыўна выступалі за чэшскі варыянт лацінкі, калі кожнаму гуку павінен быў адпавядаць асобны знак (літара) — замест «*sz*» выкарыстоўваўся «*š*», а замест «*cz*» — «*č*». У 1916 г. гэтая дылема была вырашана на карысць «чэшскай» лацінкі (на ёй пачалі друкаваць падручнікі для першых беларускіх школ)[291].

---

[288] Беларускі вучыцельскі з’езд // Беларусь (Гродна). — 1919, 6 сак.

[289] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 256, арк. 29—29 адв.

[290] А.Н. [Луцкевіч А.]. Гутарка і шрыфт // Гоман. — 1916, 30 чэрв.

[291] Палітычна–філалагічныя спрэчкі аб мэтазгоднасці выкарыстання або лацінкі, або кірыліцы былі ўласцівыя не толькі для беларускай сітуацыі. Такая ж праблема мелася ў Малдове, Татарстане і нават у Румыніі. У апошняй доўгі час раўналежна выкарыстоўваліся і лацінка, і кірыліца. У першую палову XIX ст. у румынскім друку актыўна выкарыстоўвалася кірыліца, але з другой паловы гэтага стагоддзя лацінка паступова выціснула кірылічны шрыфт. Здавалася — назаўсёды. Але настала Першая сусветная вайна, і ў Бухарэсце, пад уплывам расійскага палітычнага фактару (Румынія была хаўруснікам Расіі па вайне), аднавілася друкаванне некаторых перыядычных выданняў кірыліцай. І толькі ў пасляваенны час лацінка канчаткова перамагла ў румынскім правапісу.

Адным з першых беларускіх вучэбных дапаможнікаў, выдадзеных у зоне Обер Ост, стала кніжка А. Луцкевіча «Jak prawilna pisać pa–biełarusku»[292]. Першая «Hramatyka biełaruskaj mowy» Б. Пачобкі, выдадзеная ў 1916 г., была ўспрынята вельмі неадназначна. Вядомы нямецкі славіст прафесар Рудольф Абіхт ахарактарызаваў яе як «бясспрэчна вельмі адважную работу». У той жа час Янка Станкевіч і шэраг іншых педагогаў–мовазнаўцаў рэзка раскрытыкавалі гэты падручнік за вялікую колькасць паланізмаў і прымітыўную навуковую тэрміналогію[293]. У 1918 г. Я. Станкевіч і Р. Абіхт выдалі сумесны вучэбны дапаможнік па беларускай мове «Prosty sposab stacca ŭ karotkim czasie hramatnym». Найбольшую актыўнасць па ўкладанню і выданню вучэбнай літаратуры ў 1916—1918 гг. праявіў В. Ластоўскі, які аднавіў у Вільні чыннасць Беларускага выдавецкага таварыства. За гэты час ім былі выдадзены «Lemantar. Pieršaja čytanka», «Rodnyja ziarniaty», «Siejbit. Druhaja čytanka», «Прыказкі і загадкі», «Выпісы з беларускае літаратуры. Старыя часы і народная творчасць», школьны спеўнік «Песні песень» і іншыя кнігі. Апрача таго, ён пераклаў на беларускую мову «Задачнік для пачатковых школ» А. Юрэвіча[294]. Ластоўскі стаў аўтарам першага беларускага падручніка па нямецкай мове «Niamecki dla pačynajučych. Hutarki bielaruska–niamieckije, s prydačaj wymowy i bolej patrebnych sloū» (1918). Прафесар Р. Абіхт прыхільна адазваўся аб адной з лепшых чытанак Ластоўскага «Родныя зярняты». «Цёплы патрыятычны тон «Родных зярнят», — пісаў ён у 1917 г., — перавысіў усе мае самыя смелыя спадзяванні… Гэта фундамент, на каторым ужо можна будаваць далей з надзеяй»[295]. З–за адмовы адміністрацыі Віленскай рымска–каталіцкай дыяцэзіі дазволіць выкарыстоўваць у школах катэхізіс і псалтыр на беларускай мове, укладзеныя Б. Пачобкам і Уладзіславам Талочкам, Беларуская школьная камісія мусіла звярнуцца дзеля правядзення «духоўнай цэнзуры» названых выданняў да ковенскага біскупа, вядомага літоўскага нацыянальнага дзеяча а. Францішка Карэвічуса[296].

Усяго за 1916—1918 гг. было выдадзена больш за 20 школьных падручнікаў і хрэстаматый[297]. Пасля ўтварэння ў 1917 г. Беларускага навуковага таварыства разам з падрыхтоўкай новых падручнікаў па беларускай мове, прыродазнаўству, сусветнай і айчыннай гісторыі была распачата праца па ўдасканаленню беларускай навуковай тэрміналогіі[298].

Ва ўмовах нямецкай акупацыі Беларускай школьнай камісіі і «Сувязі культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа» не ўдалося арганізаваць шырокую сетку беларускамоўных грамадскіх адукацыйных устаноў у сельскай мясцовасці, дзе жыла асноўная частка беларусаў. За першыя два гады акупацыі (1916—1917) удалося адкрыць усяго некалькі беларускіх пачатковых школ у ваколіцах Вільні, Падбродзях, Медніках, Шчучыне, Васілішках, Горадні, Крынках і ў шэрагу іншых населеных пунктаў[299]. Агульная колькасць апошніх не перавышала 20. Сярод іх толькі Гарадзенская школа, утвораная пры Барысаглебскім праваслаўным манастыры яшчэ ў сакавіку

---

[292] BAML SM. F. 21. D. 327. 1–я частка рукапісу падручніка па беларускай мове А. Луцкевіча «Jak prawilna pisać pa–biełarusku».

[293] Станкевіч Я. Справаздача аб «Граматыцы беларускай мовы» Баляслава Пачобкі // Гоман. — 1918, 28 траўня.

[294] ЦДАВО, ф. 3793, оп. 1, спр. 295. Український соціологічний інститут в м. Празі (Чехо–Словаччина). — Особиста справа В. Ластовського (1925 р.).

[295] Праф. Абіхт аб нашых падручніках // Гоман. — 1917, 16 студз.

[296] Духоўная цэнзура беларускіх кніжак // Гоман. — 1917, 27 лют.

[297] Кніжкі для беларускіх школ // Гоман. — 1916, 12 снеж.; Кніжкі для школ // Гоман. — 1917, 13 лют.; Кніжкі для школ // Гоман. — 1917, 8 чэрв.; Спіс беларускіх кніжак на пачатак 1917 г. // Гоман. — 1917, 6 сак.

[298] Навіна А. [Луцкевіч А.]. Пятнаццаць гадоў працы Беларускага навуковага таварыства.., с. 8.

[299] А.Н. [Луцкевіч А.]. Унутраная работа // Беларускі каляндар за 1917 год. — Вільня, 1916. — С. 23.

1916 г., была пазней рэарганізавана ў пачатковую навучальную ўстанову павышанага тыпу з 4–гадовым тэрмінам навучання[300]. Толькі ў студзені 1919 г. у Вільні, паводле рашэння Беларускага з'езда, што адбыўся ў лютым 1918 г., была ўтворана першая ў рэгіёне беларуская гімназія, якая адыграла вялікую ролю ў найноўшай гісторыі Беларусі і стала своеасаблівай «альма матэр» беларускага культурнага адраджэння першай паловы XX ст.[301].

Слабае нацыянальнае ўсведамленне абяздоленага вайной беларускага сялянства, недахоп фінансавых сродкаў, адсутнасць патрэбнай колькасці настаўнікаў, падрыхтаваных для выкладання па–беларуску, былі галоўнай прычынай такога становішча. Не трэба забывацца і аб пазіцыі тутэйшых абшарнікаў і ксяндзоў, якія ўсімі сіламі імкнуліся не дапусціць закладання і існавання беларускамоўных адукацыйных асяродкаў. Аб гэтым сведчаць шматлікія факты. Напрыклад, настаўніца ўтворанай яшчэ ў лістападзе 1915 г. у мястэчку Васілішкі Лідскага павета беларускай пачатковай школы Алена Іваноўская доўгі час не магла распачаць заняткі з–за супрацьдзеяння мясцовага «абыватэльскага» камітэта, які апанавалі польскія шавіністы[302]. Утвораныя ўвосень 1917 г. у ваколіцах Вільні — у фальварках Белы Двор, Рукойны і Слабада — беларускія пачатковыя школы праіснавалі ўсяго некалькі месяцаў. Незадаволеныя самім фактам іх існавання, у пачатку 1918 г. мясцовыя польскія актывісты па ініцыятыве дэкана Шапецкага з Тургеляў, пробашчаў Ганушэўскага з Рукойнаў, М. Шапоцькі з Табурычкаў забаранілі беларускім каталікам, якія складалі большасць тутэйшых жыхароў, надалей пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы. Замест беларускіх адукацыйных устаноў тут былі створаны польскія, а настаўнікаў для іх прыслаў з Вільні польскі Адукацыйны камітэт[303].

Тутэйшая і закардонная польскамоўная прэса неаднаразова друкавала правакацыйныя прэсавыя матэрыялы, прадстаўляючы беларускую школьную справу як «чыста нямецкую інтрыгу». Напрыклад, кракаўскі штодзённік «Czas» пісаў у чэрвені 1917 г.: «Беларуская школьная справа мае асаблівую падтрымку ўлад… Пры гэтым беларускія школы адкрываюцца ў ваколіцах з мешаным жыхарствам, нярэдка замест польскіх школ... У лютым 1916 г. нямецкія ўлады ўтварылі перыёдык «Гоман», які друкуецца ў нямецкай друкарні, разам з нямецкамоўнай «Wilnaer Zeitung». І абедзве газеты маюць аднаго супольнага рэдактара. Гэту газету шыраць гвалтам. Кожны солтыс павінен выпісваць яе. І газета шырыцца праз павятовыя ўлады… Пра кірунак, у якім выдаецца газета, можна сказаць, што ў кожным нумары кідаецца ў вочы антыпольская тэндэнцыя. Паўтараюцца дурныя скаргі на польскі ціск. Праведзены перапіс жыхарства павінен быў пераканаць нямецкія ўлады, што, акрамя Ковеншчыны, ва ўсёй Віленшчыне і паўночнай Гарадзеншчыне колькасць палякаў перавышае 60%, а ў Вільні жывуць толькі палякі й габрэі; з іншымі нацыянальнасцямі зусім нельга лічыцца»[304]. З мэтай дыскрэдытаваць беларускі рух рэшткі праўды ў паведамленні польскай газеты па–езуіцку перамешаны са свядомай хлуснёй. Адзначым, што «Гоман» выдаваўся не ў нямецкай, а ў літоўскай прыватнай друкарні Марціна Кухты. Рэдактары–супрацоўнікі газеты В. Ластоўскі, А. і І. Луцкевічы не атрымлівалі за сваю працу ніякага заробку і ганарару, невялічкі заробак мелі толькі карэктар Ф. Аляхновіч і перакладчык з ня-

---

[300] А. Н. [Луцкевіч А.]. Унутраная работа.., с. 22—24; Са школьнага жыцця // Гоман. — 1917, 26 студз.; ЦНБ НАНБ. АР, ф. 23, воп. 1, спр. 18, арк. 1—2.

[301] А.Н. [Луцкевіч А.]. 1–я Віленская беларуская гімназія // Наша думка. — 1921, 27 траўня.

[302] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 9.

[303] Тамсама, спр. 126, арк. 105; BAML SM. F. 21. D. 443. P. 10. — Артыкулы Б. Пачобкі «Польская адукацыя Беларусі» і «У вясковых школах»; Новыя беларускія школы // Гоман. — 1917, 9 кастр.

[304] Sytuacja w Litwie // Czas (Kraków). — 1917, 6 czerw. Пераклад артыкула пададзены паводле перадруку ў «Гомане» (Гл.: Польская тактыка // Гоман. — 1917, 26 чэрв.).

мецкай мовы Ю. Мэнке. Польская грамада ў зоне Обер Ост таксама мела ад немцаў дазваленне (канцэсію) на выданне газеты «Dziennik Wileński». Польскі нацыянальны актыў наўмысна завышаў колькасны склад польскага жыхарства ў рэгіёне, робячы гэта таксама за кошт падмены паняццяў «нацыянальная» і «канфесійная» прыналежнасці, запісваючы ў «палякі» ўсіх беларусаў–католікаў. І яшчэ — пра школы. Факты «пера-вароту» польскіх школ на беларускія падчас кайзераўскай акупацыі заходняй часткі Беларусі даследнікамі не выяўлены. Справа ў тым, што ў зоне Обер Ост беларускіх каталіцкіх школ можна было пералічыць па пальцах адной рукі. У вёсках і мястэчках, дзе супольна жылі каталікі і праваслаўныя, як правіла, функцыянавалі дзве школы — беларуская і польская.

Падобнай антыбеларускай пазіцыі трымаліся таксама і некаторыя літоўскія палітычныя дзеячы. Асабліва гэта праявілася ў апошні перыяд акупацыі, калі Літоўская Тарыба пры падтрымцы нямецкіх улад імкнулася падпарадкаваць свайму кантролю ўсю Віленшчыну. Асобныя яе прадстаўнікі адкрыта заяўлялі, што «тутэйшыя беларусы–каталікі ёсць абруселыя літоўцы, і іх патрэбна зноў перавярнуць у літоўцаў»[305].

Пашырэнню беларускай нацыянальнай адукацыі ў правінцыі таксама перашкаджала жорсткае акупацыйнае заканадаўства. Беларуская школьная камісія не мела права «самачынна» пасылаць сваіх школьных інструктараў для арганізацыі беларускамоўных адукацыйных устаноў за межы Вільні. Паводле заканадаўства Обер Ост, без дазволу віленскага обергаўптмана пад пагрозай турэмнага зняволення забаранялася выязджаць за межы «прапіскі», пазначанай у «пашпарце Обер Ост»[306]. Так, у загадзе за 28 снежня 1917 г. віленскі обергаўптман Э. Поль пастанаўляў, што домаўласнікі ці эканомы прыходных дамоў павінны ў 3–дзённы тэрмін заяўляць у мясцовы паліцэйскі пастарунак аб прыбыцці ці выездзе сваіх гасцёў–наведвальнікаў. Асобы, якія прыбылі, са свайго боку павінны былі «сумленна даваць гаспадарам патрэбныя аб сабе звесткі і мець пашпарт Обер Ост», а таксама самастойна з’явіцца да мясцовага каменданта і зарэгістравацца.

У Беларускім дзяржаўным архіве–музеі літаратуры і мастацтва выяўлены толькі асобныя факты аб накіраванні Беларускай школьнай камісіяй сваіх інструктараў у правінцыю для арганізацыі там беларускіх школ. Справаздачы і паведамленні апошніх сведчаць аб тым, што стаўленне да беларускай школы сярод сялянства было неадназначным. Адзін з іх, Станіслаў Качынскі, які прыбыў у Дзятлаўскі павет, з сумам паведамляў у Вільню ў лістападзе 1917 г.: «Я няшчасны, таму што не здолеў утварыць беларускую школу ў Данілавічах. Людзі не жадаюць беларускай школы, яны выступаюць за польскую або расійскую школу»[307]. У той жа самы час інструктар Станіслаў Ляховіч дакладваў, што ён яшчэ ў кастрычніку 1917 г. ініцыяваў стварэнне дзвюх беларускіх школ на Сувалшчыне — у Аўгустове і в. Капчаны Аўгустоўскага павета, «якія існуюць ужо 2 месяцы і якія ахвотна наведваюць дзеці»[308].

У хроніцы «З усяго краю», змешчанай у 1916 г. у газеце «Гоман», сустракаецца адзіны факт, калі беларускія сяляне па ўласнай ініцыятыве ў Свянцянскім павеце стварылі 4 беларускія школы, «якія ўтрымліваюць… сваім коштам». «А нядаўна, — працягваў сваё паведамленне свянцянскі карэспандэнт газеты, — у ваколіцах [горада] наладжаны быў беларускі тэатр, у каторым ігралі беларускую п’есу, напісаную адным з тутэйшых людзей. Работа тут вядзецца саматужна — толькі па ініцыятыве мясцовых сіл. З

[305] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 80, арк. 61—63 адв.
[306] Апавяшчэнне // Гоман. — 1917, 16 студз.
[307] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 134, арк. 5.
[308] Тамсама, арк. 11.

Вільняй дагэтуль ніякіх кантактаў не было»[309]. У канцы 1918 г. намаганнямі беларускіх дзеячаў былі арганізаваны беларускія грамадзкія школы ў населеных пунктах Орля, Ракавічы, Турэйск, Чарвякі Лідскага павета, Шутавічы, Капліцы Віленскага павета і іншых месцах[310].

У віленскіх беларусаў было спадзяванне, што да справы арганізацыі беларускіх школ у правінцыі прычыняцца каталіцкія святары, якія прыхільна ставіліся да беларускага руху, такія як а. Францішак Рамейка (пробашч касцёла ў мяст. Шэрашава Пружанскага павета), Тамаш Сілюк (пробашч касцёла ў в. Крамяніца Ваўкавыскага павета), а. Вацлаў Лукша (пробашч Бранскага касцёла ў Бельскім павеце), айцы Генрык Бэта і Янка Ляўковіч (святары Янаўскага касцёла Сакольскага павета), а. Язэп Германовіч (пробашч Далісаўскага касцёла Беластоцкага павета), а. Антон Шышко (пробашч касцёла ў мяст. Свіслач Ваўкавыскага павета) і іншыя[311]. Але ніхто з іх не адважыўся ў 1915—1917 гг. арганізаваць пры сваіх парафіях беларускамоўныя школы, асцерагаючыся ў першую чаргу адміністрацыйных караў з боку Віленскай духоўнай кансісторыі. Толькі ў канцы 1918 г., калі Віленскую рымска–каталіцкую дыяцэзію ўзначаліў біскуп а. Юры Матулявічус, які прыхільна ставіўся да беларускай справы, 18 беларускіх ксяндзоў з каталіцкіх парафій Гарадзеншчыны пачалі выкарыстоўваць беларускую мову ў дадатковым набажэнстве і намагаліся арганізаваць беларускія школы[312].

Трэба сказаць, што да лета 1917 г. у акупацыйнай зоне Обер Ост нідзе больш, акрамя Вільні, не існавала беларускіх каталіцкіх школ. «На грунце… дамаганняў польскіх нацыяналістаў, — пісала тады газета «Гоман», — робіцца тое, што на каталіцкай Беларусі дагэтуль зусім няма беларускіх школ... Ёсць адны толькі польскія народныя школы. Гэты раздзел праводзіцца нават там, дзе ў адной вёсцы жывуць уперамешку беларусы праваслаўныя і каталікі. Дзеля прыкладу, узяць хаця б м. Свіслач: тут, у тых самых мурах, ёсць дзве школы — беларуская і польская. У першую ходзяць беларускія дзеці–праваслаўныя, у другую — беларускія дзеці–каталікі»[313]. У пазнейшы перыяд колькасць каталіцкіх школ таксама складала мізэрную долю ад агульнай колькасці беларускіх адукацыйных устаноў. Х. Земке прыводзіць звесткі пра 5 такіх школ у зоне Обер Ост[314].

Першыя беларускія школы твaрыліся рукамі беларускіх дзеячаў без палітычнай і фінансавай падтрымкі нямецкай акупацыйнай улады. Апошняя не дапамагала, але і не перашкаджала гэтым пачынанням. Не перашкаджала таму, што гэта не супярэчыла яе геапалітычным інтарэсам у краі. Пазней акупацыйны рэжым імкнуўся выкарыстаць беларускую школьную справу ў якасці культурна–ідэалагічнага кардона на шляху пашырэння паланізацыі беларускіх тэрыторый.

На гэта, дарэчы, рабілі стаўку праеўрапейскі арыентаваныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху, якія імкнуліся выкарыстаць прысутнасць немцаў дзеля пазбаўлення ад расійскага ўплыву і русіфікацыі, дзеля шырокага разгортвання беларусізацыі, пашырэння нацыянальнага ўсведамлення сярод тутэйшага жыхарства, развіцця нацыянальнай асветы і культуры — усяго таго, што павінна было працаваць на «крышталізацыю» нацыі і без чаго немагчыма было здзейсніць палітычную незалежнасць.

«Вораг майго ворага — мой хаўруснік» — гэты лозунг быў уласцівы многім малалікім

---

309 Беларускія школы // Гоман. — 1916, 24 кастр.

310 ЦНБ НАНБ. АР, ф. 4, воп. 1, спр. 2, арк. 4; Тамсама, спр. 12; Станкевіч Я. Лідскі павет. Пераследаванне беларускіх школ // Беларусь. — 1920, 3 крас.

311 БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 133, арк. 34.

312 ГАРФ, ф. 5999, оп. 1, ед. хр. 1, л. 13.

313 З нашага жыцця // Гоман. — 1917, 22 чэрв.

314 Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges.., s. 58.

«недзяржаўным» нацыям, якія дамагаліся сваёй незалежнасці. Каб пазбавіцца ад шведскай палітычнай і эканамічнай залежнасці ў XIX ст., маладыя фінскія нацыяналісты зрабілі стаўку на расійскую ўладу. Тое ж самае зрабілі «младалатышы» ў пачатку XX ст., змагаючыся з засіллем у краі «остзейскіх» немцаў. Яны разлічвалі, што небяспека анямечвання латышоў больш рэальная, чым іх русіфікацыя.

Падобнымі крытэрыямі кіраваліся і беларускія нацыянальныя дзеячы, калі рабілі стаўку падчас Першай сусветнай вайны на Нямеччыну. У траўні 1916 г. А. Луцкевіч пісаў на старонках «Гомана»: «Здабыцце новага незалежнага быту, як для Польшчы, так і для літоўска–беларускіх зямель, будзе вызначаць і ад нас некаторых ахвяраў і ўступак са сваіх шырокіх ідэалаў: ясна, што немцы думаюць перш за ўсё не аб нас, але аб сабе, — і сучасная палітычная мудрасць вымагае, каб мы знайшлі спосаб пагодзіць інтарэсы Краю і інтарэсы сярэднееўрапейскіх дзяржаў»[315]. Падобнай пазіцыі трымаўся і В. Ластоўскі, які дыстанцыраваўся ад групоўкі А. Луцкевіча і займаў на той час больш правыя пазіцыі. Менавіта В. Ластоўскі і яго прыхільнік Я. Салавей сталі ініцыятарамі віншавальных тэлеграм у Берлін за 28 лютага 1917 г. на імя «айцоў» Обер Ост — фельдмаршала П. фон Гіндэнбурга і генерала Э. фон Людэндорфа — з нагоды першых угодкаў прызнання нямецкай уладай за беларускай мовай статусу афіцыйнай мовы і раўнапраўнай з іншымі краёвымі мовамі[316].

Этнапалітычныя працэсы ў зоне Обер Ост не заставаліся па–за ўвагай урадавых і грамадскіх колаў Расіі. Яны вельмі ўважліва сачылі за падзеямі на акупаваных беларуска–літоўскіх землях. Развой беларускага школьніцтва быў успрыняты шавіністычна настроенымі расійскімі палітыкамі і журналістамі вельмі варожа і нервова. Гэта тычылася не толькі такіх палітычных маргіналаў, як Уладзімір Пурышкевіч, Дзмітры Хамякоў і Мікалай Маркаў і блізкіх да іх перыёдыкаў. Дастаткова памяркоўная петраградская газета «Новое Время» так ацэньвала факт падтрымкі нямецкімі ўладамі чыннасці беларускіх нацыяналістаў на ніве школьнай асветы, культуры і друку: «Імкненне немцаў вышукваць ворагаў Расіі паўсюль, дзе толькі іх можна знайсці, прымушае іх паддобрывацца да «беларусаў». Мы бярэм гэтае слова ў двукоссе дзеля таго, каб паказаць, што гаворка ідзе тут не аб масе беларускага жыхарства, а аб тых беларускіх сепаратыстах, якія аддзяляюць сябе ад расійскага народа і далучаюць сябе да «асобнай беларускай нацыі» і на сённяшні дзень з блаславення нямецкіх акупацыйных улад утварылі свой асобны друкаваны орган «Гоман». Гэтымі «беларусамі» якраз і апякуюцца немцы, робячы ім усялякія саступкі ў нацыянальным дачыненні»[317]. Падобныя зацемкі можна бачыць і ў іншых тагачасных расійскіх газетах і часопісах: «Утро», «Русские Ведомости», «Родной язык в школах» і інш.

Дзеля супрацьдзеяння польскай нацыянальнай агітацыі ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» кайзераўскія акупацыйныя ўлады згадзіліся на стварэнне масавых беларускамоўных казённых школ. Пайсці на гэты крок іх падштурхнула сітуацыя, калі ранейшыя рэпрэсіўныя меры ў дачыненні да польскамоўных «саматужных» адукацыйных асяродкаў паказалі сваю неэфектыўнасць. Беларуская школа павінна была стварыць «заслону», якая спыніць пранікненне польскага нацыяналізму на беларускія землі.

---

315 Мялешка І. [Луцкевіч А.]. Мудрая рада // Гоман. — 1916, 26 траўня.

316 Беларусы Гіндэнбургу і Людэндорфу // Гоман. — 1917, 4 траўня. У тэлеграме на адрас Людэндорфа адзначалася: «Роўна год таму назад Ваша Экселенцыя прыняла ў межах Обер Ост у афіцыяльных зносінах і ў школе тыя ж правы за беларускай мовай, як і за мовай іншых нацыянальнасцяў Краю… У гісторыі адраджэння беларусаў імя Вашае Экселенцыі будзе заўсёды ўспамінацца як імя прыяцеля нашага народа». З тэксту тэлеграмы да Гіндэнбурга: «Прадстаўнікі арганізаваных беларусаў... выказваюць сваю веру, што Ваша Экселенцыя і надалей захавае сваю выказаную прыхільнасць да беларусаў і выкажа яе ізноў у патрэбу».

317 Немцы и «Белорусы» // Новое Время. — 1916, 6 авг.

Для ўтварэння беларускай педагагічнай установы яны абралі не Вільню, а правінцыйнае мястэчка Свіслач у Ваўкавыскім павеце. Гэта было зроблена свядома. А. Луцкевіч меў рацыю, калі пісаў: «Акупанты ні за што не хацелі пакінуць агульнае кіраўніцтва школьнай справай у руках беларускага грамадзянства, і каб зліквідаваць Беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні, нямецкая ўлада загадвае адчыніць гэтакія ж канкурэнцыйныя курсы далёка ад Віленскага цэнтру — у м. Свіслач»[318]. Такім чынам, Беларуская школьная камісія фактычна адхілялася ад справы арганізацыі беларускага школьніцтва на Гарадзеншчыне.

Свіслацкая беларуская настаўніцкая казённая семінарыя была арганізавана ў кастрычніку 1916 г. Яе ўзначаліў нямецкі вайсковы чыноўнік, анямечаны паляк Бендзеха, а настаўнікамі былі прызначаны Б. Пачобка і Баляслаў Квяцінскі. Праз навучанне ў семінарыі прайшло 144 чалавекі. Пачынаючы з другога выпуску, на вучобу ў названую педагагічную ўстанову пачалі прымаць прадстаўніц жаночага полу[319]. З восені 1916 г. гэта была адзіная педагагічная навучальная ўстанова ў зоне Обер Ост, якая рыхтавала настаўнікаў для беларускіх школ. Разам з тым трэба сказаць, што ўзровень педагагічнай і агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі ў ёй быў даволі нізкім. Большасць выпускнікоў семінарыі ў 1919 г., ужо ў час польскай акупацыі, дзеля таго, каб атрымаць права выкладаць у пачатковых школах Гарадзеншчыны, мусіла прайсці перападрыхтоўку на беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні. Адносна невысокі ўзровень падрыхтоўкі выпускнікоў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі тлумачыцца не толькі скарочаным тэрмінам навучання, але таксама неадпаведным, занадта нізкім для такой педагагічнай установы адукацыйным цэнзам яе выкладчыкаў. Ні Б. Пачобка, ні Б. Квяцінскі не мелі нават сярэдняй адукацыі. Пачобка, паводле яго ўласных слоў, «да 19 гадоў гадаваўся пры бацьках», ад якіх вывучыўся «пісаць і чытаць па–польску, па–расійску і крыху па–нямецку, ды па лаціне». Ён так і не здолеў паступіць у Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, а Квяцінскі да вайны скончыў усяго 4 класы Магілёўскай казённай мужчынскай гімназіі[320]. Апрача таго, дачыненні паміж выкладчыкамі падчас іх сумеснай працы ў Свіслачы, мякка кажучы, нельга назваць лагоднымі. Квяцінскі абвінавачваў Пачобку ва ўніяцкай і касцёльнай агітацыі сярод навучэнцаў семінарыі, большасць з якіх з'яўляліся праваслаўнымі[321]. Праўда, сам Квяцінскі быў католікам па веравызнанні.

Не Беларуская школьная камісія, а рэгіянальныя акупацыйныя адміністрацыі (управы) вызначалі кандыдатаў на бясплатныя вакансіі для вучобы ў семінарыі. Вядомая беларуская паэтэса і грамадскі дзеяч Вера Матэйчук–Маслоўская (таксама вядомая пад псеўданімам Мурашка) трапіла вучыцца ў Свіслач па рэкамендацыі памочніка крайсгаўптмана толькі таму, што падыходзіла па ўзросту, ведала нямецкую мову і ў роднай вёсцы выконвала абавязкі солтыса «з–за адсутнасці мужчын»[322]. Беларускія нацыянальныя арганізацыі таксама не ўдзельнічалі ў размеркаванні выпускнікоў семінарыі па школах. Уся вучэбна–метадычная праца ў беларускай казённай школе ў зоне Обер Ост знаходзілася пад кантролем нямецкіх функцыянераў. Ні кіраўніцтва Беларускай школьнай камісіі, ні «Сувязь культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа» не валодалі інфармацыяй аб месцах знаходжання многіх беларускіх казённых навучальных устаноў. Гэта было прэрагатывай нямецкай адміністрацыі,

---

318 [Луцкевіч А.]. Дзесяцілецце беларускай школы // Жыццё беларуса. — 1925, 12 ліст.

319 Вучыцельскія курсы ў Свіслачы // Гоман. — 1917, 9 студз.; Запіс на вучыцельскія курсы ў Свіслачы // Гоман. — 1917, 5 студз; Ляхоўскі У.В. Свіслацкая беларуская настаўніцкая семінарыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 436.

320 БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 93—94.

321 Тамсама, ф. 3, воп. 1, спр. 133, арк. 18—19 адв.

322 Тамсама, ф. 3, воп. 1, спр. 124, арк. 82.

якая здзяйсняла кіраванне і інспекцыю гэтых школ. А. Луцкевіч з сумам адзначаў, што «зносіны з вучыцелямі не дапускаюцца. Страх перад палітыкай! Асновы акупацыйнай палітыкі — вось якія»[323]. У лістападзе 1918 г. Свіслацкая настаўніцкая семінарыя спыніла сваё існаванне, а яе маёмасць была разрабавана мясцовым габрэйскім жыхарствам.

Распавядаючы пра негатыўныя факты ў палітыцы Другога Рэйха ў дачыненні да Беларусі і беларускага вызвольнага руху, не забудзем з удзячнасцю ўзгадаць пра тых немцаў, хто дапамагаў беларусам словам, справай, дабрачыннасцю. Тут можна ўзгадаць вайсковага лютэранскага пастыра Цыркніца, што духоўна апекаваўся беларускімі праваслаўнымі ў Беластоку, журналіста В. Егера, аўтара вядомай кнігі «Беларусь: краіна, жыхарства, гісторыя, народная гаспадарка, культура, паэзія»[324], які шмат зрабіў у вывучэнні і папулярызацыі гісторыі і культуры Беларусі ў нямецкай літаратуры. У гэтым шэрагу стаіць постаць мастацтвазнаўца д–ра А. Іпеля, арганізатара ў 1918 г. у Вільні і Мінску дзьвюх краёвых мастацкіх выстаў, дзе прэзентавалася беларуская старасветчына, аўтара актуальнага і сёння даследавання па гісторыі мастацтва Беларусі[325].

Значны ўнёсак у вывучэнне беларускай мовы, у пашырэнне беларускай школьнай справы зрабіў сябра беларускага народа нямецкі філолаг Р. Абіхт. Зацікавіўшыся беларускай мовай, нямецкі славіст ва ўзросце 66 гадоў хутка авалодаў ёй і, пачынаючы з зімовага семестра 1916 г., распачаў чытаць у Брэслаўскім (Вроцлаўскім) універсітэце лекцыі па беларускай мове. «Сярод студэнтаў, — паведамляла прэса, — было вельмі шмат нямецкіх вайскоўцаў, якія складалі прыблізна палову ўсіх студэнтаў». Улетку 1917 г. ён выязджаў у мяст. Свіслач і выкладаў беларускім семінарыстам і настаўнікам лекцыі па беларускай і нямецкай мовах[326]. У 1918 г. разам з Я. Станкевічам ён выдаў лемантар «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным», які стаў настольным дапаможнікам для многіх, хто жадаў авалодаць беларускай мовай.

Пры нямецкай фінансавай падтрымцы з кастрычніка 1916 г. па красавік 1918 г. колькасць беларускіх казённых школ у генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» ўзрасла з 3 да 79. Адпаведна лік беларускіх школьнікаў узрос з 497 да звыш 3 тыс. (гл. *Дадаткі 8—10*). Агульная колькасць беларускіх школ у зоне Обер Ост, паводле звестак Х. Земке, дасягнула 89. Доля беларускіх школ у агульнай колькасці навучальных устаноў у зоне Обер Ост на першую палову 1918 г. склала 6,5%, у той час як у генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» яна ўзрасла да 21,2% [гл. *Дадатак 11*]. Гэтыя лічбы, прыведзеныя ў рабоце нямецкага гісторыка, з’яўляюцца найбольш аб’ектыўнымі, хоць тут не ўлічаны некаторыя беларускамоўныя навучальныя ўстановы на тэрыторыі Віленшчыны і Сувалшчыны, якія ўтрымліваліся за кошт грамадскіх і прыватных сродкаў.

Разам з тым у гістарычнай літаратуры існуе вялікая разбежка ў вызначэнні колькасці беларускамоўных школ у зоне Обер Ост. Удзельнік тых падзей А. Луцкевіч у сваім артыкуле ў габрэйскай газеце «Леўт Найс» за 17 кастрычніка 1917 г. называў агульную колькасць беларускіх пачатковых школ у зоне Обер Ост больш за 100[327]. У сакавіку 1918 г. на пасяджэнні Рады БНР у Мінску дэлегацыя Віленскай беларускай рады агучыла новую лічбу — 128[328]. У пачатку ліпеня 1918 г. А. Луцкевіч пісаў невядомаму адрасату ў Кіеў, што на «Гарадзеншчыне ёсць ужо каля 125 беларускіх школ»[329]. У

[323] ЦДАВО, ф. 3766, оп. 1, спр. 68, арк. 14.

[324] Jäger W. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung…

[325] Ippel A. Zur weißruthenischen Kunst. In: Weißruthenien von Walter Jäger. Weißruthenien.., s. 89—96.

[326] Лекцыі з беларускай мовы // Гоман. — 1917, 2 сак.; Універсітэцкія лекцыі беларускай мовы // Гоман. — 1916, 15 снеж.

[327] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 134, арк. 29—30.

[328] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 16, арк. 23.

[329] ЦДАВО, ф. 3766, оп. 1, спр. 68, арк. 14.

1920 г. А. Луцкевіч паведамляў ужо, што ў канцы нямецкай акупацыі на Гарадзеншчыне функцыянавала 153 беларускія школы[330]. Але ўсе гэтыя звесткі беларускіх нацыянальных дзеячаў не пацвярджаюцца наяўнымі нямецкімі дакументальнымі крыніцамі. Адносна лічбы «153» можна выказаць здагадку, што яна ўзнікла ад простага арыфметычнага складання разам агульнай колькасці выпускнікоў Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі за 1916—1918 гг. (144) з колькасцю беларускіх грамадскіх школ, якія дзейнічалі ў рэгіёне ў перыяд кайзераўскай акупацыі (9). Лічба «153» неаднаразова згадвалася ў публікацыях, якія тычыліся гісторыі беларускай нацыянальнай асветы перыяду Першай сусветнай вайны, як у перыядычных выданнях Заходняй Беларусі, так і ў БССР пачатку 1920–х гадоў[331].

Трэба тут адзначыць, што каля 40 былых курсантаў Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі склалі апошні яе выпуск у лістападзе 1918 г., калі ўжо адбыўся фактычны развал нямецкай школьнай сістэмы ў зоне Обер Ост. Можна меркаваць, што гэтыя выпускнікі семінарыі ў апошнія месяцы кайзераўскай акупацыі наўрад ці атрымалі прызначэнні на пасады ў школы.

Адзін з лідараў беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў А. Станкевіч давёў лічбу беларускіх школ у час кайзераўскай акупацыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны да 200, нямецкі гісторык В. Хасельблат у сваім даследаванні «Беларуская сялянская нацыя» (1942) падаў лічбу больш за 300, а польскі даследнік К. Сракоўскі ў сваёй публікацыі за 1924 г. — каля 350[332]. Цяжка сказаць, якімі крыніцамі карыстаўся А. Станкевіч, але адносна двух апошніх даследнікаў з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што яны выкарыстоўвалі інфармацыю са шматлікіх мемарандумаў беларускіх нацыянальных арганізацый, якія накіроўваліся на адрас урадаў краін Еўропы і Паўночнай Амерыкі, а таксама розных міжнародных арганізацый. Першыя такія дакументы з'яўляюцца ў 1918 г. Галоўная іх мэта — звярнуць увагу сусветнай супольнасці на цяжкае становішча беларускага народа, які перажыў за гэты час не адну акупацыю, і дабіцца рэальнай падтрымкі ў справе дасягнення незалежнасці Беларусі. Так, напрыклад, у мемарандуме Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны за верасень 1919 г., прысвечаным лёсу беларускай школы на землях, захопленых польскімі войскамі, паведамлялася, што «вынікам… новых адносін нямецкіх акупацыйных улад [у 1915—1918 гг. — *У. Л.*] сталася тое, што лічба пачатковых беларускіх школ, у якіх выклады адбываліся ў беларускай мове, пачала борзда расці і да канца нямецкай акупацыі ў Віленшчыне і Гарадзеншчыне перавысіла 300 школ»[333]. Відавочна завышаная колькасць беларускіх школ у час кайзераўскай акупацыі выкарыстоўвалася дзеячамі беларускага руху як фактар ціску на акупацыйныя ўлады Польшчы, каб дабіцца ад апошніх прызнання права на існаванне беларускамоўнай асветы на заходнебеларускіх землях. Такі «аргумент» пазней часта выкарыстоўваўся дзеячамі Беларускай Народнай Рэспублікі ў мэтах дыскрэдытацыі польскай нацыянальнай палітыкі на «ўсходніх крэсах». З мемарандумаў БНР і заходнебеларускіх арганізацый «факты» аб існаванні ў часы Обер Ост 300 і нават 350 беларускіх школ без належнага крытычнага аналізу трапілі ў пазнейшыя публікацыі.

У пасляваенны час нічога новага ў асвятленні гэтага пытання гісторыкі не дадалі. У сваіх даследаваннях некаторыя з іх некрытычна выкарыстоўвалі і інтэрпрэтавалі звесткі даваенных аўтараў. Прадстаўнік беларускай эміграцыі Я. Найдзюк фактыч-

---

330 БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 121.

331 [Луцкевіч А.]. Дзесяцілецце беларускай школы // Жыццё беларуса. — 1925, 12 ліст.; Смоліч А. Дзесяцігоддзе беларускай школы…

332 Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі.., с. 522.

333 Беларуская школа. Мемарыял Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны Камісару «Усходніх Зямель» аб школьных справах // Незалежная Беларусь. — 1919, верасень (№ 4).

на паўтарае лічбу, прыведзеную А. Станкевічам[334]. Ю. Туронак, каб абгрунтаваць дадзеныя А. Луцкевіча аб існаванні ў зоне Обер Ост 153 беларускіх школ, да ўзгаданых у публікацыі Х. Земке 89 беларускамоўных адукацыйных устаноў без сур'ёзных абгрунтаванняў дадаў яшчэ 64, якія, паводле яго слоў, маглі дзейнічаць у перыяд нямецкай акупацыі ў «вайскова–аперацыйнай паласе, якая распаўсюджваецца на большую частку акупаваных беларускіх зямель» плошчай 33 тыс. кв. км[335]. Выказваючы такую версію, даследнік не толькі не пацвярджае яе дакументальна, але і памыляецца ў геаграфічным вызначэнні адзначанага раёна. Туронак адносіць яго да «вайскова–аперацыйнай паласы паміж граніцай Обер Ост і лініяй нямецка–расійскіх акопаў»[336]. Насамрэч, і пра гэта сведчаць нямецкія крыніцы, дадзеная зона памерам у 33 тыс. кв. км з'яўлялася «аператыўна–тылавым раёнам Обер Ост» (Rückwärtiger Verwaltungsbezirk Ober Ost) і размяжоўвала нямецкі Усходні фронт і Галіцкі фронт аўстра–вугорскіх войск. Як ужо адзначалася вышэй, гэты раён ахопліваў заходнюю частку беларускага і ўкраінскага Палесся (Берасцейшчыну і Валынь). На сённяшні дзень не выяўлена фактаў існавання ў гэтым рэгіёне ў 1915—1939 гг. (да часу ўсталявання савецкай улады) беларускамоўных навучальных устаноў[337]. Зрэшты, сам Ю. Туронак сумняваўся адносна праўдзівасці сваёй версіі, канстатуючы адсутнасць дакументальных сведчанняў аб гэтым[338].

У другой палове 1918 г. сітуацыя кардынальна змянілася. Кайзераўскія акупацыйныя ўлады ў гэты час фактычна згубілі кантроль над школай у «Паўднёвай Літве» (былой генеральнай акрузе «Беласток—Горадня»). Адначасова польскія нацыянальныя арганізацыі пачалі аднаўляць тут свае навучальныя ўстановы, закрытыя раней немцамі. Урад адроджанай польскай дзяржавы дамогся ў 1919 г. ад камандавання рэйхсвера згортвання ў акрузе «Беласток–Городня» створанай сеткі беларускіх казённых школ[339]. Пакінутыя без грашовага ўтрымання, большасць беларускіх навучальных устаноў самаліквідаваліся або былі заменены польскімі школамі. Фактычную ліквідацыю сеткі беларускіх казённых школ на Гарадзеншчыне пацвердзіў 1–ы Гарадзенскі беларускі губернскі з'езд, скліканы па ініцыятыве мясцовай «рускай» губернскай управы 1 снежня 1918 г.[340]. Трохі пазней, у жніўні 1919 г., ваўкавыскі інструктар польскага «Таварыства стражы крэсовай» У. Касторы паведамляў у Варшаву: «Беларускія школы, якіх на тэрыторыі адной толькі Тарнопальскай гміны было шэсць, не пакінулі пасля сябе ніякага следу». На запыт, ці ёсць беларускія школы на Слонімшчыне, польскі рэвідэнт ТСК цынічна заявіў у адказ: «Беларуская школа з'яўляецца тут абсурдам»[341].

Ацалелі ад польскага «пагрому» толькі беларускія грамадскія навучальныя ўстановы, якія ўтрымліваліся Школьнай камісіяй БТДПВ, а таксама частка былых казённых школ, якія ўзялася фінансаваць «Сувязь культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа». Працягвалі працаваць 5 віленскіх гарадскіх школ, шэраг беларускамоўных школ у акрузе «Вільня», а таксама некалькі «саматужных» школ у раёне Аўгустова. Захавалася не больш 15 школ на Гарадзеншчыне: у Горадні, Крынках, пры Краснастоцкім праваслаўным манастыры, у вё-

334 Найдзюк Я. Беларусь учора і сяння.., с. 149.

335 Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі.., с. 522.

336 Тамсама, с. 517.

337 Можна казаць аб функцыянаванні тут у гэты час толькі польскіх, габрэйскіх, а таксама ўкраінскіх школ.

338 Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі.., с. 522.

339 Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг., с. 471.

340 ГАРФ, ф. 5999, оп. 1, д. 1, л. 5 об — 8.

341 CAW w Rembertowie. Naczelne Dowództwo Wojska Polskiego (NDWP)–I. Raporty Towarzystwa Straży Kresowej (TSK). Sygn. 301—8, s. 673.

скаx Голады, Цясняны Бельскага павета, Грабаўцы Беластоцкага павета, Вялікая Бераставіца Гарадзенскага павета, мястэчку Рось Ваўкавыскага павета і шэрагу іншых населеных пунктаў[342].

Можна зрабіць высновы, што ўсе казённыя беларускія пачатковыя школы, якія ўтрымліваліся на сродкі кайзераўскай адміністрацыі без удзелу беларускіх грамадскіх арганізацый, зніклі разам з акупацыйнай уладай. А. Луцкевіч меў рацыю, калі пісаў: «Успамінаю аб першых кроках беларускай пачатковай школы ў Заходняй Беларусі, гожа тут адзначыць адзін вельмі характэрны факт: беларуская школа была моцнай і трывалай толькі ў тыя перыяды, калі яна была творана рукамі беларускага ідэйнага грамадзянства. І кожны раз, як за гэту справу бралася чужая ўлада — ці то нямецкая, ці «сярэдне–літоўская», ці іншая — кожны раз чужацкая апека канчалася для нас… катастрофай»[343].

Беларуская школьная справа ў зоне Обер Ост цяжка прабівала сабе шлях. Тым не менш, чыннасць беларускага нацыянальнага актыву па стварэнню беларускіх адукацыйных асяродкаў на Віленшчыне і Гарадзеншчыне мы павінны належным чынам адзначыць у айчыннай гісторыі. За нейкі год тут была створана цэлая сетка легальных беларускіх школ, для якіх былі падрыхтаваны настаўнікі, вучэбныя праграмы, навуковая тэрміналогія, падручнікі.

10–я ўгодкі *Дня беларускай школы* былі годна адзначаны ў 1925 г. як заходнебеларускай прэсай, так і прэсай Савецкай Беларусі. У час юбілею А. Луцкевіч так выказаўся аб важнасці гэтай падзеі: «*Першая беларуская школа і наогул першая школа з беларускай мовай выкладання была адчынена ў Вільні 13 лістапада 1915 года… Беларуская школа, нарадзіўшыся на Захадзе, перакінулася на Усход і буйна расцвіла тамака…*»[344]. У тым жа кантэксце з нагоды 10–х угодкаў беларускай школы ў 1925 г. напісаны артыкул А. Смоліча ў «Савецкай Беларусі»: «Дзесяць гадоў назад, 13 лістапада 1915 года, у Вільні адчынілася першая легальная беларуская школа. Да таго часу існавалі толькі дзе–нідзе патаемныя беларускія школы, якія закладалі з аднаго боку рэвалюцыйнае настаўніцтва (асабліва ў эпоху 1905—1908 гг.), альбо культуртрэгеры [мецэнаты. — *У. Л.*]. Матэрыялы аб гэтых школах пакуль што мала вядомы і нераспрацаваны. Але ў кожным разе навучанне ў іх не магло адбывацца колькі–небудзь нармальна. Сістэматычная школьная праца на беларускай мове ў сучасных формах у масавых памерах пачалася толькі дзесяць гадоў назад, калі з Заходняй Беларусі выехалі царскія ўлады. Толькі з таго часу можна было думаць і аб планавасці развіцця гэтай справы»[345].

13 лістапада 1915 г. — дзень ўтварэння першай беларускай школы ў Вільні — мусіць стаць *Днём свята беларускай школы*. З гэтай падзеяй звязаны пачатак тварэння масавага беларускага школьніцтва. Гэты дзень павінен быць уведзены ў рэестр беларускіх нацыянальных свят нароўні з іншымі славутымі датамі.

[342] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 17, арк. 7—8.
[343] [Луцкевіч А.]. Дзесяцілецце беларускай школы // Жыццё беларуса. — 1925, 12 ліст.
[344] Дзесяцілецце беларускай школы // Жыццё беларуса. — 1925, 12 ліст.
[345] Смоліч А. Дзесяцігоддзе беларускай школы // Савецкая Беларусь. — 1925, 22 ліст.

## 3.3. Нямецкая школьная прысутнасць на заходнебеларускіх землях. Габрэйская і літоўская адукацыя ў рэгіёне

У 1914—1915 гг. з Літвы і заходняй часткі Беларусі расійскімі ўладамі была дэпартавана большасць мясцовых немцаў[346]. З прыходам нямецкіх войск была адноўлена частка былых нямецкіх лютэранскіх і евангелісцкіх школ. 23 сакавіка 1916 г. у Вільні ўзнавіліся заняткі ў ранейшай нямецкай школе пры мясцовай евангелісцкай кірхе, згадкі пра якую датуюцца яшчэ 1648 г. 21 ліпеня 1915 г. яна была зачынена расійскай ваеннай адміністрацыяй, а яе настаўнікі вывезены ў цэнтральныя рэгіёны Расіі[347].

Пры разглядзе школьнай статыстыкі Обер Ост за 1916—1917 гг. звяртае на сябе ўвагу значнае павелічэнне тут колькасці нямецкамоўных школ. Калі ў 1916 г. іх было адкрыта 65, то ў 1917 г. — ужо 169. Аналіз нацыянальнага складу вучняў гэтых адукацыйных асяродкаў паказвае, што асноўны кантынгент школьнікаў у апошніх быў далёка не нямецкі. У Курляндыі нямецкамоўныя школы вымушаны былі наведваць латышы, у некаторых паветах Ковеншчыны, што межавалі з т.зв. «Малой Літвой», у першыя гады акупацыі — літоўцы. Доля дзяцей тутэйшых беларусаў, літоўцаў і палякаў у нямецкамоўных школах на Віленшчыне і Гарадзеншчыне была вельмі малая. Галоўны ж кантынгент вучняў у іх складалі дзеці тутэйшых габрэяў. З адзначаных вышэй 169 нямецкамоўных школ у зоне Обер Ост чыста габрэйскімі з'яўляліся 115, а ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» з 73 — 67 (гл. *Дадатак 8*). Чыннасць габрэйскіх нямецкамоўных школ адбывалася са згоды тутэйшых іўдзейскіх абшчын. Дадзены факт можна растлумачыць наступным чынам. Нямецкамоўныя школы дзеці габрэяў, як правіла, наведвалі пасля ці раўналежна з навучаннем у хедэрах і талмуд–торах (у адным толькі Віленскім павеце функцыянавалі 82 хедэры і талмуд–торы, у якіх навучалася каля 4 тыс. габрэйскіх хлопчыкаў[348]). Блізкасць мовы ідыш да «deutsch» не выклікала ў габрэйскіх дзяцей цяжкасцяў у асваенні нямецкай мовы. У Беларусі — краіне з нізкім нацыянальным усведамленнем тытульнай нацыі сімпатыі ўплывовых габрэйскіх колаў, як правіла, схіляліся на бок пануючай тут дзяржаўнай улады[349]. Праз згоду вучыць дзяцей габрэяў па–нямецку ў зоне Обер Ост частка габрэйскіх сацыяльных вярхоў дэманстравала перад Другім Рэйхам сваю лаяльнасць. Разам з тым, гэты факт можна растлумачыць і з меркаванняў эканамічнай выгады: добрае валоданне нямецкай мовай магло б паспрыяць у далейшай гандлёвай і гаспадарчай чыннасці, наладжванні сувязяў з дзелавымі коламі ў самой Нямеччыне.

Калі стала відавочна, што Нямеччына праігрывае вайну, колькасць габрэйскіх нямецкамоўных школ стала хутка змяншацца: у красавіку 1918 г. ва ўсёй акупацыйнай зоне іх засталося толькі 81, з іх габрэйскіх — толькі 4. На Віленшчыне чыста нямецкіх школ на канец 1917 г. заставалася толькі 15, у генеральнай акрузе «Беласток—Горадня» з 6 нямецкіх школ, якія на гэты час захаваліся, габрэйскай не засталося ніводнай [гл. *Дадатак 8*].

Падобную «палітычную гнуткасць і эканамічны прагматызм» у школьным пытанні праяўляла далёка не ўсё тутэйшае габрэйскае грамадства. З прыходам немцаў прыхільнікі Гаскалы пачынаюць ствараць масавыя габрэйскія свецкія агульнаадукацыйныя і прафесійныя школы, выкладанне ў якіх вялося на ідыш. Цэнтрам свецкай габрэйскай адукацыі ў Обер Ост была Вільня. Тут было ўтворана некалькі дзясяткаў

---

346 Трагедыя высяленцаў // Гоман. — 1916, 18 крас.

347 Нямецкая школа // Гоман. — 1916, 28 сак.

348 Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918.., s. 148.

349 Законапаслухмянасць любой уладзе ў чужой краіне габрэям прадпісваў Талмуд, каб зберагчы свой народ ад магчымых рэпрэсій і пагромаў з боку антысеміцкіх сіл.

пачатковых «ідышскіх» школ, 4 габрэйскія грамадскія мужчынскія гімназіі, 1 жаночая прыватная гімназія і 2 пачатковыя школы павышанага тыпу. 2 прыватныя габрэйскія сярэднія школы, пры якіх дзейнічалі падрыхтоўчыя і пачатковыя класы, паўсталі ў Горадні. Падрыхтоўка настаўнікаў для габрэйскіх пачатковых школ адбывалася на казённых педагагічных курсах у Сувалках[350]. Габрэйскае нацыянальнае школьніцтва ў Вільні знаходзілася пад апекай Габрэйскага саюза асветы, Таварыства пашырэння асветы сярод габрэяў (старшыня Альшвангер, сябры рады — Рэмігольскі, Цемах Шабад і інш.)[351].

Пачала адраджацца ў рэгіёне і габрэйская прафесійна–тэхнічная адукацыя. Значны ўнёсак у гэтую справу зрабіла вядомае габрэйскае дабрачыннае таварыства «Hilf durch arbet» (з ідыш — дапамога працай). Актывісты гэтай арганізацыі апекаваліся беспрытульнымі дзецьмі, далучалі іх да грамадскай працы, навучалі рамяству. У складзе таварыства працаваў вядомы педагог і мастак А. Клябанаў — стваральнік знакамітай Віленскай габрэйскай рамеснай школы, якая аднавіла сваю працу ў пачатку 1916 г.[352]. Яшчэ адна рамесная школа ў Вільні ўтрымлівалася на сродкі ЕПО. Падчас кайзераўскай акупацыі быў пакладзены пачатак габрэйскай сельскагаспадарчай адукацыі — 1 траўня 1916 г. у в. Велічаны пад Вільняй была адкрыта каморніцкая школа, якую наведвала 60 хлопцаў[353].

Дзеля абароны нацыянальных і сацыяльных правоў габрэйскага настаўніцтва ў кастрычніку 1916 г. у Вільні быў арганізаваны Хаўрус настаўнікаў габрэйскай мовы, які аб'ядноўваў 95 чал. У склад яго кіраўніцтва ўвайшлі вядомыя педагогі: Абрамовіч, Бастомскі, Гальперын, Зільбербах, Плудэрмахер, а таксама жанчыны–педагогі — Райліс і Шур[354]. Габрэйская нацыянальная адукацыя шырылася і ў іншых гарадах і мястэчках беларускай часткі Обер Ост.

Нягледзячы на забарону нямецкіх улад габрэйскай свецкай школьнай асветы на іўрыце, Вільня становіцца ў гэты час цэнтрам развіцця напаўлегальнай іўрыцкай адукацыі. Намаганнямі вядомага педагога І. Эпштэйна пад шыльдай ідышскай навучальнай установы ў снежні 1915 г. тут паўстае першая прыватная школа з выкладаннем усіх прадметаў на іўрыце. У хуткім часе яна была пераўтворана ў гімназію «Тарбут» (у перакладзе з іўрыта — культура). Пасля заўчаснай смерці Эпштэйна ад сухотаў у канцы студзеня 1916 г. гімназію ўзначаліў І. Рэгэнсбург. У яе сценах разам з іўрытам і асновамі іўдзейскай рэлігіі вывучалі гісторыю габрэйскага народа, матэматыку, фізіку, прыродазнаўства, геаграфію, габрэйскія народныя спевы, а таксама латынь, нямецкую і польскую мовы[355]. Сярэднія свецкія навучальныя ўстановы з выкладаннем на ідыш меліся ў Вільні, Горадні і Беластоку. Так, у Вільні функцыянавалі 5 габрэйскіх гімназій і 5 пачатковых школ павышанага тыпу [гл. *Дадатак 13.2*].

Калі ў 1916 г. габрэйскіх свецкіх пачатковых школ з выкладаннем на ідыш у зоне Обер Ост нямецкая афіцыйная статыстыка не зафіксавала, то ў 1917 г. падае ўжо 53 такія вучэльні, а ў красавіку 1918 г. — 164, гэта значыць, больш чым у 3 разы. У гэтых вучэльнях навучалася 21 тыс. школьнікаў (29% ад агульнай колькасці ў рэгіёне) (гл. *Дадаткі 8—11*).

---

350 Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1916—1917. — Bd. VI. — S. 42—43; Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen, Bezirk Süd in Bialystok. — Bialystok: der «Bialystoker Zeitung», 1917—1918. — Bd. VII. — S. 40—41, 59.

351 Жыдоўскі саюз прасветы // Гоман. — 1916, 10 ліст.; Віленскае таварыства пашырэння асветы паміж жыдамі // Гоман. — 1917, 9 траўня.

352 Дапамога працай // Гоман. — 1917, 13 ліп.

353 Жыдоўская сельскагаспадарчая школа ў Велічанах пад Вільняй // Гоман. — 1917, 9 траўня.

354 Сувязь настаўнікаў жыдоўскай мовы // Гоман. — 1917, 9 сак.

355 Ран Л. Литовский Иерусалим в иллюстрациях и документах. — Нью–Йорк, 1974. — Т. 1. — С. 4.

Поспехі габрэйскай грамадскай адукацыі падчас кайзераўскай акупацыі не ў апошнюю чаргу былі абумоўлены істотнай матэрыяльнай падтрымкай з боку мясцовых габрэйскіх грамадскіх і гандлёва–эканамічных структур. Фінансавую дапамогу габрэйскай школе аказвалі Цэнтральны камітэт габрэйскіх дабрачынных арганізацый у Вільні, Цэнтральны саюз віленскіх габрэйскіх каапэратываў, Саюз габрэйскіх рамеснікаў, дабрачыннае брацтва «Ахва» (Achwa) і інш. З педантычнай перыядычнасцю габрэйскія валанцёры арганізоўвалі ў публічных месцах гарадоў і мястэчак скарбонкавыя зборы ахвяраванняў на карысць дзяцей з прытулкаў і школ, якія атрымалі назву «Дні кветак». Істотную дапамогу габрэйству ў зоне Обер Ост аказвалі аднаверцы і супляменнікі з Нямеччыны, Швецыі, Швейцарыі і Паўночнай Амерыкі. У 1917 г. Кангрэс ЗША выдзеліў на патрэбы габрэяў Обер Ост 150 тыс. даляраў (300 тыс. расійскіх рублёў)[356].

Літоўскае школьніцтва ў зоне Обер Ост традыцыйна найбольш актыўна развівалася ў былой Ковенскай губерні — там, дзе літоўцы складалі абсалютную большасць жыхарства. Літоўская асвета тут яшчэ да вайны мела трывалыя пазіцыі і падтрымлівалася мясцовым каталіцкім клірам на чале з біскупам а. Ф. Карэвічусам (Карэвічам). З прыходам нямецкіх войск на Ковеншчыне ў масавым парадку пачынаюць адкрывацца літоўскія навучальныя ўстановы: у 1916 г. іх налічвалася звыш 250 (15 тыс. вучняў), у 1917 г. — звыш 500 (звыш 27 тыс. вучняў), а ў пачатку 1918 г. — 680 школ (гл. *Дадаткі 8—10*). У Коўна пачынае сваю чыннасць Літоўская настаўніцкая семінарыя, а ў Марыямпалі, Сувалках, Панявежы, Даўгах, Сейнах і Аўгустове — настаўніцкія курсы. Культурна–асветным таварыствам «Саўле» (Сонца) былі ўтвораны 3 літоўскія грамадскія гімназіі: у Коўна, Панявежы і Шаўлях[357].

На Віленшчыне і асабліва на Гарадзеншчыне літоўская адукацыя была прадстаўлена адносна слаба, што можна растлумачыць малалікасцю тут літоўскага жыхарства і значнай яго паланізацыяй. Галоўным асяродкам літоўскай школьнай асветы на беларуска–літоўскім памежжы, як і раней, заставалася Вільня. У гэты час у горадзе дзейнічалі 4 літоўскія пачатковыя школы. З восені 1915 г. у колішняй сталіцы ВКЛ пачалі працу літоўскія грамадскія педагагічныя курсы з 11 выкладчыкамі і 20 слухачамі, якія ўзначальваў Аляксандрас Стульгінскіс, будучы прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі. 18 кастрычніка 1915 г. намаганнямі таварыства «Рытас» у горадзе была ўтворана першая на тэрыторыі Обер Ост гімназія з літоўскай мовай навучання. Першым яе кіраўніком стаў вядомы літоўскі культурны і грамадскі дзеяч Міколас Біржышка. Праца ў школе пачалася з 50 вучнямі, а ў пачатку 1919 г. яна налічвала ўжо 7 класаў і 167 вучняў[358]. У 1918 г. тут была арганізавана яшчэ і жаночая літоўская сярэдняя школа. У лістападзе 1918 г. на тэрыторыі ўжо суверэннай Літвы функцыянавала звыш 20 літоўскіх гімназій і прагімназій, якія ўтрымліваліся таварыствамі «Рытас», «Саўле» і «Жыбурыс». Гэтыя адукацыйныя ўстановы склалі падмурак нацыянальнай сістэмы адукацыі маладой літоўскай дзяржавы.

З іншых рэгіёнаў Віленшчыны і Гарадзеншчыны літоўскае школьніцтва найбольш паспяхова развівалася ў Свянцянскім і Радунскім паветах. Пры падтрымцы таварыства «Рытас» і мясцовых літоўскіх святароў на Свянцяншчыне ў пачатку 1917 г. дзейнічала 25 літоўскіх элементарных школ[359]. З дапамогай нямецкай адміністрацыі генеральнай акругі «Беласток—Горадня» ў пачатку 1918 г. у Радунскім павеце было ўтворана 24 літоўскія казённыя пачатковыя школы[360].

---

[356] Дапамога з Амерыкі // Гоман. — 1917, 21 вер.

[357] Літоўская нацыянальная справа // Гоман. — 1917, 25 траўня; Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918).., b. 765—766.

[358] Sužiedėlis S. Mokyklos vokiečių okupacijos laikas (1915—1918).., b. 766.

[359] W.W. Патрэба школ // Гоман. — 1917, 12 студз.

[360] Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1916—1917. — Bd. VII. — S. 40.

Вялікую ролю ў пашырэнні літоўскай школьнай асветы адыграла Літоўскае навуковае таварыства, якое займалася выданнем школьнай літаратуры, фармаваннем літоўскай навуковай тэрміналогіі. У склад арганізацыі ўваходзілі такія вядомыя культурныя і грамадскія дзеячы, як Іонас Басанавічус (старшыня), Анатанас Смятона, М. Біржышка, А. Янулайціс, Анупрас і Іонас Вілейшысы, Ю. Шаўліс, А. Стульгінскас, П. Клімас, літоўскі святар а. І. Бакшыс. У 1915 г. ЛНТ выдаткавала 8 тыс. акупацыйных марак на напісанне і выданне школьнай літаратуры на літоўскай мове. У выніку ў 1915—1919 гг. дзякуючы таварыству было выдадзена 56 падручнікаў[361].

Літоўскай школьнай справе ў зоне Обер Ост значную фінансавую падтрымку аказвалі Ватыкан, а таксама 800–тысячная літоўская дыяспара ў ЗША[362]. У лютым 1917 г. тагачасны Пантыфік Бенедыкт XV перадаў літоўскаму біскупу а. Ф. Карэвічусу 20 тыс. нямецкіх марак на адкрыццё ў Коўна літоўскай духоўнай каталіцкай семінарыі і даў дазвол на збор грошай літоўскім каталікам ва ўсіх каталіцкіх касцёлах свету[363].

Можна канстатаваць значнае павелічэнне літоўскага школьніцтва за час нямецкай акупацыі. У межах зоны Обер Ост іх доля ў агульнай масе навучальных устаноў з 1916 г. да сярэдзіны 1918 г. павялічылася да 30%. Пры гэтым у генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» доля літоўскіх школ у агульнай масе павялічылася з 33% да 59%, а колькасць навучэнцаў з 1916 па 1917 гг. — з 18% да 43% [гл. *Дадатак 11*].

У зоне Обер Ост, акрамя беларускага, літоўскага, польскага і габрэйскага школьніцтва, існавалі таксама латышскія пачатковыя школы, рэлігійна–адукацыйныя ўстановы для караімаў (у Троцкім павеце).

Аналізуючы стан школьнай адукацыі ў зоне Обер Ост, варта адзначыць адзін факт. За трохгадовы тэрмін нямецкай акупацыі мясцовая школа не здолела аднавіцца да даваеннага ўзроўню. Толькі ў колішняй сталіцы ВКЛ Вільні даваенны ўзровень школьнай асветы быў дасягнуты толькі дзякуючы культурна–асветнай чыннасці нацыянальных грамадскіх устаноў, а таксама пры падтрымцы касцёла. Паводле афіцыйных дадзеных, у горадзе ў перыяд акупацыі дзейнічалі 91 пачатковая школа і 217 школьных камплектаў (аддзелаў), дзе працавалі 430 настаўнікаў і навучалася каля 7300 вучняў. Мелася таксама 12 сярэдніх школ (гімназій, ліцэяў і пачатковых вучэльняў павышанага тыпу) з 80 школьнымі камплектамі, дзе працавала 198 настаўнікаў і навучалася 2450 вучняў. Акрамя таго ў горадзе і ваколіцах дзейнічалі 14 адмысловых прафесійна–тэхнічных школ (56 настаўнікаў і 620 вучняў), 8 настаўніцкіх семінарый і педагагічных курсаў (9 класаў, 78 выкладчыкаў і 261 слухач). Разам у гэты час у горадзе школьнай адукацыяй было ахоплена каля 10 тыс. дзяцей — амаль столькі ж, колькі ў траўні 1914 г., напярэдадні Першай сусветнай вайны[364]. Пры гэтым трэба ўлічваць, што амаль усе расійскамоўныя сярэднія і прафесійна–тэхнічныя навучальныя ўстановы Вільні былі эвакуіраваны на ўсход разам з выкладчыкамі і большасцю вучняў.

***

Падсумоўваючы вынікі даследавання па трэцяй главе, можна адзначыць, што школьная адукацыя ў зоне Обер Ост за трохгадовы тэрмін існавання нямецкага акупацыйнага рэжыму, за выключэннем Вільні, не дасягнула даваеннага ўзроўню ні па колькасці навучальных устаноў, ні па колькасці школьнікаў. Пазітыўныя зрухі ў адукацыйнай сферы былі відавочныя толькі там, дзе не душылася так жорстка грамад-

[361] Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. Конец XIX — начало XX вв. — Москва: Педагогика, 1991. — С. 353—354.

[362] Літвіны ў Амерыцы // Гоман. — 1916, 3 сак.

[363] Літоўская нацыянальная справа // Гоман. — 1917, 6 сак.; Літоўская нацыянальная справа // Гоман. — 1917, 25 траўня.

[364] Школы ў Вільні // Гоман. — 1916, 7 сак.

ская і прыватная ініцыятыва на школьнай ніве. У асноўным школьная адукацыя, знаходзячыся пад жорсткім кантролем акупацыйнай адміністрацыі, асабліва ў правінцыі, аднаўлялася вельмі павольна. Адзначым, што польская грамадская школа знаходзілася пад моцным ціскам нямецкай улады, якая апасалася, што пашырэнне польскага школьніцтва актывізуе ў рэгіёне развіццё польскага нацыяналізму. Габрэйская адукацыя на іўрыце ўвогуле знаходзілася пад забаронай і вымушана была існаваць нелегальна. З іншага боку, адзначым, што польская нацыянальная эліта выкарыстоўвала польскую адукацыю дзеля паланізацыі тутэйшых беларускіх каталікоў, дзеля прапаганды польскай дзяржаўнасці сярод жыхарства заходнебеларускага рэгіёна. Беларускае ж школьніцтва, якое жорстка кантралявалася нямецкай адміністрацыяй, не знайшло яшчэ масавую падтрымку ў мясцовых беларусаў, абяздоленых падчас вайны. Жыццяздольнымі аказаліся толькі тыя беларускія адукацыйныя асяродкі, якія былі ўтвораны і матэрыяльна падтрымліваліся беларускімі грамадскімі арганізацыямі.



*Алаіза Пашкевіч–Кайрысава (Цётка), старшыня Беларускай школьнай камісіі ў Вільні.*



*Антон Луцкевіч, сябра Беларускай школьнай камісіі і старшыня Беларускай рады ў Вільні.*



*Іван Луцкевіч, сябра Беларускай школьнай камісіі ў Вільні, адзін з ініцыятараў стварэння Віленскай беларускай гімназіі.*



*Айцец Уладзіслаў Талочка, беларускі каталіцкі святар, сябра Беларускай школьнай камісіі, законавучыцель для дзяцей–каталікоў у першай беларускай школе на Георгіеўскай (Юр'еўскай) вуліцы ў Вільні.*



*Янка Станкевіч, беларускі грамадскі дзеяч і мовазнаўца, аўтар аднаго з першых падручнікаў па беларускай мове.*



*Вацлаў Ластоўскі, старшыня «Сувязі культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа» і кіраўнік Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні ў 1916—1918 гг.*



*Іонас Басанавічус, старшыня Літоўскага навуковага таварыства. Пачатак ХХ ст. Літоўскі нацыянальны музей у Вільні.*



*Іонас Янінас, дырэктар літоўскай гімназіі ў Вільні ў 1917—1920 гг. Друкуецца ўпершыню. Літоўскі нацыянальны музей у Вільні.*



Айцец Міхаіл Галянкевіч, беларускі праваслаўны святар, ключар Віленскага кафедральнага сабора, сябра Беларускага навуковага таварыства.



Марыя Радзевіч, настаўніца Васілішскай беларускай школы. 1918 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.



Габрэйскі талмудыст з Мядзельшчыны. 1916 г. Нямецкая паштоўка.



Польскі вясковы юнак, які паліць цыгарэтку. Фотаздымак зроблены нямецкім леётэнантам фон Хауліным. Унізе маецца подпіс па–нямецку з саркастычным падтэкстам: «Яшчэ Польшча не згінула» (Noch ist Polen nicht verloren). Травень 1915 г. Са збору Уладзіміра Багданава.




*Удзельнікі Беларускай палітычнай канферэнцыі ў Вільні ў лютым 1918 г., якая прыняла рашэнне аб утварэнні Віленскай беларускай гімназіі. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Выкладчыкі і слухачы Першых Беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні ў 1916 г. Стаяць (злева направа): Ганна Савіцкая, А. Яжына, Оскар Кайрэніус, Адам Ясцік, Андрэй Стральчонак, Алесь Трот, Станіслава Камінская, У. Яжына; сядзяць: Іван Луцкевіч, Баляслаў Пачобка (загадчык курсаў), Антон Луцкевіч; сядзяць на падлозе: Антон Трот, Янка Лемеш, невядомы. Вільня, травень 1916 г. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*




*Адбітак пячаткі Першых Беларускіх настаўніцкіх (вучыцельскіх) курсаў у Вільні. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*




*Адбітак пячаткі Гродзенскай цэнтральнай беларускай вучыцельскай рады, утворанай у сакавіку 1919 г., напярэдадні зыходу з Горадні нямецкіх войск. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Узорны ўрок у Віленскай літоўскай пачатковай школе падчас правядзення настаўніцкай канферэнцыі таварыства «Рытас». Пачатак 1920–х гг. Друкуецца ўпершыню. Літоўскі нацыянальны музей.*




*Беларускі летнік ва ўрочышчы Чорны Бор пад Вільняй «Наша Хата», разлічаны на 70 дзяцей. 1917 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Вучні–сіроты з віленскіх беларускіх школ у летніку в. Качаны Віленскага павета. 1917 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Сцэна з тэатральнага ігрышча «У лясным гушчары» Францішка Аляхновіча, пастаўленая самім драматургам сіламі беларускіх школьнікаў з летніка «Наша Хата» ва ўрочышчы Чорны Бор. 2 верасня 1917 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*«Малая публіка» Чорнага Бору разам з рэжысёрам Францішкам Аляхновічам назіраюць за спектаклем «У лясным гушчары». 2 верасня 1917 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Баляслаў Пачобка, выкладчык Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі ў 1916—1918 гг. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Волька Скаўронская, настаўніца Беластоцкай беларускай школы ў 1917—1918 гг. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Слухачы Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі (злева направа): Вера Гожка, Волька Гофман, Волька Скаўронская, Верка Матэчук. Свіслач, 8 кастрычніка 1917 г. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Вера Матэйчук са сваімі вучнямі Грабаўскай беларускай школы. 1918 г. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Волька Гофман, настаўніца Бельскай беларускай школы ў 1917—1918 гг. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Вера Матэйчук, настаўніцца Грабаўскай беларускай школы Арляняцкай воласці Бельскага павета. 1920–х гг. Са збору Алега Латышонка.*



*Вера Краўцэвічанка, настаўніца і тэатральная актрыса. У 1918—1919 гг. настаўнічала ў адной з беларускіх пачатковых школ Горадні. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Уладзімір Шалешка, настаўнік Гарадзенскай беларускай школы ў 1918—1919 гг. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Настаўнікі і вучні Гарадзенскай беларускай школы. У цэнтры сядзяць: Алесь Грыкоўскі (загадчык школы), Тэкля Станішэўская, нямецкі унтэр–афіцэр, настаўнік нямецкай мовы. Восень 1918 г. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Тэкля Станішэўская, адна з настаўніц Гарадзенскай беларускай школы у 1917—1918 гг. Памерла ад сухотаў 21 траўня 1919 г. Малюнак з часопіса «Беларускае жыццё».*



*Алесь Грыкоўскі, загадчык Гарадзенскай беларускай школы ў 1917—1918 гг. Памёр ад сухотаў 13 сакавіка 1919 г.*




*Падчас жалобнай працэсіі па пахаванню А. Грыкоўскага ў Горадні. 15 сакавіка 1919 г.*

„БАЦЬКАЎШЧЫНА“

Беларускі Соціялістычны Тыднёвік.

Выдаецца пры супрацоўніцтве вядомых беларускіх палітычных дзеячоў, песьняроў, пісьменнікоў і культурных работнікоў.

Кошт на 1 год бяз дастаўкі . . . . . . . . . 15 мар.
[illegible] нумар [illegible] . . . . . . . . . 40 фен.
Абвесткі прыймаюцца толькі на 4-й старонцы за радок 1 мар.

Адрас рэдакцыі і канторы (часова): Гародня, [illegible] вул. 26 [illegible] ад 5—7 гадз. у веч.
[illegible]



13 сакавіка памер вядомы беларускі дзеяч

А. ГРЫКОЎСКІ,

працаваўшы у Городзенскай беларускай школе, Городзенскай Губэрнскай Управе і Городзенскай Павятовай Радзе.

Праца яго была такой тяжкай і такой шчырай, он гэтак аддаўся ей, што у грудзеню захапіў даўю чахотку і, працягнуўшы якіх два з паловай месяца, аддаў сваю маладую шчырую беларускую душу—Богу.

14 сакавіка з жалем, сумам і слезамі вазілі мы яго у царкву, а 15 сакавіка у апошні раз бачылі яго змярцвеўшы твар, правадзілі яго да магілы, пакрылі кветкамі і ушлі, пакінуўшы яго на горцэ каля Неману.

З гэтаго часу векавечным суседам і таварышом яго будзе Неман.

Неман будзе баюкаць яго сон сваім сумным гоманам.

Неман будзе казаць яму аб тым, што робіцца на Беларускай зямельцы.

Неман будзе светкай ці стрымаем мы тыя клятвы, што давалі пад чырвоным штандарам над раскрытай, незасыпанай магілай у час разставаньня.

Беларусы, памятайце гэту магілу, памятайце светку—Неман, памятайце свае клятвы!

*Некралог на смерць А. Грыкоўскага ў гарадзенскай газеце «Бацькаўшчына».*



*Беларускі настаўнік, сябра Цэнтральнай Гарадзенскай беларускай вучыцельскай рады Янка Лотыш.*



*Беларускія настаўнікі Гарадзеншчыны (злева направа): Янка Лотыш, Я. Губецкі, нявысветленая асоба, Уладзімір Шалешка. 1919 г. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*




*Святкаванне першых угодкаў БНР у клубе «Беларуская хатка» ў Горадні. У цэнтры — настаўнікі і навучэнцы мясцовай беларускай школы. 25 сакавіка 1919 г. Друкуецца ўпершыню. Літоўскі нацыянальны музей.*




*Настаўнікі і навучэнцы беларускай прытулковай школы ў Горадні. У сярэднім радзе ў цэнтры сядзіць Лукаш Дзекуць–Малей. 1920 г. Гарадзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі.*

# Глава 4.
# Школьнае жыццё ў зоне «новай акупацыі»

## 4.1. Расійская школа ў новых геапалітычных умовах

У лютым 1918 г. у зоне «новай нямецкай акупацыі» апынулася каля 4 тысяч расійскіх пачатковых школ і звыш 200 сярэдніх ці прыраўненых да іх навучальных установ (казённыя, грамадскія і прыватныя гімназіі, прагімназіі, рэальныя і камерцыйныя вучэльні, гандлёвыя школы, настаўніцкія семінарыі і вышэйшыя пачатковыя вучэльні)[365]. Абсалютная большасць іх — адпаведна 2668 пачатковых і 143 сярэднія школы — знаходзілася ў межах 9 паветаў Мінскай губерні (Мінскага, Барысаўскага, Бабруйскага, Ігуменскага, Слуцкага, Навагрудскага і Пінскага[366], Рэчыцкага і Мазырскага), астатнія — на заходніх ускраінах Віцебскай і Магілёўскай губерняў (Дзвінскі, Люцынскі, Рэжыцкі, Дрысенскі, Гомельскі паветы, часткі Полацкага, Лепельскага, Сенненскага, Аршанскага, Магілёўскага, Рагачоўскага, Быхаўскага, Жлобінскага паветаў). На ўзгаданых тэрыторыях заставаліся працаваць каля 6 тысяч настаўнікаў. Толькі ў Мінскай губерні ў былых казённых школах навучаліся ў гэты час звыш 242 тысяч дзяцей[367]. І гэта без уліку некалькі тысяч школьнікаў, якія здабывалі навуку ў прыватных навучальных установах.

Поўную карціну школьнага жыцця ў зоне «новай акупацыі» цяжка аднавіць з–за адсутнасці дакладных статыстычных і іншых дакументальных звестак аб становішчы навучальных установ на акупаваных тэрыторыях Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Заходнія паветы названых губерняў былі «разарваныя» паміж нямецкай акупацыяй і Савецкай Расіяй. Да таго ж ліквідацыя бальшавікамі земскіх установ і гарадскіх самаўрадаў прывяла да поўнай адміністрацыйнай анархіі ў працы мясцовых уладных органаў. За гэты перыяд захаваліся статыстычныя матэрыялы, якія адлюстроўваюць школьнае жыццё ў Мінскай губерні за ўвесь 1918 г. Дзякуючы гэтаму можна скласці агульнае ўяўленне аб тых складаных працэсах, якія адбываліся ў школьным жыцці ў зоне «адказнасці» 10–й нямецкай арміі ў апошні перыяд Першай сусветнай вайны.

Нягледзячы на тое, што цэнтральная і ўсходняя часткі Беларусі ў 1915—1917 гг. пазбеглі нямецкай акупацыі, вайна мела для школьнай справы ў гэтым рэгіёне вельмі негатыўныя наступствы. У гэты час тут фактычна не адкрываліся новыя навучальныя ўстановы. Будынкі школ, якія пачалі ўзводзіцца з канца 1913 г., засталіся недабудаванымі. На працягу 1915—1917 гг. было істотна скарочана фінансаванне, якое выдзялялася на рамонт школьных будынкаў. Шмат якія школы падчас вакацыяў улетку 1915 г. ды і ў пазнейшы час бязлітасна руйнаваліся вайскоўцамі і ўцекачамі, якія часова кватаравалі ў іх. Размешчаныя ў школах вайсковыя часткі, якія безупынна

---

[365] НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 16, арк. 1 адв.; спр. 29, арк. 68—71, 104—109; спр. 35, арк. 365—368; ф. 42, воп. 1, спр. 1а, арк. 36—93, 181—325; спр. 27, арк. 9—11; ф. 622, воп. 1, спр. 76, арк. 93; ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 3—16; спр. 32, арк. 26.
[366] Заходнія воласці Навагрудскага і Пінскага паветаў заставаліся пад уладай адміністрацыі Обер Ост.
[367] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 6—8.

змянялі адна другую, беспакарана знішчалі школьную маёмасць. Тое ж самае рабілі і абяздоленыя ўцекачы. У адным толькі Бабруйскім павеце, паводле рапарта мясцовага школьнага інспектара, бежанскімі «табарамі» ў канцы 1915 г. былі літаральна зруйнаваны 25 вясковых школ — «не аказалася ваконных рам і дзвярэй, печкі засталіся без заслонак і юшак, былі пазрываны падлогі і столі, а школьныя платы цалкам знесены»[368]. Паводле справаздачы загадчыка Мінскага павятовага аддзела народнай адукацыі С. Мякінніка, толькі ў адной Івянецкай воласці Мінскага павета «64 уласныя школьныя будынкі прыведзены ў поўную непрыгоднасць», а астатнія школы «перапоўнены дзяцьмі»[369] [гл. таксама *Дадатак 15*].

Справу разбурэння школ працягнулі нямецкія вайскоўцы і іх хаўруснікі — польскія легіянеры. Паводле падлікаў Бабруйскага павятовага аддзела народнай адукацыі, у павеце на канец 1918 г. неадкладнаму рамонту падлягалі 200 школьных будынкаў, на што патрэбна было выдаткаваць больш за 2 млн. руб.[370]. Той жа С. Мякіннік паведамляў у студзені 1919 г., што большасць будынкаў пачатковых школ у павеце патрабавалі капітальнага рамонту[371]. Паводле паведамлення загадчыка Пінскага аддзела народнай адукацыі Кужалева, на чэрвень 1918 г. 2/3 (80) школьных будынкаў ва ўсходняй частцы названага павета былі разбураны ці патрабавалі капітальнага рамонту, а астатнія (50) — сярэдняга рамонту[372].

Навучальныя ўстановы, створаныя на сродкі Усерасійскага земскага Саюза і «Поўначдапамогі»[373] ў беларускіх гарадах і прыфрантавой зоне для дзяцей уцекачоў, пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 г. былі скасаваны, і толькі частку з іх узялі пад сваю апеку культурна–асветная камісія Мінскай гарадской думы і мясцовыя павятовыя земскія ўправы.

Санітарны стан значнай часткі навучальных устаноў у зоне «новай акупацыі» не вытрымліваў аніякай крытыкі. Асабліва гэта тычылася былых царкоўных школ і тых земскіх вучэльняў, якія былі адкрыты падчас вайны. 60,3% школ Мінскай губерні месціліся ў арандаваных памяшканнях, і толькі 39,7% мелі свае ўласныя будынкі. Некаторыя школы туліліся ў царкоўных вартоўнях або ў зборных дамах без сталага падмурка. У 83% школьных будынкаў у Мінскай губерні на 1 навучэнца належала ў сярэднім 1,5—2 кв. м карыснай плошчы. Калі ў Клецкай народнай вучэльні гэты паказнік складаў 6 кв. м, то ў Грэскай школе таго ж Слуцкага павета — 0,6 кв. м. У Барысаўскім павеце толькі 32% школ адпавядалі прынятым санітарна–гігіенічным нормам, а найгоршы паказнік быў у Мазырскім павеце — 11%. Паводле нормы аб'ёму паветра ў памяшканні ў разліку на 1 школьніка, 95% школ Міншчыны не адпавядалі адзначаным стандартам; 37% школ не мелі ніякіх сродкаў вентыляцыі, акрамя дзвярэй, 63% маглі праветрывацца толькі праз ваконныя фрамугі. Нова–Ёлчыцкая школа Рэчыцкага павета з'яўлялася, бадай, адзінай у губерні, дзе мелася вентыляцыя з выцяжкай і пратокам для паступлення звонку свежага паветра. 23,1% школ Міншчыны не мелі ніякага асвятлення, а 76,9% асвятляліся газоўкамі ці свечкамі. Толькі 2 школы ў правінцыі мелі электрычнае асвятленне — гэта Лоеўская габрэйская вучэльня Рэчыцкага павета і Мацэвіцкая школа на Случчыне. Амаль усе школы апальваліся дровамі, і

[368] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 8, арк. 36.
[369] Тамсама, спр. 30, арк. 168.
[370] Тамсама, спр. 8, арк. 36 адв.
[371] Тамсама, ф. 3, воп. 1, спр. 35, арк. 345—345 адв.
[372] Тамсама, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 77—78.
[373] Ратавальная арганізацыя, якая дзейнічала пры Паўночным і Заходнім франтах расійскай арміі і аказвала гуманітарную і асветную дапамогу ўцекачам і пацярпелым ад вайны. Была скасавана пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., а яе маёмасць перададзена ў распараджэнне Усерасійскага земскага саюза.

толькі адна — у в. Вайнілавічы на Случчыне — мела паравое ацяпленне. Усяго 47,3% школ Мінскай губерні былі цалкам забяспечаны школьнай мэбляй, а 46,2% пачатковых вучэльняў не мелі нават прымітыўных клазетаў[374].

Шмат якія школы месціліся ў адным наёмным пакоі звычайнай сялянскай хаты. Настаўнік Гарадзішчанскай пачатковай школы на Случчыне ў сваёй анкеце пісаў у 1918 г.: «Санітарны стан вучэльні зусім нездавальняючы. <...> Школьнае памяшканне вельмі вільготнае, суседні пакой хаты, дзе жыве сам гаспадар, вельмі брудны, пахне гніллём і гноем ад сталай прысутнасці свінняў, што вельмі негатыўна адбіваецца як на здароўі вучняў, так і на іх душэўным настроі»[375]. Настаўнік Жукоўскай народнай вучэльні Беларуцкай воласці Мінскага павета тады ж паведамляў: «Школьнае памяшканне селяніна в. Жукавічы Фадзея Гурло — памерам 6х9 кв. аршын — крайне непрыстасавана для заняткаў: яно халоднае і ў ім не хапае паветра і святла... Санітарны стан вучэльні вельмі дрэнны, што адбіваецца на здароўі вучняў... Вентыляцыі і клазетаў няма… Ніякай класавай мэблі няма... На шматлікія просьбы аб патрэбах вучэльні ніхто не звяртае аніякай увагі. Дагэтуль, напрыклад, не высланы грошы на ацяпленне, з–за чаго павінны мерзнуць дзеці ў нятопленых класах: дубеюць рукі, замярзае чарніла»[376].

Антысанітарныя ўмовы ў школах, а таксама дрэннае харчаванне, адсутнасць цёплай вопраткі — галоўныя прычыны нярэдкіх захворванняў школьнікаў на тыф, «гішпанку», цынгу і каросту. Нярэдка ўзнікалі эпідэміі, у выніку чаго школы зачыняліся на доўгі час на каранцін.

Крах манархічнага рэжыму, Кастрычніцкі пераварот 1917 г. і нямецкая акупацыя 1918 г. ускладнілі фінансавае становішча школы, давялі да збяднення большасць настаўнікаў. Многія з іх некалькі месяцаў, пачынаючы з лістапада 1917 г., не атрымлівалі зарплату. Пакупная здольнасць расійскага рубля ў лістападзе 1917 г. упала да 8—10 капеек даваеннага ўзроўню, а ў пачатку 1918 г. яшчэ ніжэй — да 1,5—2 кап.

Прычыны такога становішча звязаны ў першую чаргу з наступствамі 4–гадовай мілітарызацыі эканомікі, што выклікала дэфіцыт харчовых прадуктаў, рэзкі ўздым коштаў на гэтыя тавары, вялізнае «ўкідванне» нічым не падмацаваных папяровых грошай. Дарагоўлю і інфляцыю ў краіне абвастрылі ўзрастанне антыўрадавых настрояў, разладжванне ўсяго дзяржаўнага гаспадарчага апарату, транспартны калапс і іншыя эканамічныя і сацыяльна–палітычныя праблемы. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. зруйнавала старую дзяржаўную сістэму, а эліта, якая прышла да ўлады, не здолела наладзіць эфектыўнае кіраванне краінай. За 8 месяцаў сваёй чыннасці Часовы ўрад не толькі не спыніў інфляцыю ў краіне, але яшчэ болей яе справакаваў. За гэты час у грашовы зварот было ўкінута звыш 19 млрд. «пустых» грошай.

Яшчэ большыя негатыўныя наступствы прынесла эканамічная палітыка бальшавікоў. З першых дзён савецкай улады праца грашовага друкарскага станка не толькі не спынілася, але, наадварот, працягвалася з паскораным тэмпам. Новыя аддрукаваныя папяровыя грашовыя знакі савецкая ўлада пусціла ў ход дзеля фінансавання сваіх глабальных сацыялістычных праектаў. Паводле падлікаў аналітыка газеты «Русские Ведомости», за снежань 1917 г. — люты 1918 г. бальшавікі выпусцілі ў зварот каля 7 мрд. руб.[377]. Гэта канчаткова падарвала фінансавую сістэму краіны.

Фінансавы крызіс у «зоне новай акупацыі» свядома справакавалі камісары ўрада Заходняй вобласці, якія падчас сваіх уцёкаў у Смаленск рэквізіравалі амаль усе грошы мінскага губернскага і гарадскога бюджэтаў. Як паведамлялі мінскія газеты, было

[374] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 6—8.

[375] Тамсама, спр. 28, арк. 32.

[376] Тамсама, спр. 30, арк. 243—244.

[377] Обесценивание старого русского рубля // Минский голос. — 1918, 16 апр.

рэквізіравана некалькі мільёнаў расійскіх рублёў. Толькі нейкая частка гэтых грошай была адбіта ў камісараў мінскімі чыгуначнікамі. У Мінскай казённай скарбніцы засталіся толькі каштоўныя паперы на суму 4 млн. руб. і разменныя манеты да 40 тыс. руб.[378]. Бальшавікі перад адступленнем рэквізіравалі большасць скарбонак павятовых земстваў і гарадскіх самаўрадаў. Так, у Слуцку 24 лютага яны ўзялі з сабой усе наяўныя гарадскія грошы — 85 тыс. руб.[379].

За 1917 г. — пачатак 1918 г. кошт большасці харчовых прадуктаў у Мінскай губерні ўзняўся ў 2—3 разы. У параўнанні з 1914 г. зарплата настаўніка пачатковай школы ў 1918 г. вырасла ў 5—6 разоў (з 30 да 150—180 руб.), але, напрыклад, кошт хлеба павысіўся ў 10 разоў, мяса — у 22, сала — у 38, сметанковага масла — у 37, бульбы — у 6 разоў[380]. Паводле анкетнага апытання, праведзенага наМіншчыне губернскім аддзелам народнай адукцыі, на працягу 1918/19 навучальнага года 63% настаўнікаў прымалі гарачую ежу толькі 1 раз у дзень, з якіх палова адзначала, што іх абед складаўся з адной міскі супу[381]. Настаўніцкая праца і асабліва на вёсцы станавілася адной з самых нізкааплочваемых у шэрагу іншых «казённых» прафесій. «Той заробак, — пісаў у часопіс «Наше земское дело» вясковы педагог з Мінскага павета Пётр Капаевіч, — які атрымлівае цяперашні настаўнік, менш за ранейшыя [царскія. — *У. Л.*] 28 руб. 20 кап., калі ўзяць пад увагу дарагоўлю»[382]. Такое становішча прымушала настаўнікаў кідаць працу ў школе і шукаць іншы заробак. Рабілася нормай, што настаўнік спалучаў педагагічную працу з заняткам сельскай гаспадаркай ці гандлем. Усё гэта негатыўна адбівалася на ўзроўні выкладання ў адукацыйных установах.

Пры ўсім гэтым, трэба ўсё ж прызнаць, ніхто ў акупацыйнай зоне не пакутаваў ад голаду, як гэта адбывалася ў некаторых буйных расійскіх гарадах. Наступствы нямецкай акупацыі на матэрыяльнае становішча шырокіх слаёў жыхарства цэнтральнай часткі Беларусі былі менш негатыўнымі, чым палітыка бальшавікоў на падкантрольнай ім тэрыторыі. І гэта нягледзячы на тое, што нямецкія вайскоўцы праводзілі метадычныя рэквізіцыі харчовых прадуктаў у сялян. Акупацыйныя ўлады эфектыўна змагаліся са спекуляцыяй, але не чапалі гандляроў і прадпрымальнікаў, не руйнавалі іх справу[383].

378 Минский голос. — 1918, 21 февр.

379 Занятие Слуцка // Минский голос. — 1918, 28 февр.

380 Несколько цифр // Бобруйский голос. — 1918, 10 мая.

381 Кр–ич А. Сельский учитель в Минской губернии // Школа и культура Советской Белоруссии. — 1919. — № 1. — С. 63.

382 Копаевич П. Об улучшении материального положения народных учителей (письмо из деревни) // Наше земское дело. — 1918, 15 авг. — С. 12.

383 У той час, калі ў Маскве і Петраградзе кошты на харчаванне ўзраслі ў дзясяткі разоў у параўнанні з даваенным часам (у некалькі разоў вышэй за мінскія паказнікі), калі жыхары моцна абязлюдзеўшых расійскіх сталіц забыліся, што такое белы хлеб, яйкі і цукар, у Мінску можна было не так дорага і са смакам пачаставаць у мясцовай харчэўні мінскія каўбасы з духмяным жытнім хлебам і запіць французскія булкі нямецкай кавай. Вось сведчанне расійскамоўнай газеты «Минский голос» за 3 лістапада 1918 г.:

Вот Минск... В любом переулке
И сало, и водка, и булки...
Желудки со страстью во взоре
Работают без категорий.
Пришло для них равенства царство.
Ах, пролетарское барство!
Так выпьем же без предрассудков
За равенство сытых желудков!

Вось яшчэ адна газетная зацемка (зноў жа на мове арыгінала): «Здесь, в гостеприимном Минске, хорошие рестораны, приличные театры и полная иллюзия безнадежно умершей простушки России. Несколько дней, как я в Минске. Здесь встречаю офицера. 4 месяца тому назад, с впавшими щеками,

На што незваротна адмоўна паўплывала акупацыя, дык гэта на забеспячэнне расійскамоўных школ патрэбнымі падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі. У гэты час толькі 33% школ Міншчыны мелі фундаментальныя (настаўніцкія) бібліятэкі і 50% — вучнёўскія. Калі бібліятэчны фонд мінскай прыходскай вучэльні ў сярэднім складаўся з 70 кніг, то вучнёўская бібліятэка Буда–Сафіеўскай школы Мазырскага павета — толькі з 5 падручнікаў, а бібліятэка Станькаўскай элементарнай школы Слуцкага павета — з 15[384].

Адсутнасць грошай таксама адбілася на забеспячэнні школ дровамі для ацяплення ў халодны час года, газай для асвятлення класавых пакояў. Вялікая колькасць школ не мела гардэробаў ці проста «шыбеніц», каб вучань мог павесіць верхнюю вопратку, не хапала таксама школьнай мэблі (парт, табурэтаў, шафаў). 16—19 гадовыя «пераросткі», якіх нямала вучылася тады ў вясковых вучэльнях, не маглі ўціснуцца за малыя парты, прызначаныя для вучняў малодшых класаў.

Спадзяванні, што ў гэты цяжкі перыяд матэрыяльную дапамогу вясковым школам акажуць сяляне, не спраўдзіліся. Толькі асобныя заможныя грамады ці валасныя сходы давалі школам бясплатныя памяшканні або аплачвалі іх арэнду, забяспечвалі палівам, газай. У Мінскай губерні амаль не было выпадкаў, каб вясковыя жыхары бралі на ўтрыманне настаўніка. Тлумачыць гэта жабрацкім станам сялян будзе не зусім аб'ектыўна. Паводле ўжо згаданага анкетнага апытання, праведзенага мінскім губернскім земствам, у канцы 1918 г. стаўленне мясцовага жыхарства да земскай і казённай школы было неадназначным: ад «добрага» і «станоўчага» да «абыякавага» і «няўважлівага да яе патрэбаў». Настаўніца Вяліка–Мервінскай вучэльні Грыцэвіцкай воласці Слуцкага павета Г. Ліпінская скардзілася, што сяляне «з–за сваёй неадукаванасці і бескультурнасці» глядзяць на яе і ўвогуле на інтэлігенцыю, як «на варожы класавы элемент, і таму да школы ставяцца негатыўна»[385]. Тут мы бачым новыя праявы сацыяльнай нецярпімасці, народжаныя ў рэвалюцыйны час. Нават настаўнік вясковай школы, які атрымліваў мізэрны заробак, успрымаўся дэсацыялізаванымі элементамі як «буржуй» ці «дармаед».

Нявызначаны настаўнік Логвінавіцкай пачатковай школы Заастравецкай воласці Слуцкага павета з сумам канстатаваў: «Вайна не зрушыла з месца цемнаты народа і яго закасцянеласці. Народ па–ранейшаму заглыблены толькі ў сваё жабрацтва, у сваё гора, у свае клопаты, як заплаціць падаткі, пра хлеб штодзённы. Ён, як і раней, абыякава ставіцца да школы. Ёсць школа, ці яе няма — яму ўсё роўна… Наш народ, здаецца, акрамя неўсвядомленай малітвы, не бачыць большай мэты ў вывучэнні неба і зямлі»[386]. Настаўнік Панкратавіцкай вучэльні Клецкай воласці Слуцкага павета Алесь Каўпак адзначаў, што абыякавасць вясковага жыхарства да школы тлумачыцца таксама тым, што яна «не дае таго, чаго чакаюць ад яе сяляне». Галоўную прычыну такога становішча педагог і беларускі літаратар бачыў у тым, што казённая ці земская

---

он продавал на петербургских улицах вечерние газеты. Теперь снова на нем погоны, и щеки его оттопырены, словно во рту у него яблоко. А в руке он держит стек… В ресторанах я слышу речи, что такого хлеба и такой водки, и такого предупредительного официанта, как в Минске, в Москве нужно показывать под стеклянным колпаком…» А вось уражанні аб харчовым забеспячэнні Мінска карэспандэнткі маскоўскай савецкай газеты «Известия», якая пабывала ў Мінску ў канцы снежня 1918 г., адразу пасля звароту ў горад бальшавікоў: «Вы из Минска… Вот кому можно позавидовать. Правда же, там есть белый хлеб, масло, сахар. О, чудесные минские колбасы!... — Так встречают меня москвичи. Действительно, в первые дни, как и все остальные приезжие с голодных мест, я по два раза обедала, «упивалась» кофе в придачу с натуральным рафинадом, уплетала белые булки и даже пирожные, — одним словом, отдыхала от суровых столичных невзгод» (Известия ВЦИК. — 1919, 3 янв. (№ 7)).

384 НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 12; спр. 9, арк. 14.

385 НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 28, арк. 79.

386 Тамсама, арк. 97—98.

школа не давала дзецям практычных ведаў і навыкаў, патрэбных ім у жыцці, а таксама ў тым, што выкладанне ў гэтых школах адбывалася на расійскай мове. «Жыхарства беларускае, — пісаў ён, — а выкладанне вядзецца па–расійску. Неабходна ўвесці ў школу выкладанне на роднай мове. Менш будуць калечыцца дзіцячыя душы, хутчэй будзе засвойвацца навука, і тым самым стаўленне да школы зменіцца на лепшае»[387].

З улікам агульнай колькасці вучняў у пачатковых школах Мінскай губерні ў 1918 г. аказалася, што звыш 38% мясцовых дзяцей школьнага ўзросту заставаліся па–за школай, а калі прыняць пад увагу, што 20% вучняў ужо перараслі школьны ўзрост, колькасць дзяцей ад 6 да 11 гадоў, не ахопленых вучобай, павялічвалася да 50,7% (амаль 200 тыс. чалавек)[388].

Лепшая сітуацыя, паводле гэтых паказнікаў, склалася ў Мінску дзякуючы чыннасці мясцовага гарадскога самаўрада. Паводле звестак старшыні гарадской школьнай камісіі М. Фрумкінай, ва ўсіх мінскіх навучальных установах навучалася каля 14 тыс. школьнікаў — звыш 80% усіх дзяцей школьнага ўзросту ад 6 да 18 гадоў [Гл. *Дадатак 17.3*][389]. І толькі каля 2 тыс. непаўналетніх мінчукоў школьнага ўзросту не наведвалі пачатковыя адукацыйныя ўстановы. У гарадах Беларусі сярод вучняў пачатковых школ мелася яўная перавага дзяўчынак над хлопчыкамі. У Мінску, напрыклад, у 1917/18 навучальным годзе на 100 хлопчыкаў прыходзілася 134 дзяўчынкі[390].

Каля 11% дзяцей Міншчыны ў 1918/19 навуч. годзе было адмоўлена ў прыняцці ў школы. Галоўнай прычынай гэтага была празмерная перагружанасць школ вучнямі (86,4% выпадкаў). 70% школ губерні ў той ці іншай ступені вымушаны былі адмаўляць у прыёме дзецям. Калі ў Мінскім павеце такіх школ налічвалася ўсяго 5,7%, то ў Барысаўскім — 46%, Мазырскім — 62%, Слуцкім — 93%. Высокі працэнт адмоў у паступленні ў навучальныя ўстановы назіраўся ў гарадах, у першую чаргу ў Мінску. У пачатку згаданага навучальнага года тут было адмоўлена ў паступленні 1232 асобам, з іх у пачатковыя вучэльні — 391 (31,7%), у гімназіі — 573 (46,5%), у мясцовую рэальную вучэльню — 241 (19,5%)[391]. Напрыклад, у Мінскай рэальнай вучэльні меліся 2 раўналежныя падрыхтоўчыя класы. Дырэкцыя ў 1917 г. мела ў мясцовым аддзяленні ранейшага Дзяржбанка Расіі т.зв. запасны фонд — 80 тыс. руб. На працэнты з гэтага ўкладу дырэкцыя вучэльні да красавіка 1918 г. выплачвала бяднейшым вучням гэтых класаў пасільныя субсідыі для аплаты навучання. Але пазней, у сувязі з тым, што ўсе банкаўскія ўклады былі замарожаны акупацыйнымі ўладамі, гэтыя выплаты былі спынены[392].

У сярэднім па губерні на 1 настаўніка прыпадала 54 вучні (найбольшы паказчык у Бабруйскім павеце — 72, найменшы ў Навагрудскім — 42)[393].

Толькі ў 45% школ Мінскай губерні амаль не назіралася манкіровак (пропускаў заняткаў) вучняў без уважлівых прычын падчас навучальнага года, у той час калі ў 15% навучальных устаноў яны былі вельмі значнымі[394]. Другая, не менш складаная праблема для мясцовых адукацыйных устаноў — гэта сыход вучняў са школы да за-

---

[387] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 243—244.

[388] Тамсама, спр. 1, арк. 13.

[389] Гэта без уліку дзяцей, узрост якіх перасягаў для пачатковых школ 15 гадоў, для сярэдніх — 18. У той жа час Мінская гарадская камісія адзначала, што ўзрост у больш чым 2 тыс. школьнікаў пачатковых школ перасягнуў 15 гадоў, у той жа час у сярэдніх школах было дастаткова шмат «пераросткаў» ва ўзросце 19—21 год.

[390] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 32, арк. 23.

[391] Тамсама, спр. 32, арк. 23.

[392] В реальном училище // Минский голос. — 1918, 4 окт.

[393] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 13—14.

[394] Тамсама, спр. 1, арк. 11.

канчэння вучобы. Сярэдні працэнт тых, хто датэрмінова сышоўшых з былых казённых вучэльняў Мінскай губерні ў 1918 г., склаў 20,6% (у Мазырскім павеце — 40%, Мінскім павеце — каля 10%, у самім Мінску — 39%). 52% апытаных тлумачылі свой сыход са школы тым, што «няма каму працаваць на хатняй гаспадарцы», 48% — «з–за адсутнасці цёплай вопраткі і абутку, каб хадзіць у школу ў зімовы час», а таксама з–за хваробаў[395]. У шэрагу выпадкаў бацькі гэтых вучняў яшчэ не вярнуліся з расійскага войска або знаходзіліся ў аўстра–нямецкім палоне, і таму падлеткі вымушаны былі пакідаць школу падчас вяснова–восеньскіх сезонных работ. Адзначым таксама факт масавага сыходу вучняў з сярэдніх навучальных устаноў. Так, у Мінску з мясцовых гімназій і рэальнай вучэльні за гэты час выбылі 1238 чал. — 55% усіх, хто выбыў з усіх навучальных устаноў горада. Гэта былі пераважна вучні падрыхтоўчых класаў названых элітных навучальных устаноў, якія, як ужо адзначалася, не мелі сродкаў для аплаты навучання[396]. Плата за навуку ў гэтых сярэдніх школах, якія апынуліся ў зоне нямецкай акупацыі, у сярэдзіне 1918 г. узнялася ў 2—3 разы, а ў некаторых мінскіх прыватных гімназіях (напрыклад, у жаночай гімназіі А. Рэйман) у 3—4 разы[397]. З пачатковых школ Мінска выбыў 891 чал.[398].

Наступствам гэтай несуцяшальнай тэндэнцыі стаў вельмі нізкі працэнт выпускнікоў у 1917/18 навучальным годзе. Напрыклад, у Мінскім павеце на 1 школу прыпадала ў сярэднім 7 выпускнікоў[399]. Было нямала школ, дзе ўвогуле адсутнічалі выпускныя класы. Настаўнік Слабодскай вучэльні Сёмкава–Гарадоцкай воласці Мінскага павета паведамляў у гэты час: «Вайна адбілася на школе вельмі кепска. Два гады яна [школа. — *У. Л.*] зусім не функцыянавала. У 1917 г. на адну настаўніцу прыпадала 150 вучняў. Даводзілася займацца ў тры змены. Вядома, у такой сітуацыі не магло быць плённых заняткаў. За ўвесь час вайны не было ніводнага выпуску. …Падлеткам, якім споўнілася 16 гадоў, даводзілася непісьменнымі сыходзіць на заробкі дзеля пошуку сродкаў для існавання»[400].

Разам з пагаршэннем матэрыяльнага становішча адукацыйных устаноў, падзеннем ўзроўню навучання ў школах, магчыма, самым страшным наступствам вайны стала рэзкае падзенне маралі, агрубленне нораваў дзяцей, што адбывалася не ў апошнюю чаргу пад уплывам навакольнага вайсковага асяроддзя. Настаўнік Філіпавіцкай земскай вучэльні Кіевіцкай воласці Слуцкага павета У. Лаўрыновіч канстатаваў: «Вайсковыя часткі ні на адзін дзень не пакідалі вёску. Сярод дзяцей моцна развіўся алкагалізм і карцёжныя гульні. Крадзёж чужога лічыцца нармальнай з’явай. Ён больш не выклікае пачуцця сораму ў злоўленага і не сустракае асуджэння з боку таварышаў. Такія вось адмоўныя ўплывы вайны на дзіцячую псіхіку»[401]. Такія ж высновы па пытанні аб уплыве вайны на школу ў сваіх анкетах адзначала большасць тагачасных настаўнікаў Міншчыны.

Поруч з гэтым трэба сказаць, што земскія і гарадскія органы самакіравання, якія працягвалі дзейнічаць у зоне «новай акупацыі», а таксама грамадскія арганізацыі рабілі ўсё магчымае, каб падтрымаць мясцовыя школы і іншыя навучальныя ўстановы ў матэрыяльным і вучэбна–метадычным плане, арганізоўвалі новыя школы, педагагічныя курсы, народныя ўніверсітэты, рознага кшталту прафесійныя школы, студыі і лекцыі.

---

395 НАРБ, ф. 804, воп. 1, арк. 14.

396 Тамсама, спр. 32, арк. 23.

397 НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 1.

398 НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 32, арк. 23.

399 О выпускных испытаниях в начальных училищах Минского уезда в 1918 году // Наше земское дело. — 1918, 31 июля. — С. 5.

400 НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 32, арк. 397—398.

401 Тамсама, спр. 29, арк. 127—128.

Вялікую падтрымку ў арганізацыі школьнай асветы ў гарадах аказвалі мясцовыя гарадскія магістраты. Тон тут задавала Мінская гарадская дума, выбраная гараджанамі ў ліпені 1917 г. на агульных дэмакратычных выбарах. Дзякуючы дбайнасці і стараннням гэтага гарадскога самакіравання мясцовыя школы ў матэрыяльным і фінансавым плане былі забяспечаны лепей. Штомесячны заробак настаўніка пачатковай школы дасягаў 250 руб. Не заставаліся без фінансавай падтрымкі і бацькі навучэнцаў. Улічваючы значнае павышэнне платы за навучанне ў гімназіях і рэальнай вучэльні, мясцовая гарадская дума пастанавіла ў пачатку 1918 г. выдаткаваць каля 3 тыс. руб. служачым, якія працавалі ў розных аддзелах і структурах гарадской управы, у якасці грашовых кампенсацый за навучанне іх дзяцей у сярэдніх школах. Звыш 11 тыс. руб. гарадское самакіраванне пастанавіла выдаткаваць дзецям беднякоў і навучэнцам, якія паспяхова вучыліся, у якасці розных імянных стыпендый і аднаразовых сацыяльных выплат. Мінскай камісіяй па народнай адукацыі былі зацверджаны 10 стыпендый імя Льва Талстога. Таксама былі ўтвораны імянныя «нацыянальныя стыпендыі» для нерасійскіх навучальных устаноў, на якія ў 1918 г. выдзялялася 300 руб. Польская школьная субкамісія зацвердзіла 2 стыпендыі — імя Адама Міцкевіча і Тадэвуша Касцюшкі, габрэйская — імя Мендэля Мойхер–Сфорыма (Ш.Я. Абрамовіча) і І.Л. Перэца, беларуская — імя Максіма Багдановіча і Цёткі (А. Пашкевіч)[402].

Разам з казённымі навучальнымі ўстановамі ў горадзе актыўна развіваліся прыватныя і грамадскія навучальныя ўстановы, якія падтрымліваліся рознымі культурна–асветнымі, нацыянальнымі арганізацыямі, бацькоўскімі камітэтамі і педагагічнымі карпарацыямі. У 1917—1918 гг. у Мінску дзейнічалі 20 былых урадавых, прыватных і грамадскіх расійскамоўных сярэдніх навучальных устаноў (7 з іх габрэйска–расійскія), 2 народныя ўніверсітэты, Мінская прыватная вышэйшая музычная кансерваторыя, шэраг вечаровых школ для дарослых, вялікая колькасць прафесійных вучэльняў, студый і курсаў і г.д.[403].

Утвораныя народныя ўніверсітэты (пры Мінскім настаўніцкім саюзе, а таксама створаны яшчэ Выканаўчым камітэтам расійскага Заходняга фронту) не адпавядалі

[402] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 2—2 адв. Абвешчаныя беларускія імянныя стыпендыі з–за канфлікту Народнага сакратарыята БНР з Мінскай гарадской думай так і не былі выдадзены.

[403] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270. Звесткі аб навучальных установах, настаўніках і выкладчыках г. Мінска за 1918 г.; В городских школах // Минский голос. — 1918, 23 окт.; В губернском комитете по народному образованию // Новый вестник (Минск). — 1918, 18 ноября; В комитете просвещения // Минский голос. — 1918. — 19 ноябр.; В Народном университете Западной области // Минский голос. — 1918, 10 марта; В родительских комитетах // Минский голос. — 1918, 18 окт.; Внешкольное образование // Минский голос. — 1918, 15 марта; Гимназия для взрослых Минского общества родителей и преподавателей, ревнителей среднего образования // Минский голос. — 1918, 28 авг.; Городские школы // Минский голос. — 1918. — 19 авг.; Губернский комитет по народному образованию // Новый вестник (Минск). — 1918. 18 ноябр.; Губернский комитет по народному образованию // Наше земское дело. — 1918, 31 июля; К возвращению Минского коммерческого училища // Минский голос. — 1918, 16 авг.; К открытию политехнического училища // Минский голос. — 1918, 11 сент.; К открытию земской народной гимназии // Минский голос. — 1918, 15 сент.; К съезду представителей средних школ // Минский голос. — 1918, 14 сент.; Консерватория // Минский голос. — 1918, 1 мая; Консерватория // Минский голос. — 1918, 18 апр.; Минская восьмиклассовая мужская гимназия имени Л.Н. Толстого (Юрьевская, 33) // Минский голос. — 1918, 1 авг.; Минская гимназия для взрослых Минского учительского союза // Минская газета. — 1918, 3 марта; Минские музыкальные курсы Г.Ф. Львович // Минский голос. — 1918, 16 апр.; Минский народный университет // Минский голос. — 1918, 10 марта; От Минского народного университета // Минский голос. — 1918, 10 марта; Студия фортепианной игры Елены Янковской и Марии Костровицкой // Минский голос. — 1918, 8 марта; У директора Минской консерватории // Минский голос. — 1918, 9 мая; Учебные заведения // Минский голос. — 1918, 24 февр.; Хроника // Минский голос. — 1918, 31 авг.

статусу вышэйшых навучальных устаноў, але іх чыннасць была скіравана на тое, каб даць слухачам разнастайныя спецыяльныя веды ў розных галінах. Так, Народны ўніверсітэт Заходняй вобласці (знаходзіўся па вул. Захар'еўская, 94) у сакавіку 1918 г. арганізаваў для мінчукоў 3–месячныя сельскагаспадарчыя курсы. На іх слухачы атрымоўвалі веды па прыродазнаўству, мінералогіі, глебазнаўству, садаводству, гародніцтву, жывёлагадоўлі, асновам сельскагаспадарчай эканомікі і харчовай вытворчасці. Чытаць лекцыі ва ўніверсітэце былі запрошаны лепшыя мясцовыя спецыялісты — горны інжынер П. Грабоўскі, аграномы Я. Пчыцкі, А. Хоміч і А. Цімошчанка, кандыдат прыродазнаўства Р. Гурвіч, ветэрынарныя лекары М. Вэйт і М. Сцяпура[404]. Народны ўніверсітэт пры мясцовым губернскім настаўніцкім хаўрусе (месціўся на Падгорнай вул., у будынку былой Мар'інінскай жаночай гімназіі) у гэты ж час арганізаваў 4–месячныя бухгалтарскія курсы, аднамесячныя курсы агульнай гігіены (лектар — д–р Е. Лекаховіч). Вядомы расійска–габрэйскі літаратар В. Лейтан вёў для жадаючых тэорыю і практыку паэтычнай творчасці.[405]

Дагэтуль у айчыннай гісторыі адукацыі вельмі слаба адлюстраваны факт стварэння і чыннасці ў Мінску фактычна першай вышэйшай музычнай установы Беларусі — Мінскай прыватнай кансерваторыі. Яна была ўтворана па ініцыятыве прафесара Варшаўскай кансерваторыі Г. Жураўлёва. У склад прафесараў і выкладчыкаў кансерваторыі ўвайшлі вядомыя музыканты і педагогі І. Смідовіч, М. Моўшавіч, М. Шапіра, У. Шэрніе–Шапіра, І. Фідлон, Інакенці Усцюжанінаў, М. Вараты (Северскі), спевакі В. Андога, Я. Гондакс і інш. Спачатку кансерваторыя месцілася ў будынку мужчынскай прыватнай гімназіі Фальковіча і Зубакіна, пазней, з–за адсутнасці патрэбных грошай, яна пераехала ў прыватны дом па Юр'еўскай, 26. 8 верасня 1918 г. выкладчыкі кансерваторыі ў папулярнай сярод мінчукоў «Белай зале» далі першы свой дабрачынны канцэрт на карысць бедных дзяцей. Пад кіраўніцтвам адмыслова запрошанага на канцэрт нямецкага дырыжора Б. Плотава музыканты выканалі вядомыя творы Аляксандра Глазунова, Мадэста Мусаргскага, Аляксандра Барадзіна, Генрыха Бермана, Ферынца Ліста[406]. 6 кастрычніка зноў жа сіламі выкладчыкаў кансерваторыі ў зале Мінскага шляхецкага сходу быў праведзены вечар камернай музыкі, праграма якога была прысвечана творчасці Бетховена. 27 кастрычніка ўжо сіламі саміх навучэнцаў быў праведзены студэнцкі музычны вечар, дзе пад кіраўніцтвам праф. І. Усцюжанінава выконваліся харавыя творы[407].

Кіраўніцтва кансерваторыі шмат рабіла для прапаганды музычнага мастацтва ў горадзе. Яшчэ ў красавіку па ініцыятыве Г. Жураўлёва, А. фон Дзітмана і М. Вараты было ўтворана Мінскае музычнае таварыства[408]. Пры кансерваторыі паспяхова дзейнічала прыват–студыя І. Усцюжанінава[409]. Апошні разам з Варатам у гэты час распачалі сур'ёзна вывучаць беларускую народную музыку, збіраць беларускі музычны фальклор. На жаль, фінансавыя праблемы, малалікі склад слухачоў з–за адносна вялікай платы за навучанне, адсутнасць сталага памяшкання не дазволілі развіць і пашырыць чыннасць гэтай вучэбнай установы. З прыходам савецкай улады, у снежні 1918 г., кансерваторыя, як прыватная вучэбная ўстанова, спыніла сваё існаванне.

[404] В народном университете Западной области // Минский голос. — 1918, 10 марта.
[405] Минский народный университет // Минский голос. — 1918, 10 марта.
[406] Первый большой благотворительный концерт в пользу бедных Минской консерватории // Минский голос. — 1918, 2 сент.
[407] Первый вечер камерной музыки в Минской консерватории // Минский голос. — 1918, 9 окт.; Первый ученический вечер Минской консерватории // Минский голос. — 1918, 27 окт.
[408] Консерватория. Минское музыкальное собрание // Минский голос. — 1918, 18 апр.
[409] Приват–студия свободного художника Иннокентия Устюжанинова // Минский голос. — 1918, 9 авг.; Профессиональная школа кройки и шитья Марии Войдат // Минский голос. — 1918, 7 авг.

Па ініцыятыве Мінскага аддзела Усерасійскага хаўрусу інжынераў увосень 1918 г. была адкрытая першая ў горадзе сярэдняя політэхнічная вучэльня[410]. Увосень 1918 г. гэтая навучальная ўстанова была ўзята пад загад і фінансаванне гарадскога самакіравання. Дзеля арганізацыі палітэхнікума Мінская губернская земская ўправа і мінская гарадская ўправа выдаткавалі 15 тыс. руб. У школе былі створаны сельскагаспадарчае, культурна–меліяратыўнае, хімічнае, тэхна–механічнае аддзяленні. Вучэльню ўзначаліў вядомы інжынер, выпускнік Петраградскага тэхналагічнага інстытута А. Аляксееў. У склад выкладчыкаў былі запрошаны былы прафесар Казанскага ўніверсітэта Вільгельм Андэрсан, дасведчаныя педагогі–практыкі: Я. Гецаў, М. Міхайлаў, І. Гуткін, В. Струеў і інш.[411].

Вялікай папулярнасцю ў гэты час сярод насельніцтва карысталіся курсы нямецкай мовы[412]. Яны ствараліся дзясяткамі: пры гімназіях, усялякіх адукацыйных курсах, народных універсітэтах, шмат было хатніх настаўнікаў, якія такім чынам імкнуліся падзарабіць. Асабліва прадпрымальнымі на ніве вывучэння нямецкай мовы праявілі сябе габрэі. Але трэба сказаць, што якасць навучання ў многіх прыватных «рэпэтытараў» была даволі нізкая. У большасці з іх адсутнічалі адпаведныя пасведчанні аб праве выкладаць нямецкую мову.

Ад краёвага цэнтра ў справе развіцця школьнай адукацыі не адставалі прадстаўнічыя органы гарадскога самакіравання Магілёва, Бабруйска, Слуцка, Барысава, Лепеля, Рагачова і іншых. Тут ствараліся гарадскія і павятовыя камітэты народнай адукацыі, новыя грамадскія культурна–асветныя ўстановы, якія імкнуліся арганізоўваць на месцах элементарныя школы і гімназіі, агульнаадукацыйныя і педагагічныя курсы, развіваць пазашкольную асвету для непісьменных дарослых[413]. Напрыклад, у Бабруйску па ініцыятыве мясцовай інтэлігенцыі пры фінансавай падтрымцы гарадской думы было ўтворана Таварыства садзейнічання пазашкольнай асвеце, якое арганізавала агульнаадукацыйныя курсы і 3–месячныя педагагічныя курсы павышэння кваліфікацыі для настаўнікаў горада і павета[414].

Насуперак палітыцы кайзераўскіх ваенных улад, мясцовыя земскія органы імкнуліся захаваць свой кантроль над вясковай школай. Арганізацыя губернскіх камітэтаў народнай адукацыі пры земствах у Беларусі пачынаецца толькі ў снежні 1917 г., адначасова з усталяваннем на месцах савецкай улады. Да гэтага моманту, з лета 1917 г., агульнае кіраўніцтва асветнай справай на Міншчыне, Магілёўшчыне і Віцебшчыне ажыццяўлялася «па сумяшчальніцтву» загадчыкамі агульных аддзелаў губернскіх земскіх упраў. У студзені 1918 г. савецкая ўлада пайшла на скасаванне

---

[410] Среднее техническое училище // Минский голос. — 1918, 19 июля; Минское политехническое училище // Минский голос. — 1918, 1 авг.; К открытию политехнического училища // Минский голос. — 1918, 11 сент.; В политехническом училище // Минский голос. — 1918, 9 окт.

[411] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 107, 122.

[412] Курсы немецкого языка при еврейской гимназии Н.О. Казарновской (Петропавловская, 35) // Минский голос. — 1918, 8 марта; Подготовительные курсы // Минский голос. — 1918, 15 сент.; Хроника // Минский голос. — 1918, 30 марта; Хроника // Минский голос. — 1918, 3 апр.; Хроника // Новый вестник (Минск). — 1918, 25 ноябр.

[413] Учебные заведения // Минский голос. — 1918, 24 февр.; Учебные книги и пособия // Минский голос. — 1918, 11 сент.; Вечерняя школа // Бобруйский голос. — 1918, 5 мая; Деревня и просвещение // Бобруйский голос. — 1918, 23 апр.; Заседание городского училищного совета // Бобруйский голос. — 1918, 10 мая; Полезный дар в Могилеве // Новый вестник (Минск). — 1918, 13 сент.; Учительский съезд // Эхо (Могилев). — 1918, 25 апр.; [Хроника]. // Бобруйский голос. — 1918, 10 апр., 23 апр., 8 мая, 3 авг., 4 авг.

[414] Курсы для народных учителей // Бобруйский голос. — 1918, 1 мая; Общеобразовательные курсы // Бобруйский голос. — 1918, 14 мая; Общество содействия внешкольному образованию // Бобруйский голос. — 1918, 24 апр.

гэтых камітэтаў і перадачу іх функцый сваім выканаўчым уладным структурам. З прыходам нямецкіх войск вясной 1918 г. у Мінску і Магілёве земскія дзеячы здолелі аднавіць чыннасць губернскіх аддзелаў народнай адукацыі. У Магілёве чыннасць згаданага органа насіла хутчэй фармальны характар, і кіраўніцтва школьнай справай на акупаваных частках Магілёўшчыны і Віцебшчыны[415] было сканцэнтравана ў павятовых земствах. Больш прадуктыўнай была праца Мінскага губернскага земства. Створаны яшчэ 18 снежня 1918 г. на XI надзвычайным губернскім земскім сходзе Мінскі губернскі аддзел народнай адукацыі з–за палітычных падзей канца 1917 г. і пазіцыі нямецкіх акупацыйных улад рэальна пачаў працаваць толькі з красавіка 1918 г. У ліпені 1918 г. быў канчаткова сфарміраваны Мінскі губернскі камітэт па народнай адукацыі, які ўзначаліў С. Валасковіч і куды ўвайшлі прадстаўнікі земстваў, гарадскіх самаўрадаў, мясцовага настаўніцтва і бацькоўскіх камітэтаў, а таксама грамадскіх арганізацый[416]. Згаданым камітэтам была распрацавана шырокая праграма развіцця школьнай асветы ў Мінскай губерні: пашырэнне сеткі пачатковых школ, адкрыццё ў кожным павеце па адной грамадскай бібліятэцы, стварэнне ў кожнай воласці вышэйшай пачатковай вучэльні і народнай бібліятэкі і іншыя мерапрыемствы. На патрэбы адукацыі мясцовыя земскія органы ў пачатку 1918 г. выдаткоўвалі каля 1/3 часткі свайго бюджэту[417].

З–за супрацьдзеяння акупацыйнай улады многія праекты так і засталіся на паперы. Але дзякуючы чыннасці губернскіх і павятовых органаў земскага самакіравання сетка пачатковых школ у губерні з 1917 па 1918 гг. павялічылася на 503 адзінкі (на 21,4%). У Бабруйскім павеце колькасць школ павялічылася на 120,3%, у Ігуменскім — на 45,7%, у Мінскім — на 33,6%. Толькі ў Навагрудскім павеце колькасць пачатковых школ зменшылася на 30%, што тлумачыцца знаходжаннем гэтага павета доўгі час у зоне ваенных дзеянняў[418].

Фінансавыя субсідыі з боку Мінскага губернскага земства дапамаглі захаваць сваю чыннасць большасці былых казённых сярэдніх школ, Мінскаму настаўніцкаму інстытуту, настаўніцкім семінарыям у Нясвіжы, Бабруйску, Барысаве, Гомелі і Оршы. У гэты час была рэарганізавана ў сярэднюю навучальную ўстанову Мар'інагорская сельскагаспадарчая школа.

Актыўная пазіцыя дэпутатаў Мінскай гарадской думы ад габрэйскіх, польскіх і беларускіх партый паўплывала на рашэнні мясцовага магістрата ў выбары курсу па развіццю адукацыі ў горадзе. Яшчэ напярэдадні нямецкай акупацыі, 9 лістапада 1917 г., Мінская гарадская дума прыняла гістарычнае рашэнне, у якім было выказана патрабаванне да цэнтральнай расійскай улады неадкладна перадаць усю школьную справу ў Мінску ў рукі мясцовага самакіравання, а таксама нацыянальных школьных рад, выбраных на дэмакратычных пачатках. «Задачай школы, — падкрэслівалася далей у рэзалюцыі, — з’яўляецца поўнае і ўсебаковае развіццё ўсіх разумовых, маральных і фізічных сіл падрастаючага пакалення, падрыхтоўка свядомых грамадзян свабоднай дэмакратычнай краіны. Школа павінна стаць свецкай. Мовай выкладання ў ёй павінна быць мацярынская мова, прызнаная роднай асобнымі нацыянальнымі групамі»[419]. У сваіх рашэннях, звязаных з культурна–асветнай сферай, сацыялістычная

---

[415] Акупіраваная тэрыторыя Віцебскай губерні разам з захопленымі паветамі Магілёўскай губерні, паводле рашэння камандзіра 10–й нямецкай арміі, былі аб’яднаны ў адзін ваенна–адміністрацыйны раён.

[416] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 83, арк. 76—77 адв.; Губернский комитет по народному образованию // Наше земское дело. — 1918, 31 июля.

[417] Березова М. Расходы уездных и губернских земств Минской губернии на народное образование в 1918 году // Наше земское дело. — 1918, 9 мая. — С. 11—14.

[418] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 3—4.

[419] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3659, арк. 54.

большасць Мінскай гарадской думы імкнулася рэалізаваць прынцыпы нацыянальна–культурнай аўтаноміі. Часова, да сфарміравання ў горадзе на падставе агульнага, роўнага і тайнага галасавання самастойных нацыянальных школьных рад, кіраванне адукацыйнай справай перадавалася аб'яднанаму гарадскому школьнаму камітэту, які складаўся з нацыянальных субкамісій: беларускай (сакратар Аляксандр Данілевіч), польскай (Станіслаў Янкоўскі), расійскай (Вольга Кіснемская) і габрэйскай (Б. Лявідава). Старшынёй названай камісіі была абрана вядомы дзеяч сацыял–дэмакратычнага руху ў Расіі, сябра ЦК Бунда М. Фрумкіна–Віхман[420]. Менавіта дзякуючы прынцыповай пазіцыі Фрумкінай у Мінску стала магчымай рэалізацыя праграмы па стварэнню шматнацыянальнага школьніцтва з выкладаннем на роднай мове дзяцей. «Школа на роднай, матчынай мове навучэнцаў, — заяўляла яна з дэпутацкай трыбуны мясцовай гарадской думы, — школа, якая перадусім карыстаецца матэрыялам з роднага для дзіцяці асяроддзя, якая адкрывае яму доступ да нацыянальнай культуры, толькі такая школа можа плённа рэалізоўваць новыя, творчыя пачаткі ў галіне адукацыі і выхавання»[421]. Лідар Бунда намагалася ажыццявіць у школьным жыцці Мінска прынцыпы «нацыянальна–персанальнай аўтаноміі» і «сацыяльнай свецкай школы», працоўнага пачатку, адмену выкладання рэлігіі. Шмат высілкаў яна аддала справе пазашкольнай адукацыі: стварэнню бібліятэк, школьных і дзіцячых пляцовак, вучнёўскіх гурткоў і клубаў[422].

Пачатковая адукацыя, на думку большасці тагачасных мінскіх дэпутатаў, павінна была стаць абавязковай, бясплатнай і ўсеагульнай. Навучэнцы ў пачатковых школах павінны былі атрымліваць бясплатныя падручнікі і навучальныя дапаможнікі, бясплатную гарачую ежу, а дзеці бяднейшых бацькоў, калі гэта неабходна, забяспечваліся бясплатнымі абуткам і вопраткай. Прызнаючы, што «поўнае і канчатковае правядзенне ў жыццё ўсіх гэтых прынцыпаў стане магчымым толькі пры ўстанаўленні нармальнага жыцця ў краіне», Мінская гарадская дума ўжо ў той час імкнулася здзейсніць некаторыя са сваіх рашэнняў. Паводле ўнесенай папраўкі прадстаўнікамі сіяністкіх партый у агульную рэзалюцыю па школьнаму пытанню, група бацькоў у колькасці 80 чалавек мела права адкрываць на сродкі гарадской управы народную школу пажаданага тыпу і з пажаданай мовай выкладання[423].

## 4.2. Чыннасць на ніве школьнай асветы польскіх грамадскіх устаноў і прыватных мецэнатаў

Цэнтрам развою польскай школьнай асветы ў зоне «новай акупацыі» таксама з'яўляўся Мінск. У дзень святкавання дня Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, 3 траўня 1917 г., тут утвараецца таварыства «Мацеж Школьная Зямлі Мінскай» (далей — «Мацеж Школьная»), якая апекавалася ранейшымі і пачала арганізоўваць новыя польскія адукацыйныя асяродкі ў губернскім цэнтры і па ўсёй губерні[424]. З ліку польскамоўных навучальных устаноў у беларускай сталіцы дзейнічалі 3 гімназіі: 1 мужчынская, утвораная таварыствам «Мацеж Школьная», і 2 жаночыя — адна таксама фінансавалася таварыствам «Мацеж школьная», а другая, імя Э. Плятар, утрымлівалася на сродкі бацькоўскага камітэта.

[420] Тамсама, ф. 1, воп. 1, спр. 7141, арк. 1; Ляхоўскі У.В. Фрумкіна М. // Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. — Мінск, 2003. — Т. 16. — С. 482.
[421] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 87, арк. 40.
[422] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 1, спр. 7141, арк. 3—18.
[423] Тамсама, ф. 24, воп. 1, спр. 3659, арк. 53—56.
[424] Tarasiuk D. Z dziejów Polskiej Macierzy Szkolnej Ziemi Mińskiej.., s. 57—59; Winicki Z. W Mińsku Litewskim — mieście dawnej Rzeczypospoltej.., s. 75—760.

З 1917 г. тут функцыянавала польская рэальная вучэльня імя Т. Рэйтана. Таксама ў беларускай сталіцы дзейнічалі Польскі народны ўніверсітэт, вечаровая пачатковая школа для дарослых, польская ніжэйшая школа рукадзелля, 2 пачатковыя гандлёвыя школы таварыства «Лабар», настаўніцкая семінарыя, вечаровая школа для дарослых і 17 элементарных вучэльняў з 4–гадовым тэрмінам навучання. У мінскіх польскіх сярэдніх школах навучалася каля 2 тыс. навучэнцаў і працавала 120 настаўнікаў. У польскіх пачатковых і прафесійных школах для дарослых і 3 прафесійных школах горада навучалася каля 2 тыс. чал. і працавала каля 70 настаўнікаў (гл. *Дадатак 17.3*). Польскія сярэднія школы былі арганізаваны і ў правінцыі: у Бабруйску, Нясвіжы, Слуцку і ў іншых гарадах[425]. У колькасным вызначэнні польскага школьніцтва ў «зоне новай акупацыі» даследнікі істотна разыходзяцца. Паводле падлікаў польскага гісторыка Д. Тарасюка, у Мінску і яго ваколіцах у 1918 г. фунцыяніравала не меней 100 польскіх пачатковых школ[426]. У той жа час З. Вініцкі падае інфармацыю аб 304 польскамоўных навучальных установах на Міншчыне[427]. У межах Магілёўскай губерні ў 1917 г. іх функцыянавала каля 300 — у асноўным элементарныя школы, а таксама некалькі сярэдніх навучальных устаноў ў Магілёве, Жлобіне і іншых гарадах[428]. Паводле звестак С. Браноўскага, у канцы 1918 г. на тэрыторыі цэнтральнай і ўсходняй часткі Беларусі дзейнічала звыш 500 польскіх пачатковых школ[429].

Польская школьная справа ў зоне «новай акупацыі» актыўна падтрымлівалася мясцовымі абшарнікамі і касцёлам. У шэрагу вёсак і сёлаў, дзе пераважала каталіцкае насельніцтва, пад уплывам мясцовых ксяндзоў тутэйшыя сяляне за свой кошт утрымлівалі польскамоўныя школы (бясплатна забяспечвалі іх памяшканнямі і школьным інвентаром, самі аплачвалі працу настаўніка і г.д.). Загадчык Мінскага павятовага аддзела народнай адукацыі С. Мякіннік адзначаў у снежні 1918 г. вялікі ўплыў ксяндзоў на выбар мовы выкладання ў школах бацькамі дзяцей каталіцкага веравызнання. Земскі чыноўнік канстатаваў, што праз школу ідзе адкрытае апалячванне беларусаў–католікаў, прыводзіў асобныя факты аб цкаваннях «рускіх» настаўнікаў у некаторых каталіцкіх вёсках павета. Ён таксама паведамляў, што каталіцкая частка Івянца, жыхарства вёскі Будзькавічы Івянецкай воласці «адмоўна ставіцца да мясцовай расійскай школы і дамагаецца польскай ці выкладання ў школе польскай мовы і Закона Божага для каталікоў па–польску»[430], а ў Рубяжэвічах «беларусы–каталікі, дзякуючы ўплыву мясцовага ксяндза, не пасылаюць сваіх дзяцей у расійскія школы»[431]. Тыя ж настроі заўважны ва многіх мясцовасцях заходніх гмінаў Міншчыны, «дзе пераважаў рымска–каталіцкі элемент, які цягнуўся да ўсяго польскага»[432]. Разам з тым, Мякіннік сведчыў пра даволі нізкі ўзровень выкладання ў новаўтвораных польскамоўных школах, дзе «настаўнікамі прызначаліся нават былыя лакеі панскіх маёнткаў»[433].

У першай палове 1918 г., ва ўмовах фінансавага крызісу, калі востра адчуваўся недахоп фінансавых сродкаў на ўтрыманне польскамоўных адукацыйных устаноў,

---

[425] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 12—13; Winicki Z. W Mińsku Litewskim — mieście dawnej Rzeczypospolitej.., s. 77.

[426] Tarasiuk D. Z dziejów Polskiej Macierzy Szkolnej Ziemi Mińskiej.., s. 59.

[427] Winicki Z. W Mińsku Litewskim — mieście dawnej Rzeczypospoltej.., s. 77.

[428] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 137, арк. 40—41; Тарасюк Д. Палякі на Магілёўшчыне ў гады Першай сусветнай вайны // Край=Kraj (Магілёў).., с. 46—49.

[429] Bronowski S. Państwo Polskie a kwestja białoruska.., s. 15.

[430] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 142.

[431] Тамсама, спр. 30, арк. 188.

[432] Тамсама, спр. 30, арк. 330.

[433] Тамсама, спр. 30, арк. 168.

кіраўніцтва «Мацежы Школьнай» звярнулася за дапамогай да кіраўніцтва Мінскага губернскага земства, каб тое ўзяло на сябе частку выдаткаў на ўтрыманне польскіх школ. Неаднаразова адмаўляючы ў матэрыяльнай падтрымцы беларускай школьнай справе, кіраўніцтва губернскага і павятовых земстваў, тым не менш, пайшло на частковае фінансаванне польскіх грамадскіх адукацыйных устаноў у губерні. З восені 1918 г. на ўтрыманні павятовых земскіх управаў Бабруйшчыны, Барысаўшчыны, Ігуменшчыны, Міншчыны, Случчыны знаходзілася некалькі дзясяткаў польскіх пачатковых школ. Напрыклад, у Слуцкім павеце ў канцы 1918 г. 20 з 64 мясцовых польскамоўных адукацыйных асяродкаў утрымліваліся на сродкі павятовага земства[434]. Дзеля падрыхтоўкі настаўнікаў для гэтых устаноў вясной 1918 г. Мінская губернская земская ўправа ўтварыла кароткатэрміновыя польскія педагагічныя курсы, на якіх вучылася каля 100 слухачоў[435].

Праўда, пад уплывам беларускіх культурніцкіх арганізацый, якія выступалі супраць патурання паланізацыі беларускіх сялян каталіцкага веравызнання, кіраўніцтва Мінскага губернскага земства ў далейшым асцерагалася без належнай экспертызы выдаткоўваць грошы на адкрыццё новых польскіх школ па просьбе «Мацежы Школьнай» і іншых польскіх «крэсовых» арганізацый. У жніўні 1918 г., па выніках земскай нарады настаўнікаў, Мінскі павятовы камітэт народнай адукацыі пастанаўляў, што ў сувязі са змяшэннем жыхарствам Мінскага павета паняццяў рэлігійных і нацыянальных і, як правіла, поўнага іх атаесамлення (праваслаўны — расіец, каталік — паляк), неабходна належная асцярожнасць пры адкрыцці нацыянальных школ, каб пазбегнуць непрымальных для дэмакратыі паланізацыі і русіфікацыі[436]. У спрэчных выпадках, пры адкрыцці ў населеных пунктах школ той ці іншай нацыянальнасці, канчатковае рашэнне павінен быў прымаць павятовы адукацыйны камітэт пасля грунтоўнага вывучэння моўнай сітуацыі на месцы.

Факт наяўнасці ў цэнтральнай і ўсходняй частцы Беларусі напрыканцы Першай сусветнай вайны значнай колькасці польскіх адукацыйных устаноў зусім не азначае таго, што польская школа мела ў гэтым рэгіёне, як і ў Заходняй Беларусі, масавую падтрымку тутэйшага жыхарства. Такая падтрымка назіралася толькі ў заходніх гмінах Міншчыны і Віцебшчыны, дзе быў моцны ўплыў касцёла. Значная колькасць польскіх школ пры адсутнасці адпаведнай колькасці мясцовага польскага жыхарства таксама тлумачылася наяўнасцю ў рэгіёне падчас Першай сусветнай вайны значнага кантынгенту польскіх уцекачоў з этнічнай тэрыторыі Польшчы, што апынуліся тут у разгар расійска–нямецкага ваеннага супрацьстаяння. Па–другое, масавае польскае школьніцтва ў гэтай частцы Беларусі было створана на грошы расійскага ўрада, які не шкадаваў сродкаў на польскую справу дзеля вырашэння сваіх геапалітычных задач у вайне (гэтае пытанне падрабязна разглядалася ў 2–й частцы 2–й главы дадзенага даследавання).

Рээвакуацыя польскіх уцекачоў на радзіму, спыненне грашовага фінансавання з боку расійскай улады, неадпаведна з ранейшымі сціплыя субсідыі на польскую школьную справу з боку органаў мясцовага самакіравання, слабая сацыяльная база па падтрымцы польскай справы сярод тутэйшага жыхарства прыводзілі да паступовага змяншэння колькасці польскіх школ у рэгіёне. І толькі польска–савецкая вайна 1919—1920 гг., нядоўгае панаванне тут польскіх войскаў на нейкі час замарудзілі гэты працэс.

---

434 BPW. Dz. St. Druk. Akta Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich. ZCZW. Akc. 1680, k. 4—5.
435 Педагогические курсы для учителей польских школ // Наше земское дело. — 1918, 31 авг. — С. 10—11.
436 О национальных школах // Минский голос. — 1918, 1 сент.

## 4.3. Габрэйская адукацыя на ідыш і іўрыце. Пачатак татарскага школьніцтва

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. габрэйская адукацыя ў цэнтральнай і ўсходняй частцы Беларусі перажывала сапраўдны ўздым. Пасля скасавання рысы аселасці габрэі атрымалі права сяліцца па ўсёй тэрыторыі былой Расійскай імперыі. Габрэйская моладзь і інтэлектуальная эліта пацягнуліся ў буйныя расійскія мегаполісы, у якіх канцэнтраваліся вышэйшыя навучальныя ўстановы. Разам з тым, па–ранейшаму цэнтрам габрэйскага грамадскага і культурнага жыцця заставаліся Беларусь і Украіна.

Паміж бундаўцамі і сіяністамі і ў гэты час не сціхалі вострыя спрэчкі аб далейшых шляхах развіцця габрэйскай асветы. Бунд выказаўся за свецкую габрэйскую адукацыю на мове ідыш, якая павіннна была стаць сродкам прывіцця нерэлігійнай «габрэйскай ідэнтычнасці і пралетарскай салідарнасці»[437]. Найбольш выразна пазіцыю сваёй партыі выказала М. Фрумкіна: «Сацыял–дэмакраты адстойваюць свабоду веравызнання і менавіта таму выступаюць за свецкую школу. Што ж тычыцца выкладання Бібліі, дык гэта справа педагога: глядзець трэба на гэта з педагагічнага пункту гледжання»[438]. Больш катэгарычнай была пазіцыя газеты «Дэр Вэкер» (Будзільнік), органа мінскай суполкі Бунда: «Габрэйская дэмакратыя настроена супраць усялякага рэлігійнага навучання і асабліва супраць рэлігійнага выхавання ў школах. Яна змагаецца за свецкую школу і з вялікай энергіяй будзе выступаць супраць усялякіх клерыкальных тэндэнцый у габрэйскай асветнай працы. Прадстаўнікі сапраўднай дэмакратыі будуць змагацца са спробамі… паставіць вартаўніка ў «хасідскім штраймеле» для нашых настаўнікаў і іх выхаванцаў»[439].

Нямецкая акупацыя не стала перашкодай у далейшым пашырэнні ідышскай школы. Габрэйскія пачатковыя і сярэднія навучальныя ўстановы на мове ідыш дзясяткамі ўзнікалі ў Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях. У буйных гарадах з'яўляліся новыя габрэйскія асветныя суполкі, гімназіі і настаўніцкія курсы[440]. У 1918 г. гэтыя навучальныя ўстановы дзейнічалі ва ўсіх губернскіх і павятовых гарадах, ва многіх мястэчках рэгіёна. Яны фінансаваліся мясцовымі габрэйскімі грамадамі, а таксама органамі мясцовага самакіравання. У Мінску, паводле загада габрэйскай школьнай субкамісіі, у свецкія навучальныя ўстановы была рэарганізавана частка былых хедэраў і талмуд–тораў. Пад уплывам Бунда знаходзіўся Мінскі хаўрус габрэйскіх настаўнікаў, які спрыяў чыннасці адукацыйных установаў на мове ідыш. У шэрагу прыватных гімназій з расійскай мовай выкладання, створаных габрэйскімі прадпрымальнікамі, з вясны 1917 г. замест асноў рэлігіі ў якасці самастойных прадметаў сталі вывучаць ідыш, гісторыю габрэйскага народа і літаратуру на «нямецка–габрэйскай гаворцы»[441].

Шмат увагі актывісты Бунда надавалі арганізацыі навучання дарослых і дзяўчынак. У губернскіх і павятовых цэнтрах, у мястэчках, на прадпрыемствах ствараліся ве-

[437] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 15.
[438] Тамсама, ф. 24, воп. 1, спр. 3659, арк. 54—55.
[439] «Дон Кихот–Минский» [С. За–к]. Нечто о свободе совести // Минский голос. — 1918, 2 сент.
[440] Бобруйский еврейский рабочий клуб имени Бера Борохова // Бобруйский голос. — 1918, 9 апр.; Бобруйская мужская еврейская частная 8–классная гимназия М.Л. Кацнельсона // Бобруйский голос. — 1918, 21 апр.; В городских еврейских школах // Минский голос. — 1918, 11 сент.; В еврейских городских школах // Минский голос. — 1918, 5 ноябр.; Восьмиклассная еврейская семинария (с правами) // Минский голос. — 1918, 29 марта; Детский еврейский клуб // Минский голос. — 1918, 9 окт.; Е. Г. Еврейские учительские курсы // Наше земское дело. — 1918, 31 авг. — С. 11—12; Еврейские вечерние курсы для рабочих имени Б. Борохова // Минский голос. — 1918, 7 марта; Кацельсон М.Л. Еврейская община и ее задачи // Бобруйский голос. — 1918, 23 апр.; Курсы иврита // Минский голос. — 1918, 6 мая; От еврейской гимназии доктора Ц. Фельдштейна // Минский голос. — 1918, 15 авг.
[441] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 1, спр. 270, арк. 31, 38, 42, 53, 57, 74.

чаровыя школы пісьменнасці для рамеснікаў і работнікаў. У Мінску, Бабруйску, Магілёве, Гомелі, іншых гарадах былі адкрыты габрэйскія народныя ўніверсітэты, работніцкія клубы, бібліятэкі, культурна–асветныя гурткі, якімі апекаваліся мясцовыя аддзелы Бунда. Напрыклад, у Мінску па ініцыятыве Хаўрусу габрэйскіх настаўнікаў яшчэ у 1917 г. быў створаны Габрэйскі народны ўніверсітэт імя Б. Гросэра. Разам з агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі тут выкладаліся ідыш, расійская мова, гісторыя і літаратура габрэйскага народа[442]. У Рэчыцы ў 1918 г. бундаўцамі была ўтворана бясплатная бібліятэка, школа для дарослых з аддзелам на запалкавай фабрыцы «Днепр». Школы для дарослых з выкладаннем на мове ідыш функцыянавалі таксама ў Хойніках, Брагіне, Калінкавічах, іншых мястэчках. «Культурна–асветныя гурткі меліся амаль што ў кожным габрэйскім мястэчку»[443].

Стаўшы на чале Мінскай гарадской камісіі па народнай адукацыі, М. Фрумкіна — шчырая прыхільніца «адзінай працоўнай школы» — пачала актыўна рэалізоўваць гэтыя прынцыпы на практыцы. Эксперыментальнай пляцоўкай па рэалізацыі гэтай канцэпцыі стала мінская габрэйская школа № 18 (па вул. Аляксандраўская, 31), якую Фрумкіна назвала «сапраўднай працоўнай школай, дзе дзеці лепяць, малююць, страгаюць, клеяць, вырошчваюць кветкі і гародніну, вядуць [прыродны] каляндар, ствараюць [прыродазнаўчыя] калекцыі і вучэбныя дапаможнікі па арыфметыцы...»[444].

Фрумкіна стала ініцыятарам рэарганізацыі Мінскай талмуд–торы ў свецкую навучальную ўстанову, за што наклікала абурэнне мясцовых габрэйскіх артадоксаў. Яна таксама ініцыявала ў горадзе стварэнне некалькіх габрэйскіх дзіцячых садкоў і пляцовак для гульні і заняткаў спартовымі гульнямі.

Аднаўляла свае ранейшыя пазіцыі і пашырала сваю чыннасць фахавая габрэйская адукацыя. Пад апекай і на сродкі мясцовых габрэйскіх грамад, традыцыйных дабрачынных арганізацый (мясцовых філій Габрэйскага дабрачыннага таварыства, Таварыства па выхаванню бедных габрэйскіх дзяўчынак і інш.), прыватных мецэнатаў у губернскіх і павятовых гарадах Беларусі дзейнічалі розныя прафесійныя навучальныя ўстановы: школы па вядзенню хатняй гаспадаркі, кройкі і шыцця (для дзяўчынак), бухгалтарскія і камерцыйныя курсы ды інш.[445]. У Мінску, замест эвакуіраванай у Расію ў 1915 г. габрэйскай рамеснай ніжэйшай вучэльні, гарадская габрэйская школьная субкамісія запланавала адрадзіць рамеснае навучанне габрэйскіх хлопчыкаў на базе мясцовай талмуд–торы, дзе навучалася каля 500 дзяцей, працавала 13 настаўнікаў і мелася добра абсталяванае рамеснае аддзяленне.

Адметнасцю прафесійнай адукацыі ў Беларусі ў той час была наяўнасць значнай колькасці медычных прыватных школ і курсаў, утвораных габрэйскімі педагогамі–прадпрымальнікамі. Дарэчы, у гэтых навучальных установах вучыліся не толькі габрэі. Нягледзячы на даволі высокі кошт за навуку, сюды ахвотна ішлі вучыцца беларусы, палякі, прадстаўнікі іншых краёвых нацыянальнасцяў. У Мінскай фельчарска–акушэрскай школе доктара Лэйлы Гутцайта (утворана ў 1909 г.), якая мела статус сярэдняй навучальнай установы з 3–гадовым тэрмінам навучання, у 1918 г. сярод 55 слухачоў–практыкантаў толькі 24 былі габрэямі, а астатнія 34 — беларусамі і «рускімі» (16 праваслаўных і 15 каталікоў). Разам з габрэйскімі выкладчыкамі Гутцайтам, А. Віленчыкам, Ш. Фрыдманам, Э. Ландай працавалі беларус А. Кнып і расіец М. Іваноў[446]. Гэтыя школы адыгрывалі важную ролю па падрыхтоўцы мясцовых кадраў ніжэйшай і сярэдняй кваліфікацыі ў сферы аховы здароўя.

---

[442] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 1, спр. 270, арк. 140—141.

[443] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 1, арк. 46—47.

[444] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 25.

[445] Тамсама, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 30.

[446] Тамсама.

Вялікая ўвага ў габрэйскіх грамадскіх арганізацыях надавалася медыка–санітарнаму нагляду за школьнікамі, які ажыццяўляла Таварыства аховы здароўя габрэйскага насельніцтва (ОЗЕ). У Мінску пад наглядам лекараў мясцовай філіі ОЗЕ знаходзілася 3 тыс. габрэйскіх школьнікаў. Акрамя таго, Мінскі аддзел ОЗЕ забяспечваў гарачымі абедамі да 130 дзяцей са слабым станам здароўя[447]. У 1918 г. каля 200 габрэйскіх дзяцей, якія мелі сур'ёзныя праблемы са здароўем, утрымліваліся ў 2 дзіцячых прытулках–школах ОЗЕ (на Аляксандраўскай вул., 36 і Выдатнай вул., 5)[448]. У гэтых адукацыйна–выхаваўчых установах школьнікі знаходзіліся з 9.00 да 17.00, атрымлівалі 3–разовае харчаванне, раз на месяц праводзіўся іх медыка–санітарны агляд. Падчас летніх вакацыяў 1918 г. супрацоўнікамі ОЗЕ каля Мінска быў арганізаваны дзіцячы летнік–калонія, дзе звыш 50 дзяцей на прыродзе пры добрым харчаванні і медычным наглядзе маглі адпачыць і паправіць сваё здароўе[449].

Палітычныя настроі сярод габрэйскага жыхарства з восені 1917 г. сталі мяняцца не на карысць Бунда. Бундаўцы паступова губляюць сваю ранейшую папулярнасць, сацыяльная база гэтай партыі пачала істотна звужацца. Стомленыя рэвалюцыйным закалотам умераныя габрэйскія элементы ў сваіх палітычных сімпатыях схіляліся на бок правых сіяністаў ці «артадоксаў» з «Ахудас Ізраэль»; збяднелыя ж станы грамадства, расчараваныя ў Бундзе, аддаюць перавагу левым сіяністам («Паалей–Цыён», сацыял–сіяністам і інш.) ці бальшавікам[450].

Сіяністы правага толку былі перакананы ў тым, што ідышызацыя габрэяў прывядзе ўрэшце да поўнай іх асіміляцыі. Іўрыт, як мова Торы, традыцыйнай габрэйскай філасофіі, паэзіі і адукацыі, на іх думку, наадварот, будзе спрыяць умацаванню габрэйскай самаідэнтычнасці, адраджэнню самастойнай габрэйскай дзяржавы ў Палестыне. «Горкі досвед апошняга бурнага дзесяцігоддзя, — пісаў адзін з апалагетаў сіянізму ў газеце «Минский голос», — прывёў… да высновы, што свецкая школа і яе сістэма рэлігійнай абыякавасці дала габрэйству юнакоў, якія служаць «змазкай для колаў расійскай рэвалюцыі». Габрэі ў недалёкай будучыні заплоцяць за гэтую «колавую змазку» дарагім коштам»[451].

Правыя сіяністы здолелі паразумецца з артадоксамі з «Ахудас Ізраэль» і адзіным фронтам выступілі за паступовы перавод выкладання ў навучальных установах габрэяў на іўрыт з захаваннем выкладання рэлігіі. Калі на тэрыторыі Беларусі, што знаходзілася пад кантролем РСФСР, дзякуючы падтрымцы бундаўцаў з боку савецкай улады габрэйская свецкая адукацыя развівалася амаль выключна на ідыш, то ў зоне «новай нямецкай акупацыі» адукацыя на іўрыце да канца 1918 г. не толькі захавала свае ранейшыя пазіцыі, але значна ўмацавалася і пашырылася. Пад апекай мясцовых сіяніцкіх арганізацый дзейнічалі розныя іўрыцкія агульнаадукацыйныя курсы, народныя ўніверсітэты, фахавыя школы, шэраг сярэдніх і пачатковых навучальных устаноў.

Цэнтрам іўрыцкай адукацыі ва Усходняй Беларусі заставаўся Мінск. Яшчэ ўвосень 1914 г. расійскія ўлады дазволілі Ц. Фельдштэйну адкрыць тут габрэйскую гімназію з выкладаннем на іўрыце. У 1918 г. гэта навучальная ўстанова месцілася на Маламанастырскай вул., 4 і складалася ўжо з 5 класаў, дзе выкладалі 20 настаўнікаў і навучалася звыш 400 чал.[452].

У сакавіку 1918 г. на базе дзвюх ранейшых мінскіх габрэйскіх вучэльняў Ф. Танэйза-

[447] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 8—11.

[448] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 11, арк. 10—11 адв., 20—21 адв.

[449] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 11.

[450] Зельцер А. Евреи советской провинции: Витебск и местечки. 1917—1941. — Москва, 2006. — С. 34; Будницкий О.В. Российские евреи между красными и белыми (1917—1918). — Москва, 2006. — С. 75.

[451] «Дон Кихот–Минский» [С. За–к]. Нечто о свободе совести…

[452] От еврейской гимназии доктора Ц. Фельдштейна // Минский голос. — 1918, 15 авг.

ра і М. Іцкавіча была ўтворана мужчынская сіяніцкая гімназія «Мізрашы Іўрыт» (дзеці навучаліся ў доме № 23 па Койданаўскай вул., а канцылярыя школы знаходзілася на Серпухаўскай, 9). Ініцыятары яе стварэння — Танэйзар, Іцкавіч і М. Каган з'яўляліся таксама асноўнымі выкладчыкамі гэтай прыватнай навучальнай установы. Названая сярэдняя школа была створана па ўзору знакамітай габрэйскай гімназіі ў Яфе. Разам з агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі ў гімназіі выкладалі іўрыт, гісторыю і літаратуру габрэйскага народа, вывучалі Талмуд і Біблію, вялікую ўвагу надавалі выкладанню расійскай і нямецкай моў. Не ўсе прадметы тут адразу выкладаліся на іўрыце. Планавалася, што поўны пераклад выкладання на іўрыт адбудзецца праз 2—3 гады. Гімназія ў 1918 г. складалася з 3 асноўных і 2 падрыхтоўчых класаў. З–за высокага кошту навучання колькасць вучняў у ёй у канцы 1918 г. скарацілася са 100 да 71[453].

Сіяніцкім таварыствам «Тахкмойні» яшчэ ў 1917 г. была ўтворана пачатковая навучальная ўстанова павышанага тыпу з выкладаннем на мове іўрыт[454]. Шмат рабіла для пашырэння асветы на грунце сіяніцкай ідэалогіі габрэйскае спажывецкае таварыства «Эзро». На сродкі гэтай грамадскай арганізацыі пад загадам вядомага мінскага педагога Б. Слепяна па Аляксандраўскай вул., 45 была адкрыта «народная габрэйская вучэльня для дзяцей абодвух палоў з абшырнай праграмай па выкладанню іўрыта і агульнаадукацыйных прадметаў паводле праграмы 4–класавай гімназіі пры ўдзеле лепшых педагогаў»[455]. Акрамя таго, «Эзро» фундавала чыннасць дзіцячай музычнай школы, адмысловыя курсы па выкладанню іўрыта для навучэнцаў старэйшых класаў сярэдніх навучальных устаноў і вячэрнія адукацыйныя курсы для дарослых.

Мінскімі сіяністамі ўвосень 1918 г. была арганізавана габрэйская настаўніцкая семінарыя (па вул. Багадзельнай, 38), якая «акрамя агульных ведаў давала грунтоўную і ўсебаковую адукацыю, якая замяняла навуку ў хедэрах і сярэдніх школах». За даволі памяркоўную плату (30 руб. у месяц) тут вывучалі іўрыт, Біблію, Талмуд, Агаду, «старую і новую габрэйскую літаратуру» [456].

Мінскім гарадскім сіяніцкім камітэтам 30 сакавіка 1918 г. па Койданаўскай вул., 7 быў урачыста адчынены Габрэйскі народны дом «Цыён», які стаў важным асяродкам сіяніцкай пазашкольнай асветы[457]. У доме № 67 па Захар'еўскай вул. месцілася Габрэйскае літаратурнае таварыства імя І. Пэрэца, якое ўдзельнічала ў зборы вучэбнай літаратуры для габрэйскіх школ Мінска, іншых гарадоў і мястэчак Міншчыны[458]. Актывісты сіяніцкага вучнёўскага гуртка «Гаховер» у сваёй сядзібе ў доме № 6 на Крышчэнскай вул. для сваіх сябраў увосень 1918 г. арганізавалі цыкл лекцый па габрэйскай гісторыі, якія чыталі такія вядомыя лектары, як Ц. Фельдштэйн і М. Каган[459].

Падчас нямецкай акупацыі пад Мінскам сіяністамі была арганізавана першая ва Усходняй Беларусі сельскагаспадарчая навучальная ўстанова. У сакавіку 1918 г. у Кунцаўшчыне тутэйшымі сіяністамі быў арендаваны ўчастак зямлі на патрэбы вучэбнай аграфермы (кебуца), арганізаванай на сродкі Габрэйскага каланіяльнага таварыства, якое выдаткавала на яе абсталяванне 50 тыс. руб. На тэрыторыі аграфермы былі наладжаны практычныя курсы гародніцтва і садоўніцтва для габрэйскіх юнакоў, каб апошнія авалодалі асновамі сельскай гаспадаркі напярэдадні масавай каланізацыі ў Палестыну. Школа–прадпрыемства, акрамя таго, давала немалы прыбытак: вырашча-

[453] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3659, арк. 40, 61; Еврейская гимназия Мидраша–Ибрит // Минский голос. — 1918, 30 марта.
[454] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 12—13.
[455] Минское общество потребителей «Эзро» // Минский голос. — 1918, 20 апр.
[456] Восьмиклассная еврейская семинария (с правами) // Минский голос. — 1918, 29 марта.
[457] При народном доме «Цион» // Минский голос. — 1918, 14 апр.
[458] Минский голос. — 1918, 29 марта.
[459] Среди сионистов // Минский голос. — 1918, 23 окт.

ная тут зеляніна і гародніна забяспечвала патрэбы 11 мінскіх кааператыўных лавак[460].

Акрамя Мінска іўрыцкія адукацыйныя ўстановы функцыянавалі таксама ў Магілёве, Гомелі, Слуцку, Бабруйску і іншых месцах Усходняй Беларусі. Адзіная габрэйская навучальная ўстанова ў Віцебскай губерні, дзе выкладанне адбывалася на іўрыце, была школа таварыства «Тарбут» у Гарадку[461].

Нягледзячы на ідэалагічны і адміністрацыйны націск бундаўцаў, у гарадах і мястэчках Усходняй Беларусі працягвалі функцыянаваць некалькі дзясяткаў хедэраў, а ў губернскіх цэнтрах мелася некалькі «мадэрнізаваных» рэлігійных школ, дзе разам з рэлігіяй паглыблена вывучалі агульнаадукацыйныя дысцыпліны. У Мінску ў гэты час па–ранейшаму дзейнічаў адзін з першых у Расійскай імперыі «хедэр–метукан», арганізаваны вядомым мінскім меламедам Х.–Д. Розенштэйнам. Падчас Першай сусветнай вайны на Навараманаўскай вул., 9 быў арганізаваны новы ўзорны хедэр «Вэйс Гасэйфер»[462]. Цэнтрамі рэлігійнага выхавання і навучання габрэяў па–ранейшаму заставаліся сінагогі. У 1917 г. у адным толькі Мінску мелася 83 сінагогі.

У 1918 г. на выбарах у Мінскую габрэйскую грамаду перамаглі правыя сіяністы і артадоксы. Праз культурна–асветную камісію сіяністы правялі важную рэзалюцыю, паводле якой група бацькоў з 80 чалавек ці грамадская арганізацыя мелі права «адкрыць школу згодна свайму духу і жаданню». Такія школы павінны былі атрымліваць ад габрэйскай грамады належную грашовую субсідыю пры ўмове, калі ў ёй вывучаліся Талмуд, Біблія, габрэйскія легенды, а таксама гісторыя габрэяў пры мінімуме іншых габрэйскіх і агульнаадукацыйных прадметаў. Такія школы абвяшчаліся аўтаномнымі, культурная камісія габрэйскай грамады мела права толькі назіраць, «каб навучанне адбывалася ў належнай ступені і па педагагічнай сістэме». Таксама кіраўнікам прыватных расійска–габрэйскіх сярэдніх навучальных устаноў, дзе сярод навучэнцаў габрэі складалі больш за 50%, прадпісвалася ўводзіць выкладанне іўрыта і гісторыі габрэйскага народа[463].

Непаслядоўную пазіцыю ў моўным пытанні займалі прадстаўнікі левай плыні сіянізму, сябры партыі «Паалей–Цыён». Яны падтрымлівалі ідэю свецкай школы, але пытанне, на якой мове выкладаць габрэйскім дзецям, было для іх другасным. Выкладанне на агульнаадукацыйных курсах і ў школе для дарослых пры Народным работніцкім культурным клубе імя Б. Борахава, якім апекавалася гэтая палітычная арганізацыя, адбывалася на расійскай мове, а ідыш прысутнічаў у навучанні як асобны вучэбны прадмет. Пазіцыя паалей–цыяністаў у моўным пытанні была хутчэй бліжэй да бундаўцаў, чым да правых сіяністаў. Прадстаўнік мінскай філіі «Паалей–Цыён» Г. Розенгаўз на пасяджэнні Мінскай габрэйскай грамады 6 лістапада 1918 г. заявіў: «Нам патрэбна інтэлігенцыя, якая зможа паразумецца са сваім народам на мове, зразумелай яму, г.зн. на ідыш. З гэтай мовай можна падысці проста да выкладання гісторыі габрэяў»[464]. Але падчас гарачых дыскусій наконт мовы выкладання ў габрэйскіх школах, якія вяліся на пасяджэннях культурна–асветнай секцыі Мінскай габрэйскай грамады ўвосень 1918 г., прадстаўнікі «Паалей–Цыён» адкрыта не падтрымалі бундаўцаў і заявілі аб сваім моўным нейтралітэце.

Перамога мінскіх сіяністаў і артадоксаў над бундаўцамі ў моўным пытанні, якая была замацавана ў рэзалюцыі Мінскай габрэйскай грамады, была парушана прыходам чырвонага войска ў Мінск 10 снежня 1918 г. З аднаўленнем савецкай улады ва Усходняй Беларусі бальшавікі прызналі ідыш адзінай законнай мовай габрэяў, якую можна было ўжываць у школах, грамадскіх і культурных установах. У 1919 г. яны фактычна

[460] Минский голос. — 1918, 3 апр.

[461] Зельцер А. Евреи советской провинции: Витебск и местечки. 1917—1941. — Москва, 2006. — С. 402.

[462] Вейс Гасейфер // Минский голос. — 1918, 30 марта.

[463] В еврейской общине // Минский голос. — 1918, 29 сент.

[464] В еврейской общине // Минский голос. — 1918, 10 ноябр.

забаранілі выкарыстанне іўрыта ў якасці мовы выкладання ў школах, вызначыўшы яго праваднікам «клерыкалізму», «буржуазнага сіянізму» і «габрэйскага шавінізму». Праз ідышызацыю габрэйскай культуры і асветы савецкі рэжым імкнуўся сфармаваць новую супольнасць — савецкіх габрэяў, адарваных ад сваіх нацыянальных і рэлігійных каранёў. Але моўная манаполія ідыш у габрэйскай савецкай адукацыі, літаратуры і мастацтве прывяла да адваротнага — да духоўнага заняпаду гэтай мовы, звужэння яе ўжывання ў габрэйскім грамадскім асяродку.

З канца 1917 г. у Мінску ў Татарскай слабадзе пачала працаваць адзіная ў Беларусі татарская пачатковая школа, арганізаваная на сродкі Мусульманскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны (старшыня Якуб Мурза–Мурзік). Разам з агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі ў школе выкладаліся асновы ісламу, якія чытаў загадчык школы і законавучыцель М. Хафізаў — выпускнік Вышэйшага ўсходняга медрэсэ «Галія» ў Казані. У другой палове 1918 г., з–за немагчымасці Мусульманскага камітэта па–ранейшаму ўтрымліваць навучальную ўстанову, апошняя была перададзена пад загад Мінскай гарадской управы (пад № 32). Школу наведвалі пераважна дзеці мясцовых татар і мусульман–уцекачоў[465].

## 4.4. Беларуская нацыянальная адукацыя ва Усходняй Беларусі перад нямецкай акупацыяй

Беларуская школьная справа на ўсход ад расійска–нямецкага фронту пачала развівацца толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., з таго часу як былі скасаваны ўсе палітычныя абмежаванні ў дачыненні да школьніцтва нерасійскіх нацыянальнасцяў. Нешматлікім беларускім грамадскім працаўнікам на ніве беларускай нацыянальнай асветы прыходзілася пачынаць усё з пачатку: дабівацца ад расійскіх улад дазволу на адкрыццё беларускіх школ, арганізоўваць настаўніцкія курсы, распрацоўваць вучэбныя праграмы і падручнікі, заклікаць бацькоў аддаваць дзяцей вучыць па–беларуску.

Канкрэтныя заданні па арганізацыі беларускага школьніцтва, па правядзенню беларусізацыі асветы паставіў Мінскі з’езд прадстаўнікоў беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый у сакавіку 1917 г., на якім быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт на чале з Раманам Скірмунтам.

У рэзалюцыях форуму было заяўлена:

1) арганізацыя культурна–асветнага таварыства, якое павінна было стаць галоўным штабам па правядзенню беларусізацыі школы ў краі;

2) увядзенне (па магчымасці) у пачатковых школах выкладання беларускай мовы, чытання і гісторыі Беларусі;

3) выданне належнымі накладамі падручнікаў для беларускай нацыянальнай школы;

4) увядзенне ў настаўніцкіх і духоўных семінарыях, як праваслаўных, так і каталіцкіх, выкладання беларускай мовы, літаратуры, а таксама прадметаў беларусазнаўства дзеля шырокага азнаямлення семінарыстаў з гісторыяй і нацыянальнымі традыцыямі беларускага народа;

5) пры складанні вучэбных праграм гімназій і рэальных вучэльняў звярнуць асаблівую ўвагу на вывучэнне беларускай літаратуры, гісторыі і народнай культуры, якія на першых парах павінны былі выкладацца факультатыўна[466].

Ідэя беларусізацыі школьнай асветы была падтрымана групай беларускіх каталіцкіх святароў, што ў канцы траўня 1917 г. з’ехаліся ў Мінск на з’езд Беларускай

[465] Татарская школа // Минский голос. — 1918, 12 мая.

[466] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 3, арк. 1—2 адв.

хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці. Айцец В. Гадлеўскі, які стаў законавучыцелем у Мінскай мар'інінскай жаночай гімназіі, нярэдка замест заняткаў па Закону Божаму прапагандаваў навучэнкам ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння[467]. Важную ролю па згуртаванню беларускай вучнёўскай моладзі адыграў хармайстар і кампазітар Уладзімір Тэраўскі, які арганізаваў з мінскіх навучэнцаў яшчэ ўвосень 1914 г. беларускі хор[468].

11 траўня 1917 г. у Мінску было закладзена Таварыства беларускай культуры з шырокімі культурна–асветнымі заданнямі. Новая арганізацыя, якая апекавалася Беларускім нацыянальным камітэтам, планавала распачаць складанне вучэбных праграм, выданне школьных падручнікаў для беларускіх школ па гісторыі і геаграфіі Беларусі, прыродазнаўству, беларускай літаратуры і мове (лемантары, чытанкі, хрэстаматыі ды інш.). З гэтай мэтай быў утвораны грашовы фонд, куды ахвяравалі свае сродкі Р. Скірмунт, княгіня Магдалена Радзівілава і некаторыя іншыя. У чэрвені 1917 г. быў абвешчаны конкурс на напісанне беларускіх падручнікаў[469]. Але рэалізаваць гэтыя праекты не давялося. Адзін з кіраўнікоў мінскай філіі Беларускай сацыялістычнай грамады Аркадзь Смоліч, які з'яўляўся фактычным распараднікам узгаданага фонду, скарыстаў большую яго частку на выданне партыйнай газеты «Грамада», якая павінна была стаць прапагандысцкай пляцоўкай беларускіх сацыялістаў напярэдадні рэгіянальных і агульнарасійскіх выбараў. Вялікіх дывідэндаў для БСГ гэтая акцыя не прынесла. Мінская суполка партыі правяла ў Мінскую гарадскую думу толькі аднаго галоснага (дэпутата) — якраз А. Смоліча. На выбарах ва Устаноўчы сход Расіі, што адбыліся ў лістападзе 1917 г., не прайшоў ніводны дэпутат ад беларускіх нацыянальных арганізацый. Аляксей Урбановіч падлічыў, што ў цэлым за беларускія партыі на гэтых выбарах прагаласавала каля 19 тыс. выбаршчыкаў (0,6%), у тым ліку за БСГ — 10 тыс. Для параўнання скажам, што бальшавікі атрымалі тут звыш 1,6 млн. галасоў (50,7%), эсэры — больш за 1 млн. (32,2%)[470]. У той жа час ва Украіне за ўкраінскія нацыянальныя партыі аддалі свае галасы звыш 5 млн. выбаршчыкаў.

Актыўнасць беларускіх нацыяналістаў выклікала варожую рэакцыю і супрацьдзеянне ў лагеры адэптаў «адзінай і недзялімай». У процівагу Беларускаму з'езду ў Мінску апошнімі было ініцыявана некалькі контракцый, сярод якіх у першую чаргу трэба назваць З'езд настаўнікаў Мінскай губерні, які адбыўся ў траўні 1917 г. Адным з арганізатараў яго была Расійская дэмакратычная партыя (РДП), складзеная з рэшткаў былых мясцовых філій «трудавікоў» і акцябрыстаў.

Беларускае пытанне на форуме стала цэнтральным. Арганізатары форуму рукамі мясцовых настаўнікаў намагаліся пахаваць ідэю палітычнай аўтаноміі Беларусі і беларусізацыі школьнай асветы. Адным з кіраўнікоў арганізацыйнага камітэта названага форуму быў Васіль Рагуля, будучы беларускі пасол у сейме Польшчы ў 1922—1926 гг., адзін з лідараў Беларускага сялянскага саюза ў Заходняй Беларусі ў міжваенны час. У 1917 г. Рагуля знаходзіўся ў іншым палітычным лагеры і з'яўляўся адным з лідараў ужо ўзгаданай РДП. Будучы беларускі пасол на дух не ўспрымаў тады беларускі нацыяналізм. У партыйным спісе сваёй партыі на выбарах ва Устаноўчы сход па Мінскай губерні Рагуля балатаваўся пад № 2, услед за былым начальнікам Ге-

---

467 Вольная Беларусь. — 1917, 11 чэрв.

468 Гесь А., Ляхоўскі У. Калі песня жыве беларуса — будзе жыць беларускі народ // Мастацтва. — 1996. — № 12. — С. 112—113.

469 Вольная Беларусь. — 1917, 30 жн.

470 Урбановіч А. Устаноўчы сход у Расіі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 11. Дзеля поўнай аб'ектыўнасці трэба сказаць, што на выніку выбараў у Беларусі істотна паўплывалі галасы рэвалюцыйна настроенага больш чым мільённага расійскага войска, якое дыслацыравалася на беларускіх участках Заходняга і Паўночнага франтоў.

неральнага штаба Стаўкі Вярхоўнага Камандзіра Збройных сілаў Расіі, генералам ад інфантэрыі Міхаілам Аляксеевым (№ 1) і наперадзе камандзіра 10–й расійскай арміі, што дыслацыравалася ў Беларусі, генерал–лейтэнанта Алі–Ага Шыхлінскага[471] (№ 3)[472].

Рагуля з самага пачатку задаў форуму антыбеларускі кірунак. Ягоны даклад «Самавызначэнне Беларусі і мова выкладання ў беларускай школе» склаў асноўныя тэзісы вынiковай рэзалюцыі. У апошняй было запісана: «Прызнаючы за беларускім народам усе правы на нацыянальную культуру, развіццё і лічучы:

1) што развіццё гэтае павінна ісці ў самай шчыльнай культурнай і палітычнай еднасці з братэрскім і вялікім расійскім народам;

2) што беларуская гаворка з'яўляецца роднай галіной расійскай мовы і не стаіць у такой адлегласці ад яе, як іншыя славянскія мовы;

3) што, як вядома ўсім настаўнікам, у пачатковай беларускай школе навучанне на расійскай мове не ўяўляе цяжкасцяў для дзяцей нават у першы год навучання;

4) што культура Беларусі і Расіі складае адзіны здабытак усяго беларускага народа;

5) што на беларускай гаворцы не маецца дастатковай літаратуры і яна разгалінавана на мноства мясцовых дыялектаў, —

Мінскі губернскі настаўніцкі з'езд пастанавіў:

I. Прапанаваць працягваць выкладанне ў беларускай школе на літаратурнай расійскай мове, развіваючы ў дзецях любоў да свайго роднага народа і краю. Узніклую ў апошні час у пэўных колах плынь пра неабходнасць выкладання на беларускай гаворцы лічыць па ўзгаданых вышэй падставах не адпавядаючай інтарэсам беларусаў, што замарудзіць іх культурнае развіццё.

II. Пры навучанні ў школах Беларусі неабходна звяртаць сур'ёзную ўвагу на азнаямленне вучняў з яе гісторыяй, прыродай, правам і звычаямі…»[473].

За дадзеную рэзалюцыю прагаласавалі ўсе дэлегаты, за выключэннем трох яго ўдзельнікаў: А. Каўпака (Зрэбнага), Ванды Лявіцкай і Янкі Станкевіча (апошні не меў рашаючага голасу на з'ездзе). Лявіцкая звярнулася да прысутных па–беларуску, імкнучыся пераканаць іх у неабходнасці стварэння беларускіх школ, але словы яе заглушылі свіст і грукат ботаў настаўнікаў–русіфікатараў. З зал неслася: «Далоў, гэта унія і польская інтрыга». Не далі дагаварыць і прадстаўніку беларусаў–вайскоўцаў Магілёўскай запаснай брыгады, прапаршчыку Я. Станкевічу. Захаваліся ягоныя ўспаміны аб гэтым эпізодзе: «Прачытаўшы пастанову брыгады, у каторай тая дамагалася перавядзення на беларускую мову ўсіх школ у Беларусі, я далей развіваў пажаданні, каторыя былі дамаганнямі беларускага адраджэнскага руху. Супроць гэтага на з'ездзе ўзнялася бура, мяне перарывалі, крычэлі, я мусіў задзержавацца з прамовай і тады тэндэнцыйны старшыня з'езда даваў слова іншым супроць мяне, каб зрабіць пажаданы сабе настрой. Адным з гэтых іншых ды найкрыклівейшым быў Васіль Рагуля, што быў тады ваенным урадніком. Ён з перадрукам Статуту Літоўскага 1588 г. у руках даводзіў, што ніякіх беларусаў не было і няма, бо вось у Статуце кажацца, што «пісар земскі маець па–руску, літарамі й словы рускімі ўсе лісты, выпісы й позвы пісаці, а не іншым языком і словы». Я такога прыйму на з'ездзе не спалохаўся, і калі мой праціўнік–русіфікатар пераставаў гаварыць, я прамаўляў далей. Тады было пастаўлена пасуленне не даць мне далей гаварыць, што і было прынята бальшынёй з'езда»[474]. Мяркуем, што з гэтага часу вядзе

[471] А.–А. Шыхлінскі ў 1917—1920 гг. паспеў паваяваць у складзе Мусульманскага корпуса, падпарадкаванага Часоваму ўраду, Каўказскай ісламскай арміі Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Пазней прызнаў савецкую ўладу, служыў у чырвоным войску ў Азербайджане.

[472] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 22, арк. 788—788 адв.

[473] Отчет о съезде учителей Минской губернии (15—25 мая 1917 г.) // Вестник Минского губернского комиссариата. — 1917, 28 мая.

[474] Станкевіч Я. На бакох «Успамінаў» В. Рагулі // Бацькаўшчына (Мюнхен). — 1958, 4 траўня.

свой адлік асабістая і палітычная непрыязнасць паміж Я. Станкевічам і В. Рагуляй, якая цягнулася некалькі дзесяцігоддзяў.

У сваім цкаванні ўсяго беларускага арганізатары форуму яўна перастараліся. Мінскі настаўніцкі з'езд меў негатыўны розгалас па ўсёй Расіі[475]. Піцерская меншавіцкая газета «Товарищ» наракла яго «чаяпіццем сяброў «Саюза расійскага народа»[476].

У пачатку ліпеня 1917 г. у Віцебску прадстаўнікі кансерватыўнай плыні «западно–руссов», якія прадстаўлялі розныя палітычныя і грамадскія колы Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў, правялі свой агульны з'езд дзеля выпрацоўкі адзінай палітычнай платформы напярэдадні выбараў ва Устаноўчы сход Расіі. Дэлегатамі было заяўлена, што беларус «з'яўляецца родным братам па крыві, веры і мове вялікаросу і маларосу». У названай рэзалюцыі знайшло адлюстраванне і школьнае пытанне: «Увесь народ беларускі павінен праз абавязковую асвету імкнуцца авалодаць агульначалавечай культурай на расійскай мове, роднай і неабходнай яму ў плане палітычным»[477].

У антыбеларускасці прарасійскія кансерватары і левыя радыкалы знаходзілі агульную мову. Супраць беларусізацыі школьнай асветы ў траўні 1917 г. выступіў сялянскі з'езд Мінскай губерні, які праходзіў пад уплывам і па сцэнары бальшавікоў. Выкарыстаўшы дэмагагічныя прыёмы і палітычную недасведчанасць большасці дэлегатаў, старшыня названага з'езда туркестанскі бальшавік Міхаіл Фрунзе ахарактарызаваў беларускі рух як «замаскіраваную польскую плынь» і гэтым самым настроіў з'езд супраць усяго беларускага[478].

Канцэптуальна бальшавікі былі супраць поўнага самавызначэння нацый, хаця гэты лозунг яны актыўна эксплуатавалі, набываючы сабе папулярнасць сярод нерасійцаў у барацьбе з Часовым урадам. Беларускі нацыянальны рух не ўспрымаўся імі як сур'ёзная палітычная сіла, таму ў Беларусі яны вялі сябе як жорсткія цэнтралісты. У траўні 1917 г. у Мінску на з'ездзе жаўнерскіх дэпутатаў Заходняга фронту Аляксандр Мяснікоў (Мяснікянц) недвухсэнсоўна сказаў: «Нацыяналізм мае добрую глебу асабліва сярод прыгнечаных нацый. Працоўныя элементы, апанаваныя духам нацыяналізму, могуць аказацца падманутымі. Супраць агрэсіўнага руху буржуазіі пануючай нацыі гуртуюцца разам і дэмакратычныя станы, і буржуазія падпарадкаванай нацыі. Высоўваюцца лозунгі абароны культуры, мовы, усплывае палітыка сепаратызму. І гэта — ад імя пралетарыяту, дэмакратыі... Нацыянальныя абмежаванні не патрэбна паглыбляць, патрэбна развіваць класавыя памкненні»[479]. Такой жа думкі прытрымлівалася большасць кіруючай вярхушкі бальшавіцкай партыі. Ідэя нацыянальнай незалежнасці беларусаў і ўкраінцаў расцэньвалася імі як праява контррэвалюцыі, хоць у вызвольных рухах гэтых народаў абсалютную большасць складалі якраз сацыялісты. Леў Каменеў (Розенфельд) у 1918 г. ад імя ЦК РКП(б) заявіў: «Мы павінны адкрыта і з усёй пэўнасцю сказаць, што лозунг самавызначэння нацыянальнасцяў у развіцці пралетарскай рэвалюцыі ў Расіі пераўтварыўся ў зброю контррэвалюцыі супраць Савецкай Расіі»[480]. Будучы «бацька народаў» Іосіф Сталін (Джугашвілі) таксама лічыў, што класічны федэралізм з дэцэнтралізацыяй улады для бальшавікоў не прымальны, бо «не адпавядае элементарным патрабаванням сацыялізму»[481].

---

[475] Лёсік Я. Настаўніцкі з'езд // Вольная Беларусь. — 1917, 20 чэрв. (2 ліп.).

[476] Саюз расійскага народа — праварадыкальная манархічная арганізацыя ў 1905—1917 гг., якая спаведвала шавіністычную ідэалогію.

[477] НАРБ, ф. 622, воп. 2, спр. 85а, арк. 1.

[478] Педагогическое совещание деятелей средней школы Виленского учебного округа (23—25 августа 1917 г., г. Могилев). — Могилев, 1917. — С. 45.

[479] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 20—21 адв.

[480] Протоколы II съезда КП(б)У. — Київ,1919. — С. 72.

[481] КПРС в резолюціях і рішеннях з'їздів, конференцій і пленумів ЦК. — Київ, 1979. — Т. 1. — С. 434.

Бойкі «мясцовага маштабу» паміж беларускімі нацыяналістамі і «западно–руссамі» па моўнаму і школьнаму пытаннях працягваліся надалей. Прыкметных поспехаў на ніве беларускай школьнай асветы ў 1917 г. дасягнута не было. Патрэбны былі сур'ёзныя фінансавыя ўліванні, дзейсныя арганізацыйныя структуры і марудная штодзённая праца на гэтым шляху. Адчувалася відавочная варожасць да беларускай нацыянальнай школы значнай часткі тутэйшай педагагічнай карпарацыі, выхаванай на расійскіх культурных традыцыях. У складзе створанага ў Мінску ў ліпені 1917 г. Беларускага вучыцельскага хаўрусу налічвалася меней 10 настаўнікаў (сярод якіх былі Язэп Лёсік, Міхась Мароз, Палута Бадунова, Алесь Русак, Мікалай Ганчарык, А. Данілевіч і інш.). Арганізацыя ставіла за мэту згуртаванне настаўніцтва Беларусі вакол ідэі беларусізацыі. Але заклік Хаўрусу да ўсіх настаўнікаў–беларусаў, хто добра валодае роднай мовай, па ўласнай ініцыятыве распачаць у 1917/18 навучальным годзе выкладанне ў сваіх школах па–беларуску, не меў шырокага рэзанансу. Цэнтральнай радзе беларускіх арганізацый так і не ўдалося пашырыць чыннасць БВХ. Запланаванае скліканне беларускага краёвага настаўніцкага з'езда ў Мінску ў верасні 1917 г. па фінансавых і арганізацыйных прычынах так і не адбылося[482].

У тагачаснай перыёдыцы і сярод архіўных дакументаў не выяўлены факты аб ініцыяванні ў 1917 г. з боку мясцовых губернскіх ці павятовых настаўніцкіх хаўрусаў увядзення выкладання ў школах беларускай мовы і прадметаў беларусазнаўства. У снежні 1917 г. удзельнікі сходу настаўнікаў г. Оршы падпісаліся пад зваротам на адрас кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі з хадайніцтвам аб наданні Аршанскай настаўніцкай семінарыі, як першай жаночай педагагічнай установе ў Беларусі, статусу беларускай, з тым каб у склад слухачоў прымаліся пераважна асобы беларускай нацыянальнасці. Пад адозвай падпісалася ўсяго 14 настаўнікаў горада[483].

У верасні 1917 г., падчас педагагічнай нарады выкладчыкаў сярэдніх школ Віленскай навучальнай акругі ў Магілёве, група прыхільнікаў беларусізацыі, сярод якіх былі Міхаіл Кахановіч (выкладчык Магілёўскай рэальнай вучэльні), Зміцер Даўгяла (часовы загадчык Віленскай публічнай бібліятэкі і музея), Усевалад Ігнатоўскі (выкладчык гісторыі і геаграфіі Мінскага настаўніцкага інстытута), Леанід Какошынскі (старшыня бацькоўскага камітэта Магілёўскай мужчынскай урадавай гімназіі), Юльян Дрэйзін (выкладчык старажытных моў той жа гімназіі) і некаторыя іншыя, падрыхтавала праект па паступоваму пераходу выкладання ў пачатковых школах на беларускую мову, а таксама ўвядзення прадметаў беларусазнаўства ў курс навучання сярэдніх школ. Пры гэтым адзначалася, што ва ўсіх краёвых адукацыйных установах захоўваецца абавязковае выкладанне расійскай мовы.

Гэтая ініцыятыва адразу выклікала моцны адпор з боку «западно–руссов», прысутных на нарадзе. Дырэктар Дзвінскай настаўніцкай семінарыі Аляксандр Шастоў заявіў, што пераход выкладання ў пачатковых школах на беларускую мову немагчымы: «Беларускай літаратурнай мовы няма… Трэба спытаць, ці патрэбна ствараць новую мову? Ці не вядзе гэты шлях… да сепаратызму?.. Я ніяк не магу змірыцца з тым памкненнем, якое прымусіць мяне… лічыць Пушкіна, Гогаля, Тургенева, Талстога не роднымі пісьменнікамі, а чужымі». Замест увядзення беларусазнаўства ў курс сярэдніх школ ён прапанаваў паглыбленае вывучэнне твораў паплечнікаў графа Міхаіла Мураўёва — Бранцава, Карнілава і Забеліна. Падобнай пазіцыі прытрымліваўся Мікалай Каліноўскі, выкладчык адной з сярэдніх школМіншчыны, які назваў беларускі рух «каланізатарскім», справакаваным польскімі нацыяналістамі. Таксама гучалі рэплікі, што беларускі рух не мае падтрымкі знізу, што задума беларусізацыі — гэта інтэлігенцкія выбрыкі[484].

[482] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 23.

[483] Тамсама, ф. 457, воп. 1, спр. 1, арк. 16—16 адв.

[484] Педагогическое совещание деятелей средней школы Виленского учебного округа (23—25 августа 1917 г., г. Могилев).., с. 42—45.

У адказ на гэтыя выступы М. Кахановіч заявіў, што не варта абапірацца на т.зв. «народныя настроі», якія нярэдка фальсіфікуюцца. Менавіта інтэлектуальная эліта, на ягоную думку, павінна зразумець глыбінныя памкненні нацыі («учапіцца за душу народа»), умець дакладна сфармуляваць галоўныя нацыянальныя задачы і стаць у авангардзе нацыянальна–культурнай працы[485]. З. Даўгяла са свайго боку адзначыў, што пасяховасць беларусізацыі і дэмакратызацыі школы залежыць ад таго, у якой ступені гэтыя мерапрыемствы будуць фінансаваны. «Іначай нашы прамовы — пусты гук»[486].

У выніку вострых дэбатаў была прынята кампрамісная рэзалюцыя. Прызнавалася патрэбным, каб навучанне ў пачатковых школах, па жаданню бацькоў, вялося на роднай для дзяцей мове з раўналежным выкладаннем дзяржаўнай расійскай мовы. У вышэйшых пачатковых вучэльнях і сярэдніх школах «для жадаючых» у якасці факультатыўных дысцыплін рэкамендавалася ўводзіць выкладанне беларускай мовы і для ўсіх — «грунтоўнае пазнанне гісторыі, этнаграфіі і геаграфіі Беларусі»[487]. Зразумела, што рэзалюцыя насіла дэкларатыўны характар і не была забяспечана т.зв. «дарожнай картай» у справе яе рэалізацыі. Нейкіх сур'ёзных практычных вынікаў яна не мела.

У верасні–кастрычніку 1917 г. М. Кахановіч і З. Даўгяла распрацавалі вучэбную праграму па гісторыі Беларусі, якая пры фінансавай падтрымцы культурна–асветнай секцыі Беларускага нацыянальнага камітэта ў Магілёве была раздрукавана накладам у некалькі дзясяткаў асобнікаў. Разам з суправаджальнымі лістамі гэтыя матэрыялы былі разасланы ў 77 сярэдніх навучальных установаў Беларусі з прапановай скарыстацца імі для арганізацыі факультатыўнага выкладання гісторыі Беларусі[488]. У Беларускім дзяржаўным архіве–музеі літаратуры і мастацтва, дзе захоўваюцца дакументы Магілёўскага БНК, выяўлены толькі адзін адказ на гэтую ініцыятыву. Дырэктар Нова–Віленскай настаўніцкай семінарыі, якая знаходзілася ў эвакуацыі ў г. Невелі Віцебскай губерні, М. Ушакоў адказаў, што «педагагічная рада семінарыі пастанавіла прапанаваць выкладчыку гісторыі азнаёміць навучэнцаў з гісторыяй Беларусі, наколькі гэта магчыма па прапануемай праграме», але «дзеля выканання гэтай праграмы ў семінарыі не маецца патрэбных падручнікаў і дапаможнікаў»[489].

Першую спробу арганізацыі школы з выкладаннем на беларускай мове ва Усходняй Беларусі пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў сакавіку 1917 г. зрабіла былая курсістка Петраградскіх вышэйшых жаночых курсаў М. Станкевічанка у мяст. Буда Вілейскага павета. Але, як паведамляла «Вольная Беларусь», у хуткім часе мясцовы абшарнік Я. Аскерка і каталіцкі пробашч Нагумірскі, каб знішчыць гэты асяродак беларушчыны, адкрылі паблізу польскамоўную вучэльню, дзе арганізавалі дармавое навучанне і харчаванне для школьнікаў. Бацькі пачалі пераводзіць сваіх дзяцей у польскую школу[490]. Мясцовая ініцыятыва па зборы сродкаў па ўтварэнню ў мястэчку 4–класавай народнай школы з беларускай мовай выкладання не знайшла масавай падтрымкі ў жыхароў.

Стварыць беларускую школу для дзяцей уцекачоў у Якубаўскіх палатах у Нова–Беліцах паблізу Гомеля ў ліпені 1917 г. намагаліся сёстры Палута і Марыя Бадуновы[491], але пасля іх ад'езду з Гомельшчыны тут не знайшлося іншага працаўніка, які б

[485] Тамсама, с. 45.
[486] Тамсама, с. 42.
[487] Рэзалюцыя педагагічнай нарады працаўнікоў сярэдняй школы Віленскай навучальнай акругі // Вольная Беларусь. — 1917, 4 кастр.
[488] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 137, арк. 10—34.
[489] Тамсама, арк. 105.
[490] М. Буда Вілейскага пав. Віленскай губ. // Вольная Беларусь. — 1917, 8 жн.
[491] Беларускі бежанскі камітэт // Вольная Беларусь. — 1917, 30 ліп.

працягнуў іх справу. Таксама не ўдалося арганізаваць беларускамоўныя адукацыйныя ўстановы ў іншых месцах Усходняга Палесся, дзе ўзніклі беларускія гурткі[492].

Вялікую энергію ў справе арганізацыі беларускага школьніцтва ў гэты час выявіў ураджэнец Случчыны, былы студэнт Мінскага настаўніцкага інстытута Сцяпан Курчэвіч–Сеўрук, стваральнік і старшыня Кутнёўскай беларускай навуковай грамады. На працягу некалькіх гадоў (1917—1920) ён дамагаўся стварыць беларускія школы ў сваім родным Кутнёве[493], суседняй в. Жабінка, а таксама ў в. Засмужа Бабруйскага павета. Ім былі закладзены некалькі беларускіх бібліятэк–чытальняў, але брак сродкаў і адсутнасць падрыхтаванага настаўніка (сам Курчэвіч–Сеўрук з'яўляўся інвалідам вайны і не мог паўнацэнна працаваць на педагагічнай ніве), які б добра валодаў беларускай мовай, так і не дазволілі яму рэалізаваць свае намеры[494].

Першую «цагліну» ў справе арганізацыі беларускага школьніцтва заклаў вядомы дзеяч беларускага руху Эдвард Будзька. У ліпені 1917 г. ён ініцыяваў скліканне сходу жыхароў Будслаўскай воласці, на якім было пастаноўлена ўтварыць у мястэчку Будслаў беларускую пачатковую школу. Расійскае міністэрства асветы гэтаму прыгавору не пярэчыла: чыннасць беларускай адукацыйнай установы забяспечвалася за кошт тутэйшай грамады[495].

Яшчэ адзін сталы асяродак беларускай школьнай асветы заклала ў верасні 1917 г. у в. Жорнаўка Ігуменскага павета вядомая фундатарка і мецэнатка беларускай справы княгіня М. Радзівілава. Яна адвяла на патрэбы школы некалькі пакояў ва ўласным фальварку, дала грошы на ўтрыманне настаўніка, набыццё неабходнай мэблі, падручнікаў і школьных прылад, а таксама выдаткавала сродкі на гарачае сілкаванне вучняў. Выкладаць у школу была запрошана вядомая беларуская дзяячка Паўліна Мядзёлка[496]. Гэтая прыватная вучэльня праіснавала амаль 3 гады — да лета 1920 г.[497].

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў мясцовай расійскай урадавай і школьнай адміністрацыі з'яўляюцца асобы, не абыякавыя да беларускай справы, якія спрыяюць развіццю школьнай асветы на беларускай мове, папулярызуюць веды па гісторыі і культуры Беларусі. Былы выкладчык матэматыкі Мінскага настаўніцкага інстытута Радаслаў Астроўскі, звярнуўшыся з бежанства, быў зацверджаны на пасаду павятовага ўрадавага камісара. У верасні 1917 г. пры фінансавай падтрымцы Слуцкага земства ў мурах мясцовага Траецкага праваслаўнага манастыра ён заснаваў змешаную гімназію. У гістарычнай літаратуры яна неправамерна фігуруе як першая беларуская гімназія. Архіўныя дакументы сведчаць, што амаль усе вучэбныя дысцыпліны ў гэтай грамадскай сярэдняй школе чыталіся па–расійску. З беларускіх прадметаў тут выкладалася беларуская мова (настаўніца Марыя Ярац), а гісторыю і геаграфію Беларусі — у рамках агульных курсаў адпаведных расійскіх дысцыплін — чытаў выпускнік Юр'еўскага

---

[492] Такія спробы рабіліся Т. Захаранкам у в. Рудня Рэчыцкага павета, беларускім настаўніцкім гуртком у Жлобіне і ў іншых месцах (Гл.: НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 271—275: «Хроніка беларускага нацыянальнага жыцця за травень–чэрвень 1917 г. для апублікавання ў газетах»; Данілевіч А. Мая прапаганда ідэі адраджэння Беларусі // Вольная Беларусь. — 1917, 4 кастр.).

[493] Напярэдадні Другой сусветнай вайны тут мелася 97 двароў і 400 жыхароў. Цяпер гэта паміраючая вёска ў Старобінскім раёне, дзе дажываюць свой век некалькі 70—90–гадовых старых.

[494] В. Засмужа Бабруйскага пав. // Вольная Беларусь. — 1917, 17 жн.

[495] Жук–Грышкевіч Р. Жыццё Вінцэнта Жук–Грышкевіча. — Таронта: Выдавецкі фонд успамінаў з беларускага жыцця, 1993. — С. 37—39.

[496] Дарэчы, П. Мядзёлка ў сваіх успамінах інакш асвятляе стаўленне М. Радзівілавай да беларускай школы. Але, на нашу думку, дадзеная ацэнка постаці княгіні неаб'ектыўна. Мяркуем, што напісанае было ініцыявана савецкім цэнзарам, які «курыраваў» выданне мемуараў Мядзёлкі ў 1970–я гады.

[497] Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1974. — С. 103—105; Хурсік В.У. Белы лебедзь у промнях славы. Магдалена Радзівіл. — Мінск: Пейто, 2004. — С. 69.

ўніверсітэта, стары знаёмы Астроўскага Станіслаў Петрашкевіч[498].

Адзначаючы несумненныя якасці Р. Астроўскага як здольнага арганізатара і адміністратара, не забудземся сказаць пра другі бок характару гэтай энергічнай натуры — празмерную «гнуткасць» яго палітычнай лініі, што нярэдка пераходзіла ў беспрынцыпнасць. У лютым 1918 г., пасля з'яўлення чутак аб набліжэнні да Слуцка польскіх легіянераў корпуса генерала Юзафа Доўбар–Мусніцкага, Р. Астроўскі, дзеля перастрахоўкі, часова змяніў шыльду на ўтворанай ім гімназіі, перайменаваўшы яе ў польскую[499]. Пазней, ужо напрыканцы польска–савецкай вайны, ён забараніў сваім родным сёстрам–гімназісткам публічна размаўляць па–беларуску[500].

Другі знаны беларускі культурны працаўнік Палікарп Шчансновіч, які ў жніўні таго ж 1917 г. быў прызначаны дырэктарам Лепельскай грамадскай змешанай гімназіі, з пачаткам новага навучальнага года ўвёў у гэтай школе выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі. Гэта была адзіная навучальная ўстанова ў 1917—1922 гг. у той частцы Віцебскай губерні, якая падпарадкоўвалася савецкай уладзе, дзе выкладаліся прадметы беларусазнаўства[501].

Да названых фактаў трэба дадаць звесткі аб існаванні дзвюх беларускіх пачатковых школ у Петраградзе, якімі апекавалася мясцовая філія Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны, а таксама ўвядзенне выкладання з восені 1917 г. беларускай мовы і прадметаў беларусазнаўства ў Петраградскай каталіцкай гімназіі пры касцёле св. Кацярыны па ініцыятыве сябраў бацькоўскага камітэта, беларускіх грамадскіх працаўнікоў Уладзіслава Сталыгвы і Віктара Перапечкі. Беларускія прадметы ў гэтай навучальнай установе вёў праф. Браніслаў Эпімах–Шыпіла[502].

Вялікія спадзяванні ў справе арганізацыі беларускага школьніцтва ўскладаліся на моладзь — студэнтаў, маладых настаўнікаў, семінарыстаў, слухачоў настаўніцкіх інстытутаў, вучняў старэйшых класаў — усіх тых, хто далучыўся да беларускага руху, згуртаваўся ў нацыянальныя гурткі і суполкі. У Мінску першыя беларускія маладзёвыя арганізацыі паўсталі ўвесну 1917 г. Сіламі мясцовых навучэнцаў і студэнтаў былі створаны Мінская вучнёўская грамада і студэнцкая суполка «Вянок». Пасля Лютаўскай рэвалюцыі падобныя арганізацыі ўзніклі ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі: слуцкая «Папараць–кветка», грозаўская «Зарніца», нясвіжская «Прасвета», Беларускі культурна–асветны гурток у Бабруйску, беларускія вучнёўскія гурткі пры Мар'іна–Горскай сельскагаспадарчай вучэльні, пры землеробчай і каморніцкай вучэльнях у Горы–Горках ды ў іншых месцах.

Асабліва актыўна беларускі маладзёвы рух развіваўся ў навучальных установах, якія падчас Першай сусветнай вайны апынуліся ў эвакуацыі — па–за межамі краю. Нацыянальныя маладзёвыя арганізацыі сацыялістычнага кірунку паўсталі пры Мінскім настаўніцкім інстытуце ў Яраслаўлі, Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі ў Смаленску, пры Нова–Віленскай настаўніцкай семінарыі ў Невелі, пры Свіслацкай настаўніцкай семінарыі ў Краснай Слабадзе Варонежскай губерні, Віленскай сярэдне–тэхнічнай школе ў Казані, а таксама сярод беларускіх вучняў–уцекачоў Калугі, Тамбова, Варонежа і Багародзіцка.

Актывісты беларускага маладзёвага руху займаліся самаадукацыяй, удасканальвалі свае веды па беларускай мове і беларусазнаўству, арганізоўвалі для сваіх таварышаў

[498] Ляхоўскі У.В. Слуцкая беларуская гімназія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2001. — Т. 6. — Кн. 1. — С. 349.

[499] Паводле ўспамінаў А. Галіны (М. Міцкевіча).

[500] Лістапад Ю. Узбіліся на свой шлях // Наша думка. — 1921, 4 сак.

[501] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 246, арк. 134.

[502] Станкевіч Я. Беларусы–ўцекачы ў Расеі // Гоман (Вільня). — 1917, 12 кастр.; Беларуская мова ў гімназіі // Вольная Беларусь. — 1917, 30 кастр.

лекцыі па гісторыі Беларусі. Наступным крокам іх праграмы было дамаганне ўвядзення выкладання беларускай мовы, літаратуры і іншых прадметаў беларусазнаўства ў сваіх навучальных установах. Гэтыя памкненні ў некаторых выпадках знаходзілі падтрымку з боку асобных выкладчыкаў. Створаны ўвосень 1917 г. пры Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі гурток «Прасвета» ў складзе 77 сяброў зацвердзіў у сваім статуце, што арганізацыя ставіць за мэту нацыянальнае самаўсведамленне беларускіх вучняў і настаўніцтва, злучэнне беларускіх вучнёўскіх гурткоў у адну цэнтральную арганізацыю, азнаямленне вучняў з гістарычным жыццём Беларусі і з яе культурай[503]. Пад уплывам семінарыстаў выкладчык гісторыі С. Кулагін, у будучым вядомы беларускі краязнавец, на сваіх занятках стаў больш увагі надаваць асвятленню нацыянальнай гісторыі беларусаў, а ў 1919 г. распрацаваў самастойны курс гісторыі Беларусі[504]. Падобны факт адбыўся і ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, дзе дырэктар семінарыі А. Ярушэвіч у канцы 1917 г. — пачатку 1918 г. склаў расійска–беларускі слоўнік і падрыхтаваў курс лекцый па беларускай гісторыі[505].

У Мінскім настаўніцкім інстытуце ініцыятарам утварэння студэнцкага гуртка стаў выкладчык гісторыі і геаграфіі У. Ігнатоўскі, будучы першы Прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук. Пад ягоным ідэйным уплывам яшчэ ў 1915 г. у Яраслаўлі паўстаў таемны маладзёвы гурток эсэраўскага кірунку «Наш край»[506], які ў 1917 г. быў рэарганізаваны ў арганізацыю «Маладая Беларусь» з больш шырокімі заданнямі[507]. Пад кіраўніцтвам свайго настаўніка слухачы інстытута займаліся вывучэннем беларускай мовы і роднай гісторыі. З восені 1917 г. Ігнатоўскі пачаў чытаць у інстытуце факультатыў «Гісторыя нацыянальна–культурнага адраджэння Беларусі», які стаў потым асновай яго знакамітага падручніка па гісторыі Беларусі, які вытрымаў некалькі выданняў у 1920–я гады і пад уплывам якога сфармавалася цэлае пакаленне свядомых беларусаў[508].

Загартаванне праз беларускія вучнёўскія гурткі ў 1917 г. прайшлі такія вядомыя постаці нацыянальнага адраджэння першай паловы XX ст., як Адам Бабарэка, Сяргей Бусел, Сцяпан Булат, Антось Галіна (Міхась Міцкевіч), Гаўрыла Гарэцкі, Мікалай Ганчарык, Васіль Гарбацэвіч, Міхась Гузоўскі, Мікола Каспяровіч, Міхась Мароз, Янка Ракуцька, Алесь Сташэўскі, Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот (Кудзелька), Кузьма Чорны (Мікалай Раманоўскі), Рыгор Шырма і многія іншыя. Разам з тым адзначым, што чыннасць большасці беларускіх маладзёвых гурткоў, як правіла, абмяжоўвалася правядзеннем культурна–асветных акцый: тэатральных «ігрышчаў», спевак і дэкламацый вершаў беларускіх паэтаў. Дадзены кірунак працы, безумоўна, важны для нацыянальнага ўсведамлення і кансалідацыі моладзі, а таксама ў справе кшталтавання будучых грамадскіх і палітычных дзеячаў. Але гэтая праца рэдка выходзіла за сцены названых

---

503 Вольная Беларусь. — 1917, 23 ліст., 8 снеж.

504 НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 306—307; Ляхоўскі У.В. Апошні перыяд дзейнасці Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1914—1919 гг.) // Мастацкая спадчына Нясвіжа. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, 12 мая 2006 г. — Нясвіж, 2006. — С. 96—97; Яго ж. «Прасвета» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 1999. — Т. 5. — С. 567.

505 Вольная Беларусь. — 1917, 15 снеж. Рукапіс свайго расійска–беларускага слоўніка А. Ярушэвіч пазней перадаў у Навукова–тэрміналагічную камісію Інстытута беларускай культуры. Зараз ён захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

506 Ляхоўскі У. «Наш край» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2001. — Т. 6. — Кн. 1. — С. 312.

507 Яго ж. «Маладая Беларусь» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2001. — Т. 6. — Кн. 1. — С. 49.

508 Яго ж. Прадвеснік Адраджэння.., с. 108—109; Яго ж. Мінскі настаўніцкі інстытут // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 1999. — Т. 5. — С. 189—190.

арганізацый і не мела шырокага розгаласу, не стварала вялікага поля ўплыву на тутэйшае грамадства, у тым ліку і ў справе ініцыявання арганізацыі нацыянальных школ.

У беларускім руху найперш адчуваўся недахоп здольных працаўнікоў, якія маюць сур'ёзны палітычны і грамадскі досвед. Як арганізаваная сіла беларускія адраджэнцы ў лета–восень 1917 г. прайгравалі ці проста не ўдзельнічалі з–за недахопу палітычных рэсурсаў у большасці выбарчых кампаній: ад агульнадзяржаўнага да рэгіянальнага ўзроўняў. Яны надавалі мала ўвагі выбарам у органы мясцовага самакіравання. А тым часам, многія важныя сферы сацыяльнага і культурнага жыцця краю вырашаліся на гэтым узроўні. Выяўленыя рэдкія факты ўдзелу асобных беларускіх дзеячаў у чыннасці земскіх і гарадскіх самаўрадаў паказваюць, што гэта мела пазітыўныя вынікі для развіцця нацыянальнай школьнай справы.

У ліпені 1917 г. у склад галосных (дэпутатаў) Дрысенскага павятовага земства ад Пустынскай воласці быў абраны вядомы беларускі педагог і мовазнавец Я. Сушынскі, які адразу распачаў агітацыю за адкрыццё ў гэтым рэгіёне беларускіх школ. «Школа, — адзначаў ён, — не была нацыянальнай, таму што тутэйшыя дзеці вывучаліся ў школе па–расійску і гэтая навука хутка забывалася». Ён выступіў супраць праекта мясцовага «крэсоўца» Ю. Падалевіча па стварэнню ў рэгіёне польскіх земскіх школ, заявіўшы, што ў Пустынскай воласці, якую ён прадстаўляе, «няма палякаў, а ёсць беларусы — праваслаўныя і каталікі». Беларускі дэпутат прапанаваў ствараць для мясцовых дзяцей беларускамоўныя адукацыйныя ўстановы. Ягоная пазіцыя была станоўча ўспрынята многімі земцамі. Кіраўнік Дрысенскага павятовага настаўніцкага хаўрусу В. Камінскі падтрымаў Сушынскага, адзначыўшы, што польскія школы павінны адкрывацца для палякаў, а не для апалячвання беларусаў. З гэтай думкай салідарызаваўся і сіяніст Созэт[509].

У верасні таго ж года сялянамі Пустынскай воласці Сушынскі абіраецца старшынёй валаснай земскай управы. На гэтым жа сходзе была прынята пастанова аб пераўтварэнні ў 1917/18 навучальным годзе ўсіх валасных земскіх школ у беларускія, пакінуўшы толькі адну расійскую — для тутэйшых старавераў[510]. Пад уплывам Сушынскага ідэі беларускага вызвольнага руху знаходзяць прыхільнікаў у мясцовай кіруючай эліце. У снежні 1917 г. у Дрысе быў утвораны Беларускі рэвалюцыйны камітэт, у склад якога ўвайшлі Я. Сушынскі (старшыня), Б. Цяст, А. Касінскі, С. Тарасаў, а таксама старшыня Дрысенскай гарадской думы суддзя Павал Чэркас. На гэтым сходзе Чэркас, як «гарадскі галава», заявіў: «Хоць беларусаў спачатку палякі, а пасля маскалі хацелі перарабіць на свой лад, гэта нашым ворагам не ўдалося. Беларус застаўся беларусам і не страціў асаблівасці свае мовы і сваёй самабытнасці... Цяпер, калі ўся дэмакратыя змагаецца за самакіраванне нацыянальнасцяў, беларусы мусяць прачнуцца і арганізавацца дзеля абароны сваёй Бацькаўшчыны і адбудавання нацыянальнай культуры»[511]. Чэркас разам з Сушынскім быў абраны ад мясцовых органаў самакіравання дэлегатам на Усебеларускі з'езд у Мінску[512]. Ліквідацыя бальшавікамі земстваў і гарадскіх самаўрадаў замарудзіла

[509] НАРБ, ф. 622, воп. 3, спр. 91, арк. 35—35 адв.

[510] Нацыянальны рух сялян Пустынскай вол. Дрысенскага пав. // Вольная Беларусь. — 1917, 14 (27) ліст.

[511] Вольная Беларусь. — 1917, 15 (28) снеж.

[512] У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захаваліся ўражанні П. Чэркаса аб чыннасці Усебеларускага з'езда ў Мінску (падаецца тут на мове арыгінала): «В голосе всех ораторов был слышен общий вопль народа о творящихся на местах беспорядках и об отсутствии всякой власти. Все говорили главным образом о спасении всей России, вообще, и Белоруссии, в частности, от анархических, разбойных и братоубийственных явлений и о создании белорусской краевой автономной власти, основанной на праве национального самоопределения народов в связи с центральной государственной властью, какая будет установлена Всероссийским Учредительным собранием… Мои личные впечатления склонились к

арганізацыю беларускіх школ у гэтым рэгіёне. Толькі праз 2 гады ў Дрысенскім павеце былі, нарэшце, утвораны першыя беларускія адукацыйныя асяродкі.

Улета 1917 г. на выбарах у Мінскую гарадскую думу са 102 дэпутатаў ад беларускіх партый былі абраны толькі 2 прадстаўнікі — Лявон Заяц і А. Смоліч. Але гэтага было дастаткова, каб распачаць справу па ўтварэнню ў Мінску першых беларускіх вучэльняў. З патрабаваннямі беларускіх дэпутатаў салідарызаваліся асобныя прадстаўнікі фракцыі канстытуцыйных дэмакратаў — Уладзімір Самойла і Сцяпан Балкавец, многія сацыялісты–рэвалюцыянеры (Уладзімір Кернажыцкі, І. Уціеўскі і інш.), бундаўцы на чале з Аронам Вайнштэйнам і М. Фрумкінай, большасць сіяністаў і нават дэпутаты ад Польскага дэмакратычнага аб'яднання. Не дапусціць утварэння беларускіх школ у горадзе намагаліся толькі сябры ўжо ўзгаданай Расійскай дэмакратычнай партыі. Адзін з яе сябраў Валянцін Мініч, дэпутат гарадской думы, а ў ранейшы час выкладчык адной з мясцовых гімназій, заявіў, што ў Мінску не набярэцца ніводнага школьнага камплекта дзяцей, якія б пажадалі вучыцца па–беларуску. Ключавым у гэтым пытанні стала выступленне на пленарным думскім пасяджэнні 22 снежня 1917 г. старшыні Мінскай гарадской камісіі па адукацыі, сябры ЦК Бунда М. Фрумкінай, якая адкрыта стала на бок нацыянальных дэмакратаў: «Справа народнай адукацыі павінна быць перададзена нацыянальным школьным радам, выбраным на дэмакратычных пачатках агульнага, роўнага і таемнага галасавання, але да стварэння падобных рад пры гарадской думе належыць выбраць школьную камісію, якая б складалася з нацыянальных субкамісій. Камісія павінна кіравацца наступнымі прынцыпамі: школа павінна быць свецкай, выкладанне павінна весціся на роднай мацярынскай мове навучэнцаў... Толькі на роднай мове праяўляецца свабоднае развіццё дзіцяці, развіваецца ягоная самастойнасць, праяўляюцца ягоныя творчыя сілы. Навучанне дзіцяці на чужой мове калечыць яго духоўнае развіццё» [гл. *Дадатак 17.1*].

У выкананне рэзалюцыі Мінскай гарадской думы пасля каталіцкіх і праваслаўных калядаў у Мінску пачалася арганізацыя 4 беларускамоўных школьных камплектаў. Арганізацыя беларускай школьнай справы ў горадзе была ўскладзена на Беларускую школьную субкамісію, якую ўзначаліў Я. Лёсік, а адказным сакратаром стаў А. Данілевіч, вядомыя беларускія дзеячы, былыя царскія вязні, якія адбылі некалькі гадоў палітычнай высылкі ў Сібіры. У склад яе сябраў таксама ўвайшлі ўжо ўзгаданыя А. Смоліч і Л. Заяц, канстытуцыйны дэмакрат У. Самойла, эсэр У. Кернажыцкі [гл. *Дадатак 17.4*]. Дабіўся свайго ўключэння сюды і С. Валасковіч — «беларус па нараджэнню і расіец па культуры», адзін з лідараў думскай фракцыі Расійскай дэмакратычнай партыі, які стаў у 1918 г. старшынёй Мінскага губернскага камітэта адукацыі. Сваім удзелам у камісіі ён імкнуўся дэзарганізаваць яе працу і, калі не спыніць, дык замарудзіць працэс развіцця беларускага школьніцтва ў Мінску.

У гэты час пад уплывам рэвалюцыйных падзей пазіцыі расійскіх кансерватараў і рэакцыйнага крыла «западно–руссов» істотна аслаблі. Яны не маглі нічога сур'ёзнага супрацьпаставіць напору рэвалюцыйнай дэмакратыі, адным з лозунгаў якой было патрабаванне самавызначэння нацый і свабоднага развіцця нацыянальных культур. Старая расійская імперская ідэалогія была пахавана пад абломкамі царскага абсалютызму, а новая вялікадзяржаўная канцэпцыя бальшавікоў яшчэ толькі фармавалася.

Апаненты беларускага руху з левага фланга, прадстаўленыя Беларускім абласным камітэтам пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў (БАК), вымушаны былі таксама ўлічваць новыя палітычныя рэаліі. Калі ў ліпені 1917 г. яны безапеляцыйна заяўлялі,

---

тому, что Всебелорусский краевой съезд имеет чистое социально–политическое лицо и вполне способен отстоять без кровопролития все добытые трудовым народом свободы и достичь в связи с Учредительным собранием прекращения войны и демократического не позорного мира извне, на основе самоопределения народов» (Гл.: НАРБ, ф. 622, воп 3., спр. 9, арк. 32 адв. — 33).

што «беларускае сялянства ва ўсе часы рускай гісторыі адчувала сябе як адзінае цэлае з расійскім народам… і не выяўляла таемных памкненняў у адлучэнні ад Расіі»[513], то ўжо праз тры месяцы інтанацыя і акцэнты заяў «абласнікоў» яўна змяніліся. Напярэдадні склікання Усебеларускага з'езда ў сваёй адозве кіраўніцтва БАК адзначала: «Калі лёсу заўгодна захаваць рэвалюцыйную Расію ў выглядзе федэратыўнага хаўрусу, дык усе народы, якія ўсвядомілі сваю нацыянальную годнасць і рэалізавалі сваё самавызначэнне праз рэспублікі, імкнуцца захаваць сваё нацыянальнае жыццё, культуру, сродкі і магчымасці свайго дзяржаўнага развіцця… Беларускі абласны камітэт… узяў на сябе вялікі пачын па арганізацыі працоўнага сялянства вакол ідэі ўтварэння аўтаномна–свабоднай Беларусі як часткі Расійскай рэспублікі»[514]. Як бачым, ідэя краёвай аўтаноміі і неразрыўна звязаная з ёй ідэя абароны і развіцця нацыянальнай культуры і асветы трывала стала на парадак дня і з кожным днём набывала ўсё больш прыхільнікаў.

Беларускі рух у гэты час атрымаў моцную падтрымку з боку суайчыннікаў–вайскоўцаў, якія ваявалі на франтах Першай сусветнай вайны і згуртаваліся ў нацыянальныя вайсковыя гурткі, камітэты, рады ды актыўна падтрымлівалі Вялікую Беларускую раду ў якасці адзінага цэнтра беларускага наыянальнага руху. Ва ўсіх рэзалюцыях беларускіх франтавых з'ездаў, што прайшлі ў лістападзе–снежні 1917 г., гучала падтрымка беларусізацыі школы. Змест іх быў даволі радыкальным. Дэлегаты Беларускага вайсковага з'езда Паўночнага фронту, які адбыўся ў Віцебску ў снежні 1917 г., пастанавілі, што беларуская мова разам з агульнадзяржаўнай расійскай прызнаецца афіцыйнай мовай ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах краю. У школьным пытанні дэлегаты–вайскоўцы выступалі: 1) за ажыццяўленне частковай беларусізацыі школы: у ніжэйшых школах выкладанне павінна было весціся выключна на беларускай мове, акрамя тых грамад, якія, шляхам адпаведных прыгавораў і пастаноў, пажадаюць весці навучанне па–расійску; 2) за ўвядзенне выкладання ў сярэдняй школе беларускай мовы, «паводле волі і жадання навучэнцаў», і абавязковае выкладанне прадметаў беларусазнаўства; 3) увядзенне выкладання беларускай мовы і прадметаў беларусазнаўства ва ўсіх настаўніцкіх інстытутах і семінарыях, а таксама ў іншых педагагічных навучальных установах[515].

Былі спадзяванні, што праграму шырокага развіцця беларускай нацыянальнай адукацыі прыме Усебеларускі з'езд, які распачаў сваю працу 18 снежня 1917 г. (паводле грыгарыянскага календара) у Мінску. У рамках агульнанацыянальнага палітычнага форуму планавалася таксама правесці беларускі навуковы з'езд, на разгляд якога выносіліся наступныя задачы: асэнсаванне галоўных момантаў гісторыі Беларусі; распрацоўка канкрэтнай праграмы па развіццю беларускай нацыянальнай асветы і школы; стварэнне краёвага ўніверсітэта і іншых вышэйшых навучальных устаноў; выпрацоўка норм правапісу беларускай мовы; згуртаванне беларускіх інтэлектуальных сіл і стварэнне сталых навуковых цэнтраў[516]. Але сабраць разам лепшыя навуковыя і педагагічныя сілы краю не ўдалося па шэрагу аб'ектыўных прычын. Пытанні развіцця беларускай адукацыі знайшлі адлюстраванне ў працы культурна–асветнай секцыі Усебеларускага з'езда.

Сярод удзельнікаў названай секцыі былі як ужо вядомыя шырокім колам грамадства асобы (напрыклад, акадэмік Я. Карскі ці пісьменнік Ядвігін Ш.), так і тыя, хто толькі пачынаў свой жыццёвы шлях. Абсалютную большасць беларускіх дэлегатаў склалі маладыя дзеячы, якія яшчэ не заявілі пра сябе ва ўвесь голас — гэта літаратары і моваэнаўцы А. Галіна (М. Міцкевіч), Я. Сушынскі, Ігнат Дварчанін, В. Гарбацэвіч,

[513] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 136, арк. 39 адв.

[514] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 60—65.

[515] Тамсама, арк. 70—71.

[516] Беларускі навуковы з'езд // Вольная Беларусь. — 1917, 21 снеж.

краязнаўцы М. Каспяровіч і Даніла Васілеўскі, будучы кіраўнік Будслаўскай беларускай гімназіі і Мінскага беларускага педагагічнага тэхнікума Язэп Васілевіч, будучы дырэктар Клецкай беларускай гімназіі Рыгор Якубёнак, выкладчык Наваградскай і Віленскай беларускіх гімназій А. Данілевіч, актрыса і педагог П. Мядзёлка і інш. Аказалася тут нямала і «западно–руссов», прадстаўленых асобамі В. Рагулі, М. Каліноўскага, А. Шастова, Гаркавіка і інш., якія былі абраны на з'езд пераважна ад земстваў і гарадскіх самаўрадаў.

На секцыйных пасяджэннях зноў разгарэлася вострая палеміка па пытаннях, звязаных з рэфармаваннем адукацыйнай сістэмы краю, разбуранай вайной, а таксама з правядзеннем беларусізацыі школы. Нават Д. Васілеўскі, колішні карэспандэнт «Нашай Нівы», выказаў сумненні наконт мэтазгоднасці пераходу навучання на беларускую мову. Няпэўную пазіцыю займалі Я. Васілевіч і будучы радны БНР Станіслаў Лянкоўскі. Р. Астроўскі, які старшынстваваў на некалькіх пасяджэннях культурна–асветнай секцыі, паводзіў сябе даволі пасіўна, ухіляўся ад удзелу ў дыскусіях, так бы мовіць, «умываў рукі».

Праціўнікам беларусізацыі выступіў акадэмік Я. Карскі, які з вялікім скептытызмам ставіўся да пераводу школьнага навучання на беларускую мову. Маючы вялікія і бясспрэчныя заслугі перад беларускім мовазнаўствам, акадэмік у сваіх паглядах на беларускі нацыянальны рух затрымаўся ў XIX ст., застаючыся ў палоне старых стэрэатыпаў «западно–руссизма», адмаўляючы беларускай мове ў праве на самастойнае існаванне. Працэс русіфікацыі беларусаў, на яго думку, стаў незваротным. Як трапна сказаў стваральнік беларускага класічнага правапісу Б. Тарашкевіч, «Карскі вывучаў дрэва, не заўважаючы за ім лесу».

24 снежня праект рэзалюцыі па школьнаму пытанню быў нарэшце ўзгоднены і вынесены на разгляд пленарнага пасяджэння з'езда. Гэты дакумент, як і пастанова нарады выкладчыкаў Віленскай навучальнай акругі, насіў кампрамісны характар. У рэзалюцыі адзначалася, што ў дадзены момант немагчыма паўсюдна ўвесці выкладанне ва ўсіх школах Беларусі па–беларуску, і таму патрэбна «ўстанавіць у культурна–асветным жыцці краю… такія ўмовы, якія б садзейнічалі выпрацоўцы і развіццю беларускай літаратурнай мовы і распаўсюджванню яе сярод жыхарства». Прапаноўвалася спачатку паклапаціцца пра падрыхтоўку настаўнікаў для беларускіх нацыянальных школ, таксама меркавалася выкладанне беларускай мовы і прадметаў беларусазнаўства ў адукацыйных установах Беларусі ўводзіць не адразу, а паэтапна. Ставілася задача дабіцца таго, каб выкладчыкі давалі навучэнцам добрыя веды і навыкі валодання беларускай мовай і выхоўвалі ў падрастаючага пакалення «павагу і любоў да роднай гаворкі». Важным чыннікам у пашырэнні беларускай школьнай справы павінна было стаць выданне адмысловага педагагічнага часопіса, які б згуртаваў вакол сябе прыхільнікаў беларусізацыі школьнай асветы і заняўся б удасканаленнем беларускай навуковай тэрміналогіі, распрацоўкай пытанняў выкладання ў школах розных ступеняў беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, геаграфіі і прыродазнаўства. Рэзалюцыя заканчвалася наступнымі разважаннямі, вартымі ўвагі і сёння: «Прапануючы цэлы шэраг мер дзеля адраджэння ў беларускім грамадстве і ў школе народных нацыянальных сіл, па абуджэнню… павагі і любові да роднага краю, культурна–асветная секцыя выказвае сваё глыбокае перакананне, што толькі асцярожнае, пазбаўленае палітычных захапленняў стаўленне да пытання аб мове школьнага навучання ў адукацыйных установах Беларусі і толькі ўзгодненыя ды арганізаваныя намаганні ўсіх культурных сіл, як у грамадстве ў цэлым, так і ў самой школе, здольны забяспечыць поспех вялікай справы нацыянальнага адраджэння беларускага народа, абудзіць яго нацыянальнае самаўсведамленне і стварыць неабходныя ўмовы для развіцця ў Беларусі навукі, паэзіі і беларускай літаратурнай мовы» [гл. *Дадатак 16.3*].

Разгон Усебеларускага з'езда бальшавікамі не дазволіў выпрацаваць канкрэтнай праграмы далейшага развіцця беларускай школьнай справы. Гвалтоўны акт супраць беларускай дэмакратыі меў шырокі рэзананс у краі і за яго межамі. Настроі мясцовага настаўніцтва былі не на баку бальшавікоў. З'езд настаўнікаў пачатковых школ Мінскага павета, які адбыўся ў пачатку лютага 1918 г., цалкам стаў на бок беларускага руху і ягоных патрабаванняў адносна развіцця беларускамоўнай адукацыі. Пасля даклада, прачытанага сябрам Рады Усебеларускага з'езда Т. Грыбам, настаўнікі прынялі наступную рэзалюцыю: «З'езд настаўнікаў Мінскага павета верыць, што нацыянальнае адраджэнне роднага народа скіне ўсе кайданы няволі і Народ Беларускі зойме пачэснае месца сярод іншых народаў. З'езд са свайго боку далучаецца да праекта рэзалюцыі культурна–асветнай секцыі 1–га Усебеларускага з'езда і цалкам яе падтрымлівае»[517].

Разглядаючы хроніку змагання за беларускую школу ва Усходняй Беларусі напярэдадні нямецкай акупацыі, прыходзіцца канстатаваць, што яго вынікі аказаліся даволі сціплымі. У параўнанні з беларусамі тыя ж украінцы зрабілі значна болей: у адным толькі Кіеве ўвосень 1917 г. ужо дзейнічала 3 украінскія гімназіі і 15 пачатковых школ[518]. Цэнтральная Рада Украіны дамаглася ад Часовага ўрада Расіі стварэння ўвосень таго ж года пры Кіеўскім універсітэце 4 украінскіх кафедр: украіназнаўства, украінскай мовы і гісторыі Украіны (на гісторыка–філалагічным факультэце), а таксама заходнерускага права (на юрыдычным факультэце)[519]. Прыхільнікі прамаскоўскай арыентацыі тут меліся таксама, але іх уплыў адчуваўся толькі на ўкраінска–расійскім этнічным памежжы, у паўднёвых рэгіёнах Украіны ды ў гарадах. Украінская школьная справа мела моцную падтрымку з боку грамадскіх арганізацый, тамтэйшых земстваў і многіх гарадскіх самаўрадаў, якія ініцыявалі адкрыццё ўкраінскіх пачатковых школ і гімназій у правінцыі. Генеральны сакратарыят народнай асветы Украіны выконваў галоўным чынам функцыі каардынацыйнага цэнтра развіцця нацыянальнай асветы. Рух за ўкраінскую школу ішоў знізу: яго ініцыявалі не толькі нацыянальна арыентаваныя інтэлектуалы, гэтая справа мела дастаткова моцную падтрымку ў шырокіх грамадскіх колах. Вызвольны рух беларусаў, у параўнанні са сваімі суседзямі — украінцамі, літоўцамі, латышамі, эстонцамі, — не набыў яшчэ дастатковай крытычнай масы, таму вынікі яго працы на ўсіх напрамках увасаблення нацыянальнай ідэі, у тым ліку і на ніве школьнай адукацыі, выглядалі такімі невыразнымі.

Прыход да ўлады бальшавікоў у лістападзе 1917 г., пачатак усталявання новага палітычнага рэжыму не адразу адбіліся на школьным жыцці Усходняй Беларусі. Нягледзячы на разгон Усебеларускага з'езда і скасаванне органаў мясцовага самакіравання, справа арганізацыі беларускіх адукацыйных асяродкаў у Мінску працягвалася. З–за адсутнасці патрэбных памяшканняў пэўны час беларускія дзеці вымушаны былі вучыцца ў другую змену, пасля заняткаў у расійскіх школах, у тых самых вучэбных аўдыторыях. Такое суседства моцна перашкаджала працы беларускіх школ: А. Данілевіч, першы сакратар Беларускай школьнай субкамісіі, успамінаў, што некаторыя прарасійскі настроеныя педагогі не пускалі ў свае школы беларускіх настаўнікаў для правядзення запісу дзяцей для навучання па–беларуску [гл. *Дадатак 17.9*]. Зрываліся абвесткі аб наборы ў беларускамоўныя класы, праводзілася адкрытая і негалосная агітацыя бацькоў у бесперспектыўнасці беларускамоўнай адукацыі, каб тыя не аддавалі сваіх дзяцей у гэтыя школы, апрацоўваліся і самі школьнікі. Але нараканне аднаго з лідараў Расійскай дэмакратычнай партыі, што мінчукі праігнаруюць беларускамоўную адукацыю, не спраўдзілася. Напярэдадні і ў першыя месяцы нямецкай акупацыі ў Мінску ўжо дзейнічалі 3 беларускія школы і на стадыі арганізацыі

[517] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 25.
[518] Адозва Украінскага Генеральнага сакратара народнай асветы // Вольная Беларусь. — 1917, 6 вер.
[519] Украінскія кафедры пры Кіеўскім універсітэце // Вольная Беларусь. — 1917, 11 вер.

была яшчэ адна. Праз нейкі час беларускія школы адасобіліся ад расійскіх, атрымаўшы асобныя памяшканні для заняткаў. Гэта дазволіла ім надалей спакойна працаваць і павялічваць колькасць сваіх навучэнцаў.

Гісторыю арганізацыі першай беларускай школы ў Мінску, утворанай у чыгуначным пасёлку Серабранка, распавёў у сваіх успамінах Язэп Шнаркевіч, адзін з яе настаўнікаў: «Пасля публікацыі аб адчыненні школы беларускай з 15 студзеня 1918 года я стаў запісваць вучняў… Першы вучань з'явіўся аж з другога канца горада, з–пад Віленскага вакзала: гэта быў зусім малы хлапец гадоў 8–мі, сын якогась рабочага, зусім яшчэ нярграматны… Не зважаючы на вялікую адлегласць, холад, заносы снежныя, агульны неспакой…, гэты вучань быў адным з акуратнейшых і пільнейшых. Як я пасля даведаўся, бацька яго пасылаў свядома ў беларускую школу, як сваю родную… Нягледзячы на сярэдзіну школьнага года, на другую змену заняткаў, на тое, што школа адчынялася беларуская (да якіх — беларускіх школ, — як да нешта новага, публіка толькі пачынала прыглядацца ды прыслухвацца, а пэўныя элементы і шкодзілі беларускаму руху) к вясне набралася 60 вучняў»[520].

Дамагаючыся стварэння нацыянальных школ, дзеячы беларускага вызвольнага руху не адчувалі масавай падтрымкі з боку тутэйшага жыхарства. Большасці тутэйшых «абыватэляў», заклапочаных у першую чаргу пагаршэннем свайго сацыяльна–эканамічнага стану, было ўсё роўна, на якой мове будуць вучыцца іх дзеці. Найбольшую інертнасць тут праяўлялі сяляне, дзеля якіх і рупіліся беларускія асветнікі. Для прыкладу, актывісты беларускай арганізацыі ў Барысаве ў ліпені–жніўні 1917 г. арганізавалі збор сродкаў у «народны фонд» — на выданне газеты і на арганізацыю беларускіх нядзельных школ. Было сабрана 407 руб. дзякуючы пераважна ахвяраванням барысаўскіх мяшчан. Сяляне ж з навакольных вёсак адмаўляліся фундаваць свае грошы на беларускую справу[521].

Гэтаму можна знайсці рацыянальнае тлумачэнне: у параўнанні з гарадскім жыхарствам, у сялян быў больш нізкі культурны ўзровень і адукацыйны цэнз, адчувалася іх сацыяльная і палітычная закасцянеласць і грамадзянская няспеласць. Заўсёды горад з'яўляўся каталізатарам культурных працэсаў на вёсцы. А ў выпадку Беларусі, расійскамоўныя гарады, дзе пераважала небеларускае насельніцтва, па–ранейшаму праецыравалі на вясковыя абшары расійскую культурную традыцыю.

Умацаванню нацыянальнай свядомасці тутэйшага жыхарства перашкаджаў моцны адміністрацыйны нахіл у бок «агульнарасійскага патрыятызму» кіраўніцтва мясцовых органаў самакіравання (земстваў і гарадскіх самаўрадаў), якое трымала ў сваіх руках важныя рычагі эканамічнага і культурнага жыцця краю. У адрозненне ад іншых «нярускіх» ускраін былой Расійскай імперыі — Украіны, Латвіі, Эстоніі, Малдовы, Каўказа, дзе ў грамадскім і палітычным жыцці дамінавалі партыі і арганізацыі тытульных нацый, у беларускіх губернях у першы год рэвалюцыі ў мясцовай уладнай вертыкалі былі прадстаўлены, галоўным чынам, прыхільнікі агульнарасійскіх партый і найперш — сацыялісты–рэвалюцыянеры. «Расійская эсэраўшчына ў Беларусі, — ацэньваў тагачасную палітычную сітуацыю ў краі З. Бядуля, — вяла тады заядлую антыбеларускую агітацыю, яна была шчырай пераемніцай ранейшай палітыкі Саланевічаў і Кавалюкоў»[522]. Нацыянальна арыентаваная частка інтэлігенцыі была нешматлікай і яшчэ не настолькі ўверавала ў сваё прызначэнне, каб узяць у свае рукі справу мясцовага самакіравання і вывесці тутэйшага селяніна з–пад чужога ідэалагічнага ўплыву.

---

[520] Шнаркевіч Я. Беларускае школьніцтва ў Мінску ў 1918—20 гадах // Рунь (Вільня). — 1998. — № 13.

[521] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 8, арк. 21—22; Вольная Беларусь. — 1917, 17 жн.

[522] З.Б. [Бядуля З.]. Думкі беларускага адраджэнца // Савецкая Беларусь. — 1923, 11 траўня.

## 4.5. Чыннасць БНР на школьнай ніве ва ўмовах нямецкай акупацыі

Дагэтуль айчынныя гісторыкі не выпрацавалі адзіных крытэрыяў у дачыненні да Беларускай Народнай Рэспублікі: чым насамрэч была БНР — паўнавартаснай дзяржавай або «папяровай рэспублікай», марыянеткавым утварэннем пад апекай нямецкай акупацыйнай улады? Таксама не дадзена прынцыповая ацэнка акта абвяшчэння незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 г.

На наш погляд, БНР — гэта палітычнае ўтварэнне, генетычна звязанае з арганізацыйнымі структурамі Усебеларускага з'езда, якое ставіла сваёй мэтай дасягненне рэальнай незалежнасці Беларусі. Але ва ўмовах ваеннага супрацьстаяння і перманентнай акупацыі краю гэтая рэспубліка не здзейснілася як суверэнная дзяржава. Будзе справядліва сказаць, што БНР — адзін з этапаў супярэчлівага працэсу суверэнізацыі беларускай нацыі, які завяршыўся толькі ў 1991 г.[523].

Акт 25 сакавіка, на нашу думку, стаў адной з галоўных падзей нацыянальнай гісторыі беларусаў. Ён быў накіраваны на захаванне і кансалідацыю нацыі. А. Цвікевіч ёміста ды проста сфармуляваў яго сутнасць і значэнне: «Права на незалежнасць разумеецца само сабой… Акт 25 сакавіка не шукае для сябе апраўдання… Ён сваім зместам зацвярджае прадвечнае права народаў Беларусі на волю… Дзякуючы Акту 25 сакавіка Беларусь не стала незалежнай дзяржавай. Але гэта не змяншае надзвычайнай гістарычнай вартасці гэтага акта, як галоўнейшага закона беларускага вызваленчага руху, усяго беларускага адраджэння. Ён стаў не законам, праведзеным у жыццё, але стаў законам беларускага жыцця»[524].

Абвяшчэнне БНР спачатку было пазітыўна ўспрынята большасцю небеларускай палітычнай эліты. Старшыня ЦК Бунда А. Вайнштэйн, які адначасова з'яўляўся кіраўніком Мінскай гарадской думы, пасля прыняцця першых дзвюх Устаўных Грамат БНР заявіў: «Мінску належыць быць цэнтрам асобнай дзяржавы. Некалькі гадоў таму назад гэта было б марай, а сёння яна здзяйсняецца. Беларускі рух адраджаецца, як рух сацыяльны, дэмакратычны, які звязвае свой лёс з лёсам народаў, якія насяляюць Беларусь»[525]. Сямён Вальфсон, будучы беларускі акадэмік і вядомы беларускі савецкі філосаф, а на той час — марксіст–інтэрнацыяналіст (меншавік), рэдактар газеты «Бобруйский голос», так ахарактарызаваў БНР: «Абвяшчэнне Беларускай Рэспублікі, несумненна, з'яўляецца сур'ёзным і даспелым палітычным актам, далёкім ад разлічанай на вонкавы эфект буфанады»[526].

Гэтыя ацэнкі БНР не перакрываюць агульнага ўяўлення абсалютнай бальшыні прарасійскіх і габрэйскіх палітычных колаў аб створанай беларускай рэспубліцы. Самыя паступовыя з іх бачылі Беларусь складовай часткай постімперскай еўразійскай прасторы, арганізаванай на прынцыпах федэрацыі ў шчыльнай сувязі з Расіяй. Спроба лідараў БНР абвясціць поўную незалежнасць Беларусі ад Масквы, іх намаганні паставіць беларускую дзяржаўную справу на больш шырокі міжнародны грунт і дзеля гэтага абаперціся на Нямеччыну не знайшлі разумення ў апошніх. Наадварот, гэта выклікала ў іх сапраўдную антыбеларускую істэрыю. Прыняцце Акта 25 сакавіка не ўкладвалася ў іх ранейшыя стэрэатыпы: як гэта, Богам забыты, разбураны вайной край можа прэтэндаваць на поўны суверэнітэт.

Нават тыя «лібералы», што пад прэсінгам бальшавіцкай дыктатуры схіляліся на карысць існавання беларускай эрзац–незалежнасці, як альтэрнатывы маскоўскай

[523] БНР: поверх барьеров // Советская Белоруссия (Беларусь сегодня). — 2008, 22 марта.

[524] Галынец [Цвікевіч А.]. Чатыры гады (1918—25.III.1922) // Спадчына. — 1996. — № 3. — С. 148.

[525] Заседание Минской думы // Бобруйский голос. — 1918, 22 марта.

[526] Вальфсон С. Белорусская республика // Бобруйский голос. — 1918, 23 марта.

саўдэпіі, у штыхі сустрэлі крокі БНР па беларусізацыі. Аглядальнік газеты «Минский голос» Юры Волін, які яшчэ ў верасні 1918 г. на старонках названага выдання з вялікай сімпатыяй пісаў аб адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры, аб пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў грамадскім і культурным жыцці краю[527], літаральна праз месяц змяняў сваю рыторыку на 180 градусаў. І гэта пасля таго, як урад БНР пачаў нешта рабіць па ажыццяўленню закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. У адказ журналіст заявіў, што «беларуская мова… не толькі не дапамагае, але перашкаджае будаўніцтву беларускай дзяржаўнасці»[528].

Паводле Воліна і яго аднадумцаў, беларуская мова і культура — гэта не аснова быцця беларускага народа і не гарант яго існавання, што дазваляе зберагчы этнас ад духоўнага і фізічнага заняпаду. У лепшым выпадку — гэта нейкі этнаграфічны прыдатак, давесак да вялікай расійскай культуры, у горшым — непатрэбны атавізм, які перашкаджае грамадству ўдасканальвацца. Незалежнасць успрымалася імі як разменная манета ў палітычных гульнях, як сродак дасягнення кан'юнктурных мэт.

Тое, што мінскія гарадскія школы знаходзіліся не на ўтрыманні Народнага сакратарыята Беларусі, а фінансаваліся гарадскім магістратам, дало падставу В. Гігіну сцвярджаць, што першыя беларускамоўныя навучальныя ўстановы ў Мінску не мелі ніякага дачынення да БНР[529]. Ці так гэта — давайце разбяромся. Па–першае, гарадскія субсідыі, за кошт якіх існавалі мінскія беларускія школы, — гэта грошы ў тым ліку і беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Па–другое, уся арганізацыя і кіраванне беларускімі пачатковымі школамі ў Мінску здзяйснілася, паводле пастановы Мінскай гарадской думы за 24 снежня 1917 г., на прынцыпах шырокай аўтаноміі беларускай школьнай субкамісіяй, складзенай галоўным чынам з прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных арганізацый. Сярод сябраў субкамісіі быў Старшыня Рады БНР Я. Лёсік, Народны сакратар асветы БНР А. Смоліч, старшыня Цэнтральнай беларускай вайсковай рады Сымон Рак–Міхайлоўскі, лідар беларускіх эсэраў Т. Грыб і інш. Калі ж паглядзець на асабісты склад беларускіх настаўнікаў, якія працавалі ў гэтых вучэльнях, дык выяўляецца, што сярод іх былі: Народны сакратар БНР П. Бадунова, Сакра-

---

527 У перадавіцы газеты «Минский голос» за 15 верасня 1918 г. ён пісаў (падаецца на мове арыгінала): «Без языка, т.е. без культуры, без фундамента для построения духовной личности, без главного органа для восприятия искусства… человек без языка — жалкий калека, осужденный на духовное убожество. А целая нация без языка, целый край без языка — это печальное кладбище, на котором засыхают до расцвета ростки культурных достижений. Приобщение малых и политически зависимых народностей к культуре державной нации — задача очень и очень тяжелая. Но задушение национальной самобытности малого и слабого народа — задача отнюдь не тяжелая. Лопата упрямого и глупого садовника не превратит розу в пальму, но один удар этой лопаты положит конец «самобытности» розы. Это так просто. Печальной памяти, грубый русский империализм, муравьевская «обрусительная политика» в нашем крае, к счастью, не доделала своего дела до конца. Национальные меньшинства хоть и придушены, но не задушены. Еще тлеет в них искра национальной жизни, а эта искра может превратиться в пламя. Наше «Северо–Западное кладбище» еще может превратиться в прекрасный цветник».

528 Падаем амаль цалкам дадзеную тэзу: «Раз и навсегда должны понять те, кто искренне стремится к Белорусской республике, что белорусские водевили и белорусская государственность не находятся ни в какой связи. А белорусская государственность может создаваться без белорусских водевилей и концертов. Это совершенно различные отрасли человеческого творчества. И даже сам белорусский язык, эта пресловутая «мова», с которой носятся как с писаной торбой русские интеллигенты, только что познавшие ее — даже она не только не помогает, но мешает строительству белорусской государственности. Прекрасная богатая страна Бельгия и не менее прекрасная Швейцария не имеют своей «мовы», однако никто не оспаривает их самостоятельность... Пора это понять господам запевалам белорусского движения» (Волин Ю. Тихие думы // Минский голос. — 1918, 20 окт.).

529 Гигин В.Ф. Бумажная республика: из истории БНР — 1918 г. // Нёман. — 2005. — № 2. — С. 141—154.

тар Рады БНР Макар Касцевіч (Краўцоў), Радны БНР, сябра ЦК Беларускай партыі сацыялістаў–рэвалюцыянераў Мікола Пашковіч, сябра Беларускай хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці Апалонія Гірконт [гл. *Дадатак 17.8*]. Як бачым, беларуская школьная справа ў Мінску рабілася не чужымі рукамі, а дзякуючы высілкам беларускіх працаўнікоў, якія мелі непасрэднае дачыненне да арганізацыйных структур БНР, да беларускага вызвольнага руху.

Трэба прызнаць, што напачатку сваёй чыннасці Народны сакратарыят Беларусі не меў поўнай інфармацыі аб колькасці беларускіх школ у «зоне новай акупацыі». Кіраўнік Народнага сакратарыята асветы А. Смоліч у лісце за 3 сакавіка 1918 г. паведамляў старшыні Беларускай Рады ў Вільні А. Луцкевічу: «Школак чыста беларускіх — калі і маем усяго з пяток, дык і то не ведаем акурат, дзе і што»[530].

Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі 21 лютага, у дзень уваходу ў Мінск нямецкіх войск, не скранула сітуацыю з беларускім школьніцтвам у лепшы бок. Нямецкія ўлады, як ужо адзначалася вышэй, новыя захопленыя тэрыторыі Усходняй Беларусі лічылі этнічнай прасторай Расіі і паставіліся да БНР, як да асяродка антырасійскіх палітычных сіл, які не мае сур’ёзнага палітычнага ўплыву сярод тутэйшага жыхарства. Гэтым тлумачыцца факт, што рэальнай палітычнай ды фінансавай падтрымкі ўрад БНР з боку акупацыйнай улады, нягледзячы на пэўныя вусныя запэўніванні апошняй, так і не дабіўся. Немцы не перашкаджалі працы беларускіх установаў, але рэальнай дапамогі ім не аказвалі. Больш таго, забраўшы ў Народнага сакратарыята Беларусі ўсю яго скарбніцу, яны пазбавілі фінансавання шэраг нацыянальных праектаў, якія тычыліся і школьнай справы.

Адсутнасць сур’ёзных практычных дасягненняў у справе развіцця беларускай нацыянальнай адукацыі на рахунку Народнага сакратарыята Беларусі можна патлумачыць яшчэ і адсутнасцю ў «айцоў» БНР сур’ёзнага досведу працы ў сферы дзяржаўна–палітычнага і адміністрацыйнага кіравання. Нікому з іх тады яшчэ не споўнілася і 30 гадоў(!). Да таго ж, прыхільнікі беларускай незалежнасці, не маючы рэальнай улады на «сваёй» тэрыторыі і без патрэбных капіталаў, аб’ектыўна былі не ў стане рэалізаваць заяўленыя нацыянальна–дзяржаўныя праекты. Прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве М. Мароз, які ў верасні 1918 г. наведаў Мінск, пісаў у Маскву: «Беларускі сакратарыят прадстаўляе сабой вартую жалю, паслухмяную немцам установу. Сродкаў ніякіх у яго няма»[531].

Сам першы Старшыня Народнага сакратарыята БНР Язэп Варонка быў дастаткова эпатажнай асобай у гісторыі беларускага руху. Ён любіў ад імя БНР прэзентаваць розныя палітычныя, культурніцкія і адукацыйныя праекты, але большасць з іх так і не давёў да лагічнага завяршэння. Яму муліла штодзённа займацца канкрэтнай чарнавой працай. Найлепш Варонка праявіў сябе ў якасці журналіста і як прэс–сакратар ці міністр інфармацыі мог быць на сваім месцы. Але пасадзе кіраўніка ўрада па сваіх якасцях ён, відавочна, адпавядаў мала. Але не будзем занадта крытычна і з пазіцый сённяшняга дня ацэньваць працу Я. Варонкі ды іншых дзеячаў БНР. Яны былі першымі і заслугоўваюць нашай пашаны хаця б за тое, што ўпершыню галасна заявілі аб праве беларускага народа на незалежнасць і імкнуліся напоўніць яе рэальным зместам.

Яшчэ ў лютым 1918 г. пры Народным сакратарыяце Беларусі было створана Арганізацыйнае бюро, якое ставіла за мэту рэгістрацыю ўсіх нацыянальна свядомых беларускіх культурных працаўнікоў, каб з іх скласці кадравы рэсурс БНР і распачаць рэальную нацыянальна–дзяржаўную працу. Арганізацыйнае бюро БНР 25 лютага выдала ў друкарні і распаўсюдзіла па рэгіянальных беларускіх арганізацыях сваю адоз-

[530] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 232, арк. 30.
[531] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 39, арк. 213.

ву «Да ўсіх свядомых і асвячоных сыноў Беларусі!». У ёй гучаў заклік да тутэйшай інтэлігенцыі «прыйсці к народу і ахвяраваць яму свае сілы…, як свой сыноўні дар, злажыць усю суму навукі і дасвядчэння, якую назбірала ў часы бясправўя» [гл. *Дадатак 18*]. Адгукнуліся нямногія, але нават тыя, хто адазваўся, працуючы ў правінцыі, адразу не маглі нічога рэальна зрабіць на карысць беларускай справы без належнай матэрыяльнай і прававой падтрымкі.

Справе арганізацыі беларускай нацыянальнай школы моцна перашкаджалі польскія шавіністычныя колы розных палітычных кірункаў, у тым ліку большая частка мясцовых абшарнікаў і каталіцкага кліру. На тых жа пазіцыях стаяла кіраўніцтва большасці органаў мясцовага самакіравання, якія прадстаўлялі прарасійскія і габрэйскія палітычныя партыі. З'яўляючыся прыхільнікамі «агульнарускага адзінства», апошнія лічылі, што пашырэнне беларускай школьнай адукацыі будзе садзейнічаць росту антырасійскага сепаратызму. Абраны ў склад Магілёўскага магістрата М. Кахановіч пісаў у Мінск у ліпені 1918 г.: «Магілёўская гарадская дума, абраная год таму назад пры ўмовах палітычнага ўціску і пры ўдзеле шматлікага ваеннага гарнізона, што складаецца з чужацкіх прышлых элементаў, з'яўляецца на сённяшні час установай, варожай да беларускага руху»[532].

Рэальна не ацаніўшы ступень сваёй легітымнасці і палітычнага ўплыву, Рада БНР 24 траўня 1918 г. прыняла нічым не падмацаваны закон пра абвяшчэнне на тэрыторыі Беларусі дзяржаўнага статусу беларускай мовы. Беларускі нацыянальны камітэт у Магілёве ў сваім лісце ў Мінск за 5 чэрвеня 1918 г. так рэагаваў на прыняцце гэтага акта: «Вітаючы адраджэнне беларускай народнай мовы і росквіт беларускай літаратуры, паэзіі і мастацтва, Камітэт лічыць, што ўвядзенне ў дзяржаўнае справаводства беларускай мовы як абавязковай [з'яўляецца] несвоечасовым крокам»[533].

Умераныя беларускія палітыкі мелі спадзеў, што змена ўрада, уваход у кабінет больш дасведчаных і прагматычных дзеячаў умацуюць пазіцыі беларускага руху і прыцягнуць да супрацоўніцтва з ім цэнзавыя элементы — заможных землеўласнікаў, прадпрымальнікаў і фінансістаў. Такія надзеі даваў прыклад Украіны, дзе ўладу ў свае рукі ўзяў аўтарытарны лідар гетман Паўло Скарападскі. Прыход у Кіеве да ўлады «правых» прынёс, на дзіва, станоўчыя зрухі ў справе развіцця ўкраінскай нацыянальнай адукацыі. Міністэрства народнай асветы Украінскай Дзяржавы на чале з украінскімі «кадэтамі» М. Васыленкам, П. Стэбныцкім і В. Навумэнкам усяго за 7 месяцаў сваёй чыннасці на ніве ўкраінскай школьнай справы зрабіла значна болей, чым ранейшы ўрад народных сацыялістаў УНР. Калі ўкраінскія пачатковыя школы сотнямі адчыняліся на сродкі мясцовых земстваў ды па прыгаворах сялянскіх грамад і з гэтым праблем не было, дык стварэнне ўкраінскіх сярэдніх і вышэйшых школ ішло вельмі марудна з–за супраціву прарасійскі настроеных выкладчыкаў і бацькоўскіх камітэтаў, дзе шмат было неўкраінцаў. Міністэрства адмовілася ад прымусовай украінізацыі гэтых адукацыйных устаноў, пазбягаючы празмернай палітызацыі моўнага пытання. Проста «гетманскі кабінет» паступова скарачаў фінансаванне расійскіх школ, укладваючы вызваленыя сродкі на развіццё навастворaных украінскіх сярэдніх і вышэйшых адукацыйных устаноў. Гэта дало свой вынік. У канцы 1918 г. ва Украіне ўжо дзейнічала 150 украінскіх сярэдніх адукацыйных устаноў розных тыпаў. У школах з расійскай мовай выкладання ўрадавай пастановай было ўведзена абавязковае выкладанне ўкраінскай мовы і ўкраіназнаўства. 6 кастрычніка 1918 г. у Кіеве ўрачыста быў адкрыты першы Украінскі дзяржаўны ўніверсітэт, а 22 кастрычніка — другі — у Камянец–Падольску. Увосень таго ж года ў Палтаве на сродкі органаў мясцовага самакіравання быў утвораны Украінскі гісторыка–філалагічны факультэт. Самай

[532] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 137, арк. 79.
[533] Тамсама, ф. 3, воп. 1, спр. 138, арк. 74.

знамянальнай падзеяй у гісторыі ўкраінскай суверэннай дзяржавы і навукі стаў дзень 24 лістапада 1918 г. — дата ўтварэння Украінскай Акадэміі навук[534].

Стаўка беларускіх «правых» была зроблена на старшыню Мінскага Беларускага народнага прадстаўніцтва Р. Скірмунта. Апошні з канца красавіка 1918 г. ужо вёў перамовы з тутэйшымі абшарнікамі аб іх магчымай фінансавай падтрымцы нацыянальна–дзяржаўных праектаў БНР узамен на ўрадавыя гарантыі па адмове суцэльнай сацыялізацыі абшарніцкай зямлі. Кандыдатура Скірмунта як старшыні новага ўрада з цяжкасцю, але была зацверджана Радай БНР у чэрвені 1918 г. Яго кабінет павінен быў стаць кааліцыйным і складацца з адмыслоўцаў. На пасаду Народнага сакратара асветы, дарэчы, планавалася кандыдатура Р. Астроўскага.

Яшчэ на стадыі фармавання свайго кабінета Скірмунт і ягоныя памочнікі распрацавалі праграму сваіх намераў. Яна тычылася таксама і сферы нацыянальнай адукацыі. Разам з планамі па ўтварэнню краёвага ўніверсітэта дэкларавалася:

— умацаванне і пашырэнне беларускай пачатковай і сярэдняй школы па ўсяму краю;

— зварот на радзіму з эвакуацыі ўсіх навучальных устаноў Беларусі, якія апынуліся на чужыне падчас сусветнай вайны;

— падтрыманне беларускай нацыянальнай культуры праз выдавецтва беларускіх навуковых падручнікаў;

— рэальнае паступовае забеспячэнне дзяржаўнага статусу беларускай мовы і ўвядзенне яе ва ўсе ўрадавыя ўстановы[535].

Але легалізацыя другога ўрадавага кабінета БНР на чале са Скірмунтам так і не адбылася: спачатку «левыя» і «правыя» не падзялілі «міністэрскія» партфелі, а пазней эсэры і сацыял–федэралісты, што складалі большасць Рады БНР, увогуле заблакавалі ранейшую пастанову беларускага прадстаўнічага органа аб абранні новага складу Народнага сакратарыята Беларусі[536]. Пазней быў сфармаваны іншы кааліцыйны ўрад на чале з Янкам Серадой, які па–ранейшаму знаходзіўся пад уплывам левых радыкалаў.

Прызначаны ў красавіку 1918 г. адказным сакратаром Беларускай школьнай субкамісіі Т. Грыб шмат зрабіў для развіцця беларускага школьніцтва ў Мінску. Пры ім колькасць беларускіх школ у горадзе падвоілася і дасягнула васьмі. Адбылося гэта пасля таго, як лідар беларускіх эсэраў дамогся ад гарадскіх улад перадачы беларусам 4 школ–страўняў зліквідаванага Усерасійскага земскага саюза [гл. *Дадатак 17.9*].

Увосень 1918 г. на сродкі Беларускай хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці ў Мінску была арганізавана першая беларуская грамадская школа для дарослых. Па характару навучання яна была свецкай, а па складу слухачоў — шматканфесіянальнай, дзе разам вучыліся і каталікі, і праваслаўныя. У школе па–беларуску выкладаліся ўсе агульнаадукацыйныя дысцыпліны з дадаткам беларусазнаўчых прадметаў. Разам з беларускімі каталіцкімі святарамі а. Фабіянам Абрантовічам і а. А. Пупко тут выкладалі Я. Лёсік, В. Іваноўскі, Б. Тарашкевіч, А. Гірконт. Падчас вучобы ў школе праводзіліся

---

[534] Полонська–Василенко Н.Д. Історія України. — Мюнхен, 1973—1976. — Т. 2. — С. 345—347.

[535] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 10, арк. 77—77 адв.

[536] А. Сідарэвіч памыляецца, калі сцвярджае ў сваёй публікацыі «Урады БНР і кабінет Рамана Скірмунта» (Архэ. — 2008. — № 4. — С. 108—126), што кабінет Р. Скірмунта атрымаў усе паўнамоцтвы ад Рады БНР і нейкі час афіцыйна функцыянаваў як беларускі ўрад. Ранейшы Старшыня Народнага сакратарыята Беларусі Я. Варонка 13 чэрвеня 1918 г. адмовіўся падпарадкавацца рашэнню Рады і не перадаў урадавую пячатку і канцылярыю Скірмунту. Пазней «левыя» раднікі БНР пайшлі на аднаўленне Выканаўчага камітэта Усебеларускага з'езда і яго пастановай заблакавалі чэрвеньскае рашэнне Рады БНР аб зацвярджэнні кабінета Скірмунта. Гл. больш падрабязна па гэтаму пытанню наступныя архіўныя крыніцы: НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 76—78, 99—101; спр. 10, арк. 77—77 адв.; спр. 15, арк. 53—53 адв., 66; спр. 19, арк. 32; спр. 21, арк. 164, 226—227,251.

адкрытыя дыскусіі па гісторыі і сучасным стане беларускага нацыянальнага адраджэння, а таксама па розных надзённых палітычных і сацыяльных праблемах. Не забываліся і аб гутарках пра Бога, якія праходзілі ў вольнай форме, у выглядзе шчырага суразмоўя аўдыторыі з настаўнікам. Як правіла, такія адкрытыя ўрокі праводзіў сам загадчык школы — а. Ф. Абрантовіч[537].

Наступная ініцыятыва Т. Грыба па пашырэнню сеткі беларускіх школ пацярпела няўдачу. 10 верасня 1918 г., пасля яго дакладной запіскі, Народны сакратарыят БНР запатрабаваў у новага складу гарадскога магістрата Мінска, сфарміраванага нямецкай акупацыйнай уладай, увядзення абавязковага выкладання ва ўсіх мясцовых школах беларускай мовы, гісторыі і геаграфіі Беларусі, скасавання «вялікарускай» школьнай субкамісіі, «як зусім не патрэбнай у нашым Беларускім краі», перадачы пад загад Беларускай школьнай субкамісіі большай часткі існуючых у горадзе расійскіх вучэльняў з далейшай іх беларусізацыяй[538]. Але прарасійскія і габрэйскія дэпутаты адверглі гэтыя, з іх пункту гледжання, «шавіністычныя наскокі» беларусаў. З–за канфлікту з габрэйскай грамадой Т. Грыб у канцы верасня 1918 г. змушаны быў падаць у адстаўку са сваёй пасады, а на яго месца з 1 кастрычніка заступіў С. Рак–Міхайлоўскі.

Паступова Мінск становіцца галоўным цэнтрам беларускай нацыянальнай адукацыі ва ўсёй Беларусі. Напрыканцы 1918 г. пад апекай беларускіх грамадскіх арганізацый тут дзейнічала ўжо 9 беларускіх пачатковых школ [гл. *Дадатак 17.8*]. Яны складаліся з 33 школьных камплектаў, дзе вучылася звыш 700 дзяцей[539]. Ішла падрыхтоўка да адчынення сярэдняй беларускамоўнай навучальнай установы на базе 3–й Мінскай вышэйшай пачатковай вучэльні [гл. *Дадатак 17.7 і 17.9*].

1 кастрычніка 1918 г. стаў знамянальнай падзеяй для ўсіх мінскіх католікаў. З дазволу і дабраслаўлення Мінскага біскупа а. Зыгмунта Лазінскага ў горадзе ўрачыста адкрылася каталіцкая духоўная семінарыя, рэктарам якой быў прызначаны лідар беларускіх хадэкаў доктар тэалогіі а. Ф. Абрантовіч[540]. Большасць дысцыплін у дадзенай духоўнай школе чыталіся на латыні і па–польску, але разам з польскай мовай у семінарыі выкладалася беларуская мова і беларусазнаўчыя дысцыпліны[541]. Значную падтрымку ў стварэнні гэтай духоўнай навучальнай установы аказала М. Радзівілава. Княгіня перадала на патрэбы семінарыі частку памяшканняў былога касцёла айцоў дамініканаў (на рагу вуліц Петрапаўлаўскай і Крышчэнскай), выкупленага фундаторкай у горада ўвесну 1914 г., яшчэ напярэдадні Першай сусветнай вайны, «з мэтай тамака аднавіць старасвецкі будынак дамініканскага касцёла і ўладзіць пры ім дабрачынную ўстанову»[542].

На павестку дня станавілася заданне падрыхтоўкі настаўнікаў для беларускіх пачатковых школ. Утвораныя ў Мінску ў красавіку 1918 г. Народным сакратарыятам БНР курсы беларусазнаўства карысталіся вялікай папулярнасцю. «Запіс на курсы, — пісала мясцовая газета, — перавысіў усе чакаемыя спадзяванні. Склад слухачоў — самы разнастайны: людзі сталага ўзросту, малапісьменныя падлеткі, гімназісты і студэнты. Большасць слухачоў — беларусы, але прысутнічалі і габрэі, палякі і ўкраінцы»[543]. Свае навукова–папулярныя лекцыі па гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай культуры і мастацтва чыталі Я.

[537] Езавітаў К. У 25–я ўгодкі Усебеларускага Кангрэса // Раніца. — 1943, 8 жн.; Вавуло В.В. Образование в Минске в первые годы советской власти // Минская школа. — 2002. — № 2. — С. 79.

[538] Вавуло В.В. Образование в Минске в первые годы советской власти.., с. 61.

[539] НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 2; Городские школы // Минский голос. — 1918, 19 авг.

[540] Открытие Минской римской католической семинарии // Минский голос. — 1918, 11 окт.

[541] Сцвярджэнні Валянціна Мазца аб тым, што ў дадзенай семінарыі ўсё выкладанне вялося па–беларуску, не пацвярджаюцца дакументальнымі крыніцамі.

[542] Наша ніва. — 1914, 12 траўня.

[543] Курсы белорусоведения // Бобруйский голос. — 1918, 3 мая.

Лёсік, Мар'ян Масоніус, С. Лянкоўскі, Рамуальд Зямкевіч, Я. Варонка, А. Смоліч і іншыя навукоўцы і дзеячы нацыянальнага руху[544]. Але функцыянавалі яны ўсяго 2 месяцы (красавік–травень) і, безумоўна, не маглі даць грунтоўных ведаў і метадычных навыкаў, неабходных настаўніку для працы ў школе. Трэба было думаць пра больш сур'ёзную педагагічную падрыхтоўку будучых настаўнікаў беларускамоўных школ.

5 верасня 1918 г. па ініцыятыве Т. Грыба ў беларускай сталіцы распачалі чыннасць 9–месячныя беларускія бясплатныя настаўніцкія курсы. Адсутнасць свабодных памяшканняў прымусіла Народны сакратарыят Беларусі прадставіць для правядзення заняткаў курсантаў залу пасяджэнняў Рады БНР (дом на рагу вуліц Захар'еўскай і Скобелеўскай). Заняткі адбываліся ў вечаровы час — з 18.00 да 22.00 — гэта з–за таго, што асноўны кантынгент слухачоў, а запісалася на курсы 60 чалавек, складаўся з дзеючых настаўнікаў, якія днём працавалі ў школах. Лекцыі чыталіся па наступных дысцыплінах: гісторыя Беларусі, беларуская мова, гісторыя беларускай літаратуры і беларускай культуры, геаграфія Беларусі, педагогіка і дыдактыка, методыка выкладання праз «практычнае азнаямленне з ілюстраваным метадам адукацыі», а таксама асновы ручной працы, спевы і спартовыя гульні. У першапачатковы склад выкладчыкаў увайшлі С. Рак–Міхайлоўскі (дырэктар), Мацей Кіркевіч (загадчык спраў), С. Арлоў, Мікалай Байкоў, А. Данілевіч, Р. Зямкевіч, Я. Лёсік, А. Смоліч, І. Усцюжанінаў, пазней да іх далучыліся В. Іваноўскі, У. Ігнатоўскі, Антон Неканда–Трэпка і Віктар Вайтэнка. Асобныя лекцыі па гісторыі беларускага нацыянальнага руху чытаў Я. Варонка.

Першы месяц свайго існавання курсы атрымлівалі фінансаванне ад гарадской управы, але, з–за адмовы апошняй па палітычных матывах працягваць іх утрыманне, урад БНР вымушаны быў звярнуцца за грашовай дапамогай да нямецкай вайсковай адміністрацыі. З вялікай цяжкасцю Я. Серадзе ўдалося дамагчыся ад немцаў фінансавай субсідыі, што пакрывала 90% выдаткаў па ўтрыманню гэтай педагагічнай установы[545]. Курсы працягвалі працаваць і ў савецкі час — да лета 1919 г.[546].

Трэба сказаць, што некаторыя курсанты з пэўнай цяжкасцю авалодвалі беларускай мовай і методыкай яе выкладання ў пачатковай школе [гл. *Дадатак 17.10*]. Справа была новай, і ўсе яны былі яе пачынальнікамі. Але ў некаторых выпадках асобныя курсанты праяўлялі вялікія здольнасці ў авалодванні асновамі беларускай філалогіі і ведамі па беларусазнаўству. Напрыклад, пісьмовы твор этнаграфічнага зместу курсанта Юркі Лістапада «Слуцкае вяселле» настолькі ўпадабаўся Я. Лёсіку, што той пазней апублікаваў яго ў газеце «Беларусь»[547].

Мінск быў не адзіным месцам ва Усходняй Беларусі, дзе была арганізавана педагагічная падрыхтоўка будучых настаўнікаў па беларусазнаўчых дысцыплінах. У Бабруйску сябра Рады БНР, выкладчык матэматыкі мясцовай мужчынскай гімназіі Я. Успенскі ўвайшоў у кіруючыя органы шэрагу агульнапавятовых і гарадскіх педагагічных устаноў (Бабруйскага павятовага настаўніцкага хаўрусу, Таварыства садзейнічання пазашкольнай адукацыі г. Бабруйска) і дзякуючы гэтаму паспрыяў

---

[544] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 72.

[545] Тамсама, спр. 19, арк. 181; ДАМВ, ф. 864, воп. 1, спр. 1, арк. 2—2 адв.; Белорусские курсы // Минский голос. — 1918. 8 авг.; Ляхоўскі У.В. Беларускія настаўніцкія курсы // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 338—342.

[546] Пасля сыходу немцаў чыннасць курсаў не спынілася. Пад свой «дах» іх узяў Наркамасветы ССРБ (пазней Літбел). Яны былі рэарганізаваны ў 1–я Мінскія беларускія педагагічныя курсы пры Мінскім Беларускім педінстытуце. Першы выпуск слухачоў адбыўся ў траўні 1919 г. У жніўні таго ж года памяшканне курсаў было занята польскімі легіянерамі, якія разрабавалі і знішчылі большую частку інвентару і вучэбнага абсталявання. З прыходам савецкіх войскаў у ліпені 1920 г. установа аднавіла сваю працу. У 1923 г. яна была рэарганізавана ў Вышэйшыя курсы беларусазнаўства.

[547] Лістапад Ю. Слуцкае вяселле // Беларусь. — 1920. — № 108—110.

уключэнню ў арганізаваныя тут кароткачасовыя агульнаадукацыйныя і педагагічныя курсы выкладання беларусазнаўчых дысцыплін, якія чыталіся Васілём Дружчыцам, Мікалаем Азбукіным і самім Успенскім[548]. На 3–месячных Бабруйскіх настаўніцкіх курсах на беларусазнаўства было адведзена 20 гадзін, таксама асобна чытаўся курс геаграфіі Беларусі (10 гадзін).

Адсутнасць падручнікаў для беларускіх пачатковых школ — адін з галоўных клопатаў Народнага сакратарыята асветы БНР. Пры ўрадзе быў створаны маленькі аддзел па падрыхтоўцы школьных падручнікаў, як арыгінальных, так і перакладных. Але для выдання падручнікаў у Мінску адсутнічалі магчымасці: амаль усе мясцовыя друкарні былі забраны нямецкай адміністрацыяй. Выданне «Матчынага дару» А. Гаруна — адна з нямногіх беларускіх кніжак, выдадзеная ў той час у беларускай сталіцы. У школах выкарыстоўваліся даваенныя школьныя чытанкі А. Пашкевічанкі і Я. Коласа, нешта паўлегальна прывозілася з Вільні. Сітуацыя палепшылася ўвосень 1918 г., калі немцы скасавалі абмежаванні эканамічных і культурных стасункаў паміж Мінскам і Вільняй. З дапамогай Беларускага выдавецкага таварыства і іншых віленскіх выдавецтваў у канцы 1918 г. — пачатку 1919 г. былі выдадзены «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, «Зорка: Беларуская граматыка» Алесі Смоліч, «Геаграфія Беларусі» Аркадзя Смоліча, а таксама «Новы лемантар» Я. Станкевіча, «Другая чытанка пасля лемантара для пачатковай школы» В. Ластоўскага ды іншыя перавыдадзеныя на кірыліцы беларускія падручнікі, што выкарыстоўваліся ў школах Обер Ост.

Чыннасць мінскіх беларускіх школ адбывалася ў цяжкіх матэрыяльных варунках: не хапала падручнікаў, сшыткаў, іншых школьных прыналежнасцяў, дзеці падчас навучання не былі забяспечаны гарачым сілкаваннем, частка з іх не мела цёплай вопраткі і абутку. Па магчымасці гэтыя праблемы імкнуліся вырашаць гарадскі магістрат і школьная камісія, Народны сакратарыят БНР, грамадскія дабрачынныя ўстановы.

Прынамсі, створанае ў траўні 1918 г. па ініцыятыве П. Бадуновай Беларускае жаноцкае дабрачыннае таварыства «Цётка» (у гонар беларускай паэткі А. Пашкевіч) імкнулася пасільна матэрыяльна дапамагаць беларускім школьнікам[549]. Кіраўніцтва Мінскай беларускай пачатковай школы № 28 (былая школа–страўня Усерасійскага земскага саюза) тады ж, у траўні, ініцыявала стварэнне для вучняў школьнага летніка ва ўрочышчы Антонаўка недалёка ад горада. Гэтага вымагаў стан здароўя былых беспрытульных дзяцей–сірот, якія засталіся без бацькоў падчас вайны і складалі значную частку вучняў гэтай школы. Яны туліліся ўвесь навучальны год у школьным прытулку–інтэрнаце і не мелі магчымасці ў летні перыяд паехаць на вёску. Настаўнікі гэтай вучэльні самаахвярна прынялі на сябе асноўныя клопаты па ўладкаванню летняй школьнай «калоніі»: дамагліся выдзялення дома для летніка, сваімі сіламі перавезлі сюды сваіх навучэнцаў, а таксама дзяцей–сірот з іншых беларускіх школ Мінска. На пустуючым зямельным участку яны разам са сваімі вучнямі засеялі гародніну. Сабраны ўраджай забяспечыў школу «вітамінным сілкаваннем» да зімы. «З рэдкай энергіяй, — пісаў сакратар Беларускай школьнай субкамісіі, — яны [настаўнікі. — *У. Л.*] здабываюць для калоніі прыватныя ахвяраванні харчовымі прадуктамі, грашыма, але гэтага, канешне, недастаткова, а задуманая самаахвярная праца можа заглохнуць на паўшляху»[550]. Гарадская адукацыйная камісія выдаткавала на патрэбы беларускага летніка 5 тыс. руб. з патрэбных 16 тыс. руб. у год. Астатнія сродкі здабываў Народны сакратарыят БНР і Краўніцтва школы.

---

[548] Курсы для народных учителей // Бобруйский голос. — 1918, 1 мая; Общеобразовательные курсы // Бобруйский голос. — 1918, 14 мая.

[549] Гапава А., Ляхоўскі У. Жаночы рух // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 1996. — Т. 3. — С. 365.

[550] НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 4—7 адв.

Стварэнне Будслаўскай беларускай гімназіі сталася адным з нямногіх удалых, так бы мовіць, беларуска–нямецкіх адукацыйных праектаў. Для пераўтварэння Будслаўскай беларускай пачатковай школы ў гімназію на валасным сходзе мясцовых жыхароў у студзені 1918 г. быў утвораны арганізацыйны камітэт, які ўвесну папрасіў ад урада БНР патрэбных грошай на рэарганізацыю. Народны сакратарыят Беларусі дамогся ад камандуючага 10–й нямецкай арміі генерала Эрыха фон Фалькенгайна выдзялення з Мінскай губернскай скарбніцы 20 тыс. руб. на гэтыя патрэбы. Беларускай сярэдняй школе была даравана дзяржаўная грамата БНР, у якой было запісана, што яе выпускныя атэстаты «даюць права асобам, якія іх будуць мець, займаць усякія пасады ў Дзяржаве Беларускай і перавагу перад скончыўшымі небеларускія школы, дзеля таго, што Будслаўская гімназія выпускае людзей добра пазнаўшых свой край і шчыра яму адданых»[551].

Гаспадары мястэчка выдзелілі на ўзвядзенне новага будынка гімназіі 2 моргі зямлі, а ўрад БНР даслаў у Будслаў свайго дзяржаўнага дойліда, вядомага архітэктара Лявона Вітан–Дубейкаўскага, які стварыў арыгінальны праект двухпавярховага вучэбнага корпуса[552]. 15 снежня 1918 г. адбылося афіцыйнае адкрыццё першай беларускай гімназіі, урачыста асвечанае каталіцкімі святарамі з Ваўкавыска, Будслава і Парфіянава. У школе пачалася штодзённая вучэбная праца. У склад педагагічнай рады ўвайшлі Я. Васілевіч, Э. Будзька, Навум Козіч і іншыя выкладчыкі. Школу наведвала каля 300 беларускіх дзяцей. Пры ёй быў утвораны беларускі вучнёўскі гурток «Вяночак», які зладзіў 25 сакавіка 1919 г. урачыстае святкаванне першых угодкаў акта незалежнасці Беларусі[553].

Але шавіністычна настроеныя польскія крэсоўцы ўвесь час існавання беларускай гімназіі намагаліся яе знішчыць. Мясцовы бургамістр Пянткоўскі неаднаразова дасылаў немцам «сігналы», што гімназія з'яўляецца «гняздом бальшавізму», вымагаў ад гаспадара дома, дзе часова месцілася школа, каб той скасаваў з ёй арэнду. Але пакуль нямецкія войскі знаходзіліся ў валасці, ураду БНР і кіраўніцтву гімназіі ўдавалася яе адстойваць. І толькі пасля прыходу ў Будслаў польскіх легіянераў, у верасні 1919 г., першая беларуская гімназія была зліквідавана, нягледзячы на пратэсты звыш 500 жыхароў мястэчка і навакольных вёсак — бацькоў яе навучэнцаў[554].

Стварэнне ўвосень 1917 г. беларускай пачатковай школы ў в. Жорнаўка і матэрыяльная падтрымка Мінскай каталіцкай семінарыі былі не адзінымі фактамі мецэнацтва М. Радзівілавай на карысць беларускай школьнай асветы. Па ініцыятыве ўпраўляючага радзівілаўскімі маёнткамі, вядомага беларускага дзеяча Юстына Мурашкі княгіня заснавала і ўтрымлівала яшчэ 3 беларускія пачатковыя школы ў Ігуменскім павеце: у вёсках Каменка, Сямёнавічы, а таксама ў засценку Кухцічы каля Узды[555].

Да арганізацыі беларускай пачатковай школы ў 1918 г. прычыніўся таксама «вечны вандроўнік» — вядомы беларускі мастак Язэп Драздовіч. Заручыўшыся падтрымкай беларускага каталіцкага святара а. Міхала Пятроўскага, ён яшчэ ў канцы 1917 г. заснаваў у в. Германавічы Дзісенскага павета спажывецкі кааператыў «Беларусь». У ліпені 1918 г. у названай вёсцы (былым мястэчку) адбываецца сход прыхільнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці, на якой была ўхвалена пастанова пра ўтварэнне ў Дзісенскім дэканаце беларускіх школ[556]. Драздовіч, удзельнік гэтага сходу,

---

[551] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 67.

[552] Быў узведзены нават першы паверх гімназіі, але завяршыць будаўніцтва да канца перашкодзіла польска–савецкая вайна.

[553] Жук–Грышкевіч Р. Жыццё Вінцэнта Жук–Грышкевіча.., с. 38—39.

[554] НАРБ, ф. 878, воп. 1. спр. 16, арк. 1—2, 12; Будслаўская гімназія // Беларускае жыццё. — 1919. — № 15. — С. 6—7; Ляхоўскі У. Беларуская справа падчас польскае акупацыі // Спадчына. — 1994. — № 6. — С. 63.

[555] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 15, арк. 46—47; Хурсік В.У. Белы лебедзь у промнях славы. Магдалена Радзівіл.., с. 60; Ляхоўскі У. Беларуская справа падчас польскае акупацыі.., с. 81—82.

[556] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 293, арк. 4—5. У пункце 4–м агульнай рэзалюцыі сходу запісана: «Школы

атрымаўшы фінансавую помач ад беларускіх ксяндзоў, закладае ў Германавічах першы беларускі адукацыйны асяродак ва ўсім павеце, які стаў тут цэнтрам нацыянальна–культурнага жыцця. Пры школе была створана бібліятэка–чытальня, школьны аматарскі тэатр і хор[557].

У рэдкіх выпадках сяляне самі ініцыявалі адкрыццё беларускіх школ у правінцыі. З архіўных дакументаў і гістарычнай літаратуры вядома, што прыгаворы на адкрыццё беларускіх школ у 1918 г. склалі сяляне вёсак Моўчадскай воласці Слонімскага павета і Мядзведзіцкай воласці Слуцкага павета[558]. Ініцыятыву мядзведзічанаў падтрымаў мясцовы каталіцкі пробашч Хрулевіч, які, насуперак «рэкамендацый» мясцовага рэвідэнта Польскай рады Зямлі Мінскай Г. Свянціцкага, стаў на бок тутэйшых сялян і выдзяліў для Мядзведзіцкай школы патрэбнае памяшканне. На настаўніцтва з Мінска былі запрошаны П. Мядзёлка і яе родны брат Казік. У воласці з восені 1918 г. сталі дзейнічаць адразу дзве беларускія школы: у вёсках Мядзведзічы і Гайнін. Гэтыя грамадскія адукацыйныя ўстановы праіснавалі да канца навучальнага года і спынілі сваю чыннасць толькі ўлета 1919 г., ужо з прыходам польскіх войск[559].

Шырокую культурную працу разгарнуў у Сенненскім і іншых паветах Магілёўскай губерні ўпаўнаважаны Рады БНР ксёндз а. А. Астрамовіч, больш вядомы як паэт А. Зязюля. У мясцовых касцёлах ён праводзіў беларускія казанні, вёў з тутэйшымі сялянамі агульныя гутаркі па палітычнай і сацыяльнай тэматыцы, ініцыяваў стварэнне нацыянальных гурткоў. Але арганізаваць тут сталыя беларускія школы яму так і не ўдалося[560].

Выяўлены звесткі стварэння беларускай адукацыйнай установы ўвесну 1918 г. каля Бабруйска. У Лагернай Слабадзе сіламі Бабруйскага беларускага культурна–асветнага таварыства была адкрыта беларуская нядзельная школа пад загадам настаўніка І. Загорскага. Грошы на яе ўтрыманне былі сабраны за кошт сяброўскіх складак, правядзення дабрачынных спектакляў і канцэртаў, а таксама падчас «кружкавых збораў» сярод гараджан. Школу наведвала звыш 100 дзяцей[561].

Не маючы афіцыйнага дазволу з боку земскіх школьных улад, шэраг настаўнікаў пачатковых школ Міншчыны па ўласнай ініцыятыве факультатыўна выкладалі сваім вучням «беларускае пісьмо і чытанне». Увосень 1918 г. беларуская мова негалосна выкладалася ў Бабруйскім павеце: у Коўчыцкай земскай школе Броўскай воласці (настаўнік А. Дарафееў), у Ігуменскім павеце: у 2–й Грабенскай земскай школе (Ф. Цярэшка), Яршоўскай земскай школе Магільнянскай воласці і Чарнаградскай земскай школе Грабенскай воласці (В. Гарбацэвіч), Колкаўскай земскай школе Заастравецкай воласці (М. Раманоўскі), у Слуцкім павеце: Панкратавіцкай земскай школе Клецкай воласці (А. Каўпак), Заельніцкай земскай школе Грыцэвіцкай воласці (Алесь Аніхоўскі), Ёдчыцкай земскай школе Грыцэвіцкай воласці (Г. Колесава)[562]. Гадаванец Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Васіль Ажгірэй у гады

---

вінны быць парафіяльныя і каталіцкія. Звязкі [БХДЗ. — *У. Л.*] павінны стварыць не меней чым па адной добрай школе пры касцёле, а ў мястэчку — па меры патрэбы і магчымасці. Прыняцце дзяцей іншага веравызнання ў школы... са згоды гурткоў Каталіцкай хрысціянскай дэмакратыі. У Дзісенскім дэканаце мусяць быць утвораны школы беларускія з выкладовай беларускай мовай пры пэўнай аўтаноміі для іншых народнасцяў».

[557] Калоссе (Вільня). — 1938. — № 3. — С. 183—185.

[558] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 133, арк. 50—51; Гесь, А. «Ідзіце шляхам мядзведзічан, дамагайцеся сваёй роднай беларускай школы…» // Наша слова. — 1999, 24 лют.

[559] Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця.., с. 121—127;

[560] НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 8, арк. 54—54 адв.; спр. 19, арк. 158.

[561] Собрание Белорусского культурно–просветительного общества 8—21 апреля 1918 г. // Бобруйский голос. — 1918, 26 апр.

[562] НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 243—244; спр. 33, арк. 162—163, 178—182; спр. 34, арк. 145—149;

Першай сусветнай вайны, працуючы ў вучэльнях Бабруйскага і Ігуменскага паветаў, у пазашкольны час знаёміў вучняў старэйшых класаў з беларускай літаратурай і перыёдыкай, а ў 1918 г. у вёсцы Блонь арганізаваў беларускі вучнёўскі гурток для вывучэння роднай гісторыі і фальклору[563].

Прыведзеныя факты не акрэсліваюць усіх рэальных вынікаў чыннасці актывістаў беларускага нацыянальнага руху на школьнай ніве і ідэйнага ўплыву Беларускай Народнай Рэспублікі на адукацыйныя працэсы ў зоне «новай акупацыі». Тое, што менавіта БНР стала галоўным каталізатарам гэтых працэсаў, апасрэдавана могуць сведчыць наступныя дадзеныя. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе Мінскага губернскага аддзела народнай адукацыі Літбел (фонд № 804) захавалася частка анкетных лістоў апытання настаўнікаў названай губерні, праведзенага Мінскім губернскім земствам у канцы 1918 г. Яны прадстаўляюць цікавую інфармацыю пра нацыянальны склад, канфесійную прыналежнасць навучэнцаў і педагогаў, а таксама адукацыйны цэнз апошніх. Паводле гэтай інфармацыі можна прааналізаваць тагачасны ўзровень нацыянальнага самаўсведамлення настаўніцтва, абсалютную большасць якога ў сельскай мясцовасці складалі беларусы — фактычна ўсе праваслаўныя па свайму веравызнанню. Аналізуючы гэтыя матэрыялы, можна вызначыць нацыянальна–культурную арыентацыю школьных працаўнікоў. Каштоўнасць гэтых анкет вызначаецца якраз тым, што ўпершыню органы мясцовага самакіравання, праводзячы апытанне настаўнікаў, увялі ў анкетныя лісты пытанні, якія закраналі нацыянальную і моўную праблемы. У царскі час рабіць гэта было забаронена. Да рэвалюцыі, па вядомых прычынах, падавалася толькі веравызнанне апытуемага. Дадзены факт — таксама вынік змены палітычнай сітуацыі ў краі. Пад уплывам беларускага нацыянальнага руху Мінскі павятовы камітэт народнай адукацыі ў сваёй рэзалюцыі, што датуецца жніўнем 1918 г., пастанавіў аб тым, што ўсім мясцовым нацыянальнасцям павінна быць прадстаўлена права і магчымасць навучання ў школах на роднай мове. Таксама пастанаўлялася не дапускаць паланізацыі і русіфікацыі беларускіх дзяцей, а для іх нацыянальнага самаўсведамлення прапаноўвалася ўвесці ў курс школьнага выкладання беларускую мову і беларусазнаўства (гісторыю і геаграфію мясцовага краю, беларускую літаратуру і фальклор) [гл. *Дадатак 21*].

Казаць аб паўнаце і абсалютнай дакладнасці прыведзеных ніжэй статыстычных выкладак, складзеных аўтарам гэтых радкоў пасля апрацоўкі анкетных лістоў, не прыходзіцца. На жаль, час не пашкадаваў гэтыя дакументы: большасць анкет не захавалася. У архіве выяўлена 586 анкетных лістоў, што складае прыкладна 30% ад агульнай колькасці ўсіх настаўнікаў земскіх пачатковых школ, што працавалі тады на Міншчыне. Яны прадстаўляюць 4 паветы: Бабруйскі — 74 анкетныя лісты, Ігуменскі — 55, Мінскі — 194 і Слуцкі — 263. Нягледзячы на няпоўную рэпрэзентатыўнасць гэтых звестак, прадстаўленая інфармацыя дазваляе з упэўненасцю характарызаваць нацыянальныя працэсы, што адбываліся тады ў школьнай сферы Мінскай губерні[564].

З інфармацыі дадзеных анкет выяўляецца, што пераважная частка вучняў названых школ (да 98%) з'яўляліся праваслаўнымі. Гэта красамоўная інфармацыя. Яна сведчыць пра тое, што бальшыня дзяцей тутэйшых беларусаў–каталікоў не наведвала рускамоўныя земскія школы, а была ахоплена польскай асветай.

416 настаўнікаў ад агульнай колькасці анкетуемых назвалі сябе беларусамі (каля 71%), 129 — расійцамі[565] (22%), 12 (меней 2%) — прадстаўнікамі іншых

спр. 35, арк. 101—105, 126—130, 152—156; спр. 37, арк. 59—62.

563 Лепшыя настаўнікі Ігуменшчыны: В. Ажгірэй // Савецкая Беларусь. — 1923, 11 траўня.

564 Гл.: НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 27—32.

565 Амаль усе рэспандэнты дадзенай групы ў графе анкетнага ліста «нацыянальнасць» пазначалі сябе «русскими» і толькі адзінкі — «великоросами».

нацыянальнасцяў (палякі, літоўцы ды інш.), 29 (5%) — не адказалі на гэтае пытанне анкеты. З настаўнікаў, якія назвалі сябе беларусамі, каля 52% адказалі, што іх роднай мовай з'яўляецца беларуская, 25% — расійская, 5% — беларуская і расійская, 18% — не адказалі на гэтае пытанне.

Але самае цікавае наперадзе: 69% ад агульнай колькасці, у тым ліку і значная частка «русских», адзначылі, што ў земскіх расійскамоўных школах беларускіх дзяцей навучаюць не на іх роднай мове. Каля 18% заявілі, што расійская мова ёсць родная мова для беларускіх дзяцей, а 13% — не адказалі на гэта пытанне.

Як бачым, абсалютная большасць настаўніцтва Міншчыны прызнавала, што беларускія дзеці вучыліся чытаць і пісаць не на роднай, а на чужой, расійскай мове. Гэта вельмі красамоўны і прынцыповы момант. Самі педагогі, якія навучалі дзяцей па–расійску, прызнавалі факт русіфікацыі. Такое прызнанне яны зрабілі самастойна, без усялякага знешняга ціску. Пасля гэтай канстатацыі ім засталося зрабіць яшчэ адзін свядомы і неабходны крок — распачаць вучыць дзяцей па–беларуску. Гэта адбудзецца пазней — падчас савецка–польскай вайны. Вось вытокі будучай «афіцыйнай» беларусізацыі 1920–х гадоў.

Прыведзеныя факты, на нашу думку, даказваюць, што абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі мела вялікі палітычны рэзананс і ідэйны ўплыў на грамадства Беларусі, асабліва на той частцы этнічнай беларускай тэрыторыі, дзе палягала яе чыннасць. Многія нацыятворчыя працэсы, звязаныя з развіццём нацыянальнай культуры і адукацыі, пашырэннем грамадскага статусу беларускай мовы былі актуалізаваны і актывізаваны падчас існавання БНР.

Нехта можа не пагадзіцца з гэтай высновай, аргументуючы гэта тым, што названыя працэсы былі дэтэрмініраваны не БНР, а самім ходам падзей падчас Першай сусветнай вайны. «Беларускі адраджэнскі рух…, — пісаў Змітрок Бядуля, як бы ў пацвярджэнне гэтаму аргументу, — не здолеў зрабіць таго, што зрабіла імперыялістычная вайна ў працягу двух год. Найлепшым агітатарам у справе абуджэння ад сну беларускіх сялянскіх мас было само жыццё — ненармальнае, выбітае з векавечнай каляі ў часе вайсковых падзей на Беларусі. Тут было тады праўдзівае перасяленне народаў: тысячныя грамады ўцекачоў з беларускіх вёсак у глыб Расіі, наплыў к нам розных народнасцяў у вайсковых атрадах на фронце, у вайскова–гаспадарчых арганізацыях, па нашых гарадах і вёсках і г.д. Гэты бурны час быў найлепшай жывой агітацыйнай кнігай для беларускіх сялянскіх мас»[566].

Беларускі літаратар мае рацыю, адзначаючы відавочны ўплыў ваенных падзей 1914—1918 гг. на нацыянальнае ўсведамленне беларускіх мас. Але гэтыя настроі патрэбна было нейкім чынам інстытуалізаваць: выкласці і данесці грамадству праз канкрэтную праграму дзеянняў і, далей, патрэбна было мабілізаваць сваіх прыхільнікаў на дзеянне па яе рэалізацыі. Вяршыняй гэтай інстытуалізацыі, безумоўна, стала БНР.

Там, дзе нейкім чынам праяўлялася дзейнасць БНР і іншых беларускіх нацыянальна–дэмакратычных арганізацый, нацыятворчыя працэсы адбываліся больш актыўна. Гэта тэрыторыя Міншчыны, Віленшчыны і Гарадзеншчыны, часткова — Магілёўшчына. На Віцебшчыне, найбольш зрусіфікаваным рэгіёне Беларусі, праявы беларушчыны адчуваліся слаба, пра што сведчаць, напрыклад, вынікі іншага анкетнага апытання настаўнікаў пачатковых вясковых школ Аршанскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Лепельскага, Полацкага, Сенненскага і Суражскага паветаў Віцебскай губерні, праведзенага ў 1921 г., адносна самавызначэння імі сваёй роднай мовы[567]. Анкетаванне праводзілася выбарачна: выяўлена ўсяго 305 анкетных лістоў. Мяркуючы па прозвішчах, абсалютная большасць тутэйшых настаўнікаў з'яўлялася этнічнымі беларусамі. Але толькі

[566] З.Б. [З. Бядуля]. Думкі беларускага адраджэнца…

[567] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 16, арк. 1—66; спр. 17, арк. 1—139; спр. 18, арк. 1—87; спр. 19, арк. 1—105.

23 з іх назвалі сваёй роднай мовай беларускую (7,5%), расійскую ж абазначылі «роднай» 234 настаўнікі (76,7%), адпаведна габрэйскую (ідыш) — 15 (5,0%), польскую — 13 (4,3%), іншыя — 20 (6,5%)[568].

Увосень 1918 г., са зваротам з бежанства многіх беларускіх нацыянальных дзеячаў, беларуская культурная праца набывае іншы імпульс. Аднаўляе сваю працу Беларускі вучыцельскі хаўрус, які ўзначаліў дырэктар рээвакуіраванага з Яраслаўля Мінскага настаўніцкага інстытута У. Ігнатоўскі. Шырыцца таксама чыннасць эсэраўскай арганізацыі «Маладая Беларусь», вакол якой гуртуюцца слухачы ўзгаданага інстытута і маладыя настаўнікі. Апазіцыя да кааліцыйнага ўрада БНР з боку левацыдыкальнага крыла беларускага руху ўзрастае. У лістападзе 1918 г. урад Я. Серады змяняе кабінет А. Луцкевіча. На пасаду міністра асветы БНР прызначаецца В. Іваноўскі. Але структуры БНР у Мінску дажываюць апошнія дні. 3 снежня 1918 г., наконадні прыходу бальшавікоў, урад А. Луцкевіча пакідае беларускую сталіцу, пераязджае спачатку ў Вільню, а затым — у Горадню. В. Іваноўскі, як і У. Ігнатоўскі, Я. Лёсік, С. Рак–Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч, А. Неканда–Трэпка, М. Краўцоў, Ф. Абрантовіч, А. Гіркoнт, Ф. Аляхновіч, Р. Зямкевіч і нават «кадетствующий» Я. Карскі, не жадаючы вяртацца ў галодны Петраград, застаюцца працаваць у Мінску. Большасць гэтых дзеячаў спадзявалася на тое, што бальшавікі дадуць ім магчымасць разгарнуць тут беларускую культурную працу.

А. Луцкевіч, седзячы ўзімку 1918/19 г. у Горадні, робіць стаўку на міжнародную падтрымку БНР з боку Вялікабрытаніі, Францыі і ЗША, займаецца фармаваннем асабістага складу Надзвычайнай дыпламатычнай місіі БНР для паездкі ў Парыж на мірную канферэнцыю, дзе вырашаўся лёс былых «недзяржаўных» народаў Еўропы і фармаваліся новыя еўрапейскія геапалітычныя рэаліі[569]. Ягоныя негалосныя апаненты з боку сацыял–федэралістаў (Я. Варонка, Пётра Крачэўскі і Васіль Захарка), якія атабарыліся ў Коўна пры Міністэрстве беларускіх спраў Літвы, спадзяваліся на тое, што Гарадзеншчына і беларускія паветы Віленшчыны ўвойдуць у склад Літоўскай Рэспублікі на правах аўтаноміі. Яны разлічвалі пры падтрымцы літоўскага ўрада заняць у аўтаномным органе ўлады ключавыя пасады, а ў паветах, у якасці ўрадавых камісараў Літвы, пасадзіць сваіх людзей[570].

А. Луцкевіч, усведамляючы рэальную небяспеку інкарпарацыі заходнебеларускіх зямель у склад адроджанай польскай дзяржавы, таксама не адмаўляўся ад ідэі стварэння Заходняй Беларусі як аўтаномнай адміністрацыйнай адзінкі ў складзе Літвы, але пры гэтым выстаўляў патрабаванне, каб беларусаў на перамовах з літоўцамі прадстаўлялі мясцовыя арганізацыі — Беларуская рада ў Вільні і Цэнтральная беларуская рада Гарадзеншчыны, а не Міністэрства беларускіх спраў, якое непасрэдна падпарадкоўвалася ўраду Літвы. Урад БНР, на яго думку, павінен быў увогуле ўхіліцца ад гэтых перамоў, каб мець развязаныя рукі напярэдадні паездкі на міжнародную мірную канферэнцыю і не быць абвінавачаным у здрадзе ідэі незалежнасці Беларусі. Беларуская рада ў Вільні, якая знаходзілася пад уплывам братоў Луцкевічаў, двойчы — 14 і 21 лістапада 1918 г. — звярталася ў Літоўскую Тарыбу аб правядзенні перамоў пра ўключэнне заходнебеларускіх зямель разам з Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветамі ў склад літоўскай дзяржавы на правах аўтаноміі. Выстаўляліся наступныя ўмовы: стварэнне ў Заходняй Беларусі беларускага краёвага сакратарыята, які б прадстаўляў інтарэсы мясцовага жыхарства і меў права самастойна прызначаць сваіх упаўнаважаных чыноўнікаў у воласці і паветы; прызнанне за беларускай мовай у дад-

[568] З апошніх 5 адзначылі сваёй роднай мовай нямецкую, 5 — французскую, 4 — літоўскую, 3 — латышскую, 3 — украінскую.

[569] Гл.: Луцкевіч А. Дзённік // Полымя. — 1991. — № 4. — С. 215—225; № 5. — С. 168—192.

[570] БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 151, арк. 62—64.

зеным рэгіёне статусу дзяржаўнай; шырокае развіццё на Віленшчыне і Гарадзеншчыне беларускага школьніцтва і арганізацыя асобнай беларускай школьнай інспекцыі[571].

Новы міністр унутраных спраў БНР Кузьма Цярэшчанка, тым часам, разгортвае на Гарадзеншчыне шырокую палітычную і культурную працу. Разам з Андрэем Якубецкім, Тодарам Данілюком, Янкам Чарапуком і іншымі дзеячамі ён склікае сялянскія з'езды ў Горадні і Ваўкавыску, фармуе мясцовыя органы ўлады на савецкай аснове, імкнецца стварацъ беларускія школы[572]. Значную актыўнасць у гэты час праяўляе яшчэ адзін амбіцыйны палітык — Павал Аляксюк, які ўзначальвае Цэнтральную Беларускую раду Гарадзеншчыны. Пад яе апекай у канцы сакавіка 1919 г. склікаецца беларускі вучыцельскі з'езд, які выдзяляе са свайго складу Цэнтральную беларускую вучыцельскую раду Гарадзеншчыны ў колькасці 43 чалавек і ставіць вялікія заданні па развіццю ў рэгіёне беларускага школьніцтва [гл. *Дадатак 24*]. К. Цярэшчанка па дамоўленасці з літоўскім урадам атрымлівае 10 тыс. нямецкіх марак для арганізацыі ў Горадні беларускіх настаўніцкіх курсаў[573].

Стварэнне Віленскай беларускай гімназіі ў студзені 1919 г. — знамянальная дата ў летапісе гісторыі беларускай школьнай справы першай паловы XX ст. Заданне стварыць першую беларускую сярэднюю школу ў старажытнай беларускай сталіцы пастанавіў яшчэ ў студзені 1918 г. Беларускі з'езд у Вільні. У канцы снежня 1918 г. беларуская дэлегацыя на чале з І. Луцкевічам у момант, калі Літоўская Тарыба разам з нямецкімі войскамі пакідалі Вільню, дабілася ад літоўскага міністра асветы М. Біржышкі дазволу на ўтварэнне 8–класавай беларускай гімназіі ў Базыльянскіх мурах, дзе раней існавала епархіяльная праваслаўная духоўная семінарыя. Часовае знаходжанне ў горадзе бальшавікоў не перашкодзіла арганізацыі школы. Праўда, у першы год існавання гімназіі чыста беларускіх у ёй мелася толькі 2 падрыхтоўчыя класы. У астатніх школьных камплектах пераважалі небеларусы (пераважна мясцовыя габрэі — ад 60% да 90%). Выкладанне ў старэйшых класах адбывалася на расійскай мове. Арганізацыйны камітэт гімназіі змушаны быў троху саступіць ад сваіх прынцыпаў і пайсці на такі кампраміс «у бок рэальнай палітыкі», каб не згубіць спрыяльнага моманту для ўтварэння школы, а таксама каб захаваць за сабой прадастаўлены будынак. Было вырашана, што паступова ў старэйшых класах выкладанне будзе пераведзена на беларускую мову, «пакуль не будзе падабраны адпаведны педагагічны персанал, не з'явяцца беларускія падручнікі, не наплыве ў гімназію беларуская вясковая моладзь»[574].

Рэалізацыю іншых культурна–асветных праектаў на тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны парушыла польска–савецкая вайна і чарговая, ужо польская, акупацыя краю. Улады адроджанай Польшчы пачалі сваю працу на занятай беларускай тэрыторыі з праследу беларускіх грамадскіх арганізацый, у тым ліку адукацыйных устаноў[575]. Пачынаўся новы этап у найноўшай гісторыі Беларусі.

Роля беларускай школьнай справы для вызвольнага руху ў пачатку XX ст. уяўлялася, найперш, як важнейшы мабілізуючы, нацыятворчы фактар, як галоўны сродак нацыянальнага выхавання падрастаючага пакалення і каталізатар пашырэння нацыянальнага ўсведамлення тутэйшага жыхарства. Але, разам з гэтым, ужо ў гэты перыяд можна казаць пра тое, што раўналежна з адзначанымі фактарамі тады закладваўся фундамент сучаснага беларусазнаўства, беларускай навуковай тэрміналогіі, ствараліся асновы

[571] НАРБ, ф. 60, воп. 3, спр. 456, арк. 15—16.

[572] Тамсама, арк. 54—55, арк. 30—35 адв.

[573] Тамсама, ф. 325, воп. 1, спр. 22, арк. 58—62; Ляхоўскі У.В. Цэнтральная беларуская гродзенская вучыцельская рада // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. — Мінск, 2003. — Т. 6. — Кн. 2. — С. 118; таксама гл. *Дадатак 23*.

[574] А.Н. [Луцкевіч А.]. 1–я Віленская беларуская гімназія // Наша думка. — 1921, 27 траўня.

[575] Ляхоўскі У. Беларуская справа падчас польскае акупацыі.., с. 61—63.

класічнага беларускага правапісу, нацыянальнай педагогікі [гл., напрыклад, *Дадаткі 23 і 25*]. Актуальнымі застаюцца для сучасных даследнікаў айчыннай гісторыі адукацыі і педагагічнай думкі практычная чыннасць і тэарэтычныя напрацоўкі на гэтай ніве А. Пашкевіч–Кайрысавай, А. Луцкевіча, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, Б. Тарашкевіча, У. Ігнатоўскага, Б. Эпімах–Шыпілы, а. Ф. Абрантовіча, Я. Станкевіча, П. Мядзёлкі, Ю. Лістапада і іншых беларускіх рупліўцаў, якія сваёй працай закладалі падмурак новай нацыянальнай школы.

Але з гэтай ацэнкай у карпарацыі беларускіх гісторыкаў згодны далёка не ўсе. Так, В. Гігін цалкам адвяргае заслугі структур БНР у развіцці беларускай нацыянальнай культуры і школьнай справы, у пашырэнні нацыянальнай свядомасці сярод беларускага жыхарства. «Несамавітай, карумпаванай» БНР Гігін супрацьпастаўляе чыннасць у 1918 г. савецкага Беларускага нацыянальнага камісарыята, створанага ў лютым 1918 г. Дасягненні гэтай структуры ён характарызуе як праяву сапраўднага нацыянальнага рэнесансу[576]. Яго тэза аб нацыянальным рэнесансе на савецкай глебе ў 1918 г., звязаным з чыннасцю Белнацкама, заслугоўвае асобнай дыскусіі.

Старшыня Белнацкама Алесь Чарвякоў так вызначаў у сакавіку 1918 г. мэты і заданні дадзенай установы: «Асноўным прынцыпам пры стварэнні камісарыята было прызнанне савецкай улады і галоўная роля камісарыята — культурна–асветная. Канчатковая ж яго мэта — скліканне Усебеларускага з'езда для выяўлення волі беларускага народа. Камісарыят пры гэтым адыгрывае галоўным чынам ролю нацыянальную з вельмі слабым тэрытарыяльным прызнакам, а таму пры скліканні з'езда камісарыят павінен дзейнічаць у кантакце з іншымі нацыянальнасцямі Беларусі, пазбягаючы нацыянальнай выключнасці». Беларускі савецкі камісар выказаў спадзеў, што Усебеларускі з'езд будзе скліканы «пры першай магчымасці» і «перашкод з боку савецкага ўрада не прадбачыцца»[577].

Дык вось, праграмай–максімум Белнацкама было скліканне і правядзенне 2–га Усебеларускага з'езда, які павінен вырашыць далейшы лёс Беларусі, а праграмай–мінімум — шырокая культурна–асветная і дабрачынная праца: гуманітарная дапамога беларускім уцекачам у Расіі, садзейнічанне іх звароту на бацькаўшчыну, стварэнне краёвага ўніверсітэта, арганізацыя беларускіх школ, шырокая выдавецкая чыннасць і г.д.

Арганізаваць свабодныя выбары ў Беларусі для абрання новага складу Усебеларускага з'езда беларускім нацыянал–камуністам не дазволілі. Ленін і Сталін «падаравалі» ім эрзац–незалежнасць без выяўлення ўсенароднай волі. «Падаравалі», каб у любы момант забраць. І гэта адбылося ў сакавіку 1919 г., калі замест ССРБ была ўтворана Літбел пад кіраўніцтвам літоўскіх камуністаў. Яна ўключала тэрыторыі Мінскай, Гарадзенскай і Віленскай губерняў, а Магілёўшчына, Віцебшчына і беларуская частка Смаленшчыны яшчэ ў студзені адышлі ў склад Савецкай Расіі.

Так што застаецца гаварыць толькі аб выніках чыннасці Белнацкама на ніве нацыянальнай асветы і культуры. Але яны выглядаюць яшчэ больш сціплымі за вынікі дзейнасці БНР. Белнацкам не здолеў дабіцца ад савецкага ўрада рээвакуацыі з Расіі на радзіму звыш 140 айчынных навучальных устаноў. З яго дапамогай пры ўдзеле Народнага сакратарыята БНР удалося вярнуць у Мінск мясцовы настаўніцкі інстытут, мужчынскую казённую гімназію і інвентар рамеснай школы. Яму не дазволілі стварыць сетку беларускіх пачатковых школ не толькі з–за адсутнасці фінансавых магчымасцяў і арганізацыйных цяжкасцяў. У самім Белнацкаме не было адзінства думак адносна беларусізацыі школы. На маскоўскай нарадзе беларускіх настаўнікаў–уцекачоў, якая адбылася ў ліпені 1918 г., І. Дварчанін выступіў за тое, каб у ствараемых школах вы-

---

[576] Гигин В.Ф. Бумажная республика: из истории БНР 1918 г., с. 153.
[577] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 20, арк. 5.

кладанне адразу адбывалася на матчынай мове дзяцей, а не па–расійску, бо ў іншым выпадку гэта замарудзіць духоўнае і інтэлектуальнае развіццё беларускіх дзяцей. З ім не пагадзіўся загадчык культурна–асветнага аддзела камісарыята Ф. Турук, які заявіў, што зыходзячы з сучасных палітычных і эканамічных варункаў «мы павінны трымацца расійскай школы»[578]. Беларускамоўныя адукацыйныя асяродкі, якімі апекаваўся Белнацкам, дзейнічалі толькі ў Петраградзе. Як ужо адзначалася вышэй, яны былі створаны яшчэ ў 1916—1917 гг. тамтэйшым аддзелам Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

Для параўнання скажам, што беларускі нацыянальны актыў у Адэсе, які згуртаваўся пад кіраўніцтвам Сцяпана Некрашэвіча, Антона Баліцкага, Яўхіма Трафімава, Пётры Іллючонка, Алеся Адамовіча, Алеся Ляжневіча вакол Беларускай нацыянальнай рады і культурна–асветнай арганізацыі «Беларускі гай», пры мізэрных фінансавых магчымасцях, атрыманых ад гарадскога самакіравання Адэсы і ўрада УНР, здолеў арганізаваць адну сярэднюю беларускую школу–камуну, 4 пачатковыя вучэльні, аматарскі тэатр–студыю, а таксама наладзіць выданне ўласнай газеты[579].

У ліпені–жніўні 1918 г. у Маскве, падчас летніх вакацый, па ініцыятыве Белнацкама быў арганізаваны Беларускі народны ўніверсітэт з 2–месячным тэрмінам навучання. Да выкладання ў ім былі прыцягнуты вядомыя беларускія і расійскія даследнікі: прафесары Маскоўскага ўніверсітэта Мікалай Янчук, Уладзімір Пічэта, П. Растаргуеў, беларусазнаўцы Язэп Дыла, Яўсей Канчар, Пётр Накавіцкі–Урбановіч і інш. Набраліся праслухаць навукова–папулярныя лекцыі ўсяго 109 слухачоў. Упершыню тут пры выкладанні беларусазнаўчых дысцыплін выкарыстоўваліся дыяпазітывы з ілюстрацыямі, фатаграфіямі і картамі па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі Беларусі[580]. Але казаць пра сур'ёзную ролю дадзенай летняй школы ў справе падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў не прыходзіцца.

У культурна–асветнага і выдавецкага аддзелаў Белнацкама былі вялікія планы па арганізацыі беларускіх культурна–асветных устаноў, розных вучэбна–практычных курсаў, па выданню школьнай і навукова–папулярнай літаратуры. Я. Канчар ініцыяваў стварэнне навукова–статыстычнага аддзела, каб сабраць неабходную інфармацыю аб стане беларускай культуры і асветы, аб дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі. Але абсалютная большасць гэтых праектаў засталася нерэалізаванай з–за кардынальнага скарачэння фінансавання камісарыята. Каштарыс камісарыята з другога квартала 1918 г. быў істотна зменшаны: кіраўніцтву Савецкай Расіі было не да развіцця беларускай культуры і асветы. Увосень 1918 г. у маскоўскай сядзібе камісарыята засталося працаваць некалькі чалавек, а ў яго петраградскім культурна–асветным аддзеле — адзін — яго загадчык. З Петраграда да свайго кіраўніцтва ў Маскву апошні пісаў у сярэдзіне чэрвеня 1918 г.: «З–за фінансавых цяжкасцяў запланаваныя мерапрыемствы рэалізаваць у значнай ступені не ўдалося... Ужо другі месяц, як культурна–асветны аддзел не мае абсалютна ніякіх сродкаў: ні на пашырэнне штату аддзела, ні на іншыя патрэбы...»[581].

Па хадайніцтву Надзеі Крупскай Наркамасветы РСФСР у траўні 1918 г. выдзеліў Белнацкаму 100 тыс. руб. на арганізацыю пазашкольнай асветы сярод беларусаў–уцекачоў[582], але гэтыя грошы пайшлі не на арганізацыю культурна–асветных курсаў ці на ліквідацыю непісьменнасці, а на правядзенне прапагандысцкіх акцый (мітынгаў, палітінфармацый), стварэнне нагляднай агітацыі, выданне бальшавіцкай палітычнай літаратуры. На рахунак выдавецкага аддзела Белнацкама можна запісаць выданне га-

[578] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 77, арк. 123—129 адв.
[579] Тамсама, ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 169—199.
[580] Тамсама, ф. 4., воп. 1, спр. 81, арк. 43—54.
[581] Тамсама, спр. 77, арк. 40—40 адв.
[582] Тамсама, ф. 4, воп. 1, спр. 77, арк. 9—10.

зеты «Дзянніца», 6 брашур прапагандысцкага характару на беларускай мове, у тым ліку біяграфіі У. Леніна, а таксама брашуру Я. Канчара «Классовая, национальная и религиозная борьба в Белоруссии», літаратурны альманах «Зажынкі»[583]. З–за адсутнасці фінансавых сродкаў зборнік лекцый Беларускага народнага ўніверсітэта «Курс белорусоведения», а таксама кніга Ф. Турука «Белорусское движение», запланаваныя яшчэ ў 1918—1919 гг., з'явіліся на свет у 1920—1921 гг.

Адной з самых галоўных праблем Беларускага нацыянальнага камісарыята было тое, што яго культурна–асветная чыннасць фактычна абмяжоўвалася толькі тэрыторыяй Савецкай Расіі і ахоплівала беларускіх уцекачоў, якія апынуліся тут падчас Першай сусветнай вайны. Кіраўніцтва Заходняй Камуны на чале з А. Мясніковым і Вільгельмам Кнорыным (Кнорыншам) усяляк перашкаджала Белнацкаму наладзіць беларускую культурна–асветную працу на ўласна этнічнай беларускай тэрыторыі, падпарадкаванай савецкай уладзе. Кнорын у газеце «Звезда» ахарактарызаваў беларускіх нацыянал–камуністаў «сацыял–шавіністамі», г.зн. нічым не лепшымі за дзеячаў БНР[584]. Створаныя ў Смаленску і Віцебску культурна–асветныя аддзелы Белнацкама былі ў хуткім часе зліквідаваны па патрабаванню Аблвыканзаха[585]. Прыехаўшаму ў чэрвені 1918 г. у Смаленск беларускаму эмісару Фабіяну Шантыру з боку СНК Заходняй Камуны было растлумачана, што ніякія нацыянальныя аддзелы тут не патрэбны: «Увогуле ў Смаленску не павінна быць нічога беларускага, не толькі камісарыята, але нават і савецкага прадстаўнічага органа з нацыянальным вызначэннем, так, як гэта пайшло б на карысць немцам, якія імкнуцца «самавызначыць» усю Беларусь». Пры гэтым функцыянер Аблвыканзаха нехта Собалеў катэгарычна заявіў, што «Смаленск — не беларускі горад і што ўвогуле ніякай Беларусі няма»[586].

У гістарычнай літаратуры фактычна не знайшла адлюстравання роля Беларускага нацыянальнага камісарыята ў справе ліквідацыі ў 1918 г. беларускіх няўрадавых бежанскіх арганізацый на тэрыторыі Расіі. Юры Чудзін–Васілеўскі падлічыў каля 60 гурткоў і таварыстваў беларускіх уцекачоў, якія ўзніклі пасля Лютаўскай рэвалюцыі і ў 1918 г. працягвалі дзейнічаць незалежна ад савецкай улады. Большасць з іх у канцы 1917 г. падтрымала Вялікую беларускую раду і выказала свае пратэсты наконт разгону бальшавікамі Усебеларускага з'езда. Пазней беларускія гурткі ў Калузе, Варонежы, Туле і Яраслаўлі падтрымлівалі кантакты і з БНР. Большасць беларускіх няўрадавых арганізацый у Расіі, прызнаных у аднабаковым парадку класава варожымі ў дачыненні да савецкай улады, была зліквідавана рукамі Белнацкама[587]. Таксама была праведзена ідэалагічная зачыстка штату самога камісарыята. З–за сваёй неадпаведнай «палітычнай афарбоўкі» вымушаны былі пакінуць працу ў Белнацкаме і падацца ў Мінск ці Вільню такія вядомыя беларускія палітычныя і грамадскія дзеячы, як Клаўдзій Дуж–Душэўскі, Б. Тарашкевіч, Генадзь Багдановіч, Чэслаў Родзевіч, Антон Грыневіч, У. Сталыгва, І. Дварчанін і інш. Прадстаўленыя факты даюць магчымасць чытачу самому зрабіць высновы, наколькі вынікі працы Белнацкама адпавядаюць вызначэнню «нацыянальнага рэнесансу».

А ці ўвогуле карэктна супрацьпастаўляць прыхільнікаў БНР і тых, хто стаяў ля вытокаў стварэння БССР, калі гэта тычыцца чыннасці на культурна–асветнай ніве? Палітыка развяла нацыянальных дэмакратаў і нацыянал–камуністаў у 1917—1920 гг. па розныя бакі, але кожны з іх па–свойму дбаў пра Беларусь і пра яе будучыню. Многія з іх разам здзяйснялі палітыку беларусізацыі ў 1920–я гады. Але лёс большасці з іх быў

[583] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 162, арк. 117—122.

[584] Кнорин В. «Социал–шовинисты» // Звезда. — 1918, 12 сент.

[585] НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 13, арк. 96.

[586] Тамсама, спр. 16, арк. 22—23.

[587] Васілеўскі Ю. Беларусы на абшарах Расіі // Голас Радзімы. — 1994. — № 30—34.

трагічны. Тыя, хто застаўся на непрымірымых пазіцыях да бальшавікоў, памёр у жабрацтве ў выгнанні, другія, «зменавехаўцы», паверыўшы ў шчырасць савецкай улады, былі рэпрэсаваныя ў 1930–я гады.

## 4.6. Пытанне аб стварэнні краёвага ўніверсітэта ў 1918 г.

Захады па аднаўленню вышэйшай школы ў краі пачалі рабіцца яшчэ падчас Першай сусветнай вайны, калі ў студзені 1915 г. на пасаду міністра асветы Расіі быў прызначаны граф П. Ігнацьеў[588]. За 2 гады знаходжання апошняга на міністэрскай пасадзе (1915—1916) у Расійскай імперыі былі адкрытыя 12 вышэйшых навучальных устаноў[589]. Паўсталі яны якраз дзякуючы хадайніцтвам органаў мясцовага самакіравання.

З падобнаю прапазіцыяй выступілі і губернскія земскія сходы ў Магілёве і Віцебску[590]. Найбольшую актыўнасць выявілі магіляне. 1 снежня 1916 г. на надзвычайным пасяджэнні Магілёўскага губернскага земства была абрана адпаведная камісія ў справе ўтварэння ў Магілёве ўніверсітэта. Ужо праз 2 дні, 3 снежня, названую камісію прымаў П. Ігнацьеў, які прыбыў у Магілёў да імператара, у Стаўку Вярхоўнага камандзіра збройнымі сіламі Расіі для справаздачы. Падчас размовы бакі прыйшлі да паразумення: на стварэнне ўніверсітэта ў Магілёве планавалася выдаткаваць амаль 500 тыс. руб., гарадской управай выдзяляўся зямельны ўчастак для будавання ўніверсітэцкага гарадка[591].

Відаць, хуткая адстаўка Ігнацьева 24 снежня 1916 г. была адной з прычын, што не дазволіла ажыццявіць гэты праект у жыццё. У цэлым трэба канстатаваць, што за час «ігнацьеўскай адлігі» ў расійскай адукацыйнай палітыцы ў Беларусі так і не была ўтворана вышэйшая навучальная ўстанова. Прычын тут, на нашу думку, некалькі: блізасць нямецка–расійскага фронту і небяспека далейшага прасоўвання на ўсход кайзераўскіх войск, па–другое, спрацоўваў стары імперскі стэрэатып, паводле якога створаны ў краі ўніверсітэт стане асяродкам сепаратысцкіх памкненняў тутэйшай студэнцкай моладзі, і па–трэцяе — слабасць краёвых інстытутаў самакіравання і адсутнасць моцнай падтрымкі гэтай ідэі з боку мясцовай грамадскасці[592].

Прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху не былі пасіўнымі назіральнікамі ў справе аднаўлення вышэйшай школы ў краі. Прынамсі, з патрабаваннем утварыць універсітэт у Беларусі ў 1916 г. выступаў Зміцер Жылуновіч на старонках выдаваемай ім у Петраградзе газеты «Дзянніца»[593]. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. актывісты беларускіх арганізацый робяць шэраг ініцыятыў, каб дамагчыся стварэння краёвага ўніверсітэта. На З'ездзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацый 25 сакавіка 1917 г. у Мінску ў канчатковую рэзалюцыю быў уведзены пункт: «Пры першай магчымасці павінна быць адкрыта ў адным з беларускіх гарадоў вышэйшая навучальная ўстанова, якая б задавальняла культурныя патрэбы краю»[594]. На чарговым сваім з'ездзе ў Мінску, што адбыўся 8—10 ліпеня 1917 г., прадстаўнікі беларускіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый разам з ранейшым патрабаваннем да Часовага ўрада Расіі ўтварыць у адным з губернскіх цэнтраў Беларусі ўніверсітэту, дадалі пункт аб хутчэйшым адкрыцці

---

[588] Отечественная история. История России с древнейших времен до 1917 года. Энциклопедия. — Москва, 1996. — Т. 2. — С. 321—322.

[589] Цирульников А.М. История образования в портретах и документах. — Москва, 2001. — С. 105—106.

[590] Пічэта У.І. Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым // Працы БДУ. — 1928. — № 19.

[591] Яцкевіч З.Л. Аднавіць забыты гонар, альбо колькі старонак з гісторыі адукацыі на Магілёўшчыне // Адукацыя і выхаванне. — 1994. — № 10. — С. 40—41.

[592] Гарадское самакіраванне ў Беларусі было ўведзена толькі з 1907 г., а земства — з 1911 г.

[593] Зміцер Копылянік. Аб Беларускім універсітэце // Дзянніца. — 1916, 3 снеж.

[594] НАРБ, ф. 457, воп. 1, спр. 2, арк. 2—2 адв.

ў краі сельскагаспадарчага інстытута і ўтварэнні адмысловага грашовага фонду для фінансавання гэтых праектаў[595]. Падобныя патрабаванні прысутнічалі ў рэзалюцыях, прынятых на Усебеларускім з'ездзе ўцекачоў, скліканым Беларускай народнай грамадой у Маскве 24—27 верасня 1917 г., на з'ездах беларусаў–вайскоўцаў Заходняга, Паўночнага, Паўднёва–Заходняга і Румынскага франтоў, а таксама маракоў Балтыйскага флоту, што адбыліся ў лістападзе–снежні 1917 г.[596]. Прынамсі, на З'ездзе беларусаў–вайскоўцаў Паўночага фронту, што адбыўся ў Віцебску ў лістападзе–снежні 1917 г. (прысутнымі было шмат былых настаўнікаў, мабілізаваных падчас вайны на фронт) у пункце 3–м рэзалюцыі па школьнаму пытанню было заяўлена пра «неадкладнае тэрміновае адкрыццё беларускага Віленскага ўніверсітэта з усімі факультэтамі і кафедрамі, які часова павінен быць адкрыты ў Полацку, а таксама ўтварэнне ў бліжэйшы час цэлага шэрагу вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, як агульнага, так і адмысловага характару (сельскагаспадарчага, ветэрынарнага і політэхнічнага інстытутаў)»[597].

З прыходам да ўлады бальшавікоў пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 г. у беларускіх нацыянальных дзеячаў, згуртаваных вакол Вялікай беларускай рады (ВБР), надзея на практычнае вырашэнне пытання па ўтварэнню ў Беларусі ўніверсітэта не згасла. Генеральны сакратарыят ВБР у Петраградзе ў асобах Я. Варонкі, З. Жылуновіча і Э. Будзькі 17 лістапада 1917 г. зварочваецца з лістом да народнага камісара асветы Анатоля Луначарскага: «У выкананне пастановы 2–й сесіі Беларускай рады, якая адбылася 18—25 кастрычніка гэтага года [паводле старога стылю. — *У. Л.*] у г. Мінску–Беларускім, Генеральны сакратарыят Вялікай беларускай рады ў Петраградзе хадайнічае пра найхутчэйшае адраджэнне Віленскага ўніверсітэта са зваротам апошняму яго навукова–культурнай уласнасці, расцярушанай па ўніверсітэтах, архівах і музеях былой Расійскай імперыі[598]. Беларусы хадайнічалі таксама аб выдзяленні на абсталяванне ўніверсітэта, утрыманне адміністрацыі і прафесарска–выкладчыцкага складу крэдыт у 1 мільён руб.» Непасрэдныя кантакты з савецкім наркамам асветы па гэтаму пытанню меў Я. Варонка. 26 лістапада 1917 г. ён паведамляў у Мінск кіраўніцтву ВБР: «Луначарскі ўчора даў *мне катэгарычныя завярэнні* [падкрэслена тут і далей Варонкам. — *У. Л.*], прыняўшы нашу заяву, *што Універсітэт (Віленскі) будзе адроджаны* ў бліжэйшыя дні, яму будуць выдадзеныя ўсе архівы, матэрыялы і асігнаваныя на гэта сродкі. Акрамя таго Луначарскі мне абяцаў правесці ў Савеце [народных. — У.Л.] камісараў пытанне аб выдачы нам *крэдыту* на падручнікі... Праз тры–чатыры дні будзе канчатковы адказ… Інакш ставіцца да нашага руху той самы камісар Джугашвілі (Сталін), які выдаў дэкрэт пра нацыянальнае самавызначэнне і мяркуе *правесці* [падмануць. — *У. Л.*] нас дэкрэтам, не робячы ніякіх крокаў для неадкладнага задавальнення нашых нацыянальных імкненняў… Таму нам застаецца шлях, вызначаны намі яшчэ 17 кастрычніка [маецца на ўвазе рэзалюцыя ВБР. — *У. Л.*]. Арганізуйце ўсё, што магчыма, і будзьма рэвалюцыянерамі»[599]. Шлях, пра які казаў Я. Варонка, — гэта скліканне Усебеларускага з'езда, на якім самі беларусы, абраннікі ад свайго народа, павінны былі вырашаць свае набалелыя пытанні, у тым ліку і тварэнне сваёй вышэйшай школы.

Распрацоўка пытання аб універсітэце была ўскладзена на самага тытулаванага дэпутата форуму, акадэміка Я. Карскага. На з'езд навуковец прыбыў 25 снежня 1917 г., калі праца культурна–асветнай секцыі была блізкай да завяршэння — заставалася толькі выпрацаваць праект рэзалюцыі. Але акадэмік не застаўся вясельным генералам ці статыстам і актыўна ўключыўся ў працу. Вызначаўся ён не толькі як аўтарытэтны навуко-

[595] Тамсама, ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 18 адв.

[596] Тамсама, ф. 457, воп. 1, спр. 2, арк. 24—35 адв.; арк. 69—71, 97—97 адв.

[597] Тамсама, арк. 69 адв.

[598] Тамсама, арк. 66.

[599] Тамсама, ф. 325, воп. 1, спр. 2, арк. 90—91 адв.

вец, але меў таксама неацэнны досвед арганізатара і адміністратара вышэйшай школы (напярэдадні Першай сусветнай вайны ўзначальваў Варшаўскі расійскі ўніверсітэт). 28 снежня 1917 г. на пасяджэнні культурна–асветнай секцыі Усебеларускага з'езда ён робіць даклад па праблеме арганізацыі краёвага ўніверсітэта, у якім улічыў усе акалічнасці, што стаялі на шляху рэалізацыі гэтага праекта: гістарычныя, геапалітычныя, эканамічныя, сацыяльныя. Адносна месца быцця Беларускага ўніверсітэта ён настойваў на Мінску, які з'яўляўся галоўным палітычным і эканамічным цэнтрам Беларусі. І не памыліўся. Стварыць Беларускі краёвы ўніверсітэт на этнакультурнай ускраіне Беларусі, у Вільні, на якую прэтэндавалі таксама палякі і літоўцы, было авантурызмам. Карскі, дарэчы, быў не супраць аднаўлення беларуска–літоўскай уніі, але перасцерагаў аб нерэальнасці яе ў тагачасных умовах. Ягоны вердыкт — краёвы ўніверсітэт трэба ствараць у «сэрцы» Беларусі — у Мінску. Час пацвердзіў правільнасць гэтага выбару.

Пасля разгону бальшавікамі Усебеларускага з'езда справа ўтварэння краёвага ўніверсітэта атрымала працяг ужо падчас нямецкай акупацыі. У красавіку 1918 г. Народны сакратар асветы БНР А. Смоліч даручыў прафесару Мітрафану Доўнар–Запольскаму і акадэміку Я. Карскаму скласці праекты арганізацыі краёвага ўніверсітэта. За аснову быў узяты тады праект Доўнар–Запольскага.

Пазіцыя М. Доўнар–Запольскага ў дачыненні да беларускага вызвольнага руху прайшла істотную эвалюцыю. Да абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ён не праяўляў заўважнай зацікаўленасці да беларускага пытання: не ўдзельнічаў у чыннасці беларускіх арганізацый, беларускіх нацыянальных форумаў, у тым ліку і ва Усебеларускім з'ездзе. Але з развалам былой Расійскай імперыі ён пачынае ўсведамляць, што ў Беларусі з'явіўся шанец атрымаць палітычную самастойнасць. З актуалізацыяй беларускага пытання актывізуецца пазіцыя Доўнар–Запольскага ў дачыненні да Беларусі. Ён адкрыта падтрымаў Акт 25 сакавіка 1918 г., сустрэў яго з вялікім энтузіязмам: «Лёсы зроблены! Вялікі акт у жыцці нашага народа здзейсніўся: Беларусь абвешчана сваім часовым урадам незалежнай рэспублікай... І мы ўсе, беларусы, павінны памятаць, што цяпер становішча нашае радзімы накладае на нас цяжкі і адпаведны абавязак. Мы павінны ўсе злучыцца, мы павінны напружыць усе свае фізічныя і культурныя сілы дзеля таго, каб апраўдаць нашае права на самабытнае існаванне і абараніць незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Да згоднай працы, браты!»[600].

10 траўня 1918 г. у пасяджэнні дэлегацыі Рады БНР у Кіеве ўдзельнічае і М. Доўнар–Запольскі. У прынятай па выніках нарады рэзалюцыі ўпісаны таксама і канкрэтныя прапановы прафесара па арганізацыі краёвага ўніверсітэта ў Беларусі: «1) Выслаць дэлегацыю дзеля аб'езду земскіх і мейскіх самаупраўленняў у местах Беларусі аб хадатайстваванню ў іх грашавой падтрымкі ўніверсітэта, 2) Дэлегацыю злажыць з прадстаўніка Народнага Сакратарыята, з прадстаўніка Дэлегацыі, якім будзе п. Трамповіч і яшчэ адна асоба, 3) прасіць п. Трамповіча апрацаваць да чароднага пасяджэння Дэлегацыі праект сметы на аб'езд і самы маршрут, 4) зрабіць адпаведны даклад Гомельскай мейскай думе, 5) даручыць п. Фарботка саставіць праект цыркуляра ўсім земствам на Беларусі згодна з пісьменным дакладам праф. Доўнар–Запольскага»[601]. Узгаданы даклад, а па сутнасці — праект па арганізацыі беларускага ўніверсітэта, прафесар дасылае праз прадстаўніка Урада БНР у Мінск для А. Смоліча[602].

У дадзеным праекце М. Доўнар–Запольскі прапануе стварыць адмысловую камісію па арганізацыі названай вышэйшай школы, куды павінны былі ўвайсці, акрамя сяброў Рады і Народнага сакратарыята БНР, прадстаўнікі грамадскасці і органаў мясцовага самакіравання. Дарэчы, на земскія, гарадскія прадстаўнічыя і выканаўчыя структуры ён асабліва спадзяваўся, мяркуючы, што апошнія выдаткуюць неабходныя фінансавыя

[600] Вольная Беларусь. — 1918, 28 крас.

[601] Valstybimis Archyvas Letuvos (VAL). — F. 582. — Apr. 3. — B. 26—27.

[602] НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 470—473а.

сродкі на арганізацыю вышэйшай школы, выдзеляць зямельны ўчастак для будаўніцтва ўніверсітэцкага гарадка, а на першы час прадставяць патрэбныя памяшканні для правядзення лекцый, лабараторных заняткаў, для пражывання прафесарска–выкладчыцкага складу і студэнтаў.

Вельмі важнай справай, паводле думкі Доўнар–Запольскага, было збіранне пад дахам новай беларускай вышэйшай школы былых фондаў Віленскай універсітэцкай бібліятэкі і архіва, а таксама іншых краёвых архіўных і музейных збораў: «Неабходна высветліць месцазнаходжанне эвакуіраваных архіваў, [...] прасіць тутэйшых прыватных асоб, асабліва землеўласнікаў, ахвяроўваць свае архівы, таксама патрэбна неадкладна збіраць звесткі пра прадметы даўніны»[603]. У справе рэстытуцыі культурных каштоўнасцяў ён праявіў уласную ініцыятыву, прапануючы Ураду БНР «увайсці ў зносіны з Кіеўскім універсітэтам праз украінскі ўрад і тамтэйшы рэктарат па наступных двух пытаннях: «а) універсітэт св. Уладзіміра валодае бібліятэкай Віленскага ўніверсітэта і часткай яго калекцый. Трэба прасіць аб іх звароце; б) той самы ж універсітэт часова захоўвае яшчэ не разгорнутую бібліятэку графа Апалінарыя Мікалаевіча Храптовіча–Буцянёва... Гэта бібліятэка паступіла ў Кіеўскі ўніверсітэт пры маім садзейнічанні з умовай, што яна будзе перададзена беларускаму ўніверсітэту, калі апошні будзе ўтвораны»[604].

Пры арганізацыі вышэйшай навучальнай установы ў Мінску прафесар рэкамендаваў Ураду БНР ва ўмовах вострага дэфіцыту фінансавых сродкаў «дабіцца найбольшай эканоміі.., [каб] зменшыць выдаткі на ўтрыманне ўніверсітэта», аднак асобна зазначаў, «што прыйдзецца зрабіць выключэнне для гісторыка–філалагічнага факультэта і дапусціць на яго… раскошы выкладання, што звязана з нацыянальным характарам універсітэта (кафедра беларуская, польская і літоўская)». «Належыць, — лічыў ён, — у першую чаргу запрашаць прафесараў — ураджэнцаў Беларусі, якія жадаюць вярнуцца на бацькаўшчыну, але патрэбна зрабіць выключэнне для выбітных навукоўцаў–педагогаў, што жадаюць працаваць у Мінску, незалежна ад свайго нацыянальнага паходжання і месца нараджэння». Доўнар–Запольскі ўлажыў спіс 36 прафесараў з розных куткоў былой Расійскай імперыі, сярод якіх былі Платон Жуковіч, Уладзімір Завітневіч, Я. Карскі, Іван Лапа, Б. Эпімах–Шыпіла, М. Янчук ды інш.[605].

Прафесар прапаноўваў утварыць пры ўніверсітэце 6 факультэтаў: гісторыка–філалагічны, фізіка–матэматычны, юрыдычны, камерцыйна–эканамічны, медычны, а таксама багаслоўскі, якія павінны былі абслугоўваць 75 кафедр. У адрозненне ад класічнага складу «фізмата», ён рэкамендаваў не ствараць у бліжэйшы час асобнага матэматычнага аддзела, так як «чыстая матэматыка цікавіць сёння нямногіх» і таму павялічыць кошт утрымання навучальнай установы. Наадварот, адзначаў важнасць камерцыйна–эканамічнага факультэта, які «мае цяпер вялікую патрэбу». Адкрыццё багаслоўскага факультэта, на яго думку, было б карысна тым, што яго ўтрыманне магло фундаваць мясцовае праваслаўнае святарства. Навуковец выказаўся за тое, каб у беларускай вышэйшай навучальнай установе вучыліся прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцяў, што пражываюць у Беларусі. Без усялякіх агаворак ён таксама выказваўся за неадкладнае дапушчэнне для навучання ва ўніверсітэце на раўных правах з мужчынамі і жанчын, апошніх, дарэчы, «са звычайнымі атэстатамі жаночых гімназій, як яны б прымаліся на жаночыя курсы».

6 чэрвеня 1918 г. на нарадзе ў Народным сакратарыяце БНР была абрана Арганізацыйная камісія па стварэнню мінскага ўніверсітэта. У склад яе ўвайшлі

[603] НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 470.

[604] Дарэчы, пытанне пра зварот бібліятэкі графа Храптовіча было ўзнята Управай Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1920–я гг., але не было вырашана станоўча.

[605] Калубовіч А. Крокі гісторыі. — Беласток—Вільня—Мінск, 1993. — С. 48.

М. Доўнар–Запольскі (старшыня) — завочна, М. Масоніус (намеснік старшыні), А. Данілевіч, Кастусь Гадыцкі–Цвірка, Л. Заяц, Антон Аўсянік, Р. Зямкевіч, Я. Лёсік, С. Лянкоўскі, А. Смоліч. Пазней у яго склад быў уведзены акадэмік Я. Карскі, які пры адсутнасці ў Мінску Доўнар–Запольскага фактычна ўзначаліў дадзеную структуру. Была вызначана неабходная колькасць секцый, якія павінны былі заняцца канкрэтнай справай па арганізацыі вышэйшай школы. Былі ўтвораны секцыі: па праектаванню вучэбна–навуковай працы, фінансавая, гаспадарчая, музейна–калекцыйная і інш. У адну з важнейшых — фінансавую секцыю, разам з вядомымі беларускімі дзеячамі В. Іваноўскім і Р. Скірмунтам, запрашаліся знаныя прадпрымальнікі, неабыякавыя да лёсу краю і развіцця беларускай асветы і культуры: граф Эдвард Вайніловіч, княгіня М. Радзівілава, буйны абшарнік Ю. Булгак, мінскі домаўласнік Маісей Рагавы і інш. Інжынеру Р. Каплану даручалася зрабіць праект універсітэцкага будынка, а вядомаму адвакату Давіду Мейчыку — афармленне на льготных умовах арэнды на часовае памяшканне для ўніверсітэта[606].

Наконт ідэі неадкладнай беларусізацыі ўніверсітэта, якую, на дзіва, першым агучыў на пасяджэнні польскі філолаг М. Масоніус, Я. Лёсік заявіў наступнае: «Тут далей разводзяцца думкі аб тым, што мае значыць «Беларускі ўніверсітэт»: ці то мае значыцца нацыянальны, ці то геаграфічна–краёвы… Ён мусіць перш–наперш задаволіць патрэбы беларускага народа, яго народавыя жаданні. Можа, калі [і] будзе ў ім выкладацца навука толькі па–беларуску, але цяпер няхай і па–іншаму, абы выкладалася найперш тое, што для беларускай ідэі пільней патрэбна»[607]. Большасць удзельнікаў нарады 6 чэрвеня выказалася за выкладанне навучальных дысцыплін як па–беларуску, так і па–расійску, па–польску і на іншых мовах.

Спадзяванні Доўнар–Запольскага на земскія і гарадскія самаўрады не апраўдаліся. Адзінае, што зрабіла Мінскае губернскае земства ў справе арганізацыі краёвага ўніверсітэта, увесну 1918 г. пастанавіла выдаткаваць на гэтыя мэты 20 тыс. руб.[608]. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што мясцовае самакіраванне, абкарнанае нямецкімі акупацыйнымі ўладамі падчас «фінансавага секвестру», не мела вялікіх фінансавых магчымасцяў, каб ускласці на сябе галоўны цяжар па арганізацыі вышэйшай школы ў сталіцы Беларусі. Хадайніцтвы ўрада БНР перад нямецкай акупацыйнай уладай аб фінансаванні стварэння краёвага ўніверсітэта былі праігнараваны.

М. Доўнар–Запольскі, які па–ранейшаму заставаўся ў Кіеве, заклапочаны такім станам рэчаў, імкнецца знайсці нейкае выйсце з гэтай фінансавай пасткі. У ліпені 1918 г. ён піша ліст да сяброў Рады БНР, дзе агучвае свае новыя ініцыятывы: «Продкі нашы, што ўстанаўлялі навуковыя заклады, напрыклад, — акадэміі ў Вільні, чы ў Полацку, — дык яны давалі акадэміям фундушы–маёнткі на пажызненне іх прафесароў ды іх студэнтаў. А як цяпер грошай у скарбе няма, а трэба ўстанаўляць акадэміі, дык я з такім чалобіццем зварочваюся да паноў Рады: чы не будзе ласка паноў Рады выдаць такі закон, што на фундаванне ўніверсітэта ў Мінску ў валадзенне і пажывенне ўніверсітэту на вечныя часы ахвяруецца якісь маёнтак з лясных скарбовых маёнтасцей. Як будзе ласка выдаць такі статут, дык і ўніверсітэт будзе»[609]. Не ведаў прафесар, знаходзячыся ва Украіне, здалёк ад бацькоўскіх гоняў, што рэальнай улады ў БНР няма, а прынятыя ёй «законы» ігнаруюцца органамі мясцовага самакіравання. Супольнай працы паміж урадам БНР і прарасійскі настроенымі земскімі і гарадскімі самаўрадамі не атрымалася, бо апошнія катэгарычна выступалі супраць палітычнай незалежнасці Беларусі.

[606] Ляхоўскі У. Беларускі універсітэт: з гісторыі стварэння.., с. 62.

[607] НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 482.

[608] Ляхоўскі У. Беларускі універсітэт: з гісторыі стварэння.., с. 62.

[609] Зварот Мітрафана Доўнар–Запольскага да Паноў Рады Беларускай Рэчы Паспалітай // Вольная Беларусь. — 1918, 18 жн.

Сітуацыя істотна не змянілася і пасля таго, як універсітэцкую камісію ўзначаліў акадэмік Я. Карскі. Прадстаўлены ім праект утварэння вышэйшай школы ў Мінску амаль па ўсіх пазіцыях супадаў з праектам М. Доўнар–Запольскага. Галоўная праблема была не ў тым, які праект лепей, самым балючым пунктам з'яўлялася адсутнасць фінансавых сродкаў. У лістападзе 1918 г. Мінскі губернскі камітэт па народнай адукацыі запланаваў выдаткаваць у будучым навучальным годзе 120 тыс. руб. на папярэднія мерапрыемствы па арганізацыі краёвага ўніверсітэта[610], але гэтага было яўна недастаткова. Задума ўзгаданага камітэта рэфармаваць у вышэйшую школу Мінскі настаўніцкі інстытут тасама не была рэалізавана[611]. На парозе стаяла ўжо савецкая ўлада, якая мела свае планы ў дачыненні да адукацыі.

***

Разглядаючы сітуацыю са школьнай справай на тэрыторыі Беларусі ў зоне «новай акупацыі», можна адзначыць, што ва ўмовах больш мяккага акупацыйнага рэжыму, у параўнанні з зонай Обер Ост, у дадзеным рэгіёне ў сферы адукацыі актыўна праявілася грамадская і прыватная ініцыятыва. Найбольш дынамічна тут развівалася польская школа, якая яшчэ ў першыя гады нямецка–расійскага супрацьстаяння атрымала значную фінансавую дапамогу ад царскага ўрада на дабрачынныя і культурна–асветныя мэты. Дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы, дапамозе польскаарыентаванага каталіцкага святарства, абшарнікаў, грамадскіх арганізацый і суполак колькасць польскіх школ ва Усходняй Беларусі на канец 1918 г. дасягнула 500. Як і ў заходнебеларускім рэгіёне, польскі актыў шырока выкарыстоўваў адукацыйны рэсурс у палітычных мэтах дзеля паланізацыі дзяцей беларускіх католікаў.

Не менш актыўна развівалася ў рэгіёне габрэйская школьная справа. Пры гэтым, у адрозненне ад зоны Обер Ост, школьнае навучанне габрэяў на іўрыце адбывалася без перашкод з боку кайзераўскіх ваенных улад. Па–ранейшаму ў габрэйскай грамадзе не спыняліся гарачыя спрэчкі паміж бундаўцамі і сіяністамі адносна выбару мовы выкладання: паміж ідыш і іўрытам. Дуалізм у гэтым пытанні захоўваўся да 1921 г. І толькі пасля ўсталявання ў Беларусі бальшавіцкай улады перамаглі прыхільнікі ідышызацыі габрэйскай школьнай асветы, выкарыстаўшы забарону савецкага ўрада ў распаўсюджванні адукацыі на іўрыце.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ва Усходняй Беларусі пачала развівацца і беларуская школьная справа. Дзякуючы чыннасці дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускіх грамадскіх арганізацый, органаў гарадскога і земскага самакіравання падчас нямецкай акупацыі на Міншчыне паўстала каля 20 беларускіх пачатковых школ, дзейнічалі беларускія настаўніцкія курсы, былі ўтвораны беларускія гімназіі ў Вільні і Будславе, у шэрагу сярэдніх навучальных устаноў пачалося выкладанне беларускай мовы і прадметаў беларусазнаўства, было разгорнута выданне школьнай літаратуры на беларускай мове. Беларуская нацыянальная школа тварылася тут уласнымі сіламі дзякуючы чыннасці беларускай інтэлектуальнай эліты і таму мела пад сабой трывалы грунт. Расійскамоўная школа паступова губляла сваю манаполію ў справе навучання дзяцей беларусаў, а ў асяродку тутэйшага настаўніцтва станавілася ўсё больш прыхільнікаў беларушчыны, гатовых выкладаць школьную навуку на роднай мове, гатовых сеяць зерне нацыянальна–культурнага адраджэння сярод маладога пакалення беларусаў. Сапраўды, праца сярод моладзі станавілася галоўным лозунгам беларускага вызвольнага руху, бо моладзь — гэта будучыня краіны.

---

[610] В Комитете просвещения // Минский голос. — 1918, 19 ноябр.
[611] Ляхоўскі У.В. Прадвеснік Адраджэння.., с. 111.



*Дзеці–навучэнцы адной з пачатковых школ Мінскага павета падчас рэвалюцыйнага мітынгу ў 1917 г.*



*Ванда Лявіцкая, сябра Беларускага вучыцельскага хаўрусу ў Мінску. 1917 г.*



*Марыя Ярац, настаўніца беларускай мовы Слуцкай земскай змешанай гімназіі. 1920–я гг.*



*Украінскі грэка–каталіцкі святар Іасафат Жан, княгіня Магдалена Радзівілава (арганізатар і фундатар першых беларускіх школ на Ігуменшчыне ў 1917—1920 гг.) і беларускі амбасадар у Польшчы Лявон Вітан–Дубейкаўскі. Варшава, 1920 г. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Усевалад Ігнатоўскі, дырэктар Мінскага настаўніцкага інстытута і старшыня Беларускага вучыцельскага хаўрусу ў 1918 г.*



*Паўліна Мядзёлка, настаўніца Жорнаўскай беларускай пачатковай школы, якую фундавала княгіня М. Радзівілава. Пачатак 1920–х гадоў. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Зміцер Даўгяла, сябра Беларускага нацыянальнага камітэта ў Магілёве, адзін з распрацоўшчыкаў вучэбнай праграмы па гісторыі Беларусі ў 1917 г.*



*Радаслаў Астроўскі, урадавы камісар Слуцкага павета ў 1917 г., дырэктар Слуцкай земскай змешанай гімназіі. Пачатак XX ст. Архіў Тартускага ўніверсітэта (Эстонія).*



*Мікалай Каспяровіч (у будучым знаны беларускі навуковец і арганізатар краязнаўчага руху), сакратар культурна–асветнай секцыі Усебеларускага з’езда. Пачатак 1920–х гадоў.*




*Будынак Мінскага дваранскага сходу, дзе ў снежні 1917 г. адбываліся пленарныя пасяджэнні Усебеларускага з'езда. Пачатак XX ст. Паштоўка.*




*Адбітак пячаткі Мінскай беларускай вучнёўскай грамады. 1918 г. Рэканструкцыя Ірыны Каранкевіч.*



*Язэп Лёсік, беларускі грамадскі дзеяч, педагог і мовазнавец, старшыня Рады БНР у траўні 1918 г. — снежні 1919 г., старшыня Беларускай школьнай субкамісіі г. Мінска ў 1917—1918 гг.*



*Язэп Шнаркевіч, беларускі грамадскі дзеяч і педагог, арганізатар адной з першых беларускіх школ у Мінску ў студзені 1918 г. Фота 1940–х гг.*



*Уладзімір Самойла, беларускі грамадскі дзеяч, філосаф і публіцыст. У 1917—1918 гг. адзін з лідараў мінскай філіі канстытуцыйных дэмакратаў, сябра Беларускай школьнай субкамісіі г. Мінска ў 1917—1918 гг. Малюнак мастака Зміцера Полазава, 1918 г. Друкуецца ўпершыню. Літаратурны музей Янкі Купалы ў Мінску.*



*Беларускі хармайстар Уладзімір Тэраўскі, арганізатар першага беларускага хору ў Мінску. Малюнак Ірыны Каранкевіч.*



*Аркадзь Смоліч, беларускі грамадскі дзеяч і навуковец, першы Народны сакратар асветы БНР (люты — лістапад 1918 г.). Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Алеся і Аркадзь Смолічы. Пачатак 1920–х гг. Са збору Арсеня Ліса.*



*Настаўнікі і навучэнцы Мінскай беларускай школы № 20 разам з удзельнікамі Беларускага хору Уладзіміра Тэраўскага. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Тамаш Грыб, старшыня Беларускай партыі эсэраў, сакратар Беларускай школьнай субкамісіі г. Мінска з красавіка па верасень 1918 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Палута Бадунова, адна з лідараў Беларускай партыі эсэраў, загадчыца Мінскай беларускай пачатковай школы № 20 у 1918 г. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Макар Касцевіч (Краўцоў), знаны беларускі літаратар і грамадскі дзеяч, настаўнік Мінскай беларускай пачатковай школы № 22 у 1918—1920 гг. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Мікалай Пашковіч, адзін з лідараў Беларускай партыі эсэраў, загадчык Мінскай беларускай пачатковай школы № 29 у 1918—1920 гг. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Янка Пашковіч, родны брат М. Пашковіча. Настаўнік Мінскай беларускай пачатковай школы № 29 у 1918—1920 гг. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Айцец Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), сябра Беларускай хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці, арганізатар беларускіх культурна–асветных гурткоў на Магілёўшчыне ў 1918 г. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Беларускія настаўнікі Кацярына і Кастусь Пуроўскія з дачкой Людмілай. Пачатак 1920–х гг. Друкуецца ўпершыню. Літаратурны музей Янкі Купалы ў Мінску.*



*Айцец Фабіян Абрантовіч, доктар тэалогіі, старшыня Беларускай хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці ў Мінску, сябра Рады БНР, заснавальнік першай беларускамоўнай школы для дарослых, рэктар Мінскай каталіцкай семінарыі ў 1918 г.*



*Апалонія Гірконт, сябра Беларускай хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці ў Мінску, загадчыца Мінскай беларускай пачатковай школы № 22 у 1918—1920 гг. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Апалонія Раткевіч, сябра Беларускай хрысціянска–дэмакратычнай злучнасці ў Мінску, настаўніца Мінскай беларускай пачатковай школы № 22 у 1918—1920 гг. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Міхась Кудзелька–Чарот, настаўнік Мінскай беларускай пачатковай школы № 29 у 1918—1920 гг.*



*Міхась Кудзелька–Чарот са сваім сябрам, беларускім настаўнікам з Ігуменшчыны М. Кошалем. 1919 г. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Юрка Лістапад, слухач Беларускіх настаўніцкіх курсаў у Мінску ў 1918—1919 гг. Друкуецца ўпершыню.*

# КУРСЫ
## ДЛЯ ПАДГАТОЎКІ БЕЛАРУСКІХ ВУЧЫЦЕЛЁЎ.

С 1-го верасьня гэтага году

У МЕНСКУ АДКРЫВАЮЦЦА

ДЗЕВЯЦІМЕСЯЧНЫЯ

## БЕЗПЛАТНЫЯ КУРСЫ

ДЛЯ ПАДГАТОЎКІ

ВУЧЫЦЕЛЁЎ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ.

На курсы будуць прыймацца асобы скончыўшыя вышэйшыя пачатковыя школы, а так сама чатыры класы сярэдніх школ. Усьпешна скончыўшыя курсы будуць выдавацца пасьведчанні, якія будуць даваць права на адтрыманне першага вакантнага мейсца у беларускіх школах.

Заняцця на курсах будуць вечарамі ад 6-ай да 10-й гадзіны.

Пры курсах будзе арганізованы безплатны інтэрнат і будуць выдавацца недарагія абеды.

На курсах будуць чытацца лекцыі па гэткіх прадметах:

1. Гісторыя Беларусі.
2. Родная мова.
3. Гісторыя беларускай літэратуры (народнай і красной).
4. Гісторыя беларускай культуры
5. Географія.
6. Педагогіка і дыдактыка.
7. Методыка роднай мовы
8. " арыфметыкі.
9. " гутарак і прадметных урокаў.
10. Ручная праца, сьпевы, гульні і г. д.
11. Практычнае азнаямленне з ілюстрацыйным метадам навучання.

Запісь на курсы прыймаецца у памешканні Народнага Сэкратарыяту, Захароўская вуліца, 13 ад 1-ай да 3-й гадзіны дня.

*Абвестка пра набор слухачоў на Мінскія беларускія настаўніцкія курсы ў верасні 1918 г. Друкуецца ўпершыню. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Першы выпуск Беларускіх педагагічных (настаўніцкіх) курсаў у Мінску ў траўні 1919 г. У 2-м радзе сядзяць (злева направа): Аляксандр Даніleвіч, Чэслаў Родзевіч, Віктар Вайтэнка, Язэп Лёсік, Мікалай Байкоў, Вацлаў Іваноўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Інакенці Усцюжанінаў. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Родныя і сябры беларускага навукоўца і педагога Мікалая Азбукіна з нагоды сямейнага юбілею. Крайні справа — Мікалай Азбукін. У 2-м шэрагу — габрэйская сямейная пара, знаёмыя Азбукіных. Фота 1915—1918 гг. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*




*Адбітак пячаткі Беларускага вучыцельскага хаўрусу 1918—1920 гг. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Рэстаўрацыя Ірыны Каранкевіч.*



*Акадэмік Яўхім Карскі, ганаровы сябра Рады БНР, старшыня Краёвага школьнага апякунства ў зоне дыслакацыі 10–й нямецкай арміі ўвосень 1918 г.*



*Вацлаў Іваноўскі, міністр асветы БНР у лістападзе–снежні 1918 г. Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва.*



*Браніслаў Тарашкевіч, беларускі нацыянальны дзеяч, педагог і мовазнавец, заснавальнік беларускага класічнага правапісу.*




*Праект будынка Будслаўскай беларускай гімназіі, створаны архітэктарам Лявонам Вітан–Дубейкаўскім у 1918 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*

Смолічу

Братка, у пятні-
цу, 14-VI — a 6 гадз.
вечарам сход арга-
нізацыйнай Камісіі,
назначоў п. Массонюс
Трэба запрасіць

1, Массонюса
2, Лёсіка
3, Земкевіча
4, Ленкоўскага
5, Смоліча
6, Данілевіча
7, Гадыцкага з [illegible]
Канстанціна
8, Зайца
9, [illegible]

*Запіска сакратара Беларускай універсітэцкай камісіі Эдварда Будзькі Народнаму сакратару асветы БНР Аркадзю Смолічу наконт склікання чарговага пасяджэння камісіі 14 чэрвеня 1918 г. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*



*Школьныя заняткі ў прытулковай школе Таварыства габрэйскай асветы ў Мінску па Захар'еўскай вуліцы, 14 пад кіраўніцтвам загадчыцы прытулку В. Жастковай. 1917 г. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*



*Хасан Сафараў, адзін з настаўнікаў Мінскай татарскай школы (№ 32), якая месцілася на Татарскай слабадзе. Друкуецца ўпершыню. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.*

# Заключэнне

«Вялікая вайна» 1914—1918 гг. задала новы, небывалы рытм сусветнай гісторыі. Нават эпоха Вялікай французскай рэвалюцыі і напалеонаўскіх войн не могуць у гэтым параўнацца з «пралогам XX стагоддзя». Няўмольная рука гісторыі краіла нанова карту Еўропы, тварыла вялікія эксперыменты між народамі і супольнасцямі. Руйнаваўся стары лад жыцця, знікалі ў нябыт цэлыя імперыі, тварыліся новыя сацыяльныя і палітычныя рэаліі, і ў новай рэчаіснасці ўзнікалі небывалыя раней магчымасці для былых «недзяржаўных» нацый у адбудове свайго самастойнага быцця.

Беларусы не здолелі ў той час скарыстацца гістарычным шанцам, каб здабыць незалежнасць і самім надалей вырашаць свой лёс. Гэтая няўдача мае пад сабой вялікі пласт ранейшых праблем. Працяглае расійска–польскае супрацьстаянне, жорсткая палітыка царскага рэжыму, накіраваная на дэнацыяналізацыю краю, размывалі яго культурныя і інтэлектуальныя сілы, не дазвалялі сфармавацца моцнай нацыянальнай эліце. Толькі на рубяжы XIX і XX стст. пачаў будзіцца беларускі рух, толькі напярэдадні Першай сусветнай вайны наяўна назіралася адраджэнне нацыянальнага ўсведамлення: праз друкаванае слова, нацыянальны тэатр, праз чыннасць маладзёвых гурткоў. Але гэтыя першыя здабыткі перадваенных гадоў не ў стане былі забяспечыць моцны фундамент для адбудовы нацыянальнай незалежнасці. Да таго ж, надта вялікія страты панесла краіна падчас нямецка–расійскага супрацьстаяння: сотні тысяч чалавечых ахвяр, тых, хто загінуў на франтах вайны, памёр ад голаду і хвароб у бежанстве, сотні тысяч тых, хто не вярнуўся з выгнання, моцна зруйнаваная гаспадарка, вялікая колькасць незваротна згубленых матэрыяльных і культурных каштоўнасцяў.

Глабальны ваенны канфлікт негатыўным чынам паўплываў на стан айчыннай адукацыі. Істотна пагоршылася фінансавае і матэрыяльнае яе забеспячэнне, значная частка мясцовых настаўнікаў была мабілізавана ў расійскае войска, эвакуіравана на ўсход і расцярушана там на абшарах Еўразіі. Былыя казённыя расійскія навучальныя ўстановы з заходніх і цэнтральных рэгіёнаў Беларусі былі ліквідаваны або вывезены на чужыну. Абсалютная большасць з іх так і не вярнулася на радзіму, была «натуралізавана» на новых месцах дзейнасці. Бальшыня школьных будынкаў у прыфрантавым пасе на тэрыторыі Беларусі была занята вайсковымі і паўвайсковымі структурамі, што не дазваляла доўгі час распачаць заняткі ў гэтых вучэльнях. Усё гэта разам негатыўна адбілася на ўзроўні адукаванасці беларускага жыхарства.

З–за катастрафічных наступстваў вайны 1914—1918 гг. у Беларусі фактычна на цэлае дзесяцігоддзе было адсунута ўвядзенне ўсеагульнага школьнага навучання, што з’яўлялася неабходнай перадумовай сацыяльна–палітычнай і эканамічнай мадэрнізацыі грамадства. Царскім урадам у беларускіх губернях гэта мера была запланавана на 1923/24 навуч. год, а рэалізавана толькі ў савецкі час — у 1930–я гг. Ваенныя абставіны таксама не дазволілі прыспешыць стварэнне ў краі вышэйшай навучальнай установы.

У паўсядзённым жыцці вайна негатыўна паўплывала ў першую чаргу на маральна–псіхалагічны стан дзяцей і падлеткаў, сярод якіх укараніліся бескультур’е і шкодныя звычкі. Ваенны канфлікт парадзіў вялікую колькасць беспрытульных дзяцей і сірот, якія засталіся без сацыяльнай апекі і нагляду. Ва ўмовах маргіналізацыі тутэйшага жыхарства знізіўся аўтарытэт і сацыяльны статус настаўніка, якога нярэдка ўспрымалі як памагатага старога рэжыму. Разам з тым, падчас вайны і рэвалюцыйных падзей у тутэйшага насельніцтва ўзмацнілася цяга да адукацыі, узрасла цікавасць да сацы-

яльна–гуманітарных і тэхнічных ведаў. Сярод школьнікаў істотна павялічылася доля дзяўчынак. У грамадстве мацнела разуменне таго, што старая казённая школа з яе паўфеадальнымі перажыткамі (сацыяльнай сегрэгацыяй, бюракратычным засіллем, адсутнасцю школьнай аўтаноміі, архаічнымі вучэбнымі праграмамі) і русіфікатарскім характарам аджыла сваю эпоху, як і расійскі абсалютызм у цэлым. Патрэбна было ствараць новую школу на дэмакратычных, нацыянальных пачатках.

Напярэдадні прыходу ў Заходнюю Беларусь нямецкіх войск старая адукацыйная сістэма ў гэтым рэгіёне фактычна перастала існаваць: усё расійскае і праваслаўнае «апынулася ў вагонах цягнікоў, на вазах, рушыла на ўсход і знікла». «Нямецкая культурная праграма» пачалася тут здзяйсняцца літаральна з «чыстага ліста».

Палітыка Другога Рэйха ў дачыненні да Расійскай імперыі напярэдадні вайны канчаткова не была вызначана і сфармавалася ўжо толькі пасля акупацыі ўвосень 1915 г. яе заходніх ускраін. Галоўнай задачай нямецкай усходняй палітыкі, якую вызначыў «галоўны архітэктар» ваеннай дзяржавы Обер Ост генерал Э. фон Людэндорф, было адарванне захопленых зямель ад Расіі і прыцягненне іх у сферу геапалітычнага ўплыву Нямеччыны. Вызначаная палітыка ў школьнай сферы стала складовай часткай гэтага агульнага стратэгічнага курсу. У Заходняй Беларусі ўся чыннасць на ніве школьнай адукацыі апынулася пад жорсткім палітычным і адміністрацыйным кантролем ваеннай адміністрацыі Обер Ост. Было ўведзена новае школьнае заканадаўства, якое вызначалася рэпрэсіўным характарам, моцна абмяжоўвала грамадскую і прыватную ініцыятыву ў гэтай сферы. Ад настаўніка патрабавалася выхоўваць і вучыць дзяцей у духу прыязнасці да Нямеччыны. Найбольш жорстка нямецкія ўлады дзейнічалі ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня», дзе ў адміністрацыйным парадку мясцовых землеўласнікаў і заможных мяшчан прымушалі выдаткоўваць грошы ў адмысловыя школьныя касы для ўтрымання казённых школ. За непадпарадкаванне законам парушальніку пагражала вязніца ці вялікі штраф.

Дэклараваны ў зоне Обер Ост прынцып «народнасці і рэлігійнай талеранцыі», паводле якога ў мясцовых школах навучанне адбывалася на роднай мове і ўлічвалася веравызнанне дзяцей, выкарыстоўваўся акупацыйнай уладай у сваіх геапалітычных і прапагандысцкіх інтарэсах. Забарона выкладання ў мясцовых навучальных установах па–расійску была звязана ў першую чаргу з імкненнем мінімізаваць палітычны і культурны ўплыў Расіі на гэтых землях. Адмова нямецкай адміністрацыі развіваць у зоне Обер Ост сярэднюю казённую адукацыю на мясцовых мовах выкладання ўскосна сведчыць пра тое, што ў далейшым, з умацаваннем сваіх пазіцый у рэгіёне, Нямеччына намервалася ствараць тут пераважна нямецкамоўныя сярэднія школы дзеля паступовага анямечвання тутэйшага падрастаючага пакалення. Разам з тым кіраўніцтва Обер Ост забараніла выкладанне ў габрэйскіх школах агульнаадукацыйных прадметаў на іўрыце, асцерагаючыся распаўсюджання сярод тутэйшага габрэйскага жыхарства сіяніцкіх ідэй, і адначасова заахвочвала выкладанне на ідыш і стварэнне для габрэяў чыста нямецкіх школ, што павінна было садзейнічаць паскарэнню іх германізацыі. У барацьбе з польскім нацыяналізмам, які выношваў ідэю стварэння адзінай «Вялікай Польшчы», нямецкія ўлады імкнуліся абаперціся ў першую чаргу на літоўскі рух. Галоўная ваенная ўправа Обер Ост зрабіла стаўку на стварэнне масавых літоўскіх школ на Ковеншчыне і ў генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі».

Кайзераўскі рэжым не спрыяў развіццю масавага беларускага школьніцтва на Віленшчыне, якая, паводле нямецкіх планаў, павінна была адысці ў сферу ўплыву Літвы. Тым самым на самой справе немцы спрыялі паланізацыі мясцовага беларускага жыхарства. Абсалютная большасць беларускіх казённых пачатковых школ была створана ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня», і ў першую чаргу на польска–беларускім этнічным памежжы, у Беластоцкім, Бельскім, Ваўкавыскім і Сакольскім паветах.

Гэткім чынам немцы імкнуліся стварыць своеасаблівы «беларускамоўны кардон», каб спыніць польскую экспансію на ўсход акупацыйнай зоны. У той жа час жыхары цэнтральных і ўсходніх паветаў былой Гарадзенскай губерні, а таксама заходніх рэгіёнаў Міншчыны, пераважна праваслаўныя беларусы, заставаліся без нацыянальнай асветы. Кіраванне беларускімі казённымі школамі, прызначэнне ў іх настаўнікаў, змест самога навучання кантраляваўся нямецкімі школьнымі інспектарамі і ваеннымі настаўнікамі. Пад загадам Беларускай школьнай камісіі заставалася некалькі грамадскіх школ, якія дзейнічалі ў Вільні і Віленскім краі, а таксама ў Горадні. У гістарычнай літаратуры фігуруюць значна завышаныя лічбы агульнай колькасці беларускіх адукацыйных устаноў, якія існавалі ў зоне Обер Ост (ад 150 да 350). Праведзены аналіз гістарычных крыніц даказвае, што пры самых аптымістычных разліках можна казаць пра існаванне ў зоне Обер Ост не болей 100 беларускамоўных навучальных устаноў.

Тым не менш, трэба прызнаць, што ўмовы нямецкай акупацыі давалі значна больш магчымасцяў для рэалізацыі беларускіх нацыянальных праектаў, чым ранейшая расійская ўлада. Упершыню з часоў існавання Вялікага Княства Літоўскага падчас нямецкай акупацыі быў прызнаны афіцыйны статус беларускай мовы, як адрознай ад расійскай і роўнай з іншымі краёвымі мовамі (літоўскай, польскай, габрэйскай). Пастанова Галоўнага камандзіра нямецкага Усходняга фронту фельдмаршала П. фон Гіндэнбурга за 16 студзеня 1916 г. дазваляла бесперашкодна і без абмежаванняў вучыць беларускіх дзяцей па–беларуску, развіваць на беларускай мове пазашкольную асвету, друкаваць на ёй школьныя падручнікі. Праўда, толькі ў 1917 г. акупацыйныя ўлады дазволілі выкарыстоўваць у друку беларускую кірыліцу.

Усе спробы акупацыйнай улады стрымаць і абмежаваць развіццё ў рэгіёне польскага школьніцтва не прынеслі жадаемых вынікаў. Польская школьная асвета, як легальная, так і таемная, пры падтрымцы мясцовых абшарнікаў і касцёла, захоўвала на Віленшчыне і Гарадзеншчыне дамінуючыя пазіцыі. Ёй былі ахоплены не толькі этнічныя палякі, але таксама абсалютная большасць тутэйшых беларусаў–католікоў. У зоне Обер Ост функцыянавала ўсяго толькі 5 беларускіх каталіцкіх вучэльняў.

У зоне «новай нямецкай акупацыі» (Міншчына, заходнія паветы Віцебшчыны і Магілёўшчыны) палітычнае і адміністрацыйнае ўмяшальніцтва немцаў у школьнае жыццё было абмежаваным і не насіла такога татальнага характару, як гэта было на землях Обер Ост. У Берліне гэтыя тэрыторыі ўспрымалі этнічнай прасторай Расіі і Украіны. Акупацыйная адміністрацыя фактычна не ўмешвалася тут ва ўнутранае жыццё школы, не ўводзіла свайго школьнага заканадаўства, пакінуўшы ў дзеянні асноўныя палажэнні заканадаўства Часовага ўрада Расіі. Немцы таксама не абмяжоўвалі тут прыватнай і грамадскай ініцыятывы ў адукацыйнай сферы. Тым не менш, у парушэнне нормаў Гаагскай міжнароднай канвенцыі яны правялі «секвестр» грашовых скарбніц мясцовых органаў самакіравання і тым самым прымусілі земствы і гарадскія самаўрады больш чым на палову скараціць выдаткі на адукацыю. У апошні перыяд акупацыі нямецкая вайсковая ўлада ўзяла пад свой загад былыя казённыя адукацыйныя ўстановы. Для кіравання гэтымі школамі ў раёне дыслакацыі 10–й арміі было ўтворана т.зв. Акруговае вучэбнае апякунства на чале з акадэмікам Я. Карскім, якое цалкам залежала ад акупацыйнай улады.

Ідэі і лозунгі расійскай рэвалюцыі 1917 г., рэвалюцыйныя падзеі ў Нямеччыне ў лістападзе 1918 г. разбурылі ідэалагічныя асновы этнакультурнай і адукацыйнай палітыкі Другога Рэйха на акупаваных беларускіх землях, пахавалі рэалізацыю «нямецкай культурнай праграмы» на Усходзе. У апошні перыяд акупацыі ўлады Нямеччыны паступова страчвалі кантроль над чыннасцю мясцовых адукацыйных і культурна–асветных устаноў. Пасля сыходу нямецкіх войск у заходняй частцы Беларусі зачыніліся амаль усе беларускамоўныя казённыя навучальныя ўстановы, якія ў тых

палітычных умовах не сталі для тутэйшых жыхароў сапраўднымі асяродкамі нацыянальнага і патрыятычнага ўсведамлення.

Ваенныя падзеі 1914—1918 гг., расійская рэвалюцыя 1917 г. сталі моцнымі каталізатарамі этнапалітычных і этнакультурных працэсаў у Беларусі, што было абумоўлена палітызацыяй этнічнага фактару ў рэгіёне і актывізацыяй нерасійскіх нацыянальных рухаў. Нацыянальная школа разам з нацыянальным тэатрам і прэсай адыграла мабілізуючую ролю ў справе палітычнай згуртаванасці мясцовых этнічных супольнасцяў. У неспрыяльных умовах акупацыйнага рэжыму шматнацыянальныя грамадскія культурна–асветныя ўстановы, органы мясцовага самакіравання і прыватныя фундатары імкнуліся развіваць незалежную ад акупацыйных улад школьную адукацыю: адкрывалі новыя школы і педагагічныя курсы, выдавалі падручнікі, пашыралі пазашкольную асвету, аказвалі дабрачынную дапамогу бедным школьнікам і сіротам.

У гэты час была разбурана манаполія расійскай казённай адукацыі ў рэгіёне, якая трымалася раней на царскім рэпрэсіўным апараце. У Беларусі на легальных асновах пачала актыўна развівацца нацыянальная адукацыя нерасійскіх этнічных супольнасцяў. Развой габрэйскай свецкай адукацыі адбываўся як на мове ідыш, так і на іўрыце. Разам з тым, трэба прызнаць, што адукацыйны фактар актыўна выкарыстоўваўся расійскімі, польскімі, літоўскімі і ўкраінскімі нацыяналістычнымі і шавіністычнымі коламі ў сваіх вялікадзяржаўных і экспансіянісцкіх мэтах, як інструмент ідэалагічнай апрацоўкі тутэйшага жыхарства дзеля адарвання ад Беларусі аспрэчваемых імі тэрыторый.

Беларуская школьная справа была непарыўна звязана з працэсам станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Сціплыя вынікі развіцця нацыянальнай школы адлюстроўваюць агульную слабасць беларускага нацыянальнага руху. Гэта праявілася ў адсутнасці належных інтэлектуальных сіл і масавай падтрымцы гэтага чыну з боку тутэйшага жыхарства, індыферэнтнага да патрэб нацыянальнага школьніцтва. Размытасць нацыянальнага ўсведамлення шмат у чым абумовіла такую сітуацыю. Супрацьстаянне паміж прыхільнікамі Беларускай Народнай Рэспублікі і аб’ядданым прадстаўніцтвам органаў мясцовага самакіравання, якія стаялі на пазіцыях «западно–руссизма» і адмаўляліся прызнаць абвешчаную незалежнасць Беларусі, негатыўна паўплывала на стан беларускага школьніцтва ў зоне «новай акупацыі». Але нельга не прызнаць таго, што менавіта БНР актывізавала нацыятворчыя працэсы ў беларускім грамадстве, паспрыяла пашырэнню нацыянальнага ўсведамлення сярод настаўніцтва і школьніцтва, павышэнню грамадскага статусу беларускай мовы.

Падчас Першай сусветнай вайны беларуская школа зрабіла першы, самы важны крок на шляху свайго сталення. Пад уплывам беларускага вызвольнага руху многія прадстаўнікі мясцовага настаўніцтва паступова ўключаліся ў нацыянальную культурную працу, распачыналі выкладаць у сваіх школах на роднай мове дзяцей. У гэты ж час закладваўся фундамент сучаснага беларусазнаўства, беларускай навуковай тэрміналогіі, ствараліся асновы класічнага беларускага правапісу, нацыянальнай педагогікі. Пракладваўся шлях будучай беларусізацыі 1924—1929 гг., якая ўяўляла сабой спробу завяршыць працэс стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, распачаты ў 1915—1918 гг.

Але параза беларускага нацыянальнага руху ў 1918—1921 гг. мела трагічныя наступствы і для беларускай школьнай справы. Гэта выразна праявілася ў 1930–я гг., пасля ўсталявання ў савецкай краіне сталінскага таталітарнага рэжыму. Катастрафічныя наступствы сусветнай вайны, эканамічны і сацыяльны закалот на постімперскай прасторы ў пазнейшы час абумовілі жорсткія і недэмакратычныя формы правядзення тут мадэрнізацыі школы на савецкіх асновах. Гэты працэс ва ўмовах існавання вялікай шматнацыянальнай дзяржавы і тагачаснай савецкай палітычнай рэчаіснасці быў моцна замаруджаны, праходзіў вельмі павольна і супярэчліва. Змены ў адукацыйнай сфе-

ры Савецкай Беларусі здзяйсняліся не шляхам дэмакратызацыі школы, а ў кантэксце насаджвання бальшавіцкай класавай ідэалогіі.

Тыя ж краіны, што вызваліліся з ланцугоў расійскага панавання, разам з суверэнітэтам атрымалі магчымасць фармаваць уласную нацыянальную адукацыйную сістэму, развіваць яе навуковую і педагагічную асновы. Для прыкладу, краіны Балтыі — Эстонія, Латвія і Літва, — не валодаючы вялікімі эканамічнымі рэсурсамі, здолелі ўжо ў сярэдзіне 1920–х гг. увесці ўсеагульнае школьнае навучанне, дасягнуць значных поспехаў у развіцці нацыянальнай сярэдняй і вышэйшай школы. Лёс школьнай справы ў Беларусі, якая засталася ў арбіце дзяржаўных інтарэсаў Расіі, склаўся па–іншаму. Наступствы гэтага моцна адчуваюцца і ў нашы дні.

Вельмі праблематычна казаць сёння аб тым, што ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь існуе паўнавартасная нацыянальная сістэма адукацыі. Апошняя разумеецца як адзін з гарантаў суверэнітэту, што будуецца на культурных традыцыях народа, умацоўвае тым самым нацыянальна–дзяржаўнае ўсведамленне грамадзян краіны, з'яўляецца кансалідуючым фактарам грамадскай супольнасці. Ці можна назваць нацыянальнай адукацыйную сістэму ў дзяржаве, у якой на нацыянальнай мове навучаюцца ўсяго 21,5% школьнікаў, а астатнія вучацца на дзяржаўнай мове вялікага ўсходняга суседа. Яшчэ адзін красамоўны факт: у Мінску, сталіцы Рэспублікі Беларусь, сёння існуе ўсяго 4 школы, дзе ўсё выкладанне адбываецца на роднай мове вучняў. 80 гадоў назад, ва ўмовах нямецкай акупацыі, тут дзейнічала 9 беларускамоўных школ, падчас польскай акупацыі іх мелася ўжо 17, а ў 1920–я гг. беларускай нацыянальнай адукацыяй было ахоплена ўсё беларускае насельніцтва школьнага ўзросту. Колькасць тагачаснага жыхарства ў Мінску была амаль у 10 разоў меншая, чым сёння, а беларусы тады не былі ў горадзе нацыянальнай большасцю. Рэгрэс відавочны. Выснова напрошваецца сама — фундамент беларускай дзяржаўнасці мацуецца сёння на нетрывалым, зыбкім грунце.

Дадзенае даследаванне не вычарпала ўсю праблематыку абранай тэмы. Заслугоўвае больш глыбокага вывучэння тагачасная школьная асвета ў Беларусі палякаў, габрэяў, літоўцаў, татараў, іншых нятытульных этнічных груп. Аналіз развіцця айчыннай адукацыі ў гады Першай сусветнай вайны павінны ісці ў кантэксце тых этнапалітычных працэсаў, што адбываліся ў цэлым ва ўсім рэгіёне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Неабходна таксама зрабіць параўнальны аналіз культурных наступстваў акупацыйнага рэжыму Другога Рэйха ў зоне адказнасці нямецкага Усходняга фронту з тым, якую палітыку ў гэтай сферы праводзілі немцы на захопленых тэрыторыях Бельгіі і Францыі — г.зн. на заходнееўрапейскім тэатры вайны.

Без дэталёвага разгляду адукацыйнай палітыкі кайзераўскай ваеннай адміністрацыі на акупаваных землях Беларусі ў 1915—1918 гг. немагчыма да канца зразумець логіку дзеянняў у гэтай галіне нацысцкіх акупацыйных улад падчас Другой сусветнай вайны (1941—1944 гг.). Дагэтуль параўнальны аналіз падзей гэтых дзвюх войнаў у дачыненні да Беларусі нікім сур'ёзна не праводзіўся.

У нашы дні набывае значную актуальнасць вывучэнне ўзаемасувязі паміж адукацыйнымі і геапалітычнымі працэсамі. Без гістарычнага кантэксту тут таксама не абысціся. Багаты эмпірычны матэрыял, які прадстаўляе гісторыя Першай сусветнай вайны, будзе тут вельмі дарэчы. Па–ранейшаму застаецца маладаследаванай праблема ўплыву акупацыйных рэжымаў на псіхалагічны і маральны стан грамадства, на фармаванне светапогляду і духоўных каштоўнасцяў маладога пакалення. Глабальны ваенны канфлікт 1914—1918 гг. дае для вывучэння гэтых складаных пытанняў надзвычай багатую і разнастайную фактаграфію.

# Дадатак 1. Звесткі аб навучальных установах Беларусі, якія былі эвакуіраваны падчас Першай сусветнай вайны на ўсход і поўдзень Расійскай імперыі (1914—1917 гг.)

| Тып навучальнай установы | Колькасць эвакуіраваных устаноў па гадах | | | | Разам | Колькасць эвакуіраваных устаноў па губернях | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1914 г. | 1915 г. | 1916 г. | 1917 г. | | Віленская | Віцебская | Гарадзенская | Магілёўская | Мінская |
| | **1** | **2** | **3** | **4** | **5** | **6** | **7** | **8** | **9** | **10** |
| **Мар'інінскія сярэднія навучальныя ўстановы** | – | 1 | – | – | 1 | – | – | 1 | – | 1 |
| **Гімназіі** | – | 50 | – | 4 | 54 | 20 | 8 | 16 | 1 | 9 |
| *жаночыя* | – | 27 | – | 3 | 30 | 11 | 4 | 10 | 1 | 6 |
| *мужчынскія* | – | 23 | – | 1 | 24 | 9 | 4 | 7 | – | 3 |
| *казённыя* | – | 22 | – | 1 | 23 | 8 | 3 | 8 | 1 | 3 |
| *прыватныя* | – | 25 | – | 3 | 28 | 11 | 5 | 7 | – | 5 |
| *грамадскія* | – | 3 | – | – | 3 | 1 | – | 2 | – | |
| *габрэйскія* | – | 7 | – | – | 7 | 4 | – | 3 | – | |
| **Прагімназіі** | – | 29 | – | 3 | 32 | 10 | 3 | 12 | – | 7 |
| *жаночыя* | – | 24 | – | 3 | 27 | 4 | 3 | 11 | – | 7 |
| *мужчынскія* | – | 5 | – | – | 5 | 6 | – | 1 | – | – |
| *прыватныя* | – | 27 | – | 3 | 30 | 10 | 3 | 10 | – | 7 |
| *грамадскія* | – | 2 | – | – | 1 | – | – | 2 | – | – |
| *габрэйскія* | – | 15 | – | – | 15 | 6 | – | 6 | – | 3 |
| **Рэальныя вучэльні** | – | 12 | – | – | 12 | 3 | 1 | 5 | – | 3 |
| *казённыя* | – | 8 | – | – | 8 | 2 | 1 | 3 | – | 2 |
| *прыватныя* | – | 3 | – | – | 3 | 1 | – | 1 | – | 1 |
| | – | 1 | – | – | 1 | – | – | 1 | – | – |
| *грамадскія* | – | 2 | – | – | 2 | – | – | 1 | – | 1 |
| *габрэйскія* | – | 3 | – | – | 3 | – | – | 2 | – | 1 |
| **Камерцыйныя вучэльні** | – | 2 | – | – | 2 | – | – | 1 | – | 1 |
| *казённыя* | – | 1 | – | – | 1 | – | – | 1 | – | – |
| *грамадскія* | – | 2 | – | – | 2 | 1 | – | – | – | 1 |

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Гандлёвыя школы** | 1 | – | – | – | 1 | 1 | – | – | – | – |
| **Вайсковыя вучэльні** | – | 2 | – | – | 2 | 1 | – | – | – | 1 |
| **Праваслаўныя духоўныя семінарыі** | – | 1 | – | – | 1 | 1 | – | – | – | – |
| **Каталіцкія духоўныя семінарыі** | 1 | – | – | – | 1 | – | 1 | – | – | – |
| **Кадэцкія карпусы і афіцэрскія школы** | – | 6 | – | 1 | 7 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 |
| **Настаўніцкія семінарыі** | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | 1 | – |
| *жаночыя* | – | 6 | – | 1 | 6 | 2 | 2 | 1 | – | 1 |
| *мужчынскія* | – | 3 | – | | 3 | 2 | – | – | – | 1 |
| **Настаўніцкія інстытуты** | – | 2 | – | | 2 | 1 | – | – | – | 1 |
| *хрысціянскія* | – | 1 | – | | 1 | 1 | – | – | – | – |
| *габрэйскія* | – | 6 | 1 | 1 | 8 | 1 | 3 | 2 | – | 2 |
| **Праваслаўныя духоўныя навучальныя ўстановы** | – | 3 | 1 | 1 | 5 | 1 | 2 | 1 | – | 1 |
| *епархіяльныя жаночыя вучэльні* | – | 4 | – | – | 2 | – | 1 | 1 | – | – |
| *духоўныя жаночыя вучэльні* | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | – | 1 |
| *духоўныя мужчынскія вучэльні* | – | 1 | – | – | 1 | 1 | – | – | – | – |
| *царкоўна–настаўніцкія школы* | – | 1 | – | – | 1 | 1 | – | – | – | – |
| **Сярэднія тэхнічныя школы** | – | 2 | – | – | 2 | 1 | – | – | – | 1 |
| **Мастацкія прыватныя школы** | – | 51 | – | 8 | 59 | 13 | 8 | 23 | – | 15 |
| **Вышэйшыя пачатковыя вучэльні** | – | 1 | – | – | 1 | – | – | 1 | – | – |
| **Акушэрскія школы** | – | 2 | – | – | 2 | – | – | 1 | – | 1 |

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Чыгуначныя пачатковыя вучэльні** | – | 1 | – | – | 1 | – | – | | – | – |
| *2–класныя* | – | 1 | – | – | 1 | – | – | 1 | | 1 |
| *1–класныя* | – | 2 | – | – | 2 | 2 | – | – | – | – |
| **Сельскагаспадарчыя школы** | – | 12 | 1 | 1 | 14 | 2 | 7 | 2 | – | 3 |
| **Рамесныя пачатковыя навучальныя ўстановы** | – | 11 | – | – | 11 | 2 | 7 | 1 | – | 1 |
| *рамесныя вучэльні* | – | 1 | 1 | 1 | 3 | – | – | 1 | – | 2 |
| *рамесныя школы* | | | | | | | | | | |
| *казённыя* | – | 9 | 1 | 1 | 12 | 1 | 7 | 1 | – | 2 |
| | – | 3 | – | – | 3 | 1 | – | 1 | – | – |
| *прыватныя* | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | – | 1 |
| *земскія* | – | 3 | – | – | 3 | 1 | – | 1 | – | – |
| *габрэйскія* | – | 32 | – | – | 32 | 5 | – | 21 | – | 6 |
| **Пачатковыя школы** | – | 4 | – | – | 4 | 2 | | 1 | – | 1 |
| *жаночыя* | – | 27 | – | – | 27 | 3 | | 20 | – | 4 |
| *мужчынскія* | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | – | 1 |
| *змешаныя* | – | 25 | – | – | 22 | 3 | | 15 | | 6 |
| *казённыя* | – | 3 | – | – | 3 | 2 | | 2 | | – |
| *прыватныя* | – | 1 | – | – | 1 | – | | 1 | | – |
| *грамадскія* | – | 3 | – | – | 3 | – | | 2 | | – |
| *манастырскія* | – | 19 | – | – | 19 | 3 | – | 13 | – | – |
| *2–класныя народныя* | – | 13 | – | – | 13 | 2 | – | 8 | – | 6 |
| *1–класныя народныя* | | | | | | | | | | |
| *2–класныя царкоўна–прыходскія* | | | | | | | | | | |
| *школы для сляпых дзяцей* | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | – | 1 |
| *габрэйскія* | | 3 | – | – | 3 | – | | 3 | | – |
| **Разам** | 2 | 219 | 2 | 18 | 241 | 67 | 33 | 87 | 2 | 52 |

*Крыніцы:* НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 3, арк. 13—15; спр. 13, арк. 47 адв.; спр. 16, арк. 49, 60, 82—83; спр. 27, арк. 2; спр. 48а, арк. 40, 76; ф. 4 (Белнацкам), воп. 1, спр. 74, арк. 5—5 адв., 18—28, 31—52, 54—117; спр. 75, арк. 3—8 адв., 15—20, 24—26, 51—52, 55, 60—61 адв., 65—67, 91—92; спр. 77, арк. 161—162; спр. 79, арк. 1—9, 73—74, 77—77 адв., 81—96, 104—120, 163, 172—174, 189—191, 193—194, 202—203, 207—209; спр. 80, арк. 25; спр. 82, арк. 45—45 адв.; спр. 84, арк. 6, 18—30 адв., 42; спр. 87, арк. 18—20, 55, 71, 76, 81—82; спр. 101, арк. 62—70 адв.; ф. 42, воп. 1, спр. 9, арк. 30—32; воп. 3, спр. 74, арк. 72—72 адв.; ф. 325, воп. 1, спр. 21, арк. 176; ф. 622, воп. 1, спр. 76, арк. 16, 59, 69 адв.; ф. 804, воп. 1, спр. 4, арк. 171; спр. 7, арк. 9, 12—12 адв., 14, 17—18, 21; спр. 14, арк. 6; спр. 28, арк. 378—384, 388—392; ДАМВ, ф. 322, воп. 1, спр. 10, арк. 298; спр. 22, арк. 74—74 адв.; Справочник об эвакуированных правительственных, общественных и частных учреждениях и заведениях. — Петроград, 1916. — С. 19, 27, 28, 40, 104, 107, 131; Памяць: Гіст.–дак. хроніка Полацка. — Мінск, 2003. — С. 288—292, 300, 306.

## Дадатак 2. Звесткі аб рээвакуіраваных навучальных установах Беларусі ў 1916—1921 гг.

| Тып навучальнай установы | Колькасць рээвакуіраваных навучальных устаноў па гадах | | | | Разам | Колькасць рээвакуіраваных навучальных устаноў па губернях | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1916 г. | 1917 г. | 1918 г. | 1919 г. | | Віленская | Віцебская | Магі–лёўская | Мінская |
| **Гімназіі** | **5** | **2** | **1** | **–** | **8** | **–** | **2** | **1** | **5** |
| *Жаночыя* | 2 | 1 | – | – | 3 | – | 1 | – | 2 |
| *Мужчынскія* | 3 | 1 | 1 | – | 5 | – | 1 | 1 | 3 |
| *Казённыя* | 3 | 1 | | – | 4 | – | 2 | – | 2 |
| *Прыватныя* | 2 | 1 | 1 | – | 2 | – | – | 1 | 3 |
| **Рэальныя вучэльні** | 1 | – | – | – | 1 | – | – | – | 1 |
| **Камерцыйныя вучэльні** | 1 | – | – | – | 1 | – | – | – | 1 |
| **Настаўніцкія інстытуты** | – | – | 1 | – | 1 | – | – | – | 1 |
| **Настаўніцкія семінарыі** | – | 1 | – | – | 1 | – | – | – | 1 |
| **Праваслаўныя духоўныя семінарыі** | – | – | – | 1 | 1 | 1 | | | |
| **Рымска-каталіцкія духоўныя семінарыі** | – | – | – | 1 | 1 | 1 | | | |
| **Мужчынскія праваслаўныя вучэльні** | 1 | – | – | – | 1 | – | 1 | | – |
| **Жаночыя праваслаўныя вучэльні** | 1 | – | – | – | 1 | – | 1 | | |
| **Вышэйшыя пачатковыя вучэльні** | 3 | 1 | – | – | 4 | – | – | – | 4 |
| **Пачатковыя школы** | – | – | – | 1 | 1 | – | – | – | 1 |
| **Школа для сляпых дзяцей** | – | – | – | 1 | 1 | – | – | – | 1 |
| **Разам** | 12 | 4 | 2 | 4 | 22 | 2 | 4 | 1 | 15 |

*Крыніцы:* НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 3, арк. 13—15; спр. 13, арк. 47 адв.; спр. 16, арк. 49, 60, 82—83; спр. 27, арк. 2; спр. 48а, арк. 40, 76; ф. 4 (Белнацкам), воп. 1, спр. 74, арк. 5—5 адв., 18—28, 31—52, 54—117; спр. 75, арк. 3—8 адв., 15—20, 24—26, 51—52, 55, 60—61 адв., 65—67, 91—92; спр. 77, арк. 161—162; спр. 79, арк. 1—9, 73—74, 77—77 адв., 81—96, 104—120, 163, 172—174, 189—191, 193—194, 202—203, 207—209; спр. 80, арк. 25; спр. 82, арк. 45—45 адв.; спр. 84, арк. 6, 18—30 адв., 42;

спр. 87, арк. 18—20, 55, 71, 76, 81—82; спр. 101, арк. 62—70 адв.; ф. 42, воп. 1, спр. 9, арк. 30—32; воп. 3, спр. 74, арк. 72—72 адв.; ф. 325; воп. 1, спр. 21, арк. 176; ф. 622, воп. 1, спр. 76, арк. 16, 59, 69 адв.; ф. 804, воп. 1; спр. 4, арк. 171; спр. 7, арк. 9, 12—12 адв., 14, 17—18, 21; спр. 14, арк. 6; спр. 28, арк. 378—384, 388—392; ДАМВ, ф. 322, воп. 1. спр. 10, арк. 298; спр. 22, арк. 74—74 адв.; Справочник об эвакуированных правительственных, общественных и частных учреждениях и заведениях. — Петроград, 1916. — С. 19, 27, 28, 40, 104, 107, 131; Памяць: Гіст.–дак. хроніка Полацка. — Мінск, 2003. — С. 288—292, 300, 306.

## Дадатак 3. Пастанова галоўнага камандзіра нямецкага Усходняга фронту «Асноўныя напрамкі па адраджэнню школьнай справы ў Обер Ост»

22 снежня 1915 г.

ГАЛОЎНЫ КАМАНДЗІР
УСХОДНЯГА ФРОНТУ
СТАЎКА
ГАЛОЎНАГА КАМАНДЗІРА
Галоўная ваенная ўправа
Аддзел VIII, № 82
22.12.1915 г.

Як я з удзячнасцю даведваюся, па ініцыятыве мясцовых упраў распачалася адбудова і развіццё школьнай справы, якая ў час вайны была прыпынена. Некаторыя ўправы ўжо нават прапанавалі праект раскладу працы школы. І хоць маюцца некаторыя сумненні, адкрыццё школ нельга адкладаць на пазнейшы час.

Да дакумента прыкладаецца дадатак. У ім даюцца для ўпраў важнейшыя напрамкі, якія будуць садзейнічаць адбудове школьнай справы цэнтралізаваным чынам. Улічваючы і прымяняючы асноўныя напрамкі, можна распачынаць арганізацыю, адкрыццё і далейшае развіццё школьнай справы. І калі ў вёсцы гэты працэс будзе адбывацца павольна, то ёсць надзея, што ў гарадах, асабліва вялікіх, ён не сустрэне значных перашкод.

Да 1 сакавіка [1916 г.] прадбачацца паведамленні аб ініцыятывах і школьных справах ад акруг. Да гэтага часу будзе дастатковым тых палажэнняў, якія прадугледжаны пастановай ад 2 снежня 1915 г. за № 39 VII аддзела.

Арыгінал падпісаў Галоўны камандзір Усходняга фронту генерал–фельдмаршал Пауль фон Гіндэнбург.

### Асноўныя напрамкі па адраджэнню школьнай справы
### I. Агульныя ўказанні

*1. Галоўны кантроль. Нагляд. Кіраўніцтва*

Галоўны кантроль над усім працэсам навучання і выхавання ажыццяўляе мая Управа Обер Ост.

Нагляд і кіраўніцтва ў акругах падпарадкаваны загадчыку VIII–га аддзела, які мае права свае паўнамоцтвы поўнасцю ці часткова ўскладаць на падкантрольныя яму органы школьнай адміністрацыі, створаныя для гэтых мэт.

*2. Раённыя школьныя інспектары*

Для ажыццяўлення чыннасці раённай школьнай інспекцыі ў пачатковых і сярэдніх школах у раёнах, дзе няма школьнага інспектара, справамі інспекцыі займаецца кіраўнік адпаведнага аддзела Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

Раённы школьны інспектар з'яўляецца непасрэдным начальнікам падпарадкаванага яму ў раёне настаўніцтва і мае права на дысцыплінарныя санкцыі:

а) папярэджанні і заўвагі;

б) грашовы штраф да 20 марак.

Любое рашэнне пра пакаранні настаўнік павінен прымаць без пярэчанняў.

Раённы школьны інспектар непасрэдна падпарадкоўваецца кіраўніку Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

*3. Мясцовыя школьныя інспекцыі*

Там, дзе гэта неабходна і магчыма, мясцовы нагляд за пачатковымі школамі здзяйсняе мясцовы [гмінны] школьны інспектар, які па школьных справах падпарадкоўваецца раённаму школьнаму інспектару і падначалены кіраўніку Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

*4. Заснаванне школ*

Дазвол на пачатак ці працяг школьных заняткаў, адкрыццё, аб'яднанне і закрыццё разнастайных адукацыйна–выхаваўчых установў, а таксама арганізацыю любых настаўніцкіх курсаў і дазвол на адкрыццё прыватных школ выдае толькі кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

*5. Задачы і мэты школьнага навучання*

Школы маюць на мэце ўмацаванне рэлігійных перакананняў, выхаванне моладзі ў духу паслухмянасці законам, павагі да ўлад Нямеччыны і яе збройных сіл, а таксама прывучэнне да паслухмянасці і парадку, да ахайнасці, праўдзівасці, сумленнасці і глыбокай павагі да бацькоў, развіццё карысных маральных асноў характару і прыстойнасці.

*6. Забарона варожых дзеянняў у дачыненні да Нямеччыны*

Ва ўсіх без выключэння школах у час навучання, а таксама ў час іншых школьных мерапрыемстваў забараняецца садзейнічаць, арганізоўваць ці праводзіць мітынгі, якія скіраваны супраць нямецкай улады і ваенных парадкаў.

*7. Абавязковасць навучання*

Усеагульнае абавязковае навучанне пакуль не ўводзіцца. Аднак там, дзе засноўваецца школа, пры абвяшчэнні аб гэтым бацькі павінны падаць заяву, што яны будуць сваіх дзяцей рэгулярна пасылаць у школу. <…>

*8. Канфесійнасць школы*

Усе дзяржаўныя школы з'яўляюцца ў прынцыпе даступнымі для дзяцей усіх жыхароў, нягледзячы на іх канфесійную прыналежнасць.

Аднак для пачатковых (казённых) школ застаецца вызначальным, як гэта было і раней, прынцып канфесійнасці.

Для неказённых школ, арганізацыя якіх звязана з дадатковымі ўмовамі, гэтае палажэнне прымяняецца з улікам асобных інструкцый і ўказанняў кіраўніка Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

*9. Сумеснае ці асобнае навучанне ў школах*

У аднакласавых і двухкласавых пачатковых (казённых) школах заўсёды адбываецца сумеснае навучанне [для хлопчыкаў і дзяўчынак], аднак у шматкласавых школах можа адбывацца і асобнае навучанне дзяўчынак і хлопчыкаў, калі створаны для гэтага неабходныя ўмовы.

У сярэдніх і вышэйшых школах навучанне ажыццяўляецца асобна, калі на іншае няма асабістых указанняў кіраўніка Управы.

*10. Моўныя дачыненні*

Мовай выкладання павінна быць родная (матчына) мова. Да таго часу, пакуль у не нямецкіх школах выкладаюць па–нямецку, пакідаю за сабой права вырашаць гэтае пытанне адпаведна з прапановамі раённых управ.

Ва ўсіх школах, ад ніжэйшых да вышэйшых класаў, уводзіцца вывучэнне нямецкай мовы, па магчымасці, з як мага большай колькасцю гадзін, каб кожны вучань пасля заканчэння школы мог у дастатковай ступені валодаць як пісьмовай, так і вуснай нямецкай мовай.

Расійская мова як мова навучання ва ўсіх школах забараняецца, але можа факультатыўна выкладацца ў сярэдніх і вышэйшых школах.

Неабходна імкнуцца да таго, каб мова настаўнікаў у зносінах з прызначаным школьным кіраўніцтвам і органамі фінансавага кантролю стала нямецкай.

Чакаецца, што ўсе настаўнікі як мага хутчэй авалодаюць нямецкай мовай.

Навучанне рэлігіі павінна адбывацца толькі ў роднай мове, а ў яўрэяў на мове іх рэлігіі.

*11. Школьнае і рэлігійнае навучанне*

З дазволу кіраўнікоў управ святары могуць праводзіць рэлігійнае навучанне ў школах. Тады яны ўключаюцца ў прадугледжаны планам школьны працэс.

Рэлігійныя суполкі маюць права сачыць за зместам навучання на ўроках рэлігіі.

З гэтай мэтай ім дазваляецца праз свайго прадстаўніка, прозвішча якога паведамляецца кіраўніку ўправы, кантраляваць навучанне рэлігіі і рабіць некаторыя прапановы на разгляд школьнага кіраўніцтва.

Рабіць настаўніку заўвагі наогул і ў метадычных адносінах ім не дазваляецца.

*12. Вучэбны план і расклад урокаў*

Для кожнай школы (класа) складаецца вучэбны план (план размеркавання матэрыялу) і расклад урокаў, якія павінны быць зацверджаны школьным кіраўніцтвам.

Любое адвольнае адхіленне ад гэтых планаў забараняецца.

*13. Вучэбныя дапаможнікі і падручнікі*

Вучэбныя дапаможнікі і падручнікі могуць выкарыстоўвацца толькі з дазволу кіраўніка Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

Расійскія навучальныя дапаможнікі і падручнікі, за выключэннем тых, што адзначаны ў п. 10 у абз. 3, забараняюцца.

*14. Прызначэнне і звальненне настаўнікаў*

Прызначэнне ўсіх настаўнікаў на час вайны адбываецца толькі часова.

Непрыдатных асоб кіраўнік управы вызваляе ад займаемых імі пасад.

*15. Вакацыі*

Вакацыі прызначаюцца кіраўніком Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

## II. Спецыяльныя ўказанні
## А. Народныя [элементарныя] школы

*16. Структура*

Народныя школы падзяляюцца на тры ступені — ніжэйшую, сярэднюю і вышэйшую, у якіх навучанне адбываецца альбо па класавай сістэме, калі адзін настаўнік выкладае ўсе прадметы ў адным класе, альбо па прадметнай сістэме, калі кожны настаўнік выкладае свой прадмет у розных класах.

Размеркаванне па ўзросце ў асобных ступенях (класах) вызначаецца інспектарамі па школьных справах (раённы інспектар).

*17. Прадметы навучання*

Для ўсіх ступеняў: а) рэлігія, б) родная мова, в) матэматыка, г) спевы, д) фізкультура; для сярэдняй і вышэйшай ступеняў: е) гісторыя, ё) геаграфія, ж) прыродазнаўства; там, дзе гэта мажліва, неабавязковыя прадметы: з) маляванне, і) ручная праца, й) праца ў садзе.

*18. Выкладанне рэлігіі*

Па магчымасці там, дзе маюцца настаўнікі, неабходна клапаціцца аб тым, каб кожнае дзіця атрымала рэлігійнае навучанне паводле сваёй канфесійнай прыналежнасці.

Выдаткі за гэта бяруць на сябе тыя, хто аказвае матэрыяльную падтрымку школе.

*19. Школьныя ўправы*

Для ўрэгулявання і вырашэння пытанняў на месцах неабходна:

а) для вясковых школ стварыць па магчымасці вясковыя школьныя ўправы ў складзе не менш за трох сябраў, якія павінны быць прадстаўлены начальнікам раёна на зацвярджэнне Галоўнай ваеннай управе Обер Ост. Мясцовы школьны інспектар і настаўнік школы абавязкова павінны ўваходзіць у склад школьнай управы;

б) у гарадах неабходна стварыць гарадскія школьныя ўправы, якія павінны прызначацца кіраўніком Галоўнай ваеннай управы Обер Ост са складу святарства, настаўнікаў і мяшчанаў.

Рашэнні школьных упраў прадстаўляюцца на зацвярджэнне кіраўніку акругі (горада ці раёна):

а) ад кіраўніка горада;

б) могуць быць зменены ці адменены ім паводле меркавання школьнага інспектара раёна.

Пастанова аб парадку справаводства для школьных упраў яшчэ распрацоўваецца.

*20. Прыём на працу і аплата працы настаўнікаў*

Прыём на працу і ўстанаўленне аплаты працы настаўнікаў праводзіцца кіраўніком Галоўнай ваеннай управы Обер Ост. Для вызначэння аплаты працы патрабуецца мая згода.

*21. Колькасць школьнікаў*

Ніводны клас не мае права мець больш за 50 дзяцей.

*22. Колькасць абавязковых [школьных] гадзін*

Колькасць абавязковых гадзін у тыдзень для настаўніка — 32, для настаўніцы — 28.

*23. Час навучання*

Час навучання — бесперапынны на працягу лета і зімы.

*24. Сродкі на школьную справу*

Неабходна імкнуцца да таго, каб вясковыя раёны і гарады ўзялі на сябе выдаткі на ўтрыманне школ. Папярэдне неабходна забяспечыць школьны працэс праз дабрачынныя датацыі, а ў выпадку неабходнасці — праз увядзенне аплаты за навучанне бацькамі.

## Б. Сярэднія і вышэйшыя школы

*25. Азначэнне*

Вышэйшыя школы рыхтуюць навучэнцаў для атрымання акадэмічнай адукацыі. Замежныя мовы, якія павінны вывучацца, вызначаюцца вучэбным планам навучальнай установы. У пераходны перыяд, з дазволу кіраўніка Галоўнай ваеннай управы Обер Ост, можа быць прадугледжана выкладанне расійскай мовы ў якасці адной з абавязковых замежных моў.

Усе іншыя школы, якія выходзяць за рамкі народных школ, лічацца сярэднімі навучальнымі ўстановамі.

*26. Залічэнне на службу*

Кіраўнікі школ і настаўнікі запрашаюцца на працу мясцовымі органамі кіравання, аб'яднаннямі, карпарацыямі, асобамі, якія ўтрымліваюць школы.

Запрошаныя павінны мець дазвол на працу ад кіраўніка Галоўнай ваеннай управы Обер Ост. Залічэнне дзейнічае з дня атрымання дазволу ад кіраўніка названай Управы.

*27. Аплата працы настаўніка*

Аплату для кіраўнікоў школ і настаўнікаў вызначаюць тыя, хто ўтрымлівае і загадвае школай, пасля адабрэння кіраўніком аддзела Галоўнай ваеннай управы Обер Ост. Пункт 20, абзац 2 мае сілу таксама і тут.

*28. Колькасць вучняў*

У сярэдніх, а таксама на першых і прамежкавых курсах вышэйшых навучальных устаноў не можа быць больш за 40 навучэнцаў (студэнтаў), а на апошніх курсах вышэйшай школы — не больш за 30.

Стаўка Галоўнага камандзіра, 22 снежня 1915 г.

Арыгінал падпісаў Галоўны камандзір Усходняга фронту генерал–фельдмаршал Пауль фон Гіндэнбург.

За адпаведнасць нясе адказнасць падпісаўшы арыгінал — загадчык [VIII–га] аддзела капітан Альтман.

*Крыніцы:* Befehls–und–Verorgnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost. In 3–Bde, Hauptquartier: Druckerei des Oberbefehlshabers Ost (Kaunas), 1915—1918. — Bd. 1 (1915/16). — S. 105—110. Пераклад з нямецкай У. Сакалоўскага.

## Дадатак 4. Дадаткі і ўдакладненні да «Асноўных напрамкаў па адраджэнню школьнай справы ў зоне Обер Ост»

16 студзеня 1916 г.

ГАЛОЎНЫ КАМАНДЗІР
УСХОДНЯГА ФРОНТУ
СТАЎКА
ГАЛОЎНАГА КАМАНДЗІРА
Галоўная ваенная ўправа
Аддзел VIII, № 231
16.01.1916 г.

*Таемна (канфідэнцыйна)*

У той час калі асноўныя напрамкі і палажэнні пра прымяненне закона для грамадскасці вызначаны, я таемна загадваю прытрымлівацца яшчэ некаторых палажэнняў, якія пры адраджэнні школьніцтва павінны ўсімі выконвацца.

1. Кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост нясе перада мной адказнасць за тое, каб заняткі праводзіліся так, як я вызначыў у Асноўных напрамках.

Асобы, адказныя за школьную справу, і школьныя інспектары, падпарадкаваныя акруговым ваенным управам, з'яўляюцца тымі ўстановамі, якія павінны аддаваць указанні.

Насельніцтва амаль паўсюдна імкнецца да навучання і ўхваляе вызваленне ад расійскага панавання, якое замаруджвала іх духоўны прагрэс, як пазбаўленне ад дыскрымінацыі.

Гэтыя спрыяльныя для нас настроі павінны намі заахвочвацца, а не разбурацца нашымі дзеяннямі.

2. Не павінна праводзіцца аніякага анямечвання; з іншага боку, не павінен праяўляцца прыгнёт этнічных меншасцяў (немцаў, літоўцаў, беларусаў ды інш.).

Мяркуецца, што дзякуючы арганізацыі стройнай школьнай сістэмы можна будзе прывесці мясцовыя народнасці, улічваючы іх нацыянальныя адметнасці, да больш высокай ступені рэлігійна–маральнай адукацыі, каб яны мелі магчымасць выконваць свае абавязкі перад Богам, дзяржаўнай уладай і сваімі роднымі (пункт 5 «Асноўных напрамкаў»).

3. Зыходзячы з гэтага пастулата, нельга супрацьдзейнічаць дзейнасці вясковых святароў у школах, аднак яна павінна вызначацца на аснове ўстаноўленых уладамі палажэнняў, а не па ўласнаму праву.

4. Усе веравызнанні і рэлігійныя суполкі маюць аднолькавыя правы; ні адна з іх не можа мець перавагі ці ставіцца ў нявыгаднае становішча; неабходна пазбягаць міжрэлігійных спрэчак.

Калі на ўнутраны школьны працэс (вучэбныя планы, спосабы і сродкі навучання і г.д.) уплывае нямецкая прысутнасць, то яна павінна праяўляцца ў такой ступені, каб будучы палітычны лёс краю быў звязаны з карысцю для Нямеччыны.

Разам з тым звяртаю ўвагу на наступныя пункты асноўных напрамкаў:

*Да пункта 1*

У вышэйшай школе нагляд за школай ажыццяўляе кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост праз свайго чыноўніка, адказнага за школьную справу.

Школьнымі ўладамі раёна з'яўляюцца начальнік раёна (ці обергаўптман*) і раённы школьны інспектар, якія каардынуюць усю працу паміж сабой.

* Пасада ваеннага кіраўніка нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ў горадзе, адпаведная грамадзянскай пасадзе обербургамістра (заўв. У.В. Ляхоўскага).

Аднак начальніку раёна (ці обергаўптману), які ажыццяўляе ў дадзеным месцы ўладу, належыць першая роля. Таму і начальнік раёна, і обергаўптман у час паседжання рады раённых школьных кіраўнікоў павінны кіраваць імі.

Пры двухбаковых тактоўных дачыненнях можна пазбегнуць непаразуменняў [паміж гэтымі чыноўнікамі], якія ніколі не павінны праяўляцца ў дачыненні да насельніцтва.

*Да пункта 2*

Пакуль што колькасць раённых школьных інспектараў можа быць абмежаванай. Неабходна, каб кожны з іх адначасова запрашаўся ў якасці сябры раённага школьнага кіраўніцтва для многіх раёнаў. Для залічэння на службу раённых школьных інспектараў неабходна падаваць мне заяўкі ад кіраўніка Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

Хачу пры гэтым падкрэсліць, што Галоўнай ваеннай управе Обер Ост будуць неабходны высокакваліфікаваныя раённыя школьныя інспектары, каб можна было падняць занядбаную да гэтага часу школьную справу на больш высокі ўзровень.

*Да пункта 3*

Калі ў гэтым ёсць неабходнасць, дазволена прызначаць на пасаду мясцовых інспектараў і тутэйшых святароў, калі яны па сваіх якасцях адпавядаюць ёй і калі іх рэкамендуе кіраўніку Галоўнай ваеннай управы Обер Ост начальнік раёна са згоды раённага школьнага інспектара.

Пры гэтым хачу засяродзіць увагу на тым, што настаўнік, падданы Нямецкага Рэйха, не можа прызначацца на пасаду мясцовага школьнага інспектара не нямецкіх школ.

*Да пункта 7*

Калі ў адной мясцовасці школа з нямецкай мовай выкладання месціцца побач з іншамоўнай, то рэкамендуецца нямецкую школу зрабіць шматкласавай і з больш працяглым тэрмінам навучання.

З другога боку, неабходна па магчымасці пазбягаць сітуацыі, калі нямецкія дзеці вучыліся ў школах не з нямецкай мовай навучання.

Калі школьны раённы інспектар, прызначаны на пасаду для многіх школьных раёнаў, з–за аб’ектыўнай немагчымасці не ў стане разгледзець тую ці іншую спрэчную справу, начальнік раёна без папярэдняга хадайніцтва школьнага інспектара можа аддаць судовы загад. У гэтым выпадку настаўнік павінен накіраваць непасрэдна начальніку раёна спіс пропускаў школьных заняткаў дзецьмі. (Гл. пункт 7, апошні абзац, першы сказ.)

*Да пункта 8*

Асабліва грунтоўна павінна правярацца неабходнасць у адкрыцці прыватных народных школ.

Мерапрыемствы па перападрыхтоўцы настаўнікаў ці настаўніцкія курсы, як дзяржаўныя, так і прыватныя, могуць здзяйсняцца толькі з майго асаблівага дазволу. Аб гэтых мерапрыемствах неабходна паведамляць загадзя.

*Абзац 1 да пункта 10, першы сказ*

Пры вызначэнні роднай мовы для іх неабходна ўлічваць і тую акалічнасць, што многія літоўцы і беларусы гавораць па–польску. Вызначэнне для іх польскай мовы ў якасці роднай было б не на карысць літоўскай і беларускай нацыянальнасцям.

*Абзац 1, другі сказ дапоўніць:*

адносіцца да тых школ, якія наведвае пэўны працэнт дзяцей, што размаўляюць на нямецкай мове.

У гэтым выпадку ўжыванне нямецкай мовы як мовы навучання для ўсёй школы ці для пэўнага года навучання дзяцей залежыць ад майго рашэння.

*Абзац 2*

Што тычыцца нямецкай мовы як дысцыпліны, то пажадана, каб усе настаўнікі як мага хутчэй знаёміліся з натуральным метадам навучання мове, які засноўваецца на зрокавым успрыняцці. <…>

*Абзац 6*

Да апошняга сказа раблю заўвагу адносна яўрэйскіх школ. Вывучэнне рэлігійнай мовы яўрэяў (іўрыта) можна праводзіць толькі на ўроку па рэлігіі. Іншыя ўрокі для гэтай мэты выкарыстоўвацца не могуць.

*Да пункта 11*

Неабходна імкнуцца да таго, каб і ў каталіцкіх народных школах рэлігійнае навучанне праводзілася настаўнікам школы.

Аднак калі такога настаўніка няма, нельга пярэчыць таму, што гэтая пасада можа быць перададзена адпаведнаму святару, які будзе прытрымлівацца вучэбнага плана і плана раскладу заняткаў.

*Заключная заўвага*

Загад аб асобных службовых інструкцыях для настаўнікаў і школьнага кіраўніцтва застаецца за мною.

16 студзеня 1916 г.

Галоўны камандзір Усходняга фронту

Арыгінал падпісаў генерал–фельдмаршал Пауль фон Гіндэнбург

За адпаведнасць нясе адказнасць падпісаўшы арыгінал генерал–лейтэнант Людэндорф

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 101—104. Пераклад з нямецкай У. Сакалоўскага.

## Дадатак 5. Дадатковыя ўказанні аб прымяненні «Асноўных напрамкаў па адраджэнню школьнай справы ў зоне Обер Ост»

16 студзеня 1916 г.

*Ніжэй пададзеныя палажэнні не могуць быць ажыццёўлены адразу, але неабходна паступова рэалізоўваць апошнія з часу іх прыняцця.*

*Да пунктаў 1 і 2 «Асноўных напрамкаў…»*

Вышэйшым органам школьнай інспекцыі з’яўляецца мая Управа культаў.

Кіраўнікі раённых упраў з’яўляюцца вышэйшай інспектарскай інстанцыяй у акругах і павінны здзяйсняць кантроль за ніжэйшымі па падпарадкаванню школьнымі органамі.

Для кожнага раёна прызначаецца раённая школьная інспекцыя, якая загадвае народнымі і сярэднімі школамі. У яе склад уваходзяць начальнік раёна (крайсгаўптман, а ў горадзе — обергаўптман) і раённы (гарадскі) інспектар. Першаму з іх ставіцца ў абавязкі ўрэгуляванне школьных дачыненняў вонкавага характару, другому — унутраная школьная праца.

*Да пункта 7*

Як заведзена, дзеці, якім споўнілася 6 гадоў, дасягаюць школьнага ўзросту, г.зн. робяцца здатнымі да навучання; у дзіцячыя садкі і школы пісьменнасці (з гульнямі) для малалетніх могуць прымацца дзеці больш ранняга ўзросту.

На працягу гэтага года будзе магчымым прасачыць, ці будуць вонкавыя ўмовы спрыяць таму, каб дашкольны працэс стаў пралогам 3–гадовага школьнага навучання, якое да гэтага часу было недастатковым.

Пропускі школьных заняткаў караюцца. Загад аб пакараннях за пропускі заняткаў выдае кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

Загад пра пакаранне зыходзіць ад начальніка раёна (крайсгаўптмана або обергаўптмана) паводле прапановы школьнага інспектара раёна (крайса) па месцы жыхарства. Больш дробныя ўдакладненні павінен урэгуляваць кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост. Грошы ад штрафу паступаюць у грашовую скарбонку раёна. Школьнаму інспектару неабходна давесці да ведама інфармацыю пра абвешчаны штраф.

*Да пункта 10*

Роднай мовай для дзіцяці, якое наведвае школу, лічыцца тая мова, на якой з ім бацькі размаўляюць дома. Для яўрэяў, як правіла, у якасці роднай мовы прадугледжваецца «габрэйска–нямецкая» [ідыш].

У спрэчных выпадках гэтую праблему вырашае кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост пасля заслухоўвання мясцовай школьнай адміністрацыі.

Нямецкая мова павінна вывучацца не метадам перакладу (дэдуктыўна), а паводле натуральнай методыкі (індуктыўна).

Беларуская мова, якая не з'яўляецца ідэнтычнай з расійскай, дазваляецца да выкладання без абмежавання.

*Да пункта 12*

Вучэбныя планы (планы размеркавання вучэбнага матэрыялу) і планы раскладу ўрокаў складаюцца для кожнай школы яе загадчыкам з дапамогай усіх іншых настаўнікаў школы і накіроўваюцца для зацвярджэння ад народных і сярэдніх школ раённаму школьнаму інспектару, а ад апошніх — кіраўніку Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

Пры складанні плана размеркавання вучэбнага матэрыялу па рэлігіі, у тым выпадку, калі навучанне па рэлігіі вядзе духоўная асоба (святар), ён і павінен турбавацца пра складанне і зацвярджэнне плана.

План раскладу ўрокаў, які ўключае набор урокаў па асобных дысцыплінах, павінен вывешвацца ў кожным класе.

Вучэбны план і план размеркавання навучальнага матэрыялу захоўваюцца ў класе.

*Да пункта 13*

Кожнай школе ў працэсе навучання неабходны як мінімум наступныя вучэбныя сродкі:

1. Па аднаму паасобніку кожнага з уведзеных у школе падручнікаў і класавы журнал.
2. Геаграфічная карта Бацькаўшчыны.
3. Карта Еўропы.
4. Карта Нямеччыны.
5. Геаграфічная карта Палесціны.
6. Глобус.
7. Лічыльнае прыстасаванне.
8. Альфабэта з літарамі, якія бачны на далёкай адлегласці, для іх выкарыстання на першых уроках чытання альбо прыстасаванне для чытання.
9. Наглядныя вучэбныя дапаможнікі па гісторыі, геаграфіі і прыродазнаўству, колькасць якіх пастаянна павінна павялічвацца.
10. Скрыпка.
11. Лінейка і цыркуль.

Неабходна пастаянна рупіцца аб набыцці навучальных сродкаў для навучання ва ўсіх школах.

Асабліва неабходна садзейнічаць таму, каб дзеці самі стваралі наглядныя вучэбныя дапаможнікі, якія па магчымасці маглі б актыўна выкарыстоўвацца пры навучанні дзяцей для паляпшэння іх разумовых здольнасцей і асабліва дапамагалі б падчас правядзення практыкаванняў па нямецкай мове на ніжэйшых ступенях школы.

Кожны настаўнік вядзе для свайго класа:

1. Спіс навучэнцаў.
2. Спіс наведвання дзецьмі школы.
3. Запіс пройдзенага навучальнага матэрыялу.

Акрамя таго, школьны кіраўнік павінен весці:

а) спісы ўсіх, хто вучыўся і вучыцца ў гэтай школе, якія заўсёды павінны ўтрымлівацца ў належным стане;

б) школьную хроніку, якая павінна паведамляць не толькі пра падзеі, якія адбываюцца ў школе, але таксама і пра гісторыю мясцовага краю, яго мінулае і сучаснасць;

в) інвентарны спіс школы.

Як самыя неабходныя сродкі ў працэсе навучання ў народнай школе, у кожнага вучня павінны быць:

1. Кнігі, якія прызначаны для навучання рэлігіі.
2. Лемантар і чытанка.
3. Задачнік.
4. Спеўнік.
5. Сшытак для чыстапісання.
6. Сшытак для напісання пісьмовых твораў і дыктовак.
7. Дзённік.

Пры спрыяльных для школы ўмовах могуць патрабавацца таксама школьны атлас, кніга па прыродазнаўству, асобныя сшыткі для розных дысцыплін і блакнот для малявання. Адносна здабыцця грошай на іх закупку — глядзі пункт 24 «Асноўных напрамкаў…».

Выкарыстанне грыфельнай дошкі і грыфельнага алоўка можа служыць толькі дапаможным сродкам.

*Да пункта 15*

Расклад вакацый у сярэдніх і вышэйшых школах павінен прапаноўвацца мне ў будучыні да 1 сакавіка наступнага школьнага года.

Пры вызначэнні вакацый для вясковых народных школ неабходна ўлічваць мясцовыя сельскагаспадарчыя ўмовы.

Школьныя кіраўнікі — гэта зразумела, адзіныя настаўнікі аднакласавых і першыя настаўнікі двухкласавых народных школ. Пры трохкласавых народных школах і школах з большай колькасцю класаў кіраўнік Галоўнай ваеннай управы Обер Ост прызначае на пасаду школьнага кіраўніка (старшага настаўніка), які працуе настаўнікам па рэкамендацыі школьных улад.

*Да пункта 16*

Размеркаванне дзяцей аднаго і таго ж года нараджэння па асобных аддзелах класа павінна адбывацца з улікам працягласці часу навучання. Пры гэтым неабходна кіравацца наступным прынцыпам, які асабліва важны ў народнай школе — каб па магчымасці ўсе дзеці дасягнулі сваёй мэты: закончылі клас у належны тэрмін. Калі настаўнік старанна рыхтуецца да заняткаў і якасна праводзіць навучанне — гэтая мэта будзе дасягнута.

Калі ў якой–небудзь школе класавы пакой для прызначанай колькасці вучняў малы ці маецца ў наяўнасці больш за 50 дзяцей і няма магчымасці залічыць на працу яшчэ аднаго школьнага супрацоўніка, настаўнік павінен падзяліць вучняў на два аддзелы.., дзе навучанне вядзецца асобна. Такая школа з падзеленымі аддзеламі аднаго класа і адным настаўнікам (вясковая школа з падоўжаным працоўным днём) можа існаваць толькі як выключэнне.

Асобнай разнавіднасцю школы з падзеленымі аддзеламі з’яўляецца трохкласавая школа з двума настаўнікамі. Для ўсіх такіх школ (таксама сярэдніх і вышэйшых ступеняў) уводзяцца скарочаныя ўрокі, г.зн. кожны асобны ўрок прадаўжаецца толькі

45 хвілін. У абодвух відах вясковых школ з падзеленымі аддзеламі класаў ён працягваецца толькі 40 хвілін. <…>

Для пачатковых класаў кожны ўрок працягваецца 40 хвілін; для старэйшых класаў — 45 хвілін.

Пасля 1–га, 3–га і 5–га ўрока перапынак — 5 хвілін; пасля 2–га і 4–га — па 10 хвілін. <…>

У час 10–хвіліннага перапынку настаўнік павінен выводзіць дзяцей на свежае паветра для гульняў. Лепшымі лічацца гульні са спевамі.

Прыклад раскладу ўрокаў, якія працягваюцца 45 хвілін

| Пачатак урока | Заканчэнне ўрока |
|---|---|
| з 8.00 | да 8.45 |
| 8.50 | 9.35 |
| 9.45 | 10.30 |
| 10.35 | 11.20 |
| 11.30 | 12.15 |

Прыклад раскладу ўрокаў, якія працягваюцца 40 хвілін

| Пачатак урока | Заканчэнне ўрока |
|---|---|
| з 8.00 | да 8.40 |
| 8.45 | 9.25 |
| 9.35 | 10.15 |
| 10.20 | 11.00 |
| 11.10 | 11.50 |
| 11.55 | 12.35 |

*Да пункта 17*

Расклад заняткаў на тыдзень па прадметах навучання

| Назва прадметаў | Ніжэйшая ступень | | | Сярэдняя і вышэйшая ступені | | | III клас | | II клас | | I клас | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | а | б | в | а | б | в | г | д | г | д | г | д |
| Рэлігія | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 |
| Мова | 10 | 14 | 15/16 | 10 | 12 | 12 | 16 | 9 | 16 | 16 | 12 | 11 |
| Матэматыка | 4 | 4 | 4/5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 |
| Гісторыя | – | – | – | 2 | 2 | 2 | – | – | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Геаграфія | – | – | – | 1 | 2 | 2 | – | – | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Прыродазнаўства | – | – | – | 1 | 2 | 2 | – | – | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Маляванне | – | – | – | – | 2 | 2 | – | – | 1 | – | 2 | 1 |
| Спевы | 1 | 2 | 2/2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 |
| Фізкультура | 1 | 2 | 2/2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 |
| Праца ў садзе | – | – | – | – | 2 | 2 | – | – | – | – | 2 | 2 |
| Усяго | 20 | 26 | 28/30 | 24 | 36 | 36 | 28 | 18 | 34 | 30 | 36 | 31 |

---

а) школа з падоўжаным працоўным днём;

б) аднакласавая школа;

в) двухкласавая школа;

г) трохкласавая школа;

д) трохкласавая школа з 2 настаўнікамі.

У школах, дзе працуюць настаўніцы, адбываецца адпаведная змена заняткаў (згодна з пунктам 22).

Колькасць заняткаў па нямецкай мове вызначаецца паводле пункта 10 другога абзаца «Асноўных напрамкаў…».

*Да пункта 26*

Права на прызначэнне на пасаду настаўніка траціць сілу ў выпадку, калі [кандыдату] адмоўлена ў зацвярджэнні двойчы. Настаўнікам з'яўляецца той, хто залічваецца на працу на адпаведнае месца кіраўніком Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

*Заключныя заўвагі*

1. Неабходна імкнуцца да таго, каб пад класы выкарыстоўваліся толькі тыя памяшканні, якія бясшкодныя для здароўя дзяцей. Школьныя памяшканні павінны быць светлымі і з магчымасцю паступлення свежага паветра, павінны мець надзейныя прыстасаванні для праветрывання, ахову ад умоў надвор'я і забяспечвацца дастатковай колькасцю фіранак.

2. У кожным класе павінна быць надзвычайная (педантычная) чысціня. Дзеля гэтага неабходна праводзіць штодзённае прыбіранне класаў пасля заканчэння заняткаў. Накапленне пылу недапушчальна.

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 111—113. Пераклад з нямецкай У. Сакалоўскага.

## Дадатак 6. Новая рэдакцыя асобных палажэнняў «Асноўных напрамкаў па адраджэнню школьнай справы ў зоне Обер Ост»

7 сакавіка 1916 г.

ГАЛОЎНЫ КАМАНДЗІР
УСХОДНЯГА ФРОНТУ
СТАЎКА
ГАЛОЎНАГА КАМАНДЗІРА
Галоўная ваенная ўправа
Аддзел VIII, № 376
07.03.1916 г.

I. Пункты 26 і 27 «Асноўных напрамкаў па адраджэнню школьнай справы…» (Дадатак да Бюлетэня загадаў і распараджэнняў Галаўнага камандзіра Усходняга фронту № 7, пункт 48) набываюць наступную дакладную фармулёўку:

*26. Залічэнне на службу*

Кіраўнікі школы і настаўніцкі персанал залічваюцца на працу кіраўніком Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

Для дзяржаўных школ адпаведных кандыдатаў на пасаду прымаць на працу абавязаны начальнік (обергаўптман) сельскага раёна ці горада, для прыватных школ, якія знаходзяцца на добраахвотным утрыманні, — школьная ўправа, зацверджаная кіраўніком Галоўнай ваеннай управы Обер Ост.

*27. Аплата працы настаўнікаў*

Аплата працы для кіраўніцтва школы і настаўніцкага персаналу вызначаецца загадчыкам Галоўнай ваеннай управы пасля заслухоўвання начальніка раёна, для пры-

ватных школ — пасля заслухоўвання школьнай управы. (Гл. пункт 20; другі сказ тут таксама захоўвае сваю сілу.)

II. Вызначэнне да пункта 26 уводнага палажэння за 16 студзеня 1916 г. да «Асноўных напрамкаў...» (Бюлетэнь загадаў і распараджэнняў Галоўнага камандзіра Усходняга фронту. Дадатак 2 да № 7, пункт 48) траціць сваю сілу.

За Галоўнага камандзіра Усходняга фронту Начальнік Генеральнага штаба фронту Эрых фон Людэндорф.

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 114. Пераклад з нямецкай У. Сакалоўскага.

## Дадатак 7. Праект інструкцыі па стварэнню школьнай секцыі Віленска–Ковенскага грамадскага камітэта, складзены А. Луцкевічам

Снежань 1915 г.

I. Школьная камісія ВКГК складаецца з выбарных і прыналежных да народнасцей польскай, літоўскай, беларускай і яўрэйскай: па аднаму прадстаўніку, таксама з прадстаўнікоў прэзідыума ВКГК у складзе 3–х асоб: старшыні, 1–га заступніка і 1–га сакратара.

Прынцыпы працы Школьнай секцыі:

А. Прызнанне свабоды навучання;

Б. Абавязковая пачатковая адукацыя ў гмінах і мястэчках;

В. Прызнанне мовы хатняй (матчынай мовы) за мову выкладання;

Г. Гарантаванне правоў народных меншасцяў шляхам тварэння за кошт грамадскай [ініцыятывы] асобнай школы з мовай выкладовай гэтай народнасці, калі колькасць дзяцей у дадзенай мясцовасці, якія ўжываюць дома гэтую мову, складае не меней 20 дзяцей.

Д. Увядзенне выкладання той ці іншай мовы краёвай — паводле жадання грамадскасці.

*Заданні Школьнай секцыі ВКГК:*

1. Выпрацоўка планаў выкладання і праграмы прадметаў для пачатковых школ на мясцовых мовах;
2. Высылае сваіх прадстаўнікоў да гмін, у якіх вымушаны быць узноўлены альбо створаны новыя школы, з мэтай вызначэння на месцы, на якой мове трэба ствараць школу паводле аб'ектыўнага вызначэння нацыянальнага складу насельніцтва;
3. Дапамога ў адкрыцці школ, у забеспячэнні іх інвентаром, падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі і г.д.
4. Дапамога гмінным школам у пошуку настаўнікаў, арганізацыі мясцовых курсаў па падрыхтоўцы настаўнікаў для ўсіх народнасцяў;
5. У выпадку канфлікту высылаецца адмысловая камісія па справядліваму ўладжанню дадзенай сітуацыі.

*Крыніца:* БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126, арк. 114—115.

## Дадатак 8. Афіцыйная нямецкая статыстыка колькасці пачатковых школ у зоне Обер Ост паводле іх рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці

| Адм. акруга | Дата | Агульная колькасць | Паводле веравызнання | | | | Паводле мовы выкладання | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Каталіцкія | Пратэстанцкія | Іўдзейскія | Праваслаўныя | Нямецкая | Літоўская | Польская | Беларуская | Ідыш | Іншыя |
| «Літва» [1] | Кастрычнік 1916 | 470 | 351 | 13 [2] | 54 | 3 | 58 [3] | 254 | 118 | 5 | – | 7 [4] |
| | Снежань 1917 | 784 | 638 | 49 [9] | 89 | 1 | 96 [10] | 525 | 115 | 4 | 41 | 3 [4] |
| | Сак./крас. 1918 | 985 | — [18] | — | — | — | 75 | 687 | 121 | 10 | 85 | 7 |
| «Беласток—Горадня» | Кастрычнік 1916 | 358 | 273 | 6 [5] | 71 | 4 | 7 | 6 | 267 | 3 | — | 4 |
| | Снежань 1917 | 324 | 194 | 6 [12] | 79 | 44 | 73 [14] | 17 | 176 | 46 | 12 | — |
| | Сак./крас. 1918 | 365 | — | — | — | — | 6 | 23 | 178 | 79 | — | — |
| Разам | Кастрычнік 1916 | 828 | 624 | 19 [6] | 125 | 7 | 65 [7,8] | 260 | 385 | 8 | — | 11 [4] |
| | Снежань 1917 | 1108 | 832 | 55 [17] | 168 | 45 | 169 [15] | 542 | 291 | 50 | 53 | 3 [4] |
| | Сак./крас. 1918 | 1350 | — | — | — | — | 81 [16] | 710 | 299 | 89 | 164 | 7 [13] |

Заўвагі:
1) разам з акругай «Вільня—Сувалкі»;
2) +49 «сімультанавых» школ (з вучнямі, большасць якіх вызнаюць адно евангелізм, а меншасць належыць да іншых пратэстанцкіх канфесій);
3) 32 — нямецкія, 26 — яўрэйскія з нямецкай мовай выкладання;
4) з іх 3 — латышскія;
5) + 4 «сімультанавыя» школы;
6) + 3 «сімультанавыя» школы;
7) 39 — нямецкія, 26 — яўрэйскія з нямецкай мовай выкладання;
8) + 99 яўрэйскіх школ, дзе раўналежна з нямецкай мовай выкладаўся ідыш;
9) + 7 «сімультанавых» школ;
10) 48 — нямецкія, 48 — габрэйскія з нямецкай мовай выкладання;
11) не вызначаны;
12) у тым ліку 1 «сімультанавая» школа;
13) 7 — латышскіх;
14) 6 — нямецкіх, 67 — габрэйскіх з нямецкай мовяй выкладання;
15) 54 — нямецкія, 115 — габрэйскіх з нямецкай мовай выкладання;
16) 77 — нямецкіх, 4 — габрэйскія з нямецкай мовай выкладання;
17) + 8 «сімультанавых» школ;
18) звесткі адсутнічаюць.

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 101. Пераклад з нямецкай В. Конан–Труцько.

## Дадатак 9. Афіцыйная нямецкая статыстыка нацыянальнага складу навучэнцаў элементарных (народных) школ у зоне Обер Ост паводле вызначэння іх роднай мовы

| Адміністра-цыйная акруга | Дата | Агульная колькасць навучэнцаў | Родная мова сям'і | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Нямецкая | Літоўская | Польская | Беларуская | Ідыш | Іншыя |
| «Літва» | Кастрычнік 1916 | 38 333 | 1587 | 16 673 | 10 426 | 144 | 9060 [2] | 443 [3] |
| | Снежань 1917 | 47 062 | 2366 | 27424 | 7574 | 223 | 9016 | 459 [4] |
| «Беласток—Горадня» | Кастрычнік 1916 | 26425 | 379 | 214 | 14 654 | 497 | 10541 [2] | 140 |
| | Снежань 1917 | 26186 | 332 | 479 | 9929 | 3043 | 12371 | 32 |
| Обер Ост разам | Кастрычнік 1916 | 64 758 | 1966 | 16 887 | 25 080 | 641 | 19601 [2] | 583 [3] |
| | Снежань 1917 | 73 248 | 2698 [1] | 27 903 | 17 503 | 3266 | 21387 | 491 [4] |

Заўвагі:
1) з іх для 42 — ідыш; 2) у тым ліку і тыя, хто назваў сваёй роднай мовай іўрыт;
3) з іх для 313 — латышская; 4) з іх для 397 — латышская.

*Крыніца*: Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 102. Пераклад з нямецкай В. Конан–Труцько.

## Дадатак 10. Афіцыйная нямецкая статыстыка складу навучэнцаў у зоне Обер Ост паводле іх веравызнання

| Назва адміністрацыйнай адзінкі | Дата | Агульная колькасць | Каталікі | Пратэ-станты | Іўдзеі | Права-слаўныя |
|---|---|---|---|---|---|---|
| «Літва» | Кастрычнік 1916 | 38333 | 26723 | 2420 | 9060 | 128 [1] |
| | Снежань 1917 | 47062 | 34641 | 3131 | 9058 | 223 |
| «Беласток—Горадня» | Кастрычнік 1916 | 26425 | 14887 | 551 | 10541 | 497 |
| | Снежань 1917 | 26186 | 10989 | 341 | 12371 | 3043 |
| Обер Ост разам | Кастрычнік 1916 | 64758 | 41610 | 2971 | 19601 | 641 |
| | Снежань 1917 | 73248 | 45630 | 3472 | 21429 | 3266 |

Заўвагі:
1) у тым ліку 2 мусульманіны.

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 102. Пераклад з нямецкай мовы В. Конан–Труцько.

# Дадатак 11. Афіцыйная нямецкая статыстыка суадносінаў літоўскага, польскага і беларускага школьніцтва ў пачатковых навучальных установах Обер Ост

*а) Суадносіны па колькасці элементарных школ*

| Назва адміністрацыйнай акругі | Час падліку | Літоўскіх (%) | Польскіх (%) | Беларускіх (%) | Іншых (%) |
|---|---|---|---|---|---|
| «Вільня—Сувалкі» | Кастрычнік 1916 | 33,4 | 45,4 | 2,1 | 21,0 |
| | Снежань 1917 | 57,4 | 23,3 | 1,0 | 18,3 |
| | Сак./крас. 1918 | 59,0 | 20,8 | 1.9 | 18,3 |
| «Беласток—Горадня» | Кастрычнік 1916 | 1,6 | 74,4 | 0,8 | 23,1 |
| | Снежань 1917 | 5,2 | 54,3 | 14,2 | 26,3 |
| | Сак./крас. 1918 | 6,3 | 48,7 | 21,2 | 23,4 |

*б) Суадносіны па колькасці навучэнцаў у элементарных школах*

| Адм. акруга | Дата | Беларускіх (%) | Літоўскіх (%) | Польскіх (%) | Іншых (%)[1] |
|---|---|---|---|---|---|
| «Вільня—Сувалкі» | Кастрычнік 1916 | 0,7 | 18,4 | 46,9 | 34,0 |
| | Снежань 1917 | 0,9 | 43,0 | 25,7 | 30,4 |
| «Беласток—Горадня» | Кастрычнік 1916 | 1,8 | 0,8 | 55,8 | 41,6 |
| | Снежань 1917 | 11,5 | 1,9 | 37,9 | 48,7 |

Заўвагі:
[1] Маюцца на ўвазе галоўным чынам яўрэйскія і нямецкія школы.

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 103—104. Пераклад з нямецкай В. Конан–Труцько.

# Дадатак 12. Колькасць штодзённых урокаў у школах Обер Ост па асобных навучальных дысцыплінах[1]

| Назва навучальнай дысцыпліны | Ніжэйшая ступень пачатковай школы | | | Сярэдняя ступень пачатковай школы | | | Вышэйшая ступень пачатковай школы | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 3 клас | | 2 клас | | 1 клас | |
| | а | б | в | а | б | в | д | е | д | е | д | е |
| Рэлігія | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 |
| Родная мова | 10 | 14 | 15—16 | 10 | 12 | 12 | 16 | 9 | 16 | 16 | 12 | 11 |
| Арыфметыка (лічэнне) | 4 | 4 | 4—5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 |

| | а | б | в | а | б | в | д | е | д | е | д | е |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гісторыя | — | — | — | 2 | 2 | 2 | — | — | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Геаграфія | — | — | — | 1 | 2 | 2 | — | — | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Прыродазнаўства | — | — | — | 1 | 2 | 2 | — | — | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Маляванне | — | — | — | — | 2 | 2 | — | — | 1 | | 2 | 1 |
| Спевы | 1 | 2 | 2—2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 |
| Гімнастыка | 1 | 2 | 2—2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 |
| Ручная праца (таксама садоўніцтва і агародніцтва) | — | — | — | — | 2 | 2 | — | — | — | — | 2 | 2 |
| Разам | 20 | 26 | 28—30 | 24 | 36 | 36 | 28 | 18 | 34 | 30 | 36 | 34 |

[1] Колькасць навучальных гадзін нямецкай мовы вызначалася паводле дырэктывы № 10, 2 абзац.

Умоўныя абазначэнні:

а — школа з няпоўным днём навучання (Halbtag);

б — 1–класавая школа;

в — 2–класавая школа;

д — 3–класавая школа;

е — 3–класавая школа з двума настаўнікамі.

*Крыніца:* Zemke H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsbereich Litauen während des Weltkrieges. — Berlin, 1936. — S. 114. Пераклад з нямецкай В. Конан–Труцько.

## Дадатак 13. Інфармацыя аб становішчы школьнай справы ў генеральных акругах «Беласток—Горадня» і «Вільня—Сувалкі» ў 1917 г., паводле інфармацыйных бюлетэняў «Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen»

### 13.1. Школьная справа ў генеральнай акрузе «Беласток—Горадня»

*А. Школьны кантроль*

Школьны кантроль здзяйсняла каля 6 школьных інспектараў і 36 ваенных настаўнікаў.

*Б. Сярэднія школы*

Былі ўтвораны прыватныя габрэйскія сярэднія школы ў Горадні. У сваім складзе яны мелі таксама адзін падрыхтоўчы і два пачатковыя класы.

*В. Народныя школы*

З пачаткам зімовага паўгоддзя ўтвораныя летам вясковыя школы пачалі сваю працу. Дзякуючы новым законам колькасць беларускіх народных школ павялічылася да 70, а літоўскіх — да 24. Большасць узгаданых беларускіх школ з’яўляліся праваслаўнымі і дзейнічалі ў крайсах «Бельск» і «Свіслач». Зноў адкрытыя літоўскія школы знаходзіліся ў акрузе «Радунь». У акругах «Беласток» і «Горадня» заставалася вялізная колькасць польскіх школ дзякуючы ўплыву польскага каталіцкага святарства, чыннасць якога накіравана супраць мерапрыемстваў нямецкага ўрада ў школьнай справе.

Ва ўжо ўзгаданых справаздачах урада адзначалася пагаршэнне наведвання дзяцей у габрэйскіх народных школах у Беластоку, што стала вынікам збяднення насельніцтва, а таксама з–за ўплыву рэлігійнай і нацыянальнай прапаганды.

*Г. Падручнікі і дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў*

Літоўскія школы ў рамках праграмы выдання новых літоўскіх падручнікаў былі забяспечаны неабходнымі лемантарамі і чытанкамі. Для беларускіх школ выкладчык беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы Пачобка распрацаваў невялічкі падручнік па правапісу беларускай мовы. Лемантар па беларускай мове склаў таксама выкладчык гэтай семінарыі Квяцінскі. Выклікае значную цяжкасць распрацоўка сшыткаў па беларускай мове і іншых навучальных дапаможнікаў па школьнай праграме.

*Д. Настаўніцкія курсы*

Настаўнікі разнамоўных школ, як і раней, падчас вакацый удасканальвалі сваю кваліфікацыю на кароткатэрміновых перападрыхтоўчых курсах. З 10 верасня па 10 студзеня на такіх перападрыхтоўчых курсах павышалі сваю кваліфікацыю 47 беларускіх настаўнікаў. З 10 лютага пачаў працу 5–ы выпуск 6–месячных беларускіх настаўніцкіх курсаў у Свіслачы, якія былі падзелены на 2 ступені.

Відавочна, што дзякуючы працы сталай настаўніцкай семінарыі і кароткатэрміновых курсаў павышэння кваліфікацыі інтэнсіўная падрыхтоўка настаўнікаў не перапынялася. Арганізацыя падобных мерапрыемстваў была сродкам, дзякуючы якому настаўнікі пачалі адпавядаць зададзенаму палітычнаму вобразу.

*Крыніца:* Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen, Bezirk Süd in Bialystok. Druck bericht VII. — Bialystok: der «Bialystoker Zeitung». — 1917. — S. 40—41. Пераклад з нямецкай В. Конан–Труцько.

**13.2. Школьная справа ў генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі»**

*А. Гімназіі*

Сярэдніх школ у агульнай колькасці было 16, а менавіта: 3 літоўскія, 6 польскіх, 7 габрэйскіх. У Вільні працавалі 1 літоўская, 6 польскіх і 5 габрэйскіх гімназій. Колькасць настаўнікаў у польскіх школах выявілася непараўнальна меней, чым было патрэбна. Так, у мужчынскай гімназіі выкладчыкаў і выхавацеляў у 12 класах з 381 навучэнцам было 34, у жаночай — з 8 класамі і 245 навучэнкамі — 33, у жаночай прыватнай гімназіі Чарноўскай з 8 класамі і 175 навучэнкамі — 30. Змяншэнне колькасці настаўнікаў было наўмысным. Школьныя выдаткі пакрываліся дзякуючы плаце за вучобу і ахвяраванням грамадскіх арганізацый.

*Б. Пачатковыя школы павышанага тыпу*

У пачатковых школах павышанага тыпу ў Вільні ў сукупнасці навучалася 1076 вучняў (на 2 польскія і 3 габрэйскія школы). Утрыманне гэтых навучальных устаноў здзяйснялася тым жа парадкам, як і гімназій.

*В. Адмысловыя школы і школы для дарослых*

Іх колькасць у Вільні 10. З іх 2 — літоўскія, 2 — габрэйскія і 6 — польскіх. Усе яны амаль без выключэння ўтрымліваліся за кошт грамадскіх арганізацый мясцовых этнічных супольнасцяў і святарства. Так званыя польскія школы пісьменнасці для дарослых налічвалі да 30 вучняў кожная.

*Г. Падрыхтоўка настаўнікаў*

Каб падрыхтаваць настаўнікаў, нямецкімі ўладамі былі падрыхтаваны розныя педагагічныя курсы. Так, габрэйскія настаўніцкія курсы ў Сувалках закончыліся 2 снежня 1916 г., а 2–я літоўскія настаўніцкія курсы ў Коўна — 15 сакавіка 1917 г. Абедзве гэтыя семінарыі далі станоўчыя вынікі. Акрамя настаўніцкіх курсаў, утвораных ваеннай адміністрацыяй, у Вільні функцыянавалі 4 прыватныя педагагічныя курсы, а менавіта: 1–я польскія з 2 аддзеламі (23 слухачы і 15 выкладчыкаў), 2–я польскія з 4 аддзеламі (63 слухачы і 26 выкладчыкаў), 3–я польскія з адным аддзелам (38 слухачоў і 11 выкладчыкаў), адны літоўскія з 20 слухачамі і 11 выкладчыкамі. У большасці выпадкаў таксама меліся яшчэ імперскія (нямецкія) выкладчыкі, якія арганізоўвалі кароткатэрміновыя педагагічныя курсы падчас вакацый. На гэтых курсах чыталіся лекцыі (выклады) і праводзіліся практычныя заняткі. Яны карысталіся несумненным поспехам.

*Д. Народныя школы*

Агульная колькасць народных школ у зоне адказнасці ваеннай адміністрацыі Літвы складала ў канцы зімовага паўгоддзя 1916/17 навучальнага года 740, у якіх навучалася 46 тыс. навучэнцаў. Паводле мовы выкладання яны падзяляліся на: 15 нямецкіх, 449 літоўскіх, 201 польскую, 65 габрэйскіх, 5 латышскіх і 5 беларускіх. Калі падчас расійскага панавання доля польскіх школ складала 6%, то ў пачатку нямецкай акупацыі ў генеральнай акрузе «Вільня—Сувалкі» яны налічвалі ўжо 37% ад агульнай колькасці вучэльняў. Найбольшая доля польскіх школ была ў акрузе «Вільня» — 96%. У Аўгустоўскім крайсе — 88%, у самой Вільні — 65%.

У летні час школьнікаў старэйшага ўзросту прымусова прыцягвалі да палявой і сельскагаспадарчай працы. Па гэтай прычыне значная частка школ, асабліва ў сельскай мясцовасці, не функцыянавала падчас севу і жніва. Летам вялікае значэнне набывала практычнае навучанне садоўніцтву і гародніцтву. Навучальныя дапаможнікі (практычныя дарады па ўладкаванню школьных садоў і гародаў) друкаваліся дастатковымі накладамі на роднай мове навучэнцаў. Акрамя таго, кожнай школе прадстаўлялася магчымасць арганізоўваць вопытнае сельскагаспадарчае поле ці сад, даход з якіх быў вялікай падтрымкай для навучальных устаноў. Нагляд за сельскагаспадарчымі палеткамі і збор ураджаю праводзіліся навучэнцамі пад кіраўніцтвам іх настаўнікаў. Выкарыстоўваліся тыя сарты раслін, якія былі найбольш вядомыя і прыносілі найбольшыя ўраджаі. Можна канстатаваць, што ў летні час вучэбныя заняткі праводзіліся нерэгулярна, але затое падчас практычных заняткаў вучні былі ўцягнуты ў сельскагаспадарчую працу на школьных садах і палях, а не толькі ў сваіх хатніх сядзібах.

*Крыніца:* Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. Druckbericht VI. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1917. — S. 41—43. Пераклад з нямецкай В. Конан–Труцько.

## Дадатак 14. Пастанова камандзіра 10–й нямецкай арміі адносна прынцыпаў арганізацыі школьнай справы ў зоне «новай акупацыі»

17 верасня 1918 г.

*На основании ст. 43 Гаагской конвенции о сухопутной войне и отд. А цифры 1 № 2 Высочайшего приказа от 22 ноября 1916 г. (Вестник приказов по армии. Стр. 514) для области, занимаемой 10–й армией.*

Ст. 1. Все училища и остальные учебные и образовательные заведения в области 10–й армии подчиняются надзору Главного командования армии.

Ст. 2, ч. 1. Для открытия новых или преобразования уже существующих училищ и других учебных и образовательных заведений требуется разрешение Главного командования армии.

Ст. 2, ч. 2. Если заведение служит исключительно церковным целям, то достаточно предварительного извещения Главного командования армии.

Ст. 3, ч. 1. Для училищ или других учебных и образовательных заведений, открытых или преобразованных после 3 марта 1918 г., требуется дополнительно исходатайствовать разрешение у Главного командования армии.

Ст. 3, ч. 2. Что касается заведений, названных в ст. 2, ч. 2, то достаточно дополнительного извещения Главного командования армии.

Ст. 4, ч. 1. Для назначения и вступления в должность начальников и учителей училищ и учебных или образовательных заведений требуется утверждение Главного командования армии.

Ст. 4, ч. 2. Начальники или учителя, которые были назначены и вступили в должность после 3 марта 1918 г., должны дополнительно исходатайствовать утверждение Главного командования армии.

Ст. 4, ч. 3. Особые правила или назначения о вступлении в должность начальников и учителей, заведений указанных в ст. 2, ч. 2, остаются в силе.

Ст. 5. Каждое разрешение и утверждение может быть отменено. Начальники и учителя казенных и равных им учебных и образовательных учреждений могут быть переведены в другие заведения в интересах службы.

Ст. 6, ч. 1. Преподавание должно вестись на русском языке за исключением особых случаев, когда Главное командование армии разрешает преподавание на другом языке.

Ст. 6, ч. 2. Закон Божий по мере возможности преподается на родном языке.

При Главном командовании армии утверждается для надзора областное учебное попечительство.

Ст. 7. Все постановления немедленно вступают в силу.

Штаб армии, 6 сентября 1918 г.

Главнокомандующий 10–й армией фон Фалькенхайн, генерал от инфантерии.

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 17 сент.

## Дадатак 15. Вытрымкі з анкет (адказы на пытанне анкеты «Школа і вайна») настаўнікаў Мінскага і Слуцкага паветаў паводле апытання, праведзенага Губернскім аддзелам народнай асветы

Лістапад–снежань 1918 г.

*Гребеновщинское народное училище Сверженской волости Минского уезда.*

Училище основано в 1913 г. [...] По случаю военного времени учитель школы был призван в армию, и школа два учебных 1915/16 и 1916/17 года была закрыта. Учитель [...] Дмитрий Пучко.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 3—3 адв.

*Головенщицкое народное училище Сверженской волости Минского уезда [...] открыто в 1906 г.*

[...] Война отразилась тем, что учащиеся неаккуратно посещали училище и разорено было в 1915 году отступающими войсками все школьное имущество.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 5—5 адв.

*Ново–Сверженское 2–классное народное училище Минского уезда [...] основано в 1864 г.*

[...] Война неблагоприятно отразилась на школьном деле. За период войны имевшиеся при 2–классном училище библиотека и классная обстановка уничтожены; частые передвижения русских и немецких войск и занятие ими помещения классных комнат прерывали учебные занятия; ощущался недостаток и в педагогическом персонале с призывом учителей на военную службу.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 9.

*Старо–Сверженское народное училище Минского уезда [...] образовано в 1904 г.*

[...] Вследствие войны многие дети школьного возраста не могли посещать училище, оставаясь почти единственными работниками в семье, а поступившие в школу не могли аккуратно посещать ее по той же причине; весьма оказало также вредное влияние и на нравственность учащихся (постоем солдат по домам). [...] Учитель Г. Щеглов.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 13—14 адв.

*Рудицкое народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год основания — 1865 г.*

[...] Время войны отразилось на школе с отрицательной стороны. Школа была разгромлена и закрыта на 2 года. Последствия тяжелые — нет в школе ни учебников, ни учебных пособий. [...] Учитель Николай Реутович.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 34а, 37 адв.

*Дягильнянское народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год основания — 1907 г.*

[...] Во время отступления и эвакуации учительницы классные пособия и книги были разобраны и разбросаны отступающими, т.е. проходящими и квартировавшими в школе частями. [...] Учительница М. Воронович–Дубасская.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 45—45 адв.

*Липовицкое народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год основания — 1879 г.*

[...] Война отразилась на жизни школы следующим образом: долгое время не было учителя. Много школьного имущества было уничтожено беженцами в 1915 году; дети родителей, участвовавших в войне, не посещали школы, а работали дома. [...] Учитель В. Шемиот–Писчанский.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 53—54.

*Скирмунтовское народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год основания — 1914 г.*

[...] Во время войны все стали стремиться к свету. [...] Учительница Ф. Сайковская.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 59.

*Лисовщинское народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год открытия — 1913 г.*

[...] Война повлияла на школу с двух сторон, а именно: все стали стремиться к свету и заметен большой приток детей, чего раньше не наблюдалось; с другой стороны, — нравственной, — война повлияла на школу скверно.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 63.

*Мошаницко–Повстаевское народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год основания — 1914 г.*

[...] Война отразилась на учениках отрицательно — научились пить, курить, ругаться. [...] Учительница Сароко–Довнар.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 70.

*Новоселковское народное училище Койдановской волости Минского уезда. Год основания — 1912 г.*

[...] Война отразилась отрицательно в поведении учеников — заредили курить, ругаться, хитрить и проч. [...] Учитель Таганович.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 76.

*Койдановское еврейское народное училище Минского уезда [...] основано в 1907 г.*

[...] Война не могла не оказать своего влияния на жизнь школы в прифронтовой полосе. Особенно пагубно повлияла эвакуация. В 1916 году учителем было возбуждено ходатайство перед властями об освобождении училищного помещения, но ему в этом было отказано. Только в 1917 году, и то после долгих мытарств, ему удалось добиться освобождения училища. До эвакуации была маленькая учительская библиотека. Во время эвакуации книги были оставлены в закрытом шкафу, но шкаф оказался вскрытым и книги похищены. То же случилось с учебными пособиями. За эти два года дети, находясь под влиянием улицы и солдатчины, страшно огрубели, и стоило огромных трудов наладить нормальные занятия. [...] Заведующий училищем М. Маршак.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 85—86 адв.

*Рудне–Прилежевское народное училище Острошицко–Городокской волости Минского уезда. Год основания — 1864 г.*

[...] На ход учебных занятий война отразилась мало: в 1915 году 1 сентября и по 16–го февраля 1916 года, вследствие эвакуации учителей, занятий не было. Кроме того, вследствие занятия училища проходящими войсками пострадало школьное имущество и библиотека. Учитель Михаил Юревич.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 120—121.

*Островщицкое народное училище Острошицко–Городокской волости Минского уезда (дер. Островщицы). Год основания — 1913 г.*

[...] В период войны два года занятия не проводились; познания учащихся значительно снизились.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 125.

*Рубежевичское начальное училище Минского уезда. Год основания — 1875 г.*

[...] Во время войны в школе был перерыв в занятиях с 1915 года по 1916 год. В самом здании помещался лазарет; за то же время школа лишилась большей половины своего имущества. Учитель К. Лименок.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 187—188 адв.

| | |
|---|---|
| *Внешкольное обучение* | Работа по принятию представленных школ, по упорядочиванию и финансовому обеспечению их отняли все силы Комиссии. Для внешкольного образования не было средств. Все попытки что–либо создать разбивались о пустоту городской кассы. Однако Комиссия не могла обречь себя на полную бездеятельность в этих отраслях, столь запущенных прежними думами. В области внешкольного и дошкольного образования до сих пор ничего не было сделано. Нужно было хоть наметить путь, сделать хоть первый шаг по этому пути. В городскую смету Комиссия и внесла целый ряд мероприятий, имевших целью получить начало разных выдач внешкольного и дошкольного образования. Внесены увеличенные ассигнования на библиотеки, причем проектировалось принять в ведение города и русско–еврейскую библиотеку, предположено устроить — по одному учреждению для каждой национальности вечерних школ, детских клубов, детских очагов, намечен план городского музея учебных пособий, общедоступных спектаклей, Народного Дома и т.п.<br>Вечерние школы уже функционируют, покуда с временной субсидией от управы по 200 руб. в месяц. Существуют и курсы белорусоведения. Проведено через Думу ассигнование на детские площадки. Четыре 1 июня открылись, пятая и шестая открылись на днях. |
| *Санитарный надзор* | До сего времени в Минске не существовало никакого специального школьного санитарного надзора. Получив в свое ведение несколько тысяч учащихся, городское самоуправление не могло оставить их без этого надзора. Комиссия вносит в городскую смету ассигнования на четырех школьных врачей и на бесплатную выдачу медикаментов учащимся городских школ. Один врач уже проведен через Думу и с 1 апреля назначен. Остальных предполагается пригласить с 1 августа. |
| *Заключение* | Заканчивая этот краткий обзор, Комиссия просит Думу принять во внимание, в каких исключительных трудных обстоятельствах ей пришлось работать. Размер обзора не позволяет нам останавливаться на таких, например, подробностях, как многократное хождение сначала к русским, а потом к немецким военным властям с хлопотами об освобождении занятых войсками помещений, как работа по розыску школьного имущества, как полный разгром канцелярии Комиссии при четырехкратном переезде ее из помещения в помещение, как перерыв в ее деятельности во время большевистского захвата городского самоуправления, как работа собирания справок по многочисленным прошениям о выдаче пособия на оплату за право учения. Все эти мелочи и злоключения отнимали много сил и средств. Немало работы пришлось проделать и для составления всевозможных справок и материалов по требованию немецких властей и на регистрацию несколько сот частных учебных заведений. Работа по составлению двух смет, земской и городской, которая фактически означала выработку совершенно нового плана деятельности, отняла много недель и заняла ряд заседаний Комиссии.<br>Мы взяли в свои руки дело школы в исключительно трудный, исключительно ответственный момент. Работа была бесконечно затруднена отчужденностью части учительства и возрастающим финансовым кризисом, политические потрясения отразились самым гибельным образом. Мы не застали в отделе просвещения никакого накопленного годами опыта, никакого материала, мы все должны были создавать вновь. |

| | |
|---|---|
| | И сознавая, сколько пробелов, а быть может и ошибок, было в нашей спешной, трудной работе, мы все–таки позволяем себе надеяться, что наша работа оставит след в истории народного образования города Минска и что начатое нами дело пойдет вперед, несмотря ни на какие еще предстоявшие нам, быть может, потрясения. В заключение К–сии просим принять этот доклад к сведению и разрешить ей пополнять свой состав представителями от учительства на изложенных в особом приложении основаниях.<br>Председатель Комиссии<br>М. Фрумкина |

*Крыніца:* НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670, арк. 18—27 адв.

## 17.4. Склад Камісіі па народнай адукацыі Мінскай гарадской думы

9 лістапада 1917 г.

Старшынёй Камісіі Мінскай гарадской думы па народнай адукацыі абрана *Марыя Фрумкіна–Віхман*.

У нацыянальныя субкамісіі абраны:

Расійская (вялікаруская) субкамісія: ад меншавікоў — *Басіст* і *Гэмбіцкі*; ад кадэтаў — *М. Фамін*, ад Расійскай дэмакратычнай партыі — *Мініч* (спіс № 1).

Польская субкамісія — меншавік *Гельтман*, *Скаржынскі*, *Басак*, *Машынская*.

Габрэйская субкамісія: ад Бунда — *М.Ф. Фрумкіна–Віхман* (старшыня), *І. Герцык*, эсэры *Маршак* і *Галынец*.

Беларуская субкамісія: *Л. Заяц* (падтрыманы эсэраўскай фракцыяй), *А. Смоліч, У. Кернажыцкі, Я. Лёсік, У. Самойла* (ад кадэтаў), *Валасковіч* (Расійская дэмакратычная партыя).

*Крыніца:* НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3659, арк. 56 адв.

## 17.5. Агульныя статыстычныя звесткі аб стане школьнай адукацыі ў Мінску ў 1918/19 навуч. годзе

| | |
|---|---|
| Колькасць насельніцтва | 152 587 чал. |
| Колькасць дзяцей школьнага ўзросту | 22 888 чал. (100%) |
| Колькасць пачатковых школ | 55* |
| Колькасць сярэдніх школ | 9** |
| Колькасць навучэнцаў | 15 839 (69,2%) |
| Колькасць дзяцей школьнага ўзросту, што не наведвалі школу | 7049—7658 (каля 31%) |
| Доля навучэнцаў сярод насельніцтва | 10,3% |
| Колькасць навучэнцаў на 1 настаўніка | 50 |
| Колькасць дзяцей школьнага ўзросту на 1 школу | 86 |
| Сярэдняя колькасць навучэнцаў на 1 школу | 72 |

*Пазначаны толькі свецкія казённыя і грамадскія школы.

**Пазначаны толькі казённыя і прыраўненыя да іх сярэднія навучальныя ўстановы.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 32, арк. 13.

## 17.6. Спіс сярэдніх і прафесійных навучальных установ Мінска ў 1918 г.

| № | Назва навучальнай установы | Колькасць выкладчыкаў | Колькасць вучняў |
|---|---|---|---|
| 1 | Мінская мужчынская ўрадавая гімназія | 21 | 792 |
| 2 | Мінская рэальная вучэльня | 11 | 717 |
| 3 | Мінская сярэдняя політэхнічная вучэльня | 10 | 100 |
| 4 | Мінская мужчынская гімназія Зубакіна і Фальковіча | 18 | 354 |
| 5 | Мінская жаночая (б. Мар'інінская) урадавая гімназія | 31 | 871 |
| 6 | Мінская жаночая прыватная гімназія Рэйман | 16 | 808 |
| 7 | Мінская жаночая прыватная гімназія Скавароднікавай | 25 | 324 |
| 8 | Мінская расійская народная гімназія імя Л. Талстога | 17 | 451 |
| 9 | Хрысціянская жаночая гімназія (былая жаночая епархіяльная вучэльня) | 14 | 200 |
| 10 | Мінская вечаровая гімназія для дарослых пры Мінскім губернскім настаўніцкім хаўрусе | –* | – |
| 11 | Мінская 8–класавая рускамоўная гімназія Таварыства паштова–тэлеграфных работнікаў Мінскай паштовай акругі | – | – |
| 12 | Мінская змешаная гімназія Таварыства работнікаў Управы Лібава–Роменскай чыгункі, Мінскага чыгуначнага вузла і прыхільнікаў пашырэння сярэдняй адукацыі сярод чыгуначнікаў | – | – |
| 13 | Мінская камерцыйная вучэльня | 12 | 175 |
| 14 | Мінскі настаўніцкі інстытут | – | – |
| 15 | Мінская гандлёвая школа | 10 | 150 |
| 16 | Мінскі народны ўніверсітэт пры Мінскім губернскім настаўніцкім хаўрусе | – | – |
| 17 | Народны ўніверсітэт Заходняй камуны | – | – |
| 18 | Мінскія вечаровыя курсы для дарослых Таварыства імя У. Міхайлоўскага | – | – |
| 19 | Агульнаадукацыйныя настаўніцкія курсы | – | – |
| 20 | Мінская жаночая пачатковая школа рукадзелля Чарноцкай | – | – |
| | ***Польскія сярэднія школы*** | | |
| 21 | Мінская польская настаўніцкая семінарыя Польскай Мацежы Школьнай | | |
| 22 | Мінская польская мужчынская гімназія Польскай Мацежы Школьнай | 26 | 280 |
| 23 | Мінская польская жаночая гімназія Польскай Мацежы Школьнай | 30 | 400 |
| 24 | Мінская польская жаночая гімназія імя Эміліі Плятар | 23 | 487 |
| 25 | Мінская польская рэальная вучэльня імя Т. Рэйтана | 27 | 275 |
| 26 | Польская ніжэйшая гандлёвая школа № 1 таварыства «Лабор» | 6 | 180 |
| 27 | Польская ніжэйшая гандлёвая школа № 2 таварыства «Лабор» | 6 | 250 |
| 28 | Мінскія польскія настаўніцкія курсы пры Мінскай губернскай земскай управе | 7 | 100 |
| 29 | Польская школа рукадзелля | 3 | 72 |
| 30 | Мінскія вечаровыя польскія курсы для дарослых Польскай Мацежы Школьнай | 5 | 120 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| ***Габрэйскія (на мове ідыш ці двухмоўныя — расійска–габрэйскія)*** | | | |
| 31 | Мінская мужчынская прыватная гімназія Жуповіч і Зеліксона | 13 | 166 |
| 32 | Мінская мужчынская прыватная гімназія Нейфах | | |
| 33 | Мінская жаночая прыватная гімназія Д. Лявідавай–Нейфах | 22 | 400 |
| 34 | Мінская жаночая прыватная гімназія Н.В. Казарноўскай | 15 | 100 |
| 35 | Мінская жаночая прыватная гімназія Ключ і Пузырэўскай | 21 | 470 |
| 36 | Мінская жаночая прыватная гімназія Лявіцкай | 13 | 386 |
| 37 | Мінская жаночая прыватная гімназія Масапуст | – | – |
| 38 | Мінскі народны ўніверсітэт імя Б. Гросэра (Бунд) | – | – |
| 39 | Мінская сярэдняя фельчарска–акушэрская школа Гутцэля | – | – |
| 40 | Мінская жаночая прафесійная школа пры Габрэйскім дабрачынным таварыстве | – | – |
| 41 | Мінская ніжэйшая фельчарска–акушэрская школа доктара Л. Гутцайта | 55 | 7 |
| 42 | Мінскія адукацыйныя курсы для дарослых пры Таварыстве народнага ўніверсітэта імя Б. Бохарава (Паалей–Цыён) | – | – |
| 43 | Мінская габрэйская жаночая прафесійная школа | 13 | 240 |
| 44 | Прыватныя бухгалтарска–рахунковыя курсы | – | – |
| ***Сіяніцкія (іўрыцкія) навучальныя ўстановы сіяністаў*** | | | |
| 45 | Мінская мужчынская прыватная гімназія Фельдштэйна | 20 | 404 |
| 46 | Мінская мужчынская прыватная гімназія «Мізрашы Іўріт» | 11 | 71 |
| 47 | Мінская габрэйская вучэльня таварыства «Тахкмойна» | – | – |
| 48 | Мінская гандлёвая школа № 1 пры таварыстве «Эзро» | – | – |
| 49 | Мінская гандлёвая школа № 2 пры таварыстве «Эзро» | – | – |
| 50 | Мінская музычная вучэльня пры таварыстве «Эзро» | – | – |
| 51 | Вечаровыя курсы іўрыта, габрэйскай гісторыі і літаратуры на Петрапаўлаўскай вул. | – | – |
| 52 | Курсы па вывучэнню іўрыта пры арганізацыі «Аўгудас Ізраіль» на Нямізе, 9 | – | – |
| 53 | Габрэйскі народны ўніверсітэт пры Мінскім гарадскім сіяніцкім камітэце | – | – |
| 54 | Габрэйская настаўніцкая семінарыя пры Мінскім гарадскім сіяніцкім камітэце | – | – |
| 55 | Габрэйскія вечаровыя адукацыйныя курсы пры Мінскім гарадскім сіяніцкім камітэце | – | – |
| 56 | Вечаровыя курсы іўрыта, габрэйскай гісторыі і літаратуры на Ракаўскай, 14 | – | – |
| 57 | Габрэйская вучэбная аграферма ў Кунцаўшчыне | – | – |
| ***Беларускія навучальныя ўстановы*** | | | |
| 58 | Мінскія беларускія настаўніцкія курсы | 13 | 51 |

*Крыніца:* НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 12—13, 27—28, 89; НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 32, арк. 32—33 адв.

## 17.7. Спіс вышэйшых пачатковых вучэльняў у Мінску

| | |
|---|---|
| № 1 (расійская) — Багадзельная, 23 | № 5 (расійская) — Аляксандраўская, 31 |
| № 2 (расійская) — Аляксандраўская, 32 | № 6 (расійская) — Аляксандраўская, 31 |
| № 3 (беларуская) — Аляксандраўская, 32 | № 7 (расійская) — Малы Манастырскі зав., 4 |
| № 4 (габрэйская) — Новамаскоўская, 60 | |

*Крыніца:* Городские школы // Минский голос. — 1918, 19 авг.

## 17.8. Спіс свецкіх пачатковых школ Мінска, якія ўтрымліваліся ці падпарадкоўваліся мясцовай гарадской думе

| № п/п | № школы | Адрас | Колькасць настаўнікаў | Колькасць вучняў |
|---|---|---|---|---|
| **Расійскія** | | | | |
| 1 | № 1 | Аляксандраўская, 37 | 4 | 150 |
| 2 | № 2 | Ракаўская, 8 | 4 | 170 |
| 3 | № 3 | Вясёлая, 26 | 4 | 165 |
| 4 | № 4 | Канюшаная, 5 | 4 | 156 |
| 5 | № 5 | Каломенская, 38 | 4 | 160 |
| 6 | № 6 | Новомаскоўская, 19 | 4 | 217 |
| 7 | № 7 | Шырокая, 23 (неказённая, пазней мінская савецкая школа № 35 1–й ступені) | 1 | 40 |
| 8 | № 8 | Шырокая, 49 | 4 | 160 |
| 9 | № 9 | Ніжняя Ляхаўка, 8 | 4 | 160 |
| 10 | № 10 | Старажоўская, 23 | 4 | 156 |
| 11 | № 11 | Серабранка, 10 (пазней Дачны зав., 72) | 4 | 110 |
| 12 | № 15 | Ракаўская, 2 | 4 | 80 |
| 13 | № 16 | Багадзельная, 68 | 3 | 65 |
| 14 | № 23 | Юр’еўская, 40 | 3 | 97 |
| 15 | № 26 | Нова–Круглы зав., 6 | 4 | 60 |
| 16 | № 27 | Нова–Круглы зав., 6 | – | – |
| 17 | № 33 | Нова–Маскоўская,121 (на рагу Новамаскоўскай і Новараманаўскай вул.); неказённая | 3 | 100 |
| **Польскія** | | | | |
| 18 | № 12 | Захар’еўская, 126 | 4 | 81 |
| 19 | № 13 | Сергіеўская, 23 | 5 | 181 |
| 20 | № 14 | на рагу Аляксандраўскай і Старажоўскай вул. | 1 | 30 |
| 21 | № 34 | Захар’еўская, 2 | 1 | 40 |
| 22 | № 35 | Шырокая, 23 | 1 | 40 |
| 23 | № 36 | Міхайлаўская, 14 | 1 | 60 |
| 24 | № 37 | Серабранка (Надзеждзенская, 22) | 1 | 60 |
| 25 | № 38 | Грушаўская, 16 | 2 | 80 |
| 26 | № 39 | Мікалаеўская, 31/52 | 2 | 60 |
| 27 | № 40 | Старажоўская, 1 | 2 | 80 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 28 | № 41 | Людамонт, 5 | 1 | 40 |
| 29 | № 42 | Кальварыйская (парафіяльная) | – | – |
| 30 | № 44 | Багадзельная, 32 | – | – |
| 31 | № 45 | Даўгабродская, 26 | – | – |
| 32 | № 58 | Падгорная, 37 | – | – |
| 33 | № 59 | Падгорная, 28 | – | – |
| 34 | № 66 | Падгорная, 26 | – | – |
| **Габрэйскія** | | | | |
| 35 | № 17 | Аляксандраўская, 36 | 6 | 219 |
| 36 | № 18 | Аляксандраўская, 36 | 6 | 237 |
| 37 | № 24 | Замячэтны зав., 3 | 3 | 137 |
| 38 | № 25 | Белацаркоўная, 9 | 3 | 109 |
| 39 | № 43 | Губернатарская | 13 | 500 |
| 40 | № 46 | Няміга — Ракаўская, 9 | – | – |
| 41 | № 47 | Безымянны зав., 7 | – | – |
| 42 | № 49 | Петрапаўлаўская, 33 | – | – |
| 43 | № 51 | Ракаўская, 13 | – | – |
| 44 | № 52 | Нова–Маскоўская, 60 | – | – |
| 45 | № 60 | Праабражэнская, 34 | – | – |
| 46 | № 61 | Захар'еўская, 113 | – | – |
| 47 | № 62 | Серпухаўская, 17 | – | – |
| 48 | № 63 | Петрапаўлаўская, 8 | – | – |
| 49 | № 64 | Мала–Манастырская, 4 | – | – |
| 50 | № 65 | Серабранка, 55 | – | – |
| **Беларускія** | | | | |
| 51 | № 19 | Каломенская, 38 | 2 (загадчык — І. Ярушэвіч, настаўніца — В. Лявіцкая) | 62 |
| 52 | № 20 | Захар'еўская, 121 | 4 (загадчыкі — П. Бадунова (да 3.03.1918 г.), К. Пуроўскі (з 3.03.1918 г., ён жа настаўнік спеваў), настаўнікі: К. Яноўская, М. Кудзелька) | 122 |
| 53 | № 21 | Стара–Віленскі тракт, 61 | 1 (загадчыкі — П. Мядзёлка (да 3.03.1918 г.), К. Маркеліс (з 3.03.1918 г.)) | – |
| 54 | № 22 | Аляксандраўская, 36 | 3 (загадчык — А. Гірконт (з 3.03.1918 г.), настаўнікі: М. Касцевіч, А. Раткевіч (спевы)) | 96 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 55 | № 28 | Захар'еўская, 132 | 5 (загадчыца — С. Шышова; настаўнікі: К. Маневіч, А. Маліноўская, П. Шычко М. Міцкевіч) | 122 |
| 56 | № 29 | Паўднёва–Заходні зав., 10 (Серабранка) | 3 (загадчык — М. Пашковіч (ён жа настаўнік спеваў); настаўнікі: Я. Пашковіч, М. Кудзелька) | 74 |
| 57 | № 30 | Дзяменцьеўская, 4 | 5 (загадчык — Н. Козіч; настаўнікі: Н. Яфімава Хв. Бандарчык, К. Ламака (спевы)) | 133 |
| 58 | № 31 | Дзяменцьеўская, 4 | 5 (загадчык — А. Данілевіч; настаўнікі: Я. Аляксандрава, М. Чупрыс, Хв. Бандарчык (спевы)) | 120 |
| 59 | № 50 | Фельчарская, 2 | 1 (загадчык — Я. Бурвель) | |
| 60 | № 64 | Мінская беларуская вечаровая школа для дарослых Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці (Захар'еўская, 46) | 6 (а. Ф. Абрантовіч, а. Пупко, Я. Лёсік, В. Іваноўскі, Б. Тарашкевіч, А. Гірконт) | 120 |
| **Татарская** | | | | |
| 61 | № 32 | Татарская Слабада | 5 | 110 |

*Крыніца:* НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 2 адв.

## 17.9. Дакладная запіска пра гісторыю ўтварэння і чыннасці беларускіх пачатковых школ у Мінску

1919 г.

Гістарычная даведка

Пачатак беларускай асветы ў Мінску адносіцца да восені 1917 года. Летам гэтага года была абрана мейская Дума, у склад якой ад беларусаў увайшлі: А. Смоліч, Л. Заяц, У. Кернажыцкі, У. Самойла і С. Валасковіч. У камісіі Народнай прасветы Думы яны заснавалі падкамісію беларускую. Гэтая падкамісія сакратаром сваім запрасіла А. Данілевіча. Падкамісія думала спачатку зрабіць беларусізацыю мейскіх расійскіх школ. Закліканыя на нараду настаўнікі пачатковых школ рабілі моцны адпор

беларусізацыі школы і, каб паказаць сваю непрымірымасць да яе, разам з інспектарам Валасковічам на чале дэманстратыўна пакінулі пасяджэнне. Асталася другая дарога. Дзеля таго, што пашырылася мейская сетка на 10 камплектаў, беларуская падкамісія выклапатала 4 камплекты для беларускай школы. Адначасова пачалі абследаванне нацыянальнага складу вучняў расійскіх школ, аднак зрабіць яго не ўдалося, бо настаўнікі навучалі дзяцей гаварыць, што яны *рускія* і выкладання беларускай мовы не хочуць. Чатыры камплекты можна было адчыніць у будынках расійскіх школ пасля абеду [у другую змену. — *У. Л.*]. І тут было шмат перашкод. У адной школе нават не дазволілі рабіць запісу вучняў і зачынялі дзверы перад настаўнікам–беларусам. Такія цяжкія абставіны змусілі сакратара А. Данілевіча адказацца ад свайго абавязку.

Абраны на яго месца Т. Грыб рабіў сакратаром, каб забяспечыць беларускія школы памяшканнямі. Пры ім лік беларускіх школ павялічыўся [дзякуючы] пераданым у беларускую падкамісію 4 школ–сталовых Усерасійскага Земскага саюза. За выдаленне з беларускіх школ габрэяў прыйшлося і Грыбу адмовіцца ад свае пасады перад пачаткам 1918/19 вучэбнага года.

Замест яго заступіў Міхайлоўскі [С. Рак–Міхайлоўскі. — *У. Л.*]. Заданнем Міхайлоўскага было пашырыць існуючыя беларускія школы, зрабіўшы іх поўнакамплектнымі з 4 настаўнікамі. <…> Пры ім адчынілася адна новая беларуская пачатковая школа (№ 50), перайшла да беларусаў і вышэйшая пачатковая школа, перафармаваная ў беларускую гімназію № 13. Міхайлоўскі забяспечыў пачатковыя школы падручнікамі і кніжкамі да чытання.

Цяперашні стан школы

Беларусы маюць у Мінску 10 школ: 9 пачатковых, з іх 8 школ чатырохкамплектных і адна — трохкамплектная, і адну сярэднюю, перафармаваную з вышэйшай пачатковай. Настаўнікаў у пачатковых школах ёсць 35 чалавек. Вучняў у іх было 977, так што на аднаго настаўніка прыходзілася 28 вучняў. У беларускай сярэдняй школе 7 настаўнікаў і 136 вучняў… Вучыцца ў школе самая бедната, каторая не пагарджае сваёй мовай, але не можа плаціць за навуку.

Заданні моманту

Перш усяго трэба, канечне, утрымаць існуючыя беларускія школы, набытыя з такім потам і працаю. Гэтыя школы павінны дастаць не субсідыі, а поўнае ўтрыманне, бо, як гаворана, вучацца ў іх самыя бедныя дзеці і плаціць за вучобу не могуць. Беларуская мова пакуль што не ёсць мова дзяржаўная, якою была да гэтага часу мова расійская... трэба лічыцца з тым, што русіфікатарская палітыка зрабіла сваю справу і адразу пазбавіцца ад яе ўплыву не можна. Беларусы не маюць моцных арганізацый і заможных людзей, каторыя сваімі дастаткамі маглі б падтрымліваць сваю школу.

Заключэнне

Знішчэнне беларускай школы зробіць тое, што настаўнікі гэтых школ разыдуцца хто ў расійскія, хто ў польскія школы. Што тычыцца расійскіх школ, то лічба такіх павінна адпавядаць ліку жывучых тут вялікарусаў. Рэшткі павінны быць беларусізаваны.

Апроч таго камісія лічыць патрэбным завесці выкладанне гісторыі Беларусі, геаграфіі, мовы і літаратуры беларускай ва ўсіх мінскіх мясцовых школах, як расійскіх, калі яны будуць існаваць, так і ў польскіх і жыдоўскіх...

Сябры Камісіі
А. Данілевіч, Я. Шнаркевіч

*Крыніца:* НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 1—2 адв.

## 17.10. Справаздача курсанта Першых мінскіх беларускіх педагагічных курсаў Ю. Лістапада аб выніках свайго наведвання ўрокаў у беларускай пачатковай школе № 20 г. Мінска (Захар'еўская, 12)

25—27 лістапада 1918 г.

АДЧОТ

выслуханых мною абразцовых урокаў у 20–й беларускай школе

*25 лістапада.*

Выслухаў тры ўрокі ў першым аддзяленні, якое раздзелена на дзве групы.

*Першы ўрок* — была *арыфметыка.*

*1 група.* Настаўнік даваў прыклады па адыманні ў прадзеле першага дзясятка, а вучні павінны былі даваць адказы, колькі астанецца, але саўсім не звярталася ўвага на тое, каб вучні давалі адказы кожны аддзельна з пытаннем настаўніка, а проста *ўгадвалі* ўсе разам, не ведаючы, праведна яны крычалі ці не. Потым усе гэтыя прыклады настаўнік застаўляў вучняў пісаць на досцэ палачкамі разам з рымскімі цыфрамі, напрыклад: VII — III = V; X — V = V. Чаму яны пісалі рымскімі цыфрамі, а не проста палачкамі, я саўсім не разумею.

*II група.* Настаўнік напісаў на досцэ прыклады на дзяленне цыфрамі з арыфметычнымі знакамі ў прадзеле дзесяці, напрыклад: 6 : 2 = ?; 8 : 4 = ?; 10 : 5 = ? і г.д. Вучні павінны былі перапісаць гэтыя прыклады з доскі ў свае сшыткі і вылічыць, колькі будзе ў адказе. Атрыманыя знакі, мусіць, ім ужо вядомы. Гэтую работу вучні зрабілі, але амаль ці не ўсе з памылкамі, бо яны спісалі адзін у другога.

Потым настаўнік растлумачыў ім іхныя памылкі і выправіў іх, толькі кепска, што вучні памылкі не касавалі, а выцiралі наслініўшымі пальцамі.

У *другі ўрок* было знаёмства з літарамі.

*I група.* Настаўнік напісаў на досцы касыя лінейкі і на гэтых лінейках напісаў букву «*ц*», а вучні ўвесь ўрок пісалі гэтую літару ў сваіх сшытках. Сшыткаў настаўнік не пераглядаў, бо не было часу, а можа, ён і забыўся паглядзець, што хто напісаў; сшыткі дзеці схавалі.

*II група*. Настаўнік знаёміў дзяцей з літараю «*й*», але яны ўжо яе ведалі, можа, хіба раней іх пазнаёмілі з гэтаю літараю. Потым чыталі цэлыя словы і сказы, у якіх была літара «*й*», напрыклад, ро*й*, га*й*, Андрэ*й* і розпілі «*й*» ад «*і*», напр.: ро*й* — ра*і* і г.д. Кожнае слова настаўнік тлумачыў дзецям, што яно абазначае. (Крэску над «*й*» звалі крывулькай.)

*Трэці ўрок* абедзве разам групы настаўнік знаёміў з карцінаю вясны на полі ў будзённы дзень пад вечар. Ён ім спярша ўсім разам растлумачыў, што робіцца на карціне, а потым падносіў кожнаму вучню і таксама паказваў. Усё, што было на карціне, напрыклад, чыгунка, мястэчка якоесь, будыннік, сяўба, ворыва, было тлумачана дзецям, калі яго робяць і як і г.д. Гэтым урок вёўся цікава.

*Наогул:* дзеці вельмі неспакойна сядзяць на ўроках, няма ніякай «дзісціпліны», а на пераменах вельмі б'юцца паміж сабою; мне здаецца, што гэта залежыць ад настаўніка, бо тады б толькі дзеці зацікавіліся тым, што тлумачыць настаўнік, як яны ўсе сядзелі б ціха, бо я думаю, што паміж імі ёсць спакойныя і балаўнікі, якіх трэба ўсміравць, і тады было б усё добра.

*26 лістапада.*

Выслухаў чатыры ўрокі ў другім аддзяленні.

*Першы ўрок:* рашалі задачы. Настаўніца прадыктавала дзецям задачу, якую адзін вучань запісаў на досцы. Разабралі яе аналітычна і сінтактычна па парадку, прычым

на кожнае пытанне настаўніца падымала другога вучня, але яны ўсе разам адказвалі. Такім чынам было рашано дзве задачы ў прадзеле першага дзясятка; задачы гэтыя не адпавядалі дзействіцельнасці. Потым «усна» прыбаўлялі, адымалі, множылі, дзялілі ў прадзеле 20 і лічылі па 2 і па 3 да сотні. Адказы вучняў вельмі нягодныя.

*Другі ўрок:* была ручная праца. Настаўніца дала дзецям матэрыял дзеля *вышывання і вырэзвання* і застаўляла іх рабіць, але яны рабілі не так, як паказвала ім настаўніца, а проста, як ім хацелася, а некаторыя вучні саўсім нічога не рабілі, а балаваліся.

Значыцца, гэты ўрок вёўся саўсім дрэнна.

*Трэці ўрок:* было чытанне па–беларуску з буквара «Зорка».

Настаўніца прачытала дзецям некалькі прыкладаў цэлымі сказамі, у якіх ужываецца зык *«ц»*, але яна сама рабіла вялікія памылкі ў зыках, націсках, напрыклад, чытала так: «*Цышка»* замест *«Цішка»* і шмат такіх слоў. Потым некалькі разоў дзеці прачыталі з такімі ж самымі памылкамі, і пасля настаўніца тлумачыла дзецям кожнае беларускае слова і часам памылкамі, напрыклад: *«суніца — гэта ягода»*, а яна талкавала, што гэта саўсім не ягода, а ……. (не скажу)[1].

*Чацвёрты ўрок:* было чыстапісанне. Настаўніца налінавала на досцы касыя лінейкі і напісала зык *«ы»* і *«м»*, а дзеці павінны былі прыглядацца, як напісана на досцы, каб так напісаць у сваіх сшытках. Наогул пісалі ўсе дзеці дрэнна, хоць настаўніца і памагала кожнаму з вучняў.

*Таксама*, як і ў першым аддзяленні, тут няма спакойствія на ўроках, і ўсё навучанне пры такой пастаноўцы школы не можа быць цікавым, як для вучняў, а асабліва для мяне.

*27 лістапада.*

Выслухаў два ўрокі ў трэцім аддзяленні, якое дзеліцца на 3–ю і 4–ю групы.

*Першы ўрок:* была арыфметыка.

*3 група.* Настаўнік даў вучням з задачніка Сакалова і Сахарава прыклады на дзяленне, такія: 120 : 2 = ? і г.д. Вучні павінны былі рашыць усе гэтыя прыклады і запісаць у сшытак, а сшыткі настаўнік даў мне прагледзець, ці добра вылічана; большасць было праведных.

*4 група.* Настаўнік прадыктаваў задачу, якую вучань запісаў на досцы. Потым некалькі вучняў паўтаралі гэтую задачу і потым разбіралі па парадку аналіз і сінтэз задачы, прычым кожны вучань адказваў толькі на адно пытанне. Такім чынам рашылі дзве задачы. Толькі тое, што адказы былі «галдзёжкаю», то гэтым мне не нравіцца, а выкладанне задач — то трохі цікава.

*Другі ўрок* была геаграфія.

Настаўнік паказаў вучням на карце ўсе сярэднія губерні быўшага Гасударства Расійскага, злічыў іх ён 15 губерняў. Потым растлумачыў клімат гэтага краю і заняцця жыхароў. Потым вучні некалькі раз паўтаралі тое, што казаў настаўнік, і па парадку называлі губерні гэтага краю, а потым настаўнік застаўляў вучняў паказваць рэкі быўшай Русі. Некаторыя паказвалі праведна, а хто памыляўся, то настаўнік папраўляў яго памылку.

*Наогул* у трэцім аддзяленні трошкі лепей пастаўлена дзела, як у першых двух, ці гэта мне толькі так паказалася, бо яшчэ тэарэтычных метадаў, як выкладаць задачы і весці ўрокі геаграфіі, на лекцыях нам не чыталася. Дзеля гэтага я тут не магу нічога сказаць.

Ю. Лістапад
29/XI—1918 г.

---

[1] Суніца была названа настаўніцай «ягадзіцай», пра што пасаромеўся напісаць Ю. Лістапад.

*Крыніца:* ДАМВ, ф. 864, воп. 1, спр. 1, арк. 14—16 адв.

## 17.11. Асвятленне праблем габрэйскай адукацыі ў Мінску на старонках газеты «Минский голос»

Верасень–снежань 1918 г.

### Нечто о свободе совести

Минская бундовская газета «Дер Веккер» (Будильник) в статье «Руки прочь» (№ 388) выступила против директора еврейской гимназии д–ра Ц. Фельдштейна, председателя религиозной подкомиссии при Минской еврейской культурно–просветительной комиссии, который выступил в заседании 17 августа 1918 г. с докладом «Об улучшении религиозного воспитания в еврейских школах», где рассмотрел вопросы, входящие в компетенцию названной подкомиссии: кроме вопросов ритуала и иудейского культа, состояние религиозного воспитания еврейской молодежи в школах общины.

Против положений, высказанных в докладе, резко выступил «Дер Веккер»: «Еврейская демократия настроена против всякого религиозного обучения, особенно против религиозного воспитания в школах. Она борется за светскую школу и с величайшей энергией будет выступать против всяких клерикальных тенденций в еврейской просветительной работе… Представители истинной демократии будут бороться с попыткой религиозной комиссии взять школы под свои черные крылья и поставить «хассидский штраймель» сторожем для наших учителей и их воспитанников…»

В религиозную комиссию при Минской еврейской общине вошли не клерикалы, а люди светские с блестящим образованием. Они очень далеки от средневековых порядков и других ужасов… Вместе с тем эти люди, любящие свой народ в целом и желающие ему добра, обладают далеким кругозором. Горький опыт последнего бурного десятилетия привел их к заключению, что светская школа и ее система религиозного безразличия дали еврейству юношей, «служивших маслом для смазывания колес российской революции». Евреи в недалеком будущем уплатят за эту «колесную мазь» дорогой ценой. По словам сионистов, «конечная цель сторонников Бунда — ассимиляция еврейской массы с массой русской, которая стоит в культурном отношении ниже».

«Дон Кихот–Минский» [С. За–к]

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 2 сент.

### В еврейской общине

Только на днях состоялось долгожданное соглашение двух главных фракций Минской еврейской общины: сионистской и ортодоксальной, вместе составляющих большинство совета общины. Соглашение состоялось на той почве, на которой произошел раскол: на почве религиозного воспитания еврейского юношества. Вот что гласит резолюция, принятая обеими фракциями: 1) в школах, открываемых общиной или содержащихся на ее счет, обязательно изучение Библии в оригинале, а также другие еврейские предметы. Ученикам преподается объяснение молитв и религиозных обычаев народной жизни. 2) Всякая группа родителей или всякая организация, имеющая 80 учеников, имеет право открыть школу, согласно ее духу и желанию. Такие школы получают субсидию от общины при условии преподавания в них основной части Библии и легенд в оригинале, также еврейской истории и древнееврейского языка при минимуме общих предметов. Такие школы автономны в своем внутреннем управлении; только по отношению к минимуму еврейских и общих предметов — культурная комиссия общины имеет право наблюдать, чтобы обучение было в должной мере и педагогической системе. 3) Все школы, открываемые общиной или содержащиеся целиком на ее средства, находятся в распоряжении культурной комиссии при общине. Из вышеозначенной ре-

золюции можно вывести заключение, что две фракции — сионистская и ортодоксальная — хотят сделать обязательным для еврейского юношества религиозное воспитание, ввиду массы национальных черт библейской религии, а также древнееврейский язык, как язык исторической еврейской культуры. Это соглашение вызвало резко отрицательное отношение со стороны той группы общины, которую представляет местная газета «Дер Веккер» (бундовцев). В статье под заглавием «Черносотенное соглашение» (№ 364) «Дер Веккер» говорит: «Сионисты пошли в каноссу, поиграли в радикализм и сейчас же испугались и попрятались под «ярмолкой» раввина. Нам не нужно ешиботов и хедеров с Библией в оригинале и прочими атрибутами еврейского религиозного воспитания. Нам придется выступить против общины и строить светскую школу помимо общины, а Толмуд–Торы пусть черносотенцы сами строят!» Таким образом, вместо оппозиции ортодоксов, предстоит оппозиция бундистов. Одни «ушедшие» вернулись в общину, другие собираются уйти. Эта игра во «входы и выходы» нарушает жизнь молодой общины и доказывает, что еврейские партии не усвоили еще планомерности парламентской борьбы и чересчур нервничают. Чуть что не по ним, надули губы: «Мы не хотим так, мы больше не играем, мы уходим!» Но это хорошо в любительской труппе, а не в указанном общественном представительном учреждении.

С. Э.

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 29 сент.

### Собрание учащихся евреев

На состоявшемся 8 сентября общем собрании учащихся евреев средних учебных заведений (старших классов), созванном сионистской организацией учащейся молодежи «Геховер», после заслушивания доклада председателя «Геховера» о введении изучения еврейских предметов в средних учебных заведениях были приняты следующие резолюции: 1. Находя, что Закон Божий не может удовлетворить культурные потребности учащихся, собрание находит необходимым этот предмет отменить. 2. Вместо Закона Божьего изучается еврейская история. Изучение истории обязательно. 3. Языком обучения является еврейский (иврит), если же таковой является невозможным, то изучение ведется на разговорном еврейском языке (идиш), но не на другом языке. 4. Во всех классах вводится как необязательный предмет изучение еврейского языка (иврита) за счет учащихся. 5. Во всех средних учебных заведениях учащиеся евреи освобождаются по субботам от письменных занятий. Все резолюции проводятся в жизнь посредством еврейской общины. Для проведения резолюции в жизнь собранием избраны: М. Годес, Я. Явно, М. Файн, кандидат Ш. Мильконовицкий.

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 5 окт.

### В еврейской общине

Член совета общины бундовец И. Герцик во внеочередном заявлении обратил внимание на совещание родительских комитетов при средних учебных заведениях г. Минска, созванное школьным комитетом общины для обсуждения вопроса о еврейских предметах обучения и особенно о Законе Божьем. Герцик заявил, что совещание было организовано без ведома культурной комиссии, ибо этот вопрос община еще сама не обсуждала. Роскер и Гудман поддержали заявление Герцика. Они заявили, что под Законом Божьим подразумевается религиозное воспитание юношества, о котором община еще не приняла окончательного решения. Член объединенного еврейского родительского комитета д–р Эйнгорн говорит, что комитет в данном случае преследовал только информационные цели. Резолюция сионистов гласит: «Принимая во внимание, что во-

прос о еврейских предметах обучения срочный и что культурная комиссия по разным причинам не работает, община находит, что действия комитета были правильные». Резолюция левых гласит: «Выслушав запрос, община постановляет, чтобы в принципиальных вопросах, о которых существуют разногласия, объединенный родительский комитет согласовывался с культурно–просветительской комиссией общины».

Резолюция сионистов набрала 22 голоса, резолюция левых — 13.

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 10 окт.

### В еврейской общине

*Заседание 6 ноября.* Заседание открывает председатель Хургин. Руководитель культурной комиссии М. Каган говорит, что комиссия считает преподавание иврита в школах крайне важным и требует поставить его в качестве обязательного предмета в средних учебных заведениях г. Минска с первого года обучения. Что касается истории еврейского народа, на иврите или идише, то ее нужно поставить с 5 класса. Доклад Кагана вызывает дебаты. Г. Розенгауз (Поалей–Цион) говорит, что инициатива кампании в пользу иврита исходит от ученической организации «Геховер». Нам нужна интеллигенция, которая сможет сговориться со своим народом на языке, понятном ему, то есть на идиш. С этим языком можно подойти прямо к преподаванию истории евреев. М.Я. Фрумкина (Бунд) говорит, что в нормальной еврейской средней школе, где язык преподавания будет идиш, дается возможность изучать и иврит. Пока еврейских школ нет и еврейские дети учатся в общих школах, Бунд считает нужным, чтобы еврейские ученики в первые три года обучались на идиш. В этом духе состоит проект резолюции Бунда. За иврит высказывается также представитель «Агудас Исроель». Г. Бергер (сионист) в горячей речи защищает право преподавания на иврите. Вопрос ставится на голосование. Предложение культурной комиссии об обязательном преподавании иврита и истории еврейского народа для еврейских учеников в смешанных средних учебных заведениях г. Минска: проголосовало 35, против — 19.

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 10 ноября.

## 17.12. Інфармацыя пра мінскую татарскую пачатковую школу

Школа открыта в ноябре 1917 г. Минским мусульманским благотворительным обществом (б. Минским отделом Всероссийского мусульманского общества помощи потерпевшим от войны). Арендовала здание на Большой Татарской улице (дом Богдановича). В марте 1918 г. перешло под управление Минской городской управы, взявшей ее, согласно решения городской думы, на содержание (получила порядковый № 32). 87% учеников составляли татары, как из числа местных, так и беженцев из Царства Польского, а также западных губерний, 3,7% — белорусы и 9,4% — евреи. Наряду с общеобразовательными предметами, которые читались на русском языке, преподавались русский и арабский языки, а также основы мусульманской веры. В состав педагогического совета входили Якуб Мурза–Мурзик (председатель Минского мусульманского благотворительного общества), Ева Соболевская (татарка), Мирсан Хафизов (татарин), Абдулла Гаеризов (татарин), Лариса Лобановская (белоруска).

*Крыніца:* НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270, арк. 2 адв.; спр. 7053, арк. 32.

# Дадатак 18. Адозва арганізацыйнага бюро Народнага сакратарыята Беларусі да беларускай інтэлігенцыі з заклікам далучацца да нацыянальнай дзяржаўнай і культурнай працы

Мінск, 25 лютага 1918 г.
Няхай жыве Вольная Беларусь!

**Да ўсіх свядомых і асвячоных сыноў Беларусі!**

Панове — брацця, грамадзяне Зямлі Беларускай!

Цяжка і доўга пакутаваў народ наш пад уладаю маскоўскага самадзяржаўнага ўрада. Уся праца дзяржаўнай машыны кіравалася так, каб трымаць яго ў цемнаце, у марноце: на самым доле супольнага будынка. Розум народа, мозг народа, яго ўласнае дзіця — інтэлігенцыя, тая, што хацела і магла служыць яму на карысць, — бязлітасна разлучалася з ім хітрымі, хцівымі апекунамі. З рэвалюцыяй настаў, здавалася, момант, калі інтэлігенцыя здолее вольна прыйсці к народу і ахвяраваць яму свае сілы, а к трону яго, як свой сыноўні дар, злажыць усю суму навукі і дасвядчэння, якую назбірала ў часы бяспраўя.

Але парадкі супольства не мяняюцца, мабыць, гэтак лёгка і хутка, як урады. Праца гнабіцеляў не асталася бясплённай. Знайшліся цёмныя, выгадаваныя прошласцю людзі, якія пачалі заклікаць народ, каб ён высцерагаўся шчырых сыноў сваіх, каб ім не верыў, бо гэта — здраднікі, прыслужнікі багатых станаў. Паняверaны вякамі народ–сірата паверыў выкармам даўняга бяспраўя і пайшоў за імі, за тымі, у чыім сэрцы не было нічога, апрача злосці, а ў мазгох нічога, апрача нявольніцкага страху і падазронасці. Пайшоў, паслухмяны, з вялікай верай у сваіх збавіцеляў і прыйшоў за імі ў тое царства бязладу, зверства і братняй звады, з якога толькі выхад: у нябыт, у загладу. Цяпер, неспадзявана для сябе, апынуўшыся над краем беззаконня, пакінуты нядаўнімі правадырамі на сябе самаго, — народ маўчыць, затаіўшы страх і трывогу, якія яго апанавалі, і баіцца нават падумаць, што з ім можа далей быць.

Так ясна пачаўшыся, расійская рэвалюцыя завяла народ у цемру, у жах перад народным момантам, ашукаўшы яго пекнымі абяцанкамі. З гэтага цяжкага стану мы павінны ратаваць народ наш. Павінны, забыўшыся на ўсе ўразы, якімі ён, пад’юджываны несумленнымі правадырамі, заклікаў нас, пайсці зноў да яго і быць з ім. Не дзеля падзякі, не дзеля воплескаў, а дзеля спаўнення свайго сыноўскага абавязку, дзеля патрэб агульналюдскога поступу і чалавечае культуры павінны дапамагчы яму цяпер усе, хто можа, хто мае нейкі запас навукі, дасвядчэння, умеласці, — і проста сыноўняй ахвоты. Маючы на мэце такую помач народу, мы заклікаем вас, брацця, усіх азвацца на гэты покліч. Мусім сабрацца, параіцца і, злажыўшы разам свае сілы, узяцца за працу, не трацячы часу, бо цяпер — «прабава — смерці падобна».

Шмат што нас можа разлучаць, але ўсіх нас яднае адна: гэта доля нашай Бацькаўшчыны — Беларусі, каторая палепшыцца можа толькі праз заклад моцнага фундамента яе незалежнасці на грунце нераздзельнасці беларускага народа ў яго этнаграфічных рубяжах; праз падняцце нацыянальнай творчай сілы народа, як духоўнай, так і матэрыяльнай; праз управаджэнне station… 

Мы спадзяемся, што за такімі поглядамі знойдзецца шмат людзей, і просім іх за справункамі звяртацца на адрас: Захар’еўская № 70, 4–й паверх, Продовольственная управа.

Арганізацыйнае бюро адчынена ад 12 гадзіны.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 15, арк. 71.

## Дадатак 19. Паведамленне пра сход беларускага культурна–асветнага таварыства ў Бабруйску

8 сакавіка 1918 г.

Собрание белорусского культурно–просветительного общества 8(21) апреля 1918 г.
Заседание проходило в помещении местного приходского училища. Председателем собрания был избран православный священник о. К. Давидович, секретарем — Ф. Лашевич. Исходя из доклада о. К. Давидовича, из–за финансовых трудностей не удалось начать издание собственной газеты. Планировалось для укрепления национального сознания издать также сборник статей, в котором бы освещались цели и задачи белорусского движения. Главная цель общества — быть вне политики, поддержка белорусскому населению в его стремлении к белорусской культуре и просвещению, объединение белорусских культурных работников для расширения и углубления белорусского возрождения. Общество организовало белорусскую библиотеку–читальню. В лагерной Слободе была открыта воскресная белорусская школа под началом учителя И.М. Загорского. Школу посещали свыше 100 детей. Общество занималось также благотворительной деятельностью в пользу голодающих. Во время проведения благотворительных «кружечных сборов» в городе было собрано 3286 руб. На эти деньги планировалось открыть чаевую. При Обществе был организован молодежный кружок, который организовал белорусскую вечерину и собрал во время ее проведения 1860 руб. пожертвований. Часть денег (1000 руб.) пошли на оплату обучения бедным белорусским ученикам, а вторая — на нужды кружка. При обществе организована театральная секция, члены которой добивались, чтобы последняя стала самостоятельной секцией при местном Бобруйском народном театре, где уже действовали русская и еврейские труппы. Доходы: членские взносы составили 869 руб., кружечный сбор в пользу голодающих — 3260 руб., доходы от ученического вечера — 1635 руб., на чайную и столовую собрано уже 73 руб., на издание белорусской газеты — 62 руб. Расходы: плата за учебу бедным ученикам–белорусам — 1000 руб., в пользу голодающих — 2000 руб., на преобретение книг для чтения, канцелярские принадлежности и печатание объявлений — 375 руб. Остаток — 2524 руб. На заседании выступил представитель Рады БНР Тесецкий. Делегированный в Раду БНР Е.К. Успенский изложил историю белорусского движения.
*Крыніца:* Бобруйский голос. — 1918, 26 апр.

## Дадатак 20. Інфармацыя пра польскія пачатковыя школы ў Івянецкай воласці Мінскага павета

Кастрычнік—лістапад 1918 г.

### 20.1. Звесткі Мінскай павятовай земскай управы пра чыннасць польскіх школ у Івянецкай воласці Мінскага павета

Кастрычнік 1918 г.

*Воропаевское польское начальное училище (д. Воропаево Ивенецкой вол.)*
Открыто 1 октября 1918 г. в крестьянской избе. Содержалось на средства местных крестьян. На нужды школы *бесплатно* был отпущен лучший крестьянский дом общей площадью 49 кв. аршин. Школу посещали 35 учеников (15 девочек и 20 мальчиков). Преподавались польский язык и чтение, история и география, естествоведение, математика и рисование.

*Собковщинское польское народное училище (д. Собковщина Ивенецкой вол.)*

Открыта 1 сентября 1918 г. Удерживалась на средства крестьян. На нужды школы бесплатно выделен лучший в деревне крестьянский дом с общей площадью 81 кв. аршин (на 1 ученика приходится 7¾ кв. аршина пространства). Школу посещает 32 ученика (13 девочек и 19 мальчиков). Обслуживала также ближайшие деревни: Дубники, Стасевщина, Юзефино и Катеринадаль. Преподавались польский язык и чтение, история и география, дополнительно: рисование и гимнастика. Учениками в 1918 г. проведены 2 музыкальных вечера.

*Кудишицкое польское начальное училище (д. Кудишицы Ивенецкой вол.)*

Открыто 28 октября 1918 г. Содержалось на средства местных крестьян. Для школы снимались несколько комнат в крестьянском доме, арендная плата — 20 руб. Оплачивается родителями учеников. Учителя крестьяне обеспечивают бесплатным пропитанием и ежемесячно платят 100 руб. Школьная мебель сделана самими родителями. Имеется 2 школьных комплекта: 33 ученика (15 девочек и 18 мальчиков). Преподается польский язык и чтение, история и география, дополнительно — рисование и гимнастика. Себекошт содержания 1 ученика в год — 30—35 руб. Обслуживало также ближайшие деревни Кульчицы и Яновщицы.

*Провжиловское польское начальное училище (д. Провжилы Ивенецкой вол.)*

Открыто 19 октября 1918 г. на месте закрытого во время войны бывшего русского земского училища (основанного в 1914 г.), но которое находилось в другом здании. Еще в 1917 г. при финансовой поддержке минской Польской Мацежы Школьной тут частным способом учительствовала польская учительница. Общая площадь школьных помещений — 72 кв. аршина. Школьное здание принадлежит местному жителю Адаму Кижовнику. Плата за аренду за школу небольшая. Имелось 68 учеников (34 девочки и 35 мальчиков). Преподавались польский язык и чтение, география и история; основы катехизиса для католиков, дополнительно — пение и гимнастика. Содержалась на средства родителей учеников, которые оплачивали аренду помещения и платили учителю за учение, наем за квартиру и стол 120 руб. в месяц. При школе созданы также вечерние курсы для взрослых, которые посещали 15 человек.

*Дудкинское польское начальное училище (д. Дудки Ивенецкой вол.)*

Открыто в 1918 г. Школу посещали 39 детей (14 девочек и 25 мальчиков). Содержалась на средства родителей учеников. Преподавались польский язык и чтение, чистописание, география и история Польши; естествоведение, основы катехизиса для католиков, дополнительно — пение, гимнастика и спортивные игры. Обслуживала ближайшие деревни Дудки, Мейшты, Кунаши, Боровики, Шикута.

*Ивенецкое польское начальное училище (м. Ивенец)*

Открыто в конце 1917 г. Школу посещали 82 ученика. Обслуживала м. Ивенец, деревни Серкули, Михалово. Преподавались польский язык и чтение, чистописание, география и история Польши; естествоведение, основы катехизиса для католиков, дополнительно — пение и гимнастика, спортивные игры.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 152—159, 162, 168.

**20.2. Інфармацыя загадчыка Мінскага павятовага аддзела народнай адукацыі С. Мякінніка пра факты паланізацыі беларускага насельніцтва праз школу**

Снежань 1918 г.

Население (особенно католическое) требует преподавания в школах Закона Божьего. Влияние ксендзов способствует ополячиванию белорусов. Происходят гонения

на «русских» учителей, насаждение в уезде польской школы, учителями назначаются даже былые лакеи панских имений. Польские школы содержатся на средства Мацежи Польской и пожертвования местных землевладельцев. 64 собственных школьных зданий приведены в полную негодность. Школы переполнены детьми.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30, арк. 168.

## Дадатак 21. Змест рэзалюцыі Мінскага земскага павятовага камітэта народнай адукацыі «Аб нацыянальных школах»

Жнівень 1918 г.

О национальных школах

На состоявшемся заседании Минского земского уездного комитета по народному образованию была принята приводимая ниже резолюция по вопросу о национальных школах. Эта же резолюция была одобрена на проходящем в настоящее время в Минске съезде учителей Минского уездного земства.

Резолюция гласит: «1) Всем национальностям должны быть предоставлены права и возможность обучения в школе на родном языке. 2) Ввиду смешения населением Минского уезда понятий религиозных и национальных и зачастую полного их отождествления (православный — русский, католик — поляк) необходима должная осторожность в открытии национальных школ во избежание неприемлемых для демократии полонизации и русификации национальностей. 3) Для выяснения и развития национального самосознания у местного населения настоятельно необходимо ввести в курс школьного преподавания белорусоведение (историю и географию местного края, белорусские сказки, песни, рассказы, поэтические белорусские произведения и т.п.). 4) В селениях, где резко выражена национальность и имеется стремление к родной школе, нужно по возможности удовлетворять законное желание населения с обязательным преподаванием в таких национальных школах русского языка как государственного, дабы этим дать возможность беднейшему населению продолжать образование в высших начальных училищах. 5) В пунктах со смешанным населением (русские, поляки, евреи), где нет достаточного количества детей школьного возраста для открытия отдельных национальных школ, необходимо открытие русской школы с преподаванием в ней языка национальностей (польского или еврейского и т.п.) как предмета преподавания. 6) Спорные случаи об открытии в селениях национальной школы разрешаются Учебным уездным комитетом по народному образованию после заслушивания докладов и сообщений от местной волостной школьной комиссии».

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 1 сент.

## Дадатак 22. Паведамленне аб пастановах па школьнаму пытанню Мінскага губернскага камітэта народнай адукацыі

Лістапад 1918 г.

В Комитете просвещения

На днях закончилась очередная сессия Минского губернского комитета по народному образованию. Председательствовал председатель комитета С.В. Волоскович. Была

рассмотрена смета губернского земства по народному образованию на 1919 г. Комитет внес некоторые изменения: наиболее важными были ассигнования: более 37 тыс. руб. на содержание Раковской ремесленной школы; 146 тыс. руб. — для открытия в уездах 5 новых ремесленных училищ; 141,5 тыс. руб. — для открытия в сельской местности для крестьян 6 смешанных гимназий.

Решено принять на содержание губернского земства недавно открытое Минское среднее политехническое училище (ассигновано 1 млн. 785 тыс. руб.). Желая сделать обучение в названном училище общедоступным, комитет уменьшил плату за обучение до ста рублей с ученика. На устройство летних курсов для учителей ассигновано 86 тыс. руб. На содержание 3 учительских семинарий (в Несвиже, Борисове и Бобруйске) — около 300 тыс. руб. Пособие Минскому учительскому институту с преобразованием его в высшее учебное заведение — 63 тыс. 200 руб. Большое внимание уделено внешкольному образованию: на организацию волостных школ для взрослых — по 1 на волость — 252 тыс. руб., на устройство народных чтений — 70 тыс. руб., организацию народных библиотек — 163,5 тыс. руб., наконец, в фонде, имеющем быть открытым в 1919 году, для создания краевого университета — 120 тыс. руб.

*Крыніца:* Минский голос. — 1918, 19 ноября.

## Дадатак 23. Праграма і рэкамендацыі Я. Лёсіка па выкладанню беларускай мовы для 4–класавай беларускай пачатковай школы

1918 г.

### Родная мова

*I аддзел*

1) Падгатоўчыя гутаркі (без раскладу лекцый); знаёмства са школай. Параўнанне з сямейным жыццём. Расказванне народных апавяданняў (казкі, легенды, жарты). Народныя песні з гульнямі. Завучванне лёгкіх жартаў. Гутаркі вэдлуг малюнкаў. Патрэбнасць кнігі і пісьма. Вольнае рысаванне. Рысаванне фігур, падобных да элементаў літар. Пісанне элементаў літар па клетках.

2) Гукавыя ўкладанні.

Мова, слова, склад, гук.

3) Чытанне і пісанне.

Гук і яго знак — літара. Навучанне вэдлуг гукавога метаду.

*Увага:* літара разглядаецца з цэлым словам, адначасна ўмацоўваецца пры дапамозе пісьма. Складанне слоў і сказаў з знаёмых літараў найчасцей практыкуецца пры дапамозе рухомага альфабэта, чытанне — пры дапамозе малюнкаў. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на літары: «*дз*», «*дж*» (два значкі дзеля адной літары), «*ў*» і «*й*» выдзяляюцца як асобныя гукі. Выясненне коскі–апострофа (ад'ехаць). Чытанне невялічкіх апавяданняў і вершаў з тлумачэннем. Расказ дзяцей вэдлуг чытанняў настаўніка, падобныя здарэнні ў сваім жыцці.

4) Спісванне з дошкі, з кнігі, з табліцаў. Подпісы пад сваімі малюнкамі. Пісьмовыя адказы на пытанні. Па магчымасці, пісанне кароценькіх твораў вэдлуг малюнкаў.

*II аддзел*

1) Чытанне.

Правільнае, яснае, выразнае і галоснае чытанне, лагічныя націскі. Паходжанне аналагічных здарэнняў з іх жыцця. Правільныя адказы і пытанні настаўніка. Вольны расказ. Вершы, байкі. Выясненне галоўнай думкі накіроўваючымі запытаннямі. Практыка драматызацыі.

2) Пісанне.

Спісванне з дошкі цікавых сказаў, загадак; выпісванне з кнігі лёгкіх расказаў, вынятак і вершыкаў. Выясніцельная і свабодная дыктоўка. *Пісьмовае вылажэнне цікавых кароценькіх казак*. Вольнае апісанне здарэнняў з жыцця. Выясненне граматычных правіл супольна з пісаннем. Склад. Націск. Галосныя і зычныя гукі, цвёрдыя зычныя: *ж*, *ч*, *ш*, *р*. Пераход «*д*» і «*т*» у «*дз*» і «*ц*» (перад мяккімі галоснымі). Няясныя зычныя (хлеб—хлеба). Аканне (рэкі—рака). «*ў*» і «*й*» кароткія. Жывыя і нежывыя прадметы. Іменні прадметаў. Дзеянне. Іменні чысла.

*III аддзел*

Чытанне стацей і расказаў з падручнікаў па выбару настаўніка. Складанне маленькіх расказаў і вылажэнне дзецьмі ў пісьменнай форме. Завучванне вершаў і баек. Рысаванне. Пераклады паэтычных і празаічных твораў. Спісванне з кніг, практыка на пройдзеныя граматычныя правілы. Зводная дыктоўка. Расказы–апісанні малюнкаў. Кароткія пісьмы. Апісанне праведзенага ў школе і дома часу. Пісьмовае выказванне сваіх поглядаў на розныя здарэнні з школьнага жыцця. Апісанне экскурсій.

Знаёмства з сказам і складам сказа.

Кароткае знаёмства з часцінамі мовы.

Знакі прыпынку.

*IV аддзел*

Вусная ці пісьмовая передача прачытанага. Чытанне ў хрэстаматыі стацей па выбару настаўніка; выдзяленне галоўнай мовы, расклад на часці; пераклад цэлага расказу ці аднной якой часці. Граматычныя практыкі. Зводная дыктоўка. Выясніцельная ці праверачная дыктоўка. Пераказ. Складванне з прачытаных казак, баек, вершаў і інш. — сцэнічных п’есак і прадстаўленне іх на школьных спектаклях. Творы на ўзятыя з жыцця сям’і, школы; здарэнні з жыцця вучняў. Знаёмства з творамі беларускіх пісьменнікаў і чужаземных (у перакладах), чытанне драматычных твораў і пастаноўка іх у школьным тэатры.

Чытанне газет як спосаб знаёмства дзяцей з грамадзянскім жыццём і падгатоўка будучых грамадзянскіх працаўнікоў. Знаёмства з бібліятэчным дзелам.

Пісьмы прыватныя, афіцыяльныя. Дзелавыя паперы.

Выданне школьнага журнала (змест: жыццё школы, сям’і, апісанне жывой прыроды; апрацаваныя дзецьмі п’ескі, творы, вершы, створаныя самімі дзецьмі).

Пісьмовае выказванне свайго пагляду на розныя здарэнні з жыцця школы. Апісанне экскурсій.

Граматыка, сінтаксіс, разбор.

Пра выкладанне беларускай мовы ў школе

Выкладанне роднай мовы ў школе павінна дасягнуць такіх мэтаў: 1) правільнае развіццё жывой мовы, 2) пабуджэнне думкі, 3) ясная і верная перадача свае думкі жывой мовай і пісьменна, 4) механізм чытання і пісання, 5) ахвота чытаць кнігу і знаходзіць у прачытаным самы сэнс, 6) пробы саматворчасці ў жывой і літаратурнай мове.

Пачатковая школа павінна даць пэўную мерку развіцця мовы і думкі, як для тых, хто гатуецца слухаць далейшыя курсы навукі, так і для тых, каму не прыйдзецца быць у другіх школах. Разумеецца, кожны настаўнік павінен ведаць простыя і важныя педагагічныя правілы, каб ісці па правільнай дарозе, не рабіць крутых зваротаў, не бегчы моцна ўперад, не станавіцца на месцы, а ісці мерна і ўпэўнена.

Прымаючы дзяцей у школу, настаўнік не павінен адразу карміць іх сухім матэрыялам, як механізм чытання і правільнае вымаўленне, нібы гэта ёсць нешта асобнае і

цяжкае для разумення. Не дасягне настаўнік сваіх мэтаў тады, калі дзіця будзе бегчы з урокаў дадому, як з няволі на волю. Блізка стоячы да хатняга жыцця, школа ёсць тое самае жыццё, толькі больш разумнае, якое павінна кіраваць жыццём хатнім. Каб зблізіць школу з сям'ёй, надаць вучэнню больш цікавасці, а разам з тым і больш карысці, выкладанне роднай мовы, як і другіх прадметаў, павінна перайсці на працоўны метад. Трэба скарыстаць працу як дапамогу да лепшага азнаямлення азбукай, механізмам чытання і пісання, а таксама і да лягчэйшага развіцця жывой мовы.

Настаўніку трэба асцерагацца важнай памылкі: не можна ганьбіць і папраўляць дзіцячую мову толькі за тым, што яна розніцца ад мовы літаратурнай. Да мовы літаратурнай трэба дайсці паступова, не забываючы мясцовых асобнасцяў, бо мова, як і ўсё жывое, мае свае правільныя законы развіцця, і многае, што лічыцца правінцыяналізмам і несправядлівасцю ў мове, можа, мае больш правоў на жыццё, як некаторыя прынятыя літаратурныя формы. З часам гэтыя асобнасці займуць і ў літаратурнай мове належнае месца і такім парадкам узбагацяць літаратурную мову. Каб не рабіць у такім разе памылак, настаўнік павінен ведаць асобнасці мясцовай мовы, якія сапраўды маюць месца ў значным абшары.

Аб чытанні трэба зазначыць, што з першых часоў школьнага жыцця яно адбываецца больш пад кіраўніцтвам настаўніка. Пазней, калі ўжо дзеці могуць добра чытаць і разумець чытанне, больш часу адводзіцца вольнаму чытанню. Настаўнік кіруе падборам матэрыялу і дапамагае ў высвятленні незразумелага. Разбор стацей, расклад на часціны, план, — павінны мець месца ў такой велічыні, колькі трэба вучням дзеля зразумення сэнсу прачытанага. Тут жа трэба навучыць выдзяляць характэрныя рысы ў якіх–небудзь прадметах ці жывых творах.

Пісанне, як дапамога развіцця мыслі, гэтаксама раней вядзецца блізка якіх–небудзь дапамог. Пазней, у меру развіцця дзіцячага ваабражэння, пісанне пераходзіць на вольныя тэмы. Дзеці выкладаюць сваю думку ў лістах, у апісанні прадметаў, жыццёвых выпадкаў прыроды. Урэшце ўпражняцца звязваць гэтыя паасобныя ўпражненні ў цэлых расказах на блізкія дзецям, зразумелыя тэмы.

Матэрыялам для малых дзяцей могуць добра служыць народныя апавяданні (казкі, легенды, жарты) і, наогул, народная славеснасць. Гэтаксама даволі матэрыялу дзеля выкладання размовы ў вакалічнай прыродзе. Размова аб работах, аб полі, лузе, лесе, аб іх насельніках, у размеры, дапасаваным да дзіцячага разумення, — усё гэта найлепшая дапамога дзеля развіцця мовы малых дзяцей.

Пазней, у апошніх гадах навукі, галоўнай дапамогай будзе кніга. Настаўнік павінен клапаціцца, каб падабраць добры матэрыял.

*Крыніца:* НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 7, арк. 95—95 адв., 98—98 адв.

## Дадатак 24. Інфармацыя аб выніках Беларускага настаўніцкага з'езда ў Горадні, які адбыўся 28—29 сакавіка 1919 г.

Беларускі вучыцельскі з'езд

Беларускі вучыцельскі з'езд (адбыўся 28—29 сакавіка 1919 г.). Адчыніўся ў зале Беларускага клуба. Старшыня Баляслаў Квяцінскі. У прэзідыум абраны Баляслаў Квяцінскі (старшыня), Іван Антонаў (заступнік), Станіслаў Качынскі і Уладзімір Шалешка (сакратары). З прамовамі да дэлегатаў звярталіся старшыня Цэнтральнай Беларускай Рады Гарадзеншчыны Павал Аляксюк і Васіль Захарка (ад урада БНР).

Настаўнік Лотыш з Сямёнаўкі: будынак школы развалены, жадных прыладаў няма. Сяляне зусім справай не цікавяцца... часам адносяцца варожа да беларускай мовы, баючыся уніі, і быццам лічаць лацінку першым крокам да яе.

Настаўнік Трахімовіч з Вялікай Бераставіцы далажыў аб дужа благіх адносінах да беларускай школы тамашняга ксяндза, які ўсімі сродкамі перашкаджаў яго працы, заяўляючы хвастліва, што ў цягу года ён апалячыў бы ўсіх дзяцей. Панаехаўшыя разумнікі з Расіі бураць народ, даводзячы, што ў школах трэба вучыць па–руску.

У Вярэнках, куды цяпер ён пераехаў, справа стаіць куды лепш: людзі адносяцца як да школы, так і да мовы беларускай.

Настаўнік Мяленец зазначае трохі іншае: на ягоны погляд, тыя сяляне, што звярнуліся з Расіі, вельмі цешацца сваёй нацыянальнай справай, хочуць стварыць сваю бібліятэку, горача бароняць абавязковасць у нас беларускай улады.

Настаўнік Качынскі перадае гісторыю стварэння беларускай школы ў Горадні, якая пачала тут працаваць па ініцыятыве грам. Ластоўскага і Луцкевіча ў 1916 г. Дзеці навучаліся бясплатна. Апрача таго даставалі падручнікі і школьныя прылады. Стараннямі настаўнікаў Грыкоўскага і Станішэўскай дзеці атрымлівалі бясплатныя абеды. Нягледзячы на перашкоды з боку мясцовага польскага актыву, у лістападзе ў школе дзейнічала ўжо 3 класы. Пры школе паўстаў Белнацкам.

На з’ездзе быў утвораны Цэнтральны Беларускі вучыцельскі хаўрус з 6 чалавек: Б. Квяцінскі (старшыня), І. Антонаў (заступнік), В. Краўцэвічанка, Л. Дзекуць–Малей і Шышлюк. У рэвізійную камісію: У. Шалешка, Пратасевічанка і Васілевіч.

Пастаноўлена стварыць Хаўрус дапамогі настаўнікам Гарадзеншчыны. Ад імя Урада БНР К. Цярэшчанка заявіў пра фінансавую дапамогу беларускаму школьніцтву на Гарадзеншчыне на суму 10 000 марак. Для паляпшэння фінансавага становішча пастаноўлена тварыць навукова–папулярныя лекцыі і тэатральныя вечарыны і збіраць сяброўскія складкі (2% ад заробку).

*Крыніца:* Беларусь (Горадня). — 1919, 6 крас.

## Беларускі вучыцельскі з’езд (28—29 сакавіка 1919 г.)

### Пастановы

### Пытанне пра настаўніцкую пенсію

Прызнаць пенсію не менш за 300 марак у месяц для несямейнага і яшчэ 30% дабаўкі для маючых сям’ю.

У педагагічных пытаннях прынятыя наступныя пастановы, апрацаваныя і ўзгодненыя спецыяльнай камісіяй:

§ 1. Пачатковая школа павінна быць аднакласавая з 4–гадовым курсам і 2–ма вучыцелямі.

*УВАГА*. Другі вучыцель павінен назначацца ў гэту школу, калі лічба вучняў пераходзіць максімум 30.

§ 2. Жадана, каб школа другой ступені была адкрыта ў кожнай воласці ў найхутчэйшым часе, чатырохкласавая з праграмай сярэдніх навуковых закладаў.

*УВАГА*. Першыя тры ступені школ павінны быць навучна–працоўнага тыпу.

§ 3. У кожным павеце мусіць быць адкрыта не менш адной школы трэцяй ступені, якая па сваёй праграме павінна быць падобна да 4–х старшых класаў сярэдніх навуковых закладаў.

§ 4. У м. Горадні павінна быць закладзена вышэйшая політэхнічная школа.

§ 5. У губерні павінна быць адкрыта сельскагаспадарчая школа і адна сярэднетэхнічная.

§ 6. Вучыцельская семінарыя павінна быць спецыяльна школай трэцяй ступені.

*УВАГА*. Канешне, адкрыць не ў гэтым гаду.

§ 7. У кожным павеце павінна быць адкрыта рамесная школа трэцяй ступені.

§ 8. Жадана, каб у цякучым гаду ў Горадні быў адкрыты вучыцельскі інстытут, як вышэйшая школа.

§ 9. Аднагалосна было вырашана адкрыццё ў гэтым навучальным годзе вышэйшых навуковых закладаў.

Канешне, патрэбна правесці асвету апрача школы пры помачы бібліятэкі, чытальні, тэатраў, нядзельных лекцый, «туманных абразоў», арганізацыі маладзёжы, школ для сталых хораў, рэферэнтаў, арганізацыя выданняў газет і крам, продажы кніжак і інш.

§ 10. Жадана арганізаваць бібліятэкі ў губернскіх гарадах, паветах, валасцях і вёсках.

§ 11. Пры кожнай школе павінна быць бібліятэка, у каторай маюць быць усе перыядычныя выданні і беларускія творы ў ліку 2–х экзэмпляраў. Работнікі бібліятэкі павінны ведаць, а таксама весці рэгістрацыю на ведамасцях, апрацаваных вучыцельскай камісіяй.

*УВАГА*. У бібліятэках могуць знаходзіцца карысныя кнігі на ўсіх іншых мовах.

§ 12. (Тэрміны для бібліятэкаў.) Усе беларускія школы будуць абсталяваны бібліятэкамі праз Беларускі Урад.

§ 13. Пры кожнай школе павінен быць школьны хор, а ў кожнай воласці не менш аднаго народнага хору.

§ 14. Выкладанне ў нядзельных школах павінна быць пры помачы лекцый, хораў, гутарак аб справах цякучага моманту.

§ 15. Вельмі патрэбна прыступіць для з'яднання нашай моладзі на культурна–асветнай глебе.

§ 16. У 4–гадовых школах першай ступені выкладанне ўсіх прадметаў павінна весціся ў роднай мове. Толькі з трэцяга года ў школе ўводзіцца, як прадмет, адна з чужых моў на жаданне бацькоў вучняў.

§ 17. Праграма школ за недахопам часу і патрэбных матэрыялаў аднагалосна здаецца на разгляд і апрацоўку асобнай камісіі, якую выбярэ Прэзідыум З'езда вучыцеляў і якая павінна прадставіцца на ўцвярджэнне другому чароднаму з'езду.

§ 18. Вышэйшым праўленнем дзеля кіравання школамі ёсць Рада, выбраная вучыцельскім з'ездам.

Дзеля рэвізіі і надзору над школамі выбіраецца са складу Рады кіраўнічы інспектар.

*УВАГА*. Усе прынялі каб у інспектара быў памочнік–кіраўнік школьнай дысцыпліны гарадзенскіх беларускіх школ.

§ 19. Пры школах павінны быць заснаваны дзіцячыя камітэты, каторым даручаецца ўласць маральнай кары сваіх таварышаў.

§ 20. Прэзідыюму вучыцельскага з'езда даручаецца звярнуцца да ўрада з патрабаваннем аб прысылцы патрэбных дзеля навукі падручнікаў, якія будуць раздзеленыя паміж існуючых школ, а таксама аб надрукаванні недастаючых кніжак: геаграфіі, «Закону Божага» Чальцова, гісторыі і натуральнай гісторыі.

§ 21. У вёсках вучыцелі павінны старацца пры наліčных спосабах і па меры магчымасці заснаваць «дзіцячыя сады».

§ 22. Даручаецца прэзідыуму пашукаць сродкаў дзеля заснавання аднамесячных вучыцельскіх курсаў у працягу ўсяго чэрвеня ў м. Горадні, на якіх мае выкладацца: беларуская мова, гісторыя беларускай літаратуры, гісторыя Беларусі, педагогіка, методыка і дыдактыка, тэорыя спеваў і музыкі, натуральная гісторыя і сацыялогія.

§ 23. Большасцю галасоў вучыцелем Гарадзенскай беларускай школы выбраны Язэп Шышлюк.

§ 24. Аднагалосна пастаноўлена лічыць пачатак вучэбнага года для меншых дзяцей 1–га верасня, а для большых 15–га таго ж месяца. Канцом вучэбнага года лічыць 15 мая.

З'езд зачыніўся пры вельмі паднятым настрою вучыцельства і агульным жаданні зноў сабрацца ўжо ў вялікшым ліку.

К. Ч.

*Крыніца:* Беларусь (Горадня). —1919, 9 крас.

Беларускі вучыцельскі хаўрус Гарадзеншчыны

Утвораная на апошнім з'ездзе Цэнтральная Беларуская Вучыцельская Рада Гарадзеншчыны пачала інтэнсіўную працу. Галоўная задача: згуртаванне сілаў і сталая сувязь з паветамі. У хуткім часе мае быць атрымана ў даволі вялікім ліку школьная літаратура, якая будзе перададзена на месцы. Завяршаецца распрацоўка метадычнага боку вядзення педагагічнай працы. Канцылярыя Рады пакуль месціцца ў Барыса–Глебскім манастыры.

*Крыніца:* Беларусь (Горадня). — 1919, 17 крас.

## Дадатак 25. З ліста П. Мядзёлкі з Берліна ў Вільню свайму роднаму брату Зыгмусю, настаўніку адной з віленскіх беларускіх школ

8 студзеня 1922 г.

Мусёк даражэнькі! Нарэшце сабралася і табе скрабянуць пяром… Ну, хоць раз ты мне напісаў па–людску — дзякуй, братка!...

Каб лягчэй табе было [настаўнічаць. — *У. Л.*] — успамінай, як я вяла працу ў школе ў Мядзведзічах. Карыстайся тымі падручнікамі, якія ў мяне дома засталіся. І вось мае рады, здабытыя шляхам практыкі. Не задурвай дзецям галавы вечным чытаннем. Чытанне ў дзень 1 гадз. — найбольш 1½, піс<анне> — 1 гадз., — апрача гэтага, вядзі з імі гутаркі аб прыродзе, з жыцця раслін, звяроў, ды зямлі, паветра, дажджу, снегу і г.д. — тлумач так, каб ім было зразумела. Чытай ім апавяданні не даўгія, лёгкія — вучы іх пераказваць тое, што ім прачытаў (толькі не часта, каб ім не абрыдлі гэтыя апавяданні), расказвай ім казкі, і хай яны табе расказваюць, загадвайце загадкі, рысуйце, напр., ты ім прачытаеш што кароценькага, а яны хай да гэтага нарысуюць які малюнак — як могуць (у маіх кніжках знойдзеш узоры рысункаў), прыдумвайце словы на адну якуюсь літару або на адзін якісь склад. Вучы іх песенкам. І гэта ўсё трэба рабіць уперамежку. Магчыма, што бацькі будуць патрабаваць, каб дзеці не разгібаючы плеч цалюсенькі дзень чыталі і пісалі — ты ім вытлумач, што ні ў адной парадачнай школе так не мучаюць дзяцей — хіба толькі вучыцелі–олухі і самі малаграматныя, ад гэтага дзеці толькі горш дурнеюць і тупеюць. Трэба не толькі вучыць чытаць і пісаць, а развіваць дзіцячы розум, каб ён мог і думаць, і выказаць тое, што думае.

Памятай адно: кожны дзень трэба самому добра прыгатавацца да лекцыі. Улажыць сабе план — што ты заўтра будзеш з імі рабіць, аб чым гаварыць, што ім прачытаць і г.д., — тады пройдзе дзень добра, інтэнсіўна, і ты сам будзеш задаволены, і дзеці, а як не прыгатуешся сам — то ўсё будзе з рук вылятаць, — ты будзеш непатрэбна нервавацца і дзеці нудзіцца, і бацькі могуць быць незадаволены. Я ўсё гэта знаю па сваёй скуры.

Апрача ўсяго гэтага, працуй над усведамленнем народа... Нагавары іх выпісаць на суполку газету… Можа ўдасца табе паставіць спектаклік — хаця б гэту самую «Чорт і бабу» [п'еса Ф. Аляхновіча. — *У. Л.*]. Ну, а як жа будзе з лекцыямі рэлігіі? З катэхізмамі? Ой, бедны ж ты, бедны!

*Крыніца:* НАРБ, ф. 459, воп. 1, спр. 3, арк. 107—109.

# Спіс выкарыстаных крыніц

## Архіўныя матэрыялы

### Беларускі дзяржаўны архіў–музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ)


1. БДАМЛіМ, ф. 3. Калекцыя дакументаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні. Воп. 1, спр. 14. Дакументы Віленскага народнага ўніверсітэта А. Міцкевіча за 1915—1916 гг.

2. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 16. Статут Сувязі культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа ў Вільні за 1918 г. Друкаванае выданне.

3. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 17. Пратаколы пасяджэнняў настаўніцкай секцыі Сувязі культурна–нацыянальнага адраджэння беларускага народа ў Вільні. 9 верасня — 4 кастрычніка 1918 г.

4. БДАМЛіМ, ф. 3, спр. 34. Пратаколы сходаў і пасяджэнняў сябраў Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні. 1 жніўня 1913 г. — 24 снежня 1918 г.

5. БДАМЛіМ, ф. 3, спр. 56. Дакументы рэдакцыі газеты «Змаганне» за 1923—1924 гг.

6. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 124. Дакументы Школьнай камісіі Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны за 1915—1916 гг.

7. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 126. Ліставанне Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі па розных пытаннях за 1915—1918 гг. Нататка А. Луцкевіча за 1925 г. пра гісторыю стварэння беларускіх школ падчас першай нямецкай акупацыі 1915—1918 гг.

8. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 131. Ліставанне Беларускага народнага камітэта ў Вільні з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі па розных пытаннях за 1915—1916 гг.

9. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 133. Ліставанне Беларускага камітэта ў Вільні з акупацыйнымі нямецкімі ўладамі па розных пытаннях за 1916—1918 гг.

10. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 134. Рэзалюцыі, дэкларацыі, звароты Беларускага народнага камітэта ў Вільні за 1917—1918 гг.

11. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 137. Ліставанне і іншыя дакументы Беларускага нацыянальнага камітэта ў Магілёве. 15 красавіка 1917 г. — 25 верасня 1918 г.

12. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 138. Дакументы Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый у Мінску і Беларускага нацыянальнага камітэта ў Магілёве за 1917—1918 гг.

13. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 140. Дакументы падрыхтоўкі і правядзення Беларускай канферэнцыі ў Вільні і матэрыялы Беларускай рады ў Вільні за 1917—1918 гг.

14. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 232. Статут і рэзалюцыя Цэнтральнага бежанскага беларускага камітэта ў Мінску.

15. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 261. Ліставанне Івана і Антона Луцкевічаў з рознымі ўстановамі і грамадскімі дзеячамі.

16. БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 293. Пратакол сходу беларускіх ксяндзоў у м. Германавічы. 6—7 жніўня 1918 г.


### Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ)


17. ГАРФ, ф. 3333, оп. 2, д. 1а. Центральное управление по эвакуации населения при Министерстве внутренних дел России — Центральная коллегия по делам пленных и беженцев при Народном комиссариате военных дел РСФСР.

18. ГАРФ, ф. 5999, оп. 1, д. 1. Гродненская губернская белорусская управа. Протоколы Гродненского губернского съезда в декабре 1918 г.


### Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (ДАМВ)


19. ДАМВ, ф. 322. Мінскі гарадскі аддзел народнай адукацыі. Воп. 1, спр. 1. Інфармацыя аб навучальных установах г. Мінска. Каштарысы на ўтрыманне мінскіх школ за першае паўгоддзе 1919 г.

20. ДАМВ, ф. 322, воп. 1, спр. 4. Спісы настаўнікаў і выкладчыкаў навучальных устаноў г. Мінска. Снежань 1918 г. — чэрвень 1919 г.

21. ДАМВ, ф. 322, воп. 1, спр. 10. Заявы і звароты кіраўнікоў школ і педагагічных работнікаў г. Мінска. Снежань 1918 г. — травень 1919 г.

22. ДАМВ, ф. 322, воп. 1, спр. 22. Заявы і звароты педагагічных работнікаў, справаздачы кіраўнікоў школ г. Мінска за 1918—1919 гг. і іншыя дакументы.

23. ДАМВ, ф. 864. Мінскія беларускія педагагічныя курсы. Воп. 1, спр. 1. Спісы выкладчыкаў і слухачоў курсаў. Фінансавая дакументацыя. Лістапад 1918 г. — травень 1919 г.

24. ДАМВ, ф. 864, воп. 1, спр. 2. Заявы і справаздачы аб праходжанні педагагічнай практыкі слухачоў Беларускіх педагагічных курсаў. Лістапад 1918 — сакавік 1919 г.

**Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ)**

25. НАРБ, ф. 3. Народны камісарыят асветы Заходняй вобласці. Воп. 1, спр. 8. Выпіскі з пратаколаў пасяджэнняў аддзела народнай адукацыі Заходняй камуны, каштарысы выдаткаў на ўтрыманне навучальных устаноў Магілёўскай губерні на 1918 г. Ліставанне з павятовымі аддзеламі народнай адукацыі Магілёўскай губерні. Дакументы на выдачу заробкаў настаўнікам пачатковых вучэльняў г. Быхава і Быхаўскага павета, якую яны не атрымалі ў сувязі з нямецкай акупацыяй. 24 траўня — 9 лістапада 1918 г.

26. НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 13. Выпіскі з пратаколаў пасяджэння аддзела народнай адукацыі Сеніцкага павятовага выканкама ад 7 чэрвеня 1918 г. аб адкрыцці сярэдняй школы і пачатковых вучэльняў. Каштарыс выдаткаў на народную адукацыю Сенніцкага !!! павятовага выканкама на 1918 г.

27. НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 16. Спісы павятовых і валасных аддзелаў народнай адукацыі Заходняй вобласці, звесткі пра навучальныя ўстановы Горацкага павета. 1918 г.

28. НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 27. Каштарысы на ўтрыманне аддзелаў народнай адукацыі Веліскага і Віцебскага паветаў на 1918 г.

29. НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 29. Каштарысы на ўтрыманне аддзелаў народнае адукацыі навучальных устаноў Магілёўскай губерні на 1918 г.

30. НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 35. Каштарысы выдаткаў на ўтрыманне навучальных устаноў і пазашкольных устаноў паветаў Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў на другое паўгоддзе 1918 г. і першае паўгоддзе 1919 г.

31. НАРБ, ф. 3, воп. 1, спр. 48. Каштарысы выдаткаў на ўтрыманне навучальных і пазашкольных устаноў паветаў Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў на красавік 1918 г.

32. НАРБ, ф. 4. Беларускі нацыянальны камісарыят. Воп. 1, спр. 13. Ліставанне Белнацкама з рэгіянальнымі аддзеламі. Люты—красавік 1918 г.

33. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 16. Дачыненні Белнацкама з органамі Заходняй вобласці, губернскімі выканаўчымі камітэтамі Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Ліпень—верасень 1918 г.

34. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 20. Ліставанне Белнацкама з органамі ўлады РСФСР і іншымі ўстановамі і арганізацыямі. Студзень—жнівень 1918 г.

35. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 39. Спіс беларусаў–уцекачоў. Студзень 1918 — сакавік 1919 г.

36. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 74. Дэкрэт СНК РСФСР пра рээвакуацыю дзяржаўных, грамадскіх і прыватных устаноў, капіталаў і іншай маёмасці, эвакуіраваных з Літвы і Беларусі; звесткі аб іх становішчы і спісы эвакуіраваных устаноў на 12 траўня — 4 ліпеня 1919 г.

37. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 75. Праект дэкрэта аб рээвакуацыі навучальных устаноў у Беларусь і іх фінансаванні. Ліставанне з эвакуіраванымі навучальнымі ўстановамі адносна іх рээвакуацыі; спісы служачых Гарадзенскай жаночай гімназіі. 20 траўня — 30 лістапада 1918 г.

38. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 77. Копіі пратаколаў пасяджэнняў Калегіі Наркамасветы РСФСР, пратаколы пасяджэнняў культурна–асветнага аддзела Белнацкама і справаздачы аб яго працы. 3 красавіка — 13 верасня 1918 г.

39. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 79. Рэзалюцыі Усерасійскага з’езда беларусаў–уцекачоў па дакладу аб становішчы школьнай справы ў Беларусі і копіі пратаколаў пасяджэння

педагагічнай рады Мінскага настаўніцкага інстытута адносна каштарысу на яго ўтрыманне. 22 траўня — 5 лістапада 1918 г.

40. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 80. Палажэнне аб культурна–асветным аддзеле Белнацкама і яго філіялаў. 1 верасня — 29 лістапада 1918 г.

41. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 81. Справаздачы і іншыя матэрыялы культурна–асветнага аддзела Белнацкама. Сакавік—ліпень 1918 г.

42. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 82. Справаздача аб працы культурна–асветнага аддзела Белнацкама і яго ліставанне з Наркамасветы РСФСР аб арганізацыі школьнай справы ў Беларусі. 20 лютага — 30 верасня 1918 г.

43. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 83. Справаздача аб чыннасці культурна–асветнага аддзела Белнацкама і яго ліставанне з Наркамасветы РСФСР па пытаннях пра арганізацыю культурна–асветнай працы ў Беларусі. 27 красавіка 1918 г. — 27 студзеня 1919 г.

44. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 84. Звесткі пра становішча і колькасць навучальных устаноў, эвакуіраваных з Беларусі ў г. Курск. 23 траўня — 29 лістапада 1918 г.

45. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 87. Ліставанне Белнацкама з рознымі ўстановамі. Першая палова 1918 г.

46. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 101. Праекты дэкрэтаў Наркамасветы РСФСР аб перадачы ўсіх дзяржаўных і грамадскіх устаноў, эвакуіраваных з Беларусі пад загад Белнацкама, даклады і звесткі пра становішча гэтых устаноў. 20 красавіка 1918 г. — 16 студзеня 1919 г.

47. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 133. Анкеты ўцекачоў з Беларусі, зарэгістраваных у Петраградскім аддзеле Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны за 1916—1918 гг.

48. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 162. Справаздачы і іншыя матэрыялы выдавецкага аддзела Белнацкама. Сакавік—ліпень 1918 г.

49. НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 169. Ліставанне Белнацкама са сваімі рэгіянальнымі аддзеламі і навучальнымі ўстановамі Беларусі. 15 жніўня — 6 лістапада 1918 г.

50. НАРБ, ф. 42. Народны камісарыят асветы ССРБ. Воп. 1, спр. 1а. Анкеты аб становішчы адукацыі ў Мінскай губерні. Люты—сакавік 1919 г.

51. НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 9. Статыстычныя звесткі аб навучальных установах Мінскай губерні за 1918 г.

52. НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 11. Статыстычныя звесткі аб дашкольных і школьных установах г. Мінска і Мінскага павета на пачатак 1919 г.

53. НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 27. Матэрыялы па паляпшэнню ўмоў жыцця школьнікаў (дэкрэты, планы і ліставанне). 11 лістапада 1918 г. — 9 лютага 1919 г.

54. НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 29. Даклад педагагічнай рады сельскагаспадарчых вучэльняў у Горы–Горках і іншыя дакументы. 18 студзеня — 17 лютага 1919 г.

55. НАРБ, ф. 42, воп. 3, спр. 74. Спісы і анкеты школьных працаўнікоў, якія прыбылі з РСФСР, і іншыя дакументы. 1 снежня 1921 г. — 31 снежня 1923 г.

56. НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 246. Загады Дзяржвыдата БССР. 31 жніўня — 12 лістапада 1924 г.

57. НАРБ, ф. 60. Збор матэрыялаў Інстытута гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі. Воп. 3, спр. 456. «Споведзь» К. Цярэшчанкі. 1921 г.

58. НАРБ, ф. 325. Рада Народных Міністраў БНР. Воп. 1, спр. 2. Пратаколы пасяджэнняў Першага Беларускага з’езда ўцекачоў у Маскве, яго выканаўчай камісіі, прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый у Мінску, рэзалюцыі Другога сялянскага з’езда Мінскай і Віленскай губерняў, з’ездаў беларусаў–вайскоўцаў Заходняга, Паўднёва–Заходняга франтоў і іншыя дакументы. 25 сакавіка — 23 снежня 1917 г.

59. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 8. Пастанова Народнага сакратарыята БНР ад 27 сакавіка 1918 г. аб абвяшчэнні былых расійскіх урадавых устаноў Беларускага краю ўстановамі БНР, стэнаграма сесій Рады БНР ад 24, 29 сакавіка, 12 красавіка, 1 і 14 траўня, 1 чэрвеня, 1 і 11 ліпеня 1918 г.; інфармацыйныя лісткі і бюлетэні Народнага сакратарыята і Рады БНР ад 9 па 29 траўня 1918 г.

60. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 15. Дакументы аб чыннасці ўрада БНР і Дэлегацыі БНР, пасланай на мірныя перамовы ў Бярэсце па пытаннях прызнання незалежнасці і вызвалення Беларусі з–пад польскага прыгнёту, і

іншыя дакументы. 19 студзеня 1918 г. — 24 жніўня 1923 г.

61. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 16. Дэкларацыя Беларускай дэлегацыі, пасланай на мірныя перамовы ў Бярэсце, ад 19 студзеня 1918 г., зварот урада БНР да прадстаўніка ўрада Нямеччыны за 25 красавіка 1918 г. аб прызнанні самастойнасці Беларусі; спісы сябраў Рады і Народнага сакратарыята БНР; рэзалюцыі нарады настаўнікаў школ Беларусі за 21—23 ліпеня 1918 г.; іншыя дакументы.

62. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 19. Рэзалюцыя Мінскага губернскага земскага сходу ад 20 траўня 1918 г. па беларускаму пытанню; Часовы наказ Народнага сакратарыята БНР. Статуты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Беларускага політэхнічнага інстытута; бюлетэні «Белорусская жизнь». Інфармацыйныя лісткі, хронікі падзей для беларускіх газет, артыкулы з газетных выразак на палітычныя тэмы. 17 красавіка — 6 кастрычніка 1918 г.

63. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 21. Розныя матэрыялы чыннасці Народнага сакратарыята БНР за красавік—снежань 1918 г.

64. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 22. Пратакол пасяджэння прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Гарадзеншчыны і беларускіх сацыялістычных партый ад 19 сакавіка 1918 г. аб стварэнні цэнтральнага беларускага органа; даклады аб дзейнасці беларускіх установ Гарадзеншчыны і іншыя дакументы. 19 лістапада 1918 г. — 25 снежня 1919 г.

65. НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 23. Паведамленні Народнага сакратарыята БНР ад 13 снежня 1918 г. аб фармаванні беларускага войска і міліцыі, іншыя дакументы.

66. НАРБ, ф. 459. Асабісты фонд В. Русака. Воп. 1, спр. 3. Лісты П. Мядзёлкі з Берліна. 1922 г.

67. НАРБ, ф. 604. Цэнтральная беларуская школьная рада. Воп. 1, спр. 3. Гістарычная запіска аб утварэнні і чыннасці першых беларускіх школ у горадзе Мінску. Пратакол пасяджэння Універсітэцкай камісіі Народнага камісарыята асветы БНР за 14 чэрвеня 1918 г.; праект М.В. Доўнар–Запольскага ўтварэння ў Беларусі ў 1918 г. універсітэта і іншыя дакументы.

68. НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 7. Ліставанне і справаздачы павятовых школьных інструктараў Беларускай школьнай радыМіншчыны.

69. НАРБ, ф. 610. Канцылярыя Мінскага губернскага камісара Часовага ўрада Расіі. Воп. 1, спр. 45. Цыркуляры і загады Часовага ўрада Расіі аб свабодзе слова, у справе скасавання ранейшых абмежаванняў у адукацыйнай сферы; іншыя дакументы. Май 1917 г.

70. НАРБ, ф. 610, воп. 1, спр. 46. Справа аб змене дзеючага заканадаўства па справах рымска–каталіцкага касцёла ў Расіі. 17 чэрвеня — кастрычнік 1917 г.

71. НАРБ, ф. 622. Канцылярыя Віцебскага губернскага камісара Часовага ўрада Расіі. Воп. 1, спр. 62. Матэрыялы аб выбарах у земскія галосныя па Дрысенскаму павету Віцебскай губерні. 31 сакавіка — 8 лістапада 1918 г.

72. НАРБ, ф. 622, воп. 1, спр. 76. Матэрыялы аб эвакуацыі ўстаноў Віцебскай губерні ў сувязі з ваенным становішчам; ліставанне з мясцовымі органамі ўлады і іншыя дакументы. 28 жніўня 1917 г. — 31 студзеня 1918 г.

73. НАРБ, ф. 622, воп. 1, спр. 11. Ліставанне Полацкай павятовай земскай управы з Замшанскай валасной управай аб вызваленні школьных будынкаў ад раскватараваных у іх расійскіх і нямецкіх войскаў. 31 студзеня — 14 жніўня 1918 г.

74. НАРБ, ф. 804. Народны камісарыят асветы Літбел. Воп. 1, спр. 1. Матэрыялы (пратаколы, даклады, інструкцыі) з'езда загадчыкаў павятовых аддзелаў народнай адукацыі і статыстычныя звесткі аб школьных і дашкольных установах Мінскай губерні. 23—24 чэрвеня 1919 г.

75. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 7. Ліставанне Камісарыята народнай асветы Часовага работніцка–сялянскага ўрада Беларусі і Мінскага губернскага аддзела народнай адукацыі з Наркамасветы РСФСР і эвакуіраванымі навучальнымі ўстановамі аб іх рээвакуацыі. 18 студзеня — 19 сакавіка 1919 г.

76. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 8. Заявы і спісы настаўнікаў, якія жадаюць працаваць у Беларусі. 21 лютага — 19 ліпеня 1919 г.

77. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 9. Заявы школьных работнікаў аб прыёме на працу. 13 студзеня — 26 сакавіка 1919 г.

78. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 14. Прата-

колы пасяджэнняў Калегіі Наркамасветы Часовага работніцка–сялянскага ўрада Беларусі, Наркамасветы ССРБ і Мінскага губернскага аддзела народнай адукацыі. 18 студзеня — 3 красавіка 1919 г.

79. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 28. Звесткі пра становішча народнай адукацыі, вучэльняў і гімназій Беларусі за 1917—1918 гг. 3 лютага — 2 красавіка 1919 г.

80. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 29. Справаздача аб становішчы школ Бабруйскага павета за 1917—1918 гг. 12 лютага — 23 сакавіка 1919 г.

81. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 30. Статыстычныя звесткі аб становішчы народных вучэльняў Мінскага павета за 1917—1918 гг. 12 лютага — 23 красавіка 1919 г.

82. НАРБ, ф. 804, воп. 1, спр. 32. Справаздача аб становішчы школьных працаўнікоў у Беларусі ў 1918—1919 гг. і звесткі аб школах г. Мінска. 20 чэрвеня — 23 ліпеня 1919 г.

83. НАРБ, ф. 878. Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Воп. 1, спр. 16. Ліставанне з школьным інспектарам Віленскай навучальнай акругі аб чыннасці беларускай гімназіі ў Будславе. 22 студзеня — 5 кастрычніка 1919 г.

**Нацыянальны гістарычны архіў у Мінску (НГАБ у Мінску)**

84. НГАБ у Мінску, ф. 1. Мінская гарадская ўправа. Воп. 1, спр. 7141. Плацежная дакументацыя на выдачу заробку сакратарам субкамісій рускай, польскай, яўрэйскай і беларускай. 30 студзеня — красавік 1918 г.

85. НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 1. Інфармацыя аб навучальных установах горада Мінска за 1918 г.

86. НГАБ у Мінску, ф. 1, воп. 3, спр. 270. Звесткі аб навучальных установах, настаўніках і выкладчыках г. Мінска за 1918 г.

87. НГАБ у Мінску, ф. 24. Мінская гарадская дума. Воп. 1, спр. 3659. Журналы пасяджэнняў Мінскай гарадской думы і матэрыялы да іх. 9 траўня 1917 г. — 8 снежня 1917 г.

88. НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3670. Даклад Мінскай гарадской камісіі па народнай адукацыі аб сваёй чыннасці за 1917—1918 гг.: пра выплату настаўнікам і вучням субсідый і іншае. Верасень 1917 г. — 1 ліпеня 1918 г.

89. НГАБ у Мінску, ф. 24, воп. 1, спр. 3677. Дачыненні Мінскай гарадской управы нямецкаму начальніку па грамадскіх справах г. Мінска; справаздачы Мінскага камітэта грамадскай бяспекі і створаных ім камісій па праведзенай працы за люты—сакавік 1918 г. і інш.

90. НГАБ у Мінску, ф. 325. Мінская губернская земская ўправа. Воп. 1, спр. 1095. Матэрыялы VIII і IX агульных сходаў Мінскага губернскага земства (17 сакавіка — 4 красавіка 1918 г. і 10—22 траўня 1918 г. (палажэнне пра губернскі камітэт па народнай адукацыі, даклады аб губернскім кніжным складзе № 9, спісы галосных і іншыя дакументы).

91. НГАБ у Мінску, ф. 478. Мінскі настаўніцкі інстытут. Воп. 1, спр. 103. Пратаколы пасяджэнняў педагагічнай рады Мінскага настаўніцкага інстытута. 4 студзеня — 5 верасня 1918 г.

92. НГАБ у Мінску, ф. 478, воп. 1, спр. 105. Дакладная запіска аб становішчы Мінскага настаўніцкага інстытута; звесткі і спісы складу педагагічнай рады інстытута і прашэнні былых слухачоў навучальнай установы пра аднаўленне іх у інстытуце. 30 верасня — 22 лістапада 1918 г.

93. НГАБ у Мінску, ф. 478, воп. 1, спр. 109. Справаздачы выкладчыкаў Мінскага настаўніцкага інстытута аб праведзеных вучэбных курсах і праграмах, паводле якіх адбывалася выкладанне. 1918—1919 гг.

94. НГАБ у Мінску, ф. 700. Мінскі губернскі камітэт Усерасійскага земскага саюза (УЗС). Воп. 1, спр. 242. Дакладная запіска Мінскага губернскага камітэта УЗС аб сваёй працы за перыяд 1914—1918 гг.

95. НГАБ у Мінску, ф. 700, воп. 1, спр. 364. Звесткі аб установах «Поўначдапамогі» на тэрыторыі Мінскай губерні, прынятых на ўтрыманне УЗС. 18 красавіка — 10 ліпеня 1917 г.

96. НГАБ у Мінску, ф. 2001. Канцылярыя магілёўскага губернатара. Воп. 1, спр. 2111. Матэрыялы аб становішчы навучальных устаноў Магілёўскай губерні за 1915—1916 гг.

97. НГАБ у Мінску, ф. 2001, воп. 1, спр. 8960. Звесткі аб навучальных установах Магілёўскага павета за 1916 г.

98. НГАБ у Мінску, ф. 2416. Апякун Віленскай навучальнай акругі. Воп. 1, спр. 20.

Справаздача аб становішчы навучальных устаноў Віленскай навучальнай акругі за 1916 г.

99. НГАБ у Мінску, ф. 3260. Рагачоўская настаўніцкая семінарыя, воп. 1, спр. 271. Ліставанне былых навучэнцаў Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі, прызваных на фронт, з дырэктарам М. Назар'іным. 1915—1918 гг.

100. НГАБ у Мінску, ф. 3260, воп. 1, спр. 356. Справа аб нанясенні стратаў Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі польскімі легіянерамі корпуса ген. Ю. Доўбар–Мусніцкага. 5 студзеня — 23 кастрычніка 1918 г.

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) у Гродна**

101. НГАБ у Гродна, ф. 38. Гарадзенская дырэкцыя народных вучэльняў. Воп. 1, спр. 86. Матэрыялы па эвакуацыі вышэйшых пачатковых і народных вучэльняў з–за набліжэння фронту. Сакавік—кастрычнік 1915 г.

102. НГАБ у Гродна, ф. 38, воп. 1, спр. 87. Звесткі аб эвакуіраваных навучальных установах Гарадзенскай губерні. 1915—1916 гг.

103. НГАБ у Гродна, ф. 38, спр. 88. Звесткі аб эвакуіраваных навучальных установах Гарадзенскай губерні. 1915—1916 гг.

104. НГАБ у Гродна, ф. 664. Гарадзенская цэнтральная фельчарска–акушэрская школа. Воп. 1, спр. 2. Пратаколы пасяджэнняў педагагічнай рады Гарадзенскай цэнтральнай фельчарска–акушэрскай школы пасля эвакуацыі апошняй у Расію. 1915—1918 гг.

105. НГАБ у Гродна, ф. 812. Слонімская вышэйшая пачатковая вучэльня. Воп. 2, спр. 3. Справа аб эвакуацыі Слонімскай вышэйшай пачатковай вучэльні. 1915—1916 гг.

106. НГАБ у Гродна, ф. 839. Інспектар народных вучэльняў Слонімскага павета. Воп. 1, спр. 2. Матэрыялы пра эвакуацыю навучальных устаноў Слонімскага павета ў сувязі з набліжэннем фронту. 1915—1916 гг.

107. НГАБ у Гродна, ф. 839, воп. 1, спр. 77. Звесткі аб эвакуіраваных навучальных установах Слонімскага павета. 1915—1916 гг.

108. НГАБ у Гродна, ф. 842. Інспектар народных вучэльняў Ваўкавыскага павета. Воп. 1, спр. 270. Матэрыялы пра эвакуацыю навучальных устаноў Ваўкавыскага павета ў сувязі з набліжэннем фронту. 1915—1916 гг.

**Цэнтральная навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі імя Я. Коласа. Аддзел рукапісаў і старадрукаў (ЦНБ НАНБ АР)**

109. ЦНБ НАНБ АР, ф. 4. Калекцыя дакументаў Я. Шутовіча. Воп. 1, спр. 12. Інфармацыя пра беларускую школу ў в. Шутовічы.

110. ЦНБ НАНБ АР, ф. 4, воп. 1, спр. 2. Інфармацыя пра беларускую школу ў в. Капліцы.

111. ЦНБ НАНБ АР, ф. 23. Калекцыя дакументаў па Заходняй Беларусі. Воп. 1, спр. 18. Інфармацыя пра Гарадзенскую беларускую школу.

**Центральний державний архів вищих органів влади та управління України (ЦДАВО)**

112. ЦДАВО, ф. 3766. Міністерство закордонних справ Української Держави. Оп. 1, спр. 68. Листування з Білоруським національним комітетом на Україні про встановлення кордонів, товарообмін. 10 травня 1918 р. — 2 липня 1918 р.

113. ЦГАВО, ф. 3766, оп. 1, спр. 186. Про межі України. Частина 1. Клопотання окремих буржуазних організацій про приєднання місцевостей до України і про присунення демаркаційної лінії; листування з відомством внутрішніх справ про приєднання части Холмщини, Бессарабії, Криму і ін.; законопроект про адміністративний поділ України. 2 травня — 25 листопада 1918 р.

114. ЦДАВО, ф. 3793. Український соціологічний інститут в м. Празі (Чехо–Словаччина). Оп. 1, спр. 295. Особиста справа В. Ластовського (1925 р.).

**Archiwum Akt Nowych w Warszawie (AAN)**

115. AAN. Akta L. Wasilewskiego, sygn. 39. Relacie i dokumenty L. Wasilewskiego 1900—1920 lat.

116. AAN. Akta Towarzystwa Straży Kresowej, sygn. 40. Raporty rewidentów TSK. 1919 r.

**Biblioteka Akademios mokslio Lietuvos. Skyriuus manuskriptai (BAML SM).**

117. BAML SM, f. 21. Gudas muzieus J. Luckievičaus. D. 14. Дакументы і матэрыялы

Віленскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. 1915—1918 гг.
118. BAML SM, f. 21, d. 250. Вучэбны дапаможнік В. Ластоўскага (Wlasta) «Deutsche Sprache für Anfänger. Weissrussisch–deutsche Übungen mit Angabe der Aussprache=Niamecki dla pačynajučych. Hutarki bielaruska–niamieckije, s prydačaj wymowy i bolej patrebnych sloū».
119. BAML SM, f. 21, d. 327. 1–я частка рукапісу падручніка па беларускай мове А. Луцкевіча «Jak pravil'na pisać pa–bielarusku».
120. BAML SM, f. 21, d. 443. Артыкулы Б. Пачобкі «Польская адукацыя Беларусі» і «У вясковых школах».

**Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy. Dzial Starych Druków i Rękopisów (BPW. Dz. St. Druk)**

121. BPW. Dz. St. Druk. Akta Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (ZCZW), akc. 1680. Raporty rewidentów TSK Sluckiego pow. za 1920 r.
122. BPW. Dz. St. Druk. ZCZW, akc. 1732. Narys z historji polskiego szkolnictwa w Wilni w 1917—1918.

**Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie**

123. CAW w Rembertowie. Naczelne Dowództwo Wojska Polskiego. NDWP–I. Raporty Towarzystwa Straży Kresowej (TSK), sygn. 301—8. Raporty rewidentów TSK za 1919 r.

**Valstybimis Archyvas Letuvos (VAL)**

124. VAL, f. 582. Taryba Liadesių Ministerų BLR, apr. 1, b. 1. Справаздачы Народнага сакратарыята Беларусі і іншыя дакументы.
125. VAL, f. 582, apr. 1, b. 3. Тамсама.
126. VAL, f. 582, apr. 2, b. 2. Тамсама.
127. VAL, f. 582, apr. 2, b. 3. Тамсама.

**Апублікаваныя зборы дакументаў і статыстычных матэрыялаў**

128. Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / Уклад. С. Шупа. — Вільня—Мінск—Нью–Йорк—Прага: БІНіМ; Тав. Беларускага пісьменства «Наша ніва», 1998. — Т. 1. — Кн. 1. — 850 с.
129. КПРС в резолюціях і рішеннях з'їздів, конференцій і пленумів ЦК. — Київ, 1979. — Т.1. — 524 с.
130. Краткий список учреждений и учебных заведений Виленского учебного округа на 1917 г. — Могилев, 1917. — 34 с.
131. Краткий список учреждений и учебных заведений Виленского учебного округа на 1915 г. — Могилев, 1916. — 34 с.
132. Конвенция о законах и обычаях сухопутной войны. Гаага, 18 октября 1907 г. // Права человека: история и современность / Д. Вейсброт, Д. Фитцпатрик, Ф. Ньюман. — Москва: Центр по правам человека, 2003. — С. 400—421.
133. Народное образование в СССР. Общеобразовательная школа. Сб. документов. 1917—1973. — М.: Педагогика, 1975. — 413 с.
134. Однодневная перепись начальных школ в Империи, произведенная 18 января 1911 г. / Под ред. В.И. Покровского. — Вып. 8. Виленский учебный округ. Губернии: Виленская, Витебская, Гродненская, Ковенская, Минская, Могилевская. — Санкт–Петербург: Типография Т–ва «Екатерингофское печатное дело», 1914. — 26 с.
135. Отчет о состоянии учебных заведений Виленского учебного округа за 1914 год. — Вильно, 1915. — 432 с.
136. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 год. — Вильно, 1915. — 245 с.
137. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1916 год. — Вильно, 1916. — 253 с.
138. Памятная книжка Гродненской губернии на 1915 год. — Гродно: Издание Гродненского губернского статистического комитета, 1915. — 94 с.
139. Памяць: Гісторыка–дакументальная хроніка Полацка. — Мн., 1999. — 543 с.
140. Педагогическое совещание деятелей средней школы Виленского учебного округа (23—25 августа 1917 г.), г. Могилев. — Могилев, 1917. — 72 с.
141. Постановление Временного правительства № 600 от 15 мая 1917 г. «Об изменении некоторых узаконений по средним общеобразовательным учебным заведениям Министерства Народного Просвещения» // Собрание узаконений и распоряжений Прави-

тельства, издаваемое при Правительственном Сенате. — Отдел I. (№ 109) (Постановления Временного правительства). — Петроград, 1917. — С. 955—957.

142. Протоколы II съезда КП(б)У. — Київ, 1919. — 117 с.

143. Советско–германские отношения от переговоров в Брест–Литовске до подписания Рапалльского договора: Сб. документов: В 2 т. — Москва: Политиздат, 1968. — Т.1: 1917—1918.

144. Справочник об эвакуированных правительственных, общественных и частных учреждениях и заведениях. — Петроград, 1916. — 126 с.

145. Усесаюзны школьны перапіс 1927 г. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. — Мінск: Дзяржплан БССР. Эканоміка–статыстычны сектар, 1930. — 241 с.

146. Церковные школы Российской империи к 1909 году. — Санкт–Петербург, 1909. — 28 с.

147. Церковные школы Российской империи к 1915 году. — Петроград, 1916. — 31 с.

148. Abramowicz L. Litwa podczas wojny: Zbiór dokumentów, uchwał, odezw itp. — Warszawa, 1918. — 127 s.

149. Befehls–und–Verorgnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost. In 3–Bde. — Hauptquartier (Kowno — Bialystok). — 1915—1918. — Bd. I—III.

150. Das Land Ober Ost. Deutsche Arbeit in den Verwaltungsgebieten Kurland, Litauen und Bialystok–Grodno. Bearbeiet von der Presseabteilung Ober–Ost. Mit 23 Lichtbildern, 3 Karten und 13 Federzeichnungen. — Stuttgart/Berlin: Deutsche Verlagsanstalt, 1917. — XII+472 s.

151. Glaser S. Okupacja niemiecka na Litwie w latach 1915—1918 — Lwów, 1929. — 143 s.

152. Grundlegende Richtlinien zur Widerbelebung des Schulwesens // Anlage zum Befehls–und–Verorgnungsblatt des Ob. Ost. — Nr. 7. — Ziffer 48. S. 1—12.

153. Przegląd statystyczny m. Grodna za lata 1924, 1925 i 1926. — Grodno, 1928. — 21 s.

154. Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen. — Kowno: der «Kowner Zeitung», 1916—1917. — Bd. I—VI.

155. Verwaltungsbericht Militärverwaltung Litauen, Bezirk Süd in Bialystok. — Bialystok: der «Bialystoker Zeitung», 1917—1918. — Bd. VII–VIII.

156. Völkerverteilung in Westrußland. Atlas. — Kowno: Verlag der Presseabteilung beim Oberbefehlshaber Ost, 1916. — 4 s.

157. Völkerverteilung in Westrußland. Hergestellt in der Druckerei des Oberbefehlshabers Ost. — Hamburg: Verlag Friederichsen, 1917. — 4 s.

158. Zniszczenie wojenne Ziem Wschodnich // Ziemie Wschodnie: stan gospodarczy i widoki rozwoju. — Warszawa, 1929. — S. 21—29.

**Прэсавыя паведамленні**

159. А. Н. [А. Луцкевіч]. Унутраная работа / А. Н. [А. Луцкевіч] // Беларускі каляндар за 1917 год. — Вільня, 1916. — С. 22—24.

160. Ад нашых карэспандэнтаў // Беларусь (Гродна). — 1919. — 6 сак.

161. Адкрытае пісьмо // Гоман. — 1916. — 18 крас.

162. Адозва Украінскага Генеральнага сакратара народнай асветы // Вольная Беларусь. — 1917. — 6 вер.

163. Апавяшчэнне // Гоман. — 1917. — 16 студз.

164. Байкот беларусаў // Гоман. — 1917. — 21 жн.

165. Беларус–каталік. Памятны дзень. (Да 15–летняга юбілею 1–ай літоўскай парафіі ў Вільні) / Беларус–каталік // Гоман. — 1916. — 25 снеж.

166. Беларуская вучыцельская семінарыя ў Свіслачы // Гоман. — 1916. — 29 вер.

167. Беларуская школа ў Гродні // Гоман. — 1916. — 21 сак.

168. Беларуская школа. Мемарыял Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны Камісару «Усходніх Зямель» аб школьных справах // Незалежная Беларусь. — 1919. — Верасень (№ 4).

169. Беларускі вучыцельскі з’езд // Беларусь (Гродна). — 1919. — 6 сак.

170. Беларускі навуковы з’езд // Вольная Беларусь. — 1917. — 21 снеж.

171. Беларускія вучыцельскія курсы // Гоман. — 1916. — 26 вер.

172. Беларускія майстэрні // Гоман. — 1916. — 14 ліст.

173. Беларускія школы // Гоман. — 1916. — 24 кастр.

174. Беларускія школы ў Вільні // Гоман. — 1917. — 16 кастр.

175. Белорусская детская трудовая колония // Минский голос. — 1918. — 3 мая.

176. Белорусские курсы // Минский голос. — 1918. — 8 авг.

177. Белорусское благотворительное общество // Минский голос. — 1918. — 12 мая.

178. Беларусы Гіндэнбургу і Людэндорфу // Гоман. — 1917. — 4 траўня.

179. Березова, М. Расходы уездных и губернских земств Минской губернии на народное образование в 1918 году / М. Березова // Наше земское дело. — 1918. — 9 мая. — С. 11—14.

180. Берэбендзя. З Слонімскага пав. // Наша ніва. — 1908. — 14 (27) сак. (Факсімільнае выданне. — Вып. 1. — Мінск: Тэхналогія, 1992. — С. 7).

181. Бобруйская мужская еврейская частная 8–классная гимназия М.Л. Кацнельсона // Бобруйский голос. — 1918. — 21 апр.

182. Бобруйский еврейский рабочий клуб имени Бера Борохова // Бобруйский голос. — 1918. — 9 апр.

183. Бобруйское белорусское культурно–просветительное общество // Бобруйский голос. — 1918.— 10 апр.

184. Будслаўская гімназія // Беларускае жыццё. — 1919. — 29 вер. — С. 6—7.

185. Бясплатная бібліятэка і чытальня імя Станіслава Рулькоўскага // Гоман. — 1917. — 28 студз.

186. В. Засмужа Бабруйскага пав. // Вольная Беларусь. — 1917. — 17 жн.

187. В городских еврейских школах // Минский голос. — 1918. — 11 сент.

188. В городских школах // Минский голос. — 1918. — 14 окт.

189. В городских школах // Минский голос. — 1918. — 23 окт.

190. В губернском комитете по народному образованию // Новый вестник (Минск). — 1918. — 18 ноябр.

191. В еврейских городских школах // Минский голос. — 1918. — 5 ноябр.

192. В еврейской общине // Минский голос. — 1918. — 10 окт.

193. В еврейской общине // Минский голос. — 1918. — 29 сент.

194. В еврейской общине // Минский голос. — 1918. — 10 ноябр.

195. В комитете просвещения // Минский голос. — 1918. — 19 ноябр.

196. В Народном университете Западной области // Минский голос. — 1918. — 10 марта.

197. В политехническом училище // Минский голос. — 1918. — 9 окт.

198. В реальном училище // Минский голос. — 1918. — 4 окт.

199. В родительских комитетах // Минский голос. — 1918. — 18 окт.

200. В «Юном Израиле» // Бобруйский день. — 1918. — 8 авг.

201. Вальфсон С. Белорусская республика / С. Вольфсон // Бобруйский голос. — 1918. — 23 марта.

202. Вальфсон С. Родина / С. Вольфсон // Бобруйский голос. — 1918. — 12 мая.

203. Васілішкі Лідскага пав. // Наша ніва. — 1908. — 15 (28) лют. (Факсімільнае выданне. — Вып. 1. — Мінск: Тэхналогія, 1992. — С. 7).

204. Вейс Гасейфер // Минский голос. — 1918. — 30 марта.

205. Вечерняя школа // Бобруйский голос. — 1918. — 5 мая.

206. Віленскае таварыства пашырэння асветы паміж жыдамі // Гоман. — 1917. — 9 траўня.

207. Віленская дыяцэзія // Гоман. — 1917. — 18 вер.

208. Внешкольное образование // Минский голос. — 1918. — 15 марта.

209. Воззвание к еврейской молодежи фонда имени им. Переца // Минский голос. — 1918. — 30 марта.

210. Волин Ю. Без языка / Ю. Волин // Минский голос. — 1918. — 15 сент.

211. Волин Ю. Тихие думы / Ю. Волин // Минский голос. — 1918. — 20 окт.

212. Восьмиклассная еврейская семинария (с правами) // Минский голос. — 1918. — 29 марта.

213. Вучыцельскі з'езд // Гоман. — 1918. — 15 кастр.

214. Вучыцельскія курсы ў Свіслачы // Гоман. — 1917. — 9 студз.

215. Генрих, С. Еврейские учителя и учительницы в Западном крае по данным школь-

